# Прадмова

Жыццёвы меланж — так я называю жанр кароткіх замалёвак, мініяцюр, нярэдка блізкіх да вытрымак з дзённікавых запісаў, якія тычацца розных здарэнняў, праяў, эпізодаў штодзённага жыцця і выкліканых імі пачуццяў, думак. Сюды ж трапляюць успаміны ці роздумы пра розных сяброў, знаёмых, выдатных дзеячаў літаратуры, культуры і навукі, часта звязаныя з іх юбілейнымі датамі. Тэрмін «меланж» (фр. — сумесь) шырока вядомы ў геалогіі. Ён уяўляе сабой своеасаблівае геалагічнае цела, якое складзена з самых разнастайных парод, з іх сумесі, мешаніны, што робіць такое ўтварэнне вельмі стракатым, рознакаляровым, цікавым і загадкавым на выгляд. Такую ж назву носіць і прыгожая тканіна, якая зроблена з сумесі афарбаваных у розныя колеры валокнаў. Геалагічны меланж утвараецца пры розных стрэсавых з'явах, напрыклад, калі адзін вялікі блок, а то і магутны сегмент зямной кары насоўваецца на другі, трэцца аб яго, рухаецца ўдоўж ці ўпоперак яго з агромністай сілай. У выніку ў памежжы гэтых блокаў, у разломныя зоны, якія іх дзеляць, адрываюцца разнастайныя па рэчавым складзе, колеры і памерах глыбы і кавалкі горных парод, накопліваюцца тут, і ўтвараецца такім чынам геалагічны меланж.

Так і ў жыцці людзей уздзеянне чалавека на чалавека, адной супольнасці людзей на другую, краіну на краіну, прыродных феноменаў і іншых самых разнастайных з'яў выклікае стрэсавыя сітуацыі, як станоўчыя, так і адмоўныя, якія і застаюцца ў памяці чалавека. Так узнікае «жыццёвы меланж» — сумесь самых розных з'яў, фізічных і душэўных водгукаў чалавека на рух і развіццё падзей… Яны фіксуюцца ў памяці, адлюстроўваюцца на палотнах мастакоў, у сродках масавай інфармацыі, творах пісьменнікаў і музыкантаў, афіцыйных дакументах і г. д.

У 80–90-я гг. мінулага стагоддзя і ў самы пачатак новага я зрэдку запісваў некаторыя моманты «жыццёвага меланжу», выступаў у друку з успамінамі пра братоў Гарэцкіх, іх сяброў і блізкіх, пра сваіх калег

па навуцы, дзеячаў культуры і літаратуры, асабліва ў сувязі з юбілеямі. Апрача таго па розных тэмах прыйшлося выступаць на шматлікіх канферэнцыях, нарадах, з’ездах. Таму тэксты гэтага перыяду маюць троху раскіданы нераўнамерны змест і ў гэтую кнігу ўключаны толькі некаторыя з іх. Жыццёвы меланж навукоўца ў друку пачаўся з кніжкі «Вечна жыве Беларусь!» (2003), дзе і былі змешчаны многія са згаданых матэрыялаў.

У апошнія 5–6 гадоў я пачаў больш сістэматычна і ўважліва сачыць за падзеямі майго жыццёвага меланжу, таму што дзякуючы Яну Чыквіну і Галіне Тварановіч гэтая мая лірычная проза пачала рэгулярна друкавацца ў часопісе «Тэрмапілы» (№ 12–16). Асабліва я ўдзячны Галіне Тварановіч, якая ўвесь час падтрымлівала мяне ў гэтай справе і нават надрукавала добрую рэцэнзію[1] і, мусіць, толькі таму «жыццёвы меланж» здолеў вырасці да асобнай кніжкі, якую я і прапаную чытачам. Таксама я ўдзячны Наталлі Рудкоўскай, якая прыняла ўдзел у падрыхтоўцы рукапісу кнігі.

[1] Twaranowic, H. «Жыццёвы меланж» Радзіма Гарэцкага / H. Twaranowic // Studia i zprice slawistyczne. — № VI. Na pograniczu nauk i kultur. — Opole, 2011. — P. 315–321.

# Мінеральная сыравіна і незалежнасць Беларусі[1]

Развіццё цывілізацыі заўсёды апіралася на спажыванне карысных выкапняў. Без мінеральнай сыравіны немагчыма гаспадарчая дзейнасць чалавека, яго існаванне. Карысныя выкапні і іх запасы распаўсюджаны нераўнамерна па краінах свету, таксама як і іх выкарыстанне. Увесь час ідзе барацьба за мінеральныя рэсурсы. Няма такой краіны (апрача, можа, былога СССР), якая б была поўнасцю забяспечана ўсімі відамі карысных выкапняў. Таму гандаль мінеральнай сыравінай складае больш за чвэрць усяго міжнароднага тавараабароту. Сучасная структура цэн на сыравіну, прадукты яе перапрацоўкі і гатовыя вырабы вельмі часта прыносяць найбольшую выгоду тым краінам, якія купляюць мінеральную сыравіну. Выгадней прадаваць гатовы прадукт, чым сыравіну. Яскравы прыклад — Японія, прамысловасць якой працуе амаль цалкам на прывазной сыравіне. Бывае і наадварот, калі краіна някепска жыве галоўным чынам за кошт экспарту нафты, як Кувейт. Але гэта крайнія выпадкі. Звычайна бываюць прамежкавыя сітуацыі. Чым большае багацце нетраў краіны, чым рацыянальней яно выкарыстоўваецца, тым больш магчымасцей мець сапраўдную незалежнасць. У гісторыі мінулай і сучаснай мы маем многа прыкладаў палітычнага прымусу праз мінеральную сыравіну.

Зараз, калі Беларусь абвясціла сябе суверэннай краінай, марудна, але ўсё ж крочыць да сваёй незалежнасці, вельмі важна прынцыпова па-новаму паглядзець на багацце яе нетраў і рацыянальнае выкарыстанне мінеральных рэсурсаў.

Традыцыйнае ўяўленне аб беднасці нетраў Беларусі геолагамі адкінута. Сярод важнейшых карысных выкапняў — калійная соль (прагнозныя запасы 80 млрд т), якая ўжо здабываецца больш за 25 гадоў. Практычна невычэрпныя запасы каменнай

[1] Літаратура і мастацтва. — 1992. — 10 красавіка.

солі. За 30 гадоў здабыта 85 млрд т высакаякаснай нафты, а кожны год зараз мы здабываем 2 млн т. Шырокавядомыя па ўсёй Беларусі кар’еры па здабычы розных відаў будаўнічых і іншых матэрыялаў: цэментная сыравіна, мел, даламіты, гліны і суглінкі, тугаплаўкія і вогнетрывалыя гліны, пясчана-жвіравая сумесь, пяскі для вырабу шкла, граніты для здабычы жарствы (шчэбеню), каалін, сапрапелі і г. д. Надзвычайна важнае значэнне маюць радовішчы падземных вод: прэсных і мінералізаваных.

Геолагамі знойдзены многія радовішчы розных карысных выкапняў, якія яшчэ не эксплуатуюцца. Разведаны два радовішчы жалезных руд (прагнозныя запасы звыш 1,5 млрд т). Гэтыя радовішчы комплексныя: разам з жалезам тут ёсць тытан, ванадый, фосфар, кобальт, германій, серабро, золата. Вядома вельмі перспектыўнае радовішча рэдкіх і рэдказямельных элементаў, без якіх немагчыма развіццё радыёэлектронікі, авія- і ракетабудаўніцтва, ядзернай і рэнтгенаўскай тэхнікі і г. д. Разведаны буйны сланцавы басейн з прагнознымі запасамі 11 млрд т, вугляносны басейн з трыма паверхамі пластоў вугалю. Знойдзена радовішча рэдкага мінералу — даўсаніту, якое мае прамысловыя запасы. З даўсаніту можна атрымліваць алюміній і соду. Вядомы радовішчы фасфарытаў, цыяліта-носных сіліцытаў і інш. Вялікія запасы маюць мінеральныя расолы — поліметалічны водны канцэнтрат «беларусіт». Гэта «вадкая руда», з якой можна атрымаць ёд, бром, калій, літый, стронцый і іншыя рэдкія і рассеяныя элементы. Сам расол з вялікай перспектывай можа выкарыстоўвацца ў раслінаводстве, жывёлагадоўлі, прамысловасці, медыцыне.

Геолагамі ў многіх мясцінах Беларусі адшуканы багатыя рудапраяўленні розных металаў: чорных і легіруючых (жалеза, ванадый, тытан, кобальт, нікель, малібдэн, вальфрам), каляровых (медзь, цынк, свінец, волава), высакародных (золата і серабро). Вядомы рудапраяўленні рэдкіх і рэдказямельных элементаў, графіту, мармуру, гранату, бурштыну, алмазаў і інш.

Трэба адзначыць, што пералічаныя радовішчы не так проста выкарыстаць, бо здабыча карысных выкапняў патрабуе спачатку вялікіх эканамічных затрат (якія потым, безумоўна, акупяцца), а таксама выклікае складаныя экалагічныя праблемы, якія неабходна адразу прадбачыць.

Новыя палітычныя і эканамічныя ўмовы незалежнасці Беларусі патрабуюць і новага, больш гаспадарчага падыходу да мінеральных рэсурсаў. Неабходна распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай праграмы па праблемах мінеральнай сыравіны. Патрэбна глыбокая эканамічная ацэнка мінеральна-сыравіннай базы. Адсутнасць да гэтага часу каштоўнай ацэнкі карысных выкапняў у нетрах і практыка дармовай перадачы іх запасаў прамысловай вытворчасці робяць уражанне, быццам багацце нетраў для грамадства не мае цаны. У бліжэйшы час неабходна прыняць закон аб нетрах.

Незалежнасць рэспублікі патрабуе карэннай змены кіравання народнай гаспадаркай, змены многіх структур сучаснага ўрада, многіх кіраўнікоў, якія засталіся з часу камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Апошняе асабліва важна, бо сучаснай гаспадаркай незалежнай краіны можа кіраваць толькі высокакампетэнтны спецыяліст. Час, калі дзейнічаў прынцып «где бы ни работать, лишь бы руководить», прайшоў.

Для пошукаў новых карысных выкапняў, разведкі і распрацоўкі ўжо вядомых радовішчаў, эканамічнай ацэнкі мінеральных рэсурсаў і іх выкарыстання, а таксама для вядзення агульнай мінеральна-сыравіннай палітыкі неабходна стварыць міністэрства (ці камітэт) геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў. Такое міністэрства павінна падначаліць сабе ўсе справы, якія датычацца мінеральнай сыравіны. Калі раней яно рабіла толькі пошукі і разведку радовішчаў карысных выкапняў, дык зараз яно павінна адказваць і за распрацоўку. Да гэтага часу кожнае ведамства здабывала свае карысныя выкапні. Усе радовішчы звычайна змяшчаюць некалькі карысных мінералаў, а пры такой сістэме здабываецца, як правіла, толькі адзін з іх, а

іншыя ідуць у адвал. Новае міністэрства, якое будзе адказваць не за адно, а за ўсе карысныя выкапні, будзе зацікаўлена весці сапраўднае комплекснае выкарыстанне мінеральнай сыравіны.

Міністэрства геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў павінна праводзіць дзяржаўную палітыку па рацыянальным выкарыстанні ўсіх неабходных Беларусі мінеральных рэсурсаў. Таму яно будзе даваць рэкамендацыі на заказы ў іншых краінах і на тую мінеральную сыравіну, якой няма на Беларусі, але якая ёй патрэбна. Важна наладзіць выгадны для краіны гандаль сыравінай. Ужо зараз мы маглі б гандляваць калійнай і спажыўнай соллю, сапрапелямі, мінеральнай і пітной вадой. Праз некаторы, досыць блізкі час можна было б наладзіць продаж ці абмен «вадкай рудой» — расоламі. Не за гарамі і распрацоўка іншых карысных выкапняў, асабліва рэдказямельных элементаў, жалезнай руды. Вялікая праблема — паліўная сыравіна. Сваёй нафты Беларусі не хапае. Але плату за транзіт праз нафта- і газаправоды, якія ідуць па тэрыторыі Беларусі, можна браць нафтай і газам. Сучасныя нафтаперапрацоўчыя заводы з глыбокай перапрацоўкай нафты ў Наваполацку і Мазыры таксама павінны даваць нам частку гатовага прадукту. Ужо зараз трэба ставіць навуковыя і эксперыментальныя работы па комплексным выкарыстанні беларускіх гаручых сланцаў і вугалю.

Многія функцыі, якія выконвала раней Міністэрства геалогіі СССР і яго ўстановы, зараз павінны перайсці да рэспублікі. Гэта дзяржаўнае зацвярджэнне запасаў розных радовішчаў карысных выкапняў, іх кадастр і баланс, інспекцыя дзяржаўнага геалагічнага кантролю, экспертыза ўсіх відаў геолагаразведачных работ, дзяржаўная геалагічная (а больш правільна — эколага-геалагічная) здымка, рэдакцыйна-выдавецкі савет па зацвярджэнні і выданні геалагічных і іншых карт, геалагічны фонд і даведачна-інфармацыйны цэнтр з банкам геолага-геафізічных даных і г. д. Відаць, такому міністэрству трэба перадаць праблемы геадэзіі і картаграфіі.

Непасрэдна разнастайную дзейнасць геалагічнага і мінеральна-рэсурснага напрамку павінны праводзіць шматлікія самастойныя прадпрыемствы: геалагічныя, геафізічныя, геадэзічныя, буравыя, картаграфічныя (Мінская картфабрыка), па здабычы калійнай і каменнай солі («Беларуськалій»), нафты («Беларусьнафта») і інш. Міністэрства ў адносінах да іх выступае як заказчык, а прадпрыемства — як выканаўца дзяржаўных заказаў. Адначасова яны вядуць і іншую прадпрымальніцкую дзейнасць. Вельмі важна, каб за здабычу кожнай вагавай ці аб’ёмнай адзінкі любога карыснага выкапня прадпрыемства плаціла дзяржаве. Фінансаванне асноўных геалагічных даследаванняў, а таксама і ўтрыманне міністэрства павінна ісці за кошт сродкаў ад адлічэння за здабычу і выкарыстанне карысных выкапняў.

У сваёй дзейнасці Міністэрства геалогіі і мінеральных рэсурсаў Беларусі павінна апірацца на акадэмічную і галіновую навуку. Ва ўсіх еўрапейскіх краінах ёсць геалагічныя таварыствы, якія рэгулярна праводзяць сумесныя сесіі па геалагічных праблемах Еўропы. Таму неабходна геалагічнае таварыства Беларусі. Вельмі важна не згубіць тыя навуковыя і галіновыя сувязі, якія былі з рознымі рэспублікамі былога СССР, бо геалагічныя структуры не маюць дзяржаўных граніц. Каб вывучыць геалагічную будову, трэба аб’яднаць намаганні геолагаў многіх краін. Не менш актуальная праблема — падрыхтоўка кадраў геолагаў, таму неабходна адкрыццё групы геолагаў на базе геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Улічваючы катастрафічную экалагічную сітуацыю, якая звязана не толькі з эксплуатацыяй радовішчаў карысных выкапняў, трэба звярнуць увагу на неабходнасць незалежнасці Камітэта па экалогіі. Ён павінен мець права вета на любое дзеянне, якое груба і неразумна парушае экалагічны стан прыроды.

# Беларусы павінны аб’ядноўвацца[1]

Сёння ў нас надзвычайная падзея: упершыню беларусы былога Саюза, а цяпер СНД ці, як кажуць, бліжняга замежжа (хоць яно па адлегласці іншы раз і не зусім блізкае) сабраліся разам, каб абмеркаваць многія пытанні свайго аб’яднання, праблемы нацыянальнага адраджэння, шляхі да стварэння па-сапраўднаму самастойнай еўрапейскай дзяржавы Беларусі, усе жыхары якой маглі б «людзьмі звацца». Улетку 1993 г. на Купалле нас чакае Форум беларусаў свету. Аб такіх падзеях, як сённяшняе і наступнае, зусім нядаўна, некалькі гадоў таму мы маглі толькі марыць.

Я хачу звярнуць вашу ўвагу на геапалітычнае знаходжанне Беларусі, ад якога ў многім залежалі і будуць залежаць лёс і гісторыя краіны. Большасць географаў лічаць, што крайнія кропкі кантынентальнай Еўропы наступныя: на поўначы — мыс Нордкін, на поўдні — мыс Марокі, на захадзе — мыс Рока і на ўсходзе — Паўночны Урал. Калі ўзяць гэта за аснову, дык я падлічыў, што на пасярэднім мерыдыяне Еўропы (28°45') ці блізка ад яго ляжаць такія гарады, як Полацк, Лепель, Барысаў, Беразіно, Асіповічы, а на пасярэдняй шыраце (53°34') — Масты, Мір, Стоўбцы, Мар’іна Горка, Клічаў, Быхаў, Чэрыкаў, Клімавічы. Геаграфічны цэнтр Еўропы знаходзіцца ў сярэдзіне трохвугольніка паміж гарадамі Чэрвень–Асіповічы–Клічаў на адлегласці 2 км на З. — Пд. З. ад в. Чыжаха на р. Бярэзіне. Як бачым, Беларусь — самая сярэдзіна Еўропы. Праз нашы землі ішла сувязь паміж Усходняй і Заходняй Еўропай, паміж паўднёвымі народамі і паўночнымі. З аднаго боку, гэта дапамагала развіццю культуры і дзяржаўнасці ў часы Полацкага і Тураўскага княстваў, затым і Вялікага Княства Літоўскага, у часы Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, з другога (разам з барацьбой за беларускія землі Польшчы і Расіі) — прыводзіла да спуста-

[1] Выступленне на сходзе беларусаў блізкага замежжа 19 снежня 1992 г.

шальных войнаў, у якіх гінула да чвэрці, а то і палова беларусаў. У справу фізічнага і маральнага знішчэння беларусаў вялікі ўклад унёс сталінскі генацыд, а цяпер дабаўляе чарнобыльская катастрофа і бездапаможнасць сучасных уладаў. Войны, тэрор і бедствы прыводзілі да велізарнай міграцыі беларусаў і іх глыбокай асіміляцыі. Усіх беларусаў па-за межамі рэспублікі ў краінах СНД больш за 2 млн, не менш іх і ў далёкім замежжы. А колькі былых беларусаў ужо не лічаць сябе беларусамі не толькі ў далёкіх краінах, але і на этнічна-беларускіх тэрыторыях (Браншчыне, Смаленшчыне, Пскоўшчыне, Віленшчыне, Беласточчыне). Ды і ў самой Беларусі!

Таму вельмі прыемна, што ў многіх мясцінах ствараюцца суполкі беларусаў, ідзе працэс адраджэння і аднаўлення. Але, на жаль, ён ідзе вельмі марудна. Мы ж павінны ўсвядоміць, што гэта, магчыма, апошняе адраджэнне — ці яно будзе, ці змарнее зусім, а з ім загіне і беларушчына. Якую нянавісць і злосць выклікаюць у многіх людзей намаганні зрабіць рэальным Закон аб дзяржаўнай мове! А мова наша ўжо, можна сказаць, запісана ў Чырвоную кнігу. Мне вельмі страшна, калі я падумаю: няўжо гэта цудоўная мілагучная старажытная мова трапіць у лік тых амаль 50 моў народаў былога СССР, якія зусім зніклі за мінулыя 73 гады? А ў якім цяжкім стане апынуліся нашы нацыянальныя культура, мастацтва, навука, адукацыя!

Адраджэнне павінна быць інтэгральным: яно датычыцца не толькі роднай мовы, нацыянальнай культуры, навукі і адукацыі, але вымагае аднаўлення эканомікі і палітыкі. Усе гэтыя напрамкі цесна ўзаемазвязаны — без моцнай эканомікі і народнай гаспадаркі цяжка ўзняць культуру і навуку, і наадварот. На аснове сусветнага вопыту неабходна распрацаваць эканамічную мадэль развіцця Беларусі, патрэбна весці сваю больш незалежную эканамічную палітыку. У кіруючых уладах павінны працаваць сапраўдныя прафесіяналы — патрыёты Бацькаўшчыны, а не былыя і сучасныя наменклатуршчыкі. Трэба скарыстаць і геапалітычнае становішча краіны, як мас-

ты паміж захадам і ўсходам, поўднем і поўначчу. Суверэнітэт рэспублікі патрабуе і сваіх атрыбутаў самастойнасці: грошай, мытні, нацыянальнага войска і г. д.

Толькі зрабіўшы ўсё пералічанае, мы зможам дабіцца стабілізацыі вытворчасці, палепшыць сваю гаспадарку, адначасова падняць навуку і культуру, і толькі тады Беларусь зможа ўвайсці як вольная, самастойная і магутная дзяржава ў садружнасць еўрапейскіх дзяржаў, а для гэтага ўсе сумленныя шчырыя беларусы павінны ўпарта працаваць на карысць Радзімы. Вялікае значэнне мае аб'яднанне беларусаў былога СССР і ўсяго свету. Неабходна пашырэнне эканамічных, навуковых і культурных кантактаў, стварэнне ў Беларусі спецыяльнага дзяржаўнага органа па сувязі з суайчыннікамі замежжа, адкрыццця ў Мінску Усебеларускага дома (напрыклад, у будынку Інбелкульта) і, наадварот, стварэнне беларускіх нацыянальна-культурных цэнтраў у розных краінах свету і г. д.

Няхай пашыраецца і мацнее рух згуртавання беларусаў «Бацькаўшчына»!

## Хутка не будзе чаго адмерваць…[1]

З вялікім сумам прачытаў адкрыты ліст Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь «Семь раз отмерьте…» (Советская Белоруссия. 1992. 16 декабря), які напісалі паважаныя члены Расійскай Акадэміі навук, кіраўнікі Сібірскага аддзялення, нашы землякі-беларусы. Асабліва ўзрушыла тое, што сярод іх быў мой даўні знаёмы, старэйшы сябра, выдатны вучоны геолаг-нафтавік, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат многіх прэстыжных прэмій Андрэй Аляксеевіч Трафімук. Ён нарадзіўся на Брэстчыне, пакінуў родны кут у дзяцінстве і з таго часу працуе ў Расіі, стаў поўнасцю рускамоўным, але ў апошнія гады некалькі разоў прыязджаў у Беларусь і досыць

[1] Наша слова. — 1993. — Студзень.

добра ведае сучасны стан беларускай мовы на радзіме. А стан гэты жудасны… Можна хадзіць па гарадах Беларусі (у тым ліку і па сталіцы краіны Мінску) дзень, тыдзень, месяц, а то і больш і не пачуць ніводнай беларускай гамонкі. А калі раптам пачуеце, што нехта размаўляе па-беларуску, дык на яго аглядаюцца, як на экзатычную з'яву, з большай цікавасцю, чым на якога-небудзь рэдкага ў нас негра, індуса ці араба. У якой краіне такое магчыма?! На жаль, вельмі добры Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы мала што змяніў: мова аднаўляецца і адначасова працягвае паміраць. Безумоўна, зрухі ёсць і ўжо беларускую літаратуру і мову ў школах, здаецца, не вывучаюць па-руску, як гэта было раней. Адно ясна: наша мова, можна сказаць, ужо трапіла ў Чырвоную кнігу. Разам з моваю туды трапілі і беларусы, бо без мовы няма і народа. Наша цудоўная мілагучная старажытная мова патроху становіцца чыста экзатычнай, камернай.

Хіба беларуская мова горшая за іншую? Яна так лёгка можа дайсці да сэрца чалавека, асабліва беларуса. Я вельмі добра памятаю слёзы на вачах Андрэя Аляксеевіча, калі ён у сваё 80-годдзе пачуў прывітанне, якое я зачытаў на беларускай мове. Ён сказаў, што яму так прыемна і радасна пачуць беларускую мову ў далёкім Новасібірску.

Паважаныя сібірскія вучоныя-беларусы ў сваім артыкуле намякаюць, што ў Беларусі ў абарону двухмоўя (г. зн. у абарону рускай мовы, якая і так пануе тут) «по известным причинам» (відаць, па боязі) «предпочитают помалкивать» у тым ліку і Акадэмія навук і «живущие в Беларуси специалисты». На жаль, у сапраўднасці большасць людзей маўчыць, калі справа ідзе аб абароне беларускай мовы, а ў многіх намаганні зрабіць рэальным Закон аб дзяржаўнай мове выклікаюць надзвычайную нянавісць і злосць. Дастаткова ўспомніць нядаўняе пісьмо 800 студэнтаў і выкладчыкаў Віцебскага педінстытута. Цікава адзначыць, што супраць беларускай мовы вельмі часта высту-

паюць людзі не рускай ці іншай нацыянальнасці, а менавіта беларусы. Манкурцтва так іх ахапіла, што яны сталі самымі актыўнымі ворагамі беларускай мовы.

Новасібірскія беларусы пішуць, што іх «…беспокоят начавшиеся в последние месяцы попытки принуждения к переходу на белорусский язык и точных наук, и техники…»

Перш-наперш такой з'явы няма ні ў рэальным жыцці, таксама яна не прадугледжана і ў Законе аб мовах. Навуковыя працы ў галіне дакладных навук і тэхніцы як друкаваліся, так і друкуюцца амаль поўнасцю на рускай мове. Беларускаму вучонаму ніколі не пагражае ізаляванасць ад няведання рускай мовы, бо такое і ў сне ўявіць немагчыма. З другога боку, нашы абедзве мовы (таксама як і ўкраінская, і польская) настолькі зразумелыя адна адной, асабліва калі гэта датычыцца навуковай тэрміналогіі, якая ў большай частцы з'яўляецца інтэрнацыянальнай. Я зноў хачу нагадаць шаноўнаму А. А. Трафімуку той час, калі ён прыехаў у Мінск на 50-годдзе Акадэміі навук БССР і слухаў мой даклад аб развіцці ў Беларусі навук аб Зямлі. Я зрабіў даклад на беларускай мове, і Андрэй Аляксеевіч адзначыў, што ён поўнасцю зразумеў усе думкі, выказаныя ў прамове.

Я цалкам згодзен з аўтарамі артыкула аб тым, што нельга замыкацца толькі ў сваёй мове, што навука заўсёды імкнулася да нейкай агульнай мовы, каб веды і адкрыцці распаўсюджваліся хутчэй і шырэй. Некалі такую ролю выконвалі грэчаская, затым лацінская, а цяпер англійская мовы. Таму неабходна друкаваць на больш распаўсюджаных мовах, і ў першую чаргу такіх, як англійская, руская, дасканала поўныя рэфераты артыкулаў, якія былі апублікаваныя на нацыянальных мовах. Безумоўна, мэтазгодна найбольш цікавыя працы друкаваць на рускай і англійскай мовах як у сваёй краіне, так і асабліва ў розных расійскіх і іншых міжнародных часопісах. Усё гэта можна вельмі добра рабіць пры дзяржаўнасці толькі адной

беларускай мовы і неабавязкова з такой мэты мець «законнае» двухмоўе, бо ў рэальным жыцці яно і так будзе.

Улічваючы сучасны стан беларускай мовы, прыняцце Закона аб двухмоўі азначала б самагубства для беларусаў і іх мовы. Страта мовы, а з ёю і цэлага народа — вось гэта і было б «опасной ошибкой» і тым, «что впоследствии будут называть «гримасой истории». Трэба ўсвядоміць, што для беларусаў настаў час магчыма апошняга адраджэння — ці яно будзе, ці змарнее зусім, а з ім загіне і беларушчына. Адраджэнне павінна быць інтэгральным, комплексным: яно датычыцца не толькі роднай мовы, нацыянальнай культуры, навукі і адукацыі, але абавязкова аднаўлення эканомікі і палітыкі. Але ў гэтым шэрагу напрамкаў мова займае асаблівае, галоўнае месца, таму няхай беларуская мова жыве ва ўсіх сферах дзейнасці беларусаў!

## Суверэнітэт Беларусі: шляхі станаўлення[1]

Вось ужо трэці раз мы адзначаем гэта вельмі важнае для Беларусі свята — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь — абвяшчэнне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, якую 27 ліпеня прыняла сесія Вярхоўнага Савета БССР. Да гэтага свята беларускі народ ішоў праз вялікія пакуты і цяжкія намаганні.

Як вядома, старажытная дзяржаўнасць у Беларусі мае больш чым тысячагадовую гісторыю. Найбольш магутным самастойным княствам X–XIII стст. было Полацкае. Славутыя імёны полацкіх князёў — Рагвалода і Рагнеды, Ізяслава і Усяслава Чарадзея — трывала ўвайшлі ў летапісы і літаратурныя творы. Нядаўна мы адзначалі 740-годдзе каранацыі ў Навагрудку караля Міндоўга, што азначала пачатак утварэння на беларускай аснове новай магутнай поліэтнічнай і шматканфесійнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

---

[1] Выступление на сходзе, прысвечаным 3-й гадавіне Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь, 24 ліпеня 1993 г.

Яно забяспечыла незалежнасць і само існаванне беларусаў і іншых народаў княства ва ўмовах жорсткай барацьбы з крыжацкай навалай і мангола-татарскімі нашэсцямі. Вяршыняй яе вайсковага трыумфу з'явілася перамога ў Грунвальдскай (Дуброўніцкай) бітве 1410 г. Вялікае значэнне мелі вядомыя тры Статуты Вялікага Княства, напісаныя на дзяржаўнай беларускай мове. Гэта вяршыня заканадаўчых актаў таго часу. Яны сведчаць аб высокай дзяржаўнай культуры, адлюстроўваюць ідэі суверэнітэту, усеагульнасці права і г. д. Такія ўмовы грамадскага жыцця прывялі да значнага росту самасвядомасці беларусаў, развіцця высокай культуры, паглыблення дзяржаўных і нацыянальна-патрыятычных пачуццяў.

Аб'яднанне Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай і ўтварэнне федэратыўнай Рэчы Паспалітай паступова прывяло да страты беларускай дзяржаўнасці. Беларускія землі папалі пад палітыку паланізацыі: закрываліся беларускія школы, забаранялася беларуская мова. Культура беларусаў зазнала моцны ўціск, яна метадычна вынішчалася. XVII стагоддзе — адна з найбольш змрочных старонак гісторыі Беларусі. Ішла няспынная чарада расейска-польскіх войнаў, у ходзе якіх вынішчалася да паловы насельніцтва Беларусі. Падзелы Рэчы Паспалітай прывялі да далучэння Беларусі да Расійскай імперыі. Да паланізацыі дабавілася яшчэ больш моцная русіфікацыя. Але беларуская ідэя незалежнасці працягвала жыць. Яна знайшла найбольшае ўвасабленне ў шэрагу паўстанняў супраць царызму. Асабліва яскрава гэта праявілася ў барацьбе 1863 г. пад кіраўніцтвам славутага сына беларускага народа Кастуся Каліноўскага.

На пачатку XX ст. намаганнямі Беларускай Сацыялістычнай Грамады — першай нацыянальнай палітычнай партыі, «нашаніўскіх» адраджэнцаў быў сабраны Усебеларускі з'езд, які гвалтоўна быў разагнаны бальшавікамі. Нягледзячы на гэта, 25 сакавіка 1918 г. усё ж была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка як незалежная вольная дзяржава, якую прызнаў

шэраг краін Еўропы. Гэта была першая беларуская дзяржава пасля больш чым 200-гадовай адсутнасці дзяржаўнасці. Каб не БНР, відаць, не было б і БССР, бо Кнорын — бальшавіцкі кіраўнік «Западной области», куды ўваходзіла і Беларусь, лічыў, што «никаких беларусов в Западной Коммуне нет. Их высмотрели в микроскоп белорусские националисты». Менавіта ў супрацьвагу БНР бальшавіцкае кіраўніцтва вымушана было 1 студзеня 1919 г. прыняць у Смаленску Маніфест аб утварэнні БССР. У час савецкай улады ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры неаднаразова ішоў гандаль беларускай тэрыторыяй без ведама беларускага народа і яго прадстаўнікоў.

І вось цяпер зноў гісторыя дала нам шанц рэальна стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Першыя нясмелыя крокі да яе мы ўжо зрабілі, але гэта толькі пачатак. Я мару і спадзяюся, што не толькі нашы праўнукі і ўнукі, але, можа, і мы самі, калі прыкладзём адпаведныя намаганні, дажывём да вольнай, дэмакратычнай, самастойнай, магутнай і багатай Беларусі.

Але кожнаму грамадзяніну Беларусі трэба памятаць, што пакуль не прымем сапраўдную дэмакратычную Канстытуцыю і законаў, якім будуць падпарадкоўвацца ўсе жыхары, у тым ліку ўрад і парламент, датуль не будзе незалежнай Беларусі; пакуль не пойдзем шляхам больш самастойнай эканамічнай палітыкі, не зробім нашу краіну па-сапраўднаму нейтральнай, не створым беларускага войска, грошай і іншых атрыбутаў дзяржаўнасці, не бачыць нам незалежнасці; пакуль будзем так упарта ўшаноўваць Кнорына, Мяснікова, Суворава і іншых нядобразычліўцаў Беларусі, пакуль у нас свабодна будуць ганьбіць дзяржаўныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» і ў струнку стаяць пад гукі старога савецкага гімна, не жыць нам у самастойнай Беларусі; пакуль на дзяржаўнай мове не загавораць нашы ўлады — ад Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў да сельскіх Саветаў, пакуль беларуская мова не загучыць у гарадах і вёсках так, як гучыць зараз мова руская, а на захадзе Беларусі пачынае гучаць і мова польская, пакуль

нацыянальная ідэя інтэгральнага адраджэння мовы, культуры, адукацыі, эканомікі, палітыкі, духоўнае нацыянальнае абуджэнне не авалодаюць народам Беларусі, не дайсці нам да Беларусі.

Я хачу пажадаць, каб кожны грамадзянін Беларусі, незалежна ад яго нацыянальнасці, прыклаў усе намаганні да стварэння сапраўды самастойнай дзяржавы Беларусі, у якой вольна і багата будзе жыць кожны чалавек. Жыве і будзе жыць незалежная Беларусь!

## Падабенства лёсаў

У лёсе Вітаўта Кіпеля і маім ёсць многа агульнага. Нарадзіліся ў Мінску. Бацькі — «нацдэмы» з Інбелкульта — арыштаваны ў 1930 г., а пазней высланы ў Расію, куды ў хуткім часе пераехалі і іх сем'і. У вайну — эвакуацыя, але Вітаўт у Арле трапіў пад акупацыю, а я быў далей — ва Удмурціі. Вось тут напрамкі нашых рухаў разышліся: Вітаўт трапіў у Мінск і далей на Захад, а я на Усход — на Урал. Пасля вайны ён у Бельгіі стаў геолагам, а я ў Расіі таксама атрымаў спецыяльнасць геолага. Вітаўт у ЗША захапіўся праблемамі нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны, зацікавіўся культурнай і літаратурнай, грамадскай дзейнасцю, нават стаў дырэктарам Беларускага інстытута культуры і навукі ў Нью-Ёрку, я значна пазней, ужо па вяртанні ў Мінск у самым канцы 1971 г., таксама адчуў схільнасць да такіх жа пытанняў. І вось мы абодва сядзім побач у прэзідыуме Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Рым-IV», прысвечанай культурнаму памежжу Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны (Гродна, 1993), дзе сустрэліся ўпершыню, хаця і чулі адзін пра аднаго раней. Амаль адначасова гаворым: «Як добра сядзім разам, нам пашанцавала, а вось бацькі нашы сядзелі значна горш…»

*1993*

# Прыроднае і культурнае памежжа[1]

Як у жыцці і дзейнасці людзей, так і ў прыродных з'явах існуюць, з аднаго боку, вялікія ўзаемасувязі і захаванне спрадвечнага традыцыйнага, а з другога — імкненне да нараджэння новага, да стварэння ўсё больш разнастайнага. Ідзе бясконцая барацьба паміж спадчыннасцю і новаўтварэннем. Яна прыводзіць да цудоўных узораў разнастайных суадносін паміж сабой гэтых дзвюх з'яў і іх вынікаў.

Рассяленне народаў, стварэнне этнасаў, культурных і моўных рэгіёнаў, асобных дзяржаў і іншых супольнасцей людзей цесна звязана з фізіка-геаграфічнымі ўмовамі. Прыроднае асяроддзе (рэльеф, клімат, глебы, ландшафт і г. д.) непасрэдна ўплывае на стварэнне і жыццё любых аб'яднанняў чалавека, на яго характар, фальклор, агульную культуру. Межы паміж імі часта прыстасаваны да рэк, берагоў мораў і акіянаў, горных хрыбтоў і г. д. У сваю чаргу гэтыя геамарфолага-геаграфічныя элементы цесна звязаны з геалагічнай будовай, і ў першую чаргу з так званымі разломамі — велізарнымі трэшчынамі зямной кары, якія звычайна з'яўляюцца межамі паміж буйнымі геалагічнымі блокамі-рэгіёнамі са своеасаблівай будовай і развіццём зямной кары. Таму, калі параўноўваць карты геалагічнага і фізіка-геаграфічнага раяніравання з картамі краін, этнасаў, культур і іншымі праявамі чалавецтва, можна ўбачыць шмат агульнага, спадчыннага. Адсюль вынікае, што гісторыю чалавецтва, яго культуру трэба разглядаць на фоне фізіка-геаграфічнай і геалагічнай будовы і развіцця Зямлі.

Геалагічная гісторыя Зямлі налічвае больш за 4,5 млрд гадоў. Эвалюцыя геалагічнага развіцця, сутнасць якога ў нараджэнні новага на аснове старога, у стварэнні ўсё новых непаўторных геалагічных эпох, прывяла да ўзнікнення ў геалагічнай гісторыі перыяду антрапагену, перыяду з'яўлення чалавека з яго

---

[1] Выступленне на міжнароднай навуковай канферэнцыі «Рым IV», чэрвень–ліпень 1993 г.

магутнай дзейнасцю — вяршыні эвалюцыйнага развіцця Зямлі і жывёльнага свету.

На тэрыторыі нашых краін у антрапагенавым перыядзе было некалькі мацерыковых пакроўных зледзяненняў, якія пасля таяння пакінулі так званыя канцовыя ледавіковыя ўтварэнні. Яны складаюць узвышшы — самыя прыгожыя мясціны з цудоўнымі ўзгоркамі, маляўнічымі далінамі, дзіўнымі рэчкамі, мноствам блакітных азёраў. Менавіта гэтыя рэгіёны даюць найвыдатнейшы фальклор, адсюль выходзіць найбольшая колькасць самых таленавітых паэтаў, празаікаў, мастакоў і іншых дзеячаў культуры.

Межы як паміж геалагічнымі і фізіка-геаграфічнымі рэгіёнамі, так і этнічныя, моўныя, культурныя, канфесійныя і іншыя могуць быць самымі разнастайнымі. Яны бываюць рэзкімі і паступовымі, прыкметнымі і нябачнымі, прамалінейнымі і хвалістымі, вузкімі і шырокімі, «на замку» і празрыстымі, зменлівымі і пастаяннымі, мабільнымі і стабільнымі. І толькі межы супольнасцяў людзей могуць мець пачуццёвы характар: добразычлівасці і варожасці, міру і вайны, праўды і хлусні, дабрыні і зла, культуры і варварства. Вывучэнне межаў і памежжа — найцікавейшы напрамак навуковай дзейнасці. Менавіта на стыку навук часта робяцца выдатныя адкрыцці. Так і на стыку розных культур, на іх памежжы можна знайсці найцікавейшыя феномены. Трэба адзначыць, што на мяжы геалагічных блокаў, у разломных зонах, канцэнтруюцца зямныя стрэсы, якія час ад часу разраджаюцца ў выглядзе землятрусаў рознай сілы. На межах і памежжах дзяржаў і іншых чалавечых супольнасцей таксама хутчэй, чым дзе-небудзь у іншых мясцінах, ствараюцца напружанні рознага характару. Толькі глыбокае вывучэнне асаблівасцей памежжаў, іх эканамічнага, палітычнага, культурнага і іншага стану і суадносін паміж сабою стварае ўмовы для талерантнасці, супакою і міру, прыводзіць да разрадкі ўзнікшых стрэсаў. У гэтым ужо не толькі навукова-

фундаментальны напрамак дзейнасці ў дадзенай праблеме, але і найважнейшы прыкладны аспект даследаванняў.

Калі паглядзець на Еўрапейскі кантынент цалкам, можна ўбачыць, што яго сярэдзінны мерыдыян праходзіць праз Літву, Беларусь, Украіну, сярэдзінная паралель — праз Польшчу, Беларусь, Расію. Перакрыжаванне гэтых мерыдыяна і паралелі знаходзіцца каля р. Бярэзіны на паўднёвы ўсход ад Ігумена (зараз Чэрвень). Тут — геаграфічны цэнтр кантынентальнай Еўропы. Такое геаграфічнае становішча гэтых краін і асабліва Беларусі заўсёды выклікала наймацнейшы апетыт у кожнай з дзяржаў. Таму межы краін тут мяняліся як у калейдаскопе, а разам з імі мяняліся і суадносіны культур, моў, канфесій.

У цэнтры Еўропы некалі існавалі старажытнабеларускія княствы — Полацкае, Тураўскае і Смаленскае, прабеларускае Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, прапольская Рэч Паспалітая, Руская імперыя. А колькі разоў мянялася мяжа БССР за час бальшавіцкай улады! Гэтыя гістарычныя і палітычныя падзеі моцна ўплывалі на развіццё і ўзаемадзеянне культур суседніх народаў. Многія дзеячы культуры, літаратуры і навукі мелі родныя карані ў адным народзе, магутнай галінай развівалі культуру і навуку другога, а вяршыняй сваёй дзейнасці належалі да трэцяга. Таму многіх адных і тых жа славутых дзеячаў нашых народаў кожны часта лічыць сваім. На вялікіх абшарах цэнтра Еўропы ствараліся такія складаныя і мудрагелістыя ўзоры перапляценняў культур, што разабрацца ў гэтых з’явах не так лёгка, але надзвычай цікава, і тут мы маем сапраўдны скарб, выдатнейшы матэрыял для даследчыкаў.

# Да суайчыннікаў на другі бок Зямлі[1]

Разам са старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганнай Сурмач ляцім на 21-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі (Таронта, 3–5 верасня), а па дарозе хочам пабачыцца з беларусамі ЗША і Канады. З сумам адзначаем, што на мытні дэкларацыі на многіх мовах, апрача беларускай. Але затое з пачуццём гонару сядаем на самалёт кампаніі нашай краіны «Белавія» і яшчэ з большай радасцю чуем, як маладыя прывабныя сцюардэсы даюць аб’явы на беларускай і англійскай мовах. Аэрапорт Шэнан — перасадка на вялікі (больш за 400 пасажыраў) лайнер ірландскай авіякампаніі. Як удала скарыстала Ірландыя сваё геаграфічнае становішча! А знаходжанне Беларусі ў цэнтры Еўропы на скрыжаванні шляхоў ці зможа наш урад таксама выкарыстаць для ўзбагачэння сваёй краіны?

Паводле неафіцыйных падлікаў, беларусаў па штатах у ЗША, прыведзеных у вядомай кнізе Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША», колькасць нашых суайчыннікаў там больш за 800 тыс., а з улікам Канады не менш за 1 млн. Але па прыездзе ў Амерыку і Канаду многіх з іх прымусова стараліся запісаць рускімі, палякамі ці ўкраінцамі, ды і самі яны часта хутка асіміляваліся сярод гэтых і іншых нацыянальнасцей. Свядомых беларусаў-эмігрантаў, якія стварылі існуючыя зараз згуртаванні, царкоўныя і грамадскія арганізацыі, навуковыя і культурныя цэнтры, выдалі многія кнігі, часопісы, газеты і г. д., значна менш. Але менавіта яны трымалі і развівалі многія дзесяцігоддзі беларускасць у Паўночнай Амерыцы, і мы ехалі да іх.

Зора Кіпель (галоўны рэдактар газеты «Беларус») і Вітаўт Кіпель (дырэктар Беларускага інстытута культуры і мастацтва ў Нью-Ёрку) пазнаёмілі нас з выдатнай Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкай і асабліва з яе славяна-балтыйскім аддзелам, у якім ёсць досыць багаты блок беларускай літаратуры. Дарэчы,

[1] Голас Радзімы. — 1994. — 13 кастрычніка.

пазней мы былі ў такіх жа бібліятэках Кліўленда, Чыкага і ва ўніверсітэцкай бібліятэцы Таронта. Гэта сапраўдныя палацы з вялікай колькасцю літаратуры з усяго свету, зручнымі заламі, картатэкай на камп'ютарнай аснове. Найбольш багата беларуская літаратура — як мастацкая, так і навуковая — прадстаўлена ў Таронта. Тут за некалькі хвілін на камп'ютары я змог убачыць назвы і сваіх прац, і прац маіх беларускіх калег-геолагаў. Зусім малую колькасць выпадковых выданняў мы ўбачылі ў Чыкага, дзе загадчыца славянскай літаратуры, украінка па паходжанні, растлумачыла: «ніхто не цікавіцца». Кіпелі пазнаёмілі з важнай працай, якую яны зараз вядуць: выданнем газеты «Беларус», падрыхтоўкай бібліяграфіі ўсіх выданняў беларускага замежжа, бязвыплатнай адпраўкай гэтых выданняў у Мінск у Нацыянальную бібліятэку Беларусі.

Вельмі цікавыя маршруты па Нью-Ёрку правёў з намі вялікі знаўца горада старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Антон Шукелойць. З гонарам убачылі наш бел-чырвона-белы сцяг сярод амаль 200 сцягоў незалежных краін свету каля будынка ААН. На жаль, у крамах было незлічона сувеніраў (у тым ліку сцяжкоў, бірулек з сімваламі) розных краін, апрача беларускіх. Чаму гэта не хвалюе каля дзясятка нашых прадстаўнікоў у ААН і пасольстве? Продаж сувеніраў — не толькі прапаганда, але і валюта дзяржаве. Каля знакамітай Уол-стрыт бачылі мемарыяльную дошку, прысвечаную чалавеку, які адкрыў у Нью-Ёрку першую навучальную школу, але толькі спадар Антон і тыя людзі, якім ён гэта гаварыў, ведаюць, што той дзеяч быў беларусам. Безумоўна, не маглі не з'ездзіць на караблі да статуі Свабоды, чэрава якой набіта турыстамі — яны марудна на працягу 1,5 гадзіны ўздымаюцца, адлічваючы 354 прыступкі, да самай яе галавы, каб хвіліну глянуць адтуль на небаскробы Нью-Ёрка.

Цікавыя размовы пра жыццё беларусаў у Амерыцы, пра навуку і культуру адбыліся з прафесарам хіміі Нью-ёркскага гарадскога ўніверсітэта, кіраўніком танцавальнага ансамбля

«Васілёк» Алай Орса-Рамана, прафесарам Фрэнкам Рамана, з вядомым гісторыкам, журналістам і грамадскім дзеячам Янкам Запруднікам, мастачкай Галінай Русак, прэзідэнтам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Расціславам Завістовічам, Паўлінай і Яўгенам Сурвіламі, Алексам Сільвановічам.

Адбыліся нашы сустрэчы і выступленні з мноствам пытанняў пра жыццё на Беларусі ў фундацыі імя П. Крэчаўскага (Нью-Ёрк), у Саўт-Рыверы, а затым у Кліўлендзе, Чыкага. Наведалі беларускія цэрквы (а іншы раз слухалі службу) у Нью-Брансуіку, Саўт-Рыверы, Кліўлендзе, Чыкага (уніяцкую і праваслаўную), Таронта. Пакланіліся праху суайчыннікаў на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы і Кліўлендзе — акуратныя, дагледжаныя, з надпісамі па-беларуску.

Мне асабліва цікава было сустрэцца і пагаварыць з Антонам Адамовічам (жыве зараз у вельмі ўтульным доме для састарэлых пенсіянераў у Нью-Ёрку), Інай Рытар (Каханоўскай) — пісьменніцай, псеўданім Аляксандра Саковіч (Кліўленд), сёстрамі Ірэнай і Людвікай Будзькамі (Чыкага), якія добра ведалі майго дзядзьку Максіма Гарэцкага.

Васіль Мельянавіч — вядомы грамадскі дзеяч, заснавальнік кампаніі «Беларуска-Амерыканская інфармацыйная служба» для садзейнічання прафесійным і эканамічным кантактам Амерыкі і Беларусі — з вялікай прыязнасцю пазнаёміў нас як з «аднапавярховай» Амерыкай (Гановер і іншыя гарады), так і са сталіцай — Вашынгтонам, дзе мы з прыемнасцю наведалі «сваё» беларускае пасольства. У гарадах, вёсках і на фермах — утульныя дамы-катэджы, вакол абавязковыя чыстыя зялёныя газоны з падстрыжанай травой (маленькімі трактарамі стрыгуць амаль раз у тыдзень), каля дома 3–4 аўтамабілі для кожнага члена сям'і (яны неабходныя, бо грамадскі транспарт, апрача вялікіх гарадоў, ездзіць рэдка). Здзіўляюць гандлёвыя цэнтры з велізарнымі магазінамі (прадуктовымі, прамтаварнымі, будаўнічымі, аўтамабільнымі, канцылярскімі і іншымі), у якіх можна купіць ці заказаць усё, што патрэбна, і ў якіх няма ніякай

чаргі. Часта сустракаюцца жоўтыя «школьныя аўтобусы», якія возяць у школу тых дзетак, якія жывуць больш чым за 1 мілю ад школы, ім поўны прыярытэт на дарогах. Каля дамоў — невялікія паштовыя скрынкі, праз якія можна як атрымаць, так і паслаць карэспандэнцыю. На многіх не толькі афіцыйных, але і прыватных дамах лунае амерыканскі сцяг, бо большасць жыхароў (і гэта гаворыцца з гонарам) — «нацыяналісты», што тут разумеецца як патрыёты. Выклікаюць зайздрасць адносіны да інвалідаў: усюды пра іх памятаюць, і таму ёсць розныя каляскі, спецыяльныя туалеты, сцежкі, прыступкі ў аўтобусах і г. д. Гэтыя людзі адчуваюць сябе нармальна, актыўна жывуць і нават смела ўсюды вандруюць.

Уразіў беларускі культурна-асветніцкі цэнтр «Полацак» у Кліўлендзе — вялікі будынак на краі прыгожага зялёнага парку з сажалкай у нізіне, які нам з гонарам паказалі Янка Ханенка, Кастусь Калоша і інш. Тут мы прынялі ўдзел у службе ў царкве і ў пікніку, які амаль кожны тыдзень спраўляюць беларусы Кліўленда. Чулі зладжаны царкоўны хор пад кіраўніцтвам К. Калошы і цудоўныя песні ў выкананні многіх удзельнікаў хору «Васілёк» пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч. З апетытам пакаштавалі смачную беларускую ежу, прыгатаваную нястомнай Евай Яраховіч. Сустрэліся з сучасным эмігрантам: баяніст-віртуоз, які бліскуча выконвае розныя рэчы ад класікі да частушак. Не можа знайсці працу па спецыяльнасці (зарабляў мыццём посуду ў рэстаране, зараз беспрацоўны), і таму ўвесь час вялікі сум у вачах, якія зноў святлеюць толькі тады, калі ён бярэ ў рукі баян. Янка Раковіч звазіў паглядзець адзін з цудаў свету — Ніягарскі вадаспад.

З Чыкага і яго мэрыяй нас пазнаёмілі Вера і Вітаўт Рамукі, якія бяруць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці: кожны год адзначаюць свята абвяшчэння незалежнасці БНР (у гэты дзень каля мэрыі Чыкага, як і ў некаторых іншых гарадах Амерыкі, уздымаецца беларускі бел-чырвона-белы сцяг), на Каляды робяць беларускую елку і г. д. Брат Веры Нікодэм Жызнеўскі

ўзяў у нас інтэрв'ю для радыё, бо адзін раз у тыдзень вядзецца 10-хвілінная перадача на беларускай мове. З дзейнасцю Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады і беларускай праваслаўнай царквы Св. Юрыя нас пазнаёмілі Міхась Каленік і Мікола Латушкін.

Зноў «аднапавярховую» Амерыку мы больш падрабязна ўбачылі ў Гранд-Рапідс, дзе нас гасцінна прынялі Вера і Мікола Прускі. Апошні ў сваёй хаце мае маленькую друкарню, выдаў шэраг беларускіх кніг, а зараз адзін рэгулярна выдае газету «Беларускі дайджэст», шмат сіл аддае Цэнтру гуманітарнай медыцынскай дапамогі, у тым ліку і Беларусі.

У Таронта (Канада) адбылася 21-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якую арганізавалі Згуртаванне беларусаў Канады і Беларуска-Амерыканскае задзіночанне пад дэвізам: «За незалежную і дэмакратычную Беларусь». Сустрэча адбылася ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры (царква Св. Кірылы Тураўскага) і гатэлі «Трумпф Говард Джонсан». У першы дзень абмяркоўваліся наступныя тэмы: генацыд у Курапатах; каардынацыя намаганняў за здабыццё незалежнасці і дэмакратыі Беларусі; узаемадзеянне паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі; справа дапамогі ахвярам чарнобыльскай бяды; нашы захады перад уладамі Канады і Злучаных Штатаў да іх спрыяння дэмакратычнаму працэсу і рынкавым рэформам у Беларусі. На другі дзень адбылася літургія, якую правёў архіепіскап Мікалай, потым пленарны сход і канцэрт, а ўвечары сяброўская вечарына. Мерапрыемствы прайшлі пад кіраўніцтвам Міколы Ганько — старшыні Згуртавання беларусаў Канады. Апрача нас, у сустрэчы ад Беларусі прынялі ўдзел прадстаўнікі БНФ Валянціна Трыгубовіч і народны дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Алесь Шут, а таксама былы старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Яўген Лецка. Былі атрыманы прывітанні ад губернатара штата Агаё і ад некаторых грамадскіх арганізацый ЗША і Беларусі. На жаль, ні прадстаўнікоў урада Беларусі, ні прывітання ад іх не было. На пленарным сходзе, які вельмі

добра вяла Алеся Кіпель, выступілі М. Ганько, А. Шукелойць, Я. Сажыч (старшыня Рады БНР), А. Шут, Р. Гарэцкі, Я. Запруднік, В. Кіпель. Канцэрт адбыўся сіламі жаночага хору «Васілёк» (з дапамогай Васіля Калошы і Анатоля Лук'янчыка), салістаў Вольгі Лукашэвіч, Любы Сергіевіч і Ларысы Стэльмашэнка.

Былі прыняты тры галоўныя дакументы: рэзалюцыя, заява пра палітычнае становішча на Беларусі і прывітанне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Сход завяршыўся спяваннем беларускага нацыянальнага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Пасля сустрэчы, але ў яе рамках пад кіраўніцтвам Раісы Жук-Грышкевіч і айца Аляксандра Надсана адбылося паломніцтва да Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідлендзе.

З дапамогай М. Ганько мы разам з А. Шутам змаглі наведаць у Рычманд-Хіл (каля Таронта) Ёркскі цэнтральны шпітальпаліклініку разам з бальніцай, якая абслугоўвае Ёркскі раён. Па абсталяванні, камп'ютарызацыі, абслугоўванні лепшую бальніцу цяжка ўявіць. Наша так званая лечкамісія не вытрымлівае ніякага параўнання і выглядае як самая ўбогая ўстанова. У шпіталі ў якасці нянек і іншых падсобных супрацоўнікаў дапамагаюць даглядаць хворых добраахвотнікі, якія апрануты ў спецыяльныя ружовыя халаты. Хуткая дапамога так арганізавана, што яна прыязджае па выкліку праз 3–5 хвілін.

Пасля вяртання ў ЗША Раіса Станкевіч (дачка вядомага літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Станіслава Станкевіча) адвезла нас у мястэчка Эленвіл у Кітсцільскіх гарах, дзе мы на дачы «Родны Кут» правялі незабыўныя два дні разам з Юляй і Паўлам Андрусішынымі — бацькамі вядомага спевака Данчыка, яго бабуляй Янінай Каханоўскай, Элеанорай і Лёнем Норыкамі, Антонам Шукелойцем, суседзямі-ўкраінцамі. Прыгожая мясцовасць, чыстае паветра і цудоўныя песні Данчыка на магнітафоннай стужцы спрыялі сяброўскай гутарцы на розныя тэмы. Давялося пабываць у гасцях у Вольгі і Масея Сяднёвых, у якіх слухалі вершаваныя і празаічныя словы Масеевы, елі

смачную Масееву кашу і дыхалі салёным паветрам Атлантычнага акіяна, няспешна крочачы босымі нагамі па мяккім пяску і пяшчотнай вадзе.

Хочацца перадаць самую шчырую сардэчную падзяку ўсім беларусам ЗША і Канады, з якімі мы бачыліся, за надзвычайна цёплую сустрэчу. Дзякуючы ім мы за акіянам адчувалі сябе спакойна і добра, як на бацькаўшчыне. Было прыемна і радасна сустракацца з суайчыннікамі, якія так цудоўна захавалі чысціню беларускай мовы, замілаванне і любоў да Бацькаўшчыны, да беларускасці. Якія складаныя і цяжкія лёсы напаткалі большасць беларусаў! Рэаліі жыцця перавысілі ўсе самыя фантастычныя прыдумы! Мы з цікавасцю знаёміліся з вялікімі здабыткамі беларускага замежжа, з яго культурай, якія павінны зліцца ў адзінае рэчышча агульнай беларускай культуры. Мы адчулі, што большасць беларусаў, з якімі мы сустракаліся, гатовы разам з намі аддаць свае сілы дзеля ўсеагульнага адраджэння Беларусі і перш-наперш стварэння самастойнай дзяржавы. У гэтай справе нашы суайчыннікі могуць шмат дапамагчы не толькі прапагандай Беларусі на ўсіх узроўнях, але і сваім уплывам на ўрады краін, дзе яны жывуць, спрыяючы правільнай іх палітыцы ў адносінах да Беларусі, дапамагаючы эканамічным накірункам дзейнасці, арганізуючы сумесныя прадпрымальніцкія структуры і г. д. Тут неабходна агульнае супрацоўніцтва пасольстваў, прадстаўнікоў Беларусі ў ААН, а таксама розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый бацькаўшчыны з беларускімі эмігрантамі.

Мы ўбачылі, што ў беларусаў замежжа таксама існуе шмат праблем. На жаль, адсутнічае адзінства паміж сабой — раз’ядноўвае прыналежнасць да розных рэлігійных напрамкаў, да прыхільнікаў БНР ці БЦР, да крывічоў ці замежнікаў і інш. Як і на Беларусі, няма адзінства ў дэмакратычных рухах і партыях, якія так і не змаглі аб’яднацца на выбарах Прэзідэнта. Асабістыя амбіцыі перамаглі і нанеслі вялікія страты ў здзейс-

ненні беларускай нацыянальнай ідэі. Няўжо так здарыцца і пры новых выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі?

Узнікаюць важныя пытанні аднаўлення беларускага замежжа ў Паўночнай Амерыцы — патрэбны маладыя сілы. Неабходна падрыхтаваць і святчэннаслужыцеляў для амерыканскіх цэркваў. Не менш важна захаваць архівы. Найважнейшыя матэрыялы, відаць, трэба перадаць на Бацькаўшчыну, але нядрэнна мець і апорныя архіўныя пункты, магчыма ў Гайнаўцы для Еўропы і ў Кліўлендзе для Амерыкі. Абмяркоўвалася думка пра стварэнне Саюза беларускіх медыкаў. Вельмі карысны абмен студэнтамі, навукоўцамі, камерсантамі, арганізацыя ўзаемнага турызму, летнікаў, выстаў, канцэртаў, сустрэч дзеячаў культуры і навукі і г. д. Эмігранты могуць дапамагчы ў розных міжнародных мерапрыемствах, у тым ліку і спартыўных (напрыклад, у правядзенні Алімпійскіх гульняў, якія ў 1996 г. адбудуцца ў ЗША), і г. д. Неабходна прыцягваць беларускіх эмігрантаў да напісання артыкулаў для энцыклапедый, наладзіць абмен літаратурай, арганізаваць магчымасць падпіскі на розныя выданні Беларусі і г. д.

Каб дайсці нам, усім беларусам, — і на бацькаўшчыне, і ў замежжы — да сапраўднай Беларусі, патрэбна аб’яднанне сіл на шляху нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Вярталіся мы на радзіму поўныя ўражанняў, карысных назіранняў, прапаноў, з больш яснымі перспектывамі ў працы ЗБС «Бацькаўшчына». У вялікім кантрасце з аэрапортамі ЗША, Канады, Ірландыі, якія поўныя людзей, розных магазінаў, рэстаранаў, кафэ, Мінскі аэрапорт сустрэў цішынёй і пустэчай мармуровых залаў. Дарэчы, страшна дрэнны сэрвіс, антысанітарны стан нашых туалетаў проста адштурхоўваюць ад паездак на Беларусь замежных турыстаў, у тым ліку нават нашых суайчыннікаў. Так мы губляем турызм, а з ім багацце і прыцягальнасць краіны. Аб гэтым таксама былі размовы з многімі беларусамі замежжа. Прыляцеўшы на Беларусь, мы падумалі: «О Беларусь! Калі ж ты станеш па-сапраўднаму

культурнай, багатай, цывілізаванай дзяржавай? Ці дачакаемся мы таго часу, для набліжэння якога мы гатовы зрабіць усё, што можам, не шкадуючы сіл і намаганняў?»

*1994*

## Успамін пра М. Гарэцкага

На III Гарэцкіх чытаннях у Магілёве (сакавік 1994 г.) быў Янка Брыль. Ён мне параіў звярнуцца да жонкі Максіма Танка, якая ў пачатку 20-х гг. вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі ў Максіма Гарэцкага. Можа, запісаць якія-небудзь успаміны? Зайшоў да Максіма Танка па справе выбараў у Акадэмію навук Беларусі. У калясцы сядзела Любоў Андрэеўна. Я спытаў наконт успамінаў пра Максіма Гарэцкага. Яна адказала: «На жаль, ужо амаль нічога не памятаю, асабліва якія-небудзь падрабязнасці ці выпадкі. Адно вельмі добра памятаю, дык гэта тое, што, калі Максім Гарэцкі пакідаў нашу гімназію, мы так шкадавалі аб гэтым, што ўсе — і вучні, і настаўнікі — моцна плакалі».

*1994*

## Усіх люблю на Беларусі

На Вялікдзень каля кафедральнага сабора стаяў недалёка ад Зянона Пазьняка. Каля яго круціліся некалькі прыгожых сімпатычных дзяўчат і ўсяк стараліся, каб ён звярнуў на іх увагу. Я яму кажу: «Вось як вас любяць дзяўчаты».

— Мяне любіць уся Беларусь.

— Ну, ёсць і такія, якія вас не любяць.

— А я іх усё роўна люблю. Я ўсіх на Беларусі люблю. Калі б яны гэта ведалі, дык таксама мяне любілі б.

*1994*

## Як вітацца

На Вялікдзень 1994 г. быў на службе ў кафедральным саборы. Калі Філарэт з крыжам падышоў да В. Кебіча, той пацалаваў яму руку. Адзін з пісьменнікаў на гэта мне сказаў: «Ён зараз (а справа была перад прэзідэнцкімі выбарамі) не толькі руку, але і ж… пацалуе». Троху пазней на прыёме ў пасольстве адной з краін Захаду я стаяў побач з досыць вядомым былым супрацоўнікам ЦК КПБ. Ідзе мітрапаліт Філарэт. Мы прывіталіся, а мой субяседнік раптам кідаецца да Філарэта і цалуе яму руку. Яму неяк нялоўка перада мной, і ён кажа: «Не ведаеш, як з ім і вітацца».

*1994*

## Не адракацца ад боскага

Па запрашэнні Міколы Купавы выступаў разам з Тэрэзай Голуб пра творчасць і жыццё Максіма Гарэцкага ў Мінскім мастацкім ліцэі. Поўны клас маладых, светлых, прыгожых вачанятак з цікавасцю ўважліва глядзелі на нас і сачылі за шляхам няведамага ім (на шчасце!) жахлівага жыцця ў час сталінскага «сацыялізму». Я сказаў, што многіх дзяцей прымушалі адмаўляцца ад бацькоў — «ворагаў народа». Пасля сустрэчы адна дзяўчынка адначасова са страхам і надзеяй у голасе спыталася ў мяне: «А вы не адмовіліся?» Я адказаў, што бацькі, як і Бацькаўшчына, даюцца чалавеку ад Бога, і таму ад іх ніколі, якія б яны ні былі, адмаўляцца нельга, тым больш ад такіх цудоўных людзей, як мае. Яна з нейкай палёгкай і ўдзячнасцю паглядзела на мяне — апраўдаў яе ўражанне. Дзякуй табе, дзяўчынка, за давер!

*1994*

## Ганаровыя і замежныя члены АН Беларусі

Бюро Прэзідыума АН Беларусі ў 1994 г. вырашыла абраць ганаровых і замежных членаў акадэміі. Апошнія такія выбары былі 35 гадоў таму. Я, як віцэ-прэзідэнт, курыраваў Аддзяленне хімічных навук і навук аб Зямлі і Аддзяленне гуманітарных навук, таму з магчымымі кандыдатамі гэтых навуковых напрамкаў мне прыйшлося весці размовы аб іх згодзе.

Пазваніў у Новасібірск акадэміку А. А. Трафімуку — выдатнаму геолагу-нафтавіку, намесніку старшыні Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, члену Прэзідыума РАН, дырэктару Інстытута геалогіі і геафізікі, аднаму з арганізатараў СА РАН. Ён адразу рэзка адмовіўся: «Какой же я иностранный член АН Беларуси, если я белорус, родом из Брестской области? Это — моя родина, и я в ней не могу быть иностранным». Пазней А. А. Трафімук, як член КПРФ, нязгодны з палітыкай кіраўніцтва Расіі, адмовіўся ад ордэна, які па Указу Б. Ельцына павінен быў атрымаць.

Пазваніў Васілю Быкаву. Той папрасіў падумаць, а на наступны дзень таксама катэгарычна адмовіўся: «Не хачу ніякай ласкі ад сучасных улад, у тым ліку і ад акадэміі. Я ў такой акадэміі нават ганаровым быць не хачу, бо яна поўнасцю савецкая і вы вымушаны будзеце хутка выбіраць такіх камуністаў, як Іван Антановіч, а я побач з ім сядзець не буду. Я б з прыемнасцю адмовіўся і ад мінулых узнагарод, бо яны мне перашкаджаюць жыць». І праўда, праз некалькі гадоў кандыдатам у члены-карэспандэнты АН Беларусі быў вылучаны Антановіч, але яго не абралі.

З Нілам Гілевічам вёў доўгія перамовы, бо ён вагаўся — хацеў быць не ганаровым, а правадзейным членам АН Беларусі. Так і адмовіўся даць згоду на выбары.

Янка Брыль і Пімен Панчанка далі згоду і сталі першымі ганаровымі членамі постсавецкай АН Беларусі. Асабліва быў задаволены ўжо зусім хворы Пімен Панчанка і шчыра дзякаваў

нам, калі я разам з В. Банько (вучоны сакратар Аддзялення гуманітарных навук) прыехалі да яго на кватэру ўручыць дыплом ганаровага акадэміка. Мы ж былі рады, што падтрымалі настрой і дух славутага паэта перад вечным адыходам яго ў іншы свет (праз год ён памёр).

Я зрабіў так многа намаганняў, каб гэтыя выбары адбыліся, бо лічыў іх першым крокам да аб’яднання беларускай інтэлігенцыі на шляху нацыянальнага адраджэння. Адна прысутнасць на агульным сходзе АН Беларусі такіх постацей, як Максім Танк, Янка Брыль і інш., рабіла сходы больш урачыстымі, а па сутнасці, і больш нацыянальнымі, што так заўсёды не хапала нашай акадэміі.

*1994*

## «Я ліцвін»

Калі я рабіў уступнае слова на нарадзе міжнароднага геолага-геафізічнага праекта «Еўрапроба» ў Мінску, я коратка расказаў пра гісторыю Беларусі, пра Вялікае Княства Літоўскае. Мой навуковы настаўнік, віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі навук акадэмік А. Л. Яншын, які выдатна ведае гісторыю, але тую, афіцыйна-рускую, вельмі здзівіўся многім невядомым яму фактам. Калі яго жонка, Фідан Тауфікаўна, спытала яго, дык хто ён, як ураджэнец Смаленска, па нацыянальнасці, Аляксандр Леанідавіч, паслухаўшы мяне, напалову жартам — напалову ўсур’ёз адказаў: «Я ліцвін».

*1994*

## Ці мова вінавата?

Запрасілі на пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дзе Ніл Гілевіч рабіў даклад пра выкананне Закона аб мовах. Дэпутаты Жукоўскі, Б. Савіцкі (выступалі па-руску), Булахаў (аказваецца, можа размаўляць і

на беларускай мове) растлумачылі, што яны не размаўляюць па-беларуску, бо гэтая мова не надта распрацаваная, да гэтага часу ідуць спрэчкі па яе правапісе, таму лепш гаварыць па-руску, чым не зусім дасканала па-беларуску. Выходзіць, што не яны, народныя дэпутаты Беларусі, а мова ў гэтым вінавата.

*1994*

## Дзе захавалася мова?

На канферэнцыі «Беларуска-амерыканскія гісторыка-культурныя ўзаемадачыненні» паміж Янкам Брылём і мной сядзела пасол Польскай Рэспублікі прафесар беларускай мовы Эльжбета Смулак і паведала нам: «Неяк заходзіць да мяне вельмі сімпатычная жанчына і размаўляе на прыгожай беларускай мове. Аказваецца, гэта жонка паэта Генадзя Бураўкіна — Юля. Пытаюся: «Адкуль так добра мову ведаеце?» — «Навучылася ў беларускіх эмігрантаў у Амерыцы». Вось парадокс: мова беларуская лепш захавалася ў эмігрантаў у Амерыцы, чым на Бацькаўшчыне.

*1994*

## «У яго адна ёсць мерка праўды…»[1]

Разам з сардэчнымі віншаваннямі і найлепшымі пажаданнямі, якія я з вялікай шчырасцю перадаю нашаму славутаму Васілю Быкаву з нагоды яго 70-годдзя, трэба адзначыць, што такія народныя волаты, такія магутныя постаці з’яўляюцца вельмі рэдка, і таму пройдуць дзесяцігоддзі, і наш час, магчыма, будуць успамінаць як эпоху В. Быкава, так, як мы зараз вывучаем эпоху Ф. Скарыны. Феномен В. Быкава — яшчэ адна праява таленавітасці беларускага народа, і таму юбілей гэты — свята народнае.

---

[1] Змена. — 1994. — 18 чэрвеня.

Мне, як навукоўцу, вельмі блізкая проза В. Быкава. Як і ў навуцы, так і ў творах Быкава галоўная мэта — дасягненне ісціны, праўды. Захапляе такое глыбока дасканалае і ўмелае даследаванне душы чалавечай, яе хістання, зменлівасці, развіцця, асаблівы ўздым у час выбару паміж жыццём і смерцю. Ён адзін з першых у савецкай літаратуры насуперак сацрэалізму, поўнасцю ў той час яе захапіўшаму, з вялікай мужнасцю сказаў жудасную праўду пра Другую сусветную вайну, як некалі таксама праўду пра Першую сусветную вайну напісаў мой дзядзька Максім Гарэцкі. І ў гэтай праўдзе больш антываенных матываў, чым у многіх хлуслівых падфарбаваных творах так званай антываеннай літаратуры.

Мне блізкі Васіль Быкаў сваёй нязломнай грамадзянскай пазіцыяй барацьбіта за беларускую нацыянальную ідэю — у гэтым ён наш сучасны прарок, як некалі ў адраджэнскі час пачатку стагоддзя быў Янка Купала. Нясхільны змагар за вольнасць народную, за незалежнасць дзяржавы беларускай, за яе мову і культуру, ён па праву быў абраны першым прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», і таму мне не так проста і з вялікім хваляваннем давялося прыняць ад яго гэтую пасаду. Я шчаслівы, што магу бачыць, слухаць і чытаць В. Быкава, і веру: пакуль будзе жыць Беларусь — будуць жыць і творы Васіля Быкава, а гэта значыць — жыць ім вечна.

*1994*

## Сяброўская падтрымка

Калі пасля бацькі памірае ўжо зусім старая і хворая маці, разумееш, што гэта непазбежны закон жыцця і нават ёй палёгка (як кажуць, адмучалася), усё роўна сэрца ные ад страты, а кроплі слёз самі з'яўляюцца на вачах. Пакуль жывуць бацькі, адчуваеш сябе больш спакойным і мацнейшым, а з іх адыходам сам пераходзіш у першы рад, у які ў любы момант можа прыйсці па цябе хударлявая баба з касой. 2 жніўня — у

вельмі гарачы летні дзень — памерла мая маці. З аднаго боку, хочацца застацца зусім аднаму і ўспамінаць яе ў мінулым, а з другога — як добра, што прыходзяць спачуванні і падтрымка ад блізкіх, сяброў і знаёмых — паняволі робіцца лягчэй. Я быў вельмі ўдзячны многім з іх, асабліва Янку Брылю, які, пачуўшы ад некага аб гэтай сумнай падзеі, прыйшоў на пахаванне, дзе ён і Роза Зінава сказалі вельмі цёплыя словы, а потым пабыў і на памінках, і гэта нягледзячы на тое, што на наступны дзень ён адзначаў сваё 77-годдзе.

*1994*

## Апантанасць да ведаў

На агульным сходзе Акадэміі навук Беларусі, які павінен быў пачацца а 10-й гадзіне раніцы, чакалі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку, таму асабліва глядзелі, каб усё было ў парадку. Я хвілін за 50 да пачатку зайшоў у вялікую залу паглядзець, ці ўсё падрыхтавана да сходу. У зале нікога, толькі сядзіць адзін Давід Моўшавіч Голуб — наш самы старэйшы акадэмік (яму больш за 93 гады). Пытаюся ў яго:

— Давід Моўшавіч, чаму так рана прыйшлі?

— Ды прызвычаіўся ў такі час ездзіць на працу — вось рана і апынуўся тут.

А потым дадаў:

— Але вы не думайце, што я дарма марную час. Вось бачыце, я сяджу і вывучаю англійскую мову — словы новыя вучу.

І паказаў мне вялікі ліст з пералікам англійскіх слоў і іх перакладам на рускую. Вось гэта апантанасць да ведаў!

*1994*

## Амбіцыі — вышэй за справу

Зноў нашы дэмакраты пасварыліся: БНФ абвінавачвае Партыю згоды (Г. Карпенка) у развале блока і наадварот. На жаль, наша дэмакратыя пакуль што не здольная стварыць нешта станоўчае, моцнае і сталае, ёй лягчэй разбурыць. Амбіцыі вышэй за справу.

*1995*

## Інтэлігентнасць ва ўсім

Быў на канферэнцыі «Незалежнасць СМІ», якую наладзіў ПЭН-цэнтр Беларусі. Калі садзіліся ў аўтобус, перад Янкам Брылём раптам аказалася жанчына з вялікім і цяжкім чамаданам. Янка Брыль ад нечаканасці неяк разгубіўся, у яго само сабой вырвалася: «Як жа быць — дактары забараняюць мне падымаць што-небудзь цяжкае?» Але тут жа падхапіў чамадан і ўнёс яго ў салон аўтобуса.

*1995*

## Дакуль такое будзе?[1]

Амаль агульны страх жыхароў краіны, дэмагагічная хлусня ўладаў, адсюль скрытае пачуццё раба і двудушнасць у большасці людзей — самыя характэрныя рысы таталітарызму. Толькі некаторыя найбольш адважныя асобы, такія, як Алесь Адамовіч, дзень нараджэння якога мы будзем з вялікай павагай і светлай памяццю адзначаць 3 верасня, змаглі сказаць уголас усю праўду. А ён ведаў, што гэтым шкодзіць сваёй кар’еры, свайму дабрабыту, але захаваў чыстым сваё сумленне. Ці засталіся гэтыя рысы страху, хлусні і двудушнасці ў наш час так званага посттаталітарнага грамадства? На жаль, цалкам

---

[1] Выступленне на II міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры: «Незалежная прэса: свабода і адказнасць», жнівень–верасень 1995 г.

жывуць. Таму і грамадства наша пакуль не стала посттаталітарным. Яно застаецца па сваёй сутнасці такім, як і было. Проста нам крыху адчынілі фортку вольнасці і галоснасці, і мы пасля доўгага знаходжання ў душным паветры закрытага грамадства так узрадаваліся гэтай свежай плыні, што, ледзь не задыхнуўшыся ад шчасця, паддаліся вялікай эйфарыі. Цяпер нас зноў аблілі халодным душам, паступова прымушаючы пайсці з адкрытай прасторы цывілізаванага чалавецтва ў замкнутую клетку паліцэйскага таталітарызму. Але тыя выдатныя заваёвы, якія адбыліся ў гэты кароткі гістарычны час развалу савецкай імперыі (афіцыйнае атрыманне незалежнасці і дзяржаўнасці, зацвярджэнне сваёй Канстытуцыі, дзяржаўнасці беларускай мовы і г. д.), мы аддаваць не хочам і не збіраемся.

Так лёгка атрымаўшы дзяржаўнасць, нашы ўлады не шануюць гэтага вялікага дару, аб якім марылі і за які змагаліся многія лепшыя сыны Беларусі. Наадварот, яны знаходзяцца ў стане страшэннай настальгіі па былым Савецкім Саюзе і таму бачаць толькі адзін шлях: зноў зліцца з Расіяй ці пабудаваць новы ўсходнеславянскі саюз. Самае галоўнае сёння — гэта аб'яднаць усе сілы вакол беларускай нацыянальнай ідэі самастойнай дзяржаўнасці, усім кіраўнікам розных партый і рухаў, каму Бацькаўшчына, родная Беларусь дарагая, пакінуць свае непамерныя амбіцыі, што заўсёды перашкаджалі дэмакратам выступаць разам. Пабудова дэмакратычнай цывілізаванай еўрапейскай дзяржавы — галоўная мэта патрыятычных сіл Беларусі. Як пісаў яшчэ Янка Купала ў 1919 г. у артыкуле «Незалежнасць»: «...Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».

У гэтай высакароднай справе вялікая роля належыць сродкам масавай інфармацыі, галоўны інструмент якой — слова, асабліва роднае матчына слова. Але такую ролю можа выканаць толькі незалежная прэса, а мова — беларуская. На жаль, стан і той і другой вельмі цяжкі. Беларуская мова — бясцэнны

скарб нашага народа, усяго чалавецтва, якая не загінула пад стагадовымі забаронамі, цяпер, пасля ганебнага рэферэндуму, зноў пастаўлена пад пагрозу знішчэння. Пад кіраўніцтвам прэзідэнцкай адміністрацыі ідзе наступ і на мову, і на прэсу. Пашырэнне мовы ва ўрадавых колах рэзка скарацілася. Калі і чуем яе ад Прэзідэнта, дык часцей толькі ў двукоссі, як здзек. Асабліва дастаецца слову «спадар». Большасць чыноўнікаў пасля рэферэндуму рабалепна перайшлі на рускую мову, хаця многія добра ведаюць і беларускую. Са справаводства яе зноў амаль цалкам выгналі, што пярэчыць прынятаму Закону аб мовах, закрываюцца беларускамоўныя школы, класы і садкі, забараняюцца новыя падручнікі, не маюць дастатковай падтрымкі беларускія выданні і г. д. Няўтульна адчувае сябе беларускамоўны беларус у Беларусі. Які парадокс: Беларусь без беларускага слова!

Расправа з галоўнымі рэдактарамі вядучых газет краіны, поўнае падпарадкаванне большасці газет, цалкам тэлебачання і радыё «замяталінскаму»[1] кантролю выклікае абурэнне. Цікава разважаюць пра прэсу кіраўнікі нашай краіны (як сучасны, так і папярэдні): «Я ім даю грошы, а яны мяне і ўрад яшчэ крытыкуюць!» Як быццам гэтыя грошы іх асабістыя, а не народныя. Як яшчэ адзін прыклад грубага ўмяшання хачу прывесці працу кантралёраў Прэзідэнта на чале з Даўгалёвым[2], якія правяралі дзейнасць выдавецтва «Навука і тэхніка». Адной з вялікіх крамолаў адзначана выданне па-за планам многіх беларускамоўных кніг па заказу Таварыства беларускай мовы. Яны патрабуюць зняць з працы віцэ-прэзідэнта АН Беларусі, які курыруе выдавецтва, і яго дырэктара. Нават у хрушчоўска-брэжнеўскі і часткова сталінскі час зняць віцэ-прэзідэнта акадэміі з пасады мог толькі яе Агульны сход.

---

[1] Замяталін У. П. — палкоўнік, начальнік галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

[2] Даўгалёў В. Б. — віцэ-прэм’ер Рэспублікі Беларусь.

Які сум ахоплівае, калі падыходзіш да кіёскаў, — амаль няма беларускамоўных газет і часопісаў, гандаль захапіла руская мова і што яшчэ горш — малапісьменныя, бульварнага кшталту газеткі, нізкапробны дэтэктыў і парнаграфія. Купіць «ЛіМ», «Наша слова», «Голас Радзімы», «Полымя» і іншыя беларускамоўныя выданні амаль немагчыма. Няма падпіскі на гэтыя часопісы і газеты як у блізкім, так і ў далёкім замежжы, хаця, здавалася, гэта някепскі прыбытак, прычым у валюце.

Барацьба за беларускую мову, за незалежную прэсу — найважнейшая палітычная справа. Зноў вялікая надзея на беларускіх пісьменнікаў і журналістаў. Менавіта яны больш за ўсіх у часы бальшавіцкай улады захавалі беларускую мову, культуру, беларушчыну, а адсюль, можна сказаць, і ўсю нацыю. З вялікай удзячнасцю і пашанай схіляю перад імі галаву. Вось вам і праблема: пісьменнік і палітыка. Хацелася б і маіх калег — беларускіх вучоных, асабліва з Акадэміі навук Беларусі, заклікаць быць больш актыўнымі ў пытаннях дзяржаўнасці, мовы, беларускасці, тым больш, што перад імі ёсць такі яскравы прыклад, як папярэднік акадэміі — Інбелкульт, які быў сапраўдным цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння. Як далёка нам да яго!

На сучаснага грамадзяніна не менш, чым прэса, а, можа, значна больш уплываюць радыё і асабліва тэлебачанне. На жаль, наша тэлебачанне больш расійскае, беларуская частка — пад пільным дзяржаўным кантролем, а прафесійны ўзровень нізкі.

[…] Уплыў прэсы на жыхароў краіны настолькі вялікі, што пры размове з тым ці іншым чалавекам можна пазнаць, якія газеты ён чытае. Трэба быць вельмі ўважлівымі да фактаў, недапушчальны ніякія адхіленні ад праўды, недасканаласці, а тым больш хлусня, нават, здавалася б, і невялікая. […] Высокая культура, асаблівая адказнасць павінны быць уласцівы СМІ. Толькі агульнымі намаганнямі творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі, сродкаў масавай інфармацыі, усіх патрыётаў краіны мы

зможам захаваць сваю незалежнасць, пабудаваць беларускую дзяржаву, стварыць адкрытае цывілізаванае грамадства. Для гэтай мэты не пашкадуем сваіх душэўных і фізічных сіл!

Ну, а Беларусь? Як яна? Жыве, як і жыла ўсё па той жа вядомай прытчы У. Караткевіча: мае найпрыгажэйшы кавалак зямлі, які Бог пакінуў для сябе (хаця некаторыя тэрыторыі ўжо сталі «зонай Сталкера» братоў Стругацкіх і экалагічная сітуацыя вельмі небяспечная), занадта талерантны беларус, як і раней, у асноўным «спіць у шапку» і не спяшаецца вырвацца на шырокую прастору цывілізацыі; ну а кіруе ім начальства, пра якое скажам у двукоссі (як яно пра нашу мову) «самае лепшае», «самае беларускае», «самае дэмакратычнае».

Дык дакуль такое будзе?

## Культура беларускага тэлебачання

На адкрыцці помніка Алесю Адамовічу на могілках у Глушы жалобны мітынг вёў Янка Брыль, які першым сказаў цёплыя, усхваляваныя, шчырыя словы пра пісьменніка. Увесь час запісвала прамовы, здымала камерай група супрацоўнікаў нашага беларускага тэлебачання. Праз некаторы час да Янкі Брыля падыходзяць некалькі чалавек з БТ і просяць сказаць для тэлебачання «пару слоў». «Дык што вам сказаць? Я ж толькі што выступаў», — адказвае Іван Антонавіч. «А вы паўтарыце тое, што казалі на могілках». — «Прабачце, але я не папугай, каб паўтараць адно і тое ж». Увечары ў «Панараме» дыктар тэлебачання пры паказе адкрыцця помніка на магіле Алеся Адамовіча пералічвае народных пісьменнікаў, якія там прысутнічалі: Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, **Янка Маўр**… Вось яна, «высокая культура» нашага тэлебачання!

*1995*

## Гуртам рабіць справу

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» арганізавала сустрэчу кіраўнікоў беларускіх суполак замежжа і сяброў Вялікай рады, на якой вельмі правільна сказаў мудры Янка Брыль — прыблізна так: «Мы ўсе добра ведаем, што павінны рабіць іншыя, а самі робім мала. Калі крытыкаваць, дык канкрэтна. Займаемся самаедствам, не ўмеем займацца чарнавой справай. Трэба не шукаць недахопы адзін у аднаго, а гуртам рабіць справу нацыянальнага адраджэння». Наконт агульнай цяжкай сітуацыі, на якую многія скардзіліся, ён, спаслаўшыся на народныя выказванні ў сваёй вёсцы і папрасіўшы прабачэння за грубыя словы, адзначыў: «Перажылі лета гарачае, перажывём і г… сабачае».

*1995*

## Зорка раўняецца свастыцы

Успомніў, як у 1973 г. з нагоды навуковай канферэнцыі я ўпершыню трапіў у Парыж. У той час там праходзілі выбары ў Нацыянальны сход Францыі. Парыж быў аблеплены партрэтамі кандыдатаў у дэпутаты, і сярод іх я з гонарам убачыў знаёмы твар Жоржа Маршэ — генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Францыі. Але разам з тым на многіх сценах будынкаў, метро, плакатах былі намалёваны знакі: зорка раўняецца свастыцы. Мяне гэта тады вельмі ўразіла. Я пачаў думаць: чаму так? Ужо ў той час і асабліва пазней, у перабудову, калі мы сталі больш адкрытымі, а галоснасць і праўда прабілі маўклівасць і хлусню, я зразумеў, што такія знакі маюць сэнс. У нас не было ні сацыялізму, ні тым больш камунізму, а быў ленінізм-сталінізм, была бальшавіцкая ўлада. Па сутнасці, і фашызм, і бальшавізм — блізкія сістэмы таталітарызму, дыктатура адной партыі і асабліва яе вярхушкі.

Ужо ў 1918 г. адным з першых актаў бальшавікоў быў акт аб чырвоным тэроры, дзе ўпершыню сцвярджалася неабходнасць арганізацыі канцэнтрацыйных лагераў. З тых часоў пачалі ўжывацца пазасудовыя рэпрэсіі. Сталін пазней пісаў: «Рэпрэсіі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва з'яўляюцца неабходным элементам наступлення». Быў створаны карны «ордэн мечаносцаў» (ЧК) унутры Савецкай дзяржавы. Да людзей ставіліся не з пункту гледжання Чалавека, а толькі як да «вінціка».

Абодва дыктатарскія рэжымы, па сутнасці, былі блізкія, а па колькасці знішчаных людзей (асабліва сваіх найлепшых) сталінскі значна перавысіў гітлераўскі. Падыход да войнаў таксама быў блізкі — захопніцкі. Была ганебная фінская, а потым зусім не «нечаканая» Другая сусветная войны. Блізкасць рэжымаў спарадзіла і вялікае перадваеннае сяброўства — дастаткова прыгадаць пакт Молатава–Рыбентропа, сумесны парад войскаў у Брэсце напярэдадні вайны.

Цяпер у Расіі ўздымаюць галовы і бальшавізм, і фашызм, прычым яны нярэдка разам ладзяць і свае мітынгі. Назіраецца, на жаль, той жа, што і раней, падыход і да людзей, пра што гаворыць чачэнская разня. Нядаўна ў «Известиях» на першай старонцы кінуўся ў вочы характэрны загаловак: «Под новой вывеской возрождается старое КГБ». Беларусь уцягваецца ў расійскі вір. Асабліва небяспечныя для нас падпісаныя ўрадам дагаворы і пагадненні пра сумесную ахову дзяржаўнай мяжы, агульную мытную службу, ваенныя аэрадромы ўзброеных сіл РБ і РФ, стратэгічныя сілы РФ на тэрыторыі Беларусі і інш. Да нас спакойна прыязджаюць Жырыноўскі, Баркашоў, іх сябры і інш. Наша краіна робіцца «рыбалоўнай сеткай» крымінальнага свету ўсіх краін СНД, які імкнецца пашырыцца на Захад. Ідзе знявага мовы, сімвалаў краіны. Усё гэта стварае вялікую небяспеку звароту да таталітарызму і дыктатуры на Беларусі. Сапраўднай дэмакратыі трэба быць дбайнай!

***1995***

## Сын ліцвіна, славуты на ўвесь свет

*(Да 150-годдзя з дня нараджэння Івана Чэрскага)*[1]

Яго імя носяць працяглая (больш за 1500 км) горная сістэма паміж рэкамі Калыма і Яна ў Якуціі і Магаданскай вобласці, горны хрыбет у Забайкаллі (Чыцінская вобл.), пасёлак на р. Калыма ў Якуціі (былы Ніжне-Калымск), найвышэйшая (2763 м) вяршыня Байкальскага хрыбта, адзін з вулканаў Тункінскай упадзіны на Усходнім Саяне, даліна паміж Усходнім Саянам і Енісейскім кражам, два ледавікі на Байкальскім хрыбце, камень (зараз назіральная пляцоўка) на ўзбярэжжы Байкала каля вытокаў Ангары, стаянка першабытнага чалавека каля Іркуцка, некалькі выкапнёвых жывёл, вуліцы ў Маскве і Пскове. Рэдка хто з вучоных і падарожнікаў можа мець такі выдатны набор назваў у свой гонар. Імя Чэрскага стаіць побач з такімі вядомымі натуралістамі, як Аляксандр Гумбальт, Пётр Сямёнаў-Цяньшанскі, Мікалай Пржавальскі і інш. Усё жыццё яго — подзвіг, які здолеў зрабіць чалавек без спецыяльнай адукацыі — вучоны самавук, пражыўшы усяго 47 гадоў.

Кожны народ, кожная нацыя лічаць за гонар мець такога славутага сына. Таму за прыналежнасць да сябе за яго змагаюцца і палякі, і літоўцы, і рускія, і беларусы. У гэтым сэнсе цяжэй за ўсё беларусам, бо іх тэрыторыя спачатку належала Рэчы Паспалітай, якая ў другой палове свайго існавання была ўжо чыста польскай, а потым — Расійскай імперыі. У выніку сыны зямлі беларускай рабіліся дзеячамі польскімі ці расійскімі. Так здарылася і з Чэрскім. Па паходжанні ён, безумоўна, беларус. Нарадзіўся ў фальварку Свольна Дрысенскага павета Віцебскай губерні (зараз Верхнядзвінскі раён) 3 (15) мая 1845 г. Яго бацька — Дзяменцій Іванавіч — з даволі багатай мясцовай шляхты, памёр, калі сыну было ўсяго 10 гадоў. Сам Чэрскі пра сябе заўсёды пісаў, што ён — «сын ліцвіна», як сябе і называлі

---

[1] Звязда. — 1995. — 13 мая.

ўсе жыхары Вялікага Княства Літоўскага, незалежна ад нацыянальнасці (у тым ліку і беларусы). Ён скончыў Віленскую гімназію, а затым там жа вучыўся ў шляхецкім інстытуце. Вельмі здольны, ён вылучаўся веданнем пяці моў, добрым выхаваннем, элегантнасцю, вясёлым характарам, палкасцю. 18-гадовым юнаком прыняў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага і быў сасланы ў Омск радавым лінейнага батальёна. З таго часу Сібір, якой ён прысвяціў усё астатняе жыццё, стала для яго другой радзімай. Такім чынам, па паходжанні Чэрскі — беларус, выхаванне меў прапольскае, а стаў вялікім рускім падарожнікам і вучоным.

22 гады пражыў І. Чэрскі, як палітычны ссыльны, спачатку ў казармах Омска, а затым працуючы ў Іркуцку ва Усходне-Сібірскім аддзеле Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства. Яму прыйшлося перажыць знявагу, несправядлівасць, пастаяннае адчуванне зняволенасці, дрэнных умоў жыцця (нярэдкіх на грані сапраўднай беднасці), а затым зайздрасці і інтрыг. Да ўсяго гэтага дабавіліся хвароба сэрца, рэўматызм, галаўныя болі, нервовасць. Але нястрымнае імкненне да ведаў, да адкрыцця новага было непахісным. Пры недахопе кніг, спрыяльных бытавых умоў ён вучыўся і працаваў па 12–16 гадзін у суткі. Пашанцавала на настаўнікаў і калег па працы: у Омску значны ўплыў на маладога пачынаючага навукоўца зрабіў вядомы географ Г. Патанін, зямляк бібліяфіл У. Кваткоўскі, а ў Іркуцку — зямляк заолаг Б. Дыбоўскі і геолаг А. Чаканоўскі. Вялікае значэнне мелі сустрэчы і перапіска з акадэмікамі А. Міндэндорфам, Ф. Шмітам, Ф. Брантам, А. Штраухам, Ф. Плеске, П. Сямёнавым-Цяньшанскім і інш. Галоўнай мэтай жыцця стала прага пазнання прыроды шляхам падарожжа па глухіх, яшчэ невядомых, але найпрыгажэйшых і найцікавейшых мясцінах Сібіры. Яго самы часты сказ: «Калі б людзі не вандравалі, як пазналі б яны прыгажосць і веліч свету…»

Найбольшых дасягненняў Чэрскі дабіўся ў галіне геалогіі і геаграфіі. Але ён быў сапраўдны натураліст з надзвычайна

шырокім профілем: значны след пакінуў у заалогіі, анатоміі, археалогіі, метэаралогіі, цікавіўся батанікай, этнаграфіяй, фальклорам і інш. Чэрскі адкрыў многа розных геаграфічных аб'ектаў, у тым ліку новыя хрыбты, першым знайшоў і даследаваў палеалітычную стаянку ў Сібіры, сабраў і апісаў шэраг сучасных і выкапнёвых жывёл. Яго можна лічыць адным з заснавальнікаў эвалюцыйнай геамарфалогіі. Іван Дзяменцьевіч вывучаў геалагічную будову Саян, Прысаяння, Прыангар'я, басейнаў рэк Селенгі і Тунгускі, паштовага тракту ад Іркуцка да Урала і інш. Асабліва вялікую вядомасць мелі яго комплексныя даследаванні возера Байкал. За гэтыя працы Чэрскі быў узнагароджаны Рускім геаграфічным таварыствам малым сярэбраным і малым залатым медалямі, а затым і залатым медалём імя Ф. П. Літке.

Вясёлы і добразычлівы, праўдзівы і сумленны, сціплы і ўважлівы да людзей, заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу, ён валодаў асобым дарам прывабліваць да сябе. Яго любілі простыя сібірскія сяляне і мясцовыя жыхары — якуты, бураты, юкагіры. Вельмі працавіты, патрабавальны да іншых і асабліва да сябе, акуратны, мужны, валявы, знаходлівы, мэтанакіраваны, апантаны — гэтыя якасці, выхаваныя ім у шматлікіх вандраваннях, дапамагалі пераадолець усе цяжкасці палявой працы і нялёгкага жыцця, бліскуча выканаць разнастайныя даследаванні.

Атрымаўшы доўгачаканую амністыю, Чэрскі з жонкай і шасцігадовым сынам пераехаў у Пецярбург, дзе пражыў амаль сем гадоў і дзе яго чакала павага і шырокая вядомасць. Як лепшаму знаўцу Сібіры, яму даручылі абагульніць геолага-геаграфічныя веды па Сібіры ў шматтомнае выданне «Землеведение Азии». Ён многа працуе над гэтай манаграфіяй, выдае кнігу пра калекцыю паслятрацічных млекакормячых Новасібірскага архіпелага, выступае з дакладамі пра геалогію Азіі. Чэрскага выбіраюць сябрам многіх навуковых таварыстваў: Рускага

геаграфічнага, Пецярбургскага мінералагічнага, Пецярбургскага прыродазнаўчага, Маскоўскага даследчыкаў прыроды, Маскоўскага аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, Маскоўскага археалагічнага. Але Чэрскаму душна ў горадзе, яго цягне Сібір, клічуць падарожжы. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, ён усё ж дабіваецца, каб яго паслалі ў трохгадовую экспедыцыю ў раён рэк Калымы, Індыгіркі і Яны. У пачатку 1891 г. Чэрскі разам з жонкай і 11-гадовым сынам выехалі з Пецярбурга, А за паўгода да таго яны з радасцю наведалі родзічаў у Беларусі, бо памяць аб роднай Бацькаўшчыне таксама заўсёды жыла ў хворым і багатым сэрцы Івана Дзяменцьевіча.

Апошняя экспедыцыя была хоць і цяжкай, але вельмі цікавай і выніковай. Амаль не вывучаная велізарная тэрыторыя прынесла Чэрскаму многа радасці ад адкрыцця новага ў напрамках размяшчэння вядомых і яшчэ зусім невядомых хрыбтоў, іх геалагічнай будовы, знаходак карысных выкапняў, збору калекцый мінералаў, жывёл і раслін і г. д. Усе матэрыялы вучоны старанна апрацаваў у час зімоўкі ў Верхне-Калымску. Але ў пачатку 1892 г., рыхтуючыся да новага летняга маршруту, Чэрскі адчуў, што стан здароўя ў яго зусім кепскі. Ён піша «Скорбный лист» (так звалі бальнічны ліст у дарэвалюцыйных бальніцах), дзе падрабязна заносіць даныя аб сваім адчуванні. У маі ён піша «Открытый лист М. П. Черской» — такія лісты выдаваліся чыноўнікам пры паездках па справах службы. У гэтым лісце ён адзначае, што сумняваецца ў тым, што дажыве да ад’езду экспедыцыі, і таму даручае давесці яе да канца сваёй жонцы, якая павінна даплыць да Ніжне-Калымска і зрабіць усе назіранні.

1 чэрвеня экспедыцыя ўсё ж адплыла па Калыме. Яшчэ 25 дзён ён, сабраўшы ўсю волю, знешне зусім спакойны, кіруе экспедыцыяй, вядзе запісы, а калі не мае сілы трымаць аловак, дыктуе жонцы і сыну свае назіранні. Чалавек вялікай адказнасці, жалезнай волі і мужнасці, Чэрскі ў апошні дзень жыцця

просіць жонку і сына пасля пахавання абавязкова закончыць экспедыцыю і ўсе калекцыі і запісы даставіць у Пецярбург. Гэты запавет яны гераічна выканалі.

У заімцы Калымскае, дзе пахаваны вучоны, у 1943 г. быў пастаўлены помнік «Выдающемуся исследователю Сибири, Калымы, Индигирки и Яны. Геологу и географу Ивану Дементьевичу Черскому (1845–1892) от благодарных потомков».

Беларуская зямля не павінна забываць сваіх славутых сыноў. Сярод іх Іван Чэрскі. Ужо ёсць вуліца імя Чэрскага ў Верхнядзвінску; намаганнямі энтузіяста — настаўніка гісторыі Б. Шымука ў Свольні адкрыты музей Чэрскага, там жа на месцы фальварка Беларускае геаграфічнае таварыства паставіла помнік — вялікі валун. Тут у дзень 150-годдзя з дня нараджэння нашага вялікага земляка Беларускае геаграфічнае і Беларускае геалагічнае таварыствы правялі навуковую канферэнцыю. Але светлае імя славутага вучонага патрабуе большага ўшанавання ў помніках на радзіме, у назвах вуліц Віцебска і Мінска, у далейшым вывучэнні яго спадчыны і жыцця.

*1995*

## Птушка

Прачнуўся ад яскравых промняў сонца, якія весела гулялі па твары. Гляджу — на градцы маленькая птушачка: шэранькая, а грудка лілова-карычневая, вочкі чорненькія, круглявыя — так і бегаюць, ножкі высокенькія, стромкія — цудоўная прыгажуня лясная. Убачыўшы мяне, прыціхла, не варушыцца, каб не заўважыў. Я падышоў бліжэй — не адлятае. Я тоненька пасвістаў. Устрапянулася, прыслухалася, узняла галоўку, пакруціла ёю у адзін бок, другі і раптам адказала падобным свістам. Я паўтарыў — яшчэ падобней. Яна азірнулася і шукае Яго. Няма. Я зноў свіснуў. Адказала, а свайго сябра не бачыць. Але на ўсякі выпадак узнялася на лапкі, распусціла сваю каляровую грудку,

ускінула галоўку — глядзі, якая я прыгожая, ідзі сюды, вясна ж заве! Я засвістаў яшчэ больш танюсенька, больш ласкава… Яна адазвалася мілагучнай трэллю і закруцілася на тонкіх лапках у танцы радасці і гукання. Так мы размаўлялі хвілін пяць, радуючыся аднаўленню прыроды, вясноваму подыху, шчасцю жыцця. Раптам я аступіўся, ад чаго і свіст мой здаўся нейкім нізкім, грубым. Птушка анямела, глянула на мяне пужліва, зразумеўшы, што гэта пяе не Ён, а нейкае вялікае страшыдла. Яна адразу прыпала да зямлі, грудка сціснулася, галоўка ўехала ў цельца, вочкі схаваліся. Разбеглася і паляцела шукаць сапраўдную песню кахання, свайго любага, сваё шчасце…

*1995*

## Чмель

У пакой дачнага доміка ўляцеў вялізны чмель. Гудзе, лётае з месца на месца, кідаецца на акно, але выйсці на волю няма як. І мне страшна: раптам сядзе ды кусне. А яму яшчэ страшней: трапіў у палон і выбрацца з яго не можа. Ад хвалявання ён яшчэ больш шпарка лётае, гудзіць прарэзліва. Я адкрыў дзверы і стараюся яго направіць у вольны свет, але ён так нервуецца, што кідаецца куды заўгодна, апрача адчыненых дзвярэй. Пужаў ён мяне, яшчэ больш пужаў яго я, але нічога ў нас не атрымлівалася. Я стаміўся, і ён ужо шумеў з апошніх сіл. Тады я выйшаў у суседні пакой і стаў так, каб мяне не было відаць. Чмель сеў, супакоіўся, агледзеўся і праз хвіліну шпарка сігануў у адкрыты свет, на волю.

*1995*

## Мы выбіраем жыццё

Беларусь перажывае цяпер не лепшыя часы — і ў эканамічным плане, і ў палітычным. На Бацькаўшчыне не ў пашане беларускасць, патрыятызм, пачуццё нацыянальнай годнасці. Гэта праблемы нашы ўнутраныя. Але як моцна яны адгукаюцца на суайчынніках за мяжой, на аўтарытэце Беларусі.

Мінула пяць гадоў, як адбылася Устаноўчая канферэнцыя, на якой было ўтворана ЗБС «Бацькаўшчына». Тры гады таму адбыўся сход беларусаў блізкага замежжа і трохі больш як два гады таму — Першы з’езд беларусаў свету.

У тыя часы хаця і марудна, але працэс нацыянальнага адраджэння пачаў ісці. Была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, а потым — даволі дэмакратычная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Былі прыняты добрыя законы аб дзяржаўнасці беларускай мовы, гістарычных сімвалах, адкрываліся беларускія школы, ліцэі, садкі, з друку выйшлі многія выданні па гісторыі, культуры Беларусі, вярнуўся да нас шэраг рэпрэсіраваных твораў, у тым ліку аўтараў беларускага замежжа, была прынята дзяржаўная праграма «Беларусы ў свеце» і г. д.

Мы змаглі тады наладзіць сумесную працу з многімі суполкамі і арганізацыямі беларусаў, якія даўно дзейнічалі ў далёкім замежжы і былі наноў створаны ў блізкім замежжы. На сходзе беларусаў блізкага замежжа і Першым з’ездзе беларусаў свету прыняты звароты да беларускага народа, да парламента і ўрада, у якіх прапаноўваліся канкрэтныя вельмі важныя сумесныя дзеянні па кансалідацыі нацыі дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэння нашай Бацькаўшчыны.

На жаль, урад В. Кебіча і паслухмяная яму пракамуністычная большасць Вярхоўнага Савета не спрыялі рабоце ў пабудове самастойнай Беларусі, блакіравалі правядзенне рэформаў у эканоміцы (яны толькі дэклараваліся), марудзілі з прыняццем паўнацэнных законаў (без аглядкі на нядаўняе мінулае) і г. д. Народная гаспадарка разбуралася, народ бяднеў, ішоў наступ

на ўсё пракаветна беларускае. Таму, насуперак намаганням былых улад, прэзідэнцкія выбары прайшлі пад лозунгам замены мінулага курсу, бо людзі патрабавалі перамен. Гэта і вырашыла тое, што былы кіраўнік урада пацярпеў паражэнне.

Зноў у беларусаў метраполіі і замежжа з'явіліся надзеі на першага Прэзідэнта. Быў прыняты шэраг пазітыўных зваротаў да Прэзідэнта і рэзалюцый розных нарад, у тым ліку вельмі грунтоўныя ўдзельнікаў 21-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

Але сучаснае кіраўніцтва рэспублікі — паўнацэнны пераемнік урада В. Кебіча, які не адзін раз пацвердзіў гэта ў сваіх інтэрв'ю. Перамен фактычна ніякіх не атрымалася, нават, наадварот, павялічыліся тыя ж тэндэнцыі. Калі раней гаварылася толькі аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, аб адзінай «рублёвай зоне», дык зараз ужо не хаваецца імкненне і да палітычнага аб'яднання. На жаль, назіраюцца далейшае падзенне эканомікі, развал народнай гаспадаркі. За мяжой беднасці ўжо большая частка людзей краіны.

Ганебны рэферэндум, які быў праведзены пад вялікім уціскам улад і сродкаў масавай інфармацыі з многімі парушэннямі, прывёў да ліквідацыі гістарычных сімвалаў Беларусі і зноў паставіў беларускую мову на мяжу небыцця. Трэба пагадзіцца з даволі трапнымі словамі М. Грыба на IV канферэнцыі Таварыства беларускай мовы: «Няма мовы — няма нацыі, няма нацыі — няма дзяржавы». Але справядліва будзе, калі сказаць і наадварот.

Людзі краіны не адчуваюць сябе спакойна, стабільнасці ў рэспубліцы няма, расце крымінальная небяспека. Прэстыж Беларусі падае, чаму асабліва спрыяюць такія нецывілізаваныя з'явы апошняга часу, як збіццё дэпутатаў Вярхоўнага Савета, забарона свабодных прафсаюзаў, прыкрая гісторыя з падручнікамі і экзаменамі ў ВНУ, забарона шэрагу газет і тэлеперадач, процістаянне Прэзідэнта і парламента (бачыце, дэпутаты «зажрались», прынялі «криминальные законы» і г. д.),

знішчэнне двух грамадзян ЗША на паветраным спартыўным шары, неканстытуцыйнасць многіх выдадзеных Прэзідэнтам указаў і г. д. Ужо некалькі разоў з вуснаў Прэзідэнта былі выказванні аб прамым прэзідэнцкім праўленні. Усё гаворыць пра тое, што краіна рушыць да дыктатуры.

Карэспандэнт «Народнай газеты», асвятляючы I Міжнародную канферэнцыю «Бяспека-95» (Польшча), адзначаў: «Почти все в своих докладах вспоминали Беларусь, но, к сожалению, только в отрицательном смысле, с точки зрения западной демократии». У. Карагін — прэзідэнт Беларускага Саюза прадпрымальнікаў — адзначыў, што «немцы советуют друг другу работать в России, а не в Беларуси — там хоть и трудности, и войны, но развитие ситуации подлежит хоть какой-то логике» (Беларуская газета. 1995. 16 кастрычніка).

Такія адносіны прыводзяць да таго, што, напрыклад, за апошнія 1,5 года інвестыцыі ў суседняй значна меншай Літве склалі больш за 400 млн долараў, а ў Беларусі ў мінулым годзе — 93 млн, сёлета ж — усяго 2,7 млн долараў. Палітычны курс сучасных улад Беларусі нядаўна выразна выказаў сакратар ЦК ПКБ, кіраўнік фракцыі камуністаў новага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Васіль Новікаў: «Сегодня в СНГ, в Европе, да и, пожалуй, во всем мире широко известно, что именно Беларусь на уровне государственной политики целеустремленно прокладывает курс из Беловежья к древнему московскому Кремлю» (Народная газета. 1995. 4–6 лістапада).

Зараз Беларусь стаіць перад важнай падзеяй — паўторнымі выбарамі. Галоўнае — гэта аб'яднацца вакол дэмакратычных сіл, вакол беларускага нацыянальнага шляху і перш за ўсё — вакол дзяржаўніцкай ідэі. На жаль, многія пытанні, якія хвалююць нашых замежных суайчыннікаў, да гэтага часу так і засталіся пытаннямі. Асабліва ўскладнілася жыццё многіх беларусаў блізкага замежжа. Шмат якія праблемы могуць вырашыць толькі дзяржаўныя ўлады. Многае мы абмяркоўвалі на нашых сустрэчах, з'ездах, канферэнцыях, звярталіся з пытаннямі да

ўлад, але толькі некаторыя з іх атрымалі станоўчае рашэнне. Нам неабходна зноў абмеркаваць усё, што хвалюе беларусаў, і пастарацца наблізіцца да вырашэння наспелых пытанняў.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» — не палітычная арганізацыя, але яна стаіць за самастойнасць Беларусі, за яе моцную дзяржаўнасць, за нацыянальнае адраджэнне ва ўсіх сферах: эканоміцы, культуры, мове, адукацыі і інш. Ад аб’яднання беларусаў усяго свету — блізкага і далёкага замежжа і асабліва тутэйшых беларусаў, — ад іх намаганняў, самасвядомасці і імпэту залежыць лёс усёй нацыі: ці будзем мы жыць, ці загінем як своеасаблівы народ. Мы павінны выбраць жыццё! Няхай жыве беларуская ідэя і жыве Беларусь!

*1995*

## Узаемадзеянне паміж захадам і ўсходам у прыродзе і грамадстве Беларусі[1]

Кругабег часу адлічыў ужо 4 гады з Першага міжнароднага кангрэса беларусістаў. Эйфарыя радаснага, хаця цяжкага і павольнага ўздыму Адраджэння, калі была абвешчана незалежнасць краіны беларусаў, былі прыняты Закон аб мовах, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і іншыя, змянілася цяпер вялікім спадам, цяжкім сумам і едкай гаркотай: пачаўся шалёны напад на родную мову, на свабоду слова, старажытныя беларускія сімвалы, адчуваецца непаважлівасць да культуры, навукі, інтэлігенцыі, ідзе паступовая здача незалежнасці — спачатку эканамічнай, а затым і палітычнай. Таму я з асаблівай прыемнасцю і любасцю бачу столькі прыхільнікаў беларускасці. Тут і беларусы з метраполіі, і беларусы з далёкага і бліжняга замежжа, і небеларусы па нацыянальнасці, але ўсіх аб’ядноўвае любоў да Беларусі — гэта сапраўдныя спрыяльнікі і рупліў-

[1] Выступленне на Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў у маі 1995 г.

цы беларушчыны. Вялікае дзякуй усім тым, хто сабраўся тут, шчырая падзяка вам, хто нёс і нясе ў сваім сэрцы Беларусь!

Чалавек — часцінка прыроды, таму яго гісторыю, яго дзеянні цікава разгледзець на фоне гісторыі зямлі, на якой ён жыве, паглядзець, якія сувязі паміж імі, як глыбока ўваходзяць іх карані. Калі мы зробім такі экскурс у некалькімільярдную геалагічную гісторыю Зямлі, то ўбачым, што Еўропа падзяляецца на дзве часткі: усходнюю — больш старажытную (прыблізна 1,5–2-мільярдную) — Усходне-Еўрапейскі кратон (ад грэч. крэпасць) — і заходнюю, значна больш маладую, Заходне-Еўрапейскую платформу. Мяжа між імі праходзіць па магутнай транс'еўрапейскай зоне разломаў, якая ідзе праз востраў Барнхольм на Балтыцы, крыху на захад ад Варшавы і на ўскрай Украінскіх Карпат. Тэрыторыя Беларусі знаходзіцца на заходняй ускраіне Усходне-Еўрапейскага кратона, і праз яе праходзіць галоўная сумерыдыянальная геатэктанічная вось гэтага кратона. Яна ўяўляе сабой паласу найбольш высокага залягання крышталічных парод фундамента, якая аб'ядноўвае іх выхады на зямную паверхню на абшарах Скандынаўскага (Балтыйскага) і Украінскага шчытоў. Гэта паласа прыблізна ідзе ад Фінскага заліва, праз Чудскае возера, Пскоў, к захаду ад Мінска і ўсходу ад Пінска.

Кратон з захаду абмываўся палеаакіянам Япетус, з усходу — Уральскім палеаакіянам. На тэрыторыю Беларусі перыядычна з захаду пранікалі хвалі кароткіх, але больш глыбокіх мораў акіяна Япетус, а з усходу — больш працяглых і шырокіх мораў ад Уральскага акіяна. Час ад часу воды гэтых мораў злучаліся ў бурным віры менавіта на тэрыторыі Беларусі. Усё гэта адбывалася на фоне перамяшчэння кратона па свеце і яго паваротаў у розныя бакі. З гэтай прычыны 800 млн гадоў таму наш кратон быў у паўднёвым паўшар'і, сучасны Захад быў Усходам, а сучасны Усход — Захадам, а з паўднёвага полюса Зямлі на тэрыторыю Беларусі насунуўся магутны покрыўны ледавік. Толькі каля 400 млн гадоў таму да ўсходняга кратона

Еўропы далучыліся землі Заходняй Еўропы, стварыўшы адзіны мацярык.

У чацвярцёвы (антрапагенавы) перыяд ужо з поўначы на Еўрапейскі мацярык насунуліся новыя пакроўныя ледавікі, на перыферыі якіх жылі маманты і іншыя жывёлы. З'явіўся і чалавек. Цікава адзначыць, што самы малады (13,5 тыс. гадоў таму) мамант знойдзены ў Беларусі. Зараз вучоныя прыйшлі да высновы, што маманты загінулі па простай прычыне — іх з'еў чалавек. Значыць, калі ў Сібіры і ў Заходняй Еўропе чалавек ужо з'еў усіх мамантаў, апошнім мамантаедам быў чалавек на тэрыторыі Беларусі.

Спадчыннасць геалагічнага развіцця адзначанай раней паласы высокага стаяння крышталічных парод прывяла да таго, што менавіта да яе прыстасаваны водападзел Балтыйскага і Чорнага мораў. Таму гандлёвыя шляхі, вельмі важныя для гістарычнага развіцця Усходняй Еўропы, пралягалі праз землі, прыстасаваныя да вызначанай паласы, і перш-наперш праз тэрыторыю этнічнай Беларусі. Гэта — «шлях з вараг у грэкі», Прыпяцка-Бужскі і Заходне-Дзвінскі шляхі.

Магчыма, вялікі закон спадчыннасці, уласцівы і прыродзе і чалавецтву, які, як мы бачылі, дзейнічае на тэрыторыі Беларусі мільён гадоў, і не даў канчаткова разбурыць беларушчыну, на якую ўжо сотні гадоў і з Захаду і з Усходу ідзе навала новаўтварэнняў і якую, на жаль, нярэдка стараюцца ўзарваць і знутры. Калі раней гены беларускасці захоўваліся галоўным чынам простым сялянствам, якое было бліжэй за ўсіх да роднай прыроды, да сваёй зямлі, не хварэла чужой культурай і з'яўлялася базай нацыянальнага адраджэння, то цяпер паланізацыя і русіфікацыя пранікла ў самую глыбіню народную, і сцяг адраджэння амаль поўнасцю перайшоў да нацыянальна свядомай часткі беларускай інтэлігенцыі, што значна павялічвае цяжкасці на шляху адраджэння.

Менавіта па гэтай жа субмерыдыянальнай паласе, аб якой я ўжо гаварыў, прайшла мяжа Заходняй і Усходняй Беларусі,

тут ідзе і «народападзел» паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі», кожныя са сваім менталітэтам. Калі на захадзе адчуваецца моцны польскі ўплыў, а ў рэлігіі — каталіцызм, дык на ўсходзе — «тут русский дух, тут Русью пахнет» і большасць людзей — праваслаўныя. Калі на захадзе больш захавалася беларуская самасвядомасць, імкненне людзей да самастойнай дзяржавы, рынкавых адносін, на ўсходзе манкурцтва дасягнула значна большых памераў, вельмі пашырана настальгія па былым СССР і сацыялістычнай гаспадарцы. Калі на захадзе большасць выбаршчыкаў галасавала за Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча, дык на ўсходзе — за Аляксандра Лукашэнку і Вячаслава Кебіча.

Геаграфічнае становішча Беларусі ў самым цэнтры Еўропы на скрыжаванні палітычных, ваенных, гандлёвых і іншых шляхоў моцна паўплывала на яе гістарычны лёс, на імкненне суседзяў далучыць да сябе гэтую тэрыторыю. Адсюль бясконцыя войны, якія знішчалі вялікую колькасць людзей. Змена межаў, палітычнага стану, дзяржаўнасці моцна ўплывалі на нацыянальныя, канфесійныя і культурныя ўзаемаадносіны, якія рабіліся вельмі складанымі; з мудрагелістым перапляценнем і інтэрферэнцыяй усіх з’яў. Забарона беларускай мовы, моцная паланізацыя і русіфікацыя прывялі да заняпаду ўласна беларускай культуры і таму многія выхадцы з Беларусі сталі выдатнымі дзеячамі культуры суседніх ці іншых народаў. Дастаткова ўспомніць Адама Міцкевіча і Фёдара Дастаеўскага, Станіслава Манюшку і Міхаіла Глінку, Ігната Дамейку і Мікалая Пржавальскага і інш. Культурная спадчына многіх сыноў Беларусі не лічыцца беларускай. Але элементы беларушчыны ў большасці з іх прысутнічаюць, і гэта вельмі важны напрамак даследчай працы. Многія з’явы культуры можна лічыць супольнымі здабыткамі народаў-суседзяў.

У маі 1995 г. мы адзначалі 150-годдзе з дня нараджэння ўраджэнца в. Свольня Дрысенскага павета (зараз Верхнядзвінскі р-н) Віцебскай губерні, выдатнага рускага натураліста

і падарожніка Івана Чэрскага, які заўсёды пісаў пра сябе, што ён — сын ліцвіна. Атрымаўшы прапольскае выхаванне, быў сасланы ў Сібір за ўдзел у паўстанні К. Каліноўскага. Сібір стала для яго другой радзімай, вывучэнню якой ён прысвяціў усё свае жыццё.

Цяжкая гісторыя Беларусі садзейнічала шматлікай эміграцыі беларусаў як на Захад, так і на Усход. Узнятыя на кангрэсе праблемы немагчыма разглядаць без укладу беларускай дыяспары ў культуру, навуку і іншыя напрамкі дзейнасці Беларусі і іншых краін. Агульнабеларуская культура — гэта сінтэз культур беларусаў свету: метраполіі, дыяспары і ўсіх беларусістаў.

Вельмі важнае пытанне — працяг дыялогу па вяртанні культуры і гістарычных каштоўнасцей Беларусі як з заходніх, так і з усходніх краін.

У геалогіі існуюць два вельмі эфектыўныя метады даследаванняў — параўнальна-геалагічны і картаграфічны, якія, на маю думку, могуць прынесці вялікія здабыткі ў тых праблемах, якія мы зараз з вамі разглядаем. Падобнае да беларускага становішча з мовай, самасвядомасцю этнасу, вызваленчых і адраджэнцкіх рухаў мелі і маюць многія іншыя нацыі (славакі, чэхі, македонцы і інш.). Вывучэнне такіх феноменаў, узаемнае параўнанне іх стану і развіцця дапаможа лепш зразумець гістарычную і сучасную сітуацыю, а таксама прадбачыць магчымыя шляхі далейшых напрамкаў, змяненняў і неабходных дзеянняў.

Картаграфія — найбольш сціслы і аб'ектыўны графічны паказ сінтэзу тых ці іншых ведаў. Таму картаграфаванне разнастайных паказчыкаў і элементаў культуры, мовы, фальклору, гісторыі, этнасу — надзвычайна эфектыўны метад даследаванняў, які трэба больш шырока ўжываць. Безумоўна, тут патрэбны вельмі вялікі банк даных, які немагчыма стварыць без сучаснай камп'ютарнай тэхнікі. Прыкладам такой цікавай працы з'яўляецца «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», які зараз асобнымі тамамі выходзіць з друку.

На заканчэнне я хацеў бы звярнуць увагу на экалагічны стан — стан дому нашага, які мае два аспекты — глабальны і рэгіянальны (тэрытарыяльны). На жаль, абодва выклікаюць вельмі вялікую трывогу. На Беларусь з захаду ідуць кіслотныя дажджы, з усходу насоўваецца велізарная азонавая дзірка, якая навісла над большай часткай Расіі. Крызісны стан гаспадаркі, нізкая агульная культура, варварска-спажывецкі падыход да прыроды не садзейнічаюць паляпшэнню экалагічнай сітуацыі і ў самой краіне. Да таго ж дабаўляецца чарнобыльская навала. Небяспечнасць экалагічнай катастрофы ў тым, што яна прыходзіць паступова, непрыкметна, чалавек не заўважае яе падыходу і раптоўна аказваецца перад жудаснай безданню. Калі гэта здарыцца, чалавецтва будзе мець толькі адну галоўную праблему: як выжыць. Але будзе ўжо позна…

Пакуль агонь беларускай нацыянальнай ідэі будзе гарэць у сэрцах беларусаў, пакуль наш розум будзе імкнуцца здзейсніць мару пра дзяржаўнасць Беларусі, пакуль будзем любіць і шанаваць нашу Бацькаўшчыну, пакуль не пакінем матчыну мову, не здрадзім ёй, не адарвёмся, як той Антэй, ад роднай зямелькі нашай, датуль Беларусь будзе непераможнай, датуль будзе жыць беларускі народ. Жыве Беларусь!

*1995*

## Вялікі беларус[1]

Пакінуў нас яшчэ адзін Вялікі Беларус — не стала Максіма Танка. Сціскаецца сэрца, сум ахоплівае душу, калі падумаеш, што больш ужо ніколі не ўбачыш гэтага прыгожага чалавека, не пачуеш яго ўзнёслага слова, не пасмяешся з яго раптоўнага жарту, не падзівішся такім трапным вершаваным імправізацыям, не адчуеш цудоўнай чалавечай цеплыні і добразычлівасці, якія шырокім біяполем заўсёды ішлі ад яго магутнай поста-

[1] Наша слова. — 1995. — 16–23 жніўня.

ці. Смуткуе кожны сумленны беларус, плача ўся краіна, бо смерць Максіма Танка — нацыянальная жалоба. Сапраўдны нацыянальны беларускі паэт, гонар не толькі былой савецкай, але і сусветнай літаратуры, ён увабраў у сябе ўсе подыхі зямлі беларускай, увесь свет бліскавіц, блакіт неба і азёр нарачанскіх. Ён ніколі не здрадзіў Беларусі, яе народу, найбольш міламу яго сэрцу нарачанскаму краю, сваёй роднай Пількаўшчыне, з якой зусім нядаўна прыязджаў развітвацца і дзе завяшчаў пахаваць сябе, каб навечна зліцца з гэтай святой зямелькай і спачыць побач з магілай матулі.

Паэт вялікай філасофскай думкі, Максім Танк не раз звяртаўся да роздуму пра адвечныя агульначалавечыя праблемы. Адначасова з-пад яго пяра выходзілі пяшчотныя лірычныя вершы. Разнастайнасць тэматыкі яго твораў здзіўляе — усё, што тычылася чалавецтва, асабліва яго Бацькаўшчыны, цікавіла паэта. Дабро і зло, любоў і нянавісць, мір і вайна, чалавек і прырода, зямля і космас, мінулае, сучаснае і будучае — усё знайшло месца ў творах паэта.

Максім Танк як выдатны майстар прыгожага пісьменства і чалавек энцыклапедычных ведаў быў абраны правадзейным членам Акадэміі навук Беларусі, у якой ён прабыў больш за 20 гадоў. Ён не часта выступаў на агульных сходах акадэміі, але адна яго прысутнасць рабіла гэтыя сходы больш урачыстымі, больш паспяховымі.

Многа цяжкасцей перанёс паэт у сваім жыцці: нялёгкае сялянскае дзяцінства, падпольная дзейнасць, Лукішская турма, ваеннае ліхалецце, смерць родных і блізкіх… Але аптымізм не пакідаў яго, і ён верыў у лепшае жыццё народа і краіны і як мог змагаўся за гэта.

Хаця і быў пісьменнік абласканы савецкай уладай, атрымаўшы многія ўзнагароды, прэміі, пасады, што, безумоўна, радавала і падтрымлівала сілы, але ён бачыў недахопы тых часоў і вельмі перажываў за бясконцыя хібы таталітарызму. Асабліва балела сэрца за стан мовы, культуры, беларускасці.

Горка перажываў заняпад гаспадаркі, вёскі, адчуваў у гэтым агульную нашу віну, у тым ліку і сваю асабістую:

Апусцелі хаты
І ў маёй Пількаўшчыне.
На ўсю вёску —
адна калыска,
Якую калыша
Транзістарная калыханка.

* * *

Ды і я тут — не без віны.
Калісьці першы
Падаўся быў у свет
За зманлівай славай.

Ён ніколі не жаліўся на здароўе, але вялікія сінякі і прыпухласці пад вачыма выдавалі хваробу. Жывучы ў адным доме, я часта бачыў Максіма Танка, які нетаропка ішоў у магазін ці проста на прагулку. Яго стомленая, але яшчэ стромкая і магутная фігура звяртала на сябе ўвагу. Ён ішоў задумлівы, мудры, і здавалася, што вось зараз у яго думках нараджаецца новы вобраз, новы верш.

Вельмі сумленны і добразычлівы, Максім Танк абуджаў у людзей надзвычайны давер. Так, Паўліна Мядзёлка напрыканцы свайго жыцця, пакідаючы Мінск, аддала два сшыткі сваіх успамінаў маёй маці — Ларысе Гарэцкай з наказам перадаць іх праз 25 гадоў пасля яе смерці менавіта Максіму Танку, бо верыла, што ён лепш за ўсіх ведае, як з імі трэба будзе абысціся. Прайшло 20 гадоў, і маці зразумела, што ёй ужо пара паклапаціцца пра сшыткі. Яна напісала і пазваніла Яўгену Іванавічу. Ён зайшоў да нас. Мы доўга размаўлялі, старэйшыя ўспаміналі мінулае. Паэт пакінуў кнігу «Лірыка» з надпісам: «Глыбокапаважанай Ларысе Іосіфаўне Гарэцкай. Ад усяго сэрца. Мінск, 17.03.1990». Праз тры гады ўспаміны П. Мядзёлкі

«Сцежкамі жыцця» былі надрукаваны ў часопісе «Полымя» з вельмі добрым змястоўным уступам Уладзіміра Калесніка.

Максім Танк любіў вандраваць і быў вельмі лёгкі на пад'ём. Аднойчы пазваніў мне Ніл Гілевіч і запрасіў прыняць удзел у паездцы, якую ён і В. А. Лашковіч арганізавалі на керамічную фабрыку ў Радашковічы. Сабралася нас чалавек сем. Вельмі хацелі запрасіць Максіма Танка, але сумняваліся, ці паедзе — слаба сябе адчувае і жонка хворая. Пазванілі — і ён адразу згадзіўся. Сустракаліся з працаўнікамі фабрыкі, жыхарамі пасёлка, аглядалі фабрычны музей керамікі. Адбылася вельмі добрая сардэчная сустрэча. Як пажартаваў Яўген Іванавіч: «Вось і аднавілі дні навукі і культуры». Дарэчы, тады прагучала з вуснаў Максіма Танка яго «Балада пра гліну»:

Якая дзіўная
На нашай Мядзельшчыне
Гліна!
Ганчары з яе калісьці
Такія цуды выраблялі,
Што нават
Ад купцоў замежных
Не было адбою.

* * *

А зрабіў свісцёлку —
Сама грае,
Змудрагеліў пеўніка —
Ён кукарэканнем сваім
І мёртвага разбудзіць.
Таму не верце,
Што там з нейкай
Месапатамскай гліны
Усёмагутны
Вылепіў Адама.
Ён вылепіў яго,

Калі разводдзем веснім,
Гразнучы
Аж па калені,
Ішоў з сяўнёй
Па Мядзельшчыне нашай.

На 80-годдзе ўвесь дзень цягнуліся да Максіма Танка ў хату невялічкімі групамі людзі, каб пабачыць, пагаварыць, павіншаваць і пажадаць усяго добрага. Ён быў вясёлы, трошку адпіваў з чаркі. Аптымізм не пакідаў яго, але сум быў у вачах: разумеў, што не так многа засталося ў яго дзён, ды і тых з хваробай, хваляваўся за будучыню Беларусі. Побач былі дзеці, была верная сяброўка і жонка Любоў Андрэеўна, таксама вельмі слабая. Потым не стала і Любові Андрэеўны…

У апошні час Вялікі Беларус асабліва трывожыўся за лёс Бацькаўшчыны ў сувязі з тымі падзеямі, якія прывялі да рэферэндуму і іншых з'яў антыбеларушчыны ў грамадскім жыцці. Ён марыў пра незалежную дзяржаву — Беларусь, пра заможнае шчаслівае жыццё роднага народа. Больш страшнага, больш жудаснага для яго нічога не было, як страта Беларусі:

Пасля бясконцых
Несправядлівых
І справядлівых войн,
Пасля пякельных
Курапат,
Хатыняў,
Трасцянцоў,
Апакаліптычнай
Чарнобыльскай гекабомбы
Часамі баюся ў рукі браць
І геаграфічны атлас,
Каб не ўбачыць
На зямной паверхні
Замест святых імён
Рэк,

Ніў,
Лясоў і сёл
Маёй радзімы
Кароткі надпіс
«Калісьці
Тут Беларусь была».

Вершы і думкі паэта, яго запаветы і мары застануцца навечна з Беларуссю, бо гэта яго любы край, «дзе нават і памёршыя жывуць»:

Ты знаеш край, зачараваны
край,
Дзе ў салаўіных песнях — кожны
гай;
Дзе вабіць сэрца неабсяжнасць
ніў,
Дзе ззяе хваль азёрных пераліў;
Дзе зоры над курганамі мігцяць,
Дзе ўдалячынь вядуць шляхі
жыцця;
Дзе кожнай хаце ты — жаданы,
свой,
Дзе некалі мы стрэліся з табой;
Дзе вечна птушкі свае гнёзды
ўюць,
Дзе нават і памёршыя жывуць.

*1996*

# З думкаю пра народ[1]

У гэтыя дні грамадскасць Рэспублікі Беларусь шырока і натхнёна адзначае 75-годдзе з дня нараджэння выдатнага творцы, класіка нацыянальнай літаратуры, народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата шматлікіх высокіх дзяржаўных прэмій Івана Паўлавіча Мележа. Значэнне яго творчасці ў духоўным жыцці беларускага народа надзвычай вялікае.

Творчасць Івана Мележа — гэта праўдзівая эпапея глыбокага самапазнання душы беларускага народа на пераломных гістарычных рубяжах суровага і трагічнага XX ст. Пісьменнік услед за сваімі нацыянальна велічнымі папярэднікамі Якубам Коласам і Кузьмой Чорным паказаў маральна-псіхалагічныя асаблівасці і духоўныя магчымасці беларуса з такой творчай сілай і воляй, а таксама мастацкім майстэрствам, асабліва ў трылогіі «Палеская хроніка», што ў люстэрку яго творчасці, як і ў люстэрку папярэдняй нацыянальнай класікі, зноў пацвердзілася права беларуса быць «чалавекам чалавецтва», пацвердзілася апраўданасць імкнення беларускага народа на самастойную прастору ў сістэме сужыцця народаў свету для гістарычнага развіцця і гістарычнай творчасці. Нездарма адна з рэцэнзій на раман «Людзі на балоце» (крытык Янка Казека) называлася «Дарога на зямлі». Гэта значыць, «дарога на зямлі» беларуса, яго планетарны лёс.

Любоў Івана Мележа да Бацькаўшчыны была бязмежнай, балючай і светлай. Сапраўдны сын Палесся, Іван Мележ так пранікнёна і глыбока апісаў сваіх землякоў, што яны высвеціліся як агульначалавечыя тыпы і сталі блізкімі мільёнам чытачоў многіх краін свету. Як пісаў Пімен Панчанка ў прысвечаным Мележу вершы «Зямля бацькоў»:

Зямля бацькоўская, святая.
Так, гэта мы. Увесь народ…

---

[1] Выступленне на Рэспубліканскіх Мележаўскіх чытаннях 7 лютага 1996 г.

Мне ў сэрца бусел залятае
З трывожных прыпяцкіх балот.

У Івана Мележа быў талстоўскі і шолахаўскі размах творчасці і іх глыбіня і тонкасць светаадчування. Ён любіў Льва Талстога і Міхаіла Шолахава. «Ціхі Дон» ён называў «глыбай», а самога Шолахава «стэпам», нечым невымерным і неабсяжным. І ўсё ж ён сам не збаяўся стаць на край гэтага «стэпу» і пайсці па ім, дасягнуўшы многіх далёкіх творчых далячынь.

Ён не быў пісьменнікам-адзіночкам, хоць падкрэсліваў, што па характары працы пісьменнік-адзіночка. Аднак жа пад пільнай яго ўвагай знаходзіўся ўвесь нацыянальны літаратурны працэс, у ход якога ён часта разумна і мужна ўмешваўся, пра што бліскуча сведчыць яго кніга «Жыццёвыя клопаты».

Нельга не сказаць са скрухай, што юбілейнае свята азмрочваецца тым сумным фактам, што на гэтым свеце няма самога Івана Паўлавіча. Ён мог бы яшчэ жыць ды жыць. Усяго 75 гадоў! Дарэчы, на гэты год выпадае і сумная дата, звязаная з імем Івана Паўлавіча, — 9 жніўня спаўняецца роўна 20 гадоў, як яго не стала.

За такі працяглы перыяд шмат што змянілася ў абліччы яго любімай Беларусі. Мы не можам ведаць, як бы ён прыняў усе тыя сацыяльна-палітычныя перамены, якія валам абрынуліся на ўсіх нас. Але адно можна сказаць беспамылкова: ён з энтузіязмам адобрыў бы суверэннае становішча Беларусі, быў бы гарачым прыхільнікам яе дзяржаўнай самастойнасці, стаў бы барацьбітом за вольнае дзяржаўнае развіццё нацыянальнай культуры і мовы. Такая пазіцыя вынікае з жыватворнага духу ўсёй яго творчасці. Пішучы пра мінулае роднага народа, ён прадчуваў яго будучыню. Гэты канцэптуальны момант творчасці пісьменніка вельмі вобразна, але і надзвычай дакладна выказаў Алесь Адамовіч, назваўшы адзін з артыкулаў пра «Палескую хроніку» «Вяртанне наперад».

Пасля смерці Якуба Коласа Іван Мележ пісаў: *«Не, не глухі посвіст ветру апяваў паэта, калі яго праводзілі ў апошні шлях. Гэта была вялікая горкая страта, яна адгукнулася смуткам у многіх сэрцах, для якіх дарагая наша літаратура, наша вялікая справа…»* Тое ж самае можна сказаць з усімі падставамі пра адыход з жыцця самога Івана Паўлавіча.

Ён заўсёды жыў «з думкаю пра народ». Так называецца адзін з яго артыкулаў. Ён пакінуў запавет усім нам «жыць змястоўна, паўнацэнна». І сёння Іван Мележ з намі, з намі ў цяжкім духоўным будаўніцтве новай Беларусі.

*1996*

## Апантаны слуга Кліо

Мікалая Мікалаевіча Улашчыка я ўпершыню ўбачыў у 60-я гады, калі ён прыязджаў у пас. Дзедаўск (пад Масквой) да майго бацькі — Гаўрылы Гарэцкага, які ў той час працаваў там галоўным кансультантам па геалогіі «Гідрапраекта». У дні сустрэч бацька і Мікалай Мікалаевіч ішлі ў лес пагуляць ці пасядзець на лавачцы ў невялічкі наш сад, які быў на ўскраіне пасёлка. Нярэдка і я далучаўся да іх. М. М. Улашчык быў вышэй сярэдняга росту, вельмі жвавы і рухавы, нягледзячы на даволі буйную фігуру. Скрозь акуляры іскрыліся чорныя вочы, якія вылучалі энергію, узнёсласць і розум. Апошняе выразна падкрэсліваў высокі гладкі лоб. Гаварыў характэрным голасам, хутка, крыху захліпаючыся.

Арыштаваны, як і мой бацька, у 1930 г. яшчэ зусім маладым чалавекам, нядаўна скончыўшым БДУ, М. М. Улашчык прайшоў поўную «школу» ГУЛАГа і быў рэабілітаваны толькі пасля смерці Сталіна ў «хрушчоўскую адлігу». Толькі цяпер ён змог поўнасцю аддаць усе свае сілы на вывучэнне любімай ім навукі — гісторыі.

Мяне ўразіла, што абодва былыя ахвяры бальшавіцкага рэжыму, якія амаль чвэрць веку пражылі пад дамоклавым

мячом «ворагаў народа», так аптымістычна глядзяць на жыццё, прыгожа і чыста гавораць на цудоўнай беларускай мове, з такой любоўю думаюць пра Бацькаўшчыну і маюць самую вялікую мару — вярнуцца на радзіму, каб працаваць дзеля яе росквіту. Ад іх я тады пачуў многа слоў праўды. Але ў той час гэтыя словы гаварыліся яшчэ ціхім прыглушаным голасам, каб не даляцелі да чужых вушэй… Асабіста для мяне Мікалай Мікалаевіч — гэта той чалавек, які адзін з першых адкрыў некаторыя праўдзівыя звесткі пра гісторыю Беларусі, дапамог мне, з маленства адарванаму ад бацькаўшчыны, зрабіць яшчэ адзін крок наперад па маім далёкім і доўгім шляху да Беларусі.

М. М. Улашчык за адносна невялікі час, які быў адпушчаны яму лёсам, стаў адным з буйнейшых гісторыкаў краіны. Хаця жыў і працаваў ён у Маскве, галоўныя намаганні яго светлай думкі, нястомнага пошуку і творчага плёну прысвяціў гісторыі роднай Беларусі. Тое, што ён паспеў зрабіць для гісторыі нашай краіны, для адкрыцця многіх гістарычных яе старонак, першакрыніц ведаў, — сапраўдны подзвіг. Асабліва ўражваюць яго працы па археаграфіі: ён складальнік і рэдактар 32 і 35-га тамоў «Полного собрания русских летописей», у якія ўвайшлі «Хроніка Быхаўца», «Хронікі літоўскія і жамойцкія», летапісы Баркулабаўская, беларуска-літоўскія і інш. Многія з іх ён не толькі падрыхтаваў для выдання, але знайшоў і апісаў. Глыбінёй раскрыцця тэматыкі здзіўляе яго гістарычна-этнаграфічны нарыс «Вёска Віцькаўшчына» — сапраўдная энцыклапедыя жыцця сваёй роднай вёскі.

М. М. Улашчык — нястомны руплівец на ніве беларускай гісторыі, этнаграфіі, краязнаўства — да канца жыцця марыў вярнуцца на Беларусь. Ён часта, калі прыязджаў у Мінск да сваіх родных сясцёр, па справах працы, для выступленняў з лекцыямі, заходзіў да бацькі. З кожным разам усё больш сум я бачыў у яго выразных вачах ад таго, што пераезд адцягваецца…

Яшчэ ў 1973 г. акадэмікі АН БССР П. У. Броўка і Г. І. Гарэцкі напісалі ліст на імя прэзідэнта Акадэміі навук БССР з прось-

бай вылучыць доктара гістарычных навук М. М. Улашчыка ў члены-карэспандэнты АН БССР. Яны пісалі: *«М. М. Улашчык з'яўляецца выдатным савецкім гісторыкам, даследаванні якога прысвечаны пераважна гісторыі Беларусі і Літвы XVI–XIX стагоддзяў. ...Вельмі вялікія дасягненні мае М. М. Улашчык у галіне вывучэння археаграфіі і гістарычных першакрыніц. Выключнае значэнне набыла манаграфія М. М. Улашчыка «Очерки по археографии и источниковедению истории Белорусии феодального периода», якая найбольш поўна асвятляе як гісторыю развіцця гістарычнай навукі, так і гісторыю культуры Беларусі. Шмат зрабіў М. М. Улашчык у адшуканні, даследаванні і выдрукаванні беларускіх летапісаў — яго навуковая заслуга ў гэтай справе непараўнальная...»*

На жаль, яго мара па розных прычынах так і не здзейснілася… У. Арлоў, які наведаў у Маскве ўжо безнадзейна хворага Мікалая Мікалаевіча, успамінае: *«Ён ведаў, што ў яго застаюцца ўжо нават не тыдні, а дні жыцця, і не хацеў губляць ні хвіліны часу. Яму было цяжка гаварыць, але ў той кароткі мой візіт ён паспеў падрыхтаваць мне ліст у Браслаў; за некалькі тыдняў да хваробы Мікалай Мікалаевіч знайшоў у Яраслаўлі павятовы браслаўскі архіў, вывезены ў глыбіню Расіі ў гады Першай сусветнай вайны. Улашчык быў гісторыкам да канца».*

Ну, а мне на светлую памяць пра Мікалая Мікалаевіча — апантанага гісторыка і пра майго бацьку засталіся дзве вялікія кнігі «Полное собрание Русских летописей» з аўтографамі М. М. Улашчыка: «Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму з глыбокай пашанай. 6.IV.75» і «Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму — чалавеку і вучонаму. Помнік нашай культуры. 13.VII.80».

*1996, ліпень*

## Гены спадчыны

На дачы разбіраў лісты бацькоў. Яшчэ раз здзівілі гены, якія прырода выпрацавала за многія стагоддзі: гляджу на некаторыя татавы лісты і нават сам адразу не магу адрозніць, хто пісаў — ці тата, ці я. І Дзімка — мой унук таксама заўважыў вялікае падабенства почыркаў.

Успомніў, як многа гадоў таму — мусіць, у сярэдзіне 50-х, я часта працаваў у бібліятэцы Аддзялення геалогіі АН СССР на Стараманетным завулку ў Маскве. Аднойчы падыходзіць да мяне незнаёмы мужчына і пытаецца:

— Вы Гарэцкі?

— Так.

— А я даўно прыглядаюся да вас і бачу, што сядзіць малады Гурык.

Аказалася, што гэта быў Сяргей Ждановіч — даўні сябра маіх бацькоў, які таксама, як і тата, быў асуджаны па справе Працоўнай сялянскай партыі ў 1930 г. і высланы з Беларусі. З таго часу яны не бачыліся і не ведалі нічога адзін пра аднаго. Праз мяне яны зноў пачалі перапісвацца і сустракацца.

Гены ў спадчыну перадаюць не толькі аблічча, характар, звычкі некаторыя, але нават і почырк.

*1996*

## «Одобрям-с» і абяцанкі

На першым сходзе «Белорусского профессорского собрания» не прагучала ніводнага слова па-беларуску. Сход прайшоў у старым стылі савецкай рэчаіснасці: «Одобрям-с». Такое ўражанне, што як быццам гэта зусім не 1996 год, — «машына часу» адкінула нас на гадоў 20 назад, зноў у самае «лепшае» грамадства — «развіты сацыялізм». Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прапанаваў беларускім прафесарам «заключить сделку»: «Я вам дам льготы, которые вы просите (повысить зарплату,

дать пенсию на том уровне, как ее получают полковники и т. д.), а вы правильно проголосуйте на референдуме». Цікава, ці многія прафесары клюнуць на гэтую прыманку?

*1996*

## Віхар спраў адхіляе ад суму

Яшчэ краваточыць глыбокая рана, якую сэрца атрымала ад раптоўнай смерці аднаго з маіх лепшых вучняў і адданага сябра Уладзіміра Кажэнава (25 красавіка 1996 г.), як лёс нанёс новы нечаканы ўдар: а 7-й гадзіне раніцы пазваніў мой калега па працы Раман Айзберг: «Ноччу памёр Эрык…» Э. А. Ляўкоў — адзін з таленавіцейшых геолагаў Беларусі, рознабаковых зацікаўленасцяў чалавек, сапраўдны інтэлігент. Вялікая страта! Нічога не хацелася рабіць, куды-небудзь ехаць — абыякавасць ахапіла ўсяго, легчы б і сумаваць, ды і ў самога нешта сэрца забалела. Але трэба! Мо ўнутраны прымус, абавязак перад грамадствам і ратуе нас. І пачаўся сапраўдны «жыццёвы меланж»: абмеркаванне колькасці месц і кандыдатур на будучыя выбары членаў АН Беларусі; клопат пра месца на могілках для Э. Ляўкова — Чыжоўка (там маці яго пахавана) ці Паўночныя; святкаванне 50-годдзя маёй памочніцы Ларысы Аляксандраўны Лецка; вучоны савет геафака БДУ; адкрыццё міжнароднага форуму «Улада і свабода слова» і г. д. Прымус, а затым жыццёвы меланж закручвае ў віхуры спраў, прымушае з нечым змагацца, адхіляе ад суму і гора, троху забыцца пра іх, — і зноў рухаешся, не паспяваючы адлічваць, як бяжыць такі шыбкі час…

*1996*

# Свабода слова[1]

Слова можа быць самым розным. Але свабоднае слова — гэта слова сумлення, шчырасці, боскасці. Яно ідзе ад сэрца, ад чыстай душы. Асаблівую крыштальнасць і яскравасць такое слова атрымлівае тады, калі яно гаворыцца ці пішацца на роднай матчынай мове, якая, як кожная клетачка чалавечага цела, магутнымі генамі перадалася ад маці, ад роднай зямелькі, ад кута роднага, ад народа і Бацькаўшчыны.

Хлуслівае слова, слова дэмагогіі і хітрасці, здрады і зайздрасці, подласці не належыць да слова свабоды, бо яно ўжо нясе ў сабе гэтыя адмоўныя якасці няволі — прымусу вонкавага і ўнутранага, уціску сатанінскіх пачуццяў.

Свабоднае слова не можа ісці ад чалавека несвабоднага, баязлівага, няшчырага, з рабскім пачуццём у сэрцы. Яго вымаўляе толькі той чалавек, які заўсёды застаецца самім сабою, які стараецца не здавацца, а быць. А як гэта не проста ажыццявіць у наш час і час нядаўняга мінулага!

Сапраўдная дэмакратыя можа быць толькі пры свабодзе слова. Дыктатарскае слова таталітарызму — слова прымусу, дэмагогіі і хлусні. Яскравым паказчыкам дэмакратыі можа служыць ступень свабоды сродкаў масавай інфармацыі — чым яна большая, тым больш і дэмакратычных свабод у краіне.

Амаль кожная ўлада не можа заўсёды гаварыць шчырае свабоднае слова і таму не надта любіць свабоду слова. Асабліва яно ненавісна камандна-адміністрацыйным, таталітарным, дыктатарскім сістэмам. Пасля многіх дзесяцігоддзяў хлуслівых слоў бальшавіцкай улады мы нарэшце з вялікай радасцю пачулі словы праўды, якія так дапамагалі нам, наскрозь прасякнутым рабскім станам, выціскаць з сябе па кроплі гэтае зневажаючае нас, але такое прывычнае пачуццё. На жаль, мы не паспелі дастаткова поўна гэта зрабіць.

---

[1] Выступленне на міжнародным форуме «Улада і свабода слова» ў верасні 1996 г.

Нас зноў пагналі на рэферэндум, які забараніў нашы гістарычныя сімвалы і загнаў родную мову ў цесны кут, а цяпер заве на новы рэферэндум, які адкрывае вароты для поўнай дыктатуры. Тады мы таксама чулі крыклівыя словы пра «царскую» ўладу, які даваў першы рэферэндум. Няўжо мала царскай? Якую ж патрэбна? Няўжо мы забыліся, што іменна шляхам рэферэндумаў у нашым стагоддзі прыйшла да поўнай улады адна з найбольш крывавых дыктатур Еўропы, якая нарабіла столькі бед і гора ўсяму свету?! Ды і другая, не менш крывавая дыктатура, якая прыйшла да ўлады шляхам рэвалюцыі, потым не адзін раз карысталася для апраўдання сваіх жудасных дзеянняў «усенароднай» згодай вялікай краіны.

Наша інтэлігенцыя, якая, па сутнасці, заўсёды была разнастайнай, пад націскам бальшавіцкай улады зрабілася афіцыйна аднадушнай. Цяпер яна прыкметна разблакіравана. На жаль, значна меншая яе частка застаецца нацыянальна свядомай, вернай ідэям беларускага адраджэння. Яе свабоднае слова слаба даходзіць да народа. Яно мала гучыць па радыё і тэлебачанні, бо ўладамі туды амаль не дапушчаецца. Газеты з такім шчырым словам уціскаюцца, а многія беларускамоўныя да таго ж і вельмі малатыражныя (адвучылі людзей ад роднай мовы).

Затое значна больш інтэлігенцыі з блокаў напужаных маўчальнікаў ці прыстасаванцаў-флюгераў, гатовых служыць любой уладзе, якая цяпер модная. Тут ёсць розныя групы: адных улады прыгрэлі, даўшы добрае месца; другіх адарылі прэміямі ці званнямі; трэціх абяцалі не чапаць і фінансаваць, калі будуць паслухмянымі, і г. д. І глядзіш, змяніўся чалавек: гаварыў словы свабодныя, а зараз — толькі тыя, якія патрэбны, і нават мовай роднай ужо не карыстаецца, каб падабацца ўладам (а то яшчэ палічаць нацыяналістам).

Сярод такой інтэлігенцыі заўсёды многа было людзей з «дзвюма душамі», а зараз развялася значная колькасць і «многадушных». Адзін на адзін ён гаворыць з табой адно, на калідоры, гледзячы з якой кампаніяй, — другое ці трэцяе, афіцыйна — ужо пускае ў эфір новае хлуслівае слова, толькі каб падабалася

наверсе. Сёння ён складае добрыя словы ў адну Канстытуцыю, заўтра — ужо падбірае патрэбныя для гаспадара словы — пад другую. Любімае слова такога чалавека: «одобрям-с». Прыкладам такога слова інтэлігенцыі можа быць «первая конференция Белорусского профессорского собрания», на якой не прагучала ніводнага беларускага слова (калі не лічыць некалькіх слоў, якімі ўжо па звычцы перадражніў дэмакратаў ініцыятар рэферэндуму), а галоўны матыў выступаючых: «одобрям-с».

А ёсць яшчэ навуковыя словы розуму, да якіх трэба тэрмінова прыслухацца ўсім людзям на зямлі, і перш-наперш уладам усіх краін свету. Навукоўцы прыйшлі да пераканання, што калі чалавецтва будзе жыць так, як яно жыве сёння, дык чалавечая цывілізацыя не перажыве і некалькіх пакаленняў. Справа ў тым, што страшэнная дэградацыя навакольнага асяроддзя (ужо на мяжы экалагічнай катастрофы), выбухападобны ўзрост колькасці насельніцтва на планеце, хутка ўзрастаючае сацыяльнае расслаенне насельніцтва свету і іншыя негатыўныя працэсы прывялі чалавецтва на парог крытычнага перыяду ў гісторыі цывілізацыі — на парог агульнай катастрофы. Павінна адбыцца кардынальная змена сучаснай парадыгмы развіцця чалавецтва, патрэбна новая канцэпцыя ўстойлівага развіцця, якая забяспечыць жыццёвыя патрабаванні сучаснай супольнасці людзей і не будзе перашкаджаць такой жа магчымасці для будучых пакаленняў! Усё гэта магчыма толькі пры свабодзе слова ва ўсіх краінах свету. Жыве свабоднае слова, якім будуць карыстацца і ўлады і ўвесь народ! Няхай жыве і пашыраецца свабоднае слова і ў Беларусі!

*1996*

## Губляю вучняў і сяброў

Як кажуць, «Бог любіць тройцу»: у мінулым годзе памерлі У. Кажэнаў і Э. Ляўкоў, а ўжо 29 студзеня 1997 г. зноў непапраўная страта блізкага вучня і сябра — ад інсульту раптоўна памёр Косця Манкевіч, якога пахавалі на яго радзіме — у вёсцы Ціханава Слабада. Успомнілася, як мы разам з бацькам любілі сюды прыязджаць па грыбы, і кожны раз сустрэча з гэтымі цудоўнымі мясцінамі прыносіла вялікую радасць, а спатканне і размовы з добрымі і сардэчнымі бацькамі Косці, з тутэйшымі вяскоўцамі, якія размаўлялі на прыгожай беларускай мове, былі такімі прыемнымі. Пра многіх з іх, якім давалі выразныя клічкі, Косця цікава апавядаў. Вось адзін з лепшых дамоў у Ціханавай Слабадзе — тут жыве Амерыканец, які з’ехаў у Амерыку, а потым вярнуўся на бацькаўшчыну. Бліжэй да лесу хата Адзінока, — ён так моцна кахаў адну жанчыну, якая выйшла замуж за іншага і паехала з сям’ёй у Польшчу, што так і застаўся адзін. Тут жыве Воўк — ён разам з сябрам пасвіў авечак, і на іх напаў воўк, якога сябра рукамі задушыў, а наш герой так напужаўся, што ўцёк, а потым бясконца ўсім хваліўся, як ён і яго сябра задушылі воўка. Як тады было радасна спаткацца з добра знаёмай вёскай, так сумна і балюча было прыводзіць сюды нашага дарагога Косцю ў апошні яго шлях на радзіму.

*1997*

## Беларусь —<br>крыніца талентаў для культур іншых краін

У газеце «Рэспубліка» прачытаў, што аўтар (слоў і музыкі) неафіцыйнага гімна Амерыкі «Божа, храні Амерыку» (1939) — Ізя Бейлін з Магілёва. У Амерыцы ён стаў Ірвінгам Берлінам — каралём амерыканскай песні і пражыў 102 гады.

Колькі беларуская зямля нарадзіла выдатных дзеячаў і творцаў не толькі з беларусаў, але і з габрэяў, і іншых нацыянальнасцей!

*1997*

## Добры прымус

24 студзеня 1997 г. у галоўнай зале Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі праходзіла юбілейная сесія, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння былога прэзідэнта Акадэміі навук БССР Васілія Феафілавіча Купрэвіча. Адкрыў сесію намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Русакевіч, з дакладамі выступілі прэзідэнт НАН Беларусі Л. М. Сушчэня і дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі В. І. Парфёнаў. З вялікім здзіўленнем пачуў, што ўсе яны выступаюць на беларускай мове (нават Парфёнаў, ад якога я ніколі не чуў слова па-беларуску). Спытаўся ў галоўнага сакратара, у чым справа. Аказалася, што чамусьці быў такі загад з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Беларус вельмі шкадуе, калі ў гасцях не было прымусу, а карыстацца роднай мовай без прымусу нават вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук не заўсёды здольныя.

*1997*

## У майстэрні Заіра Азгура

У канцы 70-х гг. Заір Азгур вырашыў вылепіць бюсты братоў Гарэцкіх. Спачатку ён вылепіў бюст Гаўрылы Гарэцкага, які неаднойчы выстаўляўся на рэспубліканскіх выставах. Твор палічылі ўдалым, і яго набыў Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

Я разам з бацькам некалькі разоў таксама прыходзіў у майстэрню на вул. Някрасава. Заір Ісакавіч меў выдатную зрокавую памяць. Хаця з Максімам Гарэцкім ён сустракаўся ў канцы 20-х гг., да гэтага часу добра памятаў яго аблічча. Гледзячы на мяне, ён знаходзіў на галаве нейкія асобныя контуры, дэталі,

якія былі падобныя да ўсплываўшых у яго памяці дзядзькавых: агульны абрыс галавы, часткова лоб, вуха, падбародак і г. д. І Заір Азгур, каб больш наблізіцца да таго вобраза Максіма Гарэцкага, які паступова ўзнікаў у яго творчым уяўленні, папрасіў мяне «вытрымаць» некалькі сеансаў. Ён падкрэсліў: «Чым больш гляджу на вас, тым лепш успамінаю Максіма, і ён паўстае перада мной як жывы — у многіх рысах вашых бачу агульныя рысы роду Гарэцкіх».

У першую палову ліпеня звычайна каля 9 ці 10 гадзін раніцы я прыходзіў да яго ў майстэрню і пазіраваў 2–2,5 гадзіны. Такіх сеансаў адбылося сем. Заір Ісакавіч заўсёды быў ужо ў майстэрні, пераапрануты ў рабочую куртку, паспяваў зняць мокрае пакрывала і адкрыць гліняную мадэль бюста, вакол якога хадзіў і ўважліва прыглядаўся да зробленага ў мінулы дзень і, відаць, у думках намячаў, што трэба зрабіць сёння. Урачыста ўсхваляваны («кожны раз хвалююся, калі пачынаю ляпіць»), але вельмі прыветлівы і радасны, Заір Азгур пачынаў працаваць…

У час сеансу мы ўвесь час размаўлялі па-беларуску на самыя розныя тэмы. Шкадую, што не запісаў адразу многія вельмі цікавыя думкі, якія выказваў Майстар. Усе 2–2,5 гадзіны працаваў без перапынку, але лёгка, павольна, як бы жартуючы. Калі атрымлівалася, пачынаў напяваць якую-небудзь мелодыю: часцей класічнай музыкі, а то беларускую, а зрэдку і габрэйскую песню.

У першы дзень Заір Ісакавіч прызнаўся, што кожны раз, калі ён пачынае ляпіць, яму робіцца троху страшна: а раптам не атрымаецца? А калі не атрымліваецца тое, што хочацца выявіць, пачынаеш нервавацца, хвалявацца, ад чаго яшчэ горш робіцца. Часта сніцца скульптура, нават у сне яе лепіш, а ўсё роўна не тое… І ў страшным страху прачынаешся…

Праз некаторы час да гэтай думкі ён дадаў: «Наогул я па натуры трошку песіміст — вельмі часта сумняваюся. І калі ляплю, дык падбадзёрваю сябе, ганю няўпэўненасць і пра сябе

малюся: «Атрымаецца, атрымаецца…» Глядзіш, і праўда ўжо адчуваю, што атрымліваецца». У час творчасці, натхнення Майстар гаворыць: «Я ляплю чалавека! Я Бог!» І праўда, у яго постаці адчуваецца асаблівая ўпэўненасць, мужнасць, скрозь акуляры бачыцца радасны бляск яго вачэй, твар робіцца светлым, прыгожым, сівыя валасы хвалямі звісаюць на плечы, а тонкія пальцы рук хутка перабіраюць гліну, з якой раптоўна вырысоўваецца найвышэйшае тварэнне прыроды — чалавек. І сапраўды ўяўляеш: перад табою жывы Бог!

Заір Азгур сказаў, што вылепіў ужо каля 1000 скульптур. Кожная з іх — чалавек з рознай натурай, розным характарам, аднолькавых няма. Каля 200 скульптур давялося самому разбіць, бо ў савецкі час, час рэпрэсій многія з іх ператвараліся ў выявы «ворагаў народа» і не маглі існаваць нават у выглядзе бюстаў. Калі прыйшлі ў Мінск фашысты, яны расстралялі таксама прыблізна 200 скульптур, прычым расстрэльвалі, як жывых людзей.

Успамінаючы сваё жыццё, Заір Ісакавіч дадаў: «Нашаму пакаленню многа давялося пераджыць… Былі і голад, і знявага… Я таксама быў і «нацдэмам» і «бязродным касмапалітам». Цярпеў і ад некаторых беларусаў за сваё габрэйскае паходжанне, а я, па сутнасці, больш беларус, чым многія так званыя беларусы, ды і для беларускай культуры зрабіў нямала…»

Перад тым як ляпіць мой бюст, Заір Азгур закончыў працу над бюстам Алеся Адамовіча, які стаяў на самым відным месцы каля працоўнай стойкі скульптара. Я пахваліў бюст, адзначыўшы, што ён нечым нагадвае Вальтэра, што ў ім выразна выступае інтэлект, розум, філасофская думка. Заір Ісакавіч адказаў, што лічыць Адамовіча адным з лепшых празаікаў, а пасля сваіх «Карнікаў» ён узняўся на недасягальную вышыню. Іменна пасля прачытання кнігі ён і запрасіў Адамовіча на сеансы.

Вельмі быў удзячны мне за тое, што я згадзіўся пазіраваць у суботу — выхадны дзень. Растлумачыўшы, што спяшаецца,

бо яшчэ хоча вылепіць не па заказу, а для душы прыблізна 15–16 скульптур, сярод якіх назваў Максіма Гарэцкага, Язэпа Лёсіка, Фрыдрыха Энгельса, Генрыха Гейнэ, Томаса Мана. Адзначыў, што апошні, на яго думку, такі ж вялікі, як Леў Талстой. З жывых адзначыў Івана Чыгрынава, які працягвае ў сваёй творчасці лінію Кузьмы Чорнага і Івана Мележа. Калі я спытаўся пра Васіля Быкава, адказаў: «Творы яго мне вельмі падабаюцца, але як чалавека я яго яшчэ не адчуваю. Мала з ім сустракаўся, таму яшчэ не гатовы. Трэба пачакаць».

Заір Ісакавіч да сваіх твораў адносіўся, як да жывых істот: раніцай заўсёды вітаўся, у час працы з кім-небудзь з іх размаўляў, а зачыняючы майстэрню развітваўся і жадаў ім дабрыні і спакою. Ён падкрэсліваў: «У мяне тут сабраліся толькі добрыя людзі. Бойкі паміж імі тут не будзе». Потым з жартам дабаўляў: «Ну, можа быць, некаторыя троху і пасварацца. Вось, напрыклад, Іосіф Сталін і Мікіта Хрушчоў. Але Карл Маркс будзе спакойна на гэта глядзець. Ну, бывайце! Спіце спакойна…»

З часам Заір Азгур стварыў скульптуру Максіма Гарэцкага, якая спадабалася большасці гледачоў, у тым ліку брату і дачцэ пісьменніка. Да 100-годдзя з дня яго нараджэння скульптуру набыла гарадская бібліятэка імя Максіма Гарэцкага ў Горках, дзе цяпер яго бюст стаіць супраць уваходу ў залу бібліятэкі.

Праз многа гадоў, ужо ў час перабудовы, давялося мне некалькі разоў наведаць новую майстэрню Заіра Азгура на вул. Пуліхава. У значна больш раскошным будынку я ўбачыў многія знаёмыя, а таксама і новыя скульптуры. Заір Ісакавіч, убачыўшы, што я разглядаю яго творы, спытаў: «Гледзіце, куды я ваш бюст паставіў? Ну, дык і не шукайце — ён разбіўся. Калі хлопец ставіў яго на паліцу, упусціў яго, і той разляцеўся на маленькія кавалкі. Але не перажывайце: гэта добрая прыкмета — доўга жыць будзеце!»

Перада мной быў ужо не той Заір Азгур, які ляпіў мяне. У састарэлых руках не адчувалася былой моцы. Ён сам жаліўся, што не можа так многа працаваць, як раней, калі ўвесь дзень мог прастаяць перад скульптурай. Адзначыў, што заказаў

зусім няма, за званне акадэміка Акадэміі мастацтваў СССР не плацяць, бо акадэмія стала Расійскай, што мала грошай, якіх не хапае нават на харчаванне… Мяне вельмі ўразіў бядотны стан выдатнага майстра.

На Прэзідыуме Акадэміі навук Беларусі мы вырашылі прыняць членаў акадэмій былога СССР у склад нашай акадэміі, каб хоць крыху маральна і матэрыяльна падтрымаць такіх людзей, як Заір Азгур. Ужо незадоўга да смерці Заір Ісакавіч Азгур Агульным сходам Акадэміі навук Беларусі быў абраны правадзейным членам.

*1997, люты*

## Патрэбна глыбокая гуманізацыя адукацыйных працэсаў

Менавіта вышэйшая школа рыхтуе новую інтэлігенцыю — ядро ведаў, палітычную, дзяржаўную, эканамічную, тэхнічную, культурную, навуковую эліту грамадства, якая захоўвае і бясконца абнаўляе асновы культуры нацыі, развівае фундаментальныя веды для новых дасягненняў навукі і тэхнікі, стварэння новых тэхналогій. Узровень вышэйшай школы вырашае будучыню краіны, лёс эканамічнага, палітычнага і культурнага стану ўсёй нацыі. Адукацыя і навука ў былым СССР дасягнула давалі высокага ўзроўню, асабліва ў шматлікіх накірунках тэхнічных і прыродазнаўчых галінаў. Але ўся сістэма адукацыі была занадта ідэалагізаваная, імкнулася рыхтаваць стандартнага чалавека, кваліфікаванага «вінціка» — будаўніка «светлага будучага», які выхоўваўся і накіроўваўся толькі адзінай марксісцка-ленінскай філасофіяй.

Гэтая аднабаковая адукацыя мае шэраг недахопаў. Зараз найбольш патрэбна вельмі шырокая і магутная плынь (дзяржаўная праграма) па гуманізацыі, гуманітарызацыі і экалагізацыі выхаваўчых і адукацыйных працэсаў на ўсіх узроўнях, і асабліва ў вышэйшай школе.

Толькі вялікімі намаганнямі ўсяго грамадства… мы зможам дасягнуць адпаведнага ўздыму ў гэтых накірунках, без якога немагчыма нармальнае ўстойлівае развіццё краіны і ўсяго чалавецтва.

*1997*

## Абыякавасці не цярпеў[1]

Упершыню Алеся Міхайлавіча Адамовіча я ўбачыў у пачатку 1970-х гг. у Мінску на кватэры маіх бацькоў, калі яны жылі па вул. Акадэмічнай (цяпер вул. Ф. Скарыны). Сярэдняга росту, у простым (без усякіх гальштукаў), відаць, зручным для яго адзенні, з добрай капой цёмных валасоў над круглявым тварам, ён сардэчна павітаўся з маімі бацькамі, якіх ужо ведаў раней, і таксама вельмі шчыра пацiснуў мне руку. Скрозь акуляры ўважліва глядзелі разумныя карыя вочы, якія мне здаліся поўнымі дабрыні, нейкай лагоды і спакою. І таму, мусіць, ён мне спачатку нагадаў П'ера Бязухава. Але калі Алесь Міхайлавіч загаварыў характэрнай хуткай гаворкай, якая ледзь паспявала за яго яшчэ значна больш хуткай думкай, я адчуў, што гэта зусім іншы чалавек — гарачы, імпульсіўны, шыбкі, востры, шчыры, які вельмі лагічна разважае, на дзіва вобразна думае.

Алесь Міхайлавіч тады зацікавіўся жыццём і творчасцю Максіма Гарэцкага, які ў сувязі з поўнай рэабілітацыяй пачаў патроху вяртацца сваімі творамі да свайго народа. У той час ужо выйшлі з друку «Выбранае» (1960), «Віленскія камунары» (1965), «Выбраныя творы» ў 2-х тамах (1973). У прадмовах да твораў Максіма Гарэцкага, у асобных артыкулах Максіма Лужаніна, Ю. Пшыркова, Д. Бугаёва, М. Мушынскага, І. Чыгрынава пераглядалася ацэнка творчасці пісьменніка, і з кожным годам яна станавілася ўсё больш станоўчай. Д. Бугаёў выдаў

[1] Літаратура і мастацтва. — 1997. — 7 лютага.

невялікую па памерах, але грунтоўную манаграфію «Максім Гарэцкі» (1968).

Алесь Адамовіч як даследчык беларускай прозы адчуваў, што творчасць Максіма Гарэцкага асветлена яшчэ недастаткова, і таму вырашыў гэты недахоп часткова ліквідаваць. Ён падараваў майму бацьку сваю кнігу «Горизонты белорусской прозы» (М., 1974), у якой зусім мала гаворыцца пра Максіма Гарэцкага, з такім надпісам: *«Дарагому Гаўрылу Іванавічу — ад аўтара! Вельмі не стае кнізе гэтай аднаго раздзела. Але бачыце, як аўтар глыбакадумна падперся — зразумеў і бярэцца зноў за працу. 2.9.74 г. А. Адамовіч»*. Ад слова «падперся» ён зрабіў стрэлку да свайго партрэта ў кнізе, дзе пісьменнік падпірае кулаком падбародак.

Алесь Міхайлавіч дэталёва вывучаў увесь надрукаваны матэрыял, архівы, часта размаўляў з жонкай Максіма Гарэцкага — дзядзінай Лёляй (Леанілай Усцінаўнай Чарняўскай), яго дачкой — Галінай Максімаўнай, якія жылі ў Ленінградзе, а таксама з маімі бацькамі, асабліва з Гаўрылам Іванавічам, прычым такія гутаркі былі вельмі цікавыя, жывыя, з бясконцымі пытаннямі, глыбокімі развагамі і абагульненнямі**.**

У верасні 1974 г. Алесь Адамовіч напісаў майму бацьку ліст з просьбай адказаць на даволі шырокі спектр пытанняў пра Максіма Гарэцкага. *«Дарагі Гаўрыла Іванавіч! Прабачце, што пішу многа пытанняў. Але і гэтага мала, хацелася б, каб Вы вакол іх напісалі як мага больш пра ўсё, што памятаеце. Спатрэбіцца гэта не аднаму мне. Пра асобу, пра творы (як задумваліся, як пісаліся), пра яго жыццё, пра погляды, пра думкі, пра жыццё сям'і і г. д.»* Далей было шэсць грунтоўных пытанняў. Бацька адказаў падрабязна лістом памерам амаль на 10 машынапісных старонак пад назвай «Вытокі творчасці Максіма Гарэцкага». Амаль поўнасцю гэты ліст у выглядзе вялікіх вытрымак быў выкарыстаны Алесем Міхайлавічам у яго вядомай манаграфіі «Браму скарбаў сваіх адчыняю» (1980).

Так атрымалася, што першы манаграфічны аналіз творчасці Максіма Гарэцкага зрабіў у 1928 г. Антон Адамовіч (надрукаваны ў часопісе «Узвышша», № 1–6). Але гэтая манаграфія засталася мала вядомай, а для сучаснага чытача і зусім невядомай, бо ўжо ў сярэдзіне 1930 г. і пісьменнік, і даследчык яго творчасці былі арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі», а большасць іх твораў знішчана і забаронена на многія дзясяткі гадоў. І вось больш чым праз 50 гадоў выйшла ў свет найбольш грунтоўная манаграфія пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага, аўтарам якой таксама быў Адамовіч, але ўжо не Антон, а Алесь.

Перагледзеўшы ўвесь творчы шлях Максіма Гарэцкага, яго мнагагранныя творы, іх уплыў на «ўсю глыбіню беларускай літаратуры XX стагоддзя», Алесь Адамовіч у заключэнні да сваёй манаграфіі першым з літаратуразнаўцаў прыйшоў да такой высновы: *«Асноўная мэта нашага даследавання заключалася ў тым, каб нанова «ўпісаць» фігуру М. Гарэцкага, творчасць, спадчыну М. Гарэцкага ў беларускі літаратурны працэс, як ён бачыцца з вышыні нашага часу. Дакладней: усвядоміць, якое месца займае пісьменнік у гэтым працэсе. Месца гэта — адно з важнейшых: месца класіка беларускай літаратуры. Побач з Купалам, Коласам, Багдановічам»* («Браму скарбаў сваіх адчыняю». Мінск, 1980. С. 194).

Вялікае ўражанне на Алеся Адамовіча зрабілі пісьмы сына Максіма Гарэцкага — Леаніда з фронту, з якімі яго пазнаёмілі дзядзіна Лёля і Галя ў Ленінградзе. Ён іх яскрава пракаменціраваў і надрукаваў як у згаданай манаграфіі, так і раней у часопісах «Маладосць» (1974. № 9) і «Юность» (1975. № 4). Ён пісаў: *«Чалавечы і пісьменніцкі воблік, шлях Максіма Гарэцкага мелі нечаканы працяг — ужо пасля яго смерці. Кароткі, але асляпляльны працяг у жыцці — подзвігу яго сына... — гэта пацвярджэнне і вышэйшая ацэнка жыцця Гарэцкага-бацькі. Гэта такое паўтарэнне бацькі, яго душы, розуму, таленту, сумленнасці і чалавечнасці!..»* («Браму скарбаў сваіх адчы-

няю». С. 4). Бацька і сын — Максім і Леанід Гарэцкія — зноў сустрэліся ў кнізе «На імперыялістычнай вайне» (1987), якая выйшла з цудоўнай прадмовай Міхася Мушынскага.

Дарэчы, думка аб стварэнні «Блокадной книги» пачалася ў Алеся Адамовіча з некалькіх ленінградскіх гісторый, якія ён пачуў ад Галіны Максімаўны і якія былі такія ж жудасныя, як і з «Вогненнай вёскі», як і хатынскія. Галіна Гарэцкая пазнаёміла яго з Марыяй Гур'янаўнай Сцепанчук — першай блакадніцай (былой суседкай Гарэцкіх), ад якой А. Адамовіч 5 красавіка 1975 г. зрабіў свой першы запіс. Аб гэтым ён успамінае ў інтэрв'ю газеце «Литературная Россия» ад 12 сакавіка 1982 г.

У канцы 70-х — пачатку 80-х гг. Алесь Адамовіч многа разоў прыходзіў пагаварыць з Гаўрылам Іванавічам і на яго новую кватэру па вул. Кульман. Я жыў у тым жа пад'ездзе і таму часта прысутнічаў пры гэтых сустрэчах. Слухаць іх было заўсёды вельмі цікава. Гаўрыла Іванавіч успамінаў пра брата, пра іншых пісьменнікаў і дзеячаў таго часу. Гаварылі і пра сучасную літаратуру, яе стан і развіццё, агульныя падзеі. Алеся Міхайлавіча тады вельмі турбавала праблема ядзернай вайны, пра якую ён горача і пераканаўча апавядаў. Дзівіла лагічнасць яго думкі, неардынарнасць і смеласць яго выказванняў, якія нярэдка разыходзіліся з агульнапрынятымі паняццямі.

Іншы раз Адамовіч прыносіў у падарунак свае новыя кнігі, падпісваў іх маім бацькам, а многія і мне. Расказваў пра тыя цяжкасці, якія амаль заўсёды яму прыходзілася пераадольваць пры іх друкаванні. Праўда яго кніг, часта горкая і жорсткая, многім цэнзарам, кіраўнікам і іншай закасцянелай грамадскасці нашай таталітарнай дзяржавы, узгадаванай на разглядзе жыцця праз ружовыя акуляры сацыялістычнага рэалізму, не падабалася. Вялікі рэзананс выклікалі «Карнікі», якую большасць чытачоў сустрэла як выдатнейшы твор, у якім узняты самыя актуальныя агульначалавечыя філасофскія праблемы. Зноў не абышлося без нападак.

Алесь Адамовіч разгарнуў далей той глыбокі псіхалагізм пераходу звычайнага чалавека ў здрадніка, а затым і ката, які так яскрава паказаў Васіль Быкаў. Алесь Міхайлавіч заглянуў у бяздонныя таямніцы чалавечай істоты. Войны, рэпрэсіўныя таталітарныя сістэмы часта ставілі многіх людзей у такія звышумовы, што яны павінны былі рабіць канчатковы выбар: ці самому загінуць, ці стаць карнікам. Прага да жыцця ў многіх перамагала…

Адамовіч сваёй кнігай заклікае выхоўваць у людзей абсалютную павагу да жыцця не толькі свайго, але і другога чалавека. На жаль, цяпер мы назіраем страшэнны працэс пашырэння жорсткасці чалавека, калі ва ўсім свеце, і асабліва ў краінах СНД, у грамадстве расце крыміналізацыя, тэрарызм, калі чалавек ужо без усялякіх «звышумоў» з надзвычайнай лёгкасцю пазбаўляе жыцця другога чалавека, Чаму так? Чаму чалавек губляе тую маральную планку, якую ён не павінен пераступаць? Выхаваць чалавека так, каб ён адчуваў немагчымасць далей жыць самому, дараваць сабе злачынства, калі ён перайшоў гэтую планку. Ці магчыма такое? У гэтым кантэксце і цяпер кніга Алеся Адамовіча асабліва актуальная.

Вядомы беларускі кінарэжысёр Ігар Калоўскі задумаў стварыць фільм пра Максіма Гарэцкага, у якім значнае месца было адведзена размове майго бацькі і Алеся Міхайлавіча пра жыццё і творчасць пісьменніка. Гэтыя здымкі вяліся на кватэры Гаўрылы Іванавіча. Абодва субяседнікі сядзелі за вялікім круглым сталом і вялі сябе так спакойна, упэўнена, як быццам яны сапраўдныя кінаакцёры са стажам. Роўнымі выразнымі галасамі вялася гаворка пра жыццёвы шлях Максіма Гарэцкага, яго творы (прынамсі, пра стварэнне «Камароўскай хронікі»), значэнне і ўплыў творчасці пісьменніка на сучасную беларускую літаратуру. Збіраліся разы тры, і Калоўскі запісваў гэтую размову на працягу некалькіх гадзін. На жаль, у фільм трапіла толькі зусім невялікая яе частка.

Успамінаецца і «валунная» тэма, звязаная з Алесем Адамовічам. Многія вядомыя дзеячы часу «развітога сацыялізму» вельмі стараліся, асабліва на схіле жыцця, так сябе паказаць, так прыстасавацца да «сильных мира сего», каб пасля смерці абавязкова трапіць на самыя прэстыжныя могілкі, а ў Маскве гэта Новадзявочыя. У сувязі са смерцю выдатнага савецкага пісьменніка Канстанціна Сіманава ўсе цэнтральныя газеты абвясцілі, што пахаванне будзе на Новадзявочых могілках. Праз некаторы час мне пазваніў Алесь Адамовіч і сказаў, што ўладная вярхушка паспяшалася даць такое паведамленне, нават не ўзгадніўшы яго з роднымі, бо не магла і падумаць, што можа быць па-іншаму. К. Сіманаў кінуў уладам яшчэ адзін апошні выклік: ён пакінуў завяшчанне, у якім прасіў спаліць яго цела ў крэматорыі, а попел развеяць на Буйніцкім полі пад Магілёвам — там, дзе ён быў сведкам гераічнай бітвы з фашысцкім ворагам, дзе змагаліся прататыпы многіх яго твораў, у тым ліку выдатнага рамана «Жывыя і мёртвыя». Ён захацеў, каб хоць так з'яднацца са сваімі героямі і стаць часцінкай той зямлі, дзе навечна палеглі яны маладымі. Абарона Магілёва была настолькі гераічнай і важнай для ходу баёў, што К. Сіманаў усё астатняе жыццё дамагаўся, каб гораду Магілёву прысвоілі званне «Горад-герой». Але крамлёўскія гаспадары заставаліся глухімі.

Жонка і сын К. Сіманава з сябрамі цішком (бо маглі і не дазволіць) выканалі запавет пісьменніка. Каб пазначыць тое месца, дзе кінуты ў зямлю попел праху выдатнага чалавека, Алесь Адамовіч ад імя Васіля Быкава і свайго папрасіў мяне знайсці добры прыгожы валун, які стане там своеасаблівым помнікам К. Сіманаву. А. Адамовіч ведаў што наш Інстытут геахіміі і геафізікі Акадэміі навук БССР стварае недалёка ад свайго будынка музей валуноў пад адкрытым небам. Мы знайшлі некалькі выразных валуноў, прыдатных для такой мэты, у розных мясцінах Міншчыны. Жонка і сын К. Сіманава агледзелі намечаныя валуны, але ні адзін з іх ім не спадабаўся.

Тады вырашылі паглядзець сярод тых, якія мы ўжо звезлі да музея. І тут знайшлі вялікі (каля 15 т вагой), гладка абкатаны валун, жоўта-шэры з чырвоным адценнем.

Гэты валун, дзякуючы клопатам Алеся Адамовіча, і быў устаноўлены на Буйніцкім полі. На ім зроблены факсімільны подпіс К. Сіманава. Сюды з'язджаюцца людзі з усіх краін СНД, наведваюць госці і з далёкага замежжа, а цяпер тут устаноўлены мемарыял з танкам, капліцай, як памяць аб загінуўшых на вайне. У гэтым ёсць і намаганні нашага няўрымслівага Алеся Міхайлавіча.

Неяк я прывёз Алеся Міхайлавіча паглядзець наш музей валуноў, а гэта — унікальны музей, адзіны такога тыпу ў свеце. Я расказаў яму пра паходжанне валуноў, пра ледавікі, якія іх прынеслі, звязаныя з імі легенды, пра падзеі мінулага, сведкамі якіх яны былі, і г. д. Алесь Міхайлавіч вельмі ўважліва слухаў і сам стаў расказваць пра гісторыю беларускага народа, нашага краю. Адбылася ў нас цікавая размова пра ўплыў прыроды на чалавека, сувязь маляўнічых ландшафтаў на станаўленне будучых мастакоў пяра і пэндзля. Яму спадабаўся наш музей, і ён адзначыў, што цяпер зусім па-іншаму ставіцца да валуноў — гэтых маўклівых сведкаў даўніны.

Вельмі цяжка перажываў Алесь Адамовіч смерць сваёй маці. Падышоў час ставіць помнік. Ён звярнуўся да мяне з просьбай знайсці прыгожы не надта вялікі валун на магілку. У хуткім часе знайшлі такі, які яму спадабаўся. Але не павёз яго ў Глушу, а папрасіў пакласці каля галоўнага будынка Акадэміі навук — я адчуў, што ён не ўпэўнены, ці ставіць іменна такі помнік. Потым мне сказаў, што паставіў звычайны помнік, такі, як ва ўсіх, бо вяскоўцы не зразумеюць і палічаць, што вось сын прыціснуў маці каменем і не дае магчымасці быць вольнай яе душы. А далей дадаў: «А я б хацеў, каб у мяне быў валун».

У той час, калі Алесь Адамовіч ужо паехаў з беларускай Вандэі ў Маскву, стаў народным дэпутатам СССР, калі папулярнасць яго як смелага грамадзянскага дзеяча высока ўзрасла,

ён аднойчы прыехаў у Мінск на канферэнцыю дэмакратычных сіл, якая адбывалася ў Чырвоным касцёле. У перапынку мы стаялі разам і размаўлялі на розныя тэмы. Падышлі хлопцы з радыё і папрасілі даць інтэрв'ю. На пытанне пра адносіны беларускіх уладаў да працэсаў дэмакратызацыі Алесь Адамовіч паглядзеў на мяне і, пэўна, прыгадаўшы музей валуноў, адказаў, што ўлады, як тыя замшэлыя нямыя валуны, не хочуць ніякіх зрухаў наперад.

Галоўнае крэда Алеся Адамовіча — усюды змагацца за праўду, шукаць ісціну — у жыцці, літаратуры, грамадстве. Адным з першых ён сказаў праўду аб чарнобыльскай катастрофе, якую ўлады замоўчвалі. Дайшоў да самых вярхоў і ў Мінску — да М. Слюнькова, і ў Маскве — да М. Гарбачова, першы пачаў біць у жалобны набат. Алесь Міхайлавіч ведаў, што гэта можа нашкодзіць яму асабіста, але здрадзіць праўдзе не мог. Я памятаю, як прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. Барысевіч раіўся са мной наконт кандыдатаў у акадэмікі і назваў у тым ліку і члена-карэспандэнта А. Адамовіча. Я адразу падтрымаў яго кандыдатуру. У спіс кандыдатаў у акадэмікі на новыя выбары, які падаваўся ў ЦК КПБ, было ўключана і яго прозвішча. У той час і колькасць новых членаў акадэміі, і нават персанальны спіс кандыдатаў зацвярджаўся ЦК КПБ, якому такія барацьбіты за праўду, як Адамовіч, зусім не падабаліся, і таму Першы сакратар ЦК КПБ М. Слюнькоў выкрасліў прозвішча гэтага выдатнага пісьменніка і вучонага-літаратуразнаўцы.

Алесь Адамовіч — чалавек чыстага сумлення, горача ўспрымаў усе падзеі сучаснага жыцця, бясстрашна кідаўся ў самыя кіпельныя яго кропкі, змагаўся і марыў пра лепшую будучыню свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны, усяго чалавецтва, ніколі не заставаўся абыякавым, бо абыякавасці не цярпеў усім сваім нутром. Сэрца не вытрымала напружання — здарыўся інфаркт.

Апошні раз я сустрэў Алеся Міхайлавіча позняй восенню на дачы каля Раўбічаў. Ён ішоў на прагулку ўздоўж Дуброўскага вадасховішча. «Распрацоўваю разбоўтанае сэрца, — сказаў з

лёгкай усмешкай. Потым дадаў: — Пара перабірацца дахаты, назад у Мінск. Возьмеце мяне ў акадэмію, знойдзецца месца для мяне?» Я з вялікай радасцю падтрымаў такое рашэнне. Ён пайшоў далей ужо не такім шыбкім крокам (амаль подбегам), як раней, але па-ранейшаму стромкі, прыгожы, задумлівы… Такім я яго і запомніў.

Праз некалькі месяцаў А. Адамовіча раптоўна не стала. Дом літаратара не змог змясціць усіх, хто хацеў развітацца з ім.

На наступны год пасля смерці Алеся Адамовіча ў пачатку верасня сабраўся Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасць», які прайшоў пад знакам і ўплывам думак выдатнага пісьменніка. вучонага, грамадзянскага дзеяча. Былі ўручаны першыя Літаратурныя прэміі імя Алеся Адамовіча ў галіне публіцыстыкі за 1995 год. Усе ўдзельнікі прыехалі ў Глушу на могілкі, дзе яго мяцежны дух знайшоў супакой побач з бацькамі, братам. І ляжыць там прыгожы светла-чырвоны валун з хвалістымі пражылкамі, якія нагадваюць поўнае турбот і неспакою жыццё. І на ім сціплы, але вялікі па значэнні надпіс: «Алесь Адамовіч», а трохі вышэй выбіты невялікі крыжык. І гэты валун — цудоўнае стварэнне вечнай прыроды, які выбралі Вера Сымонаўна Адамовіч, Васіль Быкаў, Валерый Янушкевіч і я сярод калекцыі музея валуноў Акадэміі навук, будзе вечна нагадваць нашчадкам пра славутага сына Беларусі.

Як асабісты запавет пакінуў мне Алесь Міхайлавіч надпіс на кнізе «Браму скарбаў сваіх адчыняю»: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу, якому несці далей выдатны цяжар дабрыні, сумленнасці і таленту Гарэцкіх. Жадаю Вам здароўя, сіл і поспехаў на гэтым шляху! 11.10.1980. А. Адамовіч».*

Нялёгка гэта, але стараюся.

*1997*

## «Дзеці наццэмаў»

Каля ўвахода ў будынак Вялікага тэатра оперы і балета, дзе праходзіў Першы з’езд беларусаў свету (1993), апынуліся за размовай Вітаўт Кіпель, Мая Кляшторная, Алеся Бабарэка, Ганна і Марыя Смоліч і я. Галя, мая жонка, зрабіла фота: «Дзеці наццэмаў», ці «Дзеці Інбелкульта» — нашчадкі беларускіх адраджэнцаў, якія працавалі ў Інбелкульце. Пазней пад апошнім надпісам гэтае фота было змешчана ў кнізе «Першы з’езд беларусаў свету».

*1997*

## Сэрца рвецца на Радзіму

На Другім з’ездзе беларусаў краін Балтыі (верасень 1998 г.) быў Зянон Пазьняк, які прыйшоў праводзіць нашу групу ўдзельнікаў з Мінска. Мы з жартамі, вясёлыя садзіліся ў мікраа ўтобус. Зянон — заўсёды такі мужны чалавек з цвёрдым характарам — падышоў да нас і з вялікім сумам у вачах ціхім хрыплаватым голасам, які крыху зрываўся і ў якім нават адчуваліся далёкія слёзы, сказаў: «Я нікому і ніколі не зайздросціў, а вось зараз усім вам моцна-моцна зайздрошчу — вы варочаецеся ў Мінск, на радзіму. Мне так хацелася б быць з вамі, так дадзела быць у замежжы, так нуджуся па Бацькаўшчыне». Сумна-сумна પаківаў нам галавою і памахаў рукою, усміхнуўшыся з гаркотай на вуснах. Як цяжка жыць на чужыне, калі сэрца рвецца на Радзіму! Хлопцы ўсю дарогу без перапынку спявалі розныя песні, а я сядзеў моўчкі, і ўвесь час у вачах стаяла сумная адзінокая постаць Зянона, якая і дагэтуль не-не ды зноў у памяці маёй усплыве…

*1998*

# Да юбілею Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

У гэтыя дні краіна ўрачыста адзначала 70-годдзе з дня ўтварэння Беларускай акадэміі навук — галоўнага цэнтра навукі. Усім зразумела, што без навукі няма развіцця, няма прагрэсу. Гэта добра ведалі і ў былым Савецкім Саюзе, таму найбольшы ўздым навуковых даследаванняў і ў нашай акадэміі прыйшоўся на 70–80-я гг. Цяпер НАН Беларусі пераЖывае, як і ўся краіна, нялёгкія часы, але жыве і працуе. У юбілейныя дні трэба ўспамінаць не толькі дасягненні і поспехі, але нагадаць і тыя цяжкасці і адмоўныя з'явы, якія ўставалі на шляху навукі і яе дзеячаў, не забываць гістарычныя крокі развіцця навукі і адсюль рабіць адпаведныя вывады на будучыню.

На жаль, у развіцці савецкай навукі вялікую ролю адыгрывалі самыя розныя палітычныя моманты, валюнтарысцкія дзеянні асобных палітычных кіраўнікоў СССР. Дастаткова ўспомніць высылку «вон из России» лепшых прадстаўнікоў «буржуазной науки», якую зрабіў Ленін у 1922 г., знішчэнне выдатных вучоных у сталінскіх лагерах, трагічныя сітуацыі, якія стварыліся вакол такіх навук, як кібернетыка, біялогія і асабліва генетыка ў час праславутай лысенкаўшчыны, мовазнаўства, якое вызначалася «выдатнейшымі» творамі «самого мудрого ученого», пошукі «касмапалітызму» ў навуцы, «ворагаў» ад сіянізму ў медыцыне і г. д.

Усе гэтыя праявы таталітарызму моцна паўплывалі на развіццё навукі і ў Беларусі. Пасля арганізацыі ў 1922 г. Інстытута беларускай культуры, які адыграў вялікую ролю ў станаўленні беларускай навукі і культуры, а таксама ў беларусізацыі ўсёй грамадскасці рэспублікі, ужо праз два гады вучоныя інстытута ўзнялі пытанне аб утварэнні Акадэміі навук, прычым такую ініцыятыву падтрымала і кіраўніцтва БССР. Але самастойна вырашыць гэтую праблему было немагчыма — патрэбен быў дазвол Масквы, які па самых розных — галоўным чынам палітычных — матывах быў атрыманы толькі ў самым канцы

1928 г. Зноў па тых жа прычынах сярод акадэмікаў — заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук (1 студзеня 1929 г.) не было імёнаў такіх выдатных навукоўцаў таго часу, як Я. Карскі, А. Смоліч, М. Доўнар-Запольскі і некаторых іншых.

Трэба адзначыць, што перад гэтай гістарычнай падзеяй былі вялікія спрэчкі аб тым, якой павінна быць БАН. Г. Гарэцкі напісаў спецыяльную запіску «Аб арганізацыйных прынцыпах будовы Беларускай акадэміі навук»[1], у якой падкрэсліў: *«...акадэмія навук павінна быць усебаковай і ахопліваць як навуковыя дысцыпліны са сферы культуры (гуманітарныя дысцыпліны), у сферы прыроды (так званыя точныя і «чыстыя» навукі), так і са сферы тэхнікі і гаспадаркі (так званыя прыкладныя навукі) [...]. Сыстэма навукі адзіна, і тэхнічныя дысцыпліны ў такой жа меры навукі, як і кожная з «чыстых» навук, калі толькі ў тэхнічнай дысцыпліне ўжываецца навуковы мэтад [...]. Беларуская акадэмія навук павінна сканцэнтраваць і плянаваць усю навукова-даследчую працу ў БССР»*. Тым не менш у БАН тады быў зроблены перакос у бок гуманітарнай сферы: было абрана 20 акадэмікаў-гуманітарыяў і 10 — прыродазнаўцаў.

Ужо праз 1,5 года пасля стварэння БАН амаль усе яе заснавальнікі былі арыштаваны, асуджаны як «нацдэмы», высланы за межы рэспублікі, а ў сярэдзіне і канцы 30-х гг. многія з іх расстраляны. Гэтыя выдатныя вучоныя загінулі разам з сотнямі лепшых прадстаўнікоў культуры, навукі, народнай гаспадаркі Беларусі. Цяпер яны поўнасцю рэабілітаваныя за адсутнасцю складу злачынства.

Наш вядомы скульптар А. Шатэрнік зрабіў мемарыяльную дошку з імёнамі тых вучоных і грамадскіх дзеячаў, якія працавалі ў Інбелкульце. Многія з іх былі першымі акадэмікамі Беларускай акадэміі навук, і сярод іх першы прэзідэнт У. Ігнатоўскі, мовазнаўцы С. Некрашэвіч і Я. Лёсік, паэты Янка Купала і Якуб Колас, гісторыкі В. Ластоўскі і першы рэктар БДУ У. Пічэта

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Ф. 101. — Вып. 1. — Спр. 2968. — Арк. 1–4.

і інш. Як было б прыгожа адкрыць гэтую дошку на былым будынку Інбелкульта (Рэвалюцыйная, 15) у юбілейныя дні! Але яна ўжо амаль год пыліцца ў памяшканні Нацыянальнага культурна-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, які знаходзіцца ў тым жа будынку. Нехта, каму не падабаюцца некаторыя імёны, адзначаныя на дошцы, зноў жа па нейкіх палітычных матывах не дазваляе яе адкрыццё, не хоча, каб ушанавалі памяць беларускіх вучоных — ахвяр бальшавіцкага рэжыму.

У далейшым развіцці Акадэміі навук Беларусі, асабліва пасля вайны, адбыўся значны перакос у бок фізіка-матэматычных і тэхнічных навук, якія атрымалі шпаркі рост, і наадварот, марудны ўздым мелі гуманітарныя навукі і зусім слабы — навукі аб Зямлі. Цяпер у акадэміі 10 установ фізіка-матэматычнага профілю і ў іх 40 акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў, у фізіка-тэхнічных навуках 12 установ і 35 членаў акадэміі, у гуманітарных — 8 установ з зусім малой колькасцю супрацоўнікаў і 36 членаў акадэміі, а навукі аб Зямлі маюць толькі 4 установы і 10 членаў акадэміі і нават не вылучаны ў асобнае аддзяленне навук.

Калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай, асабліва ўзрасла роля «рэгіянальных» навук, такіх, як геалогія, геаграфія, экалогія, глебазнаўства, заалогія, батаніка, аграномія, гісторыя, літаратуразнаўства, мовазнаўства і г. д., бо толькі беларускія вучоныя могуць мэтанакіравана і эфектыўна працаваць у гэтых напрамках. Без належнага ўзроўню такіх навук не можа інтэнсіўна развівацца народная гаспадарка.

За ўвесь час існавання Акадэміі навук яе кіраўніцтва «выбіралася» толькі пасля ўзгаднення кандыдатур з уладамі рэспублікі і з Масквой. Адзінае выключэнне — выбары Прэзідыума АН Беларусі на чале з акадэмікам Л. М. Сушчэнем (красавік 1992 г.) у часы кіравання С. С. Шушкевіча і В. Ф. Кебіча. У Савецкім Саюзе наша «самастойнасць» была настолькі «вялікай», што ўсе планы і праграмы прац АН БССР, кожную кандыдатуру акадэміка і члена-карэспандэнта і г. д. трэба было ўзгадняць

не толькі з рэспубліканскім ЦК КПБ, але і з Акадэміяй навук СССР у Маскве. Як прыклад умяшання ўладаў можна нагадаць выключэнне са спісу кандыдатур для выбараў у акадэмікі Алеся Адамовіча. У тыя часы без дазволу ЦК КПСС і СМ СССР (Масква) не тое што адчыніць новы інстытут, але нават даць іншую назву ўжо існуючаму было немагчыма.

Усё гэта ўспамінаецца таму, што 70-годдзе НАН Беларусі праходзіць на фоне палітыкі аб’яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву. Праўда, тут жа ідзе агаворка аб захаванні самастойнасці краін. Поўная алагічнасць! Ці не будзе падобна такая «самастойнасць» на толькі што ўзгаданае з нашага мінулага жыцця? Ці будзе ў новай дзяржаве самастойная Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, а не ператворыцца ў Мінскі навуковы цэнтр Саюзнай акадэміі навук (накшталт Санкт-Пецярбургскага ў РАН) ці Беларускага аддзялення (падобнага да Сібірскага ў РАН)? Няўжо па кожнай кандыдатуры акадэміка, па кожнай праграме зноў прыйдзецца ездзіць у Маскву? Зараз сітуацыя склалася так, што нават на навуковую канферэнцыю паехаць у Расію — гэта фінансавая праблема. Такія ж фінансавыя цяжкасці і ў расійскіх вучоных, якія не могуць часта прыехаць не толькі ў суседнія рэспублікі, але і адзін да аднаго. Аб’яднанне краін грошай не дабавіць. Супрацоўнічаць і распрацоўваць агульныя тэмы ніхто не перашкаджае і цяпер, як з расійскімі, так і з вучонымі іншых краін.

Урачыстасці навялі на вялікі сум і ў сувязі з моўнай праблемай. Пасля таго як Акадэмія навук Беларусі па ўказу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь стала называцца Нацыянальнай, з ужывання Прэзідыума акадэміі, яе агульных сходаў, афіцыйных дакументаў амаль зусім знікла родная беларуская мова. Замест таго каб паказваць прыклад у пашырэнні карыстаннем мовы, кіраўнікі і большасць супрацоўнікаў Акадэміі навук — эліта беларускай інтэлігенцыі — стараецца толькі дагадзіць, цалкам «працаваць» пад сучасную ўладу (не дай бог, абвінавацяць у нацыяналізме — страх бярэ!). Было сорамна, калі на ўрачыстым

сходзе ў Вялікім тэатры оперы і балета, прысвечаным юбілею, ад беларускіх дзеячаў (ні з вуснаў прэзідэнта краіны, ні з вуснаў прэзідэнта акадэміі) не прагучала ніводнага беларускага слова. Прысароміў усіх прадстаўнік «старшага брата» віцэ-прэзідэнт РАН акадэмік У. Кудраўцаў, які зачытаў сваё прывітанне на беларускай мове. Зусім нядаўна ў Кіеве адзначалася 80-годдзе Нацыянальнай акадэміі навук Украіны — там шырока гучала ўкраінская мова. Вядома, як паважаеш сваю родную мову, так паважаюць і цябе.

Хацелася б пажадаць, каб наша акадэмія па-сапраўднаму была нацыянальнай, захавала сваю самастойнасць у цеснай садружнасці з навукоўцамі ўсяго свету і ў першую чаргу суседніх краін — Расіі, Украіны, Польшчы, краін Балтыі, далей пашырала навуковыя даследаванні, дасягнула новых вяршынь у навуцы на карысць сваёй Бацькаўшчыне і ўсіх людзей планеты.

*1999, студзень*

## Радасць жыцця

У пятніцу ішоў у інстытут на працу. Сустрэў некалькі знаёмых — яны такія змрочныя, сумныя, незадаволеныя, усё жаліліся на жыццё, агульныя падзеі, палітычную сітуацыю… Усё так, але…

Я крочыў па полі праз наш Музей валуноў, глядзеў на зялёны-зялёны лес удалечыні, разглядаў цудоўны ўзор бяроз, сасёнак, клёнаў зблізку, зноў, ужо каторы раз, дзівіўся валунам — сапраўдным маўклівым сведкам далёкай мінуўшчыны, жмурыўся ад яснага яркага сонейка, адпачываў вокам на блакітна-сінім небе з мудрагелістымі фігурамі хмарак і адчуваў, як некалі ў дзяцінстве, што «радасць прыгае ў грудзёх», быў удзячны лёсу і шчаслівы, што ў 70 год я яшчэ магу бачыць такія цуды прыроды…

*1999*

# Адам Бабарэка — выдатны беларускі адраджэнец і літаратурны крытык[1]

Роўна 100 гадоў таму, 14 кастрычніка 1899 г., у сям'і беззямельнага селяніна ў вёсцы Слабада-Кучынка, што на Капыльшчыне, прыгожым і багатым кутку Беларусі, нарадзіўся Адам Бабарэка — славуты беларускі адраджэнец, паэт, празаік, літаратуразнавец, таленавіты літаратурны крытык. Лёс Адама Бабарэкі, як і большасці яго паплечнікаў, не быў лёгкім, а жыццё доўгім — ён пражыў усяго 39 гадоў. Рана застаўся без бацькі, які хварэў на сухоты. Вучыўся ў Слуцкай бурсе, Мінскай духоўнай семінарыі, стаў настаўнікам. У час польскай акупацыі ўдзельнічаў у партызанскім руху, быў арыштаваны польскімі ўладамі — рубцы ад бізуноў захаваліся на ўсё жыццё. Служыў у Чырвонай Арміі. У далейшым закончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Першыя літаратурныя спробы адносяцца да 1918 г., калі ён стаў селькарам, а ўжо ў 1921 г. яго творы з'явіліся ў рэспубліканскім друку. Адначасова з вучобай у БДУ працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў школе, а пазней — і ў Беларускім камуністычным універсітэце.

У 1925 г. выйшла з друку асобная кніга А. Бабарэкі «Апавяданні». У гэтым жа годзе ён выдаў сваё апошняе мастацкае апавяданне і надрукаваў свае апошнія вершы — вырашыў поўнасцю пераключыцца на літаратуразнаўства і літаратурную крытыку і ў гэтым дасягнуў такога высокага ўзроўню, што яго называлі «беларускім Бялінскім».

Адам Бабарэка найбольш вядомы як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў (не столькі фармальны, колькі па сутнасці) літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў «Маладняк», а пазней — «Узвышша». Нягледзячы на зусім кароткі творчы ўзлёт Адама

---

[1] Уступнае слова на навуковай канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння А. Бабарэкі, 14 кастрычніка 1999 г.

Бабарэкі — усяго 9 гадоў, ён зрабіў вельмі многа, пакінуў вялікую спадчыну, якая яшчэ ў значнай ступені не раскрыта, слаба вядома сучаснаму чытачу і патрабуе больш шырокай і грунтоўнай публікацыі як твораў самога аўтара, так і разгляду яго жыцця і дзейнасці. Ён адзін з першых сярод маладнякоўцаў пачаў барацьбу за культуру, за высокі мастацкі ўзровень літаратуры, падкрэсліўшы, што «мастацтва — гэта важнейшы крытэрый таго культурнага ўзроўню, да якога падняўся той ці іншы народ або нацыя». А. Бабарэка адзін з першых убачыў у фальклоры невычэрпную скарбніцу эстэтычных каштоўнасцяў. Ён даследаваў творчасць М. Багдановіча, К. Чорнага, У. Дубоўкі, Я. Коласа, З. Бядулі і інш. Ён распрацаваў навуковую сістэму поглядаў на працэс гістарычнага развіцця беларускай літаратуры.

Ужо ў 1930 г. разам з многімі Адам Бабарэка трапіў у «архіпелаг ГУЛАГ». Хачу адзначыць, што светлай ніццю ў жыцці Адама Бабарэкі і Максіма Гарэцкага, а таксама іх сямей прайшло іх шчырае сяброўства не толькі на радзіме, але і ў выгнанні. Прыблізна ў такія ж восеньскія дні кастрычніка, а менавіта 10 кастрычніка 1938 г., Адам Бабарэка памёр ад запалення нырак у лагерным лазарэце УхтПечлага НКУС СССР (Рэспубліка Комі). Пра апошнія дні яго жыцця нядаўна напісаў М. М. Ількевіч у дакументальным нарысе «Адам Бабарека: арест — лагерь — смерть: Расправа со ссыльными белорусами в Кирове в 1937–1938 гг.» (Смаленск: Посох, 1999).

У сваёй манаграфіі «Адам Бабарэка» (1976) Уладзімір Конан пісаў: *«Яго прыродная дабрата, мяккасць, далікатнасць і сціпласць — гэтыя ўзятыя ў спадчыну тыповыя рысы нацыянальнай псіхалогіі свайго народа — былі памножаны на выпрацаваныя ў літаратурнай дзейнасці прынцыповасць і рашучасць у змаганні за праўду ў жыцці і мастацтве. Ён быў сапраўдны крытык, і таму нават яго паасобныя залішне суб'ектыўныя мастацкія ідэі засталіся ўсё ж ідэямі, гэта значыць каштоўнасцямі, якія пазней прынеслі свой плён»*.

***1999***

# Г. Ф. Мірчынк —
# выдатны геолаг-чацвярцічнік

У зале пасяджэнняў вучонага савета Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі адразу кідаецца ў вочы шэраг партрэтаў акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў акадэміі, якія былі абраны па геалагічнай спецыяльнасці і ўжо пакінулі жыццё зямное. Усіх партрэтаў адзінаццаць, сярод іх, у цэнтры — акадэмік Георгій Фёдаравіч Мірчынк. Партрэты размешчаны па часе абрання геолагаў у члены Акадэміі навук. Першыя чатыры акадэміка былі зацверджаны яшчэ ў канцы 1928 г. пры стварэнні Беларускай акадэміі навук: першы дырэктар Інстытута геалогіі БАН М. Ф. Бліядуха, прэзідэнт АН СССР А. П. Карпінскі, вядомы ўкраінскі і беларускі геолаг П. А. Туткоўскі. Г. І. Гарэцкі быў абраны па спецыяльнасці «Эканамічная геаграфія» і толькі пазней стаў геолагам.

Пасля вялікага перапынку ў 1940 г. у правадзейныя члены АН БССР зноў абралі геолага. Гэта быў Георгій Фёдаравіч Мірчынк — чацвёрты геолаг, беларускі акадэмік. На другі дзень вайны з гітлераўскай Нямеччынай Г. Ф. Мірчынк быў нечакана арыштаваны ў росквіце творчых сіл і таленту ва ўзросце амаль 53 гадоў (без 16 дзён) і памёр у сталінскай турме. У сувязі з гэтым яго імя і працы доўгі час заставаліся мала вядомымі, і многія спецыялісты (нават геолагі-чацвярцічнікі, асабліва маладыя) зусім слаба знаёмы з жыццём і творчасцю гэтага выдатнага геолага — знаўца геалагічнай гісторыі Зямлі, вядомага арганізатара навукі, бліскучага педагога, цудоўнага высокамаральнага інтэлігента.

Георгій Фёдаравіч нарадзіўся ў сям’і шырокаадукаванага педагога-асветніка Фёдара Міхайлавіча Мірчынка, выхадца з лужычан (невялікай славянскай народнасці, якая жыве ў Нямеччыне недалёка ад Дрэздэна).

Пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта Г. Ф. Мірчынк пачаў педагагічную дзейнасць, якую не пакідаў усё жыццё. У розныя гады ён займаў пасады дацэнта, прафесара, загадчыка

кафедры, прарэктара ў Маскоўскім універсітэце, Маскоўскай горнай акадэміі, Межавым інстытуце, а апошнія 12 гадоў — у Маскоўскім геолагаразведачным інстытуце. Ён чытаў курсы палеанталогіі, геалогіі СССР, гістарычнай геалогіі. Асабліва вялікім поспехам карыстаўся курс лекцый па чацвярцёвай геалогіі. Г. Ф. Мірчынк быў цудоўным педагогам, бліскучым лектарам і прыроджаным выхавальнікам. Ён стварыў шырока вядомую школу высокаадукаваных геолагаў.

Калі я быў студэнтам геолагаразведачнага факультэта Маскоўскага нафтавага інстытута, мне давялося ў канцы 40-х — пачатку 50-х гг. мінулага стагоддзя слухаць лекцыі роднага брата Г. Ф. Мірчынка — Міхаіла Фёдаравіча, вядомага геолага-нафтавіка, прафесара, члена-карэспандэнта АН СССР, які карыстаўся сярод студэнтаў вялікім аўтарытэтам. У той час імя Георгія Фёдаравіча было пад забаронай, і таму яго не ўспаміналі. Аднак я пра яго многа чуў ад свайго бацькі, які яго добра ведаў і які пазней пакінуў успаміны пра сустрэчы з Г. Ф. Мірчынкам[1]. Слухаючы Міхаіла Фёдаравіча, я, само сабой, уяўляў і яго брата. Яны абодва мелі высокія статныя постаці, прыгожыя твары, разумныя вочы, выразную дыкцыю, энцыклапедычныя веды.

У пачатку навуковай дзейнасці Г. Ф. Мірчынк вывучаў мелавыя і трацёвыя адклады, а затым даследаваў найбольш малады (прыблізна 1 млн год таму і да сучаснай эпохі) так званы чацвярцёвы (антрапагенавы) перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі. Гэта перыяд з'яўлення чалавека, вялікіх мацерыковых зледзяненняў, надзвычай складанай і значнай разнастайнасці генетычных тыпаў парод, станаўлення сучаснай біялагічнай разнастайнасці і фарміравання рэльефу Зямлі, рэзкіх хістанняў клімату і г. д. Вывучэнне гэтага перыяду геалагічнага жыцця Зямлі патрабавала асаблівага метадалагічнага падыходу, вы-

[1] Горецкий Г. И. Незабываемые встречи с Г. Ф. Мирчинком // Академик Г. Ф. Мирчинк. Знаток истории Земли. — Минск : Беларуская навука, 1999. — С. 47–51.

карыстання размаітых напрамкаў, метадаў і дысцыплін: палеанталогіі, абсалютнай геахраналогіі, літалогіі і фацыяльнага аналізу, палеагеаграфіі і геамарфалогіі, геалагічнай здымкі, археалогіі, глебазнаўства, неатэктонікі і інш. Шырыня ведаў, глыбіня падыходаў, неабходных для разумення чацвярцёвага перыяду, якімі валодаў Г. Ф. Мірчынк, дазволілі яму стаць вядучым вучоным, стваральнікам комплекснага метаду вывучэння гэтага ўнікальнага перыяду ў гісторыі Зямлі.

Пасля пераезда Акадэміі навук СССР з Пецярбурга ў Маскву Г. Ф. Мірчынк узначаліў аддзел чацвярцёвай геалогіі Геалагічнага інстытута. Тут ён сабраў самых здольных вучняў і заснаваў вядомую школу геолагаў-чацвярцічнікаў, якая праславіла айчынную чацвярцёвую геалогію ва ўсім свеце. У яе ўваходзілі такія буйныя вучоныя, як В. І. Громаў, А. І. Масквіцін, Я. В. Шанцер, М. І. Нікалаеў, К. У. Нікіфарава, М. М. Жукаў і многія іншыя. З гэтымі таленавітымі вучонымі і іх вучнямі цесна супрацоўнічалі Г. І. Гарэцкі і большасць беларускіх геолагаў. Мне таксама пашчасціла на працягу 20 гадоў працаваць у адным інстытуце з гэтымі цалкам адданымі сваёй навуцы высокаінтэлігентнымі людзьмі.

Асабліва трэба падкрэсліць працы Г. Ф. Мірчынка па геалагічным карціраванні і ў першую чаргу стварэнне карт чацвярцёвых адкладаў еўрапейскай часткі СССР і Міжнароднай чацвярцёвай карты Еўропы, якія сталі выдатнымі абагульненнямі ў геалогіі антрапагену.

Для дзейнасці Г. Ф. Мірчынка характэрна цесная сувязь з прыкладной геалогіяй і практычнымі задачамі народнай гаспадаркі. Ён праводзіў даследаванні дзеля высвятлення ўмоў водазабеспячэння, вышукання будаўнічых матэрыялаў, фасфарытавых і рассыпных радовішчаў, вывучаў тэхніка-геалагічныя абставіны для пракладкі шасэйных дарог, чыгункі, быў кансультантам на многіх гідратэхнічных будоўлях, у тым ліку на будаўніцтве канала Масква–Волга, Куйбышаўскага і Салікамскага гідравузлоў і інш. На вышуканнях апошніх

Г. І. Гарэцкі пазнаёміўся з Г. Ф. Мірчынкам і па-сапраўднаму пасябраваў.

Г. Ф. Мірчынк быў значным кіраўніком геолагаў-чацвярцічнікаў у СССР. Ён меў значны міжнародны аўтарытэт. Яго абралі членам Прэзідыума савецкай секцыі Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні чацвярцёвага перыяду, а затым віцэ-прэзідэнтам і прэзідэнтам гэтай секцыі, ён удзельнічаў у шэрагу міжнародных кангрэсаў.

Г. Ф. Мірчынк унёс значны ўклад у развіццё геалогіі Беларусі, надрукаваў шэраг прац па вывучэнні фасфарытавых радовішчаў Магілёўскай вобласці, геалагічнаму даследаванню ўсцяж чыгуначных шляхоў у Беларусі, геалагічнай і гідрагеалагічнай здымкам шэрагу лістоў, суадносінам рачных тэрас і стаянак палеалітычнага чалавека ў басейнах Дзясны і Сожа, стратыграфіі, карэляцыі чацвярцёвых адкладаў еўрапейскай часткі былога СССР (у тым ліку тэрыторыі Беларусі) і г. д.

Георгій Фёдаравіч Мірчынк — бясконца адданы навуцы вучоны, сапраўдны інтэлігент, вялікі патрыёт — прыклад вучонага і грамадзяніна для многіх пакаленняў геолагаў.

*1999*

## Мова робіць НАН Беларусі беларускай

10 красавіка 2000 г. у галоўнай канферэнц-зале Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння майго бацькі — акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага.

Усе беларускія выступоўцы (А. П. Вайтовіч, В. С. Аношка, А. А. Махнач, А. В. Мацвееў, М. А. Барысевіч, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскіг Васіль Зуёнак, я) успаміналі Г. І. Гарэцкага вельмі цёплымі і шчырымі словамі, якія рабіліся яшчэ больш блізкімі і даходлівымі слухачам, бо ўсе яны гучалі на беларускай мове (у адносінах да гэтага вучонага, які на радзіме размаўляў толькі на сваёй прыгожай роднай мове, інакш і не магло быць). Мой сябра акадэмік Уладзімір Піліповіч пасля канферэнцыі, як мне здалося, з радасцю за сучасную нараду і жалем за ўсе іншыя сказаў: «Ведаеш, я першы раз за ўвесь час працы ў акадэміі адчуў, што сяджу ў зале сапраўды беларускай Акадэміі навук».

*2000*

## Беларусь — багатая еўрапейская краіна[1]

Мэта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», культурна-асветніцкай арганізацыі, — аб'яднанне ўсіх самасвядомых шчырых беларусаў на аснове нацыянальнай беларускай ідэі, якая накіроўвае на стварэнне моцнай суверэннай дэмакратычнай дзяржавы Беларусь шляхам інтэгральнага адраджэння мовы, культуры, адукацыі, эканомікі. Паколькі галоўныя напрамкі дзейнасці нашага згуртавання і Кангрэса дэмакратычных сілаў у асноўным супадаюць, пастольку мне асабліва прыемна вітаць усіх удзельнікаў кангрэса з гэтай выдатнай падзеяй у жыцці беларускага народа і пажадаць усім

[1] Выступление на Кангрэсе дэмакратычных сілаў 2 ліпеня 2000 г.

плённай працы, добрага настрою і разумных канструктыўных думак.

Мне заўсёды вельмі прыкра чуць, калі многія кіраўнікі нашай краіны (нават самага высокага рангу) гавораць аб тым, што Беларусь — зусім маленечкая, такая бедная на прыродныя рэсурсы, што самастойна пражыць яна не можа. Таму неабходна хутчэйшае аб'яднанне з магутнай Расіяй, а яшчэ лепш — усіх славянскіх дзяржаў (праўда, пад гэтым чамусьці разумеюць толькі тры — Расію, Украіну і Беларусь, а забываюць, што такіх дзяржаў значна больш, а ў нашых трох і асабліва ў Расіі жывуць мільёны неславянскіх народаў). З гонарам падкрэсліваецца, што галоўная мэта аб'яднання з Расіяй — адзіная дзяржава, але (каб супакоіць многіх беларусаў) — з поўным захаваннем суверэнітэту Беларусі. Хіба гэта не абсурдная, зусім алагічная ідэя: адзіная дзяржава і поўны суверэнітэт? Як такое можа быць? Гэта падобна на тое, калі б акула праглынула рыбку, а тая, ледзь жывая, плаваючы ў страўніку акулы, крычала: «Вось як я здорава аб'ядналася, цяпер я ў поўнай небяспецы, мне не патрэбна ежа, а я поўнасцю самастойная».

Калі па многіх паказчыках (тэрыторыя, насельніцтва, прыродныя рэсурсы, рабочыя і інтэлектуальныя сілы і г. д.) параўнаць Беларусь з іншымі больш чым сарака краінамі Еўропы, дык наша краіна ўваходзіць ці ў першую дзясятку, ці ў першую палову. У Беларусі знаходзіцца трэцяе па запасах не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце радовішча калійных і каменных солей. Экспарт калійных солей прыносіць краіне больш валюты, чым продаж трактароў і аўтамабіляў разам узятых. Большасць краін Еўропы не могуць пахваліцца такім пералікам карысных выкапняў, як у нас, — гэта нафта і гаручыя сланцы, вугалі і торф, даўсаніт (алюмініевая і содавая сыравіна), мінеральныя і пітныя воды, мінералізаваныя расолы (вадкая руда для атрымання ёду, брому, калію, літыю, стронцыю і інш.), жалезныя руды, фасфарыты, сапрапелі, даламіты, цэаліты, гіпс і ангідрыт, рэдкія зямельныя элементы, золата і серабро, бурштын,

цэментная сыравіна, вытворчыя многіх будаўнічых матэрыялаў і інш. Японія, напрыклад, не мае і сотай часткі такіх выкапняў.

Вялізнае багацце Беларусі — землі з даволі ўрадлівымі глебамі, лугамі, прыдатнымі для вытворчасці прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі не менш, чым у Даніі ці Нідэрландах. Толькі для гэтага патрэбны не калгасы са старшынямі шклоўскага тыпу, а хаця б акцыянерныя таварыствы старавойтаўскага тыпу, а яшчэ лепш — нармальныя фермерскія гаспадаркі сучаснага еўрапейскага тыпу.

Шматлікія і разнастайныя лясы Беларусі з іх травянымі, грыбнымі і жывёльнымі кампанентамі; цудоўныя краявіды, азёры і рэчкі — гэта не толькі гаспадарчая, але і велізарная турыстычная сфера. Тут мы можам нават спаборнічаць з Балгарыяй, якая амаль трэць бюджэту зарабляе на турыстах. Да гэтага трэба далучыць нашы старажытныя гістарычныя аб’екты: замкі і палацы, касцёлы і цэрквы, разmaітыя помнікі прыроды.

Лес, трысняговая і рапсавая біямасы, рэкі і азёры, сонейка і вецер, выкарыстанне змены ціску ў нафта- і газаправодах і інш. — добрыя нетрадыцыйныя крыніцы атрымання энергіі.

Геаграфічнае месцазнаходжанне ў цэнтры Еўропы дазваляе выкарыстоўваць транзіт розных транспартных сродкаў, нафты і газу для значнага павелічэння бюджэту краіны.

Галоўнае багацце Беларусі — працавіты беларускі народ: выдатныя работнікі сельскай гаспадаркі, высокакваліфікаваны рабочы клас, вялікі навукова-тэхнічны патэнцыял, цудоўныя майстры фальклору, народных промыслаў, мастацтва і г. д.

Я думаю, што ні ў каго не засталося сумнення: Беларусь — багатая краіна. Вось толькі давесці такую багатую краіну да сучаснага жабрацтва (тут мы па многіх паказчыках амаль на апошніх месцах нават сярод краін СНД) — гэта трэба мець надзвычайныя адмоўныя якасці ў яе кіраванні. А зрабіць з міралюбівай талерантнай дзяржавы пудзіла Еўропы — гэта проста ганьба!

Мэтай дэмакратычных сілаў павінна быць стварэнне самастойнай дэмакратычнай дзяржавы Беларусь, якая разам з усімі іншымі краінамі свету і ў першую чаргу са сваімі суседзямі — Расіяй, Украінай, Польшчай, краінамі Балтыі — будуе нацыянальна свядомае грамадства, у якім незалежна ад веравызнання і нацыянальнасцяў багата, спакойна жывуць людзі, працуюць над паляпшэннем экалагічнага стану, развіццём культуры, адукацыі, навукі, эканомікі. Жыве Беларусь!

## Браты Гарэцкія і Уладзімір Дубоўка

Гаўрыла Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка — аднагодкі (адзін нарадзіўся 10 красавіка, другі — 15 ліпеня 1900 г.), равеснікі стагоддзя. Максім Гарэцкі — на 7 гадоў старэйшы за іх. І браты Гарэцкія, і Дубоўка паходзілі з сялянскіх сем'яў, першыя — з усходу Беларусі (Мсціслаўшчына), апошні — з паўночнага захаду краіны (Пастаўшчына). Роднае карэнне, беларуская мова, народнае мастацтва, цудоўная прырода зямелькі дзяцінства — вось вытокі іх жыццяздольнасці, аптымізму і плённай творчасці.

Браты Гарэцкія закончылі Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча. Максім разам з Янкам Купалам слухаў лекцыі ў Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута, але так і не атрымаў вышэйшай адукацыі. Гаўрыла, як выпускнік Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі, стаў эканамістам. Уладзімір Дубоўка закончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю, пару месяцаў вучыўся на гістарычна-філалагічным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, потым у Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце (пазней імя В. Брусава), рэктарам і прафесарам якога ў той час быў Валерый Брусаў. Але галоўнымі крыніцамі ведаў і станаўлення як грамадзян, пісьменнікаў і навукоўцаў для Гарэцкіх і У. Дубоўкі былі несупынныя самаадукацыя і самавыхаванне.

Напачатку 1920-х гг. Гаўрыла Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка жылі ў Маскве. У сувязі з вайной яшчэ ў 1915 г. сям'я Дубоўкаў

пераехала ў Маскву, а ў 1920–1921 гг. паэт служыў у Чырвонай Арміі. Гаўрыла ў 1920 г. паступіў у Пятроўскую сельскагаспадарчую акадэмію, дзе стварыў Беларускую культурна-навуковую асацыяцыю студэнтаў-беларусаў. 30 мая 1921 г. каля вёскі Ліхаборы недалёка ад станцыі Пятроўска-Разумоўскае адбылася арганізаваная гэтай асацыяцыяй маёўка, прысвечаная памяці Максіма Багдановіча. Уладзімір Дубоўка якраз меў адпачынак і прыехаў на маёўку. Гаўрыла, як старшыня асацыяцыі, зрабіў даклад пра творчасць М. Багдановіча, паводле ягоных жа словаў, мінорны. Ён успамінаў: *«І вось у абмеркаванні майго даклада слова бярэ Уладзімір Дубоўка. Прамова Уладзіміра была трапяткая, палкая, глыбокая па змесце, пераканаўчая. Дубоўка даводзіў, што творчасць Максіма Багдановіча была не такая песімістычная, што ён (Багдановіч) быў пэвен у вялікай будучыні беларускага працоўнага народа, у росквіце яго гаспадаркі, культуры, навукі, літаратуры, перамогі над усімі перашкодамі. <...> Уладзімір Дубоўка цытаваў на памяць многія вершы Багдановіча для ілюстрацыі сваіх доказаў, чытаў гэтыя вершы сапраўды па-мастацку, з выключнай артыстычнасцю, захапляў сваім словам усіх слухачоў, стварыў гераічны вобраз паэта-змагара, узнімаў настрой»*.

З таго часу Гурык і Уладзік (так яны называлі адзін аднаго) пасябравалі на ўсё жыццё. У жніўні 1921 г. Уладзіміра Дубоўку дэмабілізавалі з арміі і ён пачаў працаваць у Наркамаце асветы РСФСР і вучыцца ў Брусаўскім інстытуце, Гаўрыла Гарэцкі стаў адным з найлепшых вучняў вядомых эканамістаў — прафесараў Ціміразеўкі А. Чаянава, М. Кандрацьева і шмат часу аддаваў працы ў Беларускай асацыяцыі студэнтаў, што аб'ядноўвала больш як 200 сяброў і не толькі мела мэтай вывучэнне народнай гаспадаркі, культуры і гісторыі Беларусі, але і імкнулася да культурна-эканамічнага адраджэння Беларусі.

Бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый у 1922 г. выдала літаратурна-навуковы зборнік «Маладая Беларусь», што пачынаўся артыкулам Г. Гарэцкага «На новы шлях» і ў якім тры вершы змясціў У. Дубоўка.

У жніўні 1922 г. Г. Гарэцкі быў арыштаваны ў Маскве. Загінула, трапіўшы пад трамвай, вельмі здольная сястра Гарэцкіх — Ганна (яна паступіла ў Заатэхнічны інстытут), калі несла перадачу ў Лубянскую турму для брата. (Г. Гарэцкага збіраліся выслаць у Нямеччыну, але пасля яго размовы з намеснікам старшыні АДПУ НКУС В. Мянжынскім выпусцілі на волю.)

Гаўрыла Гарэцкі ўспамінаў: *«Ніколі не забуду сустрэчу з Уладзімірам Дубоўкам у верасні 1922 г. у Беларускім прадстаўніцтве на Малой Мікіцкай, 18. У горкія часіны, калі трагічна загінула, трапіўшы пад трамвай, адзіная ў нашай сям'і сястрычка Ганначка, студэнтка, Дубоўка суцяшаў мяне як брат. У хуткім часе Уладзімір Дубоўка склаў першую кнігу вершаў «Строма», як вяночак на магілу Ганулькі. «Строма» паказала, які здольны лірычны паэт з'явіўся на Беларусі, як блізка стаіць ён каля творчай постаці Максіма Багдановіча».*

«Строма» (1923) мае такое прысвячэнне: *«Светлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілку ў чужыне, прысвячаю. Аўтар».* Верш «Спагадае хто?» прысвечаны «Габрыэлю Г.» — Гаўрылу Гарэцкаму. Тут паэт звярнуўся не толькі да свайго сябра-паплечніка, але і да ўсіх маладых адраджэнцаў:

Маладое пакаленне,
Прачынайся, час прыйшоў.
Залатое Адраджэнне
Кліча ўсіх пад родны схоў.

Сябры сустракаліся і ў хаце Дубоўкаў. Вось як гэта запомнілася Г. Гарэцкаму: «*...Уладзімір быў вельмі падобны да сваіх бацькоў, асабліва да маці — і выглядам, і голасам, і моваю, і добразычлівасцю, спагадай. Адчувалася роднасць Уладзіміра і да бацькі — рахманасцю, разважлівасцю, рухамі, сціпласцю, пранікнёным поглядам вачэй, удумлівасцю. Ад бацькі перадалася Уладзіміру схільнасць да лінгвістыкі. Калі маці Дубоўкі нават у Маскве гаварыла толькі па-беларуску і была непісьменнай, дык бацька Уладзіміра валодаў рускай, польскай,*

*літоўскай, яўрэйскай і нямецкай мовамі. Маці Дубоўкі перадала яму не толькі лексіку беларускай мовы, але і яе мілагучнасць, усе тонкасці вымаўлення, музычнасці, выразнасці, фальклорнага багацця.*

*У сям'і Дубоўкаў панавала жывая, чыстая беларуская мова, у атмасферы якой арганічна ўзрастаў талент Уладзіміра як нацыянальнага паэта».*

На працягу 1923–1925 гг. Гаўрыла Гарэцкі выкладаў эканамічную геаграфію ў беларускім сектары Камуністычнага ўніверсітэта нацыянальных меншасцяў Захаду (Масква), а Уладзімір Дубоўка — тамсама беларускую літаратуру. Гаўрыла нярэдка хадзіў на лекцыі сябра, якія лічыў бліскучымі і вельмі цікавымі: «*Аднойчы трапіў я на лекцыю Дубоўкі пра Максіма Багдановіча. Гэта была лекцыя-імправізацыя. Уладзімір гаварыў без усякіх папер, без усякіх дапаможнікаў і падручнікаў. Урыўкі з твораў Багдановіча дэкламаваў на памяць.*

*Гэтая лекцыя нагадвала прамову Дубоўкі на ліхаборскай маёўцы ў 1921 г. Але больш увагі ў ёй надавалася аналізу мастацкай вартасці твораў Багдановіча, іх вытокаў, параўнанням, арыгінальнасці, сацыяльнай накіраванасці, ідэёвасці, новым шляхам, новым формам, філасофскаму асэнсаванню, неўміручасці беларускага слова.*

*Дубоўка гаварыў з выключнай перакананасцю, захапленнем, замілаваннем да Максіма Багдановіча, глыбокай павагай да надзвычайнай мужнасці паэта, да яго адданасці беларускаму працоўнаму народу і Беларусі. Студэнты слухалі Уладзіміра Дубоўку з найвялікшай увагай».*

З Вільні ў Мінск у 1923 г. прыехаў Максім Гарэцкі. У хуткім часе ён пачаў рыхтаваць да трэцяга перавыдання «Гісторыю беларускае літаратуры», у сувязі з чым запрасіў на сваю кватэру Уладзіміра Дубоўку і Алеся Якімовіча. Апошні згадваў: «*...Максім Іванавіч... меўся абмеркаваць з Дубоўкам першы раздзел гэтай кнігі — народную творчасць... Гэта была*

*размова двух знаўцаў вышэйшага, што называецца, класа ў такой справе».*

У сярэдзіне 1920-х гг. выйшла некалькі зборнікаў У. Дубоўкі. У архіве Гарэцкіх захоўваецца кніга «Наля» (1927) з надпісам: «*Гурыку Гарэцкаму. 20 ліпеня 27. Масква, Уладзік».* Верш «Цаля за цаляй» прысвечаны «Г. Г.» (Гаўрылу Гарэцкаму):

Любы мой браце! — не мы — дык другія,
Справа жывая не можа памерці.
Можам і не расцвіўшы загінуць,
Але не здрадзім ні думцы, ні сэрцу.

Максім Гарэцкі ў выступленні 2 студзеня 1925 г. на літаратурнай вечарыне «Маладняка», а потым у адпаведнай публікацыі адзначыў, што сярод іх ёсць вельмі здольныя паэты, і першым назваў У. Дубоўку. У 4-м выданні «Гісторыі беларускае літаратуры» (1926) ён больш падрабязна разгледзеў творчасць Уладзіміра Дубоўкі. Пазней назваў яго *«шукальнікам арыгінальнага хараства ў вершаскладанні»* і так ацаніў творчасць: *«...мастацтвам сваіх лірычных вершаў і паэмак заняў ужо адно з самых першых месц у беларускай паэзіі. У яго творчасці — глыбіня, музыкальнасць, свядомае хараство...».*

За гэты час Гаўрыла Гарэцкі стварыў кафедру эканамічнай геаграфіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі), стаў арганізатарам і дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Мінску, адным з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук і самым маладым (28-гадовым) акадэмікам за ўвесь час яе існавання.

Плённая творчая праца братоў Гарэцкіх і Уладзіміра Дубоўкі гвалтоўна абарвалася ў 1930 г. Яны разам з вялікай колькасцю прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі былі арыштаваны па выдуманых справах «Саюза вызвалення Беларусі» і «Беларускага філіяла Сялянскай працоўнай партыі». Усе былі сасланы і ў сярэдзіне 1930-х гг. зноў арыштаваны. Максіма Гарэцкага

10 лютага 1938 г. расстралялі ў Вязьме. Гаўрыла Гарэцкі яшчэ двойчы адсядзеў у сталінскіх казематах. Уладзіміру Дубоўку спачатку падоўжылі тэрмін высылкі на 2 гады, у 1937 г. асудзілі на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў, у 1949 г. ён быў арыштаваны ў трэці раз і атрымаў пакаранне — 25 гадоў зняволення.

Гаўрыла Гарэцкі стаў геолагам, займаўся інжынерна-геалагічнымі даследаваннямі для ўзвядзення шматлікіх гідратэхнічных збудаванняў. Уладзімір Дубоўка авалодаў многімі спецыяльнасцямі, працаваў цесляром, сталяром, мулярам, тынкоўшчыкам, эканамістам, бухгалтарам і інш. Пасля смерці Сталіна яны былі поўнасцю рэабілітаваны «за адсутнасцю складу злачынства»: У. Дубоўка ў 1956–1957 гг., Г. Гарэцкі — у 1958 г. Першы прыехаў у Маскву і пасля амаль 30-гадовага перапынку паступова ўключыўся ў літаратурную працу, другі амаль праз 40 гадоў, у 1969 г., змог вярнуцца ў Мінск, быў адноўлены ў званні акадэміка, арганізаваў у Інстытуце геахіміі і геафізікі АН БССР лабараторыю геалогіі антрапагену, загадчыкам якой і працаваў.

У 1959 г. Г. Гарэцкі і У. Дубоўка выпадкова сустрэліся ў цягніку «Масква–Мінск», едучы ў адным вагоне. Хоць мінула каля 30 гадоў з часу развітання, яны пазналі адзін аднаго адразу. Прагаварылі ўсю ноч. Гарэцкі быў *«здзіўлены і захоплены мудрасцю Дубоўкі, яго жыццёвым імпэтам, энергіяй, разуменнем людзей, маладосцю духам».* Прыблізна тое самае сказаў і Дубоўка пра Гарэцкага.

Сябры часта сустракаліся ў Мінску і ў Маскве, перапісваліся, абменьваліся творчымі планамі, дасылалі свае друкаваныя працы, дзяліліся ўражаннямі пра іх, падтрымлівалі адзін аднаго ў жыццёвых цяжкасцях, натхнялі на новы плённы ўздым…

Вось некаторыя вытрымкі з лістоў Гаўрылы Гарэцкага і Уладзіміра Дубоўкі[1].

---

[1] Лісты падаюцца ў правапісе арыгінала.

*«27.XII.65 <…> Не, я не перабольшваю. Ты створыш яшчэ беларускую «Песню пра Гаявату», «Калевалу». Каб толькі здароўе, ды доўгі век, ды ласкавае жыццё!*

*Усё гэта будзе, будзе! Усё папярэдняе падрыхтавала такі ўзыход на сапраўднае Узвышша…»*

*«5.XI.66 <…> Верым, што новы маскоўскі кругабег у жыцці Дубоўкі будзе такі ж пладзённы, як болдзінская восень Пушкіна. Якое гэта будзе шчасце!*

*<…> А калі мы зможам пачытаць «Жоўтую акацыю»?»*

*«17.III.1966 Дарагі Уладзік!*

*Сардэчная Табе падзяка за Твой ласкавы ліст ад 12.III.66, за дзіўны пераклад суровых вершаў Аношкі, за добрыя пажаданні. Упарта збіраю матар'ялы пра алювій Пра-Дняпра, каб праз два гады скласці трэцюю кнігу: «Алювіяльны летапіс вялікага Пра-Дняпра». І ў гэтай працы Твая сяброўская спагада так для мяне дорага. І Ты так дасканала і дэталёва разумееш працэс маёй працы, — мне гэта вельмі прыемна».*

10 жніўня 1967 г. У. Дубоўка падараваў кнігу «Жоўтая акацыя» з надпісам: *«Дарагім Ларысе Іосіфаўне і Гаўрылу Іванавічу Гарэцкім — на строгі суд і прыязную крытыку свой першы празаічны твор даручаю — з вялікай пашанай Уладзімір Дубоўка».* Ужо прыблізна праз тыдзень ён атрымаў адказ.

*«18.VIII.67*

*Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!*

*Надоечы прыехаў я з 50-дзённага падарожжа па Украіне і Беларусі і ў гэты час паштальёнка прынесла Твой найлепшы падарунак — «Жоўтую акацыю». Ларыса Восіпаўна і я бязмежна ўдзячны Табе.*

*Цікавая, арыгінальная кніга, у якой няма падабенства ні з якай папярэдняй.*

*Кнігу Тваю з удзячнасцю будуць чытаць не толькі юнакі і юначкі, але і дарослыя, асабліва настаўнікі, для якіх кніга Твая будзе настольнай.*

*Выхаваўчае значэнне Тваёй кнігі бязмежнае, — яна прышчэпіць моладзі палкае замілаванне да Радзімы, да прыроды яе і людзей, да жыцця, да раслін, узгадуе тысячы прыродалюбаў і прыродазнаўцаў, будучых батанікаў і аграномаў, лесаводаў і садаводаў.*

*Ты праклаў векавечны мост да людскіх сэрцаў і розуму (старонка 89). Хвала Табе, браце!»*

*«18.IX.67.*

*Дарагія Уладзік і Марыя Пятроўна!*

*Пасылаю спісаныя з «Маладой Беларусі» вершы…*

*<…> На ўзвышшы гадоў пабачылі мы зноў усё такога ж маладога Дубоўку».*

*«22.09.1967.*

*Братка Гурык!*

*Даруй — не адказаў адразу, не падзякаваў за тваю вялікую ўвагу і ласку — прысылку выпіскі з альманаху. Не гледзячы на тое, што пераклад верша Байрана зроблены ў 22 годзе — ён мне нават і цяпер спадабаўся. Я неяк не спадзяваўся, што ён нечага варты».*

*«30.X.67*

*Дарагія Уладзік і Марыя Пятроўна!*

*<…> А ўвечары, аж да паловы першае гадзіны начы, чыталі мы з Л. В. вершы Уладзіка ў рускіх перакладах.*

*Вельмі нам спадабаліся пераклады Ахматавай, Пракоф'ева, Камісаравай, Раждзесцвенскага. Яны захавалі выключную асаблівасць Дубоўкінага верша, яго музычнасць (кожны верш — гэта песня), вобразнасць, такую лірычнасць, слоўнае хараство.*

*І прадмова Пракоф'ева спадабалася, — дзякуй вялікаму другу Дубоўкінай паэзіі.*

*Чамусьці мне здалося, што «Полесские предания» з рытмам Бунінскай песні пра Гаявату маглі б зрабіцца асновай вялікай паэмы пра Беларусь.*

*Пэвен, што «Полесская рапсодия» спадабаецца рускім чытачам як самыя лепшыя творы класічнай рускай паэзіі».*

*«17.VI. 69*

*«Ганна Алелька» мне спадабалася. Чаруе хараство мовы, дынамічнасць, яснасць, прастата апавядання. Здаецца часам, нібы чуеш апавяданні Пушкіна, Бакачыа.*

*Вершаваныя ўстаўкі кранаюць сэрца, выгукаюць слёзы, надаюць апавяданню сапраўдную паэтычнасць.*

*Аповесць чытаецца з цікавасцю і хваляваннем за лёс гераіні. Аўтар малюе жывых людзей, добра кпіць з недарэкаў, дае багаты падтэкст. Веды аўтара бязмежныя, культура — найтанчэйшая, веданне жыцця, асабліва настаўніцкага, глыбокае.*

*Цікавы канец аповесці. Чытач ад усяго сэрца будзе спагадаць намеру аўтара паказаць жывых людзей у іх «паходзе ў светлую будучыню».*

*Ганна Алелька — светлы чалавек, якога нельга не палюбіць.*

*Толькі ці не занадта станоўчая яна гераіня? Ці не надта лёгка перaадольвае яна жыццёвыя перашкоды? Ці ўсе ўчынкі яе псіхалагічна апраўданы?»*

*«25 чэрвеня 1969. Падмаскоўе (Жукаўка)*

*Братка Гурык!*

*Шчыра і сардэчна дзякую за водгук на маю сціплую аповесць, які я атрымаў толькі сёння, бо жыву ў Падмаскоўі, адкуль мая Марыля ўцякла на некаторы час у Маскву.*

*Ты дарэмна так асцярожна і далікатна выказваеш свае заўвагі. Крытыкаваць ёсць, пэўна, шмат за што і я ніколі не пакрыўджуся за праўду!*

*Але каб табе было зразумела, чаму я сапраўды ідэалізаваў сваю гераіню, дам табе некаторыя тлумачэнні.*

*Мне думаецца, што да апошняга часу патэнцыяльныя магчымасці настаўніцтва не выкарыстоўваюцца як мае быць. Мне гэта нагадвае выпадак з дарэвалюцыйнага часу, калі ў адным месцы выдатных стаеннікаў запрагаюць у вадавозныя*

*бочкі, альбо калі цяпер (бывае так) на пяцітоннай аўтамашыне вязуць бідон малака.*

*А тым часам яшчэ Бісмарк сказаў, што «ў вайне 1870 г. французаў перамаглі не нямецкія салдаты, а нямецкі народны настаўнік». Толькі падумай: у нашай Айчыне ёсць цэлая армія высокакваліфікаваных працаўнікоў, якая па-за школьнай працай выкарыстоўваецца нават для дзяжурства на пажарных вышках, не кажучы ўжо пра перапісванне розных спісаў-рэестраў у канцылярыях мясцовай улады альбо спаганянне падаткаў.*

*Я імкнуўся (вось іншае пытанне — наколькі гэта мне ўдалося ажыццявіць) сваёй аповесцю падштурхнуць у першую чаргу саміх настаўнікаў на пошук шляхоў да паглыбленай працы ў сваёй галіне (маю на ўвазе спецыяльнасць кожнага з іх — хімік, фізік і г. д.), паказаць крыху ім, якая пры гэтым ёсць магчымасць, хаця гэты паказ і даецца ў маёй аповесці толькі пункцірам. Няхай жа яны самі падумаюць пра гэта і пашукаюць лепшага.*

*У нашай сучаснай беларускай літаратуры апублікаваны два творы з настаўніцкага жыцця: у 1958 (ці 1959) г. п'еса «Выгнанне блудніцы» і ў сёлетнім № 6 «Полымя» аповесць.*

*У першым творы пададзена настаўніца дзяўчына, якая робіць «сужыццё» з дырэктарам школы. І раптам з'яўляюцца дырэктаравы цесць, цёшча, жонка і пачынаюць ганяць тую дзяўчыну вакол стала, пасля чаго яна змушана была выехаць адтуль зусім.*

*Цікава, што сам дырэктар застаўся збоку, на яго не скіраваны ні аўтараў гнеў, ні гнеў родзічаў.*

*У другім творы (сёлетнім) паказана нейкая «настаўніца» тыпу Плюшкіна+Каробачка ды яшчэ няма ведама чаго. Яна крыўдзіць сваю радню, што прыехала на лета, ходзіць красці саўгасную канюшыну і г. д. і г. д.*

*Я не адмаўляю таго, што такія факты могуць быць у сапраўднасці. Можна знайсці больш цікавыя і больш «пікантныя».*

*Але ў сваёй аснове нашае настаўніцтва заслугоўвае таго, каб яго паказалі ў больш светлых танах, каб яго нават крыху і падхвалілі, тым самым сказаўшы: «Вось якім ты павінен быць», «вось якім ты можаш быць, абы тваё жаданне». Гэтым і толькі гэтым тлумачыцца ідэалізаванне Алелькі.*

*Як той казаў — «Боская воля!» — колькі я ведаю адмоўных прыкладаў! Нават засведчаных нашымі газетамі. Але ж такое адмоўнае бывае не толькі ў настаўнікаў. Няхай бы той пісьменнік... крануў каго рангам вышэй! — «Табу!» А настаўнікаў — можна.*

*Вось я лічу сваім прыемным абавязкам даць табе як дадатковае тлумачэнне да Алелькі. Буду спадзявацца, што сустрэўшыся асабіста мы кранём гэтае пытанне больш грунтоўна, а пакуль — з самымі найлепшымі пажаданнямі табе і Ларысе Восіпаўне, з сардэчным прывітаннем ад М. П. — Уладзік».*

*«9.XI.69*

*Дарагі Уладзік!*

*<...> Як радасна, што памяць Адама Бабарэкі адзначылі так цёпла. Ганна Іванаўна і Лора гаварылі нам пра святкаванне на Капыльшчыне — гэта сапраўды народнае ўшанаванне. А Тваё слова пра друга самае важкае.*

*Прачытаў я пра Тваю найвышэйшую ацэнку маіх прарэк і пачырванеў. Яны не варты нават невялічкай часткі Тваіх неўміручых вершаў. «О, Беларусь, мая шыпшына...», гэта верш, які ніколі не забудуць нашчадкі, як і многія другія Твае вершы.*

*На вечары беларускіх пісьменнікаў у Мінску, прысвечаным Міліцыі, гэты верш з вялікім запалам прачытаў С. П. Шушкевіч. Нібы электрычнасць запаліла пачуцці прысутных. Гэта словы Бога-Паэзіі да Пушкінскага Прорака — «глаголом жги сердца людей».*

*Вось Ты і ўладаеш найвялікшым талентам запальваць людскія сэрцы — «Восстань, пророк!». Адзін палымяны верш Твой варты сотняў тамоў.*

*А цяпер Ты — беларускі Рабіндранат Тагор. Пішы, што пішацца, у Тваіх руках усё неўміручае.*

*Ад усяго сэрца жадаю Табе найвышэйшага творчага ўздыму, да якога Ты ўсё больш набліжаешся».*

*«26 снежня 1970 г.*

*Дарагі братка Уладзік!*

*Дзякуй за ліст ад 24.XII.70, за віншаванне з Новым Годам і добрыя пажаданні.*

*Засмуціла нас вестка, што і Марыя Пятроўна і Ты пакрысе хварэеце, а часам — нават і цяжка нядужаеце.*

*А словы Твае «Адным словам — падышла зіма майго веку» сцісканулі сэрца...*

*Зімы ў паэтаў не бывае — дух іх, і асабліва Твой, не старэе. Ты ўсё яшчэ малады Волат, Асілак, і слова Твайго, песень Тваіх чакае Бацькаўшчына, прагна чакае.*

*Неяк у Маскве, у 1944 годзе, выпадкова сустрэўся я на станцыі метро «Бібліятэка Леніна» з Максімам Танкам, Гаманілі пра аднаўленне Беларусі, адкуль ужо прагналі фашыстаў. Гаманілі пра беларускую паэзію і яе будучыню праз 50–100 гадоў. «Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў?» І Максім Танк сказаў: «Купала, Колас, Багдановіч, Дубоўка»...*

*А надоечы я задаў такое ж пытанне аднаму з беларускіх літаратараў — «Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў у 2050 годзе?» І ў адказ пачуў тыя ж імёны. Дык ці ж маеш Ты права думаць пра сваю зіму? Ты павінен сказаць яшчэ свае вялікае слова, стварыць яшчэ не адну неўміручую «Шыпшыну». Братачка дарагі, пішы вершы, ніхто лепш не напіша. Усе чакаюць, Будучыня чакае, моладзь чакае, каб павучыцца ў Вялікага Майстра, у Старэйшага, самага таленавітага.*

*Перамажы самога сябе, свой часовы настрой. Пішы новыя вершы. Побач з сумам, гаркатой, палынамі будуць у іх прарочыя радкі, неўміручае, самае Тваё істотнае, крышталёвае, матэрыялізаваныя ў слова душа, талент, самае лепшае.*

*Не маўчы, дарагі Уладзік.*

*Ласкава Цябе цалую. Твой Гурык».*

*«8.VII.71*

*Вёска Дварэц на Дняпры, Рэчыцкага раёну. Дарагі, любы Уладзік!*

*Ад усяго сэрца віншую Цябе з Днём нараджэння, у які мо і прыйдзе да Цябе мой ліст.*

*Жадаю Табе, братка, перш-наперш трывалага здароўя, каб не чапіліся да Цябе ніякія хваробы, ні цела, ні духа.*

*І каб быў Ты заўсёды на Узвышшы, маладым і мудрым, каб нішто з мінулай гаркаты не засціла Табе залатую будучыню нашай Бацькаўшчыны.*

*І каб стварыў Ты не рэквіем беларускаму слову, а песню песняў, неўміручы паэтычны гімн нашай будучыні, нашага народу, яго Росквіту, Шчасця і Славы.*

*Многа прыгожага падараваў Ты Беларусі. А падаруеш яшчэ больш! Як Байран, як Пушкін, як Ясенін, як Міцкевіч, як лепшы з лепшых беларускай паэзіі, літаратуры.*

*Моцна Цябе абымаю, цалую.*

*Вітання ласкавага і віншавання Марыі Пятроўне.*

*Твой Гурык».*

*«10 ліпеня 1973 г.*

*Дарагі Уладзік!*

*Ад усяго сэрца віншуем Цябе з днём нараджэння. «А дні бягуць, а дні бягуць угрунь»... Не агледзішся, а ўжо ўсе сівыя валасы, толькі душа не сівее, больш трывалая, чым цела. Пялёсткі пачуццяў і думак застаюцца жыць у прыгожым Слове. Ты ўзняў нашае Беларускае Слова на п’едэстал Неўміручасці, Хараства, сапраўднай Паэзіі.*

*Дык жадаем Табе ўсё новага і новага ўздыму, вялікага хвалявання, новых вялікіх твораў:*

*А перш-наперш трывалага здароўя і Табе і Марыі Пятроўне, мудрай радасці, шчасця».*

*«21.VII.73*

*Дарагі, любы, братка Уладзік!*

*Сардэчна дзякую Табе за два лісты ад 16.VII.73, за Твае ласкавыя адносіны да Максіма, яго творчасці, лёсу, да яго сям’і.*

*Вялікае гэта свята для родных Максіма. А Тваё пажаданне аб хуткім складанні поўнага збору твораў — цудоўнае, але, мусіць, пакуль што недасяжнае.*

*Успомніў Ты «Строму» і паўстаў Твой вобраз таго часу як жывы, — столькі ў Табе было добрага ў той сумны кругабег.*

*Гэта ж было 50 год назад!*

*...Пра дзівасіл чытаў. Першыя ідэі часта застаюцца невядомымі...*

*Абымаем Цябе і Марыю Пятроўну.*

*Прывітанне Вам ад Л. В., усёй нашай сям'і і мяне.*

*Твой Гурык».*

5 мая 1970 г. Г. Гарэцкі быў у Маскве, дзе сустрэўся з сябрам. Яны вырашылі сфатаграфавацца, і праз некаторы час У. Дубоўка даслаў той здымак, на якім з сумным гумарам зрабіў надпіс:

Ай дзяды!.. Гляньце, колькі на іх сівізны!
А нядаўна ж былі маладымі яны:
удваіх накруцілі сто сорак гадоў…
Застаецца Капа да двух круглых вякоў.
Паднаціснем, браток, ды… ў Зацішны Куток…

*Масква. Ул. Дубоўка*

Гаўрыла Гарэцкі кароткія ўспаміны пра некаторыя сустрэчы з Уладзімірам Дубоўкам завяршыў, углядаючыся ў гэты фотаздымак: «*З фотакарткі ўзіраецца мудры Чалавек, з ласкавым поглядам маладых вачэй, з пышнай сівой барадою і добрай чупрынай сівых валасоў.*

*Здаецца, што гэта Чараўнік Жыцця, пераапрануты Юнак, які пазнаў усе таямніцы жыцця і не згубіў ні веры ў яго, ні цікавасці. <...>*

*Зарана адышоў Дубоўка ў «Зацішны Куток», не сказаўшы свайго велічнага і апошняга слова».*

***2000***

## «Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй Радзімы і яе славы…»

Адначасова з развалам СССР рвалася «жалезная заслона» паміж Усходам і Захадам, і да нас паступова пачалі вяртацца невядомыя нам раней многія імёны славутых землякоў. Адбылося вяртанне і Барыса Кіта. Толькі амаль праз 50 гадоў жыцця па-за межамі Беларусі ён змог прыехаць на бацькаўшчыну. Гэта здарылася ўлетку 1992 г., калі і я змог пазнаёміцца са знакамітым беларусам. К таму часу я ўжо сёе-тое даведаўся пра Барыса Кіта з артыкулаў Б. Сачанкі, Я. Лецкі. Апрача таго да мяне як віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, які вёў у Прэзідыуме кадравыя пытанні, паступілі паперы ад акадэміка Юрыя Астроўскага і прафесара Адама Мальдзіса з прапановай абраць Барыса Кіта ганаровым членам нашай Акадэміі навук.

Барыс Кіт многа аддаваў сіл навуцы, калі працаваў у ЗША ў галіне астранаўтыкі, удзельнічаў у шматлікіх кангрэсах міжнароднай федэрацыі астранаўтыкі, быў прафесарам навучальных устаноў, а ў апошнія гады прафесарам еўрапейскага аддзела Мэрылендскага ўніверсітэта ў Гайдэльбергу (ФРГ) і г. д. Мяне асабліва ўразіла і прываблівала яго педагагічная дзейнасць у Беларусі як настаўніка і дырэктара гімназій і школ у розныя складаныя часы — і пры паляках, і пры Саветах, і пры немцах, калі, як ён успамінаў сам, «пры ўсіх уладах мне даводзілася сядзець у турмах за тое, што я вучыў дзяцей беларускай мове і гісторыі». Нягледзячы на неймаверныя цяжкасці, ён заўсёды заставаўся сапраўдным патрыётам Радзімы, прыхільнікам беларушчыны і гэтыя святыя пачуцці шчыра перадаваў сваім вучням.

Упершыню я ўбачыў Барыса Кіта, калі ён завітаў да мяне ў Акадэмію навук у згаданы прыезд. Увайшоў сярэдняга росту каржакаваты чалавек. Кідалася ў вочы выразная форма галавы з вялікім выпуклым ілбом і жвавымі разумнымі вачыма. Імклівы, рухавы, ён загаварыў хуткім тэмпам на прыгожай беларускай

мове наваградскага гатунку. Адразу адчулася яго таварыскасць і добразычлівасць, і таму ўжо хвілін праз дзесяць нам здалося, што мы даўно знаёмы і добра разумеем адзін аднаго, хаця і ахапілі ў нашай не такой і працяглай размове многія самыя разнастайныя тэмы.

Зноў мы сустрэліся з Барысам Кітам у верасні 1994 г. на Генеральнай асамблеі Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі ў Мінску, калі мы, заснавальнікі акадэміі, ва ўрачыстых абставінах аднагалосна абралі нашага славутага земляка членам акадэміі і яе віцэ-прэзідэнтам. У тыя гады адбылося выбуховае прызнанне на радзіме Барыса Кіта: ён быў абраны ганаровым членам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, ганаровым доктарам навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (г. Гродна), ганаровым грамадзянінам горада Наваградка і г. д. У друку з’явілася вялікая колькасць артыкулаў пра жыццё і дзейнасць вучонага і грамадскага дзеяча. Выйшлі з друку найбольш поўныя працы аб ім — кнігі Лідзіі Савік «Вяртанне» (1993) і «Космас Беларуса» (1966). Тады ж ён быў абраны паўнапраўным членам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Францыя) і ўзнагароджаны залатым медалём Германа Обэра (ФРГ).

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» разам з Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Францыска Скарыны вельмі цёпла, урачыста і ўзнёсла адзначылі юбілейныя даты Барыса Кіта — 85-годдзе і 90-годдзе з дня яго нараджэння. На жаль, у сувязі са зменай палітычнай сітуацыі ў Беларусі Барыс Кіт не змог прыехаць і прысутнічаць на гэтых урачыстасцях, але яго вера ў нацыянальную беларускую ідэю, яго любоў да Бацькаўшчыны натхняе ўсіх сапраўдных беларусаў на змаганне за нацыянальнае адраджэнне і пабудову незалежнай багатай еўрапейскай дзяржавы — вольнай Беларусі.

*2001*

# Вялікае каханне

Трынаццаць гадоў таму, 20 лістапада 1988 г., памёр мой тата — акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Амаль на Дзяды. У гэтыя дні памяць больш яскрава высвечвае яго аблічча, яго постаць, усё яго жыццё… А жыццё было такім складаным, такім нялёгкім, а нярэдка і трагічным. Як і многія беларускія інтэлігенты таго часу, ён прайшоў страшэнны гулагаўскі лабірынт сталінскага бальшавізму. Я заўсёды здзіўляўся мужнасці гэтых людзей. Што ім дапамагала перанесці ўсе тыя жудасныя пакуты і ўсё ж заставацца сапраўднымі добразычлівымі людзьмі з чыстымі душамі? Гэта — прага да жыцця, бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, уменне знаходзіць задавальненне ў рознай, як разумовай, так і фізічнай, працы, а каму пашчасціла — вялікае каханне.



12.VII.38 Мае сонейка!
Вітаю цябе з-над берагу
Анежскага возера. Хвалі б'ю-
цца, [illegible] іх шум, я так
люблю яго.
Мая дарагая, любая! Я
сабраў бы ўсе праменні сон-
ца, каб зрабіць цябе шчась-
лівай. Мне так хочацца,
каб будучыя твае дні былі
[illegible] цвярозымі,
[illegible]! Нашы дзеці, нашы
[illegible] заменяць тваё
бацькі. Будзь мужнай, моцнай,
[illegible].
[illegible], спакойнай.
Памятай, што думкамі з
кожнай хвілінай з табой
[illegible] Гурык
Так і будзь, шчаслівая,
[illegible], дзяванька, і мае ва-
[illegible] [illegible]




рожнік.
Цалую цябе, матулю, і [illegible]
Ты ўжо аддала [illegible]
цябе вечна, бязмежна.
Цалую моцна любых [illegible]
[illegible] і Радзіму, бацьку і маці.
Абдымаю цябе. Назаўсёды тв. Гурык

8 ліпеня 1939 г. з турмы пасёлка Мядзведжая Гара (цэнтр будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала) Гаўрылу (Гурыка, як яго звала маці і жонка) удалося перадаць ліст да жонкі, у якім выказаў сваё вялікае каханне да яе і які нейкім цудам захаваўся да нашага часу. Відаць, таму, што гэты арышт быў апошні і вобыскаў-ператрусаў болей не было. Ліст напісаны алоўкам дробнымі літарамі на маленечкіх папяросных лісточках, якія «Київ-паліграф» выпускаў пад назвай «розкурка» ў якасці «цыгаровий папер» (гл. фота).

Гэты ліст я пад назваю «Ліст з турмы пра каханне» надрукаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» 16 лістапада 2001 г. З часам хачу напісаць кнігу «Лісты жыцця і кахання», у якой змяшчу вытрымкі з перапіскі бацькоў.

*2001*

## «Нацыянальнае» на чужой мове

Калі ў пачатку 90-х гг. некаторыя супрацоўнікі (у тым ліку і я) прапаноўвалі надаць Акадэміі навук Беларусі статус нацыянальнай, дык большасць успрымала гэта вельмі адмоўна і нават ваяўніча-варожа, бо слова «нацыянальны» ў свядомасці савецкіх людзей заўсёды несла негатыўнае адценне, як «нацыяналістычнае», як «нацыяналізм» (супрацьлеглы шырока рэкламаванаму прагрэсіўнаму «інтэрнацыяналізму»). З часам такое стаўленне да паняцця «нацыянальны» стала змяняцца, і ўсё больш вучоных пачалі падтрымліваць назву Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Але адначасова разам са зменай уладаў, пасля выбараў першага прэзідэнта і асабліва пасля ганебнага рэферэндуму 1996 г., калі дзяржаўнай была абвешчана не толькі беларуская, але і руская мова, усё менш пачала гучаць спачатку ў начальства афіцыйных колаў, а потым і ва ўсіх астатніх, роднае беларускае слова, і калі нарэшце Акадэмію навук перайменавалі ў Нацыянальную, беларуская мова амаль знікла з ужывання ў акадэміі. Вось такі парадокс: чым

больш гаворым «нацыянальная», тым менш гучыць мова беларуская, як быццам нацыянальная і мова не ходзяць поруч, а нешта супрацьлеглае. Відаць, такое магчыма толькі ў нас: «нацыянальнае» на чужой мове.

*2001*

## Хто кім круціць?

У краінах Скандынавіі двух- і трохпавярховыя катэджы — галоўнае жыллё ў гарадах і вёсках. Вакол катэджаў невялікія чыста дагледжаныя ўтульныя зялёныя дворыкі з асобнымі дрэвамі ядлоўцу, сосен, елачак ці нават кіпарысаў. Шырокія і вузкія веранды, вокны абстаўлены рознымі прыгожымі кветкамі. У дворыках таксама акуратныя кветнікі, іншы раз скульптуркі, хатачкі, млыночкі — спакойнае жыццё, ідылія…

На адной хаце над уваходам стаіць невялічкі ветрачок-флюгер, ад вярчэння якога два чалавечкі круцяць ручку-калаўрот, — калі глядзіш, дык адразу не зразумела, хто кім круціць, і здаецца, што чалавечкі круцяць ветрачок, але потым разумееш, што ўсё наадварот… Чалавечкі поўнасцю падобны да першага прэзідэнта адной дзяржавы ў цэнтры Еўропы, як быццам іх зрабіў не скандынаўскі жыхар, а нашы выдатныя мастакі, два Алеся — Пушкін і Мара. Так і ў той дзяржаве галоўны чалавечак думае, што ён круціць усёй «вертыкаллю» чыноўнікаў сваіх, усёй краінай, а другі раз яму здаецца, што і ўсім славянствам, усёй Расіяй і нават светам. Але калі прыгледзецца, дык невядома, ці так гэта…

*2002*

## Незалежнасць

Незалежнасць — вельмі строгае і важкае слова, якое выклікае шмат думак, параўнанняў, асацыяцый, эмоцый. Гэта — нешта моцнае і нерухомае, як крэпасць, і ў той жа час дзейнае,

бо яно адмаўляе «лежня» — лодара; спакойнае і турботнае; магутнае і кволае; гаспадарчае, звязанае з законам, і свабоднае; гордае і смелае; вальнадумнае і гераічнае… Гэта — паняцце шматграннае, разнастайнае, бо яно існуе не толькі на бытавым і звычайным узроўні, але і ў многіх навуках: гісторыі, філасофіі, сацыялогіі, правасуддзі, матэматыцы, фізіцы, тэхніцы, геалогіі і іншых прыродазнаўчых напрамках ведаў. Для чалавека яно можа быць асабістым і калектыўным.

Асабліва вялікае кола людзей цікавіць і хвалюе незалежнасць у гістарычным плане, у развіцці чалавецтва. Канешне, поўнай, абсалютнай незалежнасці чалавек не можа мець, бо ён у значнай ступені залежыць ад прыродных з'яў і навакольнага асяроддзя (таму што і сам з'яўляецца часцінкай прыроды). Людзі не могуць не залежаць адзін ад аднаго, ад калектыву, ад вёскі і горада, ад дзяржавы і ўсяго сусвету. Колькі намаганняў паклаў чалавек дзеля таго, каб менш залежаць ад прыроды! Многае яму ўдалося, і адзін час ён нават адчуў сябе богам і вырашыў, што можа ўзяць ад прыроды ўсё, што захоча, перарабіць яе так, як захоча. Але, нарэшце, зразумеў, што прырода і сусвет вышэй за яго, што Зямля і Космас — гэта яго адзіны дом, які дадзены яму на ўсе вякі і толькі адзін раз. Таму экалогія (навука аб доме людзей) стала чалавеку патрэбнай, ён зразумеў яе неабходнасць, і з часам яна робіцца ўсё больш важнай, бо без глыбокага і дасканалага вывучэння прыроды, без гарманічнага зліцця з ёй чалавецтва можа моцна дэградаваць, а то і зусім і назаўсёды загінуць. Тут патрэбна разумная мера незалежнасці.

З часам кожны чалавек, група людзей, а затым і асобныя народнасці і нацыі так ці інакш імкнуліся да сваёй незалежнасці, якая заўсёды заставалася адноснай. І нават наадварот, стала зразумела, што некаторая мера залежнасці (праз узаемную дапамогу, гандаль, мірнае існаванне і г. д.) дапамагае захаваць сваю незалежнасць. Колькі ў гісторыі прыкладаў барацьбы за дзяржаўнасць, за незалежнасць — гераічных і трагічных, яскравых і змрочных! Можна сказаць, што ўся гісторыя чала-

вецтва — гэта змаганне за незалежнасць. I амаль заўсёды такая барацьба прыводзіла да незлічонай колькасці людскіх ахвяр.

На жаль, Беларусь не стала тут выключэннем, а нават наадварот, па колькасці загінуўшых у адносінах да ўсіх жыхароў уваходзіць у першыя рады краін свету. Нягледзячы на тое, што дзяржаўнасць нашага народа склалася яшчэ ў першым тысячагоддзі н. э., а затым дасягнула свайго росквіту ў XV–XVI стст. («залатым веку») у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і большасць гарадоў, у якасці праявы самастойнасці, атрымалі граматы на магдэбургскае права, нацыянальная незалежнасць краіны паступова была страчана на некалькі стагоддзяў у складзе спачатку Рэчы Паспалітай, а потым Расійскай імперыі. Бясконцыя войны, гераічныя паўстанні, якія выклікалі многія тысячы людскіх ахвяр і расцярушванне беларусаў па ўсім свеце, не прывялі да аднаўлення незалежнай дзяржавы — стрыжня беларускай нацыянальнай ідэі.

На пачатку XX ст. намаганнямі нацыянальных адраджэнцаў быў сабраны Усебеларускі з’езд, які хоць і быў разагнаны бальшавікамі, але паспеў 25 сакавіка 1918 г. абвясціць Беларускую Народную Рэспубліку як незалежную вольную дзяржаву. Яе існаванне было вельмі кароткім. БССР таксама не стала незалежнай краінай.

Найвялікшая каштоўнасць, якую здолеў здабыць беларускі народ напрыканцы мінулага тысячагоддзя і ўвайсці ў новае, гэта — незалежная дзяржава Беларусь, што адзначана ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце (1991) і залатымі літарамі ўпісана ў Канстытуцыю краіны.

Незалежнасць Беларусі хоць фармальна і існуе, але яна вельмі кволая, далёкая ад сапраўднай, і ўвесь час над намі вісіць рэальная небяспека страціць яе, што было б смяротнай падзеяй для беларускай нацыі. Таму многія, каму дарагая Бацькаўшчына, сабраліся на II Усебеларускі з’езд за незалежнасць (ліпень 2000 г.) і прынялі Акт Незалежнасці Беларусі, за які прагаласавала 1376 дэлегатаў з усіх раёнаў краіны. Я вельмі задаволены, што мне давялося тады быць адным з чатырох

сустаршынь аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні з’езда і рабіць асноўны даклад.

Якой жа ўяўляецца сапраўдная незалежнасць краіны? Толькі дэмакратычная цывілізаваная дзяржава можа гарантаваць незалежнасць сваім грамадзянам і самой краіне, якую здолеюць пабудаваць нацыянальна свядомыя жыхары — сапраўдныя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны. Улады незалежнай дзяржавы ўнутраныя справы і міжнародныя адносіны вырашаюць, будуюць, як правіла, самастойна і абавязкова на карысць сваёй краіны, свайго народа. Улады павінны быць такімі, каб грамадзяне краіны не саромеліся за іх, а ганарыліся.

Незалежнасць — інтэгральны феномен, які складаецца з вельмі многіх кампанентаў, страта нават аднаго з якіх можа нанесці частковую ці значную шкоду, а то і зусім пахіснуць яе. Гэта — родная мова, нацыянальная культура і навука, адукацыя і выхаванне; эканоміка (прамысловы і аграрны яе сектары, фінансава-крэдытная сістэма); рознабаковая бяспека: харчовая, медычная (у тым ліку і лекавая), інфармацыйная, сацыяльная, экалагічная, дэмаграфічная, ваенная і інш. Вырашэнне адзначаных накірункаў можа выканаць толькі вельмі адукаванае, культурнае, кампетэнтнае, нацыянальна свядомае кіраўніцтва краіны, якое праводзіць шэраг разумных эканамічных, сацыяльных і палітычных рэформаў, — калі не народ для ўрада, а ўрад для народа. У такой дзяржаве ўсім кіруе Канстытуцыя і Закон, а не ўказы аднаго чалавека. Незалежнасць пануе ў той дзяржаве, у якой незалежныя ўсе чатыры ўлады: заканадаўчая, выканаўчая, судовая і інфармацыйная. Беларусь стане па-сапраўднаму незалежнай толькі тады, калі адзначаныя паказчыкі будуць рэаліямі нашага жыцця.

Пакуль беларускамоўны беларус не будзе баяцца атрымаць абразлівы вокрык: «Говори на нормальном языке!» ці ярлык «нацыяналіста», «апазіцыянера», «бэнээфаўца», а то і «фашыста» толькі за тое, што размаўляе па-беларуску; пакуль не загучыць паўсюль беларуская мова — у дамах і на вуліцах, з

вуснаў міністраў і парламентарыяў, вяскоўцаў і гараджан, — не зможам пабудаваць незалежную краіну. Пераважна беларускамоўнымі павінны стаць садкі і школы, гімназіі і вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэлебачанне і радыё, тэатры і кіно, газеты і часопісы, цэрквы і касцёлы, пошта і магазіны і г. д. Адначасова ў некаторых раёнах патрэбна, каб былі школы, іншыя пералічаныя ўстановы і сродкі масавай інфармацыі на мовах нятытульных нацыянальнасцяў (рускай, польскай, украінскай, габрэйскай, татарскай, літоўскай), каб рускі чалавек мог пайсці ў царкву праслухаць службу на сваёй мове, паляк — у касцёл, татарын — у мячэць, а габрэй — у сінагогу.

Пакуль будзем у назвах вуліц, калгасаў і пасёлках, як і раней, упарта ўшаноўваць памяць многіх царскіх і бальшавіцкіх дзеячаў антыбеларускай накіраванасці (Сувораў, Дзяржынскі, Кнорын, Мяснікоў, Варашылаў і інш.) і, наадварот, ледзь-ледзь успамінаць, ігнараваць, а то і зусім забываць нашых шматлікіх беларускіх выдатных прадстаўнікоў літаратуры, культуры, навукі, грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў, не жыць нам у самастойнай Беларусі.

Чым больш нашых жыхароў будуць трапляць у аддзяленні міліцыі і атрымліваць штрафы за падтрымку старадаўніх нацыянальных сімвалаў (бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня» і інш.), за купалаўскі жыццярадасны патрыятычны покліч «Жыве Беларусь!», тым далей мы будзем ад незалежнасці. Толькі з гэтымі нацыянальнымі атрыбутамі можна пабудаваць суверэнную Беларусь.

Пакуль не пакаемся ў бальшавіцка-сталінскіх злачынствах, не пабудуем мемарыяльныя комплексы і помнікі не толькі ахвярам фашызму і Вялікай Айчыннай вайны, але ў Курапатах і іншых многіх мясцінах «жоўтых пясочкаў» (па В. Быкаву), не жыць нам у самастойнай краіне.

Пакуль будзе існаваць занадта вялікая армія сілавых службаў і асабліва атрадаў тыпу «эскадронаў смерці», якія не могуць абараніць насельніцтва ад крымінальных структур, ад карупцыі, а нават садзейнічаюць знікненню шэрага вядомых

палітычных дзеячаў-апазіцыянераў, не будзем мы адчуваць сябе незалежнымі.

Пакуль страх, хлусня, двудушша, халуйства не пакіне наша грамадства, не сыдзе з сэрца і душы большасці жыхароў, не зможам пабудаваць самастойную дзяржаву.

Калі жыццёвыя і сацыяльныя ўмовы ў Беларусі будуць такімі, што яе грамадзяне не захочуць папаўняць рэкі «ўцечкі мазгоў», пакідаць сваю радзіму ў пошуках лепшага жыцця і працы, а наадварот, родная краіна зробіцца прыцягальнай для вяртання тысяч суайчыннікаў, кожны трэці з якіх жыве цяпер па-за межамі бацькаўшчыны, тады ёсць надзея на незалежнасць Беларусі.

Добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету і асабліва з нашымі суседзямі — Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой і Латвіяй — дазволяць стаць Беларусі суверэннай дзяржавай, якую прызнае ўвесь свет і якая будзе карыстаецца вялікай павагай як цывілізаваная краіна.

Толькі нацыянальнае адраджэнне, якое павінна быць інтэгральным і закрануць усе сферы жыцця, толькі нацыянальнае абуджэнне, якое авалодае народамі Беларусі, прывядуць да пабудовы сапраўды незалежнай багатай еўрапейскай краіны, у якой будзе заможна, культурна і шчасліва жыць кожны чалавек, незалежна ад нацыянальнасці і канфесійнай прыналежнасці. Вось тады нарэшце мы дойдзем да Беларусі, якая будзе існаваць вечна!

## У край «шчаслівага» дзяцінства

Запрасілі ўдзельнічаць у міжнароднай канферэнцыі «Глыбінная будова і геадынаміка літасферы», якая павінна адбыцца ў верасні 2002 г. у сталіцы Рэспублікі Карэлія Петразаводску. Адразу даў згоду не толькі таму, што тэматыка канферэнцыі цікавая і ёсць што самому расказаць і абмеркаваць гэтыя праблемы, але яшчэ і таму, што пацягнула пабачыць тыя мясціны, дзе прайшло ўжо, на жаль, далёкае па часе дзяцінства, а ў

Карэліі і на Кольскім паўвостраве я пражыў амаль пяць гадоў (1934–1939) з малымі перапынкамі.

Вось я ўжо ў досыць утульным і цёплым купэ. Няма больш добрага часу і лепшага месца, чым цягнік, калі не трэба нікуды спяшацца, можна спакойна падумаць і ўспомніць мінулае, асабліва калі трапяць маўклівыя суседзі ці пашанцуе аказацца зусім аднаму. Пад лёгкае пакалыхванне і ціхае пагрукванне колаў пачалі ўсплываць малюнкі дзяцінства, якое цалкам прайшло пад лозунгам «Спасибо великому Сталину за наше счастливое детство!». Наогул большая частка жыцця майго, ды і папярэдняга, пакалення праходзіла пад бадзёрыя бальшавіцкія заклікі, якія былі паўсюдна: на вуліцах, у газетах, радыё, кнігах, падручніках, словах настаўнікаў, начальнікаў і амаль усіх людзей… Насуперак рэаліям нашага жыцця, яны паступова рабілі сваю справу і так моцна ўбіваліся ў галовы, што замбіравалі душы і думкі людзей, ды так магутна, што многія і да гэтага часу не могуць вызваліцца ад іх.

Дык якое было тое маё маленства? Калі больш сталае жыццё праходзіць у памяці многімі падрабязнымі кадрамі, дык дзяцінства — толькі асобнымі, часта не надта значнымі, і таму не зусім зразумела, чаму менавіта тымі, якія захаваліся і ўсплываюць у канцы жыццёвага шляху. Найбольш ранні ўспамін — гэта сустрэча бацькі на мінскім вакзале летам 1930 г., калі мяне малога, які толькі-толькі навучыўся вымаўляць першыя словы — «мама» і «тата», — вайсковец са стрэльбаю не пускае да сумнага, няголенага, але такога роднага чалавека. Я цягнуся да яго, крычу: «Тата, тата!» і горка ў адчаі плачу. Адабралі бацьку ад малога, які зноў убачыць свайго тату толькі праз чатыры гады… Пачалося блуканне па свеце.

Успомніліся жудасныя болькі ў страўніку і мой бясконцы крыклівы плач, які маці і дзядзька Парфір стараюцца хоць якнебудзь троху зменшыць, бо вельмі незадаволены гаспадары чужой хаты, дзе прытулілася маці з дзеткамі (мной і маім бра-

там) пасля таго, як жонку «ворага народа» выгналі з кватэры і звольнілі з працы.

А вось і Брылёва пад Гомелем, куды нарэшце ўзялі маці на працу аграномам-селекцыянерам. Маці ў полі наградках сярод перцаў, бабоў і іншай гародніны, а мы, малыя хлопчыкі і дзяўчынкі, каля вялікага двухпавярховага сарая, на страху якога можна забрацца па лесвіцы, а туды так цягне… Спрачаемся — хто туды залезе і скокне. Я паціхеньку ўзяў у маці парасон і пад бадзёрыя крыкі сваіх сяброў забіраюся на самы верх, расчыняю парасон, хоць і вельмі страшна, але скачу ўніз. Добра, што трапляю на капу сена, але ўсё роўна ўвесь тыдзень кульгаю, а ад маці атрымліваю моцную прачуханку. Асабліва страшна было праходзіць міма пчальніка, бо шмат гаварылі пра куслівых пчол. А хто баіцца, на таго яны часцей і накідваюцца. Аднойчы і мне дасталася — толькі і выратавала бочка з вадой, у якую я цалкам улез. Доўга хадзіў з прыпухлымі вачыма.

Некаторы час жылі ў сям'і цёці Лёлі — жонкі Максіма Гарэцкага, а затым там застаўся мой брат Усяслаў, а мяне з бабуляй маці адаслала да свайго бацькі Восіпа Іванавіча, які працаваў начальнікам чыгуначнага вакзала на станцыі Мокрае каля Запарожжа. Невялікі пакойчык на самім вакзале з шырокім падваконнем, дзе я гадзінамі сядзеў зусім адзін і лупіў вараную бульбу, бо дзед быў на працы, а бабуля ездзіла па прадукты аж у Запарожжа. Глядзеў у акно, як рухаюцца туды-сюды паравозы, цягнікі, і хоць быў яшчэ зусім малы, але таксама хацелася некуды ехаць і вандраваць. Можа, ужо тады пасялілася ў душы цяга да вандраванняў, якая і прывяла мяне да прафесіі геолага.

Цяпер я еду па шляху, па якому 71 год таму везлі не ў камфортным купе, а ў перапоўненай вязнямі цяплушцы для жывёлы майго бацьку на Салаўкі. У Оршы — перасыльным пункце Беларусі — ён развітаўся з жонкай, маці, братам Іванам, і ўсе яны не ведалі, на які час, а можа, і назаўсёды. Дзівіўся мужнасці жанчын, якія не пралілі пры ім ніводнай слязінкі. Дабрыня, ласка, любоў родных моцна падтрымалі, падбадзё-

рылі. У Віцебску высадзілі з вагонаў і трымалі пад дажджом больш за дзве гадзіны — прамоклых, змерзлых, прыніжаных адкрытым здзекам… А далей былі Ленінград, Петразаводск, Кем… Праз чатыры гады бацька як ударнік працы быў вызвалены датэрмінова, прыехаў па нас у Мінск, і мы ўсёй сям'ёю зноў прарабілі гэты шлях да Кольскага паўвострава (пасёлкі Кола і Мурмашы пад Мурманскам), а затым і Мядзведжай Гары — цэнтра будоўлі Беламорска-Балтыйскага канала. Хоць і быў бацька фармальна вольным, але яму катэгарычна раілі (як казалі ў сталінскі час — «дабравольна-прымусова») заставацца працаваць на будоўлі канала ў якасці вольнанаёмнага.

У мяне цяпер, як і тады ў бацькі, калі я глядзеў у акно на цудоўныя беларускія краявіды, узнікалі, амаль аднолькавыя думкі, як быццам і не мінула больш за 70 гадоў. Чаму так цяжка народу беларускаму на такой прыгожай зямлі? Чаму беларусам, якія маюць такую багатую гісторыю з амаль 1000-гадовай дзяржаўнасцю так і не задалося ўтрымаць самастойнасць і цяпер, калі афіцыйна аб'яўлены суверэнітэт дзяржавы, зноў трэба адстойваць незалежнасць? Чаму беларусы, якія далі свету многа славутых імён, не могуць адстаяць беларушчыну, а больш служаць то аднаму, то другому суседу? Чаму такі працавіты, добры, таленавіты народ застаецца абяздоленым? Чаму беларусам, якія так любяць сваю зямлю, часта зусім няўтульна жыць у родным краі, чаму іх тут крыўдзяць, і яны ніяк не могуць дасягнуць таго, каб «людзьмі звацца»? Чаму лепшыя шчырыя беларусы знішчаліся, сядзелі за кратамі, вымушаны былі пакінуць сваю бацькаўшчыну? Несправядлівы лёс расцярушваў жыхароў краіны па ўсім свеце, моцная асіміляцыя, як іржа, раз'ядала самасвядомасць беларусаў. Чаму хвалі нацыянальнага адраджэння былі такімі кароткімі і хутка змяняліся працяглымі прымаразкамі? Такіх пытанняў бясконца шмат — на многія ёсць адказы, але не меншую колькасць цяжка дасканала растлумачыць. І сэрца сціскаецца ў страшэнным жаху, калі пры сучаснай тэндэнцыі развіцця падзей (палітычных, эканаміч-

ных, культурна-моўных, дэмаграфічных, экалагічных і інш.) пачынаеш уяўляць, што і сапраўды можа знікнуць Беларусь з геаграфічнай карты Еўропы, а пра беларусаў як нацыю будуць успамінаць толькі ў кніжках…

Петразаводск — чысты, зялёны, прыгожы горад, які прытуліўся да адной з затокаў Анежскага возера і выцягнуўся ўсцяж яго амаль на 25 км. Апошняе, калі зірнуць на геаграфічную карту, мае выгляд далоні, пальцы якой на поўначы ўяўляюць некалькі вузкіх затокаў і завуцца губамі. Найбольш кароткая з іх на захадзе — гэта і ёсць Петразаводская губа, а на ўсходзе — самая працяглая Мядзведжагорская губа, на канчыку якой знаходзіцца горад Мядзведжагорск — у маім дзяцінстве пасёлак Мядзведжая Гара. Амаль 300 тыс. жыхароў Петразаводска рыхтуюцца да 300-годдзя горада. У 1703 г. у вусце ракі Ласасінкі Пётр І заклаў гарматаліцейны завод, вакол якога вырас пасёлак Пятроўская слабада. Горад мае стандартны набор савецкіх назваў: вуліцы Кірава, Дзяржынскага, Куйбышава, Калініна, Пушкіна, Горкага, праспекты Карла Маркса, Акцябрскі, плошча Кірава, помнікі Кіраву, К. Марксу і Ф. Энгельсу, Пятру І і г. д. Галоўны праспект — імя Леніна. Апошні ўліваецца ў Круглы пляц (цяпер плошча Леніна) з вялікім помнікам правадыру, які выцягнутай угару рукой паказвае правільны шлях да камунізму. Карэльскі навуковы цэнтр Расійскай акадэміі навук, дзе праходзіла наша канферэнцыя, знаходзіцца ў спецыяльна пабудаваным добрым будынку на набярэжнай, якая акуратна і прыгожа апранута ў скальныя Карэльскія камяні і якая пачынаецца троху далей праспекта Леніна. Тут стаіць вялізны, магутны помнік сапраўднаму бальшавіку Ота Вільгельмавічу Куусінену. Набярэжная — найбольш любімае месца прагулак петразаводцаў. І праўда, ідзеш па ёй — з аднаго боку шырокая роўнядзь возера з ціхім шэптам невялікіх хваляў, з другога — разнастайная зеляніна кудлатых куп дрэў і кустоў. Лепшага месца для супакаення, успамінаў, роздуму цяжка знайсці. Гуляючы тут, я зноў успомніў сваё дзяцінства…

Бацька, які рабіў інжынерна-геалагічныя вышукванні пад будаўніцтва Кольскага канала, Верхне- і Ніжнетуломскіх ГЭС, прывёз сваю сям'ю ў пасёлак Кола пад Мурманскам. Пасяліліся ў доўгім бараку — былой стайні, два стойлы якой і зрабіліся нашай кватэрай.

Мы, малыя, увесь час круціліся на розных будоўлях, дзе працавалі зняволеныя, ад якіх у хуткім часе атрымалі «добрае» выхаванне: навучыліся брыдкім словам, паліць акуркі, лаяцца, біцца. Улетку — белыя ночы, у якія губляеш адчуванне часу і не ведаеш, калі закончыўся дзень і пачалася ноч. Дарослым загнаць дзетак дахаты амаль немагчыма. Успомнілася першая (і, мусіць, апошняя) адлупцоўка ад майго таты. Была гадавіна смерці яго маці (нашай багацькаўскай бабы). Ён вельмі цяжка перажываў смерць маці, якую так любіў і шанаваў і на пахаванне якой яго не адпусцілі. Гэты дзень календара быў самы горкі і самотны. Я так разгуляўся, што ніяк не хачу ісці дахаты, хоць ужо вельмі позна і тата многа разоў клікаў. Ён узяў мяне за руку і пацягнуў да ганка, а мяне раптоўна ўзяла такая злосць, што я вылаяўся матам, — вось тут тата і адлупцаваў мяне па мяккім месцы. На наступны дзень бацька растлумачыў, што гэтая лаянка, якая з'явілася ў часы мангольскага іга, утрымлівала яшчэ адно слова — «татарын» і мела сэнс, а цяпер уяўляе бязглуздзіцу і вялікі здзек з жанчыны. Для мяне то быў добры ўрок. Але больш успаміналася прыемнае: лоўля камбалы ў час адліву ў Кольскай затоцы і сёмгі на рацэ Кола, вандроўкі на крутую гару Салавараку, паходы па грыбы, ягады (асабліва марошку і брусніцы), геалагічныя маршруты з татам, у якіх мы збіралі прыгожыя каменьчыкі, кераміку і чарапкі з неалітычных стаянак чалавека… Апошняе адбывалася ўжо ў Мурмашах, куды мы пазней пераехалі і дзе я пайшоў у першы клас.

У самым пачатку 1937 г. бацьку перавялі ў аддзел пошукаў Валгабуда (пас. Пераборы недалёка ад Рыбінска), дзе праводзіліся даследаванні пад Рыбінскія ГЭС і вадасховішча. Тут чамусьці значна часцей, чым на Кольскім паўвостраве,

былі выпадкі, калі вохраўцы (ваенізаваная ахова) з аўчаркамі шукалі вязняў-уцекачоў. Нам было дужа шкада маладых абарваных хлопцаў, на якіх кідаліся аўчаркі, а вохраўцы білі іх прыкладамі. Да гэтага часу нярэдка бачу пасінелыя жудасныя твары двух такіх уцекачоў, якіх дасталі з прысыпаных зямлёй канаў, куды яны схаваліся і задыхнуліся. Не прайшло і паўгода, як бацьку выклікаў начальнік будаўніцтва і паведаміў, што з Масквы паступіў загад, каб усіх, хто некалі быў асуджаны па артыкуле $58^{6}$ (шпіянаж), безадкладна звольніць з працы. Ён параіў вярнуцца ў Мядзведжую Гару ў сістэму Гідрапраекта НКУС, на якую гэты загад не распаўсюджваўся. Так мы яшчэ ўлетку аказаліся ў Мядзведжцы.

Але пераезд не выратаваў — у кастрычніку бацьку арыштавалі. Маці з сям'ёй адразу выгналі са службовай кватэры. Добра, што Ізаксоны, нашы знаёмыя яшчэ з Колы, дапамаглі знайсці маленькі пакойчык плошчай каля 8 м$^2$ у драўляным доме карэлкі Еўдакіі Сямёнаўны Готшалк, якая праявіла спагадлівасць і смеласць, бо мець знаёмства, а тым больш пускаць да сябе на кватэру сям'ю «ворага народа» было вельмі небяспечна.

Каб троху было лягчэй жыць, мама адаслала мяне са сваёй маці, маёй бабуляй Марыяй Міхайлаўнай, пажыць у роднага брата Сяргея Восіпавіча, які жыў у Запарожжы з цяжарнай жонкай і дачкой Інай і працаваў майстрам-брыгадзірам на авіяцыйным заводзе. Тут я стаў сведкам арышту майго дзядзькі Сяргея. Ноччу прыехаў «чорны воран», тры вайскоўцы некалькі гадзін рабілі вобыск. Я і мая малая стрыечная сястрычка не разумелі, што адбываецца, таму скакалі і смяяліся, бо было цікава глядзець, як сярод ночы зрабілі такі гармідар. Але калі вывелі дзядзьку Сяргея, нашы жанчыны горка заплакалі, і мы адразу прыціхлі і таксама пачалі плакаць. Сяргея Восіпавіча ніхто з родных больш не бачыў, толькі пасля вайны прыслалі пасведчанне аб смерці — хлусню аб тым, што ён памёр ад хваробы лёгкіх у 1940 г. Праўду даведаліся толькі пасля смерці

Сталіна: ён быў расстраляны ў канцы снежня, амаль у той час, калі нарадзіўся ў яго сын — Сяргей Сяргеевіч.

А ў Мядзведжай Гары з турмы быў выпушчаны тата, і ў красавіку 1938 г. я быў разам з бацькамі. Не прайшло і месяца, як зноў мы засталіся адны, — на гэты раз на досыць доўгі час — больш за год.

У Петразаводску я вырашыў пашукаць справы бацькі ў сувязі з яго арыштамі 1937 і 1938–1939 гг. У Дзяржаўным архіве навейшай гісторыі (вул. Андропава) ветліва прыняў намеснік дырэктара Аляксей Міхайлавіч Грыгаровіч. Матэрыялаў пра Гаўрылу Гарэцкага ніякіх няма. На той жа вуліцы — Упраўленне Федэральнай службы бяспекі Расіі па Рэспубліцы Карэлія. Ніякіх звестак. У архіве Міністэрства ўнутраных спраў ёсць справы на большасць людзей, якія працавалі на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Гэтых спраў больш за 600 тысяч, але разабрана з іх і прыведзена ў парадак толькі 6 тысяч. Сярод апошніх бацькавай справы няма. Прэзідэнт Акадэміі сацыяльна-прававой абароны (грамадская арганізацыя), кіраўнік карэльскага «Мемарыяла» Юрый Дзмітрыеў у сваім камп’ютары таксама не знайшоў імя майго таты.

Нарэшце, трапіў у Карэльскі дзяржаўны краязнаўчы музей (плошча Леніна), які займае частку былога палаца генерал-губернатара Аланецкай губерні. Тут ведаюць пра акадэміка Г. І. Гарэцкага — былога вязня БелБалтлага, нават маюць яго фотаздымак, некаторыя звесткі з біяграфіі, але аб арыштах 1937 і 1938–1939 гг. нічога няма. У музеі добра і багата пададзена прырода Карэліі, шырока прадстаўлены матэрыялы рэвалюцыйных падзей і ўстанаўлення савецкай улады, Вялікай Айчыннай вайны. Экспазіцыя пра Беламорска-Балтыйскі канал зусім малая: людзі ў ватоўках дзяўбуць скалы прымітыўнымі прыладамі працы таго часу (рыдлёўкі, ламы, кіркі, тачкі і інш.), панарама шлюза, некалькі лозунгаў пра сацыялістычную працу, газеты з партрэтамі ўдарнікаў і г. д.

Людзі, з якімі я сустракаўся ў гэтых установах, вельмі прыхільна ставіліся да мяне, і асабліва пасля таго, як даведваліся, што я з Беларусі, бо большасць з іх самі былі выхадцамі з нашай краіны ці мелі родных і знаёмых беларусаў.

Аляксей Міхайлавіч Грыгаровіч прапанаваў на яго «Волзе» з’ездзіць у Мядзведжагорск, які ляжыць прыблізна ў 120 км на поўнач ад Петразаводска. Добрая асфальтавая дарога ўецца сярод прыгожых краявідаў: праз ужо пажаўцелыя бярозы праглядвае ласкавы блакіт возера, зялёны сасняк ахоплівае ўсё вакол, амаль голыя скалы троху змрочна глядзяць шэрымі сценамі старажытных замкаў, раптам блісне рознакаляровы гранітны «бараноў лоб», некалі адпаліраваны магутным ледавіком…

Аказалася, што Аляксей Міхайлавіч нарадзіўся ў Мядзведжай Гары, а яго жонка — у Павянцы, дзе яны разам вучыліся ў школе. Ён мае беларускія карані па маці і ўкраінскія па бацьку, абое — дзеці ссыльных.

Мядзведжка за мінулыя больш чым 60 гадоў моцна змянілася, некалі амаль цалкам драўляная — абрасла цэглай і бетонам 2–5-павярховых дамоў. Пазнаў нязменныя каменныя дамы: гасцініца і кіраўніцтва Беламорска-Балтыйскага камбіната. Крыху далей, як і раней, вялізная цёмная сцяна з нацягнутым угары калючым дротам, за якой вядомая ўсім жыхарам горада турма. Сюды некалі вадзілі бацьку на допыты, у лазню з другой турмы (відаць, тыпу следчага ізалятара), якая знаходзілася на правым беразе рэчкі Кумсы. Апошняя з бурлівай паўнаводнай ракі ператварылася ў значна спакайнейшую рачулку. Не плывуць па ёй, як раней, плыты і бярвенні, на якіх мы каталіся і пераскоквалі з аднаго берага на другі, рызыкуючы трапіць пад магутны лясны сплаў, як такое здарылася з прыгожым пудзелем нашых знаёмых. Няма драўлянага дома, дзе мы здымалі настолькі маленькі пакойчык, што брату і мне прыходзілася сцяліць ложак на стале і пад сталом. Кумса так зарасла дрэвамі і кустамі, што цяпер мы не маглі б убачыць з нашага берага

на супрацьлеглым, дзе стаяла турма, выводзяць бацьку з яе варот ці не. Знеслі і турэмны будынак, на месцы якога зараз расчышчаюць пляцоўку для нейкай новай будоўлі.

Няма і парашутнай вышкі ў парку, дзе мы бадзяліся ледзь не да поўначы ў светлыя белыя ночы, дадаючы хваляванняў і клопатаў нашай маці, якая зранку да позняга вечара працавала настаўніцай у школе для дарослых, каб хоць троху зарабіць грошай і пракарміць сям'ю, і замест адпачынку яна шукала нас. А я ўжо забыўся пра недарэчны вопыт скачка з парасонам у Брылёве, і мяне так вабіла вышка, так хацелася прыгнуць з парашутам, што я ўвесь час круціўся там, некалькі разоў нават карабкаўся на яе, але мяне заўсёды не пускалі ці ў хуткім часе з гвалтам здымалі і ледзь не білі, бо дужа надакучаў. Так і прайшло жыццё, а мне і не ўдалося скокнуць з парашутам, хоць і да гэтага часу троху з зайздрасцю і шкадаваннем за сябе гляджу на featureзнакаляровыя парашуты ў блакітным небе.

А вось і мост праз Кумсу. Раней быў вузкі драўляны, цяпер — больш шырокі і з бетону. Тут я і брат часта гадзінамі вартавалі, каб пабачыць бацьку, якога вазілі ў «чорным воране» ці вялі ў калоне, а то і аднаго ў вялікую турму на допыты, а можа, і ў лазню ці на працу. З кожным разам тата выглядаў усё больш схуднелым, слабым, страшным… Турмы былі перапоўнены — не паспявалі адных расстрэльваць, як напіхвалі новымі вязнямі. Частыя карцары, зробленыя з сатанінскай выдумкай, здзеклівыя допыты з пабоямі, бесперапыннае недаяданне, а то і сапраўдны голад рабілі сваю працу і даводзілі зняволеных да поўнай абыякавасці, жадання хутчэй пакінуць жыццё, а то і скончыць яго самагубствам. Аднойчы мы ўбачылі тату ў зусім жудасным стане: худы, няголены, з патухлымі вачыма, апухлымі нагамі, на якіх падраныя тапачкі, прывязаныя шпагатам, бо яны і тым больш чаравікі не налазілі. Ён быў змарнелы, ледзь рухаўся. Відаць, трымацца сіл больш не было, і бацька зразумеў, што наперадзе чакае яго толькі расстрэл, і таму папрасіў

маці перадаць яму лязо. Добра, што потым хапіла мужнасці і вытрымкі не скарыстаць яго…

З моста дарога ішла ўгару — тут я з хлопцамі ўзімку чакаў грузавыя машыны, каб учапіцца за борт кручкамі і пракаціцца на каньках, якія мне выразаў дзед з дрэва і замест лёзаў прымацаваў тоўсты дрот. Троху далей быў кірмаш, які стаў больш упарадкаваным. Успомнілася, як мы тут лазілі па скрынях-сметніцах, знаходзілі там цукерачныя абгорткі і гулялі ў фанцікі (іншых цацак не было), іншым разам траплялiся і манеткі, на якія куплялі цукеркі — падушачкі ці сасулькі-мандарынкі (мне і да гэтага часу яны здаюцца смачнейшымі за шакаладныя). У сям'і грошай не было не то што на цукеркі, а нават на хлеб. Аднойчы, ужо пасля вызвалення, бацька на кірмашы даў мне добры ўрок: у брудзе я ўбачыў стары падраны кашэль, і з яго тырчала пачачка папяровых купюр; я ўзрадаваўся і кінуўся да кашалька, які раптам ад татавага бота паляцеў далёка ўбок, а я пачуў сярдзіты голас бацькі: «Не тваё — дык і не бяры!» Зашчаміла сэрца, калі ўспомнілася тая крыўда, якую мне тады наносілі некаторыя бацькі маіх сяброў і сяброўак, забараняючы сваім дзецям гуляць з сынам «ворага народа», і сярод іх асабліва крыклівая і злая матка прыгожай Каці.

На першым паверсе гасцініцы цяпер знаходзіцца Мядзведжагорскі гарадскі музей, дзе нас сустрэў вядучы навуковы супрацоўнік Яўген Восіпавіч Тумаш, таксама з сям'і выхадцаў з Беларусі і Польшчы. У музеі невялікі аддзел, прысвечаны БелБалтлагу. Тут асобны стэнд прысвечаны рэпрэсаванаму Міхаілу Грыгаровічу — бацьку Аляксея Міхайлавіча, шэраг дакументаў, фотаздымкаў таго часу. Сярод апошніх зацікавіў здымак групы пісьменнікаў і дзеячаў культуры на чале з Максімам Горкім. Ён стаіць наперадзе, а за ім троху збоку Янка Купала. Гэты здымак зроблены пры ўрачыстым адкрыцці Беламорска-Балтыйскага канала ў жніўні 1933 г. у Павянцы (пры будоўлі канала казалі: «Павянец — свету канец!»), дзе знаходзяцца другі і трэці шлюзы перад самым выхадам кана-

ла з Анежскага возера. Мы з’ездзілі і туды: глыбокія шлюзы, сценкі якіх цёмныя і пашарпаныя, па выглядзе адчуваецца іх сталасць і рэдкае выкарыстанне, бо цяпер асноўныя грузы ідуць не водным шляхам, а чыгункаю і аўтатранспартам. Уявіў, як амаль 70 гадоў назад тут мой бацька — Гаўрыла Гарэцкі, які быў на беразе сярод шэрага натоўпу зняволеных, сасланых і вольнанаёмных будаўнікоў канала, апошні раз здалёку ўбачыў Янку Купалу, які стаяў побач з Максімам Горкім на палубе белага парахода.

Затым паехалі ў Сандармох — мядзведжагорскія Курапаты (19 км ад Мядзведжагорска). Прыгожая мясціна — пясчаныя ўзгоркі, парослыя светла-зялёнымі празрыстымі сосенкамі. Адразу ўспомнілася апавяданне В. Быкава «Жоўты пясочак». Не прыгажосць прываблівала бальшавіцкіх катаў да такіх мясцін, а лёгкасць выкопвання катлаванаў, ям і канаў для трупаў расстраляных ахвяр і такая ж лёгкасць іх засыпання на «адпаведную» па інструкцыі глыбіню. Мемарыяльны комплекс пачынаецца выразным помнікам ахвярам Сандармоха: вялізная глыба з каменю і бетону, на пярэднім плане — падаючая фігура забітага з паніклымі крыламі, кветкамі ўнізе і вялікай даланёю, якая моцна сціскае скурчанымі пальцамі букет кветак-ахвяр, а над барэльефам угары надпіс: «Люди, не убивайте друг друга». Імя аўтара нідзе не абазначана, але пазней я з ім пазнаёміўся — скульптар і пісьменнік Рыгор Салтун тыповага выгляду мастак: жывы, гаваркі, з вялікай барадой і нядбайна адзеты.

Далей стаіць вялікі валун, на якім дошка з надпісам: «Здесь с 27 октября по 4 ноября 1937 г. расстреляны 1111 заключенных Соловецкой тюрьмы». Троху ўбаку стаіць невялікая драўляная цэркаўка. Яна пабудавана на тым месцы, дзе 21 студзеня 1938 г. у 4 гадзіны ночы два штатныя каты НКУС Шондыш і Бандарэнка расстралялі 450 чалавек. А яшчэ далей па ўсім лесе на участку плошчай 7,5 га расстаўлены сотні крыжоў з прозвішчамі, а часта і з фотаздымкамі расстраляных. Ёсць і сапраўдныя магілкі-холмікі. Канешне, усе яны не адпавядаюць

канкрэтным месцам расстрэлу і пахавання. Больш за тры сотні ям з пахаваннямі знойдзена ва ўрочышчы Сандармох.

Намаганнямі такіх людзей, як дэпутат Дзяржаўнай Думы РФ Іван Чухін, што трагічна загінуў у траўні 1997 г., Юрый Дзмітрыеў і іншыя, нядаўна выйшла тоўстая «Кніга памяці», у якой названы ўсе жыхары Карэліі, рэпрэсаваныя ў 1937–1938 гг. І. Чухін напісаў першую праўдзівую і пакуль адзіную кнігу пра гісторыю будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала «Каналоармейцы» (1990), якую падараваў Янку Брылю, а той перадаў яе мне. Ужо пасля смерці выйшла яго кніжка «Карелия-37: Идеология и практика террора» (1999). Юрый Дзмітрыеў выпусціў кнігу «Место расстрела Сандармох» (1999), у якой пайменна пералічыў прозвішчы ўсіх тут расстраляных. Ён піша: «Подобно тому, как прах расстрелянных в Сандармохе вошел животворным соком в корни зеленых сосен, горькая правда о злодеянии большевитских палачей вошла в память ныне живущих народов. Преклоним колени у покрытых вязью имен надмогильных столбцов, ощутим трагическую и священную красоту этой частички карельского леса, собравшей в себе несколько тысяч оборванных человеческих жизней». Кніжка выдадзена Адміністрацыяй Старшыні ўрада Рэспублікі Карэлія, адміністрацыяй мясцовага самакіравання Мядзведжагорскага раёна і Акадэміяй сацыяльна-прававой абароны.

Па архіўных дадзеных, у Сандармоху за 14 месяцаў 1937–1938 гг. расстраляна каля 9 тысяч чалавек, якія складаюць тры групы. Першая група (3,5 тыс. чал.) — гэта мясцовыя жыхары (карэлы, фіны, радзей рускія і інш.) з розных раёнаў Карэліі, галоўным чынам сяляне, рыбакі, паляўнічыя. Яны былі асуджаны пераважна так званай «двойкай». Другая група (4,5 тыс. чал.) — зняволеныя БелБалтлага, сярод якіх большасць — інтэлігенцыя з усіх куткоў СССР многіх нацыянальнасцяў (нават нарвежцаў, немцаў, чэхаў, іранцаў, персіянаў, палякаў і інш.), у тым ліку і беларусаў. Трэцяя група — гэта салавецкі этап. Каля 1,5 тысячы зняволеных Салавецкай турмы былі

адпраўлены ў Мядзведжую Гару, але ў «жоўты пясочак» Сандармоха трапіла 1111 чалавек, іншыя памерлі па дарозе. Тут буйныя дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, літаратары і інш. — эліта інтэлігенцыі краіны. Сярод іх 102 жыхары Беларусі, у тым ліку акадэмікі АН БССР М. Яворскі і М. Дурнаво, член урада БССР Ф. Валынец, дзяржаўны дзеяч М. Бурсевіч і інш. Узрост большасці ахвяр — да 40–50 гадоў. Каб не тая акалічнасць, што Г. Гарэцкага («шпіёна і контррэвалюцыянера, завербаваўшага» такіх кіраўнікоў, як Чарвякоў і Галадзед) палічылі найбольш злосным і «важным» «ворагам народа», за раскрыццё якога можна было б атрымаць падзяку самой Масквы, і таму паслалі ў сталіцу, закончыў бы ён свой жыццёвы шлях у Сандармоху.

26–27 кастрычніка 1997 г., а затым 22 жніўня 1998 г. — у гады «прымірэння і згоды» — каля мемарыяльнага комплексу Сандармох прайшлі міжнародныя акцыі «Пакаянне» ў сувязі з 60-годдзем «Вялікага тэрору» ў СССР — генацыду бальшавіцкіх уладаў супраць свайго народа.

У Петразаводск мы вярталіся сумныя, маўклівыя, пад вялікім уражаннем убачанага. Колькі бязвінных ахвяр, колькі цяжкасцяў маральных і фізічных перажылі людзі! За што і для чаго? Зноў узнікалі малюнкі мінулага. Але больш перамагалі радасныя (вандраванне па лесе, пошукі ягад і грыбоў, лоўля рыбы, катанне па люстэрку тонкага лёду і да т. п.), і дзяцінства ўспаміналася шчаслівым, бо магутныя сілы маладога жыцця, як былінкі дрэў ці травы праз скальную пароду, прабівалі цвёрды асфальт жорсткасці, несправядлівасці і імкнуліся да святла, да сонца.

Плошча тэрыторыі Рэспублікі Карэлія прыблізна на 1/4 меншая за плошчу Беларусі, але жыхароў — толькі каля 800 тыс. Сярод іх карэлаў 10%, фінаў — 2,3% і вепсаў — 0,8%. На першым месцы рускія — каля 75%, беларусы — на трэцім (7%), затым украінцы (3,6%). Беларусы і ўкраінцы ўжо амаль усе рускамоўныя, ды, відаць, і многія прадстаўнікі тытульнай нацыі таксама сталі рускамоўнымі (значыць, не менш за 90%

жыхароў карыстаюцца толькі рускай мовай). Таму за ўвесь тыдзень майго знаходжання ў Карэліі я чуў толькі рускую мову. На тэлебачанні і радыё на карэльскай ці фінскай мовах перадач няма. Не бачыў на гэтых мовах ні газет, ні часопісаў, ні надпісаў на шыльдах устаноў і магазінаў, назваў вуліц. Выключэнне — некалькі мемарыяльных дошак. Кажуць, што ёсць толькі адна школа з навучаннем на фіна-ўгорскай мове (да гэтай групы належыць і карэльская). Нягледзячы на тое, што старажытныя вусныя і пісьмовыя помнікі (руны) адносяцца да XIII ст. і на выснове іх створаны сусветна вядомы народны эпас «Калевала», сучаснае насельніцтва поўнасцю русіфікавана, і ад карэльскага там засталася толькі назва рэспублікі, і, па сутнасці, краіна цалкам руская. Увачавідкі ўбачыў магчымую будучыню і нашай любай Беларусі.

Тыдзень хутка праляцеў, і я зноў у цёплым купэ фірменнага цягніка «Санкт-Пецярбург–Мінск».

Іду па Мінску — і пазнаю яго, і не. Вось і плошча Якуба Коласа, але там нейкая іншая каменная фігура, таксама знаёмая, але ўжо і забытая, такая вялізная, што зрабіла плошчу зусім маленькай. Прыглядаюся — дык гэта ж Сталін! Чытаю надпіс: «Площадь Сталина». Гляджу на шыльду праспекта Францыска Скарыны, але здалёку бачу толькі першую вялікую літару «Л» — няўжо зноў вярнулі назву «Ленінскі»? Аглядаю больш уважліва іншыя назвы: там была «Бульбяная» — зараз «Картофель», «Лянок» — «Ткани», «На росстанях» — «Перекресток» — Welcome. Чытаю афішу: «Посетите выставку Георгия Скаринова — великого русского первопечатника». Іду паціху па горадзе і чытаю, потым — хутчэй іду, ужо бягу, ды так хутка, што задыхаюся. Што такое — ніводнага слова па-беларуску, вакол толькі рускія і больш рэдкія англійскія назвы? Успамінаю, як аднойчы «правадыр» абвясціў, што ў свеце толькі дзве вялікія мовы.

Падыходжу да кіёска, каб узяць газеты і даведацца — у чым справа, што здарылася? Невялічкая чарга, апошнім стаіць

салідны дзядзька ў капелюшы з прыемным тварам і вясёлай усмешкай. Пытаюся: «Вы апошні ў шапік?» Паглядзеўшы злоснымі вачыма, якія раптоўна зрабіліся проста шалёнымі, амаль крычыць: «Не можешь спросить на нормальном языке?» І іншыя з пагардай азірнуліся на мяне, а адна дамачка ў капялюшыку і з сабачкам на павадку нават пагразіла кулачком. Думаю пра сябе, што трэба ўзяць «Народную волю» — там хутчэй даведаюся праўду. Пытаюся: «Ці ёсць «Воля»?» — «Нет и не будет!» — «А «Свабода»? — «Нет и никогда больше не будет!» — ужо крычыць кіяскёрша. Нейкі хлопец б'е мяне ў бок і пырскае проста ў твар слінай: «Вот еще один недобитый националист откуда-то взялся!» Чую выкрыкі: «Фашист! Сволочь!» І хутчэй ад мяне ўсе пабеглі, як быццам я магу заразіць іх чумой. Аглядаючыся вакол сябе, людзі робяць выгляд, што не толькі не размаўлялі са мной, хаця больш лаяліся, але і не стаялі побач.

Адразу, як з-пад зямлі, з'явілася група моцных брытагаловых хлопцаў, чалавек 10 — усе як адзін, адрозніць немагчыма, — я зразумеў, што яны кланаваны і што гэта спецназ. Усе не толькі на адзін твар, але і адзеты зусім аднолькава: у куртках, як хакеісты, а ў руках шлемы і клюшкі, але на нагах чамусьці футбольныя буцы. Наперадзе ў такім жа адзенні дзядзька, але з рэдкімі валасамі і вусікамі (відаць, начальнік). Ён як крыкне: «Кто тут крамолу разводит?! Поддайте-ка ему, чтобы забыл этот старый, никому не нужный язык!» Накінуліся на мяне, ды так адлупцавалі, што я толькі праз гадзіну трошку ачуняў і ледзь падняўся з нейкіх калючых кустоў.

Насустрач ідзе маладая дзяўчына, прыгожая, з блакітнымі добрымі вачыма, мяккім прывабным тварам, светлымі валасамі і доўгай касой — адно заглядзенне. Вялікае дэкальтэ дазваляе ўбачыць белыя пульхныя грудзі, якія высока ўздымаюцца і яшчэ больш выразна выяўляюць глыбокую шчылінку паміж імі. Думаю: «Вось гэта сапраўдная беларусачка, спытаю я ў яе — што ж гэта тут робіцца?» Не паспеў я адкрыць рот, як

бачу — грудзі яе растуць, пашыраюцца, абхопліваюць мой твар — мне і прыемна, так мякка і, здаецца, ласкава, але пачынаю задыхацца і чую сярдзіты голас дзяўчыны: «Думай на нормальном языке, гад недорезанный!» Паспеў спытаць яе: «Адкуль ты ведаеш, на якой мове я думаю?» — «Да я знаю мысли любого человека, специально этому училась в службе безопасности — не скроешься от меня!» Падумаў: «Трэба ж, да чаго дайшоў наш КДБ!» і згубіў прытомнасць. Падаючы, пачуў: «Если не перейдешь на мысли по-русски, напущу на тебя спецназ, и тогда тебе конец!»

Плятуся ўсцяж вуліцы, бачу — нейкія страшылішчы цягнуць на насілках бабульку, раптам паклалі яе на зямлю, а самі некуды пабеглі. Падыходжу — ды гэта баба Матруна з вёскі Калодзішчы каля Чэрвеня — бабуля маёй жонкі. Заўсёды поўная, з ружовым тварам, а тут зусім схуднелая, бледная. Здзіўлена пытаюся:

— Баба Матруна, што вы тут робіце? Вы ж памерлі дзесяць гадоў таму!

— Даражэнькі, гэтыя праклятыя пачвары — «вшываблохі» — адкапалі мяне і нясуць у Курапаты, дзе хочуць расстраляць.

— А што гэта за «вшываблохі»?

— Такія былі навуковыя распрацоўкі. Як вы там кажаце, прыярытэтныя, ці што. Яны вельмі дарагія, таму з усіх людзей нават збіралі грошы.

— А што ж атрымалася, і для чаго яны ?

— Кажуць, што гэта помесь вошы і блыхі, і галава ні то ад чалавека, ні то малпы. Вось такую мешаніну ростам з малога чалавека і назвалі «вшываблохамі». Яны вельмі лютыя, а зрабілі іх, каб лавіць людзей, якія гавораць па-беларуску, катаваць іх і расстрэльваць.

— Ну а чаму ж вас схапілі, калі вы ўжо памерлі?

— Ды адкопваюць тых, у якіх на магілках надпісы на беларускай мове, і расстрэльваюць. Я ж табе казала, зрабі мне

надпіс, як на іншых магілках, а ты не паслухаўся, вось так зараз і атрымалася.

— Прабачце, баба Матруна. Я ж хацеў адзначыць, што вы сапраўдная беларуска, якая так выдатна заўсёды размаўляла па-беларуску, і дзякуючы такім, як вы, і захавалася наша мова.

— Ды я не крыўдую на цябе. Але ты маўчы, бо і цябе зараз гэтыя пачвары схопяць.

Не паспела яна скончыць сказ, як аднекуль выскачылі брытагаловыя, якіх, аказваецца, усё ж наслала на мяне тая прыгажуня, і пачалі мяне біць то клюшкай, то буцамі. А гэты з вусамі — іх кіраўнік — злуецца: «Плохо бьете, слабаки! Представьте, что это перед вами футбольный мяч, который вы должны забить в ворота. Вот смотрите, как нужно!» Ён разбягаецца і б’е мне па калене, ды так моцна, што здаецца — нага ў калене пераламілася. Ён крычыць свайму памагатаму: «Не можешь бить как следует, так стреляй в него из автомата!»

Расплюшчваю вочы, чую пакалыхванне цягніка, страшэнна ныюць калена (відаць, зноў разыграўся артрыт), а ў дзверы моцна стукае праваднiца: «Пасажыры, уставайце. Хутка будзе Мінск!»

*2002*

## Янка Купала і браты Гарэцкія

Максім Гарэцкі ў 1909–1913 гг. вучыўся ў Горы-Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы і тады пазнаёміўся з вершамі Янкі Купалы, апублікаванымі ў «Нашай Ніве», а потым і з іншымі яго творамі. Ён захапляўся Купалавай паэзіяй і, калі прыязджаў дахаты ў Малую Багацькаўку, чытаў родным, у тым ліку і Гаўрылу. Выразна і артыстычна дэкламаваў вершы са зборнікаў «Жалейка», «Шляхам жыцця», «Гусляр». Гаўрыла Гарэцкі ўспамінаў: *«Максім прачытаў сваім братам і сястрычцы ўсю «Жалейку». Тлумачэнні вершаў Янкі Купалы з «Жалейкі», якія даваў нам старэйшы брат, былі выключна*

*яскравыя, натхнёныя, узвышаныя. А само чытанне купалаўскіх вершаў Максімам было такім мастацкім, што яно зачароўвала нас, захоплівала, параджала замілаванне паэзіяй Янкі Купалы, палкую любоў да нашага роднага вялікага паэта.*

*Асабліва магутны ўплыў на нас меў верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?»*[1].

У 1912 г. Максім Гарэцкі стаў друкаваць у «Нашай Ніве» нататкі пра розныя падзеі ў Магілёўскай губерні, а ў студзені 1913 г. апублікаваў там пад псеўданімам Максім Беларус першае апавяданне «У лазні». У той час Янка Купала быў у Вільні, цесна супрацоўнічаў з «Нашай Нівай», а з сакавіка 1914 г. афіцыйна пачаў падпісваць газету як адказны рэдактар.

Пасля заканчэння вучылішча ў ліпені 1913 г. М. Гарэцкі быў накіраваны на працу каморнікам на Віленшчыну. Там ён пазнаёміўся і пасябраваў з Янкам Купалам. Шэраг нататак і апавяданняў пісьменніка звярнулі на сябе ўвагу рэдакцыі «Нашай Нівы», якая змясціла ліст да яго: *«Максіму Беларусу. Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прыслалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас «памножана будзе слова слаўнай айчызны нашай», калі толькі агонь, каторы гарыцъ у Вас, будзе далей разгарацца».*

«Наша Ніва» і яе адказны рэдактар сачылі за лёсам сваіх аўтараў. У верасні 1914 г. пад рубрыкай «Нашы пісьменнікі і грамадскія працаўнікі на вайне» змешчаны фотаздымак М. Гарэцкага з подпісам *«М. Гарэцкі, пісьменнік-містык, родам з Магілёўшчыны, каморнік (землямер)»,* а 13 лістапада — паведамленне: «*Гарэцкі ранены. Наш вядомы пісьменнік М. Гарэцкі, якога фатаграфія была надрукавана ў № 37 «Нашай Нівы», ранены ў нагу і цяпер лечыцца ў Вільні ў шпіталі».*

У «Каляднай пісанцы» (Вільня, 1913) М. Гарэцкі надрукаваў публіцыстычны артыкул «Наш тэатр», а ў № 5 «Нашай Нівы» за

[1] Гарэцкі Г. Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні // Успаміны пра Янку Купалу. — Мінск : Маст. літ., 1982. — С. 45–53.

1915 г. Я. Купала змясціў рэцэнзію «Залёты, аперэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча», эпіграфам да якой узяў вытрымку са згаданага артыкула пра тое, што «тэатр — сіла непамерная» і «ў адраджэнні беларусаў… можа сыграць вялікую ролю».

Лёс зноў звёў пісьменнікаў у Смаленску, куды абодва пераехалі ўвосень 1917 г. і дзе сустрэлі Кастрычніцкую рэвалюцыю. Янка Купала працаваў агентам аддзела забеспячэння Заходняй вобласці, Максім Гарэцкі — камендантам жыллёвага аддзела, потым — супрацоўнікам газеты «Известия Смоленского Совета депутатов», а пазней — загадчыкам розных аддзелаў газеты «Звезда». На пачатку 1918 г. да брата прыехаў Гаўрыла Гарэцкі, які быў вольны ў сувязі з часовым закрыццём Горы-Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча, дзе вучыўся. Ён паступіў на працу служачым эканамічнага аддзела Смаленскага Саўдэпа і стэнаграфістам Савета народнай гаспадаркі выканкама Заходняй вобласці («Облискомзап»).

Гаўрыла Гарэцкі ўспамінаў: *«У 1918 годзе ў Смаленску жыў і Янка Купала з маладою жонкаю Уладзіславай Францаўнай, жылі яны на Малой Багаслоўскай вуліцы, у прыдалінай частцы горада, у аднапавярховым доме. Купала досыць часта запрашаў Максіма ў госці, брат і мяне браў з сабою. Хоць і цяжка жылося ў той час, але Уладзіслава Францаўна заўсёды была выключна гасціннай і жыццярадаснай.*

*<…> Янка Купала і брат разглядалі кнігі па гісторыі Смаленска і Мсціслава, па этнаграфіі Беларусі і Смаленшчыны, па нумізматыцы. Купала паказваў сваю досыць багатую нумізматычную калекцыю, частку якой, разам з дзвюма кнігамі па нумізматыцы, ён падараваў нам.*

*Купала і брат гаварылі пра беларускую літаратуру, этнаграфію, гісторыю, пра беларускія слоўнікі І. І. Насовіча і У. М. Дабравольскага, які жыў тады ў Смаленску. Самаадданая дзейнасць Насовіча і Дабравольскага па складанні беларускіх слоўнікаў вельмі падабалася Купалу і брату.*

*<…> Асабліва цікавіўся Янка Купала ў Смаленску «Словам аб палку Ігаравым»…»*[1]

Ужо праз год (3.10.1919) Я. Купала закончыў пераклад «Слова…» на беларускую мову.

Падчас жыцця ў Смаленску ўсе яны перанеслі досыць цяжкія хваробы: у студзені 1918 г. Гаўрыла захварэў на плямісты тыфус, пазней Максім — на іспанку, а ў ліпені Янка Купала — на дызентэрыю.

Янка Купала і Максім Гарэцкі ў кастрычніку 1918 г. запісаліся слухачамі факультэта па гісторыі мастацтваў на Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Тады ж М. Гарэцкі напісаў заяву ў Смаленскую архіўную камісію: *«Имею честь просить Архивную Комиссию выдать мне и слушателю того же Института Ивану Доминиковичу Луцевичу (белорусский поэт Янка Купала) разрешение на право пользования книгами и материалами библиотеки Архивной Комиссии»*. І падпісаў: *«Составитель русско-белорусского словарика М. Горецкий»*. І сапраўды, у Смаленску ён вельмі рупліва працаваў над стварэннем слоўніка. Яму як мог дапамагаў малодшы брат. У канцы года першы «Руска-беларускі слоўнік» братоў Гарэцкіх выйшаў з друку.

Смаленскі перыяд жыцця Янкі Купалы і братоў Гарэцкіх адзначаны вельмі складанымі гістарычнымі падзеямі: Кастрычніцкая рэвалюцыя; у снежні ў Мінску прайшоў І Усебеларускі з’езд, які бальшавікі разагналі (пра гэта М. Гарэцкі праўдзіва напісаў у 1922 г. у апавяданні «Усебеларускі з’езд 1917 года»). У лютым 1918 — студзені 1919 г. — нямецкая акупацыя Беларусі. 25 сакавіка 1918 г. была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. У кастрычніку 1918 г. Янка Купала напісаў славуты верш «На сход!», у якім зноў прагучаў заклік да ўсіх беларусаў: «На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!». Смаленск жыў чаканнем абвяшчэння Бела-

---

[1] Гарэцкі Г. Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні. — С. 45–53.

рускай рэспублікі. Аляксандр Чарвякоў паўсюль насіў з сабою «Этнаграфічную карту Беларусі» Яўхіма Карскага, падараваў яе Гаўрылу Гарэцкаму з надпісам: *«Ад беларускага камісара»*. Прыехалі З. Жылуновіч, Ф. Шантыр, Я. Дыла і інш. Ішла жорсткая барацьба — А. Мяснікоў і многія іншыя бальшавікі былі супраць стварэння БССР, якая ўсё ж напрыканцы 1918 г. у этнаграфічных межах была абвешчаная І Краёвым з'ездам РКП Заходняй камуны (перайменаваны ў І з'езд БКП). Гэта радавала Янку Купалу і братоў Гарэцкіх. Аднак яны сталі сведкамі страшэнных пакутаў людзей: масавых расстрэлаў, бясчынстваў на вёсцы, дэмагогіі, хамства, здзекаў, хлусні, страху… Разабрацца ва ўсёй той блытаніне і катавасіі было складана, у многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі «душа дваілася»[1]… Менавіта тады М. Гарэцкі задумаў, а можа, і пачаў пісаць аповесць «Дзве душы» (выйшла з друку ў Вільні ў 1919 г.). Янка Купала ў лісце да Браніслава Эпімах-Шыпілы пісаў: *«Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў, як непрытомны. Там жа ў Смаленску атрымаў Ваш ліст з просьбай аб пасылцы. Гэтага я ніякімі сіламі зрабіць не мог, бо забаронена было пасылаць што-небудзь з Смаленску».*

На пачатак лютага 1919 г. у газеце «Грамадзянін» пад рубрыкай «З менскага жыцця» з'явілася паведамленне: *«Там арганізавалася цяпер «Беларускае літаратурна-навуковае таварыства», у якім актыўную прымаюць чыннасць… Янка Купала і Максім Гарэцкі, каторыя раней праз увесь час акупацыі былі ў Смаленшчыне».* Але ўжо ў канцы лютага рэдакцыю «Звязды» перавялі ў Вільню, туды ж пераехаў і М. Гарэцкі.

У канцы кастрычніка 1923 г. М. Гарэцкі з сям'ёй перабраўся з Вільні ў Мінск, дзе таксама сустракаўся з Янкам Купалам. Яшчэ ў Вільні выйшлі два выданні «Гісторыі беларускае літаратуры», а ў 1924 г. у Мінску — трэцяе. Аўтар асвятліў творчасць Янкі Купалы, адзначыў, што *«наш паэт па харак-*

---

[1] Гл.: Илькевич Н. «Душа двоилась…» : Повесть, рожденная в Смоленске. — Смоленск, 1997.

*тары свайго таленту — пераважна лірык. У лірыцы паказаў ён свой магутны паэтычны дар і дасяг памысных рэзультатаў творчасці. Лірызмам душы паэта ахоплены яго эпічныя вершаваныя рэчы, лірыкай перасыпана і яго драма. Лірычных вершаў у Купалы дужа многа. Агульны тон іх элегічны і мяккасатырычны. <...> Лірыка Купалы более музыкальная, чымсе пластычная; часам гэта проста музыка. <...> Ідэялогія адраджэння ёсць галоўнай прыметай не толькі лірыкі, але ўсея паэзіі песняра».*

13 снежня 1923 г. Валерыю Брусаву споўнілася 50 гадоў. Янка Купала і Максім Гарэцкі разам з Якубам Коласам, Цішкам Гартным, Змітраком Бядулем, Міхасём Чаротам накіравалі віншавальную тэлеграму юбіляру.

Яшчэ ў студзені 1922 г. на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі пачалася дзейнасць Інстытута беларускай культуры. У склад камісіі правадзейным членам увайшоў і Янка Купала, а ў студзені 1925 г. зацверджаны новы склад правадзейных членаў з Янкам Купалам, Максімам і Гаўрылам Гарэцкімі ў тым ліку.

У траўні–чэрвені 1925 г. на Беларусі шырока адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. У сувязі з гэтым у Інбелкульце адбылося ўрачыстае пасяджэнне, дзе, як паведамляла газета «Савецкая Беларусь», *«добра і падрабязна высветліў ролю Янкі Купалы ў беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні пісьменнік Максім Гарэцкі. Па яго прапанове сход ушанаваў маці і жонку песняра, якія прысутнічалі на ўрачыстасці».*

Гаўрыла і асабліва Максім Гарэцкі часта сустракаліся і працавалі з Янкам Купалам у Інбелкульце. Яны ўдзельнічалі ў рабоце Тэрміналагічнай і Літаратурнай камісій, мовазнаўчай секцыі, Камісіі па складанні слоўніка беларускай мовы і інш.

Янка Купала і Гаўрыла Гарэцкі ў красавіку 1927 г. прысутнічалі на VIII Усебеларускім з’ездзе Саветаў, дзе іх абралі кандыдатамі ў члены ЦВК БССР, а ў траўні 1929 г. — членамі

ЦВК БССР дзявятага склікання. У снежні 1928 г. Янка Купала і Гаўрыла Гарэцкі сталі першымі акадэмікамі Беларускай акадэміі навук, урачыстае адкрыццё якой адбылося 1 студзеня наступнага года.

Максім і Гаўрыла Гарэцкія сябравалі з сем'ямі Янкі Купалы, Якуба Коласа і многіх іншых пісьменнікаў і навукоўцаў (З. Бядуля, У. Дубоўка, А. Якімовіч, А. Смоліч, С. Некрашэвіч, А. Лёсік і інш.), сустракаліся не толькі ў афіцыйных і працоўных умовах, але і ў хатніх. Неяк і Гаўрыла Гарэцкі запрасіў да сябе Янку Купалу. Ларыса Восіпаўна Гарэцкая ўспамінала: *«Сустрэчы з Янкам Купалам адбываліся найбольш на прэм'ерах у тэатры, на канцэртах. Колькі разоў былі мы і ў яго хаце. Аднойчы нам давялося прымаць высокіх гасцей — Янку Купалу з Уладзіславай Францаўнай у сваім доме. Былі яшчэ і другія госці. Мне ніколі не прыходзілася прымаць такіх дарагіх, выдатных людзей. Звычайна бывалі ў нас нашы равеснікі, роўныя нам — усё было проста.*

*А тут — вядомыя людзі — сам Янка Купала! Чым жа частаваць? Вось я і надумала, што найлепшым пачастункам будзе тое, што я з дзяцінства лічыла найбольш смачным, найбольш любіла — гэта шынка без сала, чайная каўбаса, сыр галандскі, кансервы шпроты і... піражныя. Канешне, салодкае віно. Муж ужо па сваёй ініцыятыве набыў мацнейшае пітво, каньяк ці што там яшчэ. Селі мае госці за стол і неяк разгублена глядзяць на мой стол, нерашуча поркаюць відэльцамі. Мяне аж жар працінае ад хвалявання.*

*Раптам падыходзіць да мяне Іван Дамінікавіч і ціхенька на вуха шэпча: «Ларысачка, а ці ёсць у цябе селядзец?» — «Ёсць!» — «Дык пойдзем». У кухні мы з ім чысцім селядцы, а суседка па кватэры шпарка накачвае прымус, каб хутчэй зварылася яе бульба, якую яна сабе рыхтавала, а цяпер аддае нам. Калі ўсё было гатова, Іван Дамінікавіч і я досыць урачыста ўнеслі гэты «шыкоўны» пачастунак да нашага застолля. Госці сустрэлі нас шчырым здавальненнем, стала весела і*

*жвава. А мне трохі і палягчэла ад тае няёмкасці. Я была так удзячна Івану Дамінікавічу і яшчэ з большай павагай убачыла ў ім Вялікага Чалавека і такога простага, душэўнага нашага любага паэта Янку Купалу».*

1929 год — год «вялікага пералому», суцэльнай калектывізацыі, моцнага абвастрэння барацьбы супраць усякіх праяваў «антыкамуністычнай ідэалогіі», «буржуазнай нацдэмаўшчыны». У ліпені 1930 г. Максім і Гаўрыла Гарэцкія былі арыштаваныя і амаль праз год высланыя — першы ў Вятку, другі — на Салаўкі. Многія знаёмыя адвярнуліся ад іх сем'яў (сувязь з «ворагамі народа» небяспечная), але Янка Купала і Уладзіслава Францаўна дапамагалі ім. Калі Ларысе Гарэцкай перад высылкай мужа трэба было тэрмінова паехаць на апошняе спатканне ў Оршу, а грошай не было, Янка Купала пазычыў ёй 75 рублёў.

Янку Купалу не арыштавалі, але шмат разоў выклікалі на допыты ў ДПУ. У знак пратэсту супраць страшэннага гвалту з найлепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі ён напрыканцы лістапада 1930 г. пайшоў на самагубства, але лёс захаваў яго жыццё. 4 лютага 1931 г. закончыў жыццё самагубствам першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук гісторык Усевалад Ігнатоўскі. Магчыма, гэтыя акты самагубства найбольш вядомых людзей Беларусі прымусілі ўлады не праводзіць адкрыты судовы працэс па справе «Саюза вызвалення Беларусі», як меркавалася спачатку, па аналогіі з судовым спектаклем на Украіне, які адбыўся ў Харкаве па справе «Спілка визволення України».

Ужо 14 снежня 1930 г. у газеце «Звязда» надрукаваны «Адкрыты ліст» Янкі Купалы, у якім ён адмяжоўваўся ад нацдэмаў. Гэта быў пераломны момант у жыцці і творчасці песняра, пасля якога ён быў вымушаны многія творы і выступленні рабіць не ад шчырага сэрца, а так, як патрабавалі тагачасныя палітычныя абставіны. Паэт з тонкай, чуллівай і таму вельмі ранімай натурай асабліва балюча перажываў усе супярэчлівыя і драматычныя падзеі 1930–1940-х гг.

Было цяжка ад таго, што яго праслаўлялі і адначасова забаранялі друкаваць найлепшыя творы ранейшых гадоў.

Янку Купалу Максім Гарэцкі больш не бачыў (10 лютага 1938 г. ён быў расстраляны ў Вязьме, у 1959 г. поўнасцю рэабілітаваны). Гаўрылу Гарэцкаму давялося яшчэ раз здалёк убачыць песняра. Той стаяў побач з Максімам Горкім на параходзе пры ўрачыстым адкрыцці Беламорска-Балтыйскага канала ў жніўні 1933 г. Гаўрыла Гарэцкі быў на беразе сярод натоўпу зняволеных, сасланых і вольнанаёмных будаўнікоў канала. Пазней Янка Купала расказаў пра паездку на канал у лісце «Цуда, створанае бальшавікамі», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» і «Літаратурнай газеце».

Гаўрыла Гарэцкі вельмі перажываў, калі даведаўся пра загадкавую смерць Янкі Купалы. Усё жыццё ён насіў у сэрцы вобраз песняра, часта згадваў яго, перачытваў яго творы, пры магчымасці наведваў Уладзіславу Францаўну…

Ён у лісце (19.V.1943, Масква) да Ларысы Гарэцкай пісаў: *«Учора ўвечары быў у Якуба Коласа — ён сёньня едзе па сям'ю. У Коласа спаткаўся з цёткаю Уладзяю, Купаліхаю. Яна толькі што прыехала з Казані. Была стомленая з дарогі, узрушаная спатканьнямі, узнэрваваная. Кінулася да мяне, цалавала і плакала. Яна мае вельмі змучаны выгляд, стомленая, збянтэжаная, адзінокая. Відаць і хочыць узьняцца ў ёй надзея, імкненьне, і раптам усё абрываецца, як успомніць згубу. Колас трапна сказаў пра яе стан верш, сэнс якога прыблізна такі: «Сердце радостно не трепещет у того, для кого уже не бьется другое сердце». Стала пасьля гэтага вельмі ціха, ціха ў пакоі. А былі там таксама Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Максім Танк, адна маладзенькая партызанка з Барысава. Бедная, бедная Уладзя — яна нават не ведае абставін сьмерці Янкі. Цётка Уладзіслава вітае Цябе і цалуе. Пра ўсіх распыталася.*

*Усе рукапісы Янкі, увесь яго багаты літаратурны архіў — усё згарэла ў Менску, калі палілі яго немцы. Янка пры жыцьці асабліва шкадаваў аб гэтай страце. Яны нічога з сабою не*

*змаглі захапіць. З полымем згінулі вялікія каштоўнасьці, бязцэнная спадчына беларускае культуры».*

У лісце ад 25.V.1943 адзначыў: *«Быў у Купаліхі. Шмат чаго яна апавядала мне пра апошні год жыцьця Купалы. Якія цяжкія ў яго былі перажываньні — ад фізычных хвароб і іншых».*

Ліст ад 17.VI.1943 з Масквы: *«Учора быў я ў гасьцёх у цёткі Уладзіславы, якая жыве ў гасьцініцы «Масква». Добра пагаманілі. Успамінае яна ўсё Янку, яго апошнія гады. Паказала мне ўсе яго апошнія карткі. Як-небудзь паедзем у Крэматорый, укланіцца праху вялікага нашага песьняра-прарока. Крыўды ўсе свае яна расказала. Вітае Цябе. Казала, што тут у Москве і Мядзёлка, якая адна з блізкіх і была толькі на хаўтурах. «І вачэй маіх ніхто не зачыніць» — успамінала Уладзіслава адзін з яго вершаў, прадбачлівы. Агледзіў я месца страшное катастрофы. Цяжка проста ўявіць, як мог адбыцца такі выпадак… 28.VI будзе гадавіна, адбудзецца вечар памяці».*

Пра ўражанні ад вечара ў лісце ад 2.VII.1943: «*Прыйшлі, калі ўжо паэты чыталі свае вершы, прысьвечаныя Купалу. Гэта была самая лепшая частка вечара. Чыталі вершы: М. Танк, П. Глебка, П. Броўка, Пестрак, Астрэйка. Асабліва моцнае ўражаньне засталося ў мяне ад Глебкі, і ад яго чытаньня (выключная шчырасьць і чыстата), і ад вершу: «А ты, сіраціна, жыві»… Народ, які мае палкіх песьняроў, няўміручы. <…> Наогул, вечар быў арганізаваны зусім дрэнна, нядбайна. <…> Толькі выступленьні паэтаў паказалі, што жыве і век будзе жыць Янка Купала, беларускае слова і культура, жыць будзе вечна беларускі народ. А батракі і нядбальства іх — мінуць, памруць».*

Калі Г. Гарэцкі працаваў у 1946 г. на Волзе па інжынерна-геалагічных даследаваннях пад Волжскія і Камскія ГЭС недалёка ад Казані, ён не мог не завітаць у пасёлак Пячышчы, дзе ў 1941–1942 гг. жыў Янка Купала. Ён занатаваў успаміны людзей, якія ведалі паэта, і напісаў артыкул «Памяць аб Купале на Волзе». Даслаў яго ў газету «Літаратура і мастацтва», але

тады напісанае засталося ненадрукаваным (небяспечны аўтар з «нацдэмаў»; толькі пасля смерці аўтара яго сын апублікаваў артыкул у той самай газеце ў 1989 г.).

Ліст ад 30.1.1947 з Масквы: *«Увечары хадзіў наведаць цёцю Уладзю. Там было шмат людзей: Канстанцыя, артыст К. Саннікаў, пісьменнік М. Зінгер, Даніла Міцкевіч, дзьве старэнькія жанчыны Ждановічы (маці 76 год, дачцэ пад 50), нейкая маладая дзяўчына і яшчэ розныя госьці зьяўляліся і зьнікалі. Даўно я не бачыў такой калаверці людзей — гэта вельмі стамляе.*

*Цёця Уладзя… стомленая, роспачлівая, нэўрастэнічная, на ўвесь сьвет пакрыўджаная.*

*<…> Дабрата ранейшая Купаліхі, фанатычнае адчуваньне адказнасьці за Купалаўскую памяць, яе мучаньні і роспач перамаглі ўсё няпрыемнае.*

*Цёця Уладзя дала мне плакат памяці Купалы, дзьве кніжачкі, прысьвечаныя яго памяці, фатакартку. Дзякавала за артыкул, казала, што выдрукуюць яго к пятым угодкам. Дала мне прачытаць верш М. Рыльскага — вельмі чулы і прыгожы, дзе ён раўнуе Купалу з Шаўчэнка, адзначае, як граніў Купала беларускае слова, як застаецца ён на вякі вобразам крылатай Беларусі. Чытаў успаміны М. Зінгера, А. Караваевай».*

Ліст ад 13.11.1955 з Масквы: *«Толькі што глядзелі, слухалі «Паўлінку» ў філіале МХАТ. Гэта быў не проста спектакль, а трыумф беларускага тэатральнага мастацтва. Слухачы зразумелі артыстаў, часамі панавала тая няўлоўная цішыня, якая ствараецца ў тэатры ў хвіліны найвялікшага ўздыму, калі мастацтва пануе над усёю істотаю людзей. Дык такіх хвілін абсалютнае цішыні было шмат.*

*А колькі воплескаў, непасрэдных, шчырых у час дзеяньня, колькі сьмеху, сапраўднага захапленьня. Амаль ніколі не адчуваў я такога еднаньня артыстаў і гледачоў, як сёньня.*

*Гэта нельга выказаць словамі. Насалоду адчуў я найвышэйшую, якой амаль ніколі такой не адчуваў. І радасьць ахапіла ўсё сэрца — вось яно тое вялікае, дзеля якога было столькі ахвяр.*

*Вось і зараз — так хораша на душы, так радасна. «Ныне отпущаеши» — хочыцца сказаць. Няўміручы народ і яго сапраўды народное мастацтва!*

*У тэатры спаткаліся з цёткай Уладкаю — шчыра так пагаманілі, праводзілі яе да Пушкінскай вуліцы, а самі паехалі сюды. Цётка Уладыслава запрашала нас у Мінск да сябе ў госьці, абяцала ўсё паказаць».*

У лістах да сваёй жонкі Гаўрыла Гарэцкі пісаў: *«І не мог адарвацца ад чытаньня «Дневника» Т. Г. Шаўчэнкі. <…> Чамусьці ўспамінаецца Янка Купала, які быў у нас бліжэй да Шаўчэнкі, чым Якуб Колас. І той незабыўны ўчынак. Ахвяры, ахвяры…»* (2.XII.1961); *«Сёньня ў «Камунісьце»… у артыкуле Р. Шлопака і С. Якубоўскай «Слаўная гісторыя беларускага народу», прачытаў такія красамоўныя радкі: «В последние годы, в республике особенно усилилась тяга белорусов к русскому языку. Здесь наблюдается естественный процесс — русский язык стал или становится родным для значительной части населения. Этот процесс… содействует подъему культуры белорусского народа». Многае робіцца больш зразумелым пасьля прачытаньня і паглыбленьня ў сэнс гэтых радкоў… Прыходзіць на думку верш Янкі Купалы «Раскрыйся нанова магіла…»*[1] (17.XI.1962)»; *«Зноў наведаў магілы нашых сучаснікаў: Янкі Купалы, цёткі Уладкі, Якуба Коласа, яго жонкі, Ігнатоўскага…»* (20.IX.1966); *«Цалюсенькі дзень чытаю «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры», т. 2. <…> Зараз зноў пачну чытаць пра Янку Купалу — каб набрацца больш сацыяльнага і нацыянальнага аптымізму»* (20.IV.1969, Мінск); *«Прачытаў маладыя вершы Купалы — якое хараство! Бяру томік вершаў і паэм Купалы ў дарогу; 25.VI, у дзень нараджэньня, мы будзем недзе блізка ад Вязынкі»* (10.VI.1970, Мінск); «*А В. С. так памыляецца ў ацэнцы помніка*

[1] Купала Я. Збор твораў : у 7 т. — Мінск : Навука і тэхніка, 1976. — Т. 7. — С. 452–453.

*Купалу. Гэты помнік — такі ж шэдэўр мастацтва, як помнік Шапэну, Пушкіну»* (18.VIII.1971, Мінск).

Гаўрыла Гарэцкі надрукаваў некалькі ўспамінаў пра Янку Купалу: «Наш Купала — мой Купала» (1980), «А хто там ідзе» (1981), «Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні» (1982), «Памяць аб Купале на Волзе» (1989).

Янку Купалу ніколі, нават у моманты самых змрочных перажыванняў, не пакідала нязгасная вера ў беларускі народ:

О! Веру, веру, што загнаны
Мяне не здрадзіць мой народ…

*2002*

## Якуб Колас і браты Гарэцкія

Калі ў 1909–1913 гг. Максім Гарэцкі яшчэ вучыўся ў Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы, Якуб Колас ужо быў вядомым беларускім паэтам і празаікам, які апублікаваў шмат выдатных вершаў і апавяданняў, галоўным чынам у «Нашай Ніве», зборнік вершаў «Песні-жальбы» (1910) і шэраг раздзелаў з паэмы «Новая зямля». На яго творчасць звярнулі ўвагу многія літаратары, у тым ліку і Максім Горкі. Максім Гарэцкі захапляўся маладой беларускай літаратурай, асабліва паэзіяй Якуба Коласа і Янкі Купалы, пазнаёміў з іх вершамі і малодшага за яго на 7 гадоў брата Гаўрылу. Студэнт М. Гарэцкі пачаў друкаваць у «Нашай Ніве» невялікія нататкі, а напрыканцы 1912 г. напісаў першае апавяданне «У лазні», якое на наступны год выйшла з друку пад псеўданімам Максім Беларус і за якім пайшоў шэраг новых апавяданняў («Стогны душы», «Роднае карэнне», «У панскім лесе», «Красаваў язмін» і інш.).

Першая сусветная вайна не абмінула Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага. У «Нашай Ніве» ў артыкуле «Нашы пісьменнікі і грамадскія працаўнікі на вайне» адзначана: «Пайшоў шчыры

народны паэт Якуб Колас, выдатная сіла між нашымі песнярамі. Далей — малады здольны пісьменнік Максім Гарэцкі».

У манаграфіі «Гісторыя беларускае літаратуры» (выйшла ў Вільні ў 1920, перавыдавалася ў 1921, 1924 і 1926) Максім Гарэцкі значнае месца адвёў разгляду творчасці Якуба Коласа, якога ўжо тады характарызаваў як класіка беларускай літаратуры, адзначаў яго шматграннасць: *«...ён лірык, эпік, драматург, публіцыст: піша лірычныя вершы, апавяданні, паэмы, драмы, палітычныя брашуры і артыкулы, падручнікі для школ...».* Крытык падкрэсліваў, што Я. Колас «*выступіў на літаратурнай ніве рэвалюцыянерам, а творчасць яго мела такі сацыяльны характар, які для беларускага мужыцкага народа ахопліваў разам і нацыянальныя пытанні».*

Напрыканцы кастрычніка 1923 г. М. Гарэцкі разам з сям’ёю пераехаў з Вільні ў Мінск, а ў лістападзе ўпершыню іх наведаў Якуб Колас. Сустрэліся яны, калі былі ўжо вядомымі беларускімі пісьменнікамі. У 1924 г. Максім пазнаёміў з Якубам Коласам і Гаўрылу, які да таго часу закончыў Ціміразеўскую сельскагаспадарчую акадэмію ў Маскве. Якуб Колас і браты Гарэцкія, а таксама іх сем’і пасябравалі на ўсё жыццё. Кожны з іх спазнаў не толькі радасць і шчасце сапраўднага кахання і творчага натхнення, але і несправядлівасці жыццёвага лёсу, якія атрымалі ад уладаў розных рэжымаў: Якуб Колас быў асуджаны царскім судом і адсядзеў тры гады ў мінскім астрозе, Максім Гарэцкі быў двойчы арыштаваны белапольскай паліцыяй і некалькі месяцаў адбыў у адзіночцы віленскай турмы Лукішкі, а Гаўрыла Гарэцкі трапіў на паўтара месяца ў падвалы Лубянкі як прадстаўнік вальнадумнай інтэлігенцыі — «лакеев капитала», якую Ленін задумаў выслаць за межы Расеі. Але ўсіх траіх аб’ядноўвала шчырая любоў да Бацькаўшчыны, нацыянальнаму адраджэнню якой, росквіту яе культуры, народнай гаспадаркі і дабрабыту народа яны здольныя былі аддаць усю сілу і гарачае пачуццё сваіх бунтарскіх сэрцаў.

Як правадзейныя члены Інбелкульта, Якуб Колас і Максім Гарэцкі плённа працавалі ў розных яго камісіях і секцыях, часта сустракаліся на працы, хадзілі адзін да аднаго ў госці, чыталі свае творы, дзяліліся творчымі планамі. Яны ўдзельнічалі ў агульным сходзе Інбелкульта з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння В. Брусава, у вечарыне ў гонар часопіса «Маладняк», чыталі лекцыі па беларусазнаўстве ў Калінінскай акрузе, разам ездзілі ў Мсціслаўскі педтэхнікум для чытання лекцый па граматыцы і методыцы выкладання беларускай мовы на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, бралі ўдзел у працы першай беларускай Акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай рэформе беларускага правапісу і азбукі, і інш. Па выхадзе ў свет сваіх кніг прэзентавалі іх адзін аднаму. Так, Я. Колас падараваў М. Гарэцкаму паэму «Сымон-музыка» з надпісам *«Дарагому другу Максіму Гарэцкаму ад аўтара. Менск. 12.IX.1925»,* кнігу «Казкі жыцця» з аўтографам *«Міламу Максіму Гарэцкаму ад Якуба Коласа. 15.XI.1928 г.»,* а М. Гарэцкі яму — «На імперыялістычнай вайне», «Гісторыю беларускае літаратуры».

Калі Максім Гарэцкі працаваў загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, туды ў красавіку 1927 г. прыязджаў Якуб Колас. Ён выступаў на літаратурнай вечарыне ў студэнцкім клубе, а на кватэры Гарэцкіх чытаў свае творы выкладчыкам і членам літаратурнага аб’яднання. Канстанцін Міхайлавіч з вялікай асалодай слухаў беларускія песні, якія яму спявала жонка Максіма Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая і яе сяброўкі. Апранутыя ў прыгожыя беларускія строі, яны сфатаграфаваліся разам з паэтам. Троху пазней у «Звяздзе» М. Гарэцкі надрукаваў артыкул «Якуб Колас пасля Кастрычніка». У ім разгледзеў творчую эвалюцыю пісьменніка, якому ў канцы 1926 г. у сувязі з 20-годдзем літаратурнай творчасці надалі годнасць народнага паэта Беларусі.

Гаўрыла Гарэцкі пасля працы загадчыкам кафедры эканамічнай геаграфіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў

Горках быў прызначаны дырэктарам арганізаванага ім Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Мінску, а ў красавіку 1927 г. разам з Якубам Коласам і Янкам Купалам удзельнічаў у працы VIII Усебеларускага з'езда Саветаў, на якім іх вылучылі кандыдатамі ў члены ЦВК. У красавіку 1928 г. ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук, а ўжо ў снежні спецыяльнай камісіяй былі абраныя і зацверджаныя СНК БССР першыя правадзейныя члены акадэміі, сярод якіх былі Якуб Колас, Янка Купала, Гаўрыла Гарэцкі. Тады ж Якуб Колас стаў віцэ-прэзідэнтам Беларускай АН (заставаўся на гэтай пасадзе да канца жыцця). 1 студзеня 1929 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Акадэміі навук, і Гаўрыла Гарэцкі сядзеў паміж народнымі паэтамі. У тым жа годзе яны прымалі ўдзел у працы IX Усебеларускага з'езда Саветаў (абраны членамі ЦВК).

У самым канцы 1920-х гг. пачаўся «наступ сацыялізму на ўсім фронце», калі, паводле Сталіна, «рэпрэсіі… з'яўляюцца неабходным элементам наступлення». Разгарнулася барацьба з «нацдэмаўшчынай», пачаліся масавыя арышты. Разам з многімі пісьменнікамі, навукоўцамі, грамадскімі і дзяржаўнымі дзеячамі былі асуджаныя і ў 1931 г. высланыя браты Гарэцкія. Большасць калег і знаёмых адвярнуліся ад арыштаваных і іх сем'яў, бо выказваць спачуванне, а тым больш падтрымліваць «ворагаў народа» — справа небяспечная. Якуб Колас і Янка Купала не пабаяліся гэтага і дапамагалі сем'ям Гарэцкіх не толькі маральна, але і матэрыяльна. Яны нават ліставаліся з высланымі. Вялікі талент, сумленне і дабрыня ў іх былі неразлучныя.

Нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцця ў ссылцы, М. Гарэцкі завяршыў раман «Віленскія камунары» і паслаў рукапіс у выдавецтва ў Мінск. Рупліва працаваў над «Камароўскай хронікай». Улетку 1936 г., ужо пасля вызвалення, М. Гарэцкі наведаў Мінск на адзін дзень, каб даведацца пра лёс рукапісу.

Вельмі хацеў пабачыць Якуба Коласа, але той у гэты дзень быў на дачы. Так яны больш і не сустрэліся, бо ў канцы 1937 г. Максім Гарэцкі быў зноў арыштаваны і 10 лютага 1938 г. расстраляны ў г. Вязьма ва ўзросце амаль 45 гадоў (без 8 дзён). Поўная рэабілітацыя адбылася ў 1959 г. Паступова да чытача вярнуліся і яго творы, а імя стала ў ганаровы шэраг імёнаў выдатных пісьменнікаў — класікаў беларускай літаратуры на чале з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Гаўрыла Гарэцкі, сасланы на Салаўкі, трапіў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Самавукам авалодаў геалогіяй і з эканаміста стаў інжынерам-геолагам. У 1937–1939 гг. быў двойчы арыштаваны, зноў асуджаны да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу), але нейкім дзівам застаўся жывы… Працуючы ў «Гідрапраекце», Г. Гарэцкі ў час Вялікай Айчыннай вайны нярэдка ездзіў у камандзіроўкі ў Маскву, дзе тады жыў Якуб Колас у гасцініцах «Масква» і «Якар», а пазней у Клязьме. Аднавілася паміж імі і перапіска. Гаўрыла Гарэцкі ў лісце да жонкі Ларысы Восіпаўны ад 12.V.1943 пісаў: *«Спаткаў мяне Якуб вельмі ласкава, прыветна. Пагаманілі. Памяняліся адрасамі. Ён бярэ на ўлік усіх працаўнікоў, каб збіраць людзей, калі зграя Гітлера будзе выгнана з беларускай зямлі»*. У ліпені 1944 г. Я. Колас звярнуўся да народнага камісара асветы БССР з просьбай хадайнічаць аб пераводзе дачкі Максіма Гарэцкага Галіны і яе маці Леанілы Усцінаўны на працу ў г. Мсціслаў, а ў жніўні гутарыў з 1-м сакратаром ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкам аб пераводзе Г. Гарэцкага на працу ў Беларусь. Але безвынікова: «ворагі народа» і іх родныя на радзіме былі не патрэбныя і нават шкодныя.

Калі Г. Гарэцкі абараніў кандыдацкую дысертацыю ў 1945 г., а на наступны год — доктарскую ў Інстытуце геалагічных навук АН СССР (Масква), дык гэтыя падзеі ён адзначыў у гасцініцы ў Я. Коласа разам з прысутнымі ў яго беларускімі пісьменнікамі. Я. Колас дасылаў Гаўрылу і Ларысе Гарэцкім свае новыя кнігі: «Рыбакова хата», «На ростанях» і інш. Пяс-

няр вельмі высока ціаніў Г. Гарэцкага. Даніла Міцкевіч успамінаў: ««Вось хто быў бы прэзідэнтам АН БССР — Гаўрыла Гарэцкі!» — неаднойчы казаў мне бацька». У лісце да Якуба Коласа ад 26.IX.1955 г. Гаўрыла Гарэцкі пісаў: *«Увесь час з 1930 г. я жыву думкай і летуценнем аб узвароце на любую Радзіму — і не толькі, каб скласці ў роднай зямлі свае косці... але і таму (галоўным чынам — таму), каб прынесці карысць роднаму народу, каб хоць адзінае зярнятка прынесці ў засекі нашае культуры, каб хоць жменьку зямлі пакласці ў велічны курган адбудовы.*

*Думка аб Беларусі была галоўным рухавіком маёй дзейнасці за мінулыя 25 год. Я зрабіўся геолагам таму, што ў галіне геалогіі, здавалася мне, можна прынесці найбольшую карысць нашай, беднай карыснымі выкапнямі, краіне».*

Якуб Колас у тым жа годзе зноў наведаў сакратара ЦК КПБ Ц. Гарбунова па справе пераводу Г. Гарэцкага ў Беларусь. Але ўсе намаганні не прынеслі плёну... Масква, а за ёю і рэспубліканскія ўлады баяліся сапраўдных патрыётаў рэспублік, на якіх адразу ж навешвалі ярлык «нацыяналістаў», бо іх дзейнасць магла прывесці да жадання самастойнага развіцця краін, а нават самая малая згуба поўнага панавання была страшнай для таталітарнай бальшавіцкай улады.

Гаўрыла Гарэцкі з вялікай павагай і любоўю ставіўся да Якуба Коласа. У лісце ад 21.01.1956 ён пісаў: *«Толькі беражыце сябе, любы Кастусе — ці ж можна так часта хварэць і так нядбайна ставіцца да свайго здароўя...*

*Зразумейце, што гэта трэба для ўсіх, хто Вас ведае, шануе, цэніць, любіць, для беларускае літаратуры, культуры».*

Якуб Колас і браты Гарэцкія былі сведкамі гандлю і беларускімі тэрыторыямі, і беларускай гаспадаркай, мовай і культурай і страшэнна перажывалі за ўціск беларускасці. А ў той час сказаць праўду пра стан беларускай мовы ці культуры (прэсінг татальнай русіфікацыі) было амаль немагчыма, бо гэта магло скончыцца рознымі ганеннямі, звальненнем з працы і

нават турмою. Тым не менш Якуб Колас ставіў перад уладамі многія важныя пытанні, заступаўся за рэпрэсаваных, а перад самай смерцю напісаў пісьмо ў ЦК КПБ у абарону беларускай мовы. Гэта мужны ўчынак.

13 жніўня 1956 г. Якуб Колас памёр.

Гаўрыла Гарэцкі ў 1958 г. быў цалкам рэабілітаваны, у 1965 г. адноўлены ў званні акадэміка (ужо ў галіне не эканомікі, а геалогіі), але дазвол на працу ў Беларусі атрымаў толькі ў 1968 г. Ён заснаваў беларускую школу геолагаў-спецыялістаў у чацвярцёвай геалогіі, быў старшынёй Беларускай антрапагенавай камісіі, Камісіі АН СССР і Савецкай секцыі Міжнароднага саюза па вывучэнні чацвярцёвага перыяду, напісаў шмат прац па геалогіі Беларусі і шэраг манаграфій, якія дазволілі яму стварыць новую навуку — палеапатамалогію (вучэнне пра рэкі геалагічнага мінулага).

У гонар Якуба Коласа адну з світ чацвярцёвых адкладаў Пра-Нёмана Гаўрыла Гарэцкі назваў «коласаўскай». Напісаў артыкулы «Такім яго помню», «Якуб Колас і беларуская навука». Дапамагаў Данілу Міцкевічу стварыць вакол Коласаўскага літаратурна-мемарыяльнага комплексу паміж Стоўбцамі і вёскаю Сверынава запаведнік культуры, прыроды і гісторыі.

20 лістапада 1988 г. Гаўрылы Гарэцкага не стала.

Якуб Колас, Янка Купала, браты Гарэцкія і многія, многія адраджэнцы зрабілі ўсё, што маглі, каб наблізіць той радасны час, калі Беларусь стала незалежнай, калі беларускую мову абвясцілі дзяржаўнай і краіна ступіла на шлях ажыццяўлення беларускай нацыянальнай ідэі. На жаль, да такога часу яны не дажылі.

Найлепшыя прадстаўнікі беларускага народа павінны адстаяць дзяржаўнасць Беларусі, захаваць яе незалежнасць, зрабіць яе дэмакратычнай, каб ва ўсе наступныя стагоддзі нашы нашчадкі з гонарам маглі сказаць: «Жыве Беларусь!».

***2002***

## «Недабіткі»

Аднолькавым прафесійным прыёмам (непрыкметна тупым цвёрдым прадметам са спіны па галаве) каля сваіх дамоў увечары збілі шэраг «апазіцыйных» прадстаўнікоў інтэлігенцыі: Ю. Хашчавацкага, В. Мазынскага, А. Караля, А. Мальдзіса і інш. Падумаў: «Хто ж на чарзе?». Аказалася — я. 17 студзеня 2003 г. быў на пасяджэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы святкавання 25 Сакавіка, аб чым размаўляў з некалькімі людзьмі па тэлефоне. У 19.30 каля першага пад’езда нашага дома (а я жыў у 4-м пад’ездзе) атрымаў такі ж удар. У выніку, як засведчылі ўрачы «хуткай дапамогі», а затым і нейрахірургі адпаведнага аддзялення бальніцы № 9, у мяне чэрапна-мазгавая траўма сярэдняй цяжкасці і сатрасенне мазгоў. У свядомасць пачаў прыходзіць толькі праз тры гадзіны. Следчы, які займаўся гэтай справай, сказаў: «Вось развялося розных бамжоў, беспрацоўных…» Я адказаў: «Не ведаў, што людзі такой катэгорыі цяпер ездзяць на «Опелі»!» (Як я пазней даведаўся, гэтую акцыю зрабілі два маладыя здаровыя хлопцы, якія чакалі мяне на «Опелі» сіняга колеру). Амаль праз 1,5 месяца, калі ўжо выпісаўся з бальніцы, сустрэў А. Мальдзіса, які з гумарам прывітаў мяне: «Віншую вас з уключэннем у кагорту «недабіткаў»!»

***2003***

## Знатакі літаратуры

Некалькі гадоў таму на агульным сходзе НАН Беларусі, у час перапынку, падышоў да мяне адзін фізік-тэхнік, салідны прафесар, доктар навук і спытаў: «Кажуць, вы родны пляменнік Максіма Гарэцкага?» Пасля майго станоўчага адказу дадаў: «Мне вельмі падабаюцца яго вершы». Значна пазней аналагічны паўтор атрымаўся ў першага прэзідэнта Беларусі, які ў перадачы «Глас народа» Расійскага тэлебачання НТВ сказаў, што ён «учился и воспитывался на стихах Василя Быкова».

***2003***

## Прызвычаіліся

Калі першы раз арыштавалі праф. Юрася Хадыку (красавік 1996 г.) за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу, большасць людзей была ўпэўнена, што гэта парушэнне Канстытуцыі, і таму лічылі, што арыштавалі ні за што. Я таксама вельмі быў узрушаны такімі паводзінамі ўладаў, перажываў за Хадыку, асабліва пасля таго, як ён аб'явіў галадоўку. Я звярнуўся да Прэзідыума АН Беларусі з прапановай выказаць пратэст сілавым структурам краіны за незаконны арышт нашага вядомага навукоўца, доктара навук, прафесара, загадчыка лабараторыі Інстытута фізікі АН Беларусі, але ніхто мяне не падтрымаў, бо не хацелі выклікаць незадаволенасць уладаў, баяліся, што гэта адаб'ецца на іх адносінах да АН Беларусі, яе фінансаванні, а некаторыя члены Прэзідыума нават падтрымлівалі такія дзеянні.

Цяпер, пасля 8-гадовага панавання прэзідэнцкай улады, настолькі ўжо прызвычаіліся да такіх арыштаў, што многія лічаць гэта амаль за нармальную з'яву і нават не заўважаюць, чаму на якім-небудзь мерапрыемстве апазіцыі не бачна таго ж Ю. Хадыку, і са здзіўленнем даведваюцца, што ён зноў сядзіць у СІЗО.

*2003*

## Дзесяцігоддзе Першага з'езда беларусаў свету

8–10 ліпеня 1993 г. у Мінску прайшоў Першы з'езд беларусаў свету, які наладзіла ЗБС «Бацькаўшчына» разам з урадавымі арганізацыямі Беларусі. Нагадаю вам некаторыя галоўныя моманты агульнай сітуацыі таго часу ў нашай краіне. Устаноўчы з'езд ЗБС «Бацькаўшчына» адбыўся ў верасні 1990 г. Першым прэзідэнтам згуртавання быў абраны Васіль Быкаў, а старшынёю Рады і Управы — Яўген Лецка. У снежні 1992 г. ЗБС «Бацькаўшчына» правяло Першы сход беларусаў

блізкага замежжа. Пачатак 90-х гг. вызначаўся бурным нацыянальным адраджэннем, гуртаваннем нацыянальна свядомых сіл для пабудовы маладой дзяржавы — Беларусі, якая ў 1991 г. аб'явіла сваю незалежнасць. Былі зацверджаны старадаўнія нацыянальныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Беларуская мова аб'яўлена дзяржаўнай. Увосень 1992 г. дэмакратычнымі арганізацыямі шырока адзначаліся ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, а вясной наступнага года ўрачыста святкавалася 75-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі, прычым апошняе з удзелам дзяржаўных структураў. Пачалі ўсталёўвацца кантакты паміж беларусамі метраполіі і замежжа. Ствараліся добрыя ўмовы для кансалідацыі беларускай нацыі, да здзяйснення мары Янкі Купалы, які даўно кінуў кліч: «На Вялікі Сход, па Бацькаўшчыну!», таму Управа ЗБС «Бацькаўшчына» прапанавала склікаць сусветны форум беларусаў, што падтрымалі як Сход беларусаў блізкага замежжа, так і ўдзельнікі Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (Кліўленд, верасень 1992 г.). Але была і вялікая колькасць людзей, асабліва з ліку чыноўніцкай наменклатуры і пракамуністычных сілаў, якія варожа ставіліся да склікання з'езда. Нават і сярод дэмакратычных сілаў многія лічылі, што ў краіне яшчэ няма спрыяльных умоў і таму праводзіць такі форум рана і немэтазгодна.

Былі створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы з'езда (сустаршыні: ад ЗБС — В. Быкаў, ад дзяржавы — міністр замежных спраў П. Краўчанка) і рабочая група пад кіраўніцтвам сябра Рады ЗБС Г. Сурмач. Трэба падкрэсліць, што правядзенне з'езда фінансавалася прыблізна напалову грамадскімі сіламі і дзяржаваю. Галоўная ідэя з'езда — нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны, а асноўная тэма — будаўніцтва незалежнай дзяржавы Беларусі.

З'езд прайшоў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета, які быў прыгожа афармлены пад панаваннем нацыянальных сімвалаў і харугвам спецыяльна падрыхтаванай Э. Агуновічам

да з’езда. Зала была перапоўнена — прысутнічала больш за 1200 удзельнікаў, з іх прадстаўнікоў замежжа — 486 чалавек. Адкрыў з’езд уступным словам Васіль Быкаў, з прывітаннем выступілі кіраўнік краіны старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, старшыня Таварыства беларускай мовы народны паэт Ніл Гілевіч. Асноўныя даклады: Р. Гарэцкі аб сусветнай беларускай супольнасці «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці»; намеснік старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук — ад урада Рэспублікі Беларусь «Эканамічная сітуацыя і магчымасці выхаду з крызісу»; ад заходняй дыяспары Я. Запруднік; справаздачны даклад — Я. Лецка «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» на цярністым шляху яднання беларусаў свету».

Выступілі Р. Завістовіч — старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэта (ЗША); М. Ганько — старшыня Згуртавання беларусаў Канады (Таронта); В. Грыцкевіч — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства (Санкт-Пецярбург); А. Баршчэўскі (Барскі) — Варшава; Р. Жук-Грышкевіч — старшыня Каардынацыйнага Камітэта беларусаў Канады; В. Станкевіч — кіраўнік Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» (Мюнхен); З. Пазняк — старшыня Беларускага Народнага Фронту (Мінск); Л. Луцкевіч (Вільня); М. Станкевіч — старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў (Беларусь); Мэцью Каханэ (прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь); М. Навумовіч — старшыня Беларускага хаўрусу ў Францыі; У. Шнэк — старшыня Беларускага Вызвольнага Фронту (Аўстралія); Я. Лугін — старшыня Беларускай сялянскай партыі (Беларусь); А. Сабалеўскі — старшыня Таварыства беларускай культуры (Масква); Я. Жучка — старшыня Згуртавання беларусаў Бельгіі (Брусель); Я. Гутман — старшыня Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі (ЗША); У. Дзяржынскі — старшыня Беларускай грамады ў Малдове; Б. Цімошчанка — старшыня Беларускага

нацыянальнага культурнага таварыства «Белая Русь» (Львоў, Украіна); А. Трусаў — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (Беларусь); прафесар Л. Лыч і многія іншыя. На адрас з'езда паступілі шматлікія прывітанні.

Адбыліся пасяджэнні круглых сталоў па тэмах: беларуская дзяржаўнасць (кіраўнік А. Каўка); беларуская гаспадарка (Г. Лыч); беларуская культура (У. Конан); беларуская дыяспара (В. Грыцкевіч, Я. Запруднік); праблемы Чарнобыля (Т. Белавокая).

У абмеркаванні пытанняў асноўных дакументаў з'езда і круглых сталоў, апрача ўжо пералічаных выступоўцаў, прынялі ўдзел прадстаўнікі замежжа А. Карповіч (Рыга), В. Румак (Чыкага), Г. Лех (Масква), В. Целеш (Рыга), Г. Русак (ЗША), М. Антух (Сіднэй), В. Кіпель (ЗША), А. Глод (Масква), П. Капчык (Ізяслаў), М. Лужынскі (Сіднэй), М. Іваноў (Мюнхен), Г. Усцілоўскі (Комі), К. Майсеня (Гайнаўка), А. Шнэк (Мельбурн), Я. Ясьвіловіч (Англія), М. Ярчак (Рыга), А. Баркоўскі (Якуція), З. Клыга (Кохтла-Ярве); міністры ўрада Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, Я. Вайтовіч, В. Гайсёнак і інш., намеснікі міністраў У. Гілеп, І. Карэнда, Л. Сухнат і інш.; дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ю. Беленькі, В. Голубеў і інш.; святары Ян Матусевіч, Міхаіл Сапель, Георгій Латушка, Міхаіл Уляхін, Уладзімір Місеюк, а таксама многія іншыя ўдзельнікі.

Былі праведзены ўрачыстасці ў г. Нясвіжы, прысвечаныя юбілейным датам у гісторыі народа; у г. Навагрудку, прысвечаныя гадавіне каранацыі князя Міндоўга; Купалле (Высокі бераг на Стаўбцоўшчыне і ў Баркалабаве на Быхаўшчыне); Нарачанскі форум; для дзяцей мастацкая выстаўка «Жыве Беларусь»; свята паэзіі «Палымянае слова Купалы»; выстаўка «Беларусы ў свеце»; адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар Максіма Гарэцкага; разнастайныя сустрэчы па інтарэсах.

Выніковыя дакументы з'езда: Зварот да беларускага народа; Зварот беларусаў замежжа — удзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету; Дэкларацыя аб прынцыпах нацыянальнага

дзяржаўнага будаўніцтва; Зварот да Парламента і Урада Рэспублікі Беларусь; Заява па вайсковаму пытанню; Рэзалюцыя «Аб падтрымцы дзейнасці Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»; Пастанова аб Радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары; Рэзалюцыя аб падтрымцы Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода»; Зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка». Было абрана новае кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына».

Падрыхтоўка да з’езда, яго правядзенне і вынікі шырока асвятляліся ў газетах, часопісах, па радыё і тэлебачанні.

У 1997 г. з друку выйшла кніга «Першы з’езд беларусаў свету. Матэрыялы і дакументы».

Такім чынам, 10 год таму ўпершыню сабраліся разам прадстаўнікі беларусаў усяго свету, каб асэнсаваць сябе ў кантэксце сваёй прысутнасці ў свеце, кансалідаваць нацыю, абмеркаваць шляхі да сапраўднай незалежнасці, дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Тады мы з надзеяй глядзелі у будучыню і нам здавалася, што гэты з’езд толькі пачатак магутнага працэсу новага адраджэння, але ў хуткім часе мы ўпэўніліся, што то быў яго апагей, бо ў далейшым такога маштабу сустрэчы і такога адзінства волі і мэтаў нацыі стварыць не ўдалося, аб чым сведчаць Другі і Трэці з’езды беларусаў свету, якія прайшлі не толькі без усялякай падтрымкі ўладаў, а нават з іх перашкодамі. К таму часу змянілася палітыка дзяржавы, кіраўніцтва якой пачала рухаць краіну ў савецкае мінулае, таму іншымі сталі адносіны да нацыянальнага адраджэння, дэмакратычных сілаў, многіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары (асабліва з далёкага замежжа).

Цяпер усё больш з’яўляецца небяспека страты суверэнітэту дзяржавы, бо ўжо існуе канкрэтная дамоўленасць аб агульнай грашовай адзінцы — расійскім рублі, а страта фінансавай незалежнасці вядзе да страты эканамічнай, а за ёй непазбежна і страта палітычная. Тым больш, што ёсць пагадненне аб

пабудове адзінай саюзнай дзяржавы (што, дарэчы, не выгадна ні Расіі, ні Беларусі), а ад Пуціна і многіх расійскіх палітыкаў ідуць прапановы і пагрозы ўваходу Беларусі ў склад Расіі.

Першы з'езд беларусаў свету паказаў, што беларусы могуць аб'яднацца для пабудовы незалежнай дэмакратычнай і багатай дзяржавы, да чаго і павінны імкнуцца, каб навечна жыла Беларусь, каб нашы дзеці і ўнукі маглі з гонарам сказаць, што «Жыве Беларусь!».

*2003*

## Мясцовае самакіраванне

У Нарвегіі ёсць і ўрад з рознымі міністэрствамі, і парламент (сторцінг), і нават кіраўнік дзяржавы — кароль, але ў асноўных адміністрацыйных адзінках — камунах галоўная ўлада, ад якой залежаць амаль усе жыццёвыя канкрэтныя праблемы жыхароў камуны, — гэта мясцовае самакіраванне. На чале такой мясцовай адміністрацыі раз у чатыры гады народам абіраюцца дэпутаты ў праўленне, якія добра ведаюць усе праблемы жыхароў і якіх добра ведае кожны жыхар камуны. У іх усе галоўныя атрыбуты ўлад: фінансы, падаткі, сацыяльная дапамога і г. д. Сістэма значна лепшая, чым наша «вертыкаль», якой круціць не заўсёды кампетэнтны ва ўсіх справах кіраўнік, якая лезе ва ўсе дзіркі нават малой вёскі і без якой нічога нельга зрабіць на месцах свайго асабістага і карыснага. У Каралеўстве дзейнічае добра распрацаванае заканадаўства згодна з Канстытуцыяй 1814 г. (у тым ліку сацыяльная забеспячэнне). У выніку — няма крымінальных з'яў, няма жабракоў і бамжоў, няма галодных людзей.

*2003*

## Аэрапорт як лядовы палац

Кіраўнік дзяржавы ўсё будуе лядовыя палацы. Наш аэрапорт таксама стаў як лядовы палац. Асабліва адчуваеш гэта пасля прылёту з іншых аэрапортаў Еўропы, у якіх жыццё кіпіць. У нас жа ўсё замарожана: гук самалёта адчуеш рэдка-рэдка, людзей амаль няма, а калі сустракаюцца, дык нейкія замаруджаныя, ходзіш па пустых вялікіх мармуровых залах, як у лядовай пячоры, — вось так адгукаецца палітычная сітуацыя ў краіне.

*2003*

## Жыць цікава

У апошняе дзесяцігоддзе я страціў шмат сваіх блізкіх, сяброў, калег, знаёмых — і старэйшых за мяне, і маладзейшых — і разам з вялікім сумам у сэрцы ад гэтых непапраўных страт яшчэ больш шаную жыццё, кожную яго хвіліну, адчуваю яшчэ большую радасць жыцця, бо жыць так цікава…

*2003*

## Браты Гарэцкія і беларускія паэтэсы — аўтаркі нацыянальных гімнаў

У мінулым, 2003 г. мы адзначалі юбілеі дзвюх выдатнейшых беларускіх паэтак: 110-годдзе Канстанцыі Буйло (нарадзілася 14 студзеня 1893 г.) і 100-годдзе Наталлі Арсенневай (20 верасня 1903 г.). У тым жа годзе споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага (18 лютага 1893 г.). На жаль, юбілеі гэтых вядомых дзеячаў беларускай літаратуры і культуры былі адзначаны не на дзяржаўным узроўні, як таго яны заслугоўваюць, а вельмі сціпла прыхільнікамі беларушчыны. Канстанцыя Буйло — аўтарка верша «Люблю наш край» (напісаны ў 1919 г. у Вільні і апублікаваны ў календары «Заранка»),

Наталля Арсеннева — «Малітва», больш вядомага пад назвай «Магутны Божа» (1943 г. у Мінску — «Беларуская газета»). Гэтыя вершы, дзякуючы музыцы Міколы Равенскага, сталі настолькі папулярнымі і шырока вядомымі, што многія лічаць іх неафіцыйнымі нацыянальнымі гімнамі Беларусі.

Канстанцыя Буйло нарадзілася ў Вільні ў сялянскай сям'і. Пад уплывам вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, надрукаваных у «Нашай Ніве», яна таксама спрабавала пісаць вершы і ўжо ў 1909 г. пачала друкаваць іх у гэтай газеце («Хвоя», «Салавейка», «Скора зіма» і інш.). Кожны год у «Нашай Ніве» і іншых выданнях («Беларускі каляндар», «Маладая Беларусь», «Гомон» і інш.) з'яўляліся яе вершы, а таксама апавяданні, абразкі, драмы («Русалкі», «Кветка папараці», «Сягонняшнія і даўнейшыя» і інш.).

Крыху пазней (з 1912 г.), але прыблізна ў тыя ж гады канца 10-х — самага пачатку 20-х гг. у «Нашай Ніве» пачаў друкаваць нататкі, апавяданні і іншыя свае творы Максім Гарэцкі. Калі ў 1914 г. К. Буйло і М. Гарэцкі пазнаёміліся ў Вільні, яны ўжо былі дастаткова вядомымі пісьменнікамі, асабліва пасля таго, як у гэтым годзе выйшлі іх першыя кніжкі — К. Буйло «Курганная кветка», М. Гарэцкага «Рунь», прычым твор К. Буйло адрэдагаваў сам Янка Купала, які прысвяціў ёй і свой верш «Мая думка» (1910). У Вішнёве яна пазнаёмілася з Уладзіславай Францаўнай, з якой пасябравала на ўсё жыццё.

Да творчасці Канстанцыі Буйло з вялікай прыхільнасцю ставіліся многія пісьменнікі, з якімі яна пазнаёмілася ў Вільні (Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Цётка, Максім Гарэцкі, браты Луцкевічы і інш.). Антон Луцкевіч адзначаў, што *«Буйла горача любіць свой край і народ, бо не можа не любіць: каханнем сагрэта ў яе ўсё, што яна робіць, што піша»*. Ён высока цаніў яе «Песні кахання», яе цудоўную пейзажную, інтымную і філасофскую лірыку. Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» ў раздзеле «Назваслоўе» — тлумачальным слоўніку літаратурных тэрмінаў і паняццяў — у

якасці прыкладаў прывёў шэраг вытрымак з вершаў К. Буйло ці спасылак на яе творчасць.

У 1923 г. К. Буйло пераехала ў Маскву да мужа — Віталя Адольфавіча Калечыца, які закончыў Пятроўскую сельскагаспадарчую акадэмію, у 1933 г. быў арыштаваны і ў ГУЛАГу загінуў. Ёй адной прыйшлося гадаваць яшчэ зусім малога сына. Гэтыя падзеі, цяжкае жыццё і асабліва адарванасць ад беларускага літаратурнага жыцця дрэнна адбіліся на яе творчасці. *«Я мала пісала, зрэдку пасылала вершы ў «Полымя». Я. Купала і Уладка і ў тыя цяжкія для мяне часы сардэчна ставіліся да маёй працы. Яны ўсё разумелі»*[1].

* * *

Наталля Арсеннева нарадзілася ў Баку ў сям'і служачага, з роду якога быў рускі паэт Міхаіл Лермантаў. У хуткім часе яны пераехалі ў Вільню, а ў вайну вымушаны бегчы ў Яраслаўль, дзе Наталля напісала першыя вершы на рускай мове. У 1920 г. Арсенневы зноў у Вільні, а Наталля — вучаніца сёмага класа Першай Віленскай гімназіі, якая адчынілася 1 студзеня 1919 г. і ў якой Максім Гарэцкі выкладаў беларускую мову і літаратуру. Ён да гэтага працаваў у Мінску ў рэдакцыі газеты «Звязда», з якой разам пераехаў у Вільню. Апошняя была аб'яўлена сталіцай Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі, створанай маскоўскімі бальшавікамі пасля Першага ўсебеларускага з'езда Саветаў і ліквідацыі ўрада на чале з З. Жылуновічам.

Першы нумар газеты ў Вільні выйшаў 1 красавіка 1919 г., а ўжо 21 красавіка горад раптоўна быў захоплены польскімі войскамі. М. Гарэцкі прачнуўся ад грукату гармат і кулямётных чэргаў. Пад свіст куль ён прабраўся ў гатэль «Брыстоль», дзе жылі супрацоўнікі «Звязды», але іх (у тым ліку і галоўнага рэдактара Кнорына) там ужо не было. Як успамінае М. Гарэцкі: *«...дапамог нам ратавацца, з немалою рызыкаю і небяспекаю*

---

[1] Буйло (Калечыц) Канстанцыя Антонаўна // Пяцьдзесят чатыры дарогі : Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. — Мінск, 1983. — С. 77.

*для сябе самога, беларускі драматург і артыст Францішак Аляхновіч. Ён прывёў нас да сябе на кватэру, і там на Маставой вуліцы, мы і прыпыніліся, каб троху абдумацца, якім спосабам выбрацца з Вільні [...]. Але выбрацца нам тады не прыйшлося, мы мусілі застацца ў Вільні...»*[1]

М. Гарэцкі пачаў працаваць у Першай Віленскай беларускай гімназіі і на беларускіх настаўніцкіх і вышэйшых літоўскіх педагагічных курсах. У гімназіі ён пазнаёміўся з настаўніцай пачатковых класаў Леанілай Чарняўскай, якая рыхтавала для друку сваю першую чытанку «Родны край», і ўжо 16 ліпеня яны абвянчаліся ў Прачысценскім саборы.

Вось як успамінае Наталля Арсеннева Першую Віленскую беларускую гімназію: *«Неставала блізу ўсяго, шмат хто з вучняў і з настаўнікаў галадаваў, не было нястачы толькі ўвадным — у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што голад і холад, аддана вялі сваю працу з адною думкай — зрабіць шчасьлівай сваю Бацькаўшчыну — Беларусь. Людзей гэтых было няшмат, але іхны прыклад распаліў і іншых і ад пачатку надаў гімназіі той кірунак, які прычыніўся да пазьнейшае ейнае характарыстыкі — «кузьня беларускіх дзеячоў». [...] Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, «Цётка Алёна» — вось людзі, якія вучылі тут беларускую моладзь і якія навучылі мяне горача любіць Беларусь, такую пакрыўджаную лёсам, але такую чароўную»*[2]

Шчасце ў шлюбе, цікавая педагагічная дзейнасць у гімназіі натхнялі М. Гарэцкага на плённую творчую працу, ён адчуў вялікі ўздым, прыліў сіл і працаздольнасці... Больш чым у 10 нумарах «Беларускай думкі» (1919) была надрукавана

---

[1] Гарэцкі М. Смаленск–Мінск–Вільня // Творы. — Мінск, 1990. — С. 292.

[2] Адамовіч А. Наталья Арсеньнева «Між берагамі» : біяграфічна-крытычны нарыс // Між берагамі. Выбар паэзіі Натальлі Арсеньневай. 1920–1970. Бел. ін-т навукі і мастацтва. — New York ; Toronto, 1979. — С. XIII.

аповесць «Дзве душы»[1] і ў тым жа годзе выйшла асобным выданнем. Твор адразу заўважылі і прыхільна сустрэлі многія сучаснікі: станоўчыя крытычныя артыкулы напісалі З. Бядуля, А. Луцкевіч. Яе ўплыў на працэс беларускага адраджэння быў настолькі значны, што, напрыклад, І. Канчэўскі — аўтар брашуры «Адвечным шляхам: Досьледзіны беларускага сьветапогляду» (1921) — у якасці свайго псеўданіма ўзяў імя галоўнага героя аповесці Ігната Абдзіраловіча. Адно за другім выходзяць апавяданні: «Ідуць усе — іду я», «Кросны», «Панская сучка», «Тамашы», «Бірка», «Злосць», «Грэшная чарнушка», «Паншчына», «Дурны вучыцель», «Еду дамоў», «Страшная музыкава песня», «Скарб», «Сасна», «Апостал», «Прафэсар» і інш.

Адначасова Гарэцкі перарабляў і дапаўняў смаленскі слоўнік братоў М. і Г. Гарэцкіх (1918), які пад назваю «Маскоўска-беларускі слоўнік» выйшаў у Вільні ў 1920 г. А перад гэтым падрыхтаваў «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнічак», што меў у далейшым тры выданні. Пільна працаваў над кнігай «Гісторыя беларускае літаратуры», якая выйшла ўжо ў 1920 г., а на наступны год і другое папраўленае выданне. Апрача таго, убачыў свет на польскай мове «Krótki zarys historji literatury białoruskej». На кнігу адразу адгукнуўся ў «Нашай Ніве» Ант. Навіна: *«Мы горача вітаем працу М. Гарэцкага. Яна бясспорна мае вагу не толькі як учэбнік, але і як адзін з фактараў усведамлення «маладых» беларусаў, каторыя так мала ведаюць аб сваім народзе, аб яго гісторыі і літаратуры. Яна пакажа і нашым суседзям, якія культурныя скарбы меў і мае беларускі народ»*.

У розных газетах Максім надрукаваў крытычныя артыкулы пра Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Галубка і рэцэнзію на яго п’есу «Апошняе спатканне», Лявона Гмырака, Паўлюка Багрыма, Янку Купалу і інш., шэраг публіцыстычных артыку-

[1] «Рэабілітацыя» аповесці адбылася толькі праз 70 гадоў, калі яна ў 1989 г. была надрукавана ў часопісе «Полымя», № 7, хаця ў Нью-Ёрку яна выйшла значна раней — у 1975 г. у выданні газеты «Беларус» з прадмовай Станіслава Станкевіча.

лаў (звычайна пад псеўданімамі Дзед Кузьма, А. Мсціслаўскі): «Свабода слова», «Да амерыканскіх беларусаў», «Любіце польскі народ», «400-лецце друку ў Вільні», «Беларускія дзеячы» з польскаю душою» і інш. У кнізе «Памяці Івана Луцкевіча» (Вільня, 1920) змешчаны ўспаміны М. Гарэцкага.

Леаніла Чарняўская працавала над чытанкай «Родны край». Падбірала найбольш выдатныя творы з сусветнай літаратуры. сама перакладала на беларускую мову. Максім дапамагаў. Жонка змясціла ў кніжцы асобныя апавяданні М. Гарэцкага і ўрыўкі з іх, а таксама зусім новыя, такія, як «Бітва на Уле», «Уцёкі Сярэбранага» і інш.

Каб мець сваю беларускую газету ў Сярэдняй Літве і дапамагчы «чытаючым кірылаўскімі літарамі беларусам», М. Гарэцкі як рэдактар-выдавец пачаў з 24 снежня 1920 г. друкаваць штодзённую грамадска-палітычную і літаратурную газету «Наша думка», у якой асноўная ўвага аддавалася палітычнаму і эканамічнаму становішчу Заходняй Беларусі. Газета змагалася за беларускую культуру і асвету. Выйшла толькі 27 нумароў, бо 8 ліпеня 1921 г. газета была забаронена польскімі ўладамі. Але ўжо 14 верасня М. Гарэцкаму задалося пачаць выдаваць на беларускай мове газету «Беларускія ведамасці» таго ж накірунку. Выйшла 19 нумароў — 15 студзеня 1922 г. газета была закрыта. З літаратурных і гістарычных матэрыялаў, апублікаваных у газеце, былі выдадзены «Беларускі дэкламатар» і тры зборнікі «Беларускія ведамасці». У газетах друкавалі артыкулы многія вядомыя беларускія дзеячы культуры, навукі, адукацыі. Шмат матэрыялаў змясціў і сам Максім.

А. Луцкевіч у прысвечаным М. Гарэцкаму артыкуле «Ідэолаг народнае інтэлігенцыі» лічыць яго *«найглыбейшым з ідэолагаў беларускае адраджэнскае народнае інтэлігенцыі»*. На думку даследчыка, *«...Беларуская нацыянальная справа, справа нацыянальнага адраджэння беларускага народа — гэта найвышэйшы догмат грамадскае рэлігіі Гарэцкага»*.

З вялікім стараннем і любоўю Максім вёў заняткі ў беларускай гімназіі, поспехі вучняў якой прыносілі такое задавальненне і ўсялялі надзею на будучае пакаленне свядомых беларусаў. Асаблівую ўвагу звярнуў на вучаніцу сёмага класа, якая нядаўна прыехала з Яраслаўля, — Наталлю Арсенневу. Яна слухала свайго настаўніка ўважліва, баялася прапусціць хоць адно слова, старалася выконваць усе яго заданні, глядзела на яго як зачараваная ўлюблёнымі вачыма… Пазней знакамітая паэтка ўспамінала: *«Маім духоўным настаўнікам стаўся блізу з першых дзён навукі ў гімназіі настаўнік беларускае мовы і літаратуры, аўтар «Руні» й «Патаёмнага» Максім Гарэцкі. Памятаю, калі я пабачыла яго ўпершыню на лекцыі ў нашым 7-ым класе, мяне самперш уразілі ягоныя вочы вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя знічы (я гэтак і падумала тады — «знічы») на худаватым, аскэтычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар «Патаёмнага» мець і не мог… Зразумела я тады й тое, што я мушу цяпер як найхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найлепей за ўсіх у класе, ведаць задаваныя нам Гарэцкім лекцыі з беларускае літаратуры […] У восьмы клас я перайшла з добрымі ацэнкамі й з беларускае мовы й з літаратуры.*

*[…] Аднак заняткі ў Беларускай гімназіі, якую я ўжо моцна паспела палюбіць, пачаліся ў сваім часе, й я ўзноўкі сустрэлася з сябрамі і настаўнікамі, між імі з Максімам Гарэцкім. На вялікі мой жаль, ён не быў ужо выкладчыкам літаратуры ў нашым класе. Ды сувязь мая з ім дзеля гэтага не парвалася, а яшчэ памацнела».*

Юная гімназістка асмелілася і паказала настаўніку два сваіх вершы: «Восень» і «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». У той жа дзень у гімназіі праводзіўся літаратурны вечар. *«Гэтага памятнага для мяне вечара першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвясціў прысутных, што мае для іх добрую навіну. «У нас з’явілася новая Буйлянка, —*

*сказаў ён, — новая паэтка, якая ўжо сёння ці не перавышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце» […] І Гарэцкі пачаў чытаць […] дадзеныя яму нараніцы мае вершы.*

*[…] М. Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх вершаў, бо здараліся ж і такія, а проста аддаваў іх мне, зацеміўшы: «Гэтак па-беларуску не гаворыцца», або «Гэтае месца раю перапрацаваць» ці што іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго не толькі з поўслова, але гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзнімаліся ўгару, залежна ад уражання. Рух гэтых броваў, нячастая ўсмешка на вузкіх вуснах, — былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабою, над моваю…*

*[…] Але гэткі ўжо быў Гарэцкі ў дачыненні й да іншых і да сябе — суровы, справядлівы й вельмі паважаны»*[1].

Першыя друкаваныя вершы Наталлі Арсенневай «Мой родны край», «Летуценні», «Восень» з’явіліся ў газеце «Наша Ніва», а затым у газеце «Наша думка» ў канцы 1920 г., дзе іх змясціў М. Гарэцкі. Троху пазней, у 1921 г. шэраг вершаў, у тым ліку «Плач старога лесуна», «У лесе» і інш., ён надрукаваў у тых жа газетах, а таксама ў «Беларускіх ведамасцях», а затым яшчэ некалькі вершаў у «Зборніку Беларускіх ведамасцей». У газеце «Наша думка» (1921) быў надрукаваны верш «Красавік» («Неба сіняе, сіняе, сіняе…»), прысвечаны Максіму Гарэцкаму. У лісце да Я. Карскага Гарэцкі паведаміў: *«Маем толькі адну прыемнасць, тую, што на страніцах газет, якія тут выходзілі, азначылася новая, пэўная і спадзейная талань маладой паэтэсы Наталлі Арсенневой…»*[2]

[1] Арсеннева Н. Я не палітык і ніколі ім не была // ЛіМ. — 1992. — 17 ліпеня.
[2] Гарэцкі М. Творы. — Мінск, 1990. — С. 398.

Гэтыя вершы згаданы ў выпуску 3-га тома «Беларусаў» Карскага (Петраград, 1922), дзе пра Арсенневу адзначана: «Навейшая пісьменьніца. Паводле водгуку Гарэцкага, вельмі таленавітая» (с. 378). У «Дэкламатары» (1922) М. Гарэцкі змясціў верш Арсенневай «Мая душа».

Значна пазней Н. Арсеннева пісала пра М. Гарэцкага: *«Ён з вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, і заахвочваў мяне да лепшага пісаньня. Ягонае сьветлае ймя я й дагэтуль заўсёды ўспамінаю з вялікай уздзячнасцю й любасцю». «…Ён хросны бацька мой на паэтычнай ніве. Хто ведае, ці сталася б я наогул паэткай Натальлей Арсеньневай, каб не ягоныя ўважлівыя, крытчныя, але й сьвятыя для мяне дачыненьні да майго таленту, які толькі што прабіваўся як парастак з-пад зямлі, каб не ягоныя добрыя рады, ягоныя назіраньні за маім ростам…»*.

Восенню 1922 г. Наталля Арсеннева выйшла замуж за Францішка Кушаля і выехала з Вільні ў Польшчу, а ў 1923 г. і Максім Гарэцкі з сям’ёю пераехаў у Мінск. Больш яны ніколі не сустрэліся.

У Мінску М. Гарэцкі ў хрэстаматыі «Выпісы з беларускае літаратуры» ч. II (М. : СПб., 1923) з літаратурных аднагодкаў Н. Арсенневай змясціў толькі яе вершы: «Восень», «Плач старога лесуна», «Плакалі ў садзе бярозы…». «Лес шумеў» і інш. У 1927 г. у Вільні быў выдадзены першы зборнік вершаў Арсенневай «Пад сінім небам», у якім яна змясціла і верш «Красавік».

М. Гарэцкі ў 1928 г. пісаў: *«…У беларусаў пад Польшчаю з’явілася шмат маладых паэтаў, пісьменнікаў і публіцыстаў, але з выдатных іменняў можна тым часам назваць хіба толькі адно гэта імя Наталлі Аляксееўны Арсенневай — расіянкі па нацыянальнасці, а беларускі толькі па жыхарству і культуры.*

*…Форма вершаў Арсенневай, у галіне тэхнікі вершаскладання, не вызначаецца нейкай асаблівай бліскучасцю, але яны*

*захопліваюць шчырасцю пачуцця, далікатнасцю тону і нейкаю асабліваю пяшчотнасцю вобразаў і слоў…».*

* * *

Гаўрыла Гарэцкі з Н. Арсенневай не быў знаёмы, а вось з К. Буйло пасябраваў з часоў працы ў Маскве ў першую палову 1923 г. Але сустракаліся яны рэдка, а пазней гулагаўскія падзеі развялі іх да самай вайны.

Як пісала сама К. Буйло: *«І вось прыйшла новая бяда — вайна. Вялікае гора, што выпала на долю акупіраванай Беларусі, скаланула мае сэрца. Я апынулася ў асяроддзі сяброў, якіх вайна перамясціла ў Маскву, і зноў пачала шмат пісаць».*

У другую палову вайны і пасля яе заканчэння Гаўрыла Гарэцкі працаваў у Гідрапраекце МУС на інжынерна-геалагічных даследаваннях пад розныя будоўлі гідраэлектрастанцый, водных каналаў і інш. і часта прыязджаў у камандзіроўку ў Маскву, а ў 1956 г. ён пераехаў у г. Дзедаўск у Падмаскоўе ў філіял «Гідрапраекта». У Маскве ён зрэдку сустракаўся з Канстанцыяй Буйло.

У лістах да жонкі ён пісаў пра гэта: *«19.V.43 г. …Учора ўвечары быў у Якуба Коласа — ён сёньня едзе па сям'ю. У Коласа спаткаўся з цёткаю Уладзяю, Купаліхаю. […] Гаманіў па тэлефону з Канстанцыяй Буйла — заеду да яе заўтры разам з цёткаю Уладзяю».*

*«1.X.44 г. …Бачыў Канстанцыю і Уладзіславу. Галю Купаліха будзе выклікаць у Менск для працы ў Купалаўскім музэі».*

*«15.1.45 г. …Быў у Канстанцыі. Купаліха прыедзе з Менску праз дзён 4–5. Памёр Кузьма Чорны — гэта самая жалобная навіна — як мне шкада вялікага нашага празаіка. Шмат яму было клопату ў Менску — разьбіў яго паралюш».*

*«12.11.45. …хадзіў да беларусаў у госці, у гасьцініцу «Якар». Там бачыў і Якуба Коласа (ён толькі раніцою прыехаў з Менску), яго сына Данілу, Алесю, Канстанцыю Буйла, Маўра, Насту Дзятлоўскую, Аўгена Хлебцэвіча. Ад усіх засылаю Табе вітаньне. К. Буйла запрашае да яе заехаць, калі Ты будзеш у Маскве».*

*«10.VI.45 г. ...Потым заехаў я да Канстанцыі. Сустрэла яна мяне, як роднага. Шмат, шмат гаманілі, і доўга. Вершы свае яна мне чытала. Я начаваў у яе. Начою ішоў дождж. Раніца была росная, прыгожая. Падаравала яна мне дзьве фотакарткі, але я іх забыўся ўзяць. Схаджу да яе перад ад’ездам».*

*«17.VI.45 г. ...Быў у гасьцях у Канстанцыі. Харошыя былі, сапраўды сяброўскія гамонкі. Бачыў яе любага пляменніка Алега, якога яна любіць больш сына. Хлопцу 22 гады, разумны, прыгожы, вайсковец, з зенітных частак пад Масквою. Марыць хлопец аб ВНУ. Быў ён з сваёю вайсковаю падругаю — добра яны ўмеюць піць і курыць і быць вясёлымі. К. вітае і цалуе Цябе. Усё ж яна зусім адзінокая і сумная, толькі хавае гэта яна пад зброяй вясёласьці, жарту, кніпу... [...] Чуў ад Канстанцыі сумную навіну — памерла Марыя Дзмітрыеўна, жонка Коласа. Чула яна, што ўжо пахавалі яе. Сьмерць усё звужае свае колы. Шкада Якуба, прыгнечаным будзе і маркотным яго дух. Пастараюся яшчэ пабачыцца з ім».*

Прыблізна праз тыдзень К. Буйло падаравала Г. Гарэцкаму сваё фота, на абароце якога зрабіла надпіс: *«Сардэчнае пажаданне міламу Гурыку:*

*Каб Табе заўсегды, і ў дзень і ў ночы*
*Полымна свяцілі сонечныя вочы...*
*Вечарам і ранкам і ў кожнай хвілі*
*Тысячамі сонцаў каб яны свяцілі...*
*Хай Табе ў далечынь росяць вочы тыя —*
*Сонечных праменяў стрэлы залатыя...*
*Хай у быт і думкі льюць яны*
*бяз конца —*
*Рэкі —*
*Вадаспады — залатога сонца...*

*24.VI.45 г. Кон. Буйло».*

*«1.XII.45 г. ...Быў учора ў Канстанцыі, бо не было чаго ўжо карэктаваць, вечар выдаўся вольны. Начаваў там. Добра пагаманілі, яна чытала мне свае вершы».*

*«24.XII.45 г. ...У суботу пад выхадны дзень быў я ў другі раз у Канстанцыі, начаваў у іх. Прыходзіла сястра К. Інка, сын і дачушка Інкі (ужо вялікая), жонка брата, які знайшоўся. Памерла гэтымі днямі (надоечы) іхняя маці, 85 год, так і не пабачыўшы сына. К. учора паехала ў Менск, на пленум пісьменнікаў».*

*«14.V.46 г. ...Быў у Канстанцыі».*

*«30.01.47 г. ...Увечары хадзіў наведаць цёцю Уладзю. Там было шмат людзей: Канстанцыя, артыст К. Саннікаў, пісьменнік М. Зінгер, Даніла Міцкевіч... [...] Праводзіў Канстанцыю дахаты. Шмат гаманілі па дарозе. Канстанцыя на творчым уздыме — гэта яе паратунак, як паэта».*

*«9.IV.49 г. ...К. Буйла таксама выйшла замуж, едзе ў Сочы, на курорт, шчаслівая. Гаварыў з ёю па тэлефону. Кніжка яе з друку яшчэ не з'явілась. Брат Алесі зьвярнуўся назад».*

* * *

У 1939 г. сям'я польскага афіцэра Ф. Кушаля, якая больш як 15 гадоў жыла ў Заходняй Беларусі, апынулася ў БССР, а сам гаспадар — у савецкім палоне. Цяжкі і нават трагічны лёс перад самай вайной закінуў Н. Арсенневу з двума сынамі ў казахстанскую ссылку, а перад гэтым памерлі сястра Вольга, бацька і маці. Не паспелі ў траўні 1941 г. з'ехацца Арсеннева з Казахстана, а Кушаль — з Лубянкі, як пачалася вайна. Далей — нялёгкае жыццё ў акупаваным Мінску, згуба старэйшага сына Яраслава, які загінуў ад міны, што ўзарвалася ў Мінскім гарадскім тэатры, перапоўненым моладдзю, затым будзе Германія і нарэшце — ЗША.

Ва ўсе часы, як адзначала паэтэса, *«...паэзія была маім ратункам, заглушала кашмарную рэчаіснасць, у якой мы замушаны былі жыць»*. Са зменай жыцця мяняліся і напрамкі яе

паэзіі. Яны робяцца больш гістарычна-патрыятычнымі. У час вайны напісана славутая «Малітва» (1942) — неафіцыйны нацыянальна-рэлігійны гімн Беларусі.

Калі ў 1994 г. мяне і Ганну Сурмач, як кіраўнікоў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», запрасілі ўдзельнічаць у 21-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (Таронта, 3–5 верасня) і мы на аўтамашыне ехалі з Нью-Ёрка ў Канаду, вельмі хацелася заехаць у Рочэстэр, каб сустрэцца з Н. Арсенневай. Вітаўт Кіпель падараваў нам яе кніжку «Між берагамі» (1979), на якой мы спадзяваліся атрымаць аўтограф паэткі. Ён пазваніў Арсенневай, і яна запэўніла, што абавязкова будзе ў Таронта, і таму мы паехалі больш прамым шляхам без заезду ў Рочэстэр. На жаль, Арсеннева троху застудзілася і на 21-й сустрэчы быць не змагла. Да гэтага часу вялікае шкадаванне не пакідае мяне…

* * *

Канстанцыя Буйло памерла ў Маскве 4 чэрвеня 1986 г., а ў 1989 г. урна з яе прахам была перавезена ў Вішнёва на Валожыншчыне. Яе «Люблю наш край…» гучыць па радыё («Свабода» і інш.) кожны дзень, амаль як гімн спяваюць асабліва часта на Беласточчыне і ў Заходняй Беларусі. У час адкрыцця Другога з’езда беларусаў свету (26 ліпеня 1997 г.) мы стоячы выканалі «Магутны Божа», а праз пару гадзін да нас прыйшла вестка, што ўчора памерла Наталля Арсеннева. Вершы Канстанцыі Буйло і Наталлі Арсенневай і асабліва адзначаныя раней нацыянальныя гімны будуць гучаць вечна, саграваючы сэрцы ўсё новых і новых пакаленняў беларусаў, удзячных гэтым выдатным беларускім паэткам.

*2003*

## Жанчына многіх талентаў

*(Да 110-годдзя Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай)*

Калі Максім Гарэцкі ў красавіку 1919 г. пачаў працаваць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Першай Віленскай беларускай гімназіі, ён пачуў вельмі добрыя водгукі пра маладую таленавітую настаўніцу пачатковых класаў той жа гімназіі Леанілу Чарняўскую, якая рыхтавала сваю першую чытанку «Родны край». Пайшоў пазнаёміцца і быў уражаны: прыгожая, зграбная, з вялікімі сінімі-сінімі вачыма, якія свяціліся розумам і добразычлівасцю, з пышнай касой, плаўнымі рухамі, а калі загаварыла, дык ён пачуў надзіва чыстую напеўную мову, меладычны грудны голас… Адразу вырашыў: «Гэта яна, адзіная… Павінна стаць маёй на ўсё жыццё!» 16 ліпеня яны абвянчаліся ў Прачысценскім саборы.

Леаніла Усцінаўна нарадзілася 16 лістапада 1893 г. у Таргунах Докшыцкага раёна Віцебшчыны ў сялянскай сям'і Усціна і Амілі Чарняўскіх, у якіх было шасцёра дзетак, закончыла Вышэйшае Марыінскае вучылішча ў Вільні, займалася рэпетытарствам, настаўнічала ў сяле Залессе на Віленшчыне, падрыхтавала зборнік «Дзяціныя гульні», пісала абразкі для дзетак (першае апавяданне «Мікітка»).

Якое творчае натхненне атрымаў малады пісьменнік ад сапраўднага глыбокага кахання! Шчаслівая сям'я, у якой муж і жонка мелі агульныя імкненні і цікавасці ў педагагічнай дзейнасці і пісьменніцкай творчасці, у хуткім часе папоўнілася дзецьмі — Галяй, а пазней і Лёнем. Віленскі перыяд хаця і цяжкім быў з боку бытавых умоў, але адзін з самых творчых у жыцці гэтых пісьменнікаў і педагогаў.

Леаніла Чарняўская працавала над чытанкай «Родны край», якая неаднаразова перавыдавалася і па якой вучыліся многія вучні. Яна падбірала найбольш выдатныя творы з сусветнай літаратуры, сама перакладала іх на беларускую мову. Максім дапамагаў у працы над «Родным краем», а Леаніла — у

падборцы матэрыялаў да Максімавай манаграфіі «Гісторыя беларускай літаратуры». У чытанку яна змясціла асобныя апавяданні М. Гарэцкага і ўрыўкі з іх, а таксама зусім новыя, такія, як «Бітва на Уле», «Уцёкі Сярэбранага» і інш.

Вось як успамінае пра гэтую кніжку, па якой ён таксама вучыўся, Янка Брыль[1]: *«Родны край, трэцяя і чацвёртая пасля лемантара кніжкі для чытання». Танная шэра-шурпатая папера, няхітрыя графічныя малюнкі, усе тэксты ў густую падборку, — нібы вельмі вялікая сям'я сабралася ў беднай цясноце мужыцкай хаты. Аднак, якая гэта дружная, разумная сям'я, — з якой любасцю да справы, з якім грунтоўным веданнем яе складзена гэтая кніжка!.. Тургенеў — «Гора» («Щи»), Чэхаў — «Ванька», Гаршын — «Жаба-падарожніца» і «На полі бойкі» (урывак з апавядання «Чатыры дні»)… Ажэшка — «Рэха», Тэтмаер — «Успаміны», Канапніцкая — «Як кароль у паход выходзіў…» Да рускіх і палякаў — сусветна любімы датчанін Андэрсен — «Каралеўская вопратка», «Апошняя лекцыя» француза Дадэ, «Дарагія грошы» — украінскае, «Горкі смех» — габрэйскае… Туды, у гэтую цудоўную сям'ю, натуральна і раўнапраўна ўвайшло і наша роднае — Багушэвіч, Купала, Багдановіч, Колас, Бядуля, Цётка… Гэта адтуль заселі ў памяці майго сэрца «Воўк і авечка», «Песня вайны», «Слуцкія ткаллі», «Ліпы старыя», «Малітва малога Габрусіка», «Міхаська».*

*Гэта адтуль пачаўся і мой Гарэцкі, мая любоў да яго, спачатку больш інтуітыўная, відаць, з прадчуваннем таго, што прыйдзе пазней, са шчасліва сардэчнай, урыўкавай музыкай, таёмна роднымі гукамі гэтага прадчування. Цяжка іх перадаць…»*

У хаце маладых настаўнікаў часта гучалі музыка і песні. Максім добра імправізаваў на скрыпачцы, якую ўсё жыццё стараўся мець у сябе, валодаў прыгожым мяккім барыто-

[1] Брыль Я. Пасля лемантара // ЛіМ. — 1981. — 2 студзеня.

нам, а Леаніла мела моцнае лірычнае сапрана і ведала многа народных песень — рускіх, украінскіх, польскіх і асабліва беларускіх. Спявалі паасобку і разам, але Максім больш любіў моўчкі сядзець і слухаць задушэўныя, часцей сумныя беларускія песні, якія так цудоўна з надзвычайным майстэрствам, як сапраўдная артыстка, выконвала жонка сваім чароўным, чыстым, мілагучным голасам. Пазней ад свекрыві сваёй Ефрасінні Міхайлаўны яна навучылася і многім песням Мсціслаўшчыны, якія вельмі любіў Максім.

Але шчаслівае спакойнае жыццё для Гарэцкіх было нядоўгім, бо ў ноч з 19 на 20 студзеня 1922 г., калі Леаніла Усцінаўна была цяжарная сынам, польскія ўлады арыштавалі Максіма і пасадзілі ў адзіночку віленскай турмы Лукішкі. Была небяспека, што могуць расстраляць. Пра арышт літоўска-беларускіх дзеячаў многа пісалася ў газетах, а жонкі зняволеных нават надрукавалі пратэст, які падпісала і Леаніла Чарняўская. Толькі надзея на хуткае вызваленне мужа і клопат аб дзетках ратавалі яе. Супакойвала і вышыванне беларускіх арнаментаў, якія яна з ранніх гадоў умела рабіць рознымі відамі — і гладдзю, і крыжыкам. Гэта і пазней часта дапамагала ёй у жыццёвых пакутах…

Потым з 1923 г. быў Мінск, Горкі, зноў Мінск. Гэты перыяд яшчэ больш плённай пісьменніцкай і педагагічнай працы. Леаніла Усцінаўна шмат напісала: выйшлі творы для дарослых («Падарожніца», «Бяздзетухна», «Валуй», «Папова батрачка», «Вясновыя хмаркі») і для дзяцей («Варка», «Кот Знайдзён», «Андрэйка», зборнік «Лявонка», «Сталёвы конь»; апавяданні «Жук», «На гародзе», «Працоўныя мазалі» і інш.). Пераклала на беларускую мову «Гісторыю аднаго мядзведзя» Сэтана-Томпсана, «Бунт Моці-Гёджа» Кіплінга, «Каштанку» Чэхава, дапамагала М. Гарэцкаму перакладаць «У нетрах Усурыйскага краю» Арсеннева.

Гарэцкія сябравалі і сустракаліся з многімі пісьменнікамі, навукоўцамі і іх сем’ямі: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака

Бядулі, Уладзіміра Дубоўкі, Адама Бабарэкі, Алеся Якімовіча, Юркі Гаўрука і інш. Часта бачыліся з бацькам, маці і роднымі Максіма.

Нармальнае жыццё і творчы ўздым зноў рэзка абарваліся ўлетку 1930 г.: Максіма і яго брата Гаўрылу разам з многімі дзеячамі навукі і культуры арыштавалі, а праз год і саслалі. Максім Гарэцкі трапіў у Вятку (г. Кіраў), куды ў 1932 г. пераехала і яго сям'я. Леаніла Усцінаўна працавала тут выхавацелькай у дзіцячым садку. Жылося вельмі цяжка і ў бытавым і ў маральным сэнсе.

У 1935 г. пасля сканчэння тэрміну высылкі М. Гарэцкі з сям'ёй пераехаў у Пясочню Смаленскай вобласці, дзе настаўнічаў у сярэдняй школе. У 1937-м — падчас найбольшага ўздыму сталінскіх рэпрэсій, калі дабівалі недабітых «ворагаў народа», Максім Гарэцкі адчуваў небяспеку, вельмі непакоіўся і ўвесь час думаў, што будзе з сям'ёю. Маглі арыштаваць не толькі яго, але і жонку. Ён нават прапанаваў Леаніле Усцінаўне падаць на развод, шукаць працу ў Смаленску або вярнуцца ў Вятку. Яна адмовілася. У тыя дні, як успамінае Галіна Максімаўна, тата аднойчы падазваў яе да сябе і, паказаўшы на другі бок вуліцы, па якім ішла яе мама, сказаў: «Запомні — яна святая!» І паўтарыў: «Святая!» У канцы кастрычніка Максіма Гарэцкага арыштавалі і, як адносна нядаўна стала вядома, ужо 10 лютага 1938 г. расстралялі ў г. Вязьме. Леаніла Чарняўская так і не даведалася праўды пра расстрэл мужа, бо раней атрымала ад НКУС хлуслівую даведку аб яго смерці нібыта ад кровазліцця ў мозг 20 сакавіка 1939 г. у пасёлку Вожаель (Комі АССР).

Няўцешнае гора зноў звалілася на гэтую мужную жанчыну, калі 18 лютага 1944 г. загінуў на фронце яе любы сын Лёня.

У 1947 г. Леаніла Усцінаўна выйшла на пенсію, пераехала ў Ленінград, дзе жыла разам з дачкою. Пакуты жыцця зрабілі сваю справу: апошнія восем гадоў яна была поўнасцю прыкутая да ложка. Фізічна нямоглая, яна захавала яснасць думкі і

паспела напісаць успаміны, якія выйшлі з друку ўжо пасля яе смерці (26 верасня 1976 г.): «Як складалася кніжка народных песень» (1984), «Памятка» (1990), «Успаміны пра знаёмства і сустрэчы з Якубам Коласам», «Памяці сына» (1994). Пасмяротна былі надрукаваны дзве яе кніжкі: «Казёл Мэка і Кудла. Апавяданні» (1979) і «Апавяданні» (1983). У часопісе «Полымя» было змешчана апавяданне «Кутніца» (1994).

У канцы жыцця вялікай радасцю для Леанілы Усцінаўны было з'яўленне ў друку шэрагу твораў Максіма Гарэцкага, чыю літаратурную спадчыну яна разам з дачкою беражліва захоўвала, а таксама лісты з фронту сына Леаніда ў часопісах «Маладосць» (1974. № 9) і «Юность» (1975. № 4). Вялікае каханне і шчырая падзяка за яго свайму адзінаму абранніку, падараваўшаму ёй гэтае цудоўнае пачуццё, якое саграваляла светлымі ўспамінамі яе слабое сэрца, прымусілі незадоўга перад смерцю прызнацца: «Ніколі, ні разу не пашкадавала, што выйшла замуж за Максіма, хоць і нялёгкім аказаўся мой лёс».

*2003*

## Для Радзімы і яе славы

Васіль Быкаў належаў да таго пакалення, якое стала галоўнай сілай Савецкай Арміі ў Вялікую Айчынную вайну, асабліва ў яе другую палову. Яно панесла найбольшыя страты, таму сам Быкаў назваў яго «забітым пакаленнем». Маё пакаленне маладзейшае ўсяго на 3–5 гадоў і не паспела трапіць пад масавы прызыў у армію, але спазнала на сабе многія цяжкасці ваеннага часу: голад і холад, акупацыю і эвакуацыю, смерць родных і блізкіх, працоўную і нават ваенную мабілізацыю, цэнзуру і шпіёнаманію, а то і зняволенне, гаркоту паражэння і радасць перамог і г. д. Таму нашаму пакаленню асабліва было цікава ўсё, што тычылася ваеннага часу. Тады ж усё было пад таталітарным усёвідушчым вокам уладных структур з хлуслівымі паведамленнямі і з фронту, і з тылу, са страхам за

сваё жыццё… Вайна аб'яднала нас у адно ваеннае пакаленне і адначасова падзяліла на тых, хто поўнай мерай зведаў цяжар фронту, і тых, хто не прыняў непасрэдны ўдзел у бітвах.

Думалася, што пасля вайны ўсё зменіцца, будзе па-іншаму, але ўсеагульнае свята перамогі хутка скончылася і насталі часы таго ж кшталту хлусні, дэмагогіі, двурушніцтва, страху. Пачаліся новыя працэсы над рознымі «ворагамі народа»: савецкімі ваеннапалоннымі і жыхарамі акупаваных мясцін, генетыкамі, касмапалітамі, музыкантамі-«какафаністамі», літаратарамі, урачамі і г. д. Па радыё чулі, у прэсе чыталі адно, а ў жыцці часта бачылі зусім іншае.

Аднак цікавасць да нядаўніх суровых падзей была надзвычайная, асабліва ўспаміны, раманы і аповесці пра ваенныя гады. Уражвала мужнасць і гераічнасць савецкіх людзей на фронце і ў тыле. Кнігі раскупляліся ўмомант, і не толькі сучасных пісьменнікаў, але і класікаў мінулага. Каб здабыць некаторыя кнігі, даводзілася збіраць макулатуру, стаяць у чарзе, загадзя падпісвацца. Наклады тоўстых часопісаў раслі неймаверна хутка. Але падзеі ваеннага часу апісваліся толькі ў светлых фарбах сацыялістычнага рэалізму. Сталін сказаў, што загінула ў вайну 7 мільёнаў чалавек — і паспрабуй назваць іншую лічбу, хаця самы просты роздум прыводзіў да значна большай колькасці загінуўшых. І ў той жа час ад воінаў, якія вярнуліся з фронту, дарэчы, многія з якіх паступалі ў інстытуты і тэхнікумы разам з намі, што толькі што атрымалі ў школах атэстаты сталасці, мы чулі зусім іншую праўду пра вайну.

Пасля смерці Сталіна, асабліва ў так званую «хрушчоўскую адлігу», у друк пачалі прабівацца творы, у якіх падавалася горкая праўда пра вайну і нават пра сталінскія лагеры. Як бомба, прагучаў даклад М. Хрушчова пра Сталіна і масавыя рэпрэсіі, а затым з'явіліся першыя творы А. Салжаніцына. Найвялікшае ўражанне рабілі творы маладых пісьменнікаў-«шасцідзясятнікаў». Ярка засвяцілася імя Васіля Быкава.

Мой тата, Гаўрыла Гарэцкі, які ў канцы 50-х гг., як і яго брат Максім, атрымаў поўную рэабілітацыю па прысудах 30-х гг., у 1965 г. быў узноўлены ў званні акадэміка Акадэміі навук БССР, вельмі цікавіўся новымі творамі сусветнай, савецкай і асабліва беларускай літаратуры. Ён звярнуў маю ўвагу і на творы Васіля Быкава, які ў канцы 50-х, 60-я і пачатку 70-х гг. выпусціў адну за другой шэраг выдатных апавяданняў і аповесцяў: «Смерць чалавека», «Жураўліны крык», «Здрада», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Абеліск», «Дажыць да світання» і інш. Тата, а потым і я, былі ў захапленні ад іх, з нецярплівасцю чакалі новых і, не адрываючыся, «праглытвалі» іх. Тата ў той час жыў у Падмаскоўі, а я ў Маскве.

Тата тады падкрэсліў, што гэта — сапраўдная ваенная літаратура, а па сутнасці «антываенная», бо паказвае антычалавечае аблічча вайны, яе антыгуманнасць, амаральнасць і абсурднасць, і ўсе яе ўдзельнікі — ахвяры лёсу, ахвяры перш-наперш таталітарных сістэм. Ён звярнуў маю ўвагу на тое, што некалі Максім Гарэцкі марыў аб такім узроўні беларускай літаратуры, а яго «На імперыялістычнай вайне», як лічаць многія нашы выдатныя літаратуразнаўцы, стаіць у шэрагу сусветнай антываеннай прозы, побач з творамі Барбюса, Рэмарка, Хемінгуэя, а цяпер і Быкава.

У лісце да Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай і Г. М. Гарэцкай ад 19.III.1962 тата пісаў: *«У № 2 «Маладосці» ёсць дзіўная аповесць-апавяданне Васіля Быкава «Трэцяя ракета» — ці чыталі Вы? І Лара, і я не маглі кінуць чытанне, пакуль не прачыталі ўсё адразу».* У лісце ад 11.11.1963 да іх жа: *«Мы захапляемся прозаю Васіля Быкава»,* а ў лісце ад 26.11.1964: *«Як Вам падабаецца «Альпійская балада» Васіля Быкава? Мы ў захапленні»…*

У тыя ж гады, калі пачаў стрымгалоў уваходзіць у беларускую і сусветную літаратуру Васіль Быкаў, патроху ішло і

вяртанне спадчыны Максіма Гарэцкага, «Выбраныя творы» якога ў 2-х тамах выйшлі з друку ў 1973 г. І бацькі, і мая сям'я ўжо жылі ў Мінску, і мы многім паслалі гэты двухтомнік. Ад Быкава прыйшоў адказ: *«Вялікі вам дзякуй за двухтомнік. Я вельмі люблю Гарэцкага, лічу яго самым-самым з беларускіх празаікаў мінулага, вельмі шкада, што яго напаткала такая доля. Але што ж! Ніхто з нас не ведае, што чакае яго. Будзьце здаровыя, па магчымасці шчаслівыя!»*

Пасля амаль 40-гадовага выгнання з Беларусі мы, нарэшце, здолелі вярнуцца на радзіму: бацькі ў 1969 г., а я — у снежні 1971 г. Мы змаглі часта наведваць беларускія тэатры, канцэрты, літаратурныя вечары, з'езды пісьменнікаў. На адной з такіх сустрэч ужо ў сярэдзіне 70-х гг. я ўпершыню ўбачыў Васіля Быкава, пачуў яго выступленне і троху быў расчараваны. Я ўбачыў чалавека сярэдняга росту, простага «сялянскага» выгляду, з паставай, якая не кідалася ў вочы, а была сціплай, непрыкметнай і нават троху шчуплай з зачэсаным на бок чубком прамых светлых валасоў на галаве круглаватай формы. І толькі шэрыя вочы адразу вылучаліся сваім пранікнёным поглядам, у якім свяціўся розум і бачылася нялёгкае шматпакутнае жыццё. Не быў ён і бліскучым аратарам: гаварыў роўным, досыць ціхім, малавыразным голасам. Але ўсе слухалі Васіля Быкава вельмі ўважліва, стараліся не прапусціць ніводнага слова, бо яго выступленне было вельмі змястоўным, думкі нестандартныя, глыбокія, закраналі не толькі розум, але даходзілі да душы і сэрца слухачоў. Тады ён сказаў, што трэба пісаць жыццёвую праўду, імкнуцца да адкрыцця ісціны, а для гэтага, апроч таленту, патрэбна немалая мужнасць. Праўда жыцця, якой бы непрыемнай яна ні была, не пашкодзіць дабру. Асабліва праўдзіва трэба пісаць пра вайну, і пакуль чалавецтва будзе памятаць, што яно перажыло ў XX ст., новая вайна немагчымая. Ён гэтую тэму раскрываў вельмі пераканаўча, і было зразумела, што то яго сапраўднае крэда.

Мой тата і я вельмі перажывалі за Васіля Быкава з нагоды тых несправядлівых нападкаў, якія яму прыходзілася ў канцы 60-х — пачатку 70-х гг. чуць ад мясцовых і рэспубліканскіх улад, ад многіх савецкіх генералаў і афіцэраў і іншых крытыкаў, сярод якіх, на жаль, былі і пісьменнікі, і навукоўцы, і іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Тата кожнае лета ездзіў у геалагічныя экспедыцыі, часта бываў на Гродзеншчыне, стараўся заехаць у Гродна і зайсці да Быкава, каб падзякаваць яму за выдатныя творы і маральна падтрымаць у той нядобразычлівай атмасферы, у якую трапіў таленавіты празаік.

18 ліпеня 1974 г. мае бацькі трапілі на вечар, прысвечаны 50-годдзю Васіля Быкава, аб чым тата напісаў Леаніле і Галіне Гарэцкім у Ленінград: *«Вечар адбыўся ў Доме мастацтваў (частка былога Архірэйскага палаца). Ніколі не было ў гэтым Палацы столькі людзей. На ўсіх праходах стаялі прыхільнікі таленту Быкава. Прысутнічалі многія, многія пісьменнікі. Былі прадстаўнікі ЦК і ўраду: Кузьмін, Сняжкова, Марцалёў.*

*Г. М. Бураўкін зрабіў бліскучы даклад — і па форме, і па зместу, па глыбіні і арыгінальнасці думак. Многа было прывітанняў, адрасоў. Васіль Быкаў хваляваўся, пачырванеў; сказаў адказнае слова, сціпла, сціпла. Воплескі амаль ператварыліся ў авацыю. Так было прыемна і радасна»*.

Значна пазней, ужо 24 сакавіка 1979 г., тата зноў піша Галіне Максімаўне пра свае ўражанні: *«...Па тэлебачанню, па запісу перадавалі вечар твораў Васіля Быкава з Дома афіцэраў. Была паўнюсенькая зала, людзі стаялі і каля сцен. Гаварылі Шамякін, Асіпенка, Бураўкін, Чыгрынаў, сам пісьменнік. Многа было пісулек, цікава адказваў В. Быкаў. Але шматразовае «так сказаць» (хаця б «так кажучы») страшэнна засмечвала мову, псавала яе»*.

22 ліпеня 1984 г. бацька пісаў Галіне Максімаўне пра вечар, прысвечаны 60-годдзю Васіля Быкава: *«...на вечар Быкава мы не трапілі, бо не мелі запрашэнняў, а пайсці так у тэатр Янкі Купалы мы не адважыліся.*

*Глядзелі ўважліва ўвесь вечар. Было ўсё вельмі добра. […] А якія шчырыя і палкія прамовы былі. Гэта было сапраўднае свята беларускай культуры, яе ўсесаюзнае прызнанне».*

Непасрэдна з Васілём Уладзіміравічам я пазнаёміўся толькі ў 1980 г., калі спачатку Алесь Адамовіч, а затым і Быкаў звярнуліся да мяне з просьбай дапамагчы ў справе ўшанавання памяці Канстанціна Сіманава, з якім яны сябравалі і які памёр у жніўні папярэдняга года. Справа ў тым, што К. Сіманаў быў сведкам гераічнай барацьбы з фашыстамі пры абароне Магілёва, дзе змагаліся прататыпы многіх яго літаратурных герояў, у тым ліку з рамана «Жывыя і мёртвыя». Гэты эпізод вайны быў настолькі важны для ходу баёў, што К. Сіманаў увесь час дамагаўся, каб гораду Магілёву прысвоілі званне «Горад-герой». Баі пад Магілёвам пакінулі такое моцнае ўражанне на Сіманава, што ён перад смерцю пакінуў завяшчанне, у якім прасіў спаліць яго цела ў крэматорыі, а попел развеяць на Буйніцкім полі, каб хоць так з’яднацца з героямі сваіх твораў і стаць часцінкай той зямлі, дзе навечна паляглі яны зусім маладымі. Адамовіч і Быкаў вырашылі, што на месца, дзе будзе кінуты ў зямлю попел выдатнага пісьменніка, трэба паставіць вялікі прыгожы валун, які стане своеасаблівым помнікам К. Сіманаву.

Алесь Адамовіч ведаў мяне ўжо з таго часу, як працаваў над манаграфіяй «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», прысвечанай жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага, і таму часта наведваў майго бацьку з рознымі пытаннямі пра ягонага брата. Ён таксама ведаў, што наш Інстытут геахіміі і геафізікі Акадэміі навук БССР збірае валуны — помнікі мінулага зямлі беларускай і стварае музей валуноў пад адкрытым небам. Таму як да дырэктара гэтага інстытута яны і звярнуліся да мяне па дапамогу. Жонка і сын К. Сіманава некалькі разоў прыязджалі да нас і нарэшце адабралі вялікі (каля 15 тон вагой), гладка абкатаны валун жоўта-шэрага колеру з чырвоным адценнем,

які з факсімільным подпісам К. Сіманава стаіць у мемарыяльным комплексе на Буйніцкім полі пад Магілёвам…

Васіль Быкаў быў не толькі выдатным пісьменнікам, гонарам беларускай і сусветнай літаратуры, але і вялікім грамадзянінам Беларусі, які ўсё жыццё змагаўся за нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны, за родную мову, уздым культуры, дзяржаўнасць, незалежнасць, дэмакратыю сваёй краіны, таму быў у цэнтры многіх грамадскіх і палітычных падзей. Калі пачалася «перабудова», яго, як постаць № 1 сярод дэмакратычнага руху, пачалі запрашаць узначаліць ці прыняць удзел у розных мерапрыемствах, аб'яднаннях — і ён стаў членам Беларускага гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі», членам Сойма БНФ, народным дэпутатам СССР у блоку дэмакратычных сілаў, першым прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра і інш.

У самым канцы 80-х і на працягу ўсіх 90-х гг. мне давялося досыць часта сустракацца з Васілём Уладзіміравічам на розных канферэнцыях, з'ездах, нарадах, разам працаваць у шэрагу аргкамітэтаў і г. д. Аўтарытэт Васіля Быкава, як жывога класіка беларускай літаратуры і выдатнага грамадскага дзеяча, у гэты час быў найвысачэйшы. Большасць беларусаў успрымала Быкава, як некалі Янку Купалу, — прарокам, сумленнем і гонарам нацыі. Без Быкава нельга ўявіць сабе Беларусь, бо Быкаў увасабляў для ўсяго свету лепшую, перадавую частку нашай Бацькаўшчыны. Я думаю, што ён адчуваў сваю адказнасць перад Радзімай, адчуваў свае месца ў краіне, сваю асобу. Таму ён быў заўсёды сур'ёзны, падцягнуты, прынцыповы, ні на ёту не схіляў галаву перад начальствам. І ў той жа час ён трымаўся вельмі проста, здзіўляла яго ветлівасць, надзвычайная сціпласць, добразычлівасць, далікатнасць, яго гатоўнасць прыйсці на дапамогу. Ён спакойна ставіўся да шматлікіх пахвальных зваротаў да яго, мужна і стойка пераносіў несправядлівыя, часта жорсткія і нават грубыя нападкі,

якіх таксама хапала, асабліва ў апошнія гады жыцця, ад афіцыйных уладаў і іх прыхвасняў, прабальшавіцкі настроеных людзей, нядобразычліўцаў і зайздроснікаў.

Успамінаю ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», які адбыўся ў суботу і нядзелю 24–25 чэрвеня 1989 г. у Вільні. У Беларусі яго правесці было немагчыма, бо ішоў пераслед дзеячаў БНФ і гвалтоўныя разгоны мітынгаў (такіх, як рэквіем на «Дзяды» — нават з выкарыстаннем газаў). Раніцою больш за 400 чалавек, галоўным чынам на цягніку, прыехала ў Вільню. Быў добры сонечны дзень. Хаця ехалі мы «падпольна», у вагонах было шумна і весела, адчуваўся вялікі ўнутраны ўздым. На вакзале больш чым звычайна круцілася міліцыянтаў і маладых спартыўнага выгляду хлопцаў. Адразу аднекуль, як па чарадзейству, з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі і эмблемы «Пагоня», якія горда ўзняліся над натоўпам беларусаў. Так мы вялікімі групамі і хадзілі ўсе два дні — адкрыта, без страху, радасныя, з гонарам, з беларускімі песнямі і воклічам «Жыве Беларусь!». Віленчукі, якія перад гэтым перажылі ўжо нешта падобнае, сустракалі нас вельмі прыхільна, махалі рукамі, падбадзёрвалі, некаторыя шчыра пляскалі, большасць прыезджых беларусаў на ноч змясцілі ў сваіх кватэрах.

З'езд праходзіў у Палацы прафсаюзаў, зала была запоўненая. Выступленне Васіля Быкава сустрэлі дружнымі воплескамі. Ён падкрэсліў, што сюды, у святы для нашых народаў горад, сабраў нас клопат пра будучыню Беларусі, што сваё выйсце мы павінны знайсці самі, што народ павінен стварыць дзяржаву на сапраўды дэмакратычных асновах для ўсіх, хто жыве ў ёй і паважае яе гісторыю, мову, культуру, што поспех усёй нашай справы будзе залежаць ад ступені палітычнай і нацыянальнай свядомасці народа Беларусі, што мы ступілі на цяжкую дарогу дэмакратычнага пераўтварэння жыцця і на гэтай дарозе нас чакае рознае. У канцы выступлення заклікаў: «За справу, за працу!» Быкаў быў абраны ў Сойм БНФ.

Узрушаныя, вярталіся ў Мінск, шумна размаўлялі, дзяліліся незабыўнымі ўражаннямі, спявалі беларускія песні, але чым бліжэй быў Мінск, тым цішэй станавіліся мы, бо пачалі думаць, будзе «хапун» ці не. Хаця «сустракаючых» было шмат, але абышлося ўсё больш-менш спакойна: рабілі заўвагі толькі тым, хто не схаваў бел-чырвона-белыя сцягі, і вырывалі іх з рук. Па дарозе ж, асабліва на самім з’ездзе, было многа нейкіх людзей з відэакамерамі. Ужо значна пазней мне адзін мой знаёмы з ЦК КПБ сказаў, што бачыў мяне на праглядзе відэаматэрыялаў, і дадаў: «Што ж вы так «засвяціліся»? Вы ж як дырэктар інстытута — наменклатура ЦК, і таму трэба быць на далейшае больш асцярожным, бо могуць быць вялікія для вас непрыемнасці».

Яўген Лецка, які быў ініцыятарам утварэння Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», вылучыў Васіля Быкава і мяне ў аргкамітэт. На ўстаноўчай канферэнцыі 10 верасня 1990 г. адбыліся нашы выступы. Васіля Быкава абралі прэзідэнтам згуртавання, а мяне — сябрам Рады. Быкаў адзначыў, што добрыя людзі найбольш згодна жывуць па прынцыпах крэўнасці, таму і нам, беларусам, пара гуртавацца цясней і да чагосьці памкнуцца.

Затым у снежні 1992 г. адбыўся Першы сход беларусаў блізкага замежжа і, нарэшце, у ліпені 1993 г. — Першы з’езд беларусаў свету, сустаршынёй якога быў Васіль Быкаў. Ён і адкрыў уступным словам з’езд, што было вельмі сімвалічна: Янка Купала марыў аб такім з’ездзе і за восемдзесят год да таго кінуў кліч: «На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!» А цяпер менавіта Васіль Быкаў ажыццяўляў тую мару і кліч. Гэты з’езд, які арганізавала ЗБС «Бацькаўшчына» пры значнай падтрымцы і дапамозе тагачасных дзяржаўных улад, меў галоўнай ідэяй незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне, а галоўнай мэтай — дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі. Тады мы з надзеяй глядзелі ў будучыню, і нам здавалася, што гэты з’езд — толькі пачатак магутнага працэсу новага нацыяналь-

нага адраджэння. Але неўзабаве мы ўпэўніліся, што то быў яго апагей, бо ў далейшым, асабліва пасля выбараў 1994 г. і ганебнага рэферэндуму 1995 г., краіна пачала падавацца назад, у былы СССР…

В. Быкаў у сваім слове падкрэсліў: *«…І на Радзіме, як і ў эміграцыі, — ідэйна-палітычны вэрхал, што настаў пасля дзесяцігоддзяў таталітарызму. І тут нацыя, родасная па крыві, расколата, разладжана, разбэшчана, размыта палітычна, а цяпер і ў сацыяльным, маральным, моўным і культурным сэнсе. […] Але гэтая славутая талерантнасць, здаецца, робіцца нашым злым ліхам. Пасіянарнасці не стае нашай нацыі, палітычнае волі нашаму грамадству, як і нацыянальнай выразнасці таго ж грамадства.*

*[…] Мы не маем права забываць злачынства нямецкага фашызму, як і камуністычных НК, НКУС, КДБ, рукамі якіх загублена не меней, чым загінула ў гады вайны. Магілы іх ахвяр скрозь на беларускай зямлі…*

*[…] Распалася савецкая імперыя, але ў нас у галоўным мала што змянілася ад гэтага. Нават тыя малыя рэшткі дэмакратыі і свабоды, якія вялізарнымі высілкамі дэмакратычных сілаў, найперш іх авангарду — Беларускага Народнага Фронту, — адваяваны ў камуны, рызыкуюць быць адабранымі назад.*

*Радзіма патрэбна дыяспары, але і дыяспара патрэбна Радзіме. Аптымальны сацыяльна-палітычны лад можа быць збудаваны толькі агульнымі намаганнямі, толькі высілкамі ўсёй нацыі — як метраполіі, так і дыяспары. […] Патрэбна аб'яднанне, калі толькі мы хочам вылезці з прорвы, з гэтай ваўчынае пасткі, у якой апынуліся напрыканцы ХХ стагоддзя»*.

Мне было вельмі прыемна, калі Васіль Уладзіміравіч пахваліў мяне за асноўны даклад «Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», які я зрабіў ад імя Рады ЗБС «Бацькаўшчына». З яшчэ большым хваляваннем я пачуў, што

ён прапануе абраць мяне прэзідэнтам згуртавання, і адчуў асабліва вялікую адказнасць, што прымаю гэтую пасаду з рук Васіля Уладзіміравіча. Працаваць прыйшлося 8 гадоў (два тэрміны)…

У пачатку 1994 г. Бюро Прэзідыума АН Беларусі вырашыла абраць ганаровых і замежных членаў акадэміі. Апошнія такія выбары былі 35 гадоў таму. Я зрабіў нямала намаганняў, каб такія выбары адбыліся, бо лічыў іх першым крокам да аб’яднання беларускай інтэлігенцыі на шляху нацыянальнага адраджэння. Як віцэ-прэзідэнт, я курыраваў Аддзяленне хімічных навук і навук аб Зямлі і Аддзяленне гуманітарных навук, таму з магчымымі кандыдатамі гэтых навуковых напрамкаў мне прыйшлося весці размовы аб іх згодзе.

Сярод гуманітарыяў першым кандыдатам быў названы народны пісьменнік Васіль Быкаў, якому я і пазваніў. Ён папрасіў падумаць, а на наступны дзень катэгарычна адмовіўся: «Не хачу ніякай ласкі ад сучасных улад, у тым ліку і ад акадэміі. Я ў такой акадэміі нават ганаровым быць не хачу, бо яна поўнасцю савецкая і вы вымушаны будзеце хутка выбіраць такіх камуністаў, як Іван Антановіч, а я побач з ім сядзець не буду. Я б з прыемнасцю адмовіўся і ад мінулых узнагарод — у той час гэта зрабіць было нельга. Яны мне перашкаджаюць жыць. Я вас паважаю і ўдзячны за прапанову, але павінен адмовіцца». І праўда, праз некалькі гадоў кандыдатам у члены-карэспандэнты АН Беларусі вылучылі Антановіча, але яго не абралі.

19 ліпеня 1994 г. раніцою каля помніка Янкі Купалы адзначалі 70-годдзе Васіля Быкава. Нягледзячы на тое, што сапсавалася надвор’е і пайшоў дробны дождж, народ не разыходзіўся. Цёплыя словы сказаў Зянон Пазняк, Вітаўт Кіпель, Ніл Гілевіч, потым я і Рыгор Барадулін. Увечары з яшчэ большай цеплынёй, шчырасцю і пашанай віншавалі Васіля Уладзіміравіча ў сядзібе БНФ на вуліцы Варвашэні. Памяшканне было запоўненае яго сапраўднымі прыхільнікамі і сябрамі, якія выказвалі юбіляру падзяку за яго творы і дзейнасць, жадалі здароўя, пос-

пехаў, шчасця, росквіту Беларусі, чыталі яму вершы, спявалі беларускія песні. Была атмасфера сапраўднага свята. Юрась Хадыка, які вёў вячэру, неспадзявана даў мне слова першаму. Васіль Уладзіміравіч быў расчулены, падзякаваў, мы абняліся і пацалаваліся. Ён звярнуўся да Р. Барадуліна і мяне: *«Усё ж Гарэцкія — надзвычайны феномен, які трэба было б як мае быць вывучыць»…*

Зноў сустрэўся я з Васілём Уладзіміравічам у снежні 1994 г. у гасцёўні У. Галубка на выстаўцы «Воля! Роўнасць! Незалежнасць», прысвечанай 200-годдзю вызвольнага паўстання 1794 г. Яе вёў Мікола Купава, які даў слова мне, а затым Васілю Быкаву. Васіль Уладзіміравіч падкрэсліў, што воля, роўнасць, незалежнасць, за якія змагаліся Касцюшка і яго паплечнікі, ужо набылі рэальнасць у Польшчы, ёсць у Амерыцы, але, на жаль, іх няма ў беднага беларускага народа, і змаганне за гэтыя ідэалы ідзе і павінна пашырацца. У яго словах і ва ўсім ягоным выглядзе адчуваўся вялікі сум і сумненне ў тым, ці адбудзецца ўсё гэта калі-небудзь у Беларусі.

Пагаварылі мы з ім пра падзеі таго часу: зняцце з пасады пасла ў Германіі П. Садоўскага, нота Турцыі ў сувязі з «турэцка-польскімі шпіёнамі». Потым пайшлі разам паглядзець карціны. Я ведаў, што Васіль Уладзіміравіч вучыўся на мастака і сам многа маляваў, але мяне здзівілі яго прафесійныя і вельмі дасканалыя ацэнкі многіх палотнаў. Крытыкаваў карціны мадэрновага напрамку: «Добра намалявана, але няма цяпла…» Успомніў сваю нядаўнюю сустрэчу ў Маскве з папулярным мастаком Міхаілам Шамякіным: «Глядзеў яго палотны. Таксама ў іх многа найгранага, штучнага, няма пачуцця… Усё няшчыра. Такое ўражанне, што і шрам на твары ён спецыяльна зрабіў, каб быць больш «загадкавым»…» І раптам, схапіўшы мяне за руку, дадаў: «А хочаце, я пакажу вам сапраўдную карціну?» Ён падвёў мяне амаль да чорна-белага рэалістычнага палатна, на якім была відна раўніна з узаранай зямлёю, з рэдкімі кустамі — просты беларускі пейзаж, у якім

адчуваліся спакой, вечнасць і бедната: «Вось гэта кранае, аж плакаць хочацца…»

Калі я адвозіў В. Быкава на машыне, мы ўспомнілі, як у студзені хавалі нашага незабыўнага сябра Алеся Адамовіча. Васіль Уладзіміравіч сказаў, што настаў час паставіць яму помнік на могілках, і папрасіў мяне зноў адшукаць да вясны добры валун і падумаць, каго са скульптараў прасіць зрабіць надмагілле. Расказаў, што ўчора ў яго суседкі-бабулькі, якая жыве паверхам ніжэй, раптоўна ўзарваўся тэлевізар і быў такі змрочны і густы дым, што немагчыма было выйсці ў калідор.

В. Быкаў хваляваўся за помнік Алеся Адамовіча, бо і на пахаванні Пімена Панчанкі (2 красавіка 1995 г.), і на VI з’ездзе БНФ (8 красавіка 1995 г.), і на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў (16 траўня 1995 г.) нагадваў мне пра валун. У самым канцы траўня ў маім кабінеце ў Прэзідыуме АН Беларусі сабраліся Васіль Быкаў, Валерый Янушкевіч, Міхась Тычына і абмеркавалі, якім павінен быць помнік. Вырашылі, што вельмі сціплым і простым: акруглы валун, на ім надпіс «Алесь Адамовіч», а крыху вышэй невялікі крыжык. Потым сярод калекцыі музея валуноў Інстытута геахіміі і геафізікі В. Янушкевіч і я разам з Верай Сымонаўнай Адамовіч адабралі прыгожы светла-чырвоны валун з хвалістымі пражылкамі, якія адпавядаюць сутнасці жыцця пісьменніка, поўнага турбот і неспакою. У пачатку верасня 1995 г. сабраўся Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасць», які быў арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам і які завяршыўся адкрыццём помніка Алесю Адамовічу ў Глушы. Тут побач з бацькамі і братам знайшоў супакой мяцежны дух гэтага выдатнага пісьменніка, навукоўца і грамадскага дзеяча, шчырыя словы пра якога сказалі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і інш.

Кангрэс быў вельмі прадстаўнічы: на ім прысутнічала больш за 100 чалавек людзей творчай інтэлігенцыі, экспертаў і праваабаронцаў з 15 краін Еўропы і ЗША. З уступным карот-

кім, але вельмі змястоўным словам «Культура і посттаталітарнае грамадства» выступіў прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Васіль Быкаў, якога слухалі з вялікай увагай. Была выдадзена спецыяльная кніга з матэрыяламі кангрэса на беларускай і ангельскай мовах.

Незадоўга перад кангрэсам 12 ліпеня 1995 г. адбылося адкрыццё на пляцы Свабоды помніка Максіму Гарэцкаму, які быў зроблены да 100-годдзя пісьменніка скульптарам Мікалаем Рыжанковым. Сабралася каля 120 чалавек, і ў тым ліку прыйшлі народныя — Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Іван Навуменка. Адкрываў і кіраваў мітынгам Аляксандр Сасноўскі — у той час намеснік мэра г. Мінска, а вядучай была загадчык аддзела культуры Мінгарвыканкама. Я думаў, што яны добра прадумалі парадак правядзення, і таму не ўмешваўся ў гэты працэс. Вядучая запрасіла ў «прэзідыум» толькі Рыгора Барадуліна, якому і дала слова. На мае падказкі звярнуць увагу на іншых народных пісьменнікаў і паэтаў і таксама даць ім слова яна не адрэагавала. А яны сціпла стаялі ў натоўпе, і асабліва непрыкметным, як і заўсёды, стараўся быць Васіль Уладзіміравіч, схаваўшыся за некалькімі поўнымі фігурамі. Я адчуваў, што Васіль Быкаў, Янка Брыль, Ніл Гілевіч гатовы і хацелі сказаць некалькі слоў, але прамаўчалі, калі вядучая пад маім націскам усё ж прапанавала ў самым канцы мітынгу і ім выступіць. Я няёмка сябе адчуваў і вельмі шкадаваў, што не паводзіў больш рашуча…

Добра, што Беларускае тэлебачанне там жа папрасіла выказацца Васіля Быкава і ўвечары ў «Навінах» мы пачулі яго. Ён сказаў, што вельмі задаволены гэтай падзеяй, якую трэба было даўно зрабіць, і справядліва, што ў Мінску чацвёртым пасля Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча паставілі помнік менавіта Максіму Гарэцкаму, які ў гісторыі беларускай літаратуры, як адзін з яе заснавальнікаў-класікаў, стаіць побач з пералічанымі пісьменнікамі.

У канцы 1995 — пачатку 1996 г. больш канкрэтна паўстала пытанне аб адкрыцці помніка Ф. Скарыне ў Празе, чаму вельмі спрыяў тагачасны амбасадар Беларусі ў Чэхіі Мікалай Вайцянкоў. Ён звярнуўся да мяне з просьбай арганізаваць дэлегацыю з Беларусі, каб у Празе адчулі веліч постаці беларускага асветніка і першадрукара, што значна дапамагло б атрымаць падтрымку, а затым і дазвол чэшскіх уладаў на ўстаноўку помніка. Наша Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое даўно планавала паездку ў Прагу, разам з таварыствам «Чэхія–Беларусь» і навукова-культурным цэнтрам імя Ф. Скарыны, вырашыла накіраваць вялікую дэлегацыю для правядзення акцыі «Беларусы ў Празе», у час якой меліся адбыцца розныя мерапрыемствы і сустрэчы, у тым ліку навуковыя чытанні, прысвечаныя Ф. Скарыне. Для паездкі мы арганізавалі спецыяльны аўтобус, на якім паехала наша дэлегацыя з выдатнымі прадстаўнікамі літаратуры, навукі, мастацтва і тэатра, а для Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна набылі білеты на цягнік. Нечакана апошні адмовіўся ехаць, спаслаўшыся на кепскае здароўе, і замест яго паехаў я. Увесь тыдзень (11–17 лютага 1996 г.) я прабыў разам з Васілём Уладзіміравічам у адным купэ і адным пакоі гасцініцы ў Празе.

Роўна а 7-й гадзіне раніцы я пад’ехаў на акадэмічнай чорнай «Волзе» да дома В. Быкава — і ён тут жа выйшаў з невялікім чорным «дыпламатам» у адной руцэ і цэлафанавай торбачкай — у другой. Я прапанаваў яму сесці на пярэдняе сядзенне побач з шафёрам, але ён катэгарычна адмовіўся і пажартаваў: «Я сяду за вамі, на самае бяспечнае «сенатарскае» месца».

За тыдзень я зноў упэўніўся, наколькі Васіль Уладзіміравіч сціплы, тактоўны, культурны чалавек. За ўвесь час ён ні разу не павысіў голас, не выказаў якую-небудзь незадаволенасць. У яго паводзінах, выглядзе, словах не было і намёку на тое, што перад табой вялікі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

Але калі ён пачынаў гаварыць, гэтая прастата, засяроджаны твар яшчэ больш падкрэслівалі яго багатую ўнутраную культу-

ру, натуру светлага розуму і мудрасці, бо яго выказванні былі прадуманымі, нестандартнымі, поўнымі жыццёвага вопыту.

У вагоне туды і назад мы як мае быць нагаварыліся. На мае пытанне, ці моцна захварэў Рыгор Барадулін, Васіль Уладзіміравіч адказаў, што, як стала яму вядома, Лукашэнка вельмі раззлаваўся, калі даведаўся пра паездку абодвух народных пісьменнікаў, і накінуўся на міністра замежных спраў У. Сянько: «Как ты посмел их послать? Мало ли чего они там про меня могут наговорить!» Яшчэ большы вэрхал узняўся, калі яму стала вядома, што запланавана ўскладанне вянкоў на магілы дзеячаў БНР. Аб гэтым стала вядома і Рыгору, таму, можа, ён і насумысля адмовіўся ехаць, хаця хутчэй за ўсё і праўда быў хворы.

Васіль Уладзіміравіч многа і шчыра распавядаў пра сваё жыццё, пра пачатак літаратурнай дзейнасці, розныя жыццёвыя перыпетыі, прыблізна так, як ён значна пазней апісаў у аўтабіяграфічным творы «Доўгая дарога дадому» (2002).

Адчувалася, што ў ім глыбока сядзіць крыўда на беларускі друк (хаця стараўся гэтага і не паказаць), які не хацеў друкаваць яго творы, і ўдзячнасць да А. Твардоўскага, які падтрымаў яго ў «Новом мире». Прыйшлося яму і самому перакладаць свае ж рэчы на рускую мову, бо перакладчыкі рабілі гэта кепска. Таму яго той-сёй нават лічыў рускамоўным пісьменнікам, а гэта было крыўдна і несправядліва. «Я заўсёды пішу па-беларуску, па сваёй сутнасці і духу я толькі беларускі пісьменнік» — цвёрда падкрэсліў Васіль Уладзіміравіч. І дадаў: «Толькі жыццё прымусіла мяне перакладаць свае творы на рускую мову». Успомніў, як доўга ў Беларусі баяліся яго друкаваць, як нападалі на яго генералы і афіцыйныя СМІ…

Тое-сёе расказаў і пра сваё асабістае, пра сям'ю. Дужа балела яму, што абодва сыны не размаўляюць па-беларуску і наогул далёкія ад беларушчыны, але вельмі пацешыў унучак, які раптам пачаў з дзядулем гаварыць па-беларуску. Ужо каля 17 гадоў Васіль Уладзіміравіч пакутаваў ад астмы, і на

працягу дня яму прыходзілася разы 3–4 карыстацца «дыхалкай» (так ён назваў прыбор, які здымае прыступы ўдушша, а тыя наступаюць зусім нечакана). Успомніў, як некалькі разоў забываў гэтую «дыхалку» і ледзь не задыхнуўся — жудасна непрыемнае і цяжкае адчуванне. Шкадаваў, што сярод пісьменнікаў і мастакоў ходзіць шмат хлуслівых плётак, ад якіх ён стараецца быць далей і не заўважаць іх. Прынамсі, няпраўду кажуць і пра ягоную жонку Ірыну Міхайлаўну, і пра Рыгора Барадуліна. На пытанне, хто напісаў «Сказ пра Лысую гару», цвёрда адказаў: «Ніл Гілевіч».

Я таксама апавядаў пра жыццё сям'і Гарэцкіх. Ён з цікавасцю слухаў і раіў абавязкова напісаць аб гэтым, бо вельмі важныя матэрыялы сведак жыцця таго часу, каб людзі ведалі, як сапраўды жылося ў «камуністычным раі», да якога ён ставіўся рэзка адмоўна. Мяне здзівіла чуласць Васіля Уладзіміравіча: здавалася, такі вытрыманы і мужны чалавек, але я бачыў, як ён, усхваляваны гамонкай, змахвае слязу пры размове аб некаторых асабліва цяжкіх момантах жыцця маіх дзядзькі Максіма і таты, а таксама майго. Я ўспомніў, што прыблізна так успрымаў мае ўспаміны Уладзімір Калеснік, калі Янка Брыль пазнаёміў мяне з ім і мы сядзелі ўтрох за добрай сяброўскай гамонкай у гасцініцы…

Наогул настрой у Васіля Уладзіміравіча быў песімістычны і ягоныя невясёлыя думкі і пачуцці часта выклікалі ўздыхі: «Вах-вах-вах!» ці «Ох, ох, ох!»

У Празе мы амаль усюды і ўвесь час былі разам. В. Быкава вельмі прыязна прымалі, і ён, канешне, заўсёды быў у цэнтры ўвагі.

Вельмі прыхільна нас сустрэў у беларускім пасольстве ў Чэхіі амбасадар Мікалай Вайцянкоў, які добра размаўляў з намі па-беларуску. Я раней некалькі разоў сустракаўся з ім у Гомелі і не чуў ад яго беларускага слова, таму быў прыемна здзіўлены. Добрае ўражанне зрабіў і будынак-катэдж пасольства,

яго інтэр’ер і ветлівыя беларускамоўныя супрацоўнікі. Гонар ахапіў нас за самастойную дзяржаву Беларусь.

Васіля Быкава запрасілі на сустрэчу ў ПЭН-клуб Чэхіі, куды нас адвезлі на машыне пасольства. Ва ўтульнай зале сабралася чалавек 50, якія задавалі шмат пытанняў пра Беларусь — мінулае і сучаснае.

Была сустрэча ўсёй афіцыйнай дэлегацыі ў Таварыстве дружбы народаў Усходу, якое ўзначальвае чэшскі касманаўт Рэмек. З цікавасцю і хваляваннем наведалі Вальшанскія могілкі, дзе пакланіліся і ўсклалі вянкі да магілак Крэчэўскага, Захаркі, Грыба, Забэйды-Суміцкага. Удзельнічалі ў навуковай канферэнцыі, прысвечанай жыццю і творчасці Ф. Скарыны; разам з М. Вайцянковым і прадстаўнікамі мясцовых уладаў ездзілі выбіраць магчымае месца для помніка Ф. Скарыне…

У красавіку 1996 г. адбыліся Пятыя (першыя міжнародныя) Гарэцкія чытанні, у якіх прынялі ўдзел каля 100 чалавек з Беларусі, Расіі, Польшчы, Чэхіі. Большую ўрачыстасць навуковым чытанням прыдала прысутнасць і выступленні з прывітальным словам Янкі Брыля, Васіля Быкава і Ніла Гілевіча. В. Быкаў адзначыў: *«Максім Гарэцкі — адзін з самых слынных светачаў нацыянальнай культуры. […] У выпадку з Гарэцкім мы маем шчаслівае спалучэнне асобы, геніяльны сінтэз нацыянальнага прарока, пісьменніка, навукоўца»*.

На пахаванні Данілы Міцкевіча (13 ліпеня 1996 г.) Васіль Быкаў паведаміў яшчэ пра адзін вынік нашай паездкі ў Прагу. Іван Антановіч (тады намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь) так накінуўся на М. Вайцянкова за яго занадта шчыры і цёплы прыём В. Быкава і мяне, а таксама ўдзел у многіх нашых мерапрыемствах, што хацеў зняць яго з пасады. У. Сянько, які высока цаніў Вайцянкова як пасла, ледзьве яго адстаяў. На маё пытанне пра здароўе, настрой Васіль Уладзіміравіч адказаў, што дрэнна, і цяжка ўздыхнуў: «Ай-вай-вай!» Растлумачыў, што ўсё менш застаецца веры ў адраджэнне, уздым беларусаў і Беларусь. Потым дадаў:

«Многія мяне лічаць песімістам, але я зыходжу з рэальных абставін, а яны, на жаль, не даюць падставы для аптымізму. Таму і атрымліваюцца ў мяне сумныя прагнозы».

У сярэдзіне снежня 1996 г. мы з Васілём Уладзіміравічам былі на адкрыцці выставы «Немагчымыя фігуры» шведскага мастака Оскара Ройтэрсверда ў Доме прыроды. Спачатку па тэлебачанні абяцалі як мае быць паказаць гэтую імпрэзу і, праўда, прыслалі многа тэлекамер, зрабілі шмат здымак, але ўвечары на экране толькі мільганула некалькі карцін, а людзей амаль зусім не паказалі, у тым ліку і Васіля Быкава, які, дарэчы, выступіў з добрым і цікавым словам. Вось такая «замяталінска-кісельская» цэнзура, як дробная помста выдатнаму пісьменніку за яго крытыку сучаснага рэжыму. Такія дробныя, а потым і проста хамскія «пляўкі» ў ягоны адрас, поўнае замоўчванне ва ўсіх афіцыйных беларускіх СМІ паступова і прывялі да таго, што Васіль Быкаў вымушаны быў пакінуць любую Бацькаўшчыну, выехаць за мяжу — спачатку ў Фінляндыю, потым у Германію і Чэхію, каб спакойна жыць і працаваць.

Пра жыццё Васіля Уладзіміравіча ў замежжы я даведваўся ад Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Рыгора Барадуліна, якія былі значна бліжэй да яго, чым я. У той час я з ім сустрэўся толькі завочна на развароце юбілейнага альбома, прысвечанага 90-годдзю Барыса Кіта: на левай старонцы — Васіль Быкаў: «Шчаслівы лёс беларускага выгнанніка», на правай — Радзім Гарэцкі: «Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй Радзімы і яе славы…». Каля гэтых невялікіх артыкулаў былі змешчаны нашы фотаздымкі — і было такое ўражанне, што я са свайго фотаздымка сумна глядзеў на Васіля Уладзіміравіча на другім фотаздымку. Я тады яшчэ не ведаў, але, здавалася, адчуваў, што жывым больш не ўбачу…

Уся краіна надзвычай балюча ўспрыняла паведамленне аб цяжкай хваробе В. Быкава і з хваляваннем — аб яго прыездзе ў Беларусь. Званок Сяргея Законнікава да мяне 22 чэрвеня

2003 г. аб тым, што ўвечары памёр Васіль Уладзіміравіч, быў нечаканым і аглушальным. Ад арганізатараў пахавання я атрымаў пачэснае даручэнне не толькі быць у ганаровай варце, але і выступіць з развітальным словам.

Народнага пісьменніка хавала ўся Беларусь.

Праводзіць яго ў апошні шлях прыйшлі дзясяткі тысяч чалавек. Мноства нацыянальных сцягоў і гербаў «Пагоня» луналі над велізарным натоўпам людзей, якія развітваліся з вялікім сынам Бацькаўшчыны, сумленнем нацыі. Памяць пра вялікага пісьменніка, грамадзяніна, заступніка Беларусі застанецца навечна ў маім сэрцы.

*2005*

## Беларускія «нацдэмаўкі»

Дзякуючы гісторыкам і пісьменнікам, мы добра ведаем пра ахвярнасць, адданасць, гераізм і мужнасць жонак дзекабрыстаў, якія дабравольна паехалі за сваімі каханымі ў Сібір (М. Валконская, А. Мураўёва, Е. Трубяцкая і інш.). М. Някрасаў прысвяціў ім паэму «Русские женщины» (пачатковая назва «Декабристки»). Мы да гэтага часу справядліва захапляемся іх подзвігам. Калі, аднак, параўнаць іх жыццё з тымі прыгодамі і пакутамі, якія перанеслі нашы беларускія жанчыны — жонкі рэпрэсаваных «нацдэмаў» 30-х гг. мінулага стагоддзя, дык іх вялікая ахвярнасць, здзіўляючая мужнасць і адданасць сваім абраннікам падасца непараўнальна значна большымі. Да такіх гераінь належаць многія, але мне самыя блізкія і дарагія — Ганна Іванаўна Бабарэка, Марыя Пятроўна Дубоўка, Аляксандра Ігнатаўна Смоліч, Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая і, канешне, мая маці — Ларыса Восіпаўна Парфяновіч-Гарэцкая. Нашы «нацдэмаўкі» заслугоўваюць таго, каб іх гераічнае жыццё апісалі ў вершах, паэмах, апавяданнях, раманах.

*2006*

## Ефрасіння Багацькаўская — маці братоў Гарэцкіх

У глухім кутку Мсціслаўшчыны ёсць вёска Курманава, дзе была сядзіба мясцовага пана, які высяляў сялян у суседнія лясы, каб стварыць тут больш палёў для пасеву. Так, каля 250 гадоў таму на беразе невялічкай рачулкі Віранкі з'явіліся вёсачкі Большая Багацькаўка, а потым і Меншая (пазней — Малая) Багацькаўка. Цяпер у іх адна назва — Багацькаўка. Панскі ткач Міхалка Папоў, які жыў у сяле Слаўнае, меў дачку Ефрасінню — прыгожую дзяўчыну з дзвюма доўгімі русымі косамі, вялікімі блакітнымі вачыма. Яна нарадзілася на самае Купалле ў 1864 г., вылучалася добрым спакойным характарам,

ведала безліч песняў, якія вельмі любіла спяваць. Яе прадзед пражыў 115 гадоў. У Малой Багацькаўцы тады жыў Іван Гарэцкі — сын Кузьмы, які памёр у стагадовым узросце. Іван быў невысокага росту, чарнявы, вельмі рухавы, працавіты. Спачатку служыў у курманаўскіх паноў, а потым многія гады быў кухарам у пана Цэкерта ў Лонніцы, што каля пасёлка Краснае на Смаленшчыне.

Міхалка Папоў лічыўся досыць заможным (праўда, таксама ў лапцях хадзіў), таму прывабная Ефрасіння была яшчэ больш жаданай нявестай. Многія сваталіся да яе, але з розных прычынаў да згоды не прыходзілі. Неяк Іван завітаў да Міхалкі, паглядзеў на нявесту, і яна спадабалася. Хадзілі пяць ці шэсць разоў сватацца, і ўсё не атрымоўвалася. Нарэшце заручыны згулялі. *«А Ганна*[1] *пасля заручын голосам выла, каб не ісці ёй у Камароўку, за Стахвана. Спаміж людзей ён — як камлыжачка, чорненькі, маленькі. Усе смяюцца: «Выбірала-выбірала, а кого выбрала»...*

*[...] І Справілі вяселле. Звянчаліся на Кузьму-Дзям'яна. Скамарохі былі — скрыпка і бубен. Гарэлкі много было. Але ніхто не пабіўся, не пасварыўся... Прывязлі маладую ў Камароўку ўвечары. Увайшла яна у іхнюю хату, дзе жыць ёй. Хата маленькая, столь высокінькая: «Як школка яўрэйская». Без падлогі, на зямлі, і нічога не насыпана, дык з высокага пирогу шалоп! Уніз, як у яму, і калодка нейкая пад парогам ляжала. І гразі па калена, аж цвякчыць. Бо хата маленькая, а свадзьба. Пасля свае хаты тут ёй страшна стала. Села яна на лаўку і заплакала дужа. [...] Пасаг Ганне — далі: карову рабую рублёў*

---

[1] Гарэцкі М. Камароўская хроніка // Зб. тв. — Мінск, 1986. — Т. 4. Твор аўтабіяграфічны, і таму ўсе галоўныя героі маюць прататыпаў. У цытаваных урыўках: Ганна — Ефрасіння Гарэцкая. Стахван — Іван Гарэцкі, Саўка — Якаў (брат Івана). Тамаш — Міхалка Папоў (бацька Ефрасінні), Алёна — Хрысцёна (жонка Якава), Лаўрэн (Лаўрык) — Гаўрыла Гарэцкі, Кузьма — Максім Гарэцкі, Марына — Ганна Гарэцкая, Пракоп — Парфір Гарэцкі, Раман — Іван Гарэцкі (сын Ефрасінні і Івана), вёска Камароўка — Малая Багацькаўка, вёска Харошае — Слаўнае, Варна — Орша, Горад — Мсціслаў. Далей цытаты без спасылак даюцца з гэтага выдання.

*на 15, дзве авечкі — рублі па два кожная: свінню — рублі на 4. Гэта тое, што ў агульную гаспадарку ідзе, і Саўка потым не раз прытыкаў, што богаты бацька каня Ганне не даў... З адзежы ёй далі: шубу белую на заборах і тулуп чырвоны, світку суконную чорную і світку суконную шэрую. Матка дала тры падушкі, коўдру суконную, дзяругу, 3 пасцілкі, абрусоў, набожнікаў, рушнікоў. А грошы абяцаў Тамаш — зяцю 500 рублёў, дый зацягнуў, не даў».*

Калі адбыўся іх шлюб, жаніху было 28 гадоў, а нявесце 20. Абое грамаце не вучыліся, былі непісьменныя. Іван, які ўвесь час працаваў у паноў, стараўся і навучыўся размаўляць па-руску, непаважліва ставіўся да мовы мужыцкай, Ефрасіння *«толькі гаварыць по руску саромелася, што «па-панску», і так і не навучылася»* (с. 23). Пажыўшы троху ў хаце, Іван зноў паехаў служыць да пана Цэкерта. Узяў з сабою і Ефрасінню, каб пані паглядзела. Тая сказала: *«Ты говоришь чётко и хорошо, только не благородно». А Ганна — па-руску гаварыць не ўмела, гаварыла «па-дзеравенску»* (с. 26). Ефрасіння да Івана ездзіла толькі ў госці, да і то «*зрэдку, што далёка, а коні слабыя»* (с. 26).

У Івана і Ефрасінні Гарэцкіх нарадзіўся першы сын, якому далі імя Васіль, але трохі больш чым праз год ён памёр. Амаль праз два гады Ефрасіння нарадзіла сына Івана. Наступнай была Марына, але хутка памерла з водры. *«Памёрла Марынка перад вялікаднём, а ў маі, месяцы прыгожым, а для Ганны ў тым годзе гэткім сумным, Ганна яшчэ зачала. (...) Мінула лета, восень пачалася, — Ганна паспакайнела, цяжарная хадзіла. І палова зімы прайшло. Ужо блізка было радзіць ёй. Гэта — чацвёртым разам. Пасля Коляд, у канцы мясаеда, на стрэчанне, яна яшчэ ў Харошым была. А пасля стрэчання, на масленку, у суботу, радзіла сына. [...] У пятніцу ўвесь дзень мычкі мыкала, пражу матала. У лазню у вечары схадзіла. [...] І на печы з Алёнаю ляжала. Мучылася. Злезла з печы, пайшла ў другую хату, — ужо віднелася на дварэ. Прыходзіць*

*туды Стахван: «Чаго тут мерзнеш?» А ў іх старая хата ўзімку холодная стаяла. — «Маўчы, бяжы па Алёну, дзіцёнак радзіўся»… Была Ганна не рада, што хлопец, а не дзяўчынка»* (с. 34–35). Так 18 лютага 1893 г. нарадзіўся Максім Гарэцкі.

У наступныя гады Ефрасіння нарадзіла двайнятак — Парфіра і Панаса, але апошні памёр, пражыўшы чатыры тыдні. Праз чатыры гады, 10 красавіка 1900 г. нарадзіўся сын — Гаўрыла, а яшчэ праз два — Ганна. *«Радзіўся Лаўрык у месяцы марцы, вялікім пастом, у сераду, як ідуць на андрэева стаянне. Кросны стаялі ў хаце. Ганна ткала. Увечары, дзеля свята, у хаце прыбралі. Ганна хадзіла па хаце, дужа мучалася, стагнала, плакала. […] Ужо цёмна было, як радзіўся. Якраз пад ставы, пад навой, выкаціўся. На другі ці на каторы дзень хрэсьбіны былі.*

*[…] Лаўрык дужа крыклівы быў. Ганна мала спала за ім. Раз — грады трэба палоць. І вочы ёй забалелі, Пайшла палоць. А ён крычыць, плача… І яна загаласіла, седзячы з ім у градзе. Пазней людзі наймаць навучыліся — ці за хлеб, ці за пазыку. А ёй тады і ў галаву не прыходзіла, што магла ж бы наняць каго, што самой так цяжка з дзіцёнкам. Лячылі яго ад крыксаў»* (с. 40–41).

Засталося ў сям'і Гарэцкіх чатыры браты — Іван, Максім, Парфір і Гаўрыла і адна сястра — Ганна. У цеснай хаце з саламянай страхою і зямляной падлогаю разам жылі сем'і Івана, яго брата Якава (з жонкай Хрысцёнай і дачкой Гапкай) і іх сястры Праскоўі з сынам Панасам. Усіх набіралася 12 чалавек. Рабочых рук, асабліва мужчынскіх, было мала, бо Іван Кузьміч часта адсутнічаў, служачы лакеем у паноў, — таму яго сям'ю часта звалі крыўдным імем — Лакяёнкі. Якаў быў незадаволены, што даводзілася працаваць і за брата, увесь час стагнаў і жаліўся на цяжкае жыццё і таму атрымаў мянушку Тужык. Каб не было спрэчак паміж братамі і папрокаў з боку Якава, Ефрасіння Міхайлаўна старалася працаваць за некалькі чалавек і рабіла як жаночую, так і мужчынскую працу. *«Ганна*

*цяжка працавала»* (с. 60). Якаў скупіўся на ўсім і нават хаваў паціхеньку грошы. Ефрасіння некалькі разоў выпадкова знайшла яго хованкі, але нікому не сказала пра гэта. З часам Якаў паставіў сваю новую хату. Але ўсё роўна і пасля падзелу і Лакяёнкі, і асабліва Тужыкі жылі бедна.

Старэйшы брат Іван, а потым і Парфір павінны былі займацца гаспадаркай і таму далей пачатковай школы не вучыліся. Максіму, Гаўрылу і Ганне з гэтага боку пашчасціла значна больш.

Дзяцінства і Максіма, і Гаўрылы, і ўсіх дзетак сям'і Гарэцкіх было шчаслівым, бо кожны крок, кожны кавалачак жыцця малых былі звязаны з іх ласкавай маці. Мама здавалася ім наймагутнейшай і найдаражэйшай істотай, нейкім вялікім стварэннем, якое заўсёды можа абараніць, якое любіць і шкадуе, корміць і вучыць, вядзе да ўсяго самага прыгожага, самага добрага.

Гаўрыла Гарэцкі ўспамінаў[1]: *«Зіма. Максім прыехаў з Вольшы на Каляды. Мама сядзіць на палку, ля акна, праз якое прабіваецца струменчык сонца. Мама маладая, прыгожая, шые і пяе. На запечку сядзіць дзядзіна Хрысцёна і прадзе. Максім, Парфір, Ганначка і я прымасціліся каля мамы, слухаем яе песні, нам так добра…*

*А потым пачынаюцца другія гамонкі. Максім распытваецца ў мамы пра ўсіх родных, пра ўсе багацькаўскія сем'і, іх гісторыю, пра прыгон і падзеі пасля прыгону, пра панскіх казакаў і стражнікаў, бойкі з імі, падзеі 1905 года.*

*Зімовыя дні кароткія. І вось ужо вечар. На запечку сядзіць мама і дзядзіна Хрысцёна, прадуць. На палку каля іх уладкаваліся Максім, Ганначка, Парфір і я. Дзядзіна Хрысцёна расказвае нам казкі, адна цікавей за другую. А мама пяе песні, пераважна сумныя, але і весялейшыя. Многа прыгожых песень ведала мама. Гарыць лучына, устаўленная ў светач. Бегаюць*

---

[1] Гарэцкі Г. Некалькі малюнкаў з дзіцячага і юнацкага жыцця Максіма Гарэцкага // Выбранае. — Мінск : Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 217–220.

*па сухой лучынцы вясёлыя зайчыкі агню, адвальваюцца адгарэлыя кавалачкі лучынкі на земляную падлогу і ў адмыслова падстаўлены цэбар, шыпяць у вадзе, кадзяць.*

*Парфір старанна сочыць за агнём, каб спрытна ўставіць у светач новую лучынку замест дагарэлай.*

*І ўзрастае шчасце ў дзіцячых істотах ад матчынай і дзядзінавай ласкі, ад пазнання свету, ад гарэзлівага агеньчыка на лучынах, ад крышталёвай паэзіі беларускіх песень і казак.*

*[...] Гамонкі Максіма з мамаю былі доўгія, ласкавыя, задушэўныя. Цяпер Максім пачаў запісваць маміны песні і казкі, а таксама апавяданні пра жыццё родных і знаёмых. Часта чытаў ён маме і нам, меншым, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, газету «Наша ніва», свае першыя беларускія допісы.*

*Максім часта граў на скрыпцы і дудах-жалейках, хораша граў. З вялікім захапленнем слухала ўся сям'я, асабліва мама, як пела і галасіла Максімава скрыпка.*

*[...] Сама манера апавядання ў «Камароўскай хроніцы» нагадвае просты расказ мамы, дзядзіны Хрысцёны, звычайнага багацькаўца. За гэтай прастатой хаваецца вялікае веданне жыцця, праўда яго, як у Баркулабаўскім летапісе, які так любіў Максім».*

На пытанні пра асобу Максіма[1], якія задаў Алесь Адамовіч у лісце да Гаўрылы Гарэцкага, калі працаваў над кнігай «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», ён атрымаў такія адказы: *«На фармаванне асобы Максіма вялікі ўплыў мела спадчыннасць ад бацькі і маці. Знешне Максім быў больш падобны да бацькі. Чарнявы, ладнай постаці, сярэдняга росту, з бліскучымі карымі вачыма, з прыгожым высокім ілбом, тонкімі вуснамі, цвёрдым падбародкам, акуратнымі стройнымі зубамі, спаміж якімі вылучаўся пасярэдзіне зубчык малых памераў.*

*Ад маці перадаўся Максіму крышачку курносы нос, некалькі павялічаныя скулы, нізкага тэмбру пявучы голас, вялікія вочы.*

[1] Гарэцкі Г. Вытокі творчасці Максіма Гарэцкага // Выбранае. — С. 222–229.

*Па характары Максім пайшоў у бацьку. Яскравы сангвінік, з праявамі халерычнасці, надзвычайна жывы, рухавы, палкі, уражлівы, непасрэдны, актыўны, успрыімлівы. Але і ад маці многае перайшло ў характар брата. Выключная дабрата, цярплівасць, стрыманасць, разважнасць, невычэрпны аптымізм, летуценнасць, самаахвярнасць.*

*Супрацьлегласць характараў бацькі і маці праявіліся і ў характары Максіма; бацькаў і матчын пачаткі змагаліся ў істоце Максіма ўсё жыццё, але матчына спадчына звычайна перамагала. Таму Максім здаваўся заўсёды лагодным, супакоеным, разважлівым. стрыманым, тактоўным. Выбухі бацькавай палкасці, няроўнасці і нецярплівасці здараліся ў Максіма толькі зрэдку».*

Асабліва цяжка жылося бацькам Гарэцкіх у час імперыялістычнай вайны, калі Іван, Максім і Парфір былі на фронце, а Гаўрыла вучыўся у Горках. Ад Максіма доўга не было лістоў, і ўсе пачалі думаць, што ён забіты. *«За работаю барзджэй праходзіў невясёлы, трывожны час. Ганна была дужа невясёлая і плакала, і малілася богу»* (с. 74). Браты заўсёды памяталі пра бацькоў, па магчымасці дапамагалі ім, дасылалі грошы ці пасылкі, стараліся хоць на кароткі час прыехаць дахаты і нешта зрабіць па гаспадарцы.

Гануля ў дзённіку 23 студзеня 1921 г. пісала пра жыццё ў двары: *«[...] Татавы крыкі. Перад вачмі ўся драбязлівасць жыцця. Сэрца сціскаецца ад жалю, што людзі такія дробныя. Драбніцы нарэшце рэшт даводзяць мяне да слёз. Я плачу. Мама, добрая і мілая мама, умаўляе мяне, просіць не звярочваць увагі на ўсё гэтае мяшчанства, а ў самае слёзы так і сыплюцца. Слаўная мамачка! Як магла ты жыць столькі і з такім чалавекам, як тата. Як хапіла ў цябе сілы і здароўя ўзгадаваць нас у такой катарзе?»* (с. 160).

20 красавіка яна запісала: *«[...] Тата не мяняецца. Ходзіць па-даўнейшаму хмуры, тасклівы, маўклівы, адзін з сваімі думкамі. Хацелася б ведаць, што яго мучыць. Мама заметна*

*старэе, але весялосць, дабрата, ласка яе не пакідаюць, яна заўсёды з імі. Дзіўлюся, як гэта маглі жыць столькі гадкоў разам такія дзве супрацьлегласці, як тата і мама»* (с. 166).

Ефрасіння вельмі сумавала па сваіх сынах і дачцэ, якіх армія, служба, вучоба раскідала па краіне. У чэрвені 1921 г. з Горак прыехаў Гаўрыла, якога маці папрасіла з яе слоў напісаць ліст Максіму ў Вільню. *«[…] Маці казала, што пісаць. — Здароў, мой ты сыночак! Ці не можна табе і жоначцы тваёй нявіданай прыехаць у родны дварочак? Пабываць у нас. […] А прыедзь, паглядзі: можа, ты ўжо даўно не відзіў, як снапы возяць, дык прыедзь у самую пару, як снапы возяць. Хоць бы ты на гумне, на старонцы, на снапочках паляжаў, і жоначку на гуменца ўзвёў, хоць бы мы на яе паглядзелі, хоць бы я тваю дачушку на руках падзяржала, а то, можа, мне й не даждаць, ужо я плоха стала … Дулькі ёсць, яблыкоў няма. Морква ёсць. Я для цябе дзве градкі пасадзіла. І бацька тож цяпер плох, няможна ўжо яму работаць, ад самага вялікадня рука ў яго баліць»* (с. 177).

Гануля на Каляды пісала Максіму: *«[…] У дварэ ўсе па-даўнейшаму, толькі тата і мама ўсё старэюць і старэюць, і ўсё больш пачынаюць клапаціць аб усіх нас»* (с. 192).

Вучань М. Гарэцкага ў Віленскай беларускай гімназіі Мар’ян Пецюкевіч[1] успамінаў, як аднойчы на уроку роднай мовы настаўнік тлумачыў: *«Найдаражэйшай істотай для кожнага чалавека, а нават і для жывёлы, — маці. […] Таму, што маці першая прамовіла для нас у роднай мове. […] Яна — маці — першая настаўніца нашай роднай мовы — найдаражэйшага скарбу. Дык ведайце, што той вялікі праступнік, які адкіне найдаражэйшы скарб, атрыманы ад роднай нашай маці. Шануйце сваю родную маці, родную мову»*.

У 1922 г. польскія ўлады у Вільні арыштавалі Максіма, а савецкія ў Маскве — Гаўрылу, які вучыўся там у Пятроўскай

[1] Пецюкевіч М. З тых далёкіх часоў // Максім Гарэцкі : Успаміны, артыкулы, дакументы. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1981. — С. 87–88.

сельскагаспадарчай акадэміі. Калі іх любая сястрычка Гануля, якая паступіла ў Заатэхнічны інстытут, несла перадачу да Гаўрылы ў Бутыркі, трапіла пад трамвай і ў хуткім часе памерла. Для братоў Ганны і асабліва для Ефрасінні гэта была страшэнная страта, вялікае гора, ад якога сэрца балела і душа ныла ўсё іх жыццё.

У 1923 г. Максім з сям'ёй пераехаў з Вільні ў Мінск. Яшчэ ў Вільні Максім атрымаў пакет з Масквы ад Гаўрылы, у якім «*толькі фатаграфіі з некім у труне… […] не хацеў прызнавацца: «Гэта яна, яна, даражэнькая сястрыца…»* (с. 218–219). Пазней прыйшоў ліст, у якім Гаўрыла пісаў: *«[…] Няшчасце вялікае, як хмара цёмная, гразавая, абступіла двор наш. […] Не стала адзінай сястрыцы нашай, зязюлі лесавыя, Марынкі* (с. 219). *«Страшны быў гэты ліст Кузьме. Вялікае і доўгае, ніяк не гаючае гора зрабіла яму Марынкіна смерць. Напісаў ліст Лаўрыку, каб падтрымаць яго. Напісаў дамоў, каб хоць троху прымірыць і з тым, што сталася, і прасіў Пракопа, бацьку і Рамана падтрымаць маці. Хадзіў, працаваў, жыў… Але вобраз Марынкі стаяў яму ўваччу»* (с. 219). У Багацькаўку *«…прыйшлі карткі — і жменька валасоў Марынкіных, — паліліся матчыны слёзы… Брала лупу і глядзела-глядзела на дачушку ў труне, гаравала… Богу малілася. Як першы раз паміналі, не магла ісці, ногі не слухалі»* (с. 217). Максім ведаў, як цяжка перажывае смерць адзінай дачушкі маці… Таму па прыездзе ў Мінск Максім адразу паехаў у Малую Багацькаўку, вярнуўся ў Мінск разам з маці і ў канцы лістапада павёз яе ў Маскву, каб наведаць магілку Ганулі. На вакзале іх сустрэў Гаўрыла разам са сваім лепшым сябрам Уладзімірам Дубоўкам. Браты не бачыліся больш за тры гады — сустрэча была і радасная, і вельмі сумная…

*«[…] Вера ў бога, у той свет, дзе яна яшчэ спаткаецца з Марынкаю, дапамагала ёй цярпець. У хаце як бы ўжо прызвычаіліся, што Марынкі няма, толькі маці не прызвычаілася. Яна заглушала свой боль працаю, гутаркаю, рэлігіяй. Пры Кузьме*

*яна старалася ні разу не заплакаць. Кузьма быў маўклівы»* (с. 227).

*«[…] Натура ў яе была дужая: ніводнага сівога воласу не мела. З няшчасцем мірылася праз рэлігію, лёс»* (с. 230).

*«Прыйшлі на магілку. Дробненькі снег ужо ляжаў, траўка павялая, памёрзлая, былінкі яшчэ з-пад снегу былі відаць. Маці стала на калені, памалілася. Не заплакала, утрымала слёзы — можа, пры людзёх… Спыталася, у які бок галоўкаю яе паклалі: бо звычайна хаваюць галавою на заход, каб устаўшы — тварам на ўсход быць, а яны, можа, тут іначай зрабілі»* (с. 238).

У траўні 1923 г. Гаўрыла прыехаў у Багацькаўку разам са сваей будучай жонкай Ларысай Восіпаўнай Парфяновіч — таксама студэнткай Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі. *«Увечары. Спаць кладуцца. Бацька: «Лаўрык тут ляжа, а дзе ж паненку пакладзём?» Маці: «Дзе Лаўрык, там і яна ляжа». Бацька: «Што ты гэта? Паненка! Дзе яна з ім ляжа?» Маці: «Нічога, ляжа… Яна ж бы не ехала з ім». Паслалі ў хаце старой ці пад павеццю. Там яны і спалі разам»* (с. 233).

Калі Максім і Гаўрыла жылі і працавалі ў Горках і Мінску, яны часта прывозілі бацькоў да сябе ў госці на тыдзень, а то і на месяц; асобна ці ўсёй сям'ёй наведвалі двор, дзе стараліся дапамагчы па гаспадарцы. Максім выкарыстоўваў гэтыя сустрэчы для запісаў ад маці песень, якія ён пачаў рабіць з 1925 г. разам з кампазітарамі Мікалаем Аладавым і Аляксандрам Ягоравым. У 1928 г. зборнік «Народныя песьні з мелёдыямі» быў выдадзены Інбелкультам. У яго ўвайшло 318 песняў Ефрасінні Міхайлаўны. Сярод іх шырокавядомая «Кума мая, кумачка». Мелодыю гэтай песні М. Аладаў выкарыстаў у оперы «Тарас на Парнасе». Пётр Падкавыраў — у 2-м скрыпічным канцэрце, Рыгор Пукст — у 2-й сімфоніі. Песню «Па гарохаўю, па ячанню» выкарыстаў Яўген Цікоцкі ў оперы «Міхась Падгорны», М. Аладаў — у фінале «Квінтэта»; песню «Ты чырвоная каліна» — Міхаіл Коршнер у балеце «Салавей», Я. Цікоцкі — у 1-й

сімфоніі, Яўген Глебаў — у канцэрце для голасу з аркестрам. Кніга гэтая стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Некаторыя песні Ефрасінні Гарэцкай былі змешчаны ў шэрагу зборнікаў. Напрыклад, у «Анталогіі беларускай народнай песні» (укладанне Г. Цітовіча. Мінск, 1975) прыведзена 6 песняў, запісаных ад Ефрасінні Гарэцкай, а наогул са зборніка «Народныя песьні з мэлёдыямі» — 16. Вядомая беларуская этнамузыколаг Зінаіда Мажэйка[1] адзначыла: «Сборник уникален благодаря множеству оттенков живой, почти зримо ощутимой документальности великого мастера этого жанра…».

Нярэдка ў летнія месяцы дзеці Максіма і Гаўрылы — Галіна, Леанід, Усяслаў — жылі ў Багацькаўцы, дзе адчувалі вялікую ласку багацькаўскай бабулі Ефрасінні, якую яны вельмі любілі і з якой надзвычай добра і лёгка сябе адчувалі. Ефрасіння Міхайлаўна мела вялікія здольнасці лячыць і загаворваць розныя хваробы, недамаганні. Мой брат Усяслаў успамінаў, як ён вострым нажом глыбока, аж да косці пырнуў нагу троху вышэй калена. Кроў фантанам палілася з раны. Ён вельмі спужаўся і пабег да бабулі. Тая спакойна агледзела рану, нечым яе папырскала, павадзіла рукамі вакол, пашаптала і вельмі хутка кроў перастала цячы і менш стала балець нага. Толькі досыць вялікі шнар, які застаўся на ўсё жыццё, нагадвае той выпадак і выклікае ўдзячныя успаміны пра нашу любую багацькаўскую бабулю.

*«Сыны стараліся не ўспамінаць ёй Марынку, каб не бярэдзіць ёй раны… Яна сама ўспамінала. Рада была, калі ўва сне яе сніла»* (с. 263). У чэрвені 1927 г. Максім разам з маткаю зноў ездзіў у Маскву на магілу Ганны.

У 1930 г. Ефрасінню чакала новае гора: былі арыштаваны Максім і Гаўрыла, якія праз год былі асуджаны і высланы — першы ў Вятку, другі на Салаўкі.

[1] Белорусская этномузыкология / под ред. З. Можейко. — Минск : Тэхналогія, 1997. — С. 71.

Гаўрылу павезлі праз Оршу, дзе яму задалося сустрэцца спачатку з жонкай, а пазней — з маці і братам Іванам. Для Гаўрылы гэтыя сустрэчы былі зусім нечаканыя, але такія радасныя. Ён паглядзеў у добрыя і мужныя сінія вочы маці і жонкі, якія свяціліся любоўю і горам, ласкай і смуткам, прытуліў абедзвюх — і здалося, што з'явіліся новыя сілы, каб перанесці пакуты, якія напэўна чакалі яго ў бліжэйшай будучыні. Ён дзівіўся мужнасці жанчын, якія пры ім не пралілі ніводнай слязінкі. Трымаліся з усіх сіл, каб і яго падтрымаць, перадаць бадзёрасць і ўпэўненасць у лепшым лёсе.

*«Калі маці праваджала Лаўрыка у Варне, яна крапілася, васільковыя вочы яе былі спакойны і іскрыліся. Сваёю агрубелаю ад працы рукою яна гладзіла нясмела яго руку і калена. Але ўсё некуды спяшалася, турбавалася …»* (с. 279).

З часам Максім і Гаўрыла змаглі досыць часта пісаць бацькам лісты і нават пасылаць грошы. Яны страшэнна хваляваліся пра здароўе і жыццё бацькоў, сумавалі, а тыя — пра сыноў і іх сем'і. Маці ніяк зразумець не магла: не сядзяць жа сыны ў астрозе, ходзяць вольна, жывуць з сем'ямі, працуюць, нават грошы пасылаюць, а ўсё не могуць прыехаць. Матка ў кожным лісце прасіла, каб прыехалі. Найбольш балела сынам тое, што, колькі ні прасілі, не маглі атрымаць дазвол з'ездзіць у наведкі да бацькоў на Беларусь. Так і прайшло больш за 4 гады.

Нарэшце ў лістападзе 1934 г. Гаўрыла Гарэцкі змог прыехаць, каб забраць сваю сям'ю ў пас. Мядзведжую Гару ў Карэліі, дзе яго хоць і вызвалілі, але катэгарычна прапанавалі жыць і працягваць сваю працу па інжынерна-вышуковай дзейнасці пад будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала.

*«9–19 лістапада быў у дварэ Лаўрык. Пасля ён апісваў свой прыезд так: «Я адчыніў дзверы ў хату — і ўбачыў тут жа пры дзверах: нагнулая старенькая — мама, перабірала буракі. Адзенне нейкае заношанае, старое, на галаве закручана нейкая брудная шмата, нібы баляць зубы і хворая галава. На нагах лапці. Заскруджаныя рукі, з глыбокімі зморшчынкамі.*

*Мама мяне спачатку не спазнала. А потым прыцягнула сабе на грудзі, пачала мяне хлопаць рукамі па спіне і, нібы млеючы, казала спуджана-радасна: «Ай, ай, ай… ай, ай, ай… ай, ай, ай… А Лаўрынічка… ай, ай, ай…» І чулася ў гэтым голасе — такая страшэнная драхласць, такая струджанасць, такое доўгае чаканне, што мне стала страшна за маму… Але гэта быў момант. Мама хутка ператварылася. Нібы і не было тых 48 гадоў. І такая мама была ласковая, радасная, столькі ў ёй было яшчэ жыцця і разумення. Мама лашчыла мяне, гладзіла сваёю агрубелою рукою, гаманіла са мною, некалькі разоў паціхеньку пяяла… Не хапала толькі Кузьмы, каб мама была зусім-зусім бязмежна шчасліваю.*

*[…] Яна была яшчэ вельмі бадзёраю, вочы былі светлыя-светлыя, чыстыя такія. Неўміручыя, нястомныя. Не было ніводнага сівога воласа. Голас быў гучны, чысты, малады. […] Мама ўсё яшчэ працавала каля гаспадаркі. Паднімала цяжкія чугуны, я ёй не даваў рабіць гэтага пры мне, паднімаў і ўстаўляў у печку сам, — і гэта сапраўды былі цяжкія чугуны. Мама даглядала карову, парыла ёй бульбу, буракі, сама часамі цягнула цэбар з паранкамі, мы звычайна насілі цэбры на кіёчку, дык нават дваім і то цяжка. Па ваду мама ўжо не хадзіла, прыносіў звычайна бацька, а ў часе майго побыту я. Дровы з-пад павецця прыносіла мама сама, а часам тата. Цяжкай для мамы працай было хадзіць у пограб. Я хадзіў з ёю разы тры. Пограб далекавата. А самае цяжкое — паднімаць карзіны з бульбаю і буракамі на гару. Гэта нават зусім здароваму цяжкавата. А мама заўсёды паднімала карзіны сама. Дый хто б яшчэ мог пасобіць? Бацька і сам стары, і яму цяжка»* (с. 302).

26 лютага 1935 г. Парфір напісаў Максіму ліст: «*[…] Паведамляю вам вельмі жуткія весці. Мама наша яшчэ зараз жыва, а калі вы будзеце чытаць гэты ліст, то мамы не будзе, а будзе халоднае мёртвае цела. Прычыны смерці наступныя. У мамы была грызь, і у гэтым месце, паміж косці, было зашчамленне кішкі, якая амярцвела і парвалася. Няшчасце*

*здарылася 21.ІІ. […] доктар сказаў, што ў яе заварот кішок, загадаў зараз жа везці ў Горад. 22.ІІ яе прывезлі ў бальніцу і аперыравалі. Доктар як браў на аперацыю, казаў, што мама нізашто не вытрымае аперацыі. Калі мама прачнулася і стала гаварыць, ён дзівіўся, што за крэпкае яе сэрца. […] Мама мяне адразу пазнала, вельмі была рада. Вочы яе такія жывыя, зусім неўміручыя, памяць здаровая. Яна мне расказала пра ўсе камароўскія навіны, пыталася пра Вас, Лаўрыка, ёй вельмі не хочацца ўміраць. Найбольшае яе жаданне — пабачыць усіх сыноў разам»* (с. 303).

У наступным лісце Парфір пісаў Максіму: «*[…] Мама наша памерла 4.ІІІ у 2 гадзіны дня. Пахавалі яе ўчора, 6.ІІІ у 5 гадзін вечару»* (с. 304).

Цяпер на месцы хаты Гарэцкіх у Багацькаўцы па ініцыятыве сакратара ЦК КПБ А. Т. Кузьміна пабудаваны літаратурны музей-сядзіба Максіма Гарэцкага[1], які адкрыты ў 1993 г. да 100-годдзя пісьменніка паводле эскізаў Гаўрылы Гарэцкага. Аўтар экспазіцыі — М. І. Пратасевіч. Спачатку музей даглядала Клаўдзія Шнарская — старэйшая дачка Івана Іванавіча Гарэцкага, а пасля яе смерці — яе нявестка Лідзія Шнарская.

## Туга па наасферы

Людзі з першых дзён свайго існавання марылі аб шчаслівым мірным жыцці, але для большасці яно не прыходзіла. Каб супакоіць свой дух, людзі сталі верыць у лепшае, замагільнае жыццё. Змяняліся сацыяльныя сістэмы, з’яўляліся новыя філасофскія погляды, новыя тэорыі развіцця чалавецтва. Ужо ў пачатку ХХ ст. французскі філосаф і матэматык Эдуард Леруа вылучыў новы этап эвалюцыйнага развіцця біясферы — наасферу, гэта значыць сферу чалавечага розуму. Пазней вялікі натураліст акадэмік У. Вернадскі распрацаваў цэласнае вучэнне

---

[1] Ліўшыц У. М. Літаратурны музей Максіма Гарэцкага (кароткі даведнік). — Орша, 1997. — 72 с.

пра біясферу і вышэйшую стадыю яе эвалюцыі — наасферу і шчыра верыў, што яна прыйдзе. Мой навуковы настаўнік, выдатнейшы прыродазнаўца акадэмік А. Яншын[1] далей удасканаліў гэтае вучэнне і таксама спадзяваўся, што час калектыўнага чалавечага розуму, наасферы, ужо блізкі.

Аднак, азіраючыся на гісторыю чалавецтва і ўспрымаючы сучасны яе стан, чамусьці зусім не бачна набліжэння такога часу. Чым больш павялічвалася насельніцтва на Зямлі, чым больш людзі разумелі законы прыроды, рабілі выдатныя вынаходкі і адкрыцці ў тэхніцы, развівалі навуку, культуру, літаратуру і тым самым, здавалася, набліжаліся да мірнага светлага наасфернага жыцця, тым больш, наадварот, станавілася ахвяр, і не столькі ад натуральнага быцця людзей, колькі ад насільнага знішчэння адзін аднаго. Надзея на наасферу ўсё змяншаецца. Але туга па ёй жыве… Ці наступіць яна? Для гэтага неабходны максімальныя намаганні ўсіх людзей Зямлі.

* * *

У гісторыі Расіі важнае месца займае паўстанне дзекабрыстаў (снежань 1825), удзельнікі якога сваім гераізмам выклікалі захапленне многіх перадавых людзей краіны. А. Пушкін у іх гонар напісаў шырока вядомы верш-пасланне «Во глубине сибирских руд», у якім падкрэсліў, што «не пропадет ваш скорбный труд». Тады пяць кіраўнікоў дзекабрыстаў былі павешаны, 121 сасланы на катаргу і пасяленне ў Сібір. Грамадства ўсяго свету было ўзрушана жорсткасцю пакарання. Праз троху больш чым 100 гадоў лічбы расстраляных па так званых палітычных матывах і высланых у канцлагеры і пасяленні ў розныя глухія і суровыя месцы краіны ўзраслі ў сотні і тысячы разоў. Агульная колькасць рэпрэсіраваных у 30-я гг. мінулага стагоддзя налічваецца дзясяткамі мільёнаў.

---

[1] Гарецкий Р. Г. Академик А. Л. Яншин — дорогой мой учитель и друг. — М. : Наука, 2005. — 192 с.

Для ўяўлення тэмпаў знішчэння людзей прывяду два прыклады. Першы дакумент — акт («совершенно секретно») ад 10 лютага 1938 г., які склалі тры супрацоўнікі «УНКВД Смоленской области». У ім адзначана: *«Перечисленные осужденные, всего в числе сорока человек, из места содержания под стражей были взяты в 14 часов 45 минут 10-го февраля 1938 года, а решение Заседания Тройки приведено в исполнение путем расстрела в 15 часов того же 10-го февраля 1938 г. Трупы зарыты на «установленную глубину», о чем и составлен настоящий акт в одном экземпляре».* Пад нумарам 30 у акце значыўся Максім Гарэцкі. За 15 хвілін выдатна спрактыкаваныя служакі НКУС паспелі вывесці з турмы 40 чалавек, усіх расстраляць, а затым і закапаць на адпаведную глыбіню!

У Сандармоху — карэльскіх Курапатах (19 км ад г. Мядзведжагорска) — пабудаваны мемарыяльны комплекс, у якім стаіць вялікі валун з надпісам: *«Здесь с 27 октября по 4 ноября 1937 г. расстреляны 1111 заключенных Соловецкой тюрьмы».* У спісах гэтых арыштантаў лічыўся і мой тата Гаўрыла Гарэцкі, але яго на гэты час, як найбольш злоснага і важнага «ворага народа» («шпіёна» і «контррэвалюцыянера», які завербаваў А. Чарвякова і М. Галадзеда), адаслалі ў Маскву. Акадэмікі АН БССР М. Яворскі і М. Дурнаво ляжаць у «жоўтым пясочку» Сандармоху. Невялічкая драўляная каплічка, пабудаваная на тым месцы, дзе 21 студзеня 1938 г. у 4 гадзіны ночы два штатныя каты НКУС расстралялі 450(!) чалавек.

З таго часу прайшло каля 70 гадоў, і па тэлебачанні мы чуем і бачым, як па ўсім свеце кожны дзень адлічваюцца дзясяткі, сотні і тысячы ахвяр — палітычных, рэлігійных, крымінальных, тэрарыстычных, прыродна- і тэхнагенна-катастрафічных, экалагічных, наркатычных, гвалтоўных… Дзе ж тое набліжэнне наасферы?

* * *

Нядаўна чытаў пра знакамітую Палтаўскую бітву і аднаго з яе ўдзельнікаў гетмана Мазепу, якога апаэтызаваў А. Пушкін. Бітва адбылася ў 1709 г. паміж расійскімі і шведскімі войскамі. Першыя ўзначальваў Пётр I, а другія — Карл XII. Па сучасных мерках гэтая бітва была зусім невялічкая. З боку Расіі было 42 тысячы салдат і 72 гарматы, у шведаў — 27 тысяч салдат. Шведы страцілі 9234 чал. забітымі і больш за 18 тыс. палоннымі, 32 гарматы; рускія — 1345 чал. забітымі і 3290 параненымі. Гэта бітва стала пераможнай для Пятра I у працяглай Паўночнай вайне 1700–1721 гг. Шматлікія бітвы Першай сусветнай вайны і асабліва Другой сусветнай у параўнанні з Палтаўскай выглядаюць намнога больш грандыёзнымі, ахвяры налічваюцца ўжо дзясяткамі і сотнямі тысяч чалавек і болей, тое ж тычыцца і размаітай зброі. Страшна падумаць пра магчымую Трэцюю сусветную вайну, асабліва калі яна можа быць ядзернай. Тады стане пытанне аб існаванні чалавецтва, аб чым ужо пісалі многія пісьменнікі і ў тым ліку наш славуты Алесь Адамовіч. Цяпер усё больш краін валодае ядзернай зброяй, а многія імкнуцца атрымаць яе. Некаторыя кіраўнікі нашай дзяржавы вельмі шкадуюць, што мы аддалі гэтую зброю Расіі. Зараз Іран, нягледзячы на пратэсты сусветнага згуртавання, упарта змагаецца, каб стаць ядзернай дзяржавай. Усё ж розум павінен перамагчы!

* * *

Дзяцінства маё прайшло пад лозунгам: «Спасибо товарищу Сталину за наше счастливое детство». Праўда, было яно ў ГУЛАГу: у пас. Мядзведжая Гара (пазней г. Мядзведжагорск, Карэлія) — цэнтры будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. У верасні 2002 г. праз больш чым 60 гадоў я зноў трапіў у Петразаводск, дзе праходзіла наша міжнародная канферэнцыя па геадынаміцы. Канешне, не заехаць у Мядзведжагорск я не

мог. Гэта падарожжа зрабіла на мяне вялікае ўражанне. У многіх людзей пад уплывам усплёску значных эмоцый і глыбокіх пачуццяў усплываюць нечаканыя прадбачанні. Па прыездзе ў Мінск я надрукаваў у «Народнай Волі» артыкул пра сваё вандраванне «У край «шчаслівага» дзяцінства». У ім напісаў, што я быццам бачу сон — і мяне ў маім родным горадзе моцна пабілі, праспект Францыска Скарыны назвалі па-іншаму, у шапіках няма недзяржаўных газет, у тым ліку «Народнай Волі». І праўда, усяго амаль праз 4 месяцы ў студзені 2003 г. мяне каля пад'езда нашага дома нейкія хлопцы, якія прыехалі на «Опелі», «прафесійна» моцна стукнулі па галаве (чэрапнамазгавая траўма сярэдняй цяжкасці, страсенне мозгу, паламаны нос), і я, як жартам казаў А. Мальдзіс, з якім раней здарылася тое самае, трапіў у кагорту «недабіткаў». Праз некалькі год указам кіраўніка дзяржавы праспект Францыска Скарыны быў перайменаваны ў праспект Незалежнасці. Але нечая вышэйшая рука зрабіла так, што выканаўцы гэтага ўказа напісалі назву чырвоным колерам на белым фоне — здалёку шыльда выглядае, як бела-чырвона-белы знак — як быццам яго начапілі на кожны будынак. Яшчэ троху пазней забаранілі друкаваць у Беларусі і прадаваць у шапіках амаль усе незалежныя дэмакратычныя газеты, у тым ліку і «Народную Волю».

* * *

У лютым 2004 г. я быў у музеі Янкі Купалы на прэзентацыі поўнага збору яго твораў. Выступалі многія вядомыя літаратуразнаўцы, паэты, артысты, з вялікай радасцю і аптымізмам гаварылі аб тым, што нарэшце ўсе творы нашага вялікага паэта ўбачылі свет. Я таксама з прыемнасцю слухаў разумныя добрыя словы, глядзеў на помнік Янку Купалу, які стаіць у зале сустрэч, на яго трагічныя зморшчыны на ілбе, сумны погляд і з шчымлівым сэрцам думаў пра яго цяжкі лёс, асабліва пасля яго жудаснага харакіры. Як паэту ў тыя гады і ўсё астатняе жыццё цяжка было жыць, калі не магло быць ніякай шчырасці, калі

нельга было напісаць тое, што хацелася, калі не мог змясціць лепшыя свае творы ў поўны збор, які падрыхтаваў да друку сам. Шчыра пагаварыць, абмеркаваць сітуацыю ў краіне, літаратуры амаль не было з кім… Як немагчыма горка было адчуваць, што нават сябры твае, калегі па працы, па творчасці даносяць на цябе ў адпаведныя ўстановы, і самае страшнае, што сярод іх ёсць тыя, якіх ты некалі любіў і прысвяціў ім свае самыя шчырыя, сардэчныя вершы… Ці думаў і прадчуваў паэт, што жыццё скончыцца так трагічна? Такі быў жорсткі антычалавечны, таталітарны рэжым, пры якім у большасці людзей жыццё было трагічным, лёс трагічны і смерць трагічная…

* * *

Па тэлебачанні паказалі, як ліквідавалі берлінскую сцяну. Успомніў даўнюю сустрэчу ў Берліне ў гасцях у майго сябра геолага Ганса, з якім ужо доўгія гады працаваў над рознымі сумеснымі праблемамі па тэктоніцы Еўропы. Ён тады з вялікай гаркатой пажаліўся, што, каб сустрэцца са сваёй роднай сястрой, яны бяруць адпачынак, едуць у Балгарыю і там могуць пабачыцца, нагаварыцца, бо атрымалася так, што ў час амаль імгненнага ўзвядзення берлінскай сцяны яна аказалася на захадзе, а ён — на ўсходзе. Мяне гэты факт вельмі ўзрушыў, і я чыста па-чалавечы выказаў яму спачуванне і ўзняў тост за тое, каб як мага хутчэй берлінская сцяна была парушана і каб Ганс і яго сястра маглі сустракацца калі самі захочуць і дзе захочуць — хоць у Берліне, хоць у Балгарыі. Ганс, яго жонка і нямецкія калегі спачатку ўскінулі на мяне стаўшыя круглымі ад здзіўлення вочы (як так! прадстаўнік СССР і можа такое гаварыць!). І ў іх, мне здалося, прамільгнулі іскры згоды і ўдзячнасці. Але амаль у той жа момант яны са страхам пачалі глядзець адзін на аднаго і аглядвацца па баках — ці не чуў хто такія крамольныя словы, за якія можна жорстка пацярпець… Страх у душах усходніх немцаў, дзе дзяржава таксама была таталітарная, панаваў не меншы, чым у нас пры сталінізме.

* * *

26 красавіка 2006 г. сумны юбілей — 20 год чарнобыльскай катастрофы. Хоць тады ўжо і пачыналася перабудова, але жылі яшчэ па-старому, таталітарнаму рэжыму, калі пануюць страх, хлусня, дэмагогія. Успамінаю, калі даведаўся пра аварыю, я, як дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук Беларусі, папрасіў інжынера па тэхніцы бяспекі перыядычна мераць радыяцыйны фон. Не паспелі зрабіць некалькі замераў, як раздаўся званок з КДБ, каб неадкладна спынілі гэта рабіць. Праз некалькі дзён пазванілі з ЦК КПБ: «Вам доверяется почетная миссия: на демонстрации Первого мая вы будете нести знамя города Минска». Быў цудоўны па-сапраўднаму ўжо летні дзень, а мы, тысячы людзей, амаль поўны дзень правялі на вуліцы, на адкрытым паветры, па якім ляцелі мільёны радыеактыўных пылінак. Жылі, як у той жартаўлівай песні: «Все хорошо, прекрасная маркиза…». Каб не тыя далёкія шведы, якія першыя паднялі шум пра аварыю, савецкія людзі, мусіць, яшчэ вельмі доўга не ведалі б аб ёй. Да гэтага так ужо было пад Чалябінскам і ў іншых мясцінах.

Калі ў Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах у сродках масавай інфармацыі тлумачылі, як сябе весці ў тых умовах (піць ёд, менш быць на вуліцы, прымаць душ пасля двара і г. д.), у нас пад бравурныя гукі трубілі, што ўсё вельмі добра, ніякай бяспекі няма, у г. Брагіне на Гомельшчыне арганізавалі футбольны матч, а ў іншых гарадах — майскія дэманстрацыі і гулянні. Калі М. Тэтчэр тэрмінова вывозіла сваіх некалькі дзясяткаў студэнтаў з кіеўскіх вышэйшых навучальных установаў, кіяўляне ішлі на масавую дэманстрацыю, спаборнічалі ва ўсесаюзных веласіпедных гонках. Калі прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі М. Барысевіч тэрмінова ў нерабочы суботні дзень сабраў усіх дырэктараў інстытутаў, каб абмеркаваць магчымыя наступствы жудаснай катастрофы і барацьбу з ёй, мы выслухалі хвалюючае, шчырае са слязьмі на вачох выступ-

ленне дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі В. Несцярэнкі, які толькі што вярнуўся з Чарнобыля, дык наступныя дні абодвух кіраўнікоў сустрэчы чакалі вялікія непрыемнасці. Па радыё і тэлебачанні міністр аховы здароўя і іншыя высокія чыноўнікі ўпэўнівалі, што ніякай бяспекі няма, усюды можна адпачываць, купацца, збіраць грыбы, ягады… Сакрэтнасць і хлусня выйшлі наперад. А ў гэты час тысячы герояў змагаліся з разбушаваўшымся ядзерным дзікім драконам і колькасць ахвяр з кожнай хвілінай павялічвалася. Галоўнае — не захаваць здароўе людзей, а «каб не было панікі». З часам праўда пачала патроху прабівацца і з'явіліся праграмы па пераадольванню наступстваў катастрофы, пачалося масавае перасяленне, дапамога пацярпеўшым і г. д.

Але нават да гэтага часу мы многае не ведаем, пануе паўпраўда, тое-сёе забылася, а іншае ўжо стала звычным. Не ведаем дасканала, колькі чалавек загінула ад радыяцыі, колькі калек і хворых. Усё стараемся прыменшыць. Забруджаны край патроху засяляецца. Зноў ідзе размова аб будаўніцтве АЭС на тэрыторыі Беларусі, але мы да гэтага яшчэ не дасягнулі дастатковага ўзроўню адказнасці і маралі.

Колькасць затрыманых і пасаджаных у турэмны ізалятар, засуджаных на розныя тэрміны заключэння ці высылкі на «хімію» пасля мітынгаў, пратэставых збораў з кожным годам усё расце. Калі ў сярэдзіне 90-х гг. мінулага стагоддзя яны лічыліся адзінкамі і гэта выгукала вялікі жах і пратэст у грамадстве, дык цяпер іх лічба перавышае многія дзясяткі і дасягае ўжо некалькіх соцень.

Сталася так у нашым «стабільным» жыцці, што ўжо некалькі гадоў, як у Дзень геолага (першая нядзеля красавіка) я не магу перадаць віншаванне з нашым прафесійным святам непасрэдна сваім малодшым калегам — Вячаславу Сіўчыку і майму былому студэнту Паўлу Севярынцу, бо яны сустракаюць тое свята ў зняволенні. Так і ў гэтым годзе: першы затрыманы, калі ўдзельнічаў у святкаванні Дня волі 25 сакавіка, а другі —

ужо значны тэрмін адбывае ў высылцы ў Малым Сітне, на поўначы Полаччыны. Тым не менш я праз газету «Наша Ніва», таксама выгнаную ўладамі з прастораў Беларусі, перадаў маім калегам віншаванне.

*«Наша свята геолагаў прыпадае на вясну, калі мы пачынаем адчуваць, што хутка будзе вандраванне (геалагічнае поле) і мы зможам спаткацца з прыродай, вырвацца з цеснага душнага горада на шырокі прастор, успрыняць свабодны ўзлёт і пазнаць новыя ісціны пра будову і развіццё Зямлі, а гэта дасць магчымасць адкрыць і адшукаць розныя карысныя выкапні, так неабходныя для існавання і развіцця чалавецтва. Як сапраўдныя вандроўнікі, мы ў гэтыя дні адчуваем, што «душу намада даль заве». Я думаю, што Дзень геолага заканамерна амаль супаў з Вясной, са святам 25 Сакавіка і з Днём гумару. Вясна — адна з самых цудоўных часін года, калі светлыя, радасныя прамяні сонейка пачынаюць так прыемна саграваць цела і душу пасля зімніх халадоў, ажывае прырода, сэрца пачынае біцца больш моцна, пачуццё любові і дабра ахоплівае ўсё больш людзей, хочацца жыць далей і жыць лепей... Вясна адкрывае браму да лета, да цяпла, да жыцця. Як нядаўна, у самыя халодныя дні марознай зімы гэтага года, калі настрой і ўспрыманні былі таксама марознымі, наш славуты паэт Ніл Гілевіч сказаў мне: «Дажывём да Вясны...»*

*Нездарма вялікае свята беларусаў 25 Сакавіка прыпадае на Вясну і сімвалізуе Волю, Дзяржаўнасць, Незалежнасць, Дэмакратыю, Нацыянальнае адраджэнне Беларусі, калі кожнаму грамадзяніну нашай краіны хочацца сказаць услед за Янкам Купалам салодкія словы свабоды: «Жыве Беларусь!» Праўда, я зусім не разумею, чаму за гэтыя цудоўныя словы цяпер у нас можна трапіць за краты, што і здараецца ўжо не першы раз і з вамі, маімі дарагімі. Логіка ўладаў згубілася: за блізкія па сутнасці словы «За Беларусь!», якія таксама ўпершыню прапанавалі і якімі карысталіся змагары за беларушчыну, можна атрымаць не краты, а наадварот, падтрымку і ўзнагароду.*

*Смех і гумар — здаровыя пачуцці добрых і аптымістычных людзей, да якіх, безумоўна, належыць большасць геолагаў. Трэба з прыемнасцю адзначыць, што гэтыя пачуцці ўласцівы беларускаму народу. Які б цяжкі, горкі, безвыходны стан ні быў у беларуса, ён заўсёды знойдзе нешта гумарыстычнае і па-добраму пасмяецца і з гэтага стану, і з суседа, і з сябе. Наш славуты выхадзец з Беларусі, вялікі расейскі пісьменнік Фёдар Дастаеўскі казаў: «Хараство выратуе свет», а другі выдатны беларус, акадэмік Валянцін Капцюг лічыў, што «свет выратуе навука». Мы можам сказаць, што Беларусь выратуе не толькі прыгажосць і навука, але гумар і аптымізм. Трэба яшчэ дадаць, што Беларусь стане па-сапраўднаму вольнай, дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавай дзякуючы нацыянальна свядомаму маладому пакаленню, да яго належыце і вы, таму мне асабліва прыемна ў гэтыя дні павіншаваць вас і пажадаць здароўя, непахіснага духу, мужнасці, веры ў адроджаную Беларусь, поспехаў ва ўсіх вашых справах. Жыве Беларусь!».*

***2006**, травень*

## Што хацеў сказаць на кангрэсе

У канцы траўня 2007 г. адбыўся Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі, на якім па розных прычынах не задалося выказаць некалькі думак. Вось некаторыя з іх.

Жыццё прымусіла ўлады Беларусі выконваць тыя прапановы, якія гадоў 10–15 таму выказвала апазіцыя (Чарнаморска-Балтыйскі калектар, пошукі канцэсій радовішчаў нафты і газу, распрацоўка нетрадыцыйнай энергетыкі, самастойнасць нацыянальнай валюты і г. д.). Нават узялі лозунг тых гадоў: «За Беларусь! За независимую процветающую Беларусь!» Таму зараз многія жыхары нашай краіны не разумеюць, якая розніца паміж палітыкай улад і апазіцыі. Шэраг апазіцыйных дзеячаў пачалі падтрымліваць кіраўніка дзяржавы, думаючы, што толькі ён зможа ўтрымаць незалежнасць. Некаторыя, як,

напрыклад, наш славуты спартсмен Парфяновіч са сваім «Маніфестам», пабеглі хутчэй наперадзе саміх кіраўнікоў краіны ў склад Расіі.

Трэба зразумець, што галоўная небяспека для Беларусі — гэта дзікая палітыка антыбеларушчыны, а названыя лозунгі — гэта шырма. Ідзе працэс зацятай русіфікацыі — як кажа першая асоба: «руские и беларусы — один народ», «беларус — гэта рускі са знакам якасці»; беларуская мова — табу для ўсёй вертыкалі чыноўнікаў, нават для дзеячаў культуры. Тое ж было пры савецкай уладзе (Хрушчоў: «чым хутчэй беларусы будуць гаварыць па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм»). Тое ж рабіла яшчэ Кацярына і яе сатрап Мураўёў — «захопім Беларусь не пушкамі, а рускамоўнай школай». Таму абавязковы элемент пабудовы Беларусі — нацыянальная беларуская ідэя. Большасць беларускага народа хоча жыць не ў аўтарытарнай, хоць і незалежнай краіне, як жылі многія дзесяцігоддзі ў СССР, і не ў складзе магчыма і дэмакратычнай Расіі, а ў самастойнай дэмакратычнай нацыянальна свядомай еўрапейскай Беларусі, у якой шчасліва будзе жыць кожны чалавек незалежна ад нацыянальнай і канфесійнай яго прыналежнасці. Русіфікацыя пранізала і значную частку апазіцыі. Нават бланк заявы ў фракцыю дэлегатаў кангрэса напісан па-руску, як і шэраг дакументаў. Няўжо дэлегаты не змогуць прачытаць і запоўніць заяву па-беларуску? У знак пратэсту некаторыя дэлегаты не падалі гэтай заявы.

Толькі сапраўднае аб’яднанне дэмакратычных сіл можа даць нам добры вынік. Дзеянні ў такім напрамку ў час мінулых выбараў прэзідэнта прывялі да значных дасягненняў — плошча Каліноўскага. На жаль, уражанне такое, што пазней ішло не канструктыўнае аб’яднанне, а актыўнае раз’яднанне. Барацьба за лідарства, змаганне амбіцый.

Галоўная ж мэта — выпрацаваць новую тактыку і стратэгію ў палітычным жыцці краіны, каб не атрымоўваць стаўшыя прывычнымі паразы. Патрэбна працаздольная каманда адна-

думцаў. Дэмакратычныя сілы — гэта не толькі партыі, а шырокае кола людзей, таму патрэбен усенародны дэмакратычны рух, як некалі БНФ, «Салідарнасць» у Польшчы. Бліжэй да народа, больш — моладзі. Чаму яна асобна дзейнічае? Чаму няма сваіх СМІ ў нашых партый? Дзівіць вэрхал па выбары дэлегатаў. Рада інтэлігенцыі вылучыла 47 чал., палову выкінулі па незразумелых паказчыках.

У заключэнні хачу нагадаць словы адраджэнца 20-х гг. мінулага стагоддзя, якія сказаў мой дзядзька Максім Гарэцкі: «Ахвярую сваім «Я» ва ймя святога ўсім нам Адраджэння!». Вось калі мы ўсе будзем падыходзіць да справы адраджэння Бацькаўшчыны і памятаць перш за ўсё пра яе, і толькі потым пра свае амбіцыі, пра сваё «Я» — вось тады мы і зможам дайсці да сапраўднай Беларусі і смела сказаць, не баючыся атрымаць палкай па галаве, святыя словы Янкі Купалы «Жыве Беларусь!»

***2007, травень***

## Першы з’езд вучоных Беларусі

Беларусь мае моцны навуковы патэнцыял. Нашы вучоныя ўнеслі вялікі ўклад як у фундаментальную, так і ў прыкладную навуку. З часу перабудовы фінансаванне навукі ад аб’ёму валавога ўнутранага прадукту ў краіне зніжалася (з 2,3% у 1990 г. да 0,7–0,8% цяпер) і навука аказалася ў вельмі цяжкім стане. Да гэтага яшчэ дадаліся бясконцыя рэфармаванні, якія праводзіць кіраўніцтва краіны і Акадэміі навук Беларусі, што выгукае адчуванне нестабільнасці, няўпэўненасці, нервовасці і не стымулюе навукоўцаў да плённай працы.

Зыходзячы з сучаснага стану навукі, якая сур’ёзна знізіла свой былы прэстыж, Першы з’езд вучоных Беларусі, можа, і быў карысны, бо звярнуў увагу ўладаў і грамадства на вялікую ролю навукі ў развіцці ўсіх бакоў жыцця і дзейнасці краіны. Вельмі важна, што з’езд стымуляваў і ўказ пра павелічэнне аплаты за навуковыя ступені і званні. Праўда сам з’езд прайшоў

у лепшых савецкіх традыцыях: урачыста, пышна, з размахам (таму і каштаваў каля 500 тыс. даляраў), у значнай ступені фармальна, па прынцыпе «адабрамс». Найбольш карыснымі былі секцыйныя паседжанні, на якіх здараліся прапановы, спрэчкі і якія, магчыма, чыноўнікі ад навукі ўлічаць у сваёй дзейнасці. На галоўнай жа сустрэчы ў 16 выступленнях больш выказваліся пра дасягненні, прычым толькі адно з іх на беларускай мове. Дарэчы і ўсе дакументы — толькі па-руску.

Галоўная мэта з'езда, што гучала ў дакладах А. Лукашэнкі, М. Мясніковіча і А. Радзькова, — гэта спусціць навуку з фундаментальных вышынь бліжэй да вытворчасці. Але некаторыя прамоўцы, асабліва рэктар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта акадэмік В. Садоўнічы падкрэсліў неабходнасць развіцця фундаментальных асноў і навукі і адукацыі. У прыклад прывёў фундаментальнае адкрыццё Фарадэя і Максвела, якое з часам змагло акупіць усе навуковыя даследаванні ўсяго свету. Безумоўна, неабходна разумнае спалучэнне фундаментальнай і прыкладной навукі. Трэба адзначыць, што мяжа паміж імі часта вельмі ўмоўная. Чыноўнікі ад улады і ад навукі ціснуць на навукоўцаў, каб яны больш укаранялі свае навуковыя распрацоўкі ў вытворчасць. Але мне здаецца, што ў гэтым працэсе справа не столькі ў навукоўцах, колькі ў самой вытворчасці. Трэба, каб там была зацікаўленасць у новых вынаходках, новых тэхналогіях і тады самі прамыслоўцы будуць шукаць навінкі навукі. Цяпер жа для большасці кіраўнікоў прадпрыемстваў галоўнае — выканаць план вытворчасці, а ўкараненне новай тэхналогіі патрабуе змену спосабу вытворчасці, што ўплывае на выпуск прадукцыі, дадатковага фінансавання, якога звычайна няма, і г. д. Толькі канкурэнцыя, праца не на склад, а на рынак, на выпуск канкурэнтназдольнай прадукцыі прымусіць шукаць і ўкараняць навуковыя распрацоўкі. Вельмі добра было б, каб самі вытворцы ставілі перад вучонымі тыя пытанні новых тэхналогій, якія іх цікавяць. А то часта вучоны сам нешта зробіць новае, перспектыўнае і ходзіць, як гандляр, а

яго навуковую распрацоўку ніхто не бярэ, бо баіцца прыпыніць наладжаны працэс вытворчасці.

Гэтыя праблемы так і засталіся нераспрацаванымі. Няясныя многія пытанні фінансавання: адкуль узяць грошы на даплату за вучоныя ступені і званні, на аспірантаў, на выкананне шэрагу фундаментальных тэм, дзе знайсці грошы на абсталяванне, экспедыцыі, навуковыя прыборы і г. д. Тэндэнцыя зусім адмяніць фінансаванне навукі з бюджэту дзяржавы вельмі небяспечная, асабліва для фундаментальных даследаванняў.

Сур'ёзныя праблемы з навуковымі кадрамі. Нізкія зарплаты прыводзяць да «ўцечкі мазгоў» як за мяжу краіны, так і ўнутры. Навука ў краіне не можа пракарміць маладога навукоўца, асабліва калі ён мае сям'ю. Навука ў акадэміі трымаецца на людзях сталага ўзросту. Казусы з зарплатай не спрыяюць маладым навукоўцам (аспірант мае большую стыпендыю (звыш 400 тыс. руб.), чым пасля сканчэння, калі ён робіцца малодшым навуковым супрацоўнікам (больш за 300 тыс. руб.)).

Асаблівы непакой выгукае стан так званых рэгіянальных навук — прыродазнаўчых (батаніка, заалогія, геалогія, геаграфія, глебазнаўства, экалогія) і гуманітарных (мова, літаратура, фальклор, археалогія і інш.). Гэта тыя навукі, якія прывязаны да тэрыторыі краіны, і, апрача беларускіх вучоных, іх распрацоўваць няма каму, прычым яны таксама ўтрымліваюць як фундаментальную частку, так і не меншую прыкладную. Таму яны павінны атрымліваць прыярытэт у дзяржаўнай падтрымцы. Напрыклад, па пастанове Прэзідыума НАН Беларусі плануецца аб'яднаць інстытуты мовы, літаратуры і фальклорны напрамак Інстытута мастацтвазнаўства ў адзін інстытут. Гэта значыць вярнуць пералічаныя навукі ў стан далёкага мінулага — Інбелкульта і пачатку Беларускай акадэміі навук.

У мяне асаблівую боль выгукае пастанова пра перадачу Інстытута геахіміі і геафізікі ў Мінпрыроды, што прывядзе амаль да поўнай ліквідацыі навук аб Зямлі ў акадэміі, а значыць і фундаментальнага напрамку ў геалогіі, геафізіцы, геахіміі.

Інстытут геахіміі і геафізікі — адзіная паўнавартасная ўстанова геалагічнага профілю, якая вырашае важныя фундаментальныя і прыкладныя праблемы. Інстытут вывучае гісторыю той Зямлі, на якой жыве беларускі народ, а яна ахоплівае каля 4 млрд гадоў. Няўжо не цікава, не важна ведаць, калі і якія тут былі прыродныя ўмовы і з'явы: вулканы, зледзяненні, моры тыпу Балтыйскага ці Чырвонага, жывёльны і раслінны мір, клімат і рэльеф мінулага, геахімічныя і геафізічныя працэсы ў розныя перыяды развіцця зямлі і г. д. Каб ўсё гэта даведацца, патрэбна пільная праца шырокага кола спецыялістаў самых розных больш вузкіх прафесій. А без гэтых ведаў фундаментальных геалагічных асноў немагчымы мэтанакіраваныя пошукі карысных выкапняў. Геалогія — аснова ўсіх прыродных працэсаў і ведаў пра іх (глебы, раслінны і жывёльны свет і інш.), каркас народнагаспадарчай дзейнасці. Апрача таго, на базе Інстытута геахіміі і геафізікі ажыццяўляецца падрыхтоўка студэнтаў-геолагаў і абарона кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, а таксама экспертыза розных праектаў і справаздач у галіне навук аб Зямлі.

Такім чынам, без навукі і адукацыі ў любой краіны, у тым ліку і Беларусі, няма будучыні. Як выдатна сказаў наш зямляк віцэ-прэзідэнт РАН і старшыня Сібірскага аддзялення акадэмік Валянцін Апанасавіч Капцюг: «Паратунак чалавецтва патрабуе максімальнага працягвання навукі» — «Навука — паратунак свету».

**Навукі аб Зямлі.** Гэта вельмі разнастайны і шырокі комплекс навуковых напрамкаў. Пра тое яскрава сведчыць назва аддзяленняў навук у Расійскай акадэміі навук, у якой ёсць асобны сектар навук аб Зямлі. У яго ўваходзяць аддзяленні: 1) геалогіі, геафізікі, геахіміі і горных навук; 2) акеаналогіі, фізікі атмасферы і геаграфіі. Кожная з пералічаных тут навук мае яшчэ вялікую колькасць больш канкрэтных навуковых напрамкаў, напрыклад у геалогіі: стратыграфія, палеанталогія,

літалогія, петраграфія, тэктоніка, геадынаміка, вулканалогія і інш. Іх не менш, чым у той жа фізіцы ці хіміі.

У Акадэміі навук Беларусі гэтыя навукі прадстаўлены даволі шырока з многімі інстытутамі, чаго зусім нельга сказаць пра навукі аб Зямлі, а яны не толькі даюць веды пра гісторыю будовы і развіцця той зямелькі, на якой жыве беларускі народ, але з'яўляюцца асновай усёй народнагаспадарчай дзейнасці краіны. Мае і шэрагу іншых спецыялістаў намаганні аб адкрыцці спецыяльнага аддзялення навук аб Зямлі на працягу дзясяткаў гадоў у дзяржаўных чыноўнікаў і кіраўнікоў акадэміі сустракалі слабую падтрымку ці часцей поўнае адмаўленне. А такія навукі, як геаграфія і горныя навукі, адсутнічаюць у акадэміі і наогул слаба развіты і ўва ўсёй краіне.

Горныя навукі — комплекс навук аб асваенні рэсурсаў нетраў, працэсах распрацоўкі радовішчаў і першаснай перапрацоўкі здабытых карысных выкапняў. Калі я перад чыноўнікамі ад навукі ставіў пытанне пра неабходнасць у акадэміі мець горныя навукі, тыя з усмешкай адказвалі: «Якія там горныя навукі? У нас у рэспубліцы гор няма». Асабліва цяпер, калі Беларусь стала самастойнай дзяржавай, распрацоўка і асваенне розных радовішчаў мінеральнай сыравіны паўстала вельмі востра, а навуковыя асновы гэтым праблемам даць няма каму.

На жаль, у апошнія гады ў сувязі з інтэнсіўным «рэфармаваннем» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ідзе амаль поўная ліквідацыя фундаментальнай часткі навук аб Зямлі.

**Геалагічныя навукі.** Дзіўлюся вузка-прыкладному разуменню геалагічных навук як чыноўнікамі ўсіх рангаў (у тым ліку і чыноўнікаў ад навукі), так і шырокага кола грамадзян (нават спецыялістаў іншых навук). Безумоўна, практычнае значэнне геалагічных навук надзвычайнае, і не толькі ў пошуках разнастайных карысных выкапняў, без якіх не можа існаваць чалавецтва, але і ў розных падземных і адказных наземных пабудовах (метро, шахты, АЭС, ГЭС, вадасховішча і г. д.) і інш. Звычайна, калі даведаюцца, што ты — геолаг, пытаюцца:

«Золата знайшоў? Нафту знайшоў?» Пачуўшы адказ: «Не», адразу губляюць да цябе цікавасць і лічаць, што перад ім кепскі спецыяліст. Геалагічныя навукі маюць не менш важную фундаментальную састаўляючую, якая так цесна звязана з прыкладной, што паміж імі вельмі цяжка правесці мяжу і адна без другой не можа існаваць і развівацца. Каб усе людзі лепш ведалі пра важную сутнасць геалагічных навук, неабходна больш сур’ёзна паставіць іх вывучэнне ўжо ў школах, як гэта існуе у многіх краінах Еўропы. Чым больш фундаментальныя веды, тым больш эфектыўныя і менш стратныя практычныя працы. Толькі беларускія вучоныя, і перш-наперш вучоныя НАН Беларусі, могуць атрымаць такія фундаментальныя звесткі. Ніхто другі за іх гэта не зробіць. Уклад беларускіх вучоных у адкрыцці многіх радовішчаў мінеральных рэсурсаў (калійныя солі, нафта, падземныя пітныя і мінеральныя воды, будаўнічыя матэрыялы і інш.), якія кожны год даюць краіне прыбытак у некалькі мільярдаў даляраў, шырока вядомы. Скарачэнне існуючай даволі нязначнай фундаментальнай часткі сучаснай геалагічнай навукі Беларусі прывядзе да таго, што тэрыторыя краіны ў хуткім часе будзе выглядаць «белай плямай» на геалагічнай карце Еўропы на міравым фоне шыбкага прымнажэння і асэнсавання інфармацыі пра гісторыю будовы і развіцця Зямлі.

*2007*

## Як адзначалі юбілеі

Юбілеі бываюць розныя, і адзначаюць іх па-рознаму. 2007 год — 85-годдзе стварэння Інстытута беларускай культуры, у якім арганізавалі прыродазнаўчую секцыю — пачатак геалагічнай навукі і службы ў Беларусі; 100-годдзе першага дырэктара Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі геахіміка акадэміка К. І. Лукашова; 30-годдзе абрання акадэмікам НАН Беларусі другога дырэктара Інстытута геолага і геафізіка

Р. Г. Гарэцкага; 80-годдзе адкрыцця Інстытута геалогіі ў Беларускай акадэміі навук (на базе геолага-глебавай падсекцыі Інбелкульта). Першыя юбілеі былі адзначаны пастановай Прэзідыума НАН Беларусі аб перадачы Інстытута геахіміі і геафізікі ў сістэму Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. 19–21 снежня 2007 г. адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Інавацыйнае развіццё геалагічнай навукі — шлях да эфектыўнага і комплекснага асваення рэсурсаў нетраў», прысвечанае 80-годдзю Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута, які лічыцца пераемнікам Інстытута геалогіі, а затым Інстытута геалагічных навук Акадэміі навук Беларусі. За дзень да адкрыцця канферэнцыі прэм’ер-міністр С. С. Сідорскі падпісаў пастанову: падпарадкаваць Інстытут геахіміі і геафізікі НАН Беларусі Мінпрыродзе, што значыць — ліквідаваць геалогію, геафізіку і геахімію ў НАН Беларусі.

* * *

Ёсць добры габрэйскі анекдот. У аднаго габрэя, які трымаў моцную ферму курэй, раптам птушкі пачалі дохнуць. Што рабіць? Канечне, ён пайшоў да рабіна, каб той даў яму параду. Рабі спытаў: «Дык як ты іх корміш?» — «Вельмі проста — сыплю зерне на зямлю». — «А ты зрабі для іх латкі». Куры працягвалі гінуць. Габрэй хадзіў да рабі, які даваў усё новыя парады: карміць разам з вадой; не ўсіх разам, а па групах; асобна курак ад пеўняў; не з драўлянага латка, а з жалезнага і г. д. Нарэшце прыходзіць габрэй і кажа: «Што рабіць — усе куркі падохлі?» Рабі: «Ай, ай! Як шкада! У мяне яшчэ было столькі варыянтаў!»

Вось так і нашы рэфарматары НАН Беларусі ў адносінах да фундаментальных навук аб Зямлі. Інстытут геахіміі і геафізікі (ІГіГ) — адзіная моцная ўстанова такога напрамку ў краіне — яшчэ на пачатку новага стагоддзя налічвала 220 супрацоўнікаў

(з іх 17 дактароў і 57 кандыдатаў навук), а ў сярэдзіне 80-х гг. мінулага стагоддзя было 370 супрацоўнікаў. На працягу 2006–2007 гг. былі розныя варыянты рэфармавання. Стварыць навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па прыродакарыстанні на базе Інстытута праблем карыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі, далучыўшы да яго ІГіГ; стварыць цэнтр прыродных рэсурсаў на базе Інстытута заалогіі, куды разам з іншымі павінен увайсці і ІГіГ; арганізаваць навукова-практычны цэнтр па геалогіі ў сістэме Мінпрыроды, куды перадаць і ІГіГ, і г. д.

Нарэшце, ад ІГіГ засталося менш за сто чалавек, з якіх 20 чалавек перавялі ў Інстытут праблем карыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі НАН Беларусі, каля 60 — у Дэпартамент па геалогіі Мінпрыроды, дзе іх уключаць у склад Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута. Такім чынам, ІГіГ ліквідавалі і практычна амаль зусім скарацілі фундаментальныя навукі аб Зямлі ў НАН Беларусі. Безумоўна, жыццё з часам падкажа, што гэта была вялікая памылка, і я ўпэўнены, што ў Акадэміі навук зноў адкрыюць Інстытут геалагічных навук і нават Аддзяленне навук аб Зямлі.

*2007*

## Не ўбачылі разбурэння…

17 кастрычніка 2006 года памёр адзін з старэйшых геолагаў Беларусі акадэмік Аляксандр Сямёнавіч Махнач, які стаяў ля вытокаў сучасных ведаў геалагічнай будовы нашай краіны. Праз год, у гадавіну смерці выдатнага вучонага, калі рэфарматарскі сверб чыноўнікаў ад навукі ўжо прывёў да знішчэння цэласнасці Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, яго дырэктар, Анатоль Аляксандравіч Махнач, сын нябожчыка і таксама акадэмік, з вялікім сумам, дрыжаннем у голасе, амаль са слязьмі на вачах сказаў: «Як гэта ні кашчунскі гучыць, але добра, што мой бацька не дажыў да гэтага часу, калі разбура-

юць інстытут, — яго перажыванні былі б невыносна цяжкімі і горкімі». Мы ўсе, хто быў побач, вельмі зразумелі словы дырэктара…

Я падумаў, што і майму бацьку, акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму, які стварыў адну з лепшых у свеце і шырока вядомую беларускую школу геолагаў-антрапагеншчыкаў і які заўсёды марыў і змагаўся за развіццё і высокі ўзровень навук аб Зямлі ў яго роднай Беларусі, таксама было б жудасна балюча даведацца, што яго лабараторыя геалогіі антрапагену Інстытута геахіміі і геафізікі ўжо не існуе, вучні раскіданы па розных установах, а то звольнены ці нават пакінулі гэты свет…

*2007*

## Жыццё навучыць

З цікавасцю сачу за намаганнямі нашых улад атрымаць канцэсіі на здабычу нафты, газу і іншай мінеральнай сыравіны ў розных краінах свету. Успамінаю, як у 90-я гг. мінулага стагоддзя былым, а затым і сучасным кіраўнікам нашай дзяржавы настойліва прапанаваў свае паслугі геолага, які добра ведаў геалогію і кіраўнікоў геалагічнай службы, паехаць у Казахстан ці Заходнюю Сібір Расіі, каб дамовіцца пра набыццё радовішчаў нафты і газу, што тады можна было зрабіць за не надта вялікія грошы. Пазней разам з маім таленавітым вучнем і выдатным арганізатарам В. А. Масквічом прапанавалі стварыць інстытут ці геалагічную службу па вывучэнні геалогіі карысных выкапняў замежных краін з мэтай не проста атрымаць новыя веды, а разам падрыхтаваць матэрыял для стварэння ў гэтых краінах канцэсій, сумежных службаў па здабычы найбольш цікавых для Беларусі мінеральных рэсурсаў. В. Масквіч па сваёй ініцыятыве нават пачаў такую працу ў Танзаніі, Манголіі наконт радовішчаў алмазаў, золата, нафты і інш. Перспектывы былі неблагія, але падтрымкі ў нашых дзяржаўных чыноўнікаў, не дачакаліся. Тое ж атрымалася і з маімі прапановамі — не было

часу пільна заняцца народнай гаспадаркай, усе сілы адымала палітычная дзейнасць. Цяпер жыццё само падказала, што трэба рабіць тое, што, у прыватнасці, вучоныя-геолагі раілі ажыццяўляць 10–15 гадоў таму. Але час змяніўся, большасць радовішчаў захоплена, цэны сталі іншымі і засталіся толькі такія далёкія краіны, як Венесуэла, Іран…

*2007*

## Ці быў бы рад Янка Купала?

Мікалай Чаргінец — сенатар (член Савета Рэспублікі) і генерал — узначальвае наноўствораны Саюз пісьменнікаў Беларусі, але не толькі не піша, але і не размаўляе па-беларуску. Выступаючы, канечне, на рускай мове, на ўрачыстым пасяджэнні Саюза, якое было прысвечана 125-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, ён з імпэтам і гонарам сказаў, што як быў бы рад Янка Купала, калі б убачыў наш такі чысты прыгожы Мінск. Наколькі правільна адзначыў кіраўнік пісьменнікаў Беларусі галоўнае дасягненне краіны, бо больш асабліва ў напрамку беларушчыны, што для Янкі Купалы было самым важным, пахваліцца няма чым…

*2007*

## Ёсць вышэйшая сіла

14 кастрычніка 2007 г. у нядзелю дэмакратычныя сілы абвясцілі пра правядзення «Еўрапейскага шляху». Папярэдне наляцеў цыклон, надвор’е сапсавалася, пайшоў дождж, нават са снегам. Тое ж метэаслужба абяцала і ў нядзелю — усе прыхільнікі мерапрыемства перажывалі, бо баяліся, што з-за гэтага прыйдзе зусім мала людзей. Але раптам, менавіта ў гадзіны шляху, расступіліся хмары, неба стала чыстым-чыстым, сінім-сінім, яскрава засвяціла сонейка. Радасна стала на душы ў людзей…

Цікава, што ў той час, калі пачалі праводзіць «Славянскі базар», амаль кожны раз, у які б дзень яго ні прызначалі, заўсёды пры яго адкрыцці ліў страшэнны дождж, проста лівень. І так цягнулася многа гадоў.

Як не паверыць у тое, што ёсць нейкая вышэйшая сіла, якая адно мерапрыемства падтрымлівае, а другое — не.

*2007*

## Творы, вартыя і тэатра, і кіно

У «Нашай Ніве» (№ 23 ад 22 чэрвеня 2007 г.) надрукаваны цікавыя адказы на пытанне рэдакцыі «Які твор беларускай літаратуры варта экранізаваць?» Барыс Тумар, публіцыст, адказаў: *«Гарэцкі. Час здымаць паводле Гарэцкага. Кароткі мэтраж паводле апавяданняў «У лазні» — сапраўдны шэдэўр, і, канечне, «Дзве душы» і «Віленскія камунары». Гэта матэрыял для оскараўскіх сцэнароў. Грандыёзны гістарычны кантэкст — нараджэнне беларускай нацыі, эўрапейская рэвалюцыя — і натуралізм пачуццяў. Гарэцкі лёгкі для экранізацыі, бо быў як майстрам і эпічнага паказу эпохі і эпізоду. Мне жыва ўяўляюцца на экране сцэны, як на лаўцы Аляксандраўскага саду спакушае героя «Віленскіх камунараў», рэвалюцыянэра, месная мяшчаначка, падсоўваючыся да яго мяккім гарачым бокам, або, зусім іншая танальнасьць, як віленчукі лавілі і елі варанятаў у часе нямецкай акупацыі. У той жа час сюжэты Гарэцкага не закрытыя, яны лёгка надаюцца на пашырэнне і развіццё. Фільмы паводле Гарэцкага сталі б сэнсацыяй. Толькі калі мы дажывем, калі выгадуюцца сцэнарысты і рэжысэры, здольныя ўстаць на адну дошку з Гарэцкім па разуменні чалавека й гіторыі? Пакуль такіх нешта не бачыцца…»*

І праўда творы Максіма Гарэцкага прайшлі міма кіно, таксама амаль міма тэатра прайшла і яго драматургія. Як вядома, пісьменнік напісаў 10 драматычных абразкоў і адну п’есу «Жартаўлівы Пісарэвіч», прычым апошнюю сам вельмі любіў.

Як успамінае Янка Брыль («Пасля лемантара» // ЛіМ. 1981. 2 студзеня): *«Атруту» ставілі ў той час, ва ўсе давераснёўскія гады, па ўсёй Заходняй Беларусі, і ў вёсках, і ў гарадах».*

Узгадваю, як у Доме літаратара на ўрачыстым вечары, прысвечаным 90-годдзю Максіма Гарэцкага, акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў драматычны абразок «Салдат і яго жонка» ў выдатным выкананні Марыі Захарэвіч і Генадзя Гарбука. Гледачы ў поўнай зале былі ў захапленні… З не меншай увагай і цікаўнасцю ў той час сустрэлі гэты абразок і тэлегледачы.

Яшчэ раней, у 1992 г. народны тэатр Краснапольскага раённага Дома культуры паставіў спектакль «Стогны душы» (сцэнічная кампазіцыя па аднаактавых п'есах Максіма Гарэцкага «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Атрута» і маналогу «Стогны душы»). Рыжысёр-пастаноўшчык Валянцін Ермаловіч. Спектакль быў паказаны ў многіх мясцінах Магілёўшчыны. В. Ермаловіч пазней у Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу ажыццявіў пастаноўку «Стогны душы» па п'есах «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек» і драматычнай аповесці «Антон» (1993), а ў наваствораным Тэатры Валянціна Ермаловіча — драму ў 5-ці карцінах «Жартаўлівы Пісарэвіч» («У спектаклі выкарыстаная аповесць М. Гарэцкага «Дзве душы» і архіўныя матэрыялы з кнігі Р. Гарэцкага «Ахвярую сваім «Я»), на прэм'еру якой 25 мая 2000 года у гарадскі Дом культуры ў Магілёве запрасілі і мяне. Вялікая зала не змясціла ўсіх жадаючых, некаторыя нават глядзелі пастаноўку стоячы. Рэакцыя гледачоў, асабліва моладзі, якой і было найбольш, вылучалася ўважлівасцю, усхваляванасцю, эмацыянальнасцю, разуменнем таго, што адбывалася на сцэне. Шмат апладысментаў. Па заканчэнні гледачы стоячы многа разоў выгукалі на сцэну артыстаў, а потым Валянціна Ермаловіча, загадчыка літаратурнай часткі Яраслава Клімуця і нават мяне…

Я ўпэўнены, што многія творы Максіма Гарэцкага вартыя і тэатру і кіно.

***2007***

# Чалавек чыстага сумлення

*(Да 80-годдзя Алеся Адамовіча)*

У верасні 2007 г. сябры, знаёмыя, прыхільнікі творчасці пісьменніка ездзілі ў Глушу, усклалі кветкі на магілку, прысутнічалі на вечарыне і прэзентацыі ягонай кнігі «…Имя сей звезде Чернобыль» (2006) у Музеі гісторыі літаратуры. З намі ўсюды была дачка Адамовіча Наталля — галоўны арганізатар ушанавальных мерапрыемстваў і складальнік апошняй кнігі, а ў Глушы — і жонка Вера Сямёнаўна. Пачулі многа добрых шчырых слоў, цікавых успамінаў… Былі рады, што ў будынку былой аптэкі, які ўжо многія гады пустуе, будзе створаны музей пісьменніка.

Хаця і прайшло ўжо 10 гадоў, як перастала біцца сэрца Алеся Адамовіча, але ён яскрава бачыцца мне — такі ж гарачы, імпульсіўны, няўрымслівы, востры, шчыры. Здавалася, што ён не проста шыбка ідзе, а ляціць у прасторы, увесь час некуды спяшаючыся…

Як навуковец, я бачыў у ім перш-наперш вучонага. Нягледзячы на яго шматгранную цікавасць да вельмі многага ў навуцы і жыцці і адсюль як быццам раскіданасць натуры, ён на самай справе, калі пачынаў нешта вывучаць, рабіў гэта дасканала і глыбока. Я быў сведкам, як Адамовіч працаваў над манаграфіяй «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», прысвечаную жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага. Ён дэталёва прааналізаваў усе творы пісьменніка, пазнаёміўся з досыць вялікім архіўным матэрыялам, многа разоў размаўляў з жонкай, дачкой і братам Гарэцкага і г. д. Як сапраўдны вучоны і творца, ён доўгі час жыў гэтай працай.

Як пісьменнік Алесь Адамовіч у сваіх творах звяртаўся да экстрэмальных момантаў жыцця людзей і змог раскрыць бяздонныя таямніцы чалавечай істоты. Ён заклікаў выхоўваць у людзей абсалютную павагу да жыцця не толькі свайго, але і любога другога чалавека, і ў гэтым асаблівая актуальнасць яго кніг.

Алесь Адамовіч — чалавек чыстага сумлення, які ўсюды змагаўся за праўду, шукаў ісціну, горача ўспрымаў усе падзеі жыцця, бясстрашна кідаўся ў самыя кіпельныя яго кропкі. Таму ён адзін з першых гучна сказаў праўду аб чарнобыльскай катастрофе, якую ўлады замоўчвалі. Тады якраз збіраліся правесці выбары ў Акадэмію навук БССР і яго хацелі вылучыць у акадэмікі. Спіс кандыдатаў зацвярджаўся ў ЦК КПБ. Адамовіч добра разумеў, што, улічваючы яго набат наконт Чарнобыля, шанцаў застацца ў спісе кандыдатур на выбары няма. Свой грамадзянскі абавязак ён паставіў вышэй за асабістую навуковую кар’еру, бо здрадзіць праўдзе не мог. Не кожны здольны на такое. На жаль, часцей бачна наадварот: каб не пашкодзіць свайму дабрабыту і кар’еры — страх, маўчанне, згода, абыякавасць….

Папулярнасць Алеся Адамовіча, як грамадзянскага дзеяча, які змагаецца за дэмакратыю, за лепшую будчыню свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны, асабліва высока ўзрасла, калі ён стаў народным дэпутатам СССР. Але і цяпер яго голас з многіх ранейшых і новых кніжак і зборнікаў магутна гучыць і кліча да незалежнасці і дэмакратыі.

Апошні раз я сустрэў Адамовіча на дачы, на беразе Дуброўскага вадасховішча, куды ён прыехаў троху адпачыць пасля інфаркту. Я ўбачыў нейкі сум у ягоных прыгожых карых вачох. Перакінуліся некалькімі словамі. Ён нахіліў галаву і няспешна (не як заўсёды) парушыў усцяж вадасховішча. Я падумаў, як шкада, што такому моцнаму чалавеку несправядлівыя абставіны жыцця падарвалі сэрца. Мне здалося, што ён падобны да раненай чайкі… Я доўга ўглядаўся ў яго фігуру, і раптам ён ускінуў галаву і, як раней, шыбка не проста пайшоў, а як быццам паляцеў над вадою, і я ўбачыў, што гэта ўсё той жа няўрымслівы рашучы буравеснік, які не шукае буры, а імчыцца скрозь яе ў пошуках шчасця, міра для ўсяго чалавецтва і ў першую чаргу для сваёй роднай Беларусі.

***2007***

# Настаўнік і вучаніца

6 кастрычніка 2007 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльных дошак Максіма Гарэцкага і Наталлі Арсенневай каля ўвахода ў будынак былой Віленскай беларускай гімназіі ў базыльянскіх мурах. Сабралася каля 60 чалавек беларусаў з Літвы, прадстаўнікоў грамадскасці з Мінска, Беластока. Хведар Нюнька — старшыня Таварыства беларускае культуры ў Літве — зняў пакрывалы. Злева ад увахода шыльда Гарэцкага — прамакутная дошка, на ёй барэльеф галавы пісьменніка з высокім ілбом, выразнымі разумнымі вачыма, задумлівым поглядам у будучыню, убаку — букецік валошак з каласкамі жыта, а справа — шыльда Арсенневай — дошка ў выглядзе аркі, на ёй прыгожы барэльеф паэткі з вачыма, поўнымі лірычных пачуццяў да людзей і прыроды. Надпісы па-літоўску і па-беларуску: «Тут у 1919–1923 гг. у Віленскай беларускай гімназіі працаваў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі»; «Тут, у будынку Віленскай беларускай гімназіі ў 1919–1921 гг. вучылася вялікая беларуская паэтка Наталля Арсеннева». Аўтар мемарыяльных табліц — Алесь Шатэрнік.

Удзельнічаючы ў гэтым мерапрыемстве і выступаючы там, я яскрава ўявіў дзве постаці тады зусім юных настаўніка і маладзейшую на дзесяць гадоў яго 16-гадовую вучаніцу. 1 студзеня 1919 г. адчынілася Віленская беларуская гімназія, якая стала кузняй беларускіх дзеячаў вызваленчага і культурнага руху. У ёй настаўнікам беларускай мовы і літаратуры пачаў працаваць Максім Гарэцкі, які прыехаў разам з рэдакцыяй газеты «Звязда». Троху пазней у гімназію паступіла Наталля Арсеннева. Яна нарадзілася ў Баку, і яе бацька паходзіў з таго роду, які па жаночай лініі даў паэта Міхаіла Лермантава. Расла і гадавалася ў Вільні, але з 1915 па 1919 г. стала «бежанкай» у Яраслаўлі, адкуль рускамоўнай дзяўчынай вярнулася ва «ўлюбёную Вільню».

Максім Гарэцкі к таму часу ўжо быў дастаткова вядомым пісьменнікам: выйшлі з друку такія яго працы, як «Рунь», «Дзве

душы», «Гісторыя беларускай літаратуры», «Маскоўска-беларускі слоўнік», шэраг апавяданняў. Стромкі, разумны, справядлівы і добразычлівы, палкі, з бліскучымі карымі вачыма, ён так цікава праводзіў урокі, што ўсе вучні ўважліва слухалі яго, захапляліся разам з ім беларускай мовай і літаратурай, ад чаго да глыбінь сэрца даходзіла шчырая беларушчына. Нярэдка на яго ўрокі прыходзілі вучні іншых класаў і нават настаўнікі.

Наталля, якая мела рамантычную натуру, так захаплялася ўрокамі Гарэцкага, што ніколі іх не прапушчала, з нецярплівасцю чакала іх пачатку, лавіла кожнае слова настаўніка, старалася як лепей выконваць усе яго заданні, глядзела на яго як зачараваная ўлюблёнымі вачыма… Пазней знакамітая паэтка ўспамінала: *«Маім духоўным настаўнікам стаўся блізу з першых дзён навукі ў гімназіі настаўнік беларускае мовы і літаратуры, аўтар «Руні» й «Патаёмнага» Максім Гарэцкі. Памятую, калі я пабачыла яго ўпершыню на лекцыі ў нашай 7-ай класе, мяне самперш уразілі ягоныя вочы — вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя знічы (я гэтак і падумала тады — «знічы») на худаватым, аскэтычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар «Патаёмнага» мець і не мог… Зразумела я тады й тое, што я мушу цяпер як найхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найлепей за ўсіх у класе, ведаць задаваныя нам Гарэцкім лекцыі з беларускае літаратуры […] У восьмы клас я перайшла з добрымі ацэнкамі й з беларускае мовы й з літаратуры»*

Яшчэ ў Яраслаўлі Арсеннева пачала пісаць вершы на рускай мове. Ужо ў восьмым класе юная гімназістка асмелілася паказаць настаўніку два сваіх вершы: «Восень» і «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». У той жа дзень у гімназіі праводзіўся літаратурны вечар. *«Гэтага памятнага для мяне вечара першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвясціў прысутных, што мае для іх добрую навіну. «У нас з’явілася новая Буйлянка, — сказаў ён, — новая паэтка, якая ўжо*

*сёння ці не перавышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце» [...] І Гарэцкі пачаў чытаць [...] дадзеныя яму нараніцы мае вершы.*

*[...] М. Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх вершаў, бо здараліся ж і такія, а проста аддаваў іх мне, заціміўшы: «Гэтак па-беларуску не гаворыцца», або «Гэтае месца раю перапрацаваць», ці што іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго не толькі з поўслова, але гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзнімаліся ўгару, залежна ад уражання. Рух гэтых броваў, нячастая ўсмешка на вузкіх вуснах, — былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабою, над моваю...*

*[...] Але гэткі ўжо быў Гарэцкі ў дачыненні й да іншых і да сябе — суровы, справядлівы й вельмі паважаны»*[1].

Першыя друкаваныя вершы Наталлі Арсенневай «Мой родны край», «Летуценні», «Восень» з’явіліся ў газеце «Наша ніва», а затым у газеце «Наша думка» ў канцы 1920 г., дзе іх змясціў М. Гарэцкі. Троху пазней, у 1921 г. шэраг вершаў, у тым ліку «Плач старога лесуна», «У лесе» і інш., ён надрукаваў у тых жа газетах, а таксама ў «Беларускіх ведамасцях», а затым яшчэ некалькі вершаў у «Зборніку Беларускіх ведамасцей». У газеце «Наша думка» (1921) быў надрукаваны верш «Красавік» («Неба сіняе, сіняе, сіняе...»), прысвечаны Максіму Гарэцкаму. У лісце да Я. Карскага Гарэцкі паведаміў: *«Маем толькі адну прыемнасць, тую, што на страніцах газет, якія тут выходзілі, азначылася новая, пэўная і спадзейная талань маладой паэтэсы Наталлі Арсенневой...»*[2]

Вось перада мной фотаздымак «Першы выпуск Віленскай беларускай гімназіі 15 чэрвеня 1921 г., які змешчаны ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. На ім натхнёныя сур’ёзныя постаці

---

[1] Арсеннева Н. Я не палітык і ніколі ім не была // ЛіМ. — 1992. — 17 ліпеня.

[2] Гарэцкі М. Творы. — Мінск, 1990. — С. 398.

настаўнікаў і прыгожыя светлыя твары вучняў. З краю сядзіць Максім Гарэцкі, побач з ім Антон Луцкевіч, а за імі блізу стаіць Наталля Арсеннева.

Выразна ўяўляю, як у двары гімназіі, супраць уваходу якой ступенькі вядуць да высокага будынка царквы Св. Тройцы з нішай, дзе знаходзяцца моцна ўжо пашкоджаная фрэска з выявамі трох віленскіх пакутнікаў, а над самой брамай з выхадам на Вастрабрамскую вуліцу — вокны кватэры Гарэцкіх, 20 студзеня 1922 г. сабраліся амаль усе вучні і многія настаўнікі, усхваляваныя арыштам польскімі ўладамі іх любімага пісьменніка і педагога, каб выказаць абурэнне і непаразуменне гэтаму.

Восенню 1922 г. Наталля Арсеннева выйшла замуж за Францішка Кушаля і выехала з Вільні ў Польшчу. У канцы кастрычніка 1923 г. Максім Гарэцкі з сям'ёю сабраўся пераехаць у Мінск. Зноў у двары базыльянскіх мuроў сабраўся натоўп вучняў і настаўнікаў, каб назаўсёды развітацца з Гарэцкімі, і, як успаміналa Любоў Андрэеўна Асаевіч — жонка Максіма Танка, якая тады вучылася там, «мы ўсе горка плакалі». Максім Гарэцкі і Наталля Арсеннева больш ніколі не сустрэліся.

Далейшы лёс настаўніка і яго вучаніцы быў цяжкі і нават трагічны. Максім Гарэцкі ў 1930 г. быў арыштаваны і высланы ў г. Кіраў, а 10 лютага 1938 г. расстраляны ў г. Вязьме. Наталля Арсеннева перад самай вайной з двума сынамі зведала казахстанскую ссылку, у час вайны у Мінску — страту старэйшага сына Ярослава, які загінуў ад міны, а затым эміграцыю ў Германіі і ЗША.

Ужо ў эміграцыі Н. Арсеннева ўспаміналa пра М. Гарэцкага: *«Ён з вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, і заахвочваў мяне да лепшага пісаньня. Ягонае сьветлае імя я й дагэтуль заўсёды ўспамінаю з вялікай удзячнасцю й любасцю». «...Ён хросны бацька мой на паэтычнай ніве. Хто ведае, ці сталася б я наогул паэткай Натальлей Арсеньневай, каб не ягоныя ўважлівыя, крытчныя, але й сьвятыя для мяне дачыненьні да майго таленту, які толькі што*

*прабіваўся як парастак з-пад зямлі, каб не ягоныя добрыя рады, ягоныя назіраньні за маім ростам...»*

Калі 26 ліпеня 1997 г. я, як прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», адкрываў Другі з’езд беларусаў свету ў Мінску, моцна, амаль у тысячы галасоў, прагучаў нацыянальны гімн «Магутны Божа» (словы Н. Арсенневай, музыка М. Равенскага), а праз гадзіну прадстаўнікі беларусаў, якія сабраліся амаль з усяго свету, усталі ў маўклівай жалобе, бо прыйшла сумная вестка, што ўчора памерла Наталля Арсеннева.

У 1993 г. на 100-годдзе Максіма Гарэцкага на будынку, дзе раней быў Інстытут беларускай культуры, у час Першага з’езда беларусаў свету адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар пісьменніка. Але яе нехта зняў, а праз год падкінулі супраць будынка. Яе зноў усталявалі на месца. Праз некалькі гадоў дошку ў гонар Гарэцкага скралі, а ўзнавіць не дазволілі. У 2004 г. на будынку Віленскай беларускай гімназіі адкрылі мемарыяльную дошку Наталлі Арсенневай, але і яна праз два гады таксама была скрадзена невядомымі зламыснікамі.

І нарэшце зараз усталявалі памятныя шыльды ў гонар настаўніка і вучаніцы. Прыгожыя маладыя іх твары глядзяць адзін на аднаго, і нам усім, сабраўшымся на ўрачыстасць, здавалася, што яны прысутнічаюць сярод нас, радуюцца новай сустрэчы, якая ўсё ж адбылася амаль праз 90 гадоў. Як быццам яны папярэджвалі нас не дапусціць, каб наша краіна зноў трапіла ў абдымкі суседніх «старэйшых братоў», каб мінуў нас трагічны лёс, падобны да таго, які прыйшлося адведаць ім, выгнаннікам з дарагой бацькаўшчыны, апошні шлях прайсці на чужыне і назаўсёды легчы не ў родную зямельку… Выразна чулася, што яны перадаюць нам сваю любоў да радзімы, завуць да здзяйснення іх мары пра вольную, дэмакратычную, шчаслівую Беларусь.

*2007*

# Вялікі майстар слова

25 ліпеня 2007 г. споўніўся год з дня смерці Янкі Брыля — класіка беларускай літаратуры, а 4 жніўня — яго 90-годдзе. На жаль, у гэтыя дні я быў далёка ад Беларусі і не змог схіліць галаву на яго магілцы на далёкім Каладзішчанскім кладзішчы, дзе ён ляжыць побач са сваёй вернай спадарожніцай Нінай Міхайлаўнай, якую яму, вялікаму майстру слова і выдатнаму грамадзяніну Беларусі, не дазволілі пахаваць на Кальварыі ці іншых больш блізкіх мінскіх могілках. Пазней не змог пабыць і ў яго цудоўных прынёманскіх мясцінах у Крынічным, якія ён так любіў і якія натхнялі яго на творы найвялікшых духоўных каштоўнасцяў. Але думкі мае былі з ім…

Хаця я і разумею, што дажыў ужо да такога ўзросту, які падказвае хуткую сустрэчу з маім дарагім сябрам у тым лепшым свеце, калі такое магчыма, але зараз хочацца сказаць: «Дарагі Іван Антонавіч, каб толькі ведаў ты, як не хапае цябе, як сумна мне без тваіх званкоў, як не праходзіць востры, пякучы боль ад невымернай страты! Толькі з табой можна было шчыра, па-добраму абмеркаваць падзеі сучаснасці, атрымаць параду». Але мне ўсё ж хацелася б дажыць да таго часу, калі будуць выдадзены дзённікавыя запісы Янкі Брыля, каб яшчэ раз, чытаючы іх, атрымаць насалоду ад майстэрскі напісанага беларускага слова, ад надзвычайнага багацця яго пачуццяў, хараства і святла яго душы, мудрасці разумення жыцця…

* * *

У студзені 2006 г. быў у рэдакцыі часопіса «Роднае слова», дзе прачытаў гранкі свайго артыкула «Ефрасіння Багацькаўская — маці братоў Гарэцкіх», і вырашыў зайсці да Янкі Брыля, які недалёка адсюль жыве і з якім даўно не бачыўся. Як заўсёды, Іван Антонавіч вельмі прыязна сустрэў. Жаліўся на ногі і нават у хаце хадзіў з кійком. Нешта расказваў і раптам забыў нейкае простае слова. «Во, бачыш — склероз», — засмяяўся з

жартам. Хоць зрэдку і забываліся ў размове асобныя словы, але памяць на розныя, асабліва даўнія, нават юнацкія і дзіцячыя, падзеі ў яго былі надзіва ясныя і дасканалыя.

Зайшла размова пра калектыўную творчасць. Ён успомніў працу над кнігай «Я з вогненнай вёскі», якую пісалі не дзве, а тры асобы. І калі кніга выйшла з друку, дык усе яе аўтары проста спалілі свае рукапісы, каб не было ніякіх непаразуменняў паміж імі ні пры жыцці, ні пасля і каб аматары (а такіх досыць шмат) не разбіралі, як, колькі і якую частку хто з аўтараў напісаў.

Загаварылі пра працэс творчасці. Адзначыў, што ніколі не разумеў такіх літаратараў, якія пішуць па шырока распаўсюджаным прынцыпе: «Ни дня без строчки» ці «Калі не напісаў дзвюх старонак, дык дзень прайшоў дарма». І растлумачыў: «Я без натхнення пісаць не магу, я супраць абавязковага «выціскання» дзвюх старонак. Павінен быць настрой, які прыходзіць не адразу, а пасля доўгага абдумвання, і таму пішацца па-рознаму: то 0, а то і 5–6 старонак».

Быў вельмі задаволены, што ў апошні час атрымаўся ўздым творчасці, з'явілася пасля значнага перапынку натхненне, і ён падрыхтаваў і толькі што здаў у друк невялічкую кніжачку. Так працаваў над ёй, што не мог многа і моцна спаць, бо розныя думкі бясконца круціліся ў галаве. Уставаў і запісваў. *«А вось зараз — разрадка, троху стала лягчэй спаць: учора лёг спаць а дваццатай гадзіне, а прачнуўся пасля шостай раніцы, значыць, спаў больш за дзесяць гадзін — рэдкі выпадак, сплю значна менш»*. Гэта была апошняя кніжка пісьменніка — «Парастак», якую ён паспеў і ўбачыць, і разаслаць сваім сябрам.

* * *

Прачытаў вельмі добрыя ўспаміны Васіля Зуёнка пра Уладзіміра Караткевіча. У іх ён узгадвае, як Караткевіч разам з Янкам Брылём любілі спяваць розныя славянскія песні — беларускія, украінскія, рускія, польскія. Калі ехалі куды-

небудзь, дык маглі спяваць усю дарогу на працягу ўсяго дня. Па завядзёнцы паміж Іванам Антонавічам і мной пазваніў яму падзяліцца ўражаннямі пра ўспаміны Зуёнка, падкрэсліўшы пра яго спевы.

Мы прыгадалі, як таксама, калі некалькі разоў ездзілі на Гарэцкія чытанні ў Горкі, дык у нашым аўто ўсю дарогу гучалі песні: прыгожы голас Янкі Брыля вылучаўся ў аматарскім хоры, які склалі Тэрэза Голуб, Таццяна Дасаева, Міхась Мушынскі і я.

Іван Антонавіч успомніў, як ён разам з Нілам Гілевічам плылі на параходзе па Амуры, і многія людзі збіраліся па берагах ракі, каб паслухаць выдатныя песні нейкіх «приезжих артистов».

Я спытаў: «А са сцэны прыходзілася табе не толькі выступаць са словамі, але і спяваць?» Ён адказаў, што аднойчы ў Канадзе быў на вялікай сустрэчы прадстаўнікоў розных славянскіх народаў з канадскімі ўкраінцамі. Сабралася каля чатырох тысяч чалавек. Сярод выступоўцаў-пісьменнікаў не было ўкраінцаў. Тады Янка Брыль выступіў на ўкраінскай мове. Калі скончыў гаварыць, нехта з залы крыкнуў: «Няхай паспявае!» Прыйшлося выканаць песню (праўда, беларуская, знянацку ў галаву прыйшла). Поспех быў вялікі, аб чым на другі дзень адзначалі многія газеты.

У канцы размовы Іван Антонавіч дадаў: «А ведаеш, я і да гэтага часу люблю спяваць. Нават зараз, калі я адзін, і то другі раз трошку што-небудзь паціху праспяваю».

У сэрцы Янкі Брыля заўсёды была песня.

* * *

Неяк расказаў Янку Брылю пра тое, як адзін вельмі паважаны таленавіты наш пісьменнік часамі так напіваўся, што рабіўся зусім непрыемным, таму што з яго, як з «рога изобилия», сыпаліся брудныя словы, нават у прысутнасці жанчын. Мой бацька, Гаўрыла Іванавіч, які дужа не любіў, а правільней,

проста не выносіў такое, звычайна ўсё ж спакойна падыходзіў да яго і казаў: «Шаноўны, я ў лагерах на ўсё жыццё наслухаўся гэтага бруду, дык вызвальце мяне ад яго на волі…» Умомант дзейнічалі гэтыя словы: той сціхаў і моўчкі сыходзіў…

Значна пазней пазваніў мне Я. Брыль і папрасіў дазволу на тое, каб сярод сваіх мініяцюр змясціць і гэтую. Я, безумоўна, даў згоду. Але ён, троху падумаўшы, дадаў: «Не, дзякуй за дазвол, але, ведаеш, я ўсё ж пакіну яе для цябе».

* * *

Янка Брыль, на вялікае здзіўленне, вельмі многа і хутка чытаў, нягледзячы на тое, што адным вокам ён не бачыў (пашкодзіў трэскай, калі калоў дровы на лецішчы ў Крынічным). Нават у бальніцы ў Бараўлянах ён паспеў прачытаць некалькі кніг (Шмялёва, Жжэнава), часопісы «Дзеяслоў», газеты і інш. Наташа, дачка Івана Антонавіча, успамінае: «Нам было сорамна, што мы не паспяваем прачытаць столькі, колькі тата». Такое ж пачуццё не адзін раз было і ў мяне, калі мы перазвоньваліся як мінімум 1–2 разы на тыдзень і абмяркоўвалі тое-сёе з прачытанага. Напрыклад, не паспею я яшчэ толькі прагартаць ці прачытаць адзін які-небудзь твор з новага нумара «Дзеяслова», як Іван Антонавіч ужо ўважліва праштудзіраваў і раіць, на што звярнуць асаблівую ўвагу. Калі я пачынаў апраўдвацца ў сваім марудным чытанні, ён заўсёды вельмі тактоўна мяне супакойваў: «Ну гэта нармальна: у цябе ж столькі спраў на рабоце, ды яшчэ тэлебачанне спакушае, а я вольны чалавек, у якога галоўная і праца, і асалода — чытанне».

* * *

Мая стрыечная сястра Галіна Максімаўна настолькі любіла чытаць творы вялікага майстра беларускага слова Янкі Брыля, што ў апошні год свайго жыцця, калі стан яе здароўя быў зусім кепскі, адчуванне і настрой часта рабіліся вельмі дрэннымі, яна чытала мініяцюры Брыля, якія ратавалі яе, і зноў аднекуль

падымаліся сілы да жыцця. Хараство мовы і глыбіня думак мініяцюр Янкі Брыля робяць вялікі ўплыў на чытача!

*2007*

## Інавацыя

Некалі, яшчэ ў савецкі час, усё трэба было рабіць пад сцягам навуковай арганізацыі працы (па-руску «НОТ» — научная организация труда). Каб навучыць усіх гэтай прамудрасці, чыталі асобныя лекцыі, праводзілі спецыяльныя нарады, школы. Цяпер — інавацыя (англ. — новаўвядзенне)… 1 лютага 2008 г. адбылася сесія Агульнага сходу Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, на парадку дня якой было толькі адно пытанне аб выніках навуковай, навукова-тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 2007 г. і задачах на 2008 г. Вялікая канферэнц-зала запоўнілася цалкам — каля 500 чалавек. Сярод іх шмат людзей ужо пенсійнага ўзросту. Сесія цягнулася амаль тры з паловай гадзіны без перапынку. Усё ішло як заведзенае, бо было добра падрыхтавана. К канцу пасяджэння некаторыя слухачы не вытрымалі і пачалі выходзіць з залы. Што рабіць? Каб не было такіх парушэнняў дысцыпліны, кіраўнікі Прэзідыума НАН Беларусі далі загад зачыніць дзверы, і шэраг найбольш нецярплівых прысутных кідаліся ад адных дзвярэй да другіх і з сумным тварам варочаліся на месца. Парадак і дысцыпліна — вышэй за ўсё! А каб выканаць — выдатная інавацыя ў арганізацыі сходаў: зачыніць дзверы.

*2008*

## «Потемкинские деревни»

Гледзячы на тое, як загадзя рыхтуюць месца наведвання самага галоўнага чыноўніка краіны (фарбуюць, чысцяць, латаюць, прыбіраюць, нават узімку пры невялічкім покрыве снегу стрыгуць траву і кусты і г. д., прычым гоняць на гэтае мерапрыемства кандыдатаў і дактароў навук), прыходзіш да высновы: пакуль будзе чыноўніцкая вертыкаль, «потемкинские деревни» былі, ёсць і будуць…

## Хіба НАН Беларусі — вялікі калгас ці супермаркет?

На адной з сесій Агульнага сходу НАН Беларусі старшыня Прэзідыума НАН Беларусі з гонарам падкрэсліў, што цяпер да акадэміі належаць некалькі калгасаў з плошчай зямель прыблізна з сярэдні раён краіны, як быццам НАН Беларусі ўжо не Акадэмія навук, а адзін з самых вялікіх калгасаў Беларусі.

* * *

Кіраўніцтва краіны і НАН Беларусі ўсё часцей арыентуюць вучоных на тое, што галоўныя мэты нашай навукі — не новыя веды, а тыя веды, якія мы ўжо маем, укласці ў сучасную народную гаспадарку. У такім напрамку ідзе і рэфармаванне акадэміі шляхам стварэння навукова-практычных цэнтраў, адпавядаючых галоўным напрамкам народнай гаспадаркі. У хуткім часе НАН Беларусі будзе падобна да супермаркета, у якім можна будзе купіць усё, што патрэбна для гаспадаркі, але, на жаль, у значнай меры гэта будуць часцей за ўсё даволі састарэлыя прадукты, бо такая навука не зможа стварыць якія-небудзь новыя праявы ў ведах, новых ідэяў, новых грунтоўных даследаванняў і адкрыццяў.

*2008*

## «Акадэмічны палітрэдактар»

У 1928 г. Максім Гарэцкі падрыхтаваў да друку «Зборнік апавяданняў». Гэта «не проста кніга, дзе пад адной вокладкай сабраны розныя творы М. Гарэцкага, а лагічна арганізаваны збор твораў, аб'яднаных агульнай ідэяй»[1]. Але «падрыхтаваны ім да друку зборнік, у які ён уключыў перапрацаваныя творы: «На імперыялістычнай вайне», «Антон», «Калёніі», «Генерал», «Рускі» і інш., Белдзяржвыдавецтва не прыняло, бо палітрэдактар Будзінскі даў адмоўны водзыў»[2]. Відаць, пад уплывам гэтых падзей М. Гарэцкі напісаў апавяданне «Ашуканы палітрэдактар»[3]. Гэта — «вострая сатыра, накіраваная М. Гарэцкім супраць тых, хто ажыццяўляў ідэалагічныя ўстаноўкі, небяспечныя для далейшага развіцця літаратуры, закранае ў апавяданні шматаспектныя праблемы грамадска-палітычнага і маральна-этычнага характару, гаворыць аб арганічным непрыняцці пісьменнікам негатыўных праяў, антыдэмакратычных метадаў уздзеяння на творчую асобу»[4]. «Зборнік…» так і не быў выпушчаны ў свет, а большасць яго тэкстаў не захавалася. Але амаль усе творы друкаваліся раней, і таму, дзякуючы ўзнаўленню купюр і ўдакладненню тэксту па матэрыялах з архіва пісьменніка, задалося выдаць кнігу «Прысады жыцця» (уклад Т. Голуб. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2003. — 419 с.), якая набліжана да таго зборніка, падрыхтаванага самім пісьменнікам яшчэ 75 гадоў таму.

Ужо ў наш час са мной адбыўся, па сутнасці, паўтор падзей, праўда, з іншым заканчэннем. Да 95-годдзя майго навуковага настаўніка і старэйшага сябра выдатнага вучонага акадэміка

---

[1] Голуб Т. У творчай майстэрні класіка. — Мінск : Беларуская навука, 2002. — С. 142.

[2] Чарняўская Л. Успаміны пра знаёмства і сустрэчы з Якубам Коласам // Полымя. — 1994. — № 9. — С. 103.

[3] Гарэцкі М. Ашуканы палітрэдактар // Полымя. — 1993. — № 2. — С. 110–116.

[4] Голуб Т. У творчай майстэрні класіка. — С. 87.

Аляксандра Леанідавіча Яншына я вырашыў напісаць невялікую кніжку пра яго жыццё і дзейнасць. Выдаваць яе ўзяліся ў Маскве, дзе рукапіс павінен разгледзець рэдакцыйна-выдавецкі савет Аддзялення навук аб Зямлі Расійскай акадэміі навук. Як рукапіс замежнага члена РАН, яго маглі ўзяць непасрэдна ад мяне. Але акадэмік-сакратар гэтага аддзялення папрасіў «для ветлівасці і парадку» разам з рукапісам прыслаць суправаджэнне, і зрабіць гэта як мага хутчэй, бо часу, каб паспець выдаць кніжку да юбілею, заставалася зусім мала. Я звярнуўся да старшыні рэдакцыйна-выдавецкай камісіі НАН Беларусі намесніка старшыні Прэзідыума А. І. Лесніковіча, але ён вырашыў прапусціць рукапіс па ўсіх правілах і праз усе інстанцыі. Так і зрабілі: Інстытут геахіміі і геафізікі, Аддзяленне хімічных і геалагічных навук досыць хутка далі станоўчае заключэнне. Але галоўнаму неафіцыйнаму «палітрэдактару» акадэміі здалося гэта недастатковым, і ён аддаў рукапіс на заключэнне ў інстытуты Аддзялення гуманітарных навук. А час бяжыць, прайшло ўжо больш за месяц… З Масквы прыспешваюць. Я хвалююся, але спакойны, бо ведаю, што па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь цэнзура ў краіне адменена, а «свабода мастацкай, навуковай, тэхнічнай творчасці і выкладання гарантуюцца», ды і нічога супрацьзаконнага я не напісаў. Але раптам мне звоняць з Расійскай акадэміі навук і кажуць, што атрымалі з НАН Беларусі ліст за подпісам А. І. Лесніковіча аб тым, што «рукопись книги Р. Г. Гарецкого… к печати не рекомендуется». Тлумачэнняў ніякіх не было.

Раней заўсёды Масква давала «рэкамендацыі» Мінску, а тут аказалася наадварот. Гэта выгукнула не тую рэакцыю, на якую, магчыма, спадзяваўся наш «палітрэдактар», і маёй кнізе далі «зялёную вуліцу». Да юбілею майго дарагога настаўніка і сябра кніга была выдадзена[1] і з прыхільнасцю ўспрынята грамад-

[1] Гарецкий Р. Г. Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг. — М. : Наука, 2005. — 192 с.

скасцю. Я атрымаў многа добрых слоў пра яе змест. У адным з надрукаваных водгукаў пра кнігу гаворыцца: «поразительно емкая по содержанию и читающаяся на одном дыхании… Здесь и биография его любимого учителя и друга, и история страны, и история геологии… История не голословная, а подкрепленная не только личными воспоминаниями, но и документами, причем некоторые из них недоступны не только массовому читателю, но и узкому кругу специалистов. Но самым ценным я считаю органично вставленные в текст многочисленные письма и записки А. Л. Яншина, отправленные автору книги с 1957 по 1996 г. и до сих пор не опубликованные. […] Несомненное достоинство книги Р. Г. Гарецкого — ее совсем необычная структура. […] Что касается образности языка, то ряд мест написан с большим юмором, вызывающим не только улыбку, но и неподдельный смех. […] В книге… проходит вереница многих видных геологов страны»[1]. Пра гэтую кніжку ёсць некалькі слоў у раздзеле «Анатацыі» часопіса «Тэрмапілы» (2006. № 10. С. 267).

*2008*

## Ратаваць беларускую мову

Чыноўнікі, якія стварылі асобны адміністрацыйна-камандны клас грамадства, лічаць, што іх законы, прынятыя часта без усебаковага абмеркавання, валюнтарысцкім шляхам, павінны дзейнічаць ува ўсіх напрамках жыцця, у тым ліку ў культуры, літаратуры, мове, навуцы. У кастрычніку 2007 г. Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прыняла Закон «Аб правілах беларускай арфаграфіі». Міністр адукацыі А. Радзькоў, які ўзначальваў адпаведную камісію па падрыхтоўцы праекта закона і ад якога мы ніколі не чулі беларускага сло-

---

[1] Хомизури Г. П. Александр Леонидович Яншин не забыт (к 95-летию со дня рождения) // Бюл. Моск. об-ва испытателей природы. — Отд. геол. — 2006. — Т. 81, вып. 6. — С. 72–77.

ва, заявіў на сесіі (канешне, па-руску): «Закон стане дзейсным сродкам спынення практыкі непрадуманага і супрацьзаконнага ўжывання ў перыёдыцы так званай «тарашкевіцы»!» Адсюль відаць, што гэтая акцыя чыноўнікаў не столькі культурна-асветніцкая, колькі палітычная. Не аб мове клапоцяцца чыноўнікі, а толькі пра свае палітычныя стасункі. Як заўсёды ў Беларусі, мова зноў знаходзіцца ў цэнтры палітыкі. Цяпер патрэбны не гэтыя разборкі і спрэчкі па арфаграфіі мовы, а намаганні па выжыванні мовы. Пакуль што нічога змяняць не трэба, тым больш забараняць, а пакінуць усё як існуе. Мова — катэгорыя хоць і трывалая, але жывая, яна сама разбярэцца, што адкінуць, што захаваць, што прыняць новае. Стан беларускай мовы трагічны, яна ўжо даўно запісана ў Чырвоную моўную кнігу свету. Многія, галоўным чынам улады, праводзілі і праводзяць шалёную русіфікацыю і паланізацыю насельніцтва Беларусі. Уладныя структуры і ўся адміністрацыйная «вертыкаль» краіны амаль поўнасцю цураюцца беларускай мовы. Якая ж можа быць незалежная Беларусь без беларускай мовы? Галоўная задача і арміі начальнікаў краіны, і ўсяго народа Беларусі — ратаваць беларускую мову ад поўнага яе знішчэння, увесці яе ў штодзённы ўжытак, зрабіць сапраўднае беларускамоўнае асяроддзе.

*2008*

## Мова беларускага тэлебачання

У сакавіку 2007 г. мне пазванілі з беларускага тэлебачання. Звонкі малады голас дзяўчыны па-руску сказаў: «Мы хотим сделать передачу о вашем отце, академике Гавриле Ивановиче Горецком — крупном ученом с мировым именем, экономисте и геологе, одном из основоположников Академии наук Беларуси. Просим вас помочь: самому сказать про отца и договориться с несколькими его учениками поучаствовать в передаче».

«Вельмі прыемна, — адказаў я. — Толькі чаму вы звяртаецеся на рускай мове? Дзе вы нарадзіліся?»

— Я из Гродненской области. Белорусский язык знаю, но я думаю и обычно разговариваю по-русски.

— Я згодзен вам дапамагчы, але мой бацька на Беларусі заўсёды размаўляў толькі па-беларуску, таму і мы, удзельнікі перадачы, будзем весці гаворку на беларускай мове. Толькі так мы можам па-сапраўднаму ўшанаваць яго памяць.

— Хорошо. Можете говорить на любом языке.

Пазней у нас яшчэ было некалькі размоў пра арганізацыю здымак для перадачы. Аказалася, што яна будзе на праграме, якую вядзе Дамарацкі на канале «Лад». Я быў задаволены, бо ведаў, што гэты вядучы добра ведае беларускую мову. Дамовіўся з некалькімі беларускамоўнымі вучнямі Гаўрылы Гарэцкага і перад сустрэчай усіх удзельнікаў перадачы яшчэ раз спытаў: «Дык, як дамовіліся, перадачу будзем весці па-беларуску, бо інакш — гэта не гонар, а знявага для памяці бацькі?» Той жа звонкі дзявочы голас адказаў: «Вы говорите на белорусском языке, раз вам так хочется, но Домарацкий будет задавать вам вопросы и давать комментарии по-русски». Я аж анямеў, быў вельмі здзіўлены і не мог зразумець, чаму толькі так, зусім ненатуральна павінна быць перадача.

Аказалася, што ў плане, які склаў рэдактар, а затым зацвердзіў галоўны рэдактар і загадчык аддзела, Дамарацкі павінен весці гэтую перадачу толькі па-руску. Я тады адмовіўся ўдзельнічаць у такой руска-беларускай перадачы і папрасіў дзяўчынку пагаварыць з яе начальнікамі, каб перадача ішла толькі на беларускай мове і пра вынікі перагавораў пазваніць мне. Званка я не дачакаўся…

Амаль праз год я неяк выпадкова глядзеў беларускае тэлебачанне. Выступаў прадстаўнік шведскага пасольства ў Беларусі Стэфан Эрыксан і адказваў па-беларуску на пытанні дваіх беларускіх дыктараў (мужчына і жанчына), якія задава-

лі іх толькі на рускай мове. Мне так прыкра і сорамна было глядзець гэтую перадачу, так стала балюча і горка ад нашай беларускай рэчаіснасці, што не змог абысціся без нітрагліцэрыну. Успомніўшы мінулыя тэлефонныя размовы тэледзяўчыны са мной, я яшчэ раз упэўніўся, што добра зрабіў, адмовіўшыся ўдзельнічаць у той перадачы.

Я ўяўляю, як дрэнна і па-дурному сябе адчуваюць беларускія дыктары, якія добра ведаюць беларускую мову, а павінны па загаду рэдактараў, загадчыкаў і яшчэ больш высокіх чыноўнікаў з беларускамоўным шведам размаўляць па-руску. Няўжо чыноўніцкая вертыкаль не разумее, што яна такімі перадачамі моцна зніжае прэстыж не толькі беларускага тэлебачання, але ўсёй Беларусі як у вачах сваіх грамадзян, так нават і ў людзей Расіі, і асабліва іншых замежных краін, для якіх гэта выглядае звышнекультурнай з’явай і дзікунствам?

*2008*

## Сямікніжжа — помнік у гонар добрага анёла

Ніл Сымонавіч Гілевіч падараваў кнігу, на якой зрабіў надпіс: *«Маім мілым верным сябрам Радзіму Гаўрылавічу і Галіне Рыгораўне на ўспамін пра Ніну Іванаўну. З павагай і любоўю. 19.1.08. Ніл Гілевіч».*

Гэта была сёмая кніжка з яго цыклу «Памяці Ніны»…

Васіль Быкаў на тытульным лісце сваёй кнігі «Праўдай адзінай» зрабіў такі дароўны надпіс: *«Мілай Ніне Іванаўне Гілевіч, добраму анёлу беларускасці, са шчырасцю і павагай. В. Быкаў. 4.V.85».* Для Ніла Гілевіча Ніна Іванаўна сапраўды была светлым добрым анёлам ва ўсіх яго жыццёвых праявах. Яе адыход у іншы свет быў для Ніла Сымонавіча такім страшэнным ударам, ад якога ён ужо ніколі не зможа адысці. Таму і цяпер Ніна Іванаўна ўвесь час прысутнічае ў яго жыцці, дае парады, дапамагае пераадолець цяжкасці, як добры анёл, працягвае асвятляць розум і душу…

Яшчэ пры Яе жыцці Ніл Гілевіч здаў у друк лірычны раман «…І плямы на табе няма» (2003), які прысвяціў той жанчыне, якую кахаў і паважаў. У маленькай прадмове ён напісаў: *«Гэтую кніжку я прысвячаю Жанчыне, з якою іду поруч — праз нягоды і радасці жыцця — ужо амаль паўстагоддзя. Прысвячаю з пачуццём любові і ўдзячнасці. Калі б не яна, я не зрабіў бы і палавіны таго, што зрабіў — і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў грамадскай чыннасці».*

Любая, родная, мілая!
Зноў я адчуў, што жыву.
Ясніцца далеч імглівая.
Свет разганяе журбу.
Холад далоняў не выстудзіў.
Сівер не выдзьмуў цяпла.
Д'ябал у Бога не высудзіў
Тое, што ты мне дала.

Але калі гэтая кніжка па выхадзе з друку трапіла да мяне, дык на ёй быў ужо сумны жахлівы надпіс: *«…на ўспамін пра Ніну Іванаўну, якая любіла Вас»*. Гэты лірычны раман стаў тым падмуркам самага магутнага неразбуральнага помніка, які пачаў будаваць Ніл Гілевіч сваёй любай Жанчыне, свайму добраму анёлу…

Прыблізна праз год ён апублікаваў вельмі шчымлівую кніжку «На флейце самоты» (2004), другі сшытак якой прысвечаны «Памяці Ніны. 2003–2004». Гэта — лірычныя мініяцюры ў жанры класічнага японскага верша танка, якія чытаць без хвалявання, без шчырага спачування немагчыма. Любая жанчына бачыцца такой прывабнай, разумнай, клапатлівай, адданай бацькаўшчыне і беларушчыне… Адчуваеш, што пасля страты Яе жыць далей проста не хочацца…

Да астатку дзён
Па самы апошні ўздых,
На гэтай зямлі

Ты — светач душы маёй.
І там будзеш ім, і там…

Ніна Іванаўна з дзяцінства самаахвярна любіла роднае слова. Пазней, калі яна была студэнткай, аспіранткай і стала выдатным спецыялістам-мовазнаўцам, кандыдатам філалагічных навук і дацэнтам БДУ, гэтая няўрымслівая любоў, замілаванне словам свайго народа толькі павялічылася. Яна апантана служыла Роднаму слову і пакінула вялікую спадчыну ў выглядзе разнастайных рукапісаў лекцый, дзённікаў, сшыткаў, запісаў. Ніл Гілевіч, сам цудоўны знаўца роднага слова і фальклору, выдатны рэдактар, руплівы, з асаблівым пачуццём адказнасці і замілавання ўзяўся за той багаты скарб.

У выніку ў 2005 г. выйшаў «Дыялектычны слоўнік» (аўтар — Ніна Гілевіч, рэдактар-складальнік — Ніл Гілевіч). У ім падзагаловак: «Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі. Параўнанні». Тут столькі цудоўных каларытных слоў, дыялектнай лексікі розных мясцін! Чытаць яго — адчуваць асалоду ад чысціні, мілагучнасці і вобразнасці роднай мовы.

Затым была апублікавана кніжка «Таямніцы роднага слова» (2006) з падзагалоўкам: «З назіранняў над мовай і стылем твораў беларускай мастацкай літаратуры», у якой Ніна Іванаўна, каб яшчэ больш пазнаць таямніцы слова, разбірае асаблівасці мастацкага пісьма вядомых майстроў слова — пісьменнікаў, блізкіх і цікавых ёй па самабытнасці мовы і высокім мастацкім узроўні. Мне вельмі прыемна і радасна было прачытаць глыбокі па змесце артыкул «Да пытання пра жанрава-стылёвую адметнасць алегарычных абразкоў Максіма Гарэцкага «Скарбы жыцця». Як адзначыў Ніл Гілевіч у дароўным надпісе: *«…калі б не горкі лёс, Н. І. напэўна б напісала пра творчасць М. І. Гарэцкага цэлую кнігу такога кшталту, як змешчаны тут эскіз, — яна вельмі яго любіла, і цаніла, і — разумела… Рэдактар — Ніл Гілевіч. 29.I.2006».*

Ніл Сымонавіч падрыхтаваў і выдаў адну за адной яшчэ дзве кніжкі Ніны Гілевіч «Слова — роднае, жывое, свабоднае» (2007) і «Гісторыя народа — у яго мове» (2007). Першая кніга мае падзагаловак: «Узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960-х — 1970-х гадоў». Тут сабраны залацінкі народнай мовы, якія Ніна Іванаўна запісала сама і яе студэнты ў час дыялекталагічных практык у розных раёнах Беларусі. Чытаючы кніжку (а калі пачнеш — не адарвешся), можна яскрава адчуць усю разнастайнасць жыцця народа: безвыходнае гора і моманты радасці, боль, дабрыня і спачуванне, філасофскія думкі і канкрэтныя гістарычныя падзеі, яго мараль і этыка і г. д. І скрозь — пачуццё добразычлівага гумару і мяккай іроніі. З кніжкі паўстае народ добры, мудры, працавіты, цярплівы, жартаўлівы, са складанай, нярэдка трагічнай гісторыяй, які валодае натуральнай, мілагучнай, багата распрацаванай мовай. Такую кніжку магла зрабіць толькі вялікая руплівіца на ніве роднага, жывога, свабоднага слова.

Другая кніга прысвечана сацыяльна-эканамічнай лексіцы ў беларускай мове XV–XVII стст. Гэта выбраныя фрагменты з кандыдацкай дысертацыі Н. І. Гілевіч, якая выразна паказала, што без ведання лексікі старабеларускай мовы немагчыма вывучыць гісторыю Беларусі.

Завяршае цыкл сёмая кніга самога Ніла Гілевіча, якую ён назваў быкаўскім выразам — «Добры анёл беларускасці» (2007) з падзагалоўкам «Штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч». Як жывая паўстае Ніна Іванаўна ў першых раздзелах кніжкі, калі маладая гарэзлівая студэнтка так цікава і міла жартавала, так весела і хораша смяялася…

З кнігі яскрава выступаюць найбольш характэрныя рысы цудоўнай асобы: ласкавая жаноцкасць і чысціня душы, сціпласць і годнасць, розум і самастойнасць, воля і свабода мыслення, дабрыня і душэўная шчодрасць, здольнасць разумець іншых і спачуваць, дапамога сябрам і клопат пра сям'ю, добры гумар

і іронія, а самае галоўнае — любоў да Радзімы, да слова народнага, да беларушчыны.

Гэтая кніга — шчырая споведзь пра блізкага чалавека, асабістая і ўсё ж аб'ектыўная, аб чым сведчаць выказванні калег, сяброў і вучняў у пачатку кнігі. Да іх слоў поўнасцю далучаюся і я.

Успамінаюцца некаторыя падзеі. Паездкі на маіх «Жыгулях» з Гілевічамі і маёй Галяй у Крынічнае да Янкі Брыля на яго 80-годдзе. Ужо недалёка ад яго сядзібы трапілі ў лес, здалёку ўбачылі жанчыну, якая шукала грыбы, вырашылі спытаць дарогу. Калі падышлі, аказалася, што гэта Ніна Міхайлаўна — жонка Івана Антонавіча. Сваёй гасціннасцю, добразычлівасцю, розумам, вялікім гумарам абедзве Ніны былі падобныя. Колькі тады было радасці, смеху, добрых слоў, цікавых успамінаў! І Ніна Брылёва не надоўга перажыла Ніну Гілевіч…

Калі мы ехалі з Нінай Іванаўнай наведаць Ніла Сымонавіча ў санаторый Гарадзішча, дзе ён праходзіў рэабілітацыю пасля інфаркту, і калі мы сядзелі побач на юбілеі Ніла Гілевіча ў Чырвоным касцёле Сымона і Алены, як яна хвалявалася і перажывала за свайго любага мужа. Колькі добрых слоў пачуў я ад яе тады пра дарагога Ніла, колькі шчырага неспакою і крыўды было ў яе выказваннях пра несправядлівыя словы, надрукаваныя аб ацэнцы яго дзейнасці нават ад некалі блізкіх сяброў! Ніна для Ніла Гілевіча, як і Леаніла для Максіма Гарэцкага, — святая. Нездарма ён згадвае ў кнізе пра той эпізод, калі Гарэцкі так сказаў сваёй дачцэ пра яе маці.

«Гори, гори, моя звезда…» — гэтымі бессмяротнымі словамі верша і раманса канчае апошнюю кніжку сямікніжжа Ніл Сымонавіч, паставіўшы на самую вяршыню пірамiды ўшанаванне памяці сваёй адзінай любай Жанчыны, і таму зорка Ніны Іванаўны Гілевіч будзе свяціць вечна!

*2008*

## Майстар скульптуры

15 студзеня 2008 г. споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Заіра Азгура. Успомнілася, як сустракаўся з ім, калі ён ляпіў бюсты Гарэцкіх: спачатку Гаўрылы, потым мой і нарэшце Максіма. Чаму так? Вельмі сур'ёзна падыходзіў да вобразу Максіма Гарэцкага і рабіў гэта паступова — праз аблічча яго родных. Ён сустракаўся з Максімам у канцы 20-х гг. і памятаў многія яго рысы, некаторыя з іх бачыў і ў майго бацькі і ў мяне: «Чым больш гляджу на вас, тым лепш успамінаю Максіма».

Многа размаўлялі з Заірам Ісакавічам (прычым толькі па-беларуску) на розныя тэмы. Прыгадаў, што зрабіў больш за 1000 скульптур. Каля 200 з іх прыйшлося самому разбіць: толькі вылепіць выдатнага чалавека, а той ужо «вораг народа». Фашысты расстралялі таксама каля 200 бюстаў, прычым рабілі гэта, як быццам тыя жывыя. Пра сваё жыццё казаў, што было яно складаным: былі і голад, і зняважа, быў і «нацдэмам», і «бязродным касмапалітам», цярпеў і ад некаторых беларусаў за сваё габрэйства, але па сутнасці быў большы беларус, чым многія «и белорусы тоже», але былі і пашана, і ўзнагароды…

Бюст Максіма Гарэцкага, які спадабаўся і майму бацьку, і Галіне Максімаўне, да 100-годдзя пісьменніка набыла Горацкая раённая цэнтральная бібліятэка імя М. Гарэцкага. Скульптуру Гаўрылы Гарэцкага набыў Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі. Мая ж скульптурная выява пры пераездзе ў новую майстэрню разбілася, на што Заір Ісакавіч з жартам сказаў: «Не перажывайце: гэта добрая прыкмета — доўга жыць будзеце!»

У час перабудовы, калі майстру набегла шмат гадоў і рукі ўжо былі стомленыя, заказаў паменела, з'явіліся фінансавыя цяжкасці, Заір Азгур адчуў настальгію па савецкім мінулым і з сумам глядзеў на вялікія скульптуры-галовы К. Маркса і У. Леніна, якія некалі стаялі каля ўвахода ў будынак ЦК КПБ, а зараз туліліся пад лесвіцай у майстэрні; з гонарам успамінаў, што ляпіў І. Сталіна, сустракаўся з ім і ўглядаўся ў яго «такія

добрыя, ласкавыя вочы»; нават уступіў у наваствораную Камуністычную партыю Беларусі…

Тады ён мне пажаліўся, што за званне акадэміка Акадэміі мастацтваў СССР не плацяць, бо акадэмія стала Расійскай, што зусім мала грошай, якіх не хапае нават на харчаванне… Мяне вельмі ўразіў бядотны стан выдатнага майстра. Я, як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, на Прэзідыуме акадэміі выказаў прапанову прыняць членаў акадэмій былога СССР у члены нашай акадэміі, каб не толькі маральна, але і матэрыяльна падтрымаць такіх людзей, як Заір Азгур. Рашэнне было станоўчым і незадоўга да смерці Заір Ісакавіч Азгур Агульным сходам Акадэміі навук Беларусі быў абраны яе правадзейным членам.

Памяць пра выдатнага беларускага майстра скульптуры жыве ў яго выразных помніках на вуліцах гарадоў, у музеях, у назве вуліцы, на старонках многіх успамінаў, у тым ліку і ў яго цікавых мемуарах «Тое, што помніцца…».

*2008*

## Беларускі гуманітарны ліцэй

Уладзімір Колас, дырэктар ліцэя, вядомы грамадскі дзеяч, запрасіў на прэзентацыю сваёй кнігі «Лёс ліцэя. Аўтабіяграфічныя запісы» (СПб., 2006), якая адбылася ў памяшканні Палаца мастацтваў.

Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа — унікальная навучальная ўстанова ў сучаснай Беларусі. Гэта яе гонар. На жаль, ён толькі адзін. Хаця такіх ліцэяў пры нармальнай сітуацыі павінна быць сотні па ўсёй краіне.

Я многа разоў сустракаўся з ліцэістамі. Першы раз я трапіў у ліцэй, калі У. Колас наладзіў прагляд свайго навучальнага фільма «Максім Гарэцкі: жыццё і дзейнасць». Як радасна і прыемна было сустракацца з дзеткамі, якія ўсе размаўлялі па-беларуску! Для нашай рэчаіснасці такая рэдкасць. Аж сэрца

зашчымела ад хвалявання і шчасця пачуць звонкія дзіцячыя галасы на роднай мове. Шчаслівыя настаўнікі ліцэя і шчаслівыя яго навучэнцы! Нішто так не аб'ядноўвае і прыводзіць да паразумення, як родная мова. Мне гэта было асабліва прыемна, бо я заўсёды марыў чуць дзіцячыя галасы на роднай мове ў сваёй сям'і, так, як у сям'і маіх бацькоў. Але так здарылася, што ў Маскве, дзе я пражыў больш за 25 гадоў, я з дачкой гаварыў па-беларуску, а калі мы ў самым канцы 1971 г. пераехалі ў Мінск, дык яе так засмяялі ў школе, што яна мяне нават татам перастала называць…

Былі яшчэ розныя сустрэчы ў прыгожым будынку ліцэя на вул. Кірава: калі тут утваралася Рада інтэлігенцыі Беларусі, шэраг пасяджэнняў дэмакратычных сіл. І заўсёды радасць ахоплівала сэрца ад скрозь беларускіх надпісаў, насценных газет і іншых атрыбутаў. І больш за ўсё — ад вясёлай звонкай гамонкі маладых дзяўчатак і хлапчукоў.

Пазней былі больш сумныя сустрэчы, калі мяне ўключылі ў групу падтрымкі ліцэя ў сувязі з нападкамі на яго і рэаліямі высялення з будынка. Прыемнае ўражанне рабілі сустрэчы з бацькамі ліцэістаў, якія мужна і бескампрамісна адстойвалі правы сваіх дзяцей вучыцца ў гэтым славутым беларускім ліцэі.

І нарэшце ўспамінаю сустрэчу 1 верасня 2003 г. у Дзень ведаў, калі У. Колас запрасіў мяне прачытаць лекцыю ліцэістам у дзень пачатку заняткаў на вуліцы супраць будынка ліцэя, з якога іх выгналі зусім. Дзеткі сядзелі на самаробных лаўках, і былі яны такія светлыя, юныя, але ўжо мужныя, іх вочы свяціліся, як рознакаляровыя яркія зорачкі. Вакол стаяў натоўп бацькоў і прыхільнікаў ліцэя. Па краях хадзілі міліцыянты і моцныя хлопцы ў цывільным. Карціна незабыўная!

Пазней, калі друкавалася мая кніжачка «Вечна жыве Беларусь» (2003), выдавец Генадзь Вінярскі спытаў, што змясціць на вокладцы, я адразу ўспомніў фота той сустрэчы з ліцэістамі на вуліцы. Так і выйшла з друку кніжачка з гэтым фотаздымкам. Пакуль будуць такія ліцэі (дзякуй Богу, ён яшчэ існуе), будзе

вечна жыць Беларусь, бо без беларушчыны няма Беларусі. Слава Беларускаму гуманітарнаму ліцэю!

*2008*

## Максім Гарэцкі і Васіль Быкаў[1]

12 чэрвеня 2008 г. у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі, якая ўключае два творы Максіма Гарэцкага: «На імперыялістычнай вайне» і «Літоўскі хутарок» (рэжысёр, музычнае афармленне і выканаўца — Алег Вінярскі, гукарэжысёр — Ігар Пісыгін, дызайнерская ідэя — Вольга Гваздова, рэалізацыя праекта — Кастусь Антановіч).

Алег Вінярскі спачатку прачытаў невялікі ўрывак з твора «На імперыялістычнай вайне», а затым апавяданне «Рускі». Усе прысутныя, а іх было больш за 50 чалавек (у тым ліку Я. Адамовіч, А. Вярцінскі, Г. Далідовіч, Т. Дасаева, С. Законнікаў, Г. Запартыка, М. Мушынскі і інш.), былі ў захапленні і ад вялікага майстэрства артыста, і ад новага напрамку мастацкага чытання, калі чуеш не толькі выразны голас выканаўцы і адпаведную музыку, але і розныя гукі, шумы, бразганне ваеннага часу. На адным дыску змясціліся творы з працягласцю гучання 8 гадзін 13 хвілін. Велізарная творчая праца!

На мяне вялікае ўражанне ўжо не ў першы раз зрабіла апавяданне «Рускі». У час імпрэзы я ўспамінаў не толькі свайго дзядзьку, якога, на жаль, мне так і не давялося ўбачыць і пагаманіць з ім (яго арыштавалі ў 1930 г., калі мне было ўсяго 1,5 гадочка), але і Васіля Быкава, з якім мне пашанцавала многа разоў сустракацца, слухаць яго выступленні і размаўляць на розныя тэмы, у тым ліку і пра творчасць Максіма Гарэцкага, якую ён вельмі высока ацэньваў.

---

[1] Гарэцкі Р. Жыццёвы меланж навукоўца // Тэрмапілы. — 2008. — № 12. — С. 99–125.

* * *

На Першых міжнародных Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 23–24 красавіка 1996 г.) В. Быкаў у прывітальным слове падкрэсліў: *«Я думаю, што такія постаці нашай нацыянальнай культуры, як Максім Гарэцкі, павінны быць даўно і добра вядомыя кожнаму грамадзяніну Беларусі, пачынаючы з яго школьных гадоў, прынамсі. […] Максім Гарэцкі — адзін з самых слынных светачаў нацыянальнай культуры. […] У выпадку з Гарэцкім мы маем шчаслівае спалучэнне асобы, геніяльны сінтэз нацыянальнага прарока, пісьменніка, навукоўцы»*.

Узгадваю, як Васіль Уладзіміравіч некалькі разоў адзначыў, што М. Гарэцкі — яго любімы пісьменнік, у якога трэба вучыцца пісаць проста, коратка, без markознага прыхарошвання, але выразна раскрываючы душу, пачуцці і сутнасць герояў апавядання. Як прыклад такога пісьменства ён, у прыватнасці, прыводзіў апавяданне «Рускі» — высокамастацкі твор, у якім адчуваеш вялікі трагізм людзей, псіхалагічнае раскрыццё чалавека, жудасць і ідыятызм вайны для простых людзей…

Слухаючы А. Вінярскага, я яшчэ раз адчуў сугучнасць твораў Максіма Гарэцкага, які пісаў пра Першую сусветную вайну, і Васіля Быкава, які паказаў праўду Другой сусветнай вайны. Яны так яскрава раскрылі антычалавечую сутнасць вайны і ў той жа час паказалі агульначалавечыя разнастайныя рысы асобных людзей, выкрыўшы іх нутро ў розных экстрэмальных сітуацыях.

Чамусьці тады мне ўспаміналася і апавяданне В. Быкава «Жоўты пясочак», пад вялікім уражаннем ад якога я быў доўгі час. Як выдатна пісьменнік у кароткім апавяданні змог раскрыць трагізм усёй эпохі сталінскага рэжыму, паказаць звярыную яе сутнасць, бездапаможнасць простага чалавека перад навалай дзяржаўнага гвалту над сваім народам. А якая выразная абагульняючая назва — «Жоўты пясочак»! Я бачыў многія месцы масавых расстрэлаў «ворагаў народа»: і ў Беларусі (Курапаты, парк Чалюскінцаў, Батанічны сад, пад

Чэрвенем), і на Смаленшчыне пад Вязьмай, дзе расстраляны Максім Гарэцкі, і ў Карэліі пад Мядзведжагорскам ва ўрочышчы Сандармох, дзе павінны былі расстраляць майго бацьку, — і ўсюды — «жоўты пясочак». Зразумела чаму. Таму што лёгка капаць і лёгка засыпаць — а гэта неабходна пры «індустрыяльных» тэмпах знішчэння людзей. Як сведчыць афіцыйны акт, М. Гарэцкага вывелі з турмы ў Вязьме разам з групай у 40 чалавек, праз 15 хвілін усіх расстралялі і закапалі на «адпаведную глыбіню», як патрабуе інструкцыя.

Усе выступоўцы на прэзентацыі шчыра віншавалі калектыў, які стварыў цудоўную аўдыёкнігу, дзякавалі за выдатную працу. Асабліва ўдзячны быў я за ўшанаванне майго любага дзядзькі Максіма Гарэцкага ў сувязі з яго 115-годдзем.

* * *

26 чэрвеня я зноў увесь дзень думкамі быў з Васілём Быкавым — вялікай групай мы паехалі на радзіму пісьменніка ў Бычкі. Якія тут цудоўныя месцы! Гэта раён градава-ўзгорыстых краявых ледавіковых утварэнняў паазёрскага ўзросту (больш за 10 тыс. гадоў таму). Паазёрскі ледавік (апошняе на тэрыторыі Беларусі мацерыковае зледзяненне) пакінуў пасля сябе не толькі Ушацкае ўзвышша, але побач дробнаўзгорыстыя і пакатахвалістыя флювіягляцыяльныя раўніны, якія створаны шырокімі магутнымі воднымі патокамі пры таянні ледавіка, а таксама ўзгорыстыя і хвалістыя марэнныя раўніны. Паміж узгоркаў, якія параслі зялёнымі махнатымі сасонкамі, пушыстымі бярозкамі і магутнымі дубамі, схаваліся блакітныя і шэрыя, акруглыя і працяглыя азёры — і ў розных мясцінах прытуліліся невялічкія вёсачкі з малымі, але ўтульнымі хаткамі, і адна з іх — Бычкі, дзе адкрылі музей-сядзібу Васіля Быкава. Надзвычайная прыгажосць краявідаў, якая выгукала да жыцця такога выдатнага творцу, як Васіль Быкаў, якая і цяпер не магла не адгукнуцца ў нас цудоўнай радасцю жыцця і адначасова шкадаваннем, што няма з намі цудоўнага гаспадара гэтага краю.

Урачыста і шчыра гучалі словы падзякі, гонару, пашаны нашаму Вялікаму беларусу, калі Аляксандр Мілінкевіч уручаў прэміі імя Васіля Быкава першым яе лаўрэатам: Рыгору Барадуліну, Уладзіміру Арлову і Паўлу Севярынцу.

*2008*

## Будзьма

1 кастрычніка 2008 г. у Беларусі распачалася грамадска-культурная кампанія «Будзьма беларусамі», ініцыятарамі якой з’яўляюцца Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы і інш. (каардынатары Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская). Мэта — аб’яднаць беларусаў на глебе павагі да сябе, сваёй краіны, яе гісторыі, культуры, мовы. Гэты рух шырока пайшоў на Беларусі.

Яшчэ ў 1979 г. Фёдар Янкоўскі на кнізе «Прыпыніся на часіну : апавяданні, абразкі» (Мінск : Маст. літ-ра, 1972. — 208 с.), якую ён падараваў майму тату, зрабіў надпіс: «Дарагому акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму з непахісным БУДЗЬМА! Ф. Янкоўскі, 1.9.79».

*2008*

## Пад знакам Адраджэння

Якія шматгранныя таленты нашы выдатныя паэты! Напрыклад, Сяргей Законнікаў. Безумоўна, ён найбольш вядомы як выдатны паэт шырокага дыяпазону — ад грамадска-патрыятычнага да лірычнага. Але адначасова ён — празаік і перакладчык, літаратуразнаўца і рэдактар, дзяржаўны і грамадскі дзеяч… Але калі Сяргей Законнікаў стаў весці пастаянную рубрыку «Пункт гледжання» ў газеце «Свободные новости плюс», ён асабліва раскрыўся як бліскучы публіцыст, прычым настолькі яскравы, што яго артыкулы чытач з нецярплівасцю

чакае, з вялікай асалодай чытае, разважае над узнятымі пытаннямі і нават захоўвае і збірае разам у выглядзе падшыўкі ў асобную кніжку.

Для публіцыстычных артыкулаў Законнікава характэрна здзіўляючая аператыўная рэакцыя на самыя злабадзённыя падзеі, выразнае раскрыццё шматлікіх адмоўных з'яў сучаснасці на фоне тлумачэння складанага, часта трагічнага лёсу беларусаў. Гэты пастаянны, знясільваючы трагізм прывёў да заняпаду нацыянальнай самасвядомасці, адмаўлення ад роднай мовы, інтэнсіўнай асіміляцыі, слабых магчымасцей для росквіту культуры і эканомікі, нягледзячы на моцныя, але, на жаль, кароткія хвалі беларускага Адраджэння, за якое аддалі жыццё многія лепшыя сыны і дочкі Радзімы.

У той жа час пісьменнік мае непахіснае імкненне паказаць лепшыя якасці, вялікі творчы патэнцыял беларускага народа, цудоўную прыгажосць нашай прыроды, роднай зямлі. Самае галоўнае, што заўсёды прысутнічае ў творчасці Сяргея Законнікава, — гэта цвёрдая вера ў лепшую будучыню Беларусі. Уратаваць і навечна захаваць яе на планеце можна толькі шляхам аб'яднання ўсіх айчынных сіл пад сцягам нацыянальнага Адраджэння.

Сапраўды, калі мы хочам «людзьмі звацца» (словы неўміручага Янкі Купалы), жадаем пабудаваць незалежную, дэмакратычную, духоўна і матэрыяльна заможную дзяржаву, то, як заклікае Сяргей Законнікаў, не зважаючы на рознасць у палітычных поглядах, у веравызнанні, у асабістых памкненнях, павінны ісці душой і сэрцам адзін аднаму насустрач.

*2008*

## У пошуках цудаў Беларусі

21 лістапада 2008 г. у Доме дружбы народаў адбылася вечарына «60 год пад небам беларускага слова», прысвечаная 60-годдзю Анатоля Бутэвіча і прэзентацыі яго новай кнігі «Пад

небам беларускага слова» (Мінск, 2007). Гэта быў спектакль аднаго акцёра, які б мог заняць дастойнае месца ў тэатры Галіны Дзягілевай. Рэжысёр і галоўны выканаўца — сам юбіляр. Яскрава з дапамогай здымкаў і кароткіх фільмаў праз камп'ютар, гучанне музыкі, урыўкаў з твораў аўтара і іншых пісьменнікаў, якія прачыталі Валерый Анісенка і Марыя Захарэвіч, песень Таццяны Мархель, прайшоў жыццёвы шлях Бутэвіча. Перыядычна, зусім павольна, укліньваліся выступы прысутных гасцей — пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, дзеячаў культуры, дыпламатаў, навукоўцаў, настаўнікаў і інш. Уся вечарына прайшла пад сцягам «Люблю Беларусь!».

Калі А. Бутэвіч быў старшынёй Камітэта па друку, міністрам інфармацыі, міністрам культуры і друку, а затым дыпламатам, а я віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, мы часта сустракаліся з ім на розных пасяджэннях, нарадах і іншых афіцыйных мерапрыемствах. Я бачыў чыноўніка высокага класа, арганізаванага, строгага, адукаванага, але вельмі інтэлігентнага і добразычлівага.

Аднойчы ўжо пасля таго, як мы пакінулі нашы «высокія» пасады, мы трапілі ў санаторый «Гарадзішчы», у якім разам правялі 10 дзён — як пазней мы жартавалі: «10 дзён, якія ўзрушылі не свет, а нас саміх». Тут я ўбачыў Анатоля ўжо зусім з іншага боку. Ён аказаўся вялікім рамантыкам, чараўніком і прыродазнаўцам. Я зразумеў, чаму ён некалі ўзяў такі псеўданім. Валошка — цудоўная кветка, якая з'яўляецца адным з сімвалаў нашай мілай Беларусі («жыта і васілёк»). Атрымалася цікавае супадзенне і з другім псеўданімам — Баярскі. Пазней вядомы артыст Міхаіл Баярскі выдатна сыграў ролю мушкецёра, і яго вобраз усімі ўспрымаўся як увасабленне мушкецёра. І Бутэвіч таксама сваім абліччам: заўсёды падцягнуты, стромкі, асабліва элегантны, златавусты з жанчынамі — сапраўдны мушкецёр. З якім шчырым захапленнем і замілаваннем ён глядзеў на цудоўныя краявіды Гарадзішчыны, супыняўся каля ласкавай

бярозкі, доўга разглядаў магутны дуб, як дзіця радаваўся і захапляўся рознымі кветачкамі і кожным знойдзенным грыбком. Усё здымаў на фота — і асобныя дрэвы, і дзівосныя водсветы плакучых вербаў у люстэрку возера, і сіняе-сіняе неба над верхавінамі лесу. Пазней гэтыя па-мастацку зробленыя фотаздымкі я ўбачыў у некаторых часопісах («Родная прырода» і інш.).

Якая радасць ад зліцця з прыродай адбывалася ўвечары, калі мы разводзілі вогнішча (а Анатоль гэта робіць па-майстэрску — з адной запалкі), слухалі супакоеную цішыню, якая зрэдку парушалася нечаканым ветрыкам і шапаценнем лесу; сядзелі, накрытыя цёмнай шапкай неба, усыпанага бясконцай колькасцю зорак. Гэта — не проста асалода, а сапраўднае шчасце. Як умела і лоўка Анатоль пёк бульбу і смажыў насаджаныя на галінку кавалачкі сала! Лепшы смак уявіць цяжка! Ён часта ўспамінаў што-небудзь са свайго дзяцінства і больш сталага жыцця і прыгожым голасам на багатай, выразнай беларускай мове апавядаў, і тады быў падобны да нейкага чараўніка.

Здавалася, што яго чарадзейныя якасці адбіваліся нават на асабістым катэджы, куды яго, як былога міністра і дыпламата, памясцілі разам з важным сучасным чыноўнікам (а я жыў у другім, агульным корпусе). Перыядычна катэдж, асабліва ўвечары, калі мы, ціха размаўляючы, сядзелі за шклянкай гарбаты, раптам пачынала разгойдваць, як быццам адбываўся землятрус балаў каля шасці. Мы здзіўляліся і не маглі зразумець прычыну, жартуючы, абвінавачвалі ў гэтым чароўную сілу Бутэвіча. Пазней, як геолаг, я зразумеў, што гэта ўплыў падземных вод, якія працякалі пад катэджам і скідваліся ў глыбокі роў каля дома.

Недарма А. Бутэвіча ў апошнія гады пацягнула шукаць, раскрываць і апісваць цуды Беларусі, якія выліліся ў цікавыя апавяданні і кнігі, асабліва блізкія маладым чытачам.

*2008*

## Мой старэйшы таварыш

Аляксандр Сямёнавіч Махнач і я з’явіліся на гэты свет у розныя гады (1918 і 1928), але амаль у адзін зімовы снежаньскі дзень календара — ён у в. Хатляны Уздзенскага раёна Міншчыны, а я — у Мінску. Калі пачалася вайна, Аляксандр Сямёнавіч ужо закончыў Мінскі педагагічны інстытут і пачаў працаваць настаўнікам геаграфіі сельскай школы в. Рудня, апрача таго выкладаў гісторыю і Канстытуцыю СССР, а я толькі закончыў пяты клас у г. Баравічы Наўгародскай вобласці. Хаця і быў ён на 10 гадоў старэйшы за мяне, але абодва мы належалі пакаленню «дзяцей вайны», а правільней — юнакоў вайны. Толькі ён быў на фронце (з самага пачатку вайны да яе заканчэння), а я — у эвакуацыі, у тыле. Жыццё таго часу і асабліва вайна рана зрабілі нас дарослымі і самастойнымі. Мы добра ведалі цану хлебу, цяжкасць заробку на жыццё. Большасць з нас жылі бедна, з адчуваннем пастаяннага недаядання, а то і голаду… А тым, хто быў на фронце, дабаўляліся яшчэ неверагодныя складанасці франтавых будняў з пастаянным страхам за сваё жыццё.

Цяжка перадаць тую радасць, якая ахапіла ўсіх нас у Дзень Перамогі! Калі Аляксандр Сямёнавіч звярнуўся ў разбураны вайной Мінск, яго, як франтавіка і камуніста (уступіў у члены УКП(б) у 1942 г.), адразу заўважылі і запрасілі на работу кансультантам наркама асветы БССР, а затым намеснікам загадчыка аддзела ЦК ЛКСМБ. Нягледзячы на гэту, здавалася б, прэстыжную работу, на якой ён паказаў сябе здольным арганізатарам моладзі, яго цягнула да далейшай вучобы і прываблівала навуковая і педагагічная дзейнасць. Не адпускалі з работы, і ён, дзякуючы сваёй настойлівасці і ўпартасці, з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж здолеў пайсці з ЦК ЛКСМБ і паступіць у аспірантуру Інстытута геалагічных навук АН БССР па спецыяльнасці «Літалогія». Хацеў вучыцца па спецыяльнасці «Фізічная геаграфія», блізкай да той, якую атрымаў па

заканчэнні педагагічнага інстытута, але такой аб'яўлена не было. У Інстытуце геалагічных навук тады працавала ўсяго 20 чалавек, сярод якіх не было кандыдатаў навук. Махнач апынуўся без кіраўніка і без тэмы дысертацыі. Вырашыў паехаць у Маскву, дзе ў Маскоўскім нафтавым інстытуце імя акад. І. М. Губкіна была вядомая кафедра ападкавых парод пад кіраўніцтвам прафесара (пазней члена-карэспандэнта АН СССР) Л. В. Пуставалава.

Я ў той час жыў у пасёлку Чкалаўск-на-Волзе (былое сяло Васілёва — радзіма В. П. Чкалава) і заканчваў 10-ы клас. Тады, як і цяпер, мы жылі ва ўмовах бесперапыннага рэфармавання. У 1946 г. упершыню ўвялі дзяржаўныя экзамены, якіх было вельмі шмат, а замест даведкі аб заканчэнні сярэдняй школы пачалі выдаваць атэстат сталасці. Атрымаўшы атэстат, я паехаў у Маскву на здачу ўступных экзаменаў на геолагаразведачны факультэт Маскоўскага нафтавага інстытута (МНІ), які ў той час знаходзіўся на Калужскім (зараз Кастрычніцкім) пляцы, адкуль цяпер пачынаецца Ленінскі праспект. Сярод нас, маладых выпускнікоў сярэдняй школы, у асяроддзі абітурыентаў вылучаліся былыя франтавікі, якія нядаўна вярнуліся з вайны. Яны выглядалі больш салíднымі, сур'ёзнымі і ў той жа час менш упэўненымі, а некаторыя нават нясмелымі, бо адчувалі, што веды экзаменацыйных прадметаў у іх слабыя, забытыя ў час вайны, і таму яны з надзеяй глядзелі на юнакоў, якія маглі ім дапамагчы ці падказаць адказы на экзаменах. Мы гэта і стараліся зрабіць, дапамагаючы ім чым маглі і ставячыся да іх з разуменнем і павагай. Большасць з іх былі яшчэ ў ваеннай форме, некаторыя — з ордэнамі і медалямі ці з адпаведнымі ордэнскімі планкамі.

Лёс паступаючых са мной у інстытут склаўся па-рознаму. Адзін з іх зусім забыўся матэматыку. Я яму дапамагаў успомніць розныя тэарэмы і рашэнні задач, і ён іх хутка засвоіў, быў вельмі здольны, але часу было зусім мала. Ён мне быў вельмі сімпатычны і я нават рызыкнуў рашаць яго задачку ў

час экзаменаў, што было небяспечна, бо маглі выгнаць абодвух (хаця многія экзаменатары разумелі сітуацыю і глядзелі на падказкі скрозь пальцы). Мой падапечны ўсё ж праваліўся на экзаменах і сумны пакінуў мірнае поле бою, хаця меў некалькі баявых ордэнаў і медалёў. Шэраг былых франтавікоў сталі разам з намі студэнтамі. Быў сярод іх хударлявы невялікага росту капітан, які меў шмат раненняў. Яму цяжка даставалася вучоба, ён нерваваўся, а праз два гады нечакана памёр. Калі мы былі на геадэзічнай практыцы каля Адзінцова пад Масквой, у вясковую хату, дзе жыла наша брыгада студэнтаў (а я быў брыгадзірам), ноччу прыйшлі некалькі прадстаўнікоў КДБ на чале з падпалкоўнікам і забралі з сабой без усякага тлумачэння прычын Лівіціна — былога старшага лейтэнанта. Больш мы яго ніколі не бачылі. У памяці засталася стромкая постаць студэнта ў афіцэрскай гімнасцёрцы, які кінуў на нас сумны позірк сваімі карымі, троху выпуклымі вачыма. Некалькі чалавек старанна вучыліся, закончылі інстытут. Некаторыя з іх сталі вучонымі: Пётр Іванчук абараніў доктарскую дысертацыю, Сяргей Іваноў — кандыдацкую.

Кафедра петраграфіі ападкавых парод — адна з лепшых на геолагаразведачным факультэце МНІ. З вялікай цікавасцю мы слухалі лекцыі Леаніда Васільевіча Пуставалава, які не проста суха выказваў матэрыял, а прыводзіў вытрымкі з розных кніг. Супрацоўнікі кафедры дацэнты Васілій Паўлавіч Фларэнскі, Таццяна Аляксандраўна Лапінская, Уладзімір Іванавіч Данчаў, Уладзімір Сяргеевіч Князеў — вядомыя спецыялісты, здольныя лектары, уважлівыя добразычлівыя людзі, сапраўдныя інтэлігенты. Сваёй высокай культурай яны не толькі ўмела перадавалі нам веды, але і ўзгадоўвалі нас. Асабліва вылучалася Таццяна Аляксандраўна — заўсёды элегантна апранутая, з акуратнай гладкай прычоскай, выразнымі цёмнымі вачыма, якія з вясёлай іскрынкай глядзелі на нас, спакойная, вытрыманая, строгая і ўсмешлівая, з прыемным мяккім голасам і выразнай правільнай мовай. Некаторыя нашы студэнткі стараліся

паходзіць на яе. Супрацоўнікі кафедры давалі сур'ёзныя веды па крышталаграфіі, мінералогіі, петраграфіі, літалогіі. Вось на гэту выдатную кафедру трапіў А. С. Махнач, кіраўніком якога згадзіўся быць Л. В. Пуставалаў.

Аляксандр Сямёнавіч меў геаграфічную адукацыю, і яму не хапала ведаў па геалогіі, таму ён вырашыў са згоды свайго навуковага кіраўніка прайсці большасць магчымых геалагічных дысцыплін разам са студэнтамі розных курсаў факультэта, і асабліва дэталёва і глыбока — тыя прадметы, якія былі блізкімі да выбранай тэмы дысертацыі па літалогіі. Для гэтага ён на 3–4 месяцы прыязджаў у камандзіроўку ў Маскву, дзе вучыўся і працаваў над дысертацыяй. Так працягвалася на працягу амаль трох гадоў.

Аднойчы ў нашай групе ў час практычных заняткаў па крышталаграфіі мы ўбачылі маладога чалавека ў афіцэрскім кіцелі, безумоўна, былога франтавіка — сярэдняга росту, каржакаватага шатэна з характэрнай грыўкай густых валасоў, трошку нахіленых убок, з зеленавата-шэрымі ўважлівымі вачыма, хуткімі, зрэдку рэзкімі рухамі. Знешне ён мне нечым нагадваў знакамітага артыста Барыса Чыркова, які выдатна сыграў ролю рабочага хлопца ў вядомым фільме-трылогіі пра Максіма. А. С. Махнач настолькі ўважліва слухаў выкладчыкаў, так старанна, нават унікліва выконваў усе заданні, што адразу звярнуў гэтым увагу ўсіх студэнтаў, а не толькі формай франтавіка.

Калі Аляксандр Сямёнавіч размаўляў, я адразу зразумеў, што ён — мой зямляк з Беларусі: у яго быў вельмі моцны беларускі акцэнт. Я вельмі быў рад сустрэць беларуса, ды яшчэ ў сваёй студэнцкай групе. Я да таго часу патрошку пачаў з бацькамі размаўляць па-беларуску. Справа ў тым, што я, сын «нацдэма» і «ворага народа», быў вывезены з Мінска яшчэ малым і ўвесь час жыў у розных мясцінах Расіі, ніколі не вывучаў беларускую мову, не чуў беларускую гамонку, да і з бацькамі не заўсёды жыў. Але ў апошні час, ужо ў старшых класах мае мама і тата,

якія заўсёды паміж сабой размаўлялі па-беларуску, і мяне сталі далучаць да роднай мовы. Таму я звярнуўся да нашага новага слухача практычных заняткаў і лекцый па-беларуску. Аднак ён і тады, і ў далейшым чамусьці размаўляў толькі па-руску (нягледзячы на тое, што вельмі добра ведаў беларускую мову), прычым як А. С. Махнач ні стараўся чыста вымаўляць рускія словы, яго заўсёды выдаваў акцэнт і яго руская гаворка нярэдка гучала як беларуская. Гэта — тыповы беларускі феномен. У мяне ж наадварот — беларускія словы гучалі з прыкметным маскоўскім акцэнтам.

Аляксандр Сямёнавіч з уласцівай яму прастатой і таварыскасцю хутка быў прыняты ў нашае студэнцкае асяроддзе, да і сярод супрацоўнікаў кафедры зрабіўся сваім чалавекам. Ён здзівіў нас усіх працаздольнасцю, мэтанакіраванасцю і дзівосным імкненнем атрымаць максімум ведаў. Усё, што чуў ад настаўнікаў, уцягваў у сябе як губка. Ён працаваў з рання да позняга вечара, і здавалася, што ніколі не стамляўся — заўсёды быў уважлівым і сабраным. А жыццё ў той час было вельмі цяжкае: усе прадукты (апрача піва і гарэлкі), а таксама адзенне выдаваліся па картках і талонах. Толькі маладосць з яе радасцю жыцця не дазваляла журыцца і ныць ад пастаяннага пачуцця недаядання. А. С. Махнач сваім прыкладам станоўча ўплываў на студэнтаў, многіх з якіх ахоплівала лянота і халтурныя адносіны да заняткаў. Яны часта адчувалі нялоўкасць перад старанным сур'ёзным аспірантам. Я неяк адразу пасябраваў з Аляксандрам Сямёнавічам, і мы нярэдка многія практычныя заняткі выконвалі разам. Ад яго я пачуў розныя выпадкі пра вайну, пра сітуацыю ў Беларусі.

У далейшым нашы шляхі разышліся на доўгі час — Махнач паехаў у Мінск, а я быў прыняты на работу ў Геалагічны інстытут АН СССР (Масква). Але я заўсёды цікавіўся справамі Аляксандра Сямёнавіча, ведаў аб ім ад супрацоўнікаў кафедры петраграфіі МНІ, майго аднакурсніка па інстытуце Леаніда Маляўкі ці ад сваіх геалагічных калег.

А. С. Махнач у пачатку геалагічнай дзейнасці і працы над дысертацыяй апынуўся ў складанай, але адначасова задашлівай сітуацыі. У пасляваенны час тэрыторыя Беларусі была вывучана вельмі слаба: былі толькі дзве глыбокія свідравіны — у Мінску глыбінёй крыху больш за 300 м і ў Прыпяцкім прагіне каля Давыдаўкі (звыш 1000 м), якія ўпершыню выявілі соль. Лічылася, што на тэрыторыі Усходне-Еўрапейскай платформы (у тым ліку і ў Беларусі) на крышталічным фундаменце залягаюць адклады дэвону. Тады ж пачыналіся шырокія геалагічныя (у тым ліку свідраванне) і геафізічныя работы. Кожная глыбокая свідравіна прыносіла сенсацыйныя навіны, асабліва ў адносінах да невядомых тоўшчаў, якія залягаюць паміж фундаментам і дэвонскімі адкладамі. Усе гэтыя цікавыя ўтварэнні прыйшлося вывучаць А. С. Махначу і яго беларускім калегам у супрацоўніцтве з вядомымі геолагамі ў першую чаргу з Ленінграда і Кіева. Новы багаты фактычны матэрыял, які карэнным чынам змяніў уяўленне аб геалагічнай будове Беларусі, дазволіў А. С. Махначу зрабіць выдатнае абагульненне, якое ён абараніў у выглядзе кандыдацкай дысертацыі ў Маскоўскім нафтавым інстытуце (1950), а затым і доктарскай — у Геалагічным інстытуце АН СССР (1959). Пры апошняй абароне я, як супрацоўнік ГІНа, як мог дапамагаў Аляксандру Сямёнавічу, падтрымаўшы яго ва ўсіх дзеяннях і ў размовах пра яго добрую працу з вучонымі ГІНа, асабліва з членамі вучонага савета.

На выязной сесіі секцыі навук аб Зямлі АН СССР (Мінск, 1976) вельмі правільна адзначыў акадэмік Б. С. Сакалоў: *«После опустошительной войны геологи вновь вернулись к Беларуси почти как к «белому пятну» на геологической карте страны. В геологическое изучение территории республики были втянуты огромные материальные ресурсы, новые мощные средства геофизики и геохимии. Особенно важную роль имело глубокое бурение, которое нигде в Европе до того времени не использовалось в таких масштабах. И результаты не заставили себя ждать — Беларусь стала выдающимся геологическим*

*открытием. Полученные новые знания оказали коренное влияние на понимание всей структуры Восточно-Европейской платформы, а разведанные богатства белорусских недр (уникальные соленосные бассейны, нефть и другие полезные ископаемые) способствовали превращению республики в один из наиважнейших экономических регионов страны»*. А. С. Махначу, як выдатнаму вучонаму, арганізатару навукі і грамадскаму дзеячу Беларусі пашчасціла прыняць непасрэдны ўдзел у гэтым геалагічным адкрыцці, якое мела вялізнае тэарэтычнае і практычнае значэнне. Як адзін з галоўных лідараў беларускай навукі, унёс рашучы ўклад у стварэнне сучасных ведаў геалагічнай будовы краіны. Ён быў удзельнікам і адным з галоўных стваральнікаў геалогіі Беларусі практычна з пачатку яе інтэнсіўнага вывучэння да сучаснасці.

У самым канцы 1971 г. я пераехаў у Мінск, і мы ўжо разам з Аляксандрам Сямёнавічам, як калегі па рабоце ў Інстытуце геахіміі і геафізікі (ІГіГ) і ў Прэзідыуме НАН Беларусі, уносілі пасільны ўклад у геалагічнае вывучэнне краіны і арганізацыю навуковых даследаванняў. А. С. Махнач вылучаўся вялізарнай працаздольнасцю, акуратнасцю, дасканаласцю, цікавіўся амаль усімі праблемамі геалагічнай навукі (шырыня ахопу пытанняў у яго працах унікальная), актыўна ўдзельнічаў у розных аспектах арганізацыі навукі. Ён меў значны аўтарытэт як у супрацоўнікаў інстытута і Акадэміі навук, так і ў дзяржаўных і партыйных органах, што часта дапамагала яму станоўча вырашаць многія пытанні. Нягледзячы на высокае грамадскае становішча (віцэ-прэзідэнт АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і г. д.), ён заўсёды заставаўся сціплым, простым і добразычлівым з усімі.

Хаця ў большасці выпадкаў я знаходзіў з Аляксандрам Сямёнавічам згоду па пытаннях геалогіі і навуковай арганізацыі працы, але ў шэрагу момантаў мы разыходзіліся. Так, ён не падтрымліваў ні майго бацьку, ні мяне ў нашых імкненнях

стварыць самастойны інстытут геаграфіі; пасіўна паводзіў сябе ў адносінах арганізацыі Аддзялення навук аб Зямлі, за што я ўвесь час змагаўся; не падтрымліваў працу даччынага ад ІГіГ геалагічнага прадпрыемства «БелГео», якое стварыў В. А. Масквіч з пастаяннай маёй падтрымкай; разыходзіліся мы і ў некаторых пытаннях стратыграфіі і карэляцыі рыфейскіх і вендскіх адкладаў і інш. Тым не меней нашы адносіны заўсёды заставаліся сяброўскімі, паважлівымі і добразычлівымі.

А. С. Махнач упарта працаваў да самых апошніх дзён свайго жыцця. Ён не паспеў закончыць абагульняючую манаграфію пра яго самых любімых рыфейскія і вендскія адклады, вывучэнню якіх прысвяціў большую частку сваіх даследаванняў. Але яго лебядзінай песняй можна лічыць стварэнне дзвюх капітальных калектыўных манаграфій — «Геология Беларуси» (2001) і «Основы геологии Беларуси» (2004), у якіх падведзены вынікі геалагічнага вывучэння краіны. Дзякуючы яго ўпартасці, арганізаванасці, уменню згуртаваць творчы калектыў, удалося ў адносна кароткі тэрмін напісаць і выдаць гэтыя кнігі. Я рад, што я ўдзельнічаў разам з ім у іх стварэнні ў якасці аўтара і сарэдактара.

Імя Аляксандра Сямёнавіча Махнача залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю геалагічнай навукі і пазнання нетраў Беларусі.

*2008*

## Стукнула 80!

Непрыкметна і чамусьці зусім нечакана падкралася да мяне 80-годдзе, але жыццё, а разам з ім і жыццёвы меланж у маім успрыманні працягваюцца…

У такі юбілей азіраешся на жыццёвы лёс бацькоў і асэнсоўваеш свой. Мой тата, акадэмік Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, пражыў як бы два жыцці: адно — у якасці эканаміста, другое — геолага. Сам жа ён у сваім жыцці вылучаў тры кругабегі: 1) беларускі (вучоба і праца эканамістам у Беларусі — 30 га-

доў): 2) пераходны (у «архіпелагу ГУЛАГу», праца геолагам у розных мясцінах Савецкага Саюза — 38 гадоў); 3) мінскі, беларускі (праца геолагам у Беларусі — 20 гадоў). У маім жыцці таксама можна вызначыць тры этапы: 1) расійскі — станаўленне, гартаванне (Беламорска-Балтыйскі канал і эвакуацыя з маці ў час вайны, вучоба ў нафтавым тэхнікуме і Нафтавым інстытуце ў Маскве — 20 гадоў); 2) маскоўскі (праца ў Геалагічным інстытуце АН СССР — 20 гадоў); 3) мінскі, беларускі (праца ў Інстытуце геахіміі і геафізікі АН Беларусі — 40 гадоў). Кожны этап па-свойму цікавы, павучальны і запамінальны, але і ў бацькі, і ў мяне самыя шчаслівыя і плённыя — апошнія, мінскія, калі родная зямля Бацькаўшчыны натхняла, давала сілы і, нягледзячы на змрочныя моманты антыбеларушчыны, захоўвала надзею на лепшую будучыню.

*2008*

## Стварэнне Беларускай акадэміі навук і яе шлях да 80-годдзя

22–24 студзеня 2009 г. урачыста адзначалі 80-гадовы юбілей Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Нягледзячы на многія значныя дасягненні вучоных акадэміі, яе шлях быў нялёгкім, а часта пакутлівым… Пра гэта на ўрачыстых сходах не ўзгадвалася, таму хочацца троху ўспомніць тыя цяжкія моманты, каб пазбегнуць іх у будучыні.

У 1922 г. (год абвяшчэння СССР) у Мінску быў заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), праз 7 гадоў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук (БАН). Гэта быў час вялікай хвалі нацыянальнага адраджэння, калі беларускі народ імкнуўся пабудаваць рэспубліку з моцнай народнай гаспадаркай, нацыянальна арыентаванай культурай, літаратурай, навукай, адукацыяй. На чале кіраўніцтва рэспублікі стаялі нацыянальна свядомыя камуністы (Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч, Мікалай Галадзед і інш.), якія падтрымлівалі

палітыку беларусізацыі. Нягледзячы на зусім невялікі штат інстытута (каля 200 чалавек), апантаная праца яго супрацоўнікаў пакінула прыкметны след у развіцці навукі і культуры. Асабліва выдатныя дасягненні меліся ў галіне гуманітарных навук (гісторыі і археалогіі, беларускай мове і беларускай навуковай тэрміналогіі, літаратуразнаўстве, краязнаўстве, эканоміцы), а таксама ў галіне прыроды і гаспадаркі (глебазнаўстве, геалогіі, фізічнай і эканамічнай геаграфіі, дэмаграфіі, гідралогіі, кліматалогіі, сельскай і лясной гаспадаркі, геафізікі, біялогіі). Менавіта адсюль ідзе пачатак навук пра Зямлю.

Інбелкульт, па сутнасці, пачаў выконваць ролю нацыянальнай акадэміі навук такога тыпу, як існуючыя на той час Расійская акадэмія навук (адкрыта ў 1917 г. замест Імператарскай Санкт-Пецярбургскай, а ў 1925 г. стала АН СССР) і Усеўкраінская акадэмія навук (заснавана ў 1919 г.). Таму ўжо ў 1924 г. кіраўнікі Інбелкульта звярнуліся да ўрада БССР з прапановай ператварыць гэты інстытут у Беларускую акадэмію навук. Але дазвол трэба было атрымаць з Масквы, і ён прыйшоў, але толькі праз 4 гады.

13 красавіка 1928 г. Бюро ЦК КП(б)Б ухваліла пастанову Савета Народных Камісараў БССР аб арганізацыі БАН на базе Інбелкульта. 26 снежня 1928 г. спісы першых акадэмікаў у колькасці 31 чалавека (з іх 9 сяброў з АН СССР і Усеўкраінскай акадэміі навук), папярэдне абраных спецыяльнай урадавай камісіяй, былі зацверджаны СНК БССР. 1 студзеня 1929 г. у будынку Дома культуры (былая сінагога, а цяпер Рускі тэатр імя Горкага) адбылося ўрачыстае адкрыццё БАН, якое прыстасавалі да 10-годдзя Савецкай Беларусі. Прысутнічалі кіраўнікі БССР, прадстаўнікі многіх навуковых арганізацый СССР, было атрымана больш за 80 урадавых віншавальных тэлеграм. Урачысты сход распачаў старшыня камісіі па рэарганізацыі Інбелкульта ў БАН сакратар ЦВК А. Хацкевіч, які абвясціў прозвішчы першых акадэмікаў — заснавальнікаў БАН. Прэзідэнтам быў прызначаны вядомы гісторык У. М. Іг-

натоўскі. Сярод абраных акадэмікаў: пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас, моваЗнаўцы М. М. Дурнаво, С. М. Некрашэвіч, Я. Ю. Лёсік, Б. А. Тарашкевіч, гісторыкі В. У. Ластоўскі, С. Ю. Матулайціс, А. Н. Ясінскі, геолаг М. Ф. Бліядуха. Самым маладым (28 год) быў эканаміст Г. І. Гарэцкі — дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, якога Я. Купала і Я. Колас на тым сходзе пасадзілі паміж сабой. У той жа час «палітычнае сіта» АДПУ тады не прапусціла ў акадэмікі такіх вядомых беларускіх вучоных і пісьменнікаў, як Я. Ф. Карскі (хаця і быў ужо акадэмікам АН СССР), А. К. Сержпутоўскі, М. У. Доўнар-Запольскі, А. А. Смоліч, І. Л. Дыла, М. І. Гарэцкі.

Маладая акадэмія навук апынулася ўжо ў зусім іншым палітычным клімаце. 1929 — год «вялікага пералому», супольнай калектывізацыі, новай «чысткі» партыі пад знакам барацьбы супраць трацкістаў, правых апартуністаў, буржуазных нацыяналістаў і г. д. Гэта быў год пераходу да дзікіх таталітарных метадаў кіраўніцтва краінай, калі, па словах Сталіна, «репрессии в области социалистического строительства являются необходимым элементом наступления». Савецкі Саюз ператвараўся ў «архіпелаг ГУЛАГ».

Незадаволенасць выклікала і новастворaная БАН, якая здавалася занадта нацыянальнай. Пачаліся ганенні супраць «нацдэмаў», у тым ліку і на шэраг акадэмікаў, у выглядзе грубых крытычных артыкулаў у газетах, выключэнняў з партыі, зняцця са службовых пасад і г. д. У 1930 г. па інспіраваных АДПУ справах «Саюз вызвалення Беларусі» і «Беларускі філіял працоўнай сялянскай партыі» былі арыштаваны вялікія групы працоўнай інтэлігенцыі: па першай справе 108 чалавек, па другой — 59. З БАН у ліку асуджаных па гэтых справах аказаліся 33 вучоных, што склала амаль 1/3 усяго складу акадэміі, якая ў той час налічвала каля 100 супрацоўнікаў. Тады шасцярых арыштаваных акадэмікаў выключылі з БАН. Прэзідэнт акадэміі У. М. Ігнатоўскі застрэліўся. У далейшым Акадэмія навук

атрымоўвала такія ж моцныя ўдары: у 1933 г. было арыштавана 16 супрацоўнікаў, у 1936 г. — 15, у 1937 г. — 45, у 1938 г. — 27. Сярод іх 25 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў. Многія з іх былі расстраляны, а пазней поўнасцю рэабілітаваны.

Нягледзячы на такія страты, АН БССР перад вайной заставалася галоўнай навуковай арганізацыяй рэспублікі. Яна налічвала 610 супрацоўнікаў, у тым ліку 27 акадэмікаў, 23 члены-карэспандэнты, 46 дактароў і 67 кандыдатаў навук.

У цяжкія гады вайны супрацоўнікі АН БССР працягвалі навуковую працу. Пасля вайны АН БССР атрымала моцнае развіццё і дасягнула найбольшага ўздыму ў 70–80-я гг., калі яна мела падтрымку П. М. Машэрава, а прэзідэнтам акадэміі быў М. А. Барысевіч. Значная небяспека існаванню АН Беларусі ўзнікла ў 90-я гг., калі Беларусь стала самастойнай краінай. Многія кіраўнікі дзяржавы, Камітэта па навуцы, Мінадукацыі, БДУ лічылі, што АН БССР можна ліквідаваць, перадаўшы інстытуты акадэміі ў міністэрствы, універсітэты. Такую тэндэнцыю падмацаваў, прыехаўшы ў Беларусь, прэзідэнт Казахстана Назарбаеў, які ў сваёй краіне ліквідаваў акадэмію навук, далучыўшы яе да Міністэрства навукі. Наша Бюро Прэзідыума АН Беларусі на чале з Л. М. Сушчэнем (1992–1997) лічыла сваім галоўным дасягненнем захаванне АН Беларусі.

У апошняе дзесяцігоддзе ў НАН Беларусі асабліва ўзмацнілася тэндэнцыя прыярытэту прыкладных навук, значнага зніжэння фундаментальных даследаванняў, бясконцага рэфармавання, амаль штогодніх зменаў у Статуце акадэміі, а то і проста яго ігнаравання, амаль поўнага выгнання беларускай мовы з афіцыйнага ўжытку і інш. Гэта стала вынікам стварэння ў НАН Беларусі адміністрацыйна-чыноўніцкай вертыкалі, аналагічнай вертыкалі дзяржаўнай. Адмоўнымі момантамі такой дзейнасці стала адсутнасць выбарнасці кіруючых асоб, якіх прызначаюць, нярэдка фармальна, стварэнне навукова-прыкладных цэнтраў, ліквідацыя шэрагу інстытутаў (напрыклад, Інстытута электронікі, Інстытута геахіміі і геафізікі) і інш.

Ліквідацыя апошняга прывяла амаль да поўнага знішчэння ў НАН Беларусі такога важнага навуковага напрамку, як геалагічныя навукі.

Трэба спадзявацца, што жыццё прымусіць чыноўнікаў усіх рангаў выправіць многія памылкі апошніх гадоў і НАН Беларусі зойме годнае месца ў міжнародным працэсе фундаментальных навуковых даследаванняў. Акадэмія навук, як адна з найбольш удалых арганізацыйных стварэнняў навукі, жыла, жыве і павінна жыць!

* * *

Усе вельмі правільна загаварылі пра неабходнасць новых тэхналогій, але пры гэтым і навукоўцам, і асабліва кіраўнікам-чыноўнікам трэба помніць, што такія тэхналогіі ўзнікаюць з фундаментальных даследаванняў. Аб гэтым вельмі добра нядаўна напісалі Леў Тамільчык і Уладзімір Лебедзеў у артыкуле «Квантовые законы макромира» (Наука и инновации. 2009. № 3 (73). С. 10):

*«Эпохальные открытия, приведшие позднее к созданию ядерной энергетики и лазерных технологий, были сделаны в результате чисто научного поиска, ориентированного на получение нового знания как такового. Никогда нельзя забывать, что в триединой цепочке «фундаментальные изыскания — прикладные исследования — новые технологии» стратегически определяющая роль принадлежит именно первому звену».*

*2009*

## Трыяда

30 студзеня 2009 г. у Пасольстве Украіны адбылася прэзентацыя кнігі Валерыя Стралка «Трыяда славянскай паэзіі» (Київ : Книга, 2008. 246 с). У кнігу вельмі ўдала ўключаны найбольш выдатныя творы паэтаў-класікаў Украіны, Беларусі і

Расіі, якія прыведзены на трох мовах. Пераклады зроблены так выдатна, што ў кожным вершы захаваўся не толькі сэнс, але і рытм, мілагучнасць, эмоцыі, прычым перададзены тонкасці і нюансы самых розных маштабаў.

Чытаючы кнігу, адчуў вялікую радасць і адначасова сум. Радасць таму, што яшчэ раз атрымаў надзвычайную асалоду ад хараства блізкіх мне трох славянскіх моў, якія такія прыгожыя, выразныя, яскравыя, мілагучныя, багатыя. Відавочна выступала, што ўсе тры мовы — аднавялікія, раўнапраўныя, кожная з іх не горшая за іншыя. І, безумоўна, ніяк нельга пагадзіцца з выказваннем кіраўніка беларускай дзяржавы, які аднойчы сказаў, што толькі руская і ангельская мовы могуць перадаць усю гаму чалавечых думак і пачуццяў. З кнігі яскрава можна ўбачыць і пачуць, што ў гэтым сэнсе і ўкраінская, і беларуская мовы зусім не саступаюць рускай, а адсюль і гонар за нашы родныя мовы высока ўзняўся ў душы. Як выразна сказаў Іван Франко, жыццё кароткае, а мастацтва вечнае, — так і творы класікаў трох народаў і іх мовы будуць жыць вечна!

З іншага боку, адчуў глыбокі сум за цяжкі гістарычны лёс украінскай і беларускай моў, асабліва за іх сучасны стан, і найбольш гаротны — з роднай мне беларускай.

Не так даўно чытаў лісты выдатнага ўкраінскага пісьменніка Панцеляймона Куліша, які доўга жыў у Расіі, не мог друкавацца на ўкраінскай мове і нават Тарасу Шаўчэнку пісаў па-руску. Які боль адчуваўся ў яго лістах за такое адмоўнае стаўленне да ўкраінскай мовы! Ды і Шаўчэнка свае празаічныя творы пісаў па-руску (ішоў шляхам Гогаля), бо ведаў, што па-ўкраінску яны не будуць надрукаваны. А колькі крыўды мелі нашы Янка Купала і Якуб Колас за зняважу іх роднай мовы! Дастаткова ўспомніць смелы перадсмяротны ліст Коласа ў ЦК КПБ пра беларускую мову.

Сучасная сітуацыя з украінскай і беларускай мовамі таксама няпростая. Які вэрхал уздымаецца і ва Украіне, і ў Расіі наконт дзяржаўнасці толькі адной украінскай мовы на яе радзіме, а на

Беларусі наогул катастрафічная сітуацыя з роднай мовай, якая ўвесь час пагаршаецца ў сувязі з палітыкай улад у напрамку на поўную русіфікацыю краіны. Палітыкам і чынавенству трэба кідаць сістэму выкарыстоўвання мовы ў якасці інструмента для сваіх агрэсіўных імкненняў.

Кніга «Трыяда славянскай паэзіі» спрыяе захаванню, прапагандзе і развіццю ўсіх трох моў. Яна заклікае, каб будучы ўкраінец Мікалай Гогаль вырастаў не рускім пісьменнікам, а ўкраінскім, а беларус-ліцвін Адам Міцкевіч — не польскім паэтам, а беларускім. Няхай тры вялікія славянскія мовы ніколі не будуць агрэсіўнымі адна да адной, сябруюць, падтрымоўваюць адна адну і квітнеюць! Трэба помніць пра галоўную трыяду жыцця — родная зямля, родная маці, роднае слова — на якой трымаецца ўсё чалавецтва. Жыве трыяда жыцця, а трыядзе славянскіх моў слава!

*2009*

## Два славутыя 80-годдзі

Вельмі цёпла і ўрачыста адзначылі 80-годдзе двух выдатных гісторыкаў, найбольш актыўных і вядомых сучасных адраджэнцаў беларушчыны — Анатоля Грыцкевіча і Леаніда Лыча, якія нарадзіліся амаль у адзін час (31.01.1929 і 8.02.1929). Першы з іх мае адукацыю як гісторыка, так і медыка. Але абодва гісторыкі-адраджэнцы паспяхова лечаць беларусаў ад эпідэміі манкурцтва, якое асабліва моцна ахапіла ўсю Беларусь і многіх яе ўраджэнцаў у апошнія 15 гадоў.

*2009*

## Альманах «Волат»

У лютым 2009 г. споўнілася 5 гадоў краязнаўчаму альманаху «Волат» (Вілейскае гісторыка-краязнаўчае выданне, рэдактар Аляксей Сюдак). Успомніў першыя сустрэчы і размовы з двума сімпатычнымі вілейчукамі-школьнікамі — Сяргеем Макарэвічам і Алесем Танкевічам, якія тады мне спадабаліся сваёй дапытлівасцю і беларускасцю, а цяпер яны ўжо студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, сябры рэдакцыі «Волат», з самага заснавання альманаха актыўныя яго аўтары. Таму паслаў у рэдакцыю «Волата» прывітанне:

*«Дарагія Волатаўцы!*

*Сардэчна віншую Вас з 5-годдзем краязнаўчага альманаха «Волат», з'яўленне якога для мяне было вялікай радасцю. На змрочным фоне антыбеларускай чыноўніцкай вертыкалі, вакол якой амаль зусім знікла беларуская мова, засвяціў аптымістычны агеньчык сапраўднай беларушчыны, які ў хуткім часе стаў больш яркім, адпавядаючым сваёй назве.*

*Вы праўдзіва паведалі многа цікавага пра цудоўны і прыгожы край Беларусі — Вілейшчыну, але добра, што не забыліся і пра агульнанацыянальныя падзеі. Дзякую Вам! Жадаю далейшага творчага ўздыму, нязменнага шчаслівага руху на шляху беларускасці, які дапаможа нам усім дайсці да сапраўднай беларускай Беларусі — незалежнай, дэмакратычнай, еўрапейскай, багатай краіны!»*

***2009***

## Вядомы музейшчык

У літаратурным музеі Якуба Коласа атрымаў кнігу Івана Курбекі «Запрашэнне ў музей», якую з асалодай «праглынуў». У лютым 2009 г. у «ЛіМе» прачытаў, што гэтая кніга вылучана на прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне журналістыкі. Вырашыў падтрымаць і напісаў кароткі водгук.

*«На прэмію ФПБ у галіне журналістыкі вылучана літаратурна-мастацкае выданне Івана Курбекі «Запрашэнне ў музей», якое падтрымліваю як арыгінальны выдатны твор. Іван Курбека — пісьменнік, вядомы беларускі «музейшчык», які больш за 50 гадоў працаваў у музеях класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.*

*У кнізе сабраны вельмі цікавыя ўспаміны, вершы, публіцыстычныя артыкулы аўтара, у якіх раскрыты многія малавядомыя «таямніцы», дэталі музейнай справы, апісаны сустрэчы з шэрагам выдатных пісьменнікаў і іншых вядомых людзей краіны, успаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, іх родных і блізкіх.*

*Кніга напісана жывой яскравай мовай, з вялікім гумарам, таму яна чытаецца на «адным дыханні». Сабраныя ў кнізе ўспаміны вельмі цікавыя і карысныя для самага шырокага кола чытачоў. З яе можна пазнаць многа новага пра сваякоў і блізкіх людзей беларускіх песняроў, пра вядомых пісьменнікаў, дзеячаў літаратуры, навукоўцаў.*

*Лічу, што Іван Курбека за кнігу «Запрашэнне ў музей» заслугоўвае прэміі ФПБ у галіне журналістыкі»*.

Успомніліся многія вечарыны (у тым ліку і на маё 70-годдзе), якія Іван Сцяпанавіч па-майстэрску праводзіў з глыбокім сэнсам і непаўторнай гумарыстычнай адметнасцю. Выдатны апавядальнік, гумарыст, імітатар валодаў аўдыторыяй бездакорна. Збіраючы выступленні і галасы многіх выдатных людзей, ён вельмі ўдала выкарыстоўваў гэтыя запісы на сустрэчах. Па ўменні цікава весці свае выступленні ён нечым нагадваў славутага Іраклія Андронікава, якога можна было слухаць гадзінамі.

Нечакана, на наступны дзень пасля дня гумару і смеху, 2 красавіка Іван Курбека пайшоў ад нас назаўсёды…

***2009***

# XVII Гарэцкія чытанні

Чытанні адбыліся 9 красавіка 2009 г. у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры і прысвечаны былі Году роднай Зямлі. Калі ўрад абвясціў 2009 год Годам роднай зямлі, у прэсе з'явіліся крытычныя заўвагі, што пра родную зямлю трэба думаць увесь час, а не толькі ў нейкі адзін год. Гэта, безумоўна, так, але ніхто ніколі не быў супраць Году маці ці Году роднай мовы, як быццам пра маці і пра родную мову не трэба думаць і шанаваць іх увесь час, кожны год без перапынку. І ўсё ж гэткія спецыяльна прызначаныя гады патрэбны, каб менавіта падкрэсліць такія вельмі важныя для любога чалавека паняцці, аб якіх асабліва трэба дбаць увесь час, як родная зямля, родная маці, родная мова. Сярод беларусаў мала хто адрокся ад роднай зямлі, хаця абыякавасць да яе ўжо ў многіх з'явілася, што прыводзіць да гвалту над прыродай, а вось родную мову шмат людзей на Беларусі забылася, а некаторыя нават пагарджаюць ёю. А без роднай мовы родная зямля губляе прывабнасць, сілу і любоў.

Родную зямлю вывучаюць многія навукі з розных бакоў, а іх шмат, бо зямелька наша вельмі разнастайная ў сваіх праявах, бязмерная, на ёй жывуць людзі і жывёлы, расце ўся расліннасць, яе ўпрыгожваюць цудоўныя рэкі і азёры, журавінныя балоты і зялёная рунь палёў, гарады і вёскі з такой трапнай тапанімікай — значыць, увесь свет, усё жыццё, у тым ліку культура, літаратура, навука, звязаны з роднай зямлёю.

Трэба дадаць, што Беларусь — багатая еўрапейская краіна. Па ўсіх галоўных паказчыках яна ўваходзіць у першую дзясятку з амаль 50 краін Еўропы. Мне заўсёды вельмі непрыемна чуць, калі многія кіраўнікі дзяржавы гавораць аб тым, што Беларусь вельмі бедная на прыродныя рэсурсы. Мы маем шмат розных карысных выкапняў — дастаткова ўспомніць калійныя солі (іх радовішча займае трэцяе месца ў свеце, і дзяржава атрымлівае за іх прыбытку да трох мільярдаў даляраў), спажы-

вецкія солі (якімі можна накарміць увесь свет), мінеральныя і прэсныя воды, нафту, гаручыя сланцы, будаўнічыя матэрыялы і інш. Урадлівыя глебы, мяккі клімат, лясы, цудоўныя краявіды, працавіты народ з багатай культурай, літаратурай, фальклорам — да ўсяго гэтага дадаецца геаграфічнае знаходжанне ў цэнтры Еўропы на скрыжаванні многіх дарог. Нездарма такі прывабны кавалачак Зямлі Бог пакідаў для сябе…

Вядома, роднай зямлёй найбольш пільна займаюцца геолагі, якія вывучаюць яе склад, будову, паходжанне, развіццё на працягу мільёнаў гадоў… Вось тут яскрава бачна нелагічнасць рашэнняў беларускага ўрада і кіраўніцтва НАН Беларусі: з аднаго боку, абвяшчаюць 2009 год Годам роднай Зямлі, а з другога — папярэдне ліквідуюць адзіны, самы прафесіянальны і моцны інстытут у галіне навук аб Зямлі — Інстытут геахіміі і геафізікі, амаль поўнасцю (апрача 20 чалавек) пераводзяць яго супрацоўнікаў у Міністэрства прыроды, а НАН Беларусі пакідаюць без такога найважнейшага напрамку, як геалогія, хаця ў большасці акадэмій розных краін свету ёсць не толькі інстытуты, але і асобныя аддзяленні навук аб Зямлі.

Максім і Гаўрыла Гарэцкія бязмежна любілі родную зямлю, сваю Бацькаўшчыну ва ўсіх яе праявах. Як ні дзіка гучыць, але менавіта за любоў да сваёй роднай зямлі, беларускага народа, роднай мовы (а гэта і ёсць з погляду бальшавікоў сапраўдная «нацдэмаўшчына») абодва браты пакутавалі ў ГУЛАГу, а Максім нават быў расстраляны.

Максім Гарэцкі больш пісаў пра людзей, але часта, каб падкрэсліць стан душы чалавека, выдатна апісваў прыроду і яе з’явы — то радасныя, яркія, сонечныя, то змрочныя, цёмныя, навальнічныя, на жаль, часцей прыйшлося пісаць апошнія. Нядаўна я праслухоўваў аўдыёкнігу «На імперыялістычнай вайне» ў цудоўным выкананні Алега Вінярскага. Звярнуў увагу ў раздзеле «Пачатак», што робіць герой твора, знаходзячыся ў заклапочаным стане з-за вэрхалу пачатку франтавых дзеянняў: *«кінуў я весь клопат і пайшоў на бераг Нёману. Шчыпаў там*

*у кустах арэхі, знайшоў колькі ягадзінак, спазнелых сунічак, любаваўся з высокага берагу на прыгожую Нёманаву вадзіцу. Было тут ціха і супакойна — і не хацелася ні аб чым думаць»*.

Гаўрыла Гарэцкі асабліва дасканала вывучаў самую верхнюю геалагічную частку роднай зямлі, яе рэльеф, геамарфалогію, ландшафты, узгоркі і даліны, валуны, аб’ездзіў яе ўдоўж і ўпоперак. А калі яму прыйшлося вывучаць землі другіх мясцін, што працягвалася больш чым 30 гадоў, дык ён заўсёды параўноўваў тыя месцы з роднымі і вельмі радаваўся, калі дзе-небудзь у тундры, тайзе ці стэпе бачыў нешта падобнае да беларускай зямлі, і асабліва да багацькаўскай, бо Беларусь, яго родная зямля ўвесь час жылі ў сэрцы Гарэцкага. Тады ён прыходзіў у вялікае захапленне, рабіўся шчаслівы, бо яму здавалася, што ён тым самым як бы набліжаецца ці ўжо знаходзіцца на роднай зямельцы.

Вось некалькі вытрымак з яго лістоў да жонкі: *«27.VII.1948. ...часам быў так рад, аглядаючы бязмежныя прасторы стэпу, нагорныя берагі Дону, дубовыя ляскі, равы, такія ласкавыя краявіды, нагадваючыя Беларусь»*.

*«3.VII.1953. Елабуга на Каме... Тут вельмі прыгожа. Сасновыя лясы, як зачараваны храм, і паветра ў лесе дзіўнае, чыстае, чыстае. Краявіды маляўнічыя. Добрыя тут сенажаці. Шмат што нагадвае Беларусь»*.

*«16.VII.1958. Кіеў. ...Дзівіўся на прыгажоства краявідаў паўночнай Украіны, куды мілейшых і больш блізкіх беларускаму сэрцу, чым краявіды паўднёвай Украіны»*.

***2009***

## На здымках фільма

У красавіку 2009 г. студыя «Летапіс» «Беларусьфільма» вырашыла зрабіць дакументальны фільм пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага (рэжысёр Ала Вольская). Яны вялі здымкі ў час XVII Гарэцкіх чытанняў у Дзяржаўным музеі гісторыі

беларускай літаратуры, а пазней у Дзяржаўным музеі-архіве літаратуры і мастацтва, у маёй кватэры, дзе размова была з Міхасём Мушынскім і мной, і, нарэшце, у Мсціславе, Багацькаўцы (Малой і Вялікай), Курманаве, Горках.

Мяне вельмі здзівіла, што ўдзельнікі групы размаўляюць толькі па-руску, хаця ўсе яны беларусы, а сама Ала з вёскі Ваўкавыск (на Чэрвеньшчыне), вучылася ў школе каля Карпілаўкі, нядаўна выдатна скончыла Акадэмію мастацтваў. Аператар і гукааператар таксама з вышэйшай адукацыяй, даўно працуюць у Беларусі. Група, безумоўна, вельмі кваліфікаваная, адданая сваёй працы, здольная выпускаць добрыя беларускія фільмы. Але якія ж беларускія фільмы без роднай мовы? Калі я ў Алы спытаўся, чаму так, яна адказала: «У нас усе размаўляюць па-руску і я прызвычаілася, ды і думаю я па-руску. Таму мне так лягчэй, хаця я чытаю і добра разумею беларускую мову». Вось да чаго давяла дзяржаўная антынацыянальная палітыка, якая зусім выціснула этнічную самасвядомасць у яе тытульнага народа! Нават такія прадстаўнікі культуры, якія па прызначэнні павінны несці беларускасць у масы, ужо не могуць гэта рабіць (ці баяцца начальства?).

Для мяне найбольш цікавым з усяго была паездка на радзіму братоў Гарэцкіх, на Мсціслаўшчыну. З вялікім замілаваннем хадзілі па спакойным прыгожым старажытным Мсціславе з яго выдатным замчышчам і іншымі помнікамі архітэктуры (які залаты кладзеж для турызму!), вялі цікавыя здымкі, у тым ліку і на вуліцы Максіма Гарэцкага.

У Горках адзнялі карпусы Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і дом, у якіх некалі жылі, вучыліся і выкладалі браты Гарэцкія, прыгожыя алеі парку, па якіх яны хадзілі… Прыемная сустрэча адбылася ў Горацкай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Гарэцкага з яе калектывам на чале з сімпатычнай беларускамоўнай дырэктрысай Наталляй Ермалаевай. Ужо некалькі гадоў яны праводзяць сустрэчы, прысвечаныя жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага, пад назвай «Вялікі чалавек з Малой Багацькаўкі».

Вялікі сум ахапіў ад наведвання Багацькаўкі (адна назва на геаграфічных картах, а на самай справе ёсць шыльды каля дарогі абедзвюх вёсак — Малая і Вялікая). У Малой Багацькаўцы, у якой яшчэ адносна не так даўно было 40 хат, засталося толькі 8, а жыхароў у іх 13. З радні жыве нявестка маёй стрыечнай сястры Клаўдзіі Іванаўны Шнарскай — Лідзія (зусім хворая, не можа хадзіць) і з ёй яе сын Віктар з жонкай. Яны самыя маладыя і даглядаюць музей, іншыя жыхары — усе пенсіянеры. У Вялікай Багацькаўцы 13 хат і 19 чалавек (раней яшчэ ў 60-я гг. мінулага стагоддзя было 30 хат і больш за 60 чалавек). Бацька і маці братоў Гарэцкіх і ўсе родныя ўжо на могілках… Яны знаходзяцца паміж Малой і Вялікай Багацькаўкай, а недалёка насупраць іх — разбураны будынак былой школы…

У музеі-сядзібе Максіма Гарэцкага, якая адміністрацыйна належыць Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры і ў якой да 115-годдзя пісьменніка аднавілі экспазіцыю, нас сустрэла загадчыца музея Марыя Аляксандраўна Пляшкова. Яна жыве ў вёсцы Курманава, дзе раней працавала загадчыцай Дома культуры, а цяпер сама добра праводзіць экскурсіі па музеі, які хаця і не надта часта (бо да гэтага часу не ўвайшоў у пералік турысцкіх маршрутаў), але наведваюць школьнікі, студэнты, настаўнікі школ і ВНУ, жыхары Магілёўшчыны, Мінска, Санкт-Пецярбурга, Смаленска, Варшавы і інш.

Прывяду некалькі запісаў з кнігі наведвальнікаў.

*«Божа, пашлі на кожнае пакаленне беларусаў па сям'і Гарэцкіх! 19.11.1993. У. Паўлаў, С. Законнікаў»*.

Рукой Янкі Брыля: *«Удзельнікі Гарэцкіх чытанняў, мы яшчэ раз наведалі родную вёску Гарэцкіх, каб адкрыць мемарыяльную дошку на хаце, з якой вылецелі ў свет два волаты роднай літаратуры і нашай навукі, браты Максім і Гаўрыла Іванавічы, годнасць і слава Беларусі. Хай свеціцца і свеціць іх імёны! 19 лютага 1994 г.»*. Ніжэй — 23 подпісы.

Рукой Міхася Мушынскага: *«Удзельнікі чацвёртых Гарэцкіх чытанняў у Горках нізка схіляюць галовы перад вялікім сынам*

*Зямлі Беларускай — Максімам Гарэцкім, які пражыў сваё жыццё ў няспынных клопатах пра свой народ, яго будучыню і верыў у Нацыянальнае Адраджэнне роднай Беларусі. Няхай жа памяць пра вялікага пакутніка вечна жыве ў сэрцах усіх людзей, каму дарагі лёс нашай Айчыны. 18 лютага 1995 г.»* Ніжэй — 22 подпісы.

*«З вялікім задавальненнем і вялікім сумам мы наведалі музей класіка беларускай літаратуры нашага земляка Максіма Гарэцкага. Мы як бы зазірнулі ў наша мінулае, убачылі, як сціпла і проста жыла вялікая сям'я Гарэцкіх.*

*Мы вельмі ўдзячны родзічам выдатнага пісьменніка за тое, што яны так шчыра дзеляцца сваімі ўспамінамі аб славутым сыне зямлі беларускай Максіме Гарэцкім. Дзякуй усім тым, хто прымаў удзел у зборы матэрыялаў гэтага музея. Жадаем поспехаў і здароўя!*

*Вучні і настаўнікі Копцеўскай СШ Горацкага р-на Магілёўскай вобласці. 31 кастрычніка 1995 г.»*

*«Максім Гарэцкі — адзін з самых выдатных пісьменнікаў не толькі Беларусі, але і ўсёй Еўропы. Яго шчырасць, дасведчанасць, шырокае літаратурнае мысленне, непараўнальнае адчуванне беларускай мовы дазволілі яму заняць унікальнае месца ў нашай літаратуры. Ён — адзін з тых стваральнікаў айчыннай літаратуры, якім ганарацца чытачы XXI ст. і якія могуць адчуць, чым бы стала наша культура, калі б не жудасны генацыд інтэлігенцыі 30-х гадоў. Гэтыя ўрокі нас заўсёды павінны папярэджваць. Нізкі паклон музею і яго заснавальнікам. 1.07.2007 г. А. Вінярскі — рэжысёр Белрадыё. А. К. Пекае — аўтар і вядучы праекта «Роднае слова», А. Калечыц — кандыдат філал. навук».*

***2009***

# Зноў пра родную мову

21 траўня 2009 г., збіраючыся на працу, глядзеў перадачу беларускага канала АНТ «Наше утро», на якую быў запрошаны амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан. Вядучыя Люся Лушчык і Валерый Кашчэеў карысталіся, як заўсёды, рускай мовай, а Люся з шырокай усмешкай, якая здалася яхіднай, спытала амбасадара: «Вы, конечно, будете говорить по-белорусски?». Ён на ўсе пытанні адказваў на добрай беларускай мове. Зноў, як ужо не першы раз, зрабілася вельмі сорамна і прыкра. Калі і далей будзе працягвацца такая антыбеларуская моўная палітыка сучаснай улады, Беларусь як беларуская дзяржава можа знікнуць. Дзе ў свеце можна знайсці такую краіну, каб у яе сталіцы не пачуць ад жыхароў на вуліцы ніводнага слова на роднай мове? Нідзе ў свеце няма нацыянальнага тэлебачання, на якім рэдка пачуеш родную гаворку. Тое ж можна сказаць пра ўсю чыноўніцкую вертыкаль (уключаючы міністраў культуры, адукацыі, інфармацыі, кіраўнікоў Нацыянальнай акадэміі навук), пра дзяржаўныя газеты, аб'явы на вуліцах і г. д. За гутарку на беларускай мове чалавек трапляе ў ранг «апазіцыянераў», БНФ ці нават «ворагаў народа». За апошнія 15 гадоў краіна атрымала такі магутны антыбеларускі прэсінг, асабліва ў галіне культуры, адукацыі (зусім няма беларускамоўных ВНУ, садкоў, скарачаюцца школы, выданні кніг на беларускай мове і г. д.), што па інтэнсіўнасці гэтага працэсу сённяшняй беларускай уладзе маглі б пазайздросціць нават расійская імператрыца Кацярына і яе служка генерал-губернатар Мураўёў. Чаму яны знішчалі ўсё беларускае? Таму што калі да роднай Зямлі далучаецца родная мова, то ўзнікае вялікая роднасць людзей гэтай Зямлі, у іх узбуджаецца нацыянальная самасвядомасць, яны робяцца сапраўднымі патрыётамі і іх моц непераможная. Вельмі патрэбныя аб'яднанні, такія, як Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і інш., а таксама культурна-асветныя

рухі («Будзьма», «Беларускі дом» і інш.) не могуць карэнным чынам змяніць працэс манкуртызацыі насельніцтва без змены дзяржаўнай палітыкі.

У апошні час шэраг партый і рухаў дэмакратычных сіл усё часцей пераходзяць на рускую мову («каб большасць людзей прачытала і зразумела»). Але сучасны стан беларускай мовы і наогул беларушчыны патрабуе, каб яны сталі галоўным у сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі, у змаганні за сапраўдную беларускую Беларусь. Страшна падумаць, што беларуская мова ўжо афіцыйна значыцца ў «Чырвонай кнізе моваў» ЮНЕСКА. Ратаваць родную мову — абавязак кожнага беларуса! Хітрыя лозунгі апошніх гадоў ідэолагаў урада тыпу «За Беларусь», «Мы — беларусы!», «Наша краіна Беларусь!» і інш. — гэта тыповая дэмагогія, бо не падмацаваны ні адным крокам дзяржавы… Трэба зразумець, што нават незалежная, дэмакратычная, эканамічна багатая дзяржава без беларушчыны — гэта яшчэ не Беларусь.

*2009*

## Дачны вартаўнік

Ужо некалькі гадоў на нашай дачы мы заўважаем адну і тую ж варону, якая прыжылася каля нас. Асабліва яна пасябравала з маёй жонкай Галяй. Як толькі яна выходзіць у сад, амаль тут жа з'яўляецца наша варона і пачынае непадалёку круціцца: то сядзе на край страхі, то на суседнюю яблыню, то паходзіць па ўскрайку гарода, прычым робіць гэта часцей моўчкі, а калі ўбачыць, што няма ад Галі ніякай рэакцыі, дык зрэдку каркне, як быццам просіць кінуць што-небудзь смачнае. І праўда, як толькі Галя кіне ёй ці проста ў смяцярку костачку ад куркі, кавалачак сыру, хлеба, варона хапае тое, што ёй спадабаецца, і нясе ў лес.

Калі прылятаюць іншыя вароны, пачынаецца гвалт: наша варона праганяе чужакоў, яны ганяюцца адна за адной, б'юцца

і гучна каркаюць. Досыць хутка робіцца зноў ціха, і дачная варона горда ходзіць каля саду, адчуваючы сябе пераможцай.

Аднойчы раніцою мы прачнуліся ад страшэннага шуму: варона так крычала-каркала, што аж заходзілася ад шаленства, а знізу чулася не менш жахлівае мяўканне. Аказалася, у мяшок з аб'едкамі, які вісеў на сценцы хаты, залез кот, і пачалася сапраўдная бойка. Варона, як быццам выдатная вучаніца ястраба, узлятала ўгару і каменем кідалася ўніз на ката, а той ад жудасці дзіка мяўкаў і круціў кіпцюрнымі лапамі, зваліўшыся на спіну. Кот упарта змагаўся і не адыходзіў, бо вельмі ж яму хацелася адшукаць што-небудзь смачнае. Барацьба ішла хвілін дзесяць. Нарэшце кот, падціснуўшы хвост і адвярнуўшы пыску, збег, а наша варона, узняўшы з гонарам дзюбу ўгару, зноў спакойна ўселася на край страхі. Вось такі ў нас на дачы выдатны вартаўнік.

*2009*

## Холад смерці

Холад смерці па-сапраўднаму адчуваеш, калі прыходзіцца назаўсёды развітвацца і апошні раз цалаваць зусім халодны твар самых родных людзей — бабулі, дзеда, мамы, таты, сястры, брата… Даўно ўжо няма дзеда і бабулі. Няма і таты, і мамы… І вось 25 красавіка 2009 г. у Маскве памёр мой старэйшы брат Усяслаў, а 28 красавіка быў на яго пахаванні… Страшэнная страта, якая пакінула не толькі глыбокі шрам у сэрцы і сум у душы, але і бясконцую думку аб ім, якая ўвесь час варочаецца і не дае спакойна жыць… Нават вельмі шчырыя і цёплыя словы калег па працы Усяслава («класік педагогікі», «80% дзетак Расіі вучацца па буквару Гарэцкага», «лепшы натхніцель настаўнікаў Расіі», «выдатны настаўнік настаўніцтва» і г. д.), якія было прыемна слухаць, не прыносілі палёгкі. Жыць заўсёды неяк спакайней і больш упэўнена, калі наперадзе жыве старэйшы родны чалавек, асабліва бацька, мама і нават

брат. Калі ўжо і іх няма, прыходзіць адчуванне, што жыццё вылучыла цябе на пярэдні край, і ты цяпер стаіш першым перад бязмернай безданню і прыкрываеш усіх тых родных, блізкіх, якія ідуць па жыцці за табой, больш маладыя, і адчуваеш таму яшчэ большую адказнасць за іх…

*2009*

## «Повезло»…

Калі ў царкве, якая стаіць на высокім крутым беразе ракі Чачэнка (прытоку ракі Масква) каля могілак у пасёлку Рамашкава на ўскраіне Масквы, адпявалі майго старэйшага брата Усяслава, адна багамольная жанчына падышла да мяне і з радасцю і нават зайздрасцю сказала: «Как повезло Вашему брату: умер в пасхальные дни и похоронен на Радуницу!»

У гэты прыезд у Маскву я вырашыў звярнуцца па кансультацыю ў Расійскі анкалагічны навуковы цэнтр імя М. М. Блахіна наконт анкалагічнага захворвання, якое раней знайшлі ў мяне. Прафесар, які ўважліва агледзеў мяне, упэўнена і бадзёра паведаў: «Вам повезло: из всех раков у вас самый лучший!»

Чалавеку заўсёды можа пашанцаваць, нават і ў смерці, і ў хваробе…

*2009*

## Два жыцці Адрыяна Македонава

Дваццатае стагоддзе, у якое цалкам уваходзіць 85-гадовае жыццё Адрыяна Уладзіміравіча Македонава (1909–1994), вылучаецца многімі падзеямі (дзве сусветныя вайны, рэвалюцыі, бальшавіцка-сталінскія рэпрэсіі і інш.), якія мелі лёсавызначальны ўплыў на краіны, народы і асобы. Гэтыя экстрэмальныя падзеі нярэдка поўнасцю ламалі ці рэзка мянялі жыццёвы шлях многіх людзей. Такі пералом атрымаўся і ў лёсе Македонава, які меў як бы два жыцці: адно — літаратара, другое — геолага.

Нягледзячы на ўсе самыя неспрыяльныя абставіны і вялікія цяжкасці, ён змог унесці выдатны ўклад у гэтыя дзве значна далёкія адна ад адной галіны ведаў.

Мне асабліва блізкі і зразумелы ўсе складанасці, якія адбываліся з Македонавым, бо аналагічны лёс насціг майго бацьку Г. І. Гарэцкага і цалкам адбіўся і на мяне. Блізкія лёсы склаліся і ў такіх выдатных геолагаў XIX ст., як Ігнат Дамейка і Іван Чэрскі, якія сталі геолагамі толькі пасля іх ссылкі. А колькі менш вядомых людзей з падобнымі лёсамі!

А. У. Македонаў нарадзіўся ў Смаленску. Яго ўзгадавала маці, якая працавала настаўніцай ангельскай і нямецкай моў, і бабуля, бо бацька пакінуў сваю сям'ю адразу пасля нараджэння сына, а айчым памёр у час грамадзянскай вайны. Дзіцячыя і юнацкія гады Македонава прыйшліся на вельмі няпростыя рэвалюцыйныя часы, якія пакінулі ў эмацыйнага маладога чалавека вялікія ўражанні.

У Смаленску на два гады пазней Македонава (у 1911 г.) нарадзіўся мой навуковы настаўнік — будучы акадэмік А. Л. Яншын[1], а ў 1917–1919 гг. там жыў мой родны дзядзька — беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі і будучы народны паэт Беларусі Янка Купала. У 1918 г. тут працаваў і мой бацька, які прыехаў да брата. Адрыян Македонаў і Саша Яншын вучыліся ў вопытна-паказальнай школе пры педагагічным факультэце Смаленскага ўніверсітэта, якую першы скончыў у 1925 г., а другі — у 1928 г. Магчыма, яны сустракаліся тады адзін з адным.

Рэвалюцыя прынесла ў Смаленск вялікія цяжкасці насельніцтву, якое жыло ў бесперапынным страху. У смаленскіх газетах кожны дзень друкаваліся спісы выяўленых «представителей имущих классов», якіх прыгаварылі да расстрэлу: гарадавых, урачоў, настаўнікаў, афіцэраў, фінансістаў, студэнтаў і інш. Асабліва дзікія бясчынствы адбываліся ў вёсках. Усё было ахутана страхам, дэмагогіяй, хлуснёй, хамствам,

[1] Гарецкий Р. Г. Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг. — М. : Наука, 2005. — 192 с.

неразбярыхай… У лісце да свайго сябра Янка Купала напісаў: «Там, жывучы ўвесь цяжкі і жуткі 1918 г., я папраўдзе быў як у непрытомным стане».

Маці Адрыяна Кацярыну Львоўну ў 1921 г. арыштавалі, але хутка выпусцілі. Бацька А. Л. Яншына быў вядомым у Смаленску юрыстам (з 1924 г. нават старшынёй калегіі адвакатаў), таму іх сям'я аказалася ў асабліва цяжкім стане. Увосень 1927 г. ноччу бацьку і маці Яншына арыштавалі, пратрымалі ў турме больш за два месяцы, а ў снежні без усякіх тлумачэнняў выпусцілі. Пасля гэтага сям'я Яншыных ужо на наступны год пераехала ў Маскву.

Адрыян Уладзіміравіч вучыўся ў педагагічным тэхнікуме ў Алексіне, у 1930 г. скончыў аддзяленне мовы і літаратуры педагагічнага факультэта Смаленскага ўніверсітэта, а затым аспірантуру па спецыяльнасці «Руская літаратура» пры Смаленскім педагагічным інстытуце, які быў ператураны з універсітэта.

Македонаў стаў прыкметным літаратуразнаўцам і крытыкам, а з 1934 г. членам Саюза пісьменнікаў. За светлы розум, шырокія веды і любоў да філасофіі і дыскусіяў А. У. Македонава нават празвалі Сакратам.

Бальшавіцка-сталінскі рэжым асабліва пасля года «великого перелома» (1929) ствараў у краіне злавесную атмасферу недаверу, страху, данасіцельства. Неабходным элементам стала «критика и самокритика», якая практычна ператваралася ў грамадскае бічаванне іншых і ў самабічаванне. Падазронасць выклікалі не толькі погляды, выказаныя ў артыкулах ці выступленнях, але і паходжанне, прозвішча, радство і г. д. Многім творчым працаўнікам, асабліва літаратарам, у артыкулах абавязкова для падтрымкі сваіх думак прыходзілася рабіць спасылкі не толькі на Леніна і Сталіна, але і на іншых так званых «вождей» партыі. Да іх, у прыватнасці, адносіліся Бухарын, Троцкі і інш. Але тыя перыядычна з «вождей» ператвараліся ў «врагов народа» і таму зробленыя раней спасылкі на іх аказаліся вялікай крамолай. Да любога чалавека можна

было прычапіцца і выкрыць яго ў няправільным разуменні «линии партии». У літаратараў асабліва востра ўспрымалася крытыка ці нават любыя негатыўныя выказванні адносна іх твораў, выклікаючы глыбокую крыўду, а тут яшчэ дабаўляліся пачуцці зайздрасці, кар'ерызму… Асабліва пакутавалі людзі таленавітыя, чэсныя і сумленныя, якім таксама прыходзілася апраўдвацца ў нечым і зрэдку нават выказвацца не зусім добра пра іх «абвінавацеляў», што нярэдка перарастала ў кепскія адносіны і нават адкрытую варожу.

А. У. Македонаў пасябраваў з пачынаючым таленавітым паэтам А. Т. Твардоўскім — будучым класікам рускай літаратуры, які вельмі цаніў значныя веды, праніклівы розум з філасофскім нахілам Адрыяна Уладзіміравіча і таму жартам называў яго Сакратам і «сваім універсітэтам», а пазней адзначыў: «Как поэт, во многом обязан ему своим творческим развитием»[1]. У першай палове 30-х гг., калі А. Т. Твардоўскі падпаў пад злосныя нападкі і паклёп як «кулацкі паэт», што мела характар палітычных абвінавачанняў, Македонаў смела выступіў у абарону свайго сябра і лепшага савецкага паэта.

А. У. Македонаў пісаў настолькі цікавыя артыкулы, што быў адзіным сярод смаленскіх літаратурных крытыкаў, хто шмат друкаваўся ў шэрагу маскоўскіх часопісаў. Яны былі прысвечаны творчасці Пушкіна, Бялінскага, Гогаля, Чарнышэўскага, Дабралюбава, многіх савецкіх і замежных пісьменнікаў. Як і большасць смаленскіх пісьменнікаў, Адрыян Уладзіміравіч уступіў у РАПП (Расійская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў), генеральным сакратаром якой быў пляменнік Л. Д. Троцкага Л. Л. Авербах (адначасова рэдактар смаленскай газеты «Рабочий путь», член бюро абкама УКП(б)). Македонаў стаў сакратаром РАПП Заходняй вобласці — адзінай масавай літаратурнай арганізацыі Смаленска. Авербах у 1937 г. быў

---

[1] Македонов А. В. Эпохи Твардовского; Баевский В. С. Смоленский Сократ; Илькевич Н. Н. Дело Македонова. — Смоленск : ТРАСТ-ИМАКОМ, 1996. — 448 с.

арыштаваны, праз тры месяца расстраляны, у 1961 г. рэабілітаваны. Пачаліся ганенні на «агентов троцкистско-авербаховской банды в литературе». У іх лік перш-наперш трапілі Твардоўскі і Македонаў. З'явіліся шматлікія даносы пісьменніка В. Е. Гарбаценкава, прайшлі пасяджэнні актыву пісьменнікаў горада. Хмары згушчаліся. Да таго часу Македонаў скончыў аспірантуру і напісаў кандыдацкую дысертацыю «Проблемы героя в эстетике Белинского», абарону якой прызначалі на ліпень 1937 г. у Маскоўскім педагагічным інстытуце імя Бубнова. Пасля пачатку пасяджэння вучонага савета яго сакратар раптам абвясціла, што абарона адмяняецца. *«...видимо, кто-то сообщил о начавшейся проработке Македонова в Смоленске, и в последнюю минуту, когда уже собрались и оппоненты и желавшие присутствовать молодые исследователи, защита была отложена»*[1].

1 жніўня 1937 г. Македонаў быў арыштаваны. Быў выдадзены ордар і на арышт Твардоўскага, аднак ён, даведаўшыся пра арышт свайго сябра, тэрмінова з'ехаў у Маскву. Да таго часу яго «Страну Муравию», якую крытыкавалі за спрыянне да кулакоў, прачытаў сам Сталін і пахваліў паэму. Сітуацыя ў адносінах да Твардоўскага рэзка змянілася, але справа Македонава набыла новую сілу. 9 лютага 1938 г. ён быў асуджаны і сасланы ў Варкуту. Кацярына Львоўна Македонава паўсюль заяўляла пра невінаватасць сына іўсяляк дабівалася палягчэння яго стану. 26 ліпеня 1938 г. яна была арыштавана і па прыгавору «тройкі» праз месяц расстраляна.

Новае жыццё А. У. Македонава пачалося ў смаленскай турме, перасыльных пунктах, цяжэйшых этапах і, нарэшце, у Варкуцінскай ссылцы ў атмасферы бясконцай знявагі, несправядлівасці, бяспраўя, не толькі маральных здзекаў, але і фізічных цяжкасцяў. Яго паслалі на агульныя работы (падсобныя, зем-

---

[1] Македонов А. Воркута ты Воркута // Распятые. Писатели — жертвы политических репрессий. — Вып. 4. От имени живых… — СПб. : Отделение изд-ва «Просвещение», 1998. — С. 141.

ляныя, пагрузачныя, уручную круціць вентылятар у вугальнай шахце, лагерным асенізатарам і інш.). Адрыян Уладзіміравіч па натуры быў чалавекам жыццелюбівым, валодаў пачуццём гумару і заўсёды называў сябе «умеренным оптимистом». Таму ўсе цяжкасці, якія трапілі на яго долю, змог пераадолець і праз 8 з паловай гадоў зноў апынуўся на волі, не згубіўшы любові да людзей, жыцця, творчасці.

Як бывае ў жыцці, калі чалавек трапляе ў крытычны момант і павінен выбраць новую прафесію, з’яўляецца спецыяліст, які робіцца яго настаўнікам і садзейнічае авалоданню новымі ведамі. Для Македонава такім чалавекам стаў вядомы геолаг і арганізатар навукі Канстанцін Генрыхавіч Вайноўскі-Крыгер. Скончыўшы курсы калектараў, Адрыян Уладзіміравіч авалодаў літалагічнымі даследаваннямі, працуючы на розных пасадах у геолагаразведачных партыях і лабараторыях геолагаразведачнага ўпраўлення камбіната «Варкутавугаль» і трэста «Пячоравугальгеалогія» і інш., стаў адным з вядучых літолагаў-вугальшчыкаў. Завочна скончыўшы ў 1950 г. геаграфічны факультэт Саратаўскага ўніверсітэта, ён паступіў у аспірантуру Геалагічнага сектара Інстытута геалагічных навук АН СССР (пазней з гэтага сектара быў створаны самастойны Геалагічны інстытут).

У 1952 г. я быў прыняты на працу да А. Л. Яншына ў аддзел тэктонікі, якім, як і ўсім сектарам, кіраваў акадэмік М. С. Шацкі. Усімі стратыграфічнымі даследаваннямі кіраваў У. В. Менер, а літалагічнымі — М. М. Страхаў. Тады я пазнаёміўся з Адрыянам Уладзіміравічам, які час ад часу прыязджаў у наш інстытут для кансультацый, здачы экзаменаў ці для ўдзелу ў семінарах аддзела літалогіі. Ён быў адносна невысокі, сярэдняга складу, але з вельмі выразным тварам: высокім «сакратаўскім» ілбом, яскравымі шэра-зялёнымі вачыма, з разумным уважлівым позіркам. М. М. Страхаў — строгі, салідны, знешне суровы, а ў той час яшчэ трошку раздражнёны пасля цяжкай для яго вядомай «літалагічнай дыскусіі» пры сустрэчы выклікаў у

многіх супрацоўнікаў і прыезжых геолагаў нейкі страх і баязлівасць. Але ў адносінах да Македонава відна было поўнае ўзаемаразуменне і добразычлівасць, прычым аспірант адчуваў сябе зусім упэўненым, спакойна і незалежна. Яго працы выклікалі вялікую цікавасць у М. М. Страхава, які звярнуў на іх увагу яшчэ з часоў геалагічнай канферэнцыі ў 1948 г., дзе Македонаў зрабіў даклад аб заканамернасцях распаўсюджання канкрэцый у розных фацыях вугляноснай світы Пячорскага басейна і аб сувязі адпаведнага тыпу канкрэцый з магутнымі пластамі вугалю. Таму Страхаў і ўзяў яго ў аспірантуру, бо да выбару кандыдатаў падыходзіў вельмі строга.

У 1954 г. у адносна невялікай зале інстытута адбылася абарона кандыдацкай дысертацыі Македонава на тэму «Канкрэцыі варкуцінскай світы (вопыт скарыстання канкрэцый дзеля вывучэння ападкавых тоўшчаў». Абарона прайшла паспяхова: Адрыян Уладзіміравіч ясна выказаў сутнасць працы, добра адказваў на шматлікія пытанні, ва ўсіх прысутных дысертацыя выклікала поўную падтрымку.

У далейшым, калі Македонаў стаў супрацоўнікам Лабараторыі вугалю АН СССР, а пазней УСЕГЕІ, дзе ў 1965 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Вугляносная фармацыя Пячорскага бассейна (вопыт комплекснага даследавання ападкавай фармацыі)», ён ніколі не парываў сувязі з літолагамі ГІНа, якія яго высока цанілі як даследчыка і чалавека, заўсёды шчыра сустракалі ў сябе ў інстытуце, а таксама на розных нарадах. Пра яго працы з вялікай пахвалой адгукаліся не толькі вядучыя літолагі ГІНа (М. М. Страхаў, І. В. Хворава, Г. І. Бушынскі, У. М. Холадаў і інш.), але і вучоныя іншых напрамкаў навукі (М. С. Шацкі, А. Л. Яншын, М. П. Хераскаў і інш.). Асабліва блізкі ён быў з літолагамі-вугальшчыкамі: У. С. Яблакавым, П. П. Цімафеевым, Л. І. Багалюбавай і інш.

А. У. Македонаў пакінуў глыбокі след у многіх напрамках: літалогіі, геахіміі, палеагеаграфіі, фацыяльным і фармацыйным

аналізах. Асабліва знакаміты яго даследаванні канкрэцый; ён распрацаваў канкрэцыйны аналіз і вучэнне аб канкрэцыйных комплексах.

У 90-я гг. мінулага стагоддзя я пасябраваў з нашым земляком — начальнікам цэнтра грамадскіх сувязяў упраўлення Федэральнай службы бяспекі РФ па Смаленскай вобласці падпалкоўнікам М. М. Ількевічам, які пазней выйшаў у адстаўку, стаў літаратуразнаўцам, галоўным рэдактарам часопіса «Годы». Ён вывучаў справы многіх рэпрэсіраваных літаратараў Смаленшчыны і Беларусі. Па яго запрашэнні я пабываў у Смаленску, дзе Мікалай Мікалаевіч пазнаёміў мяне з цікавымі людзьмі, сапраўднымі інтэлігентамі Аляксеем Аляксандравічам Забеліным і Вадзімам Саламонавічам Баеўскім, якія добра ведалі А. У. Македонава.

Я тады ад іх пачуў многа цёплых слоў пра талент, мужнасць, цвёрдую грамадскую пазіцыю А. У. Македонава ў яго смаленскі перыяд жыцця. Даведаўся, што, ужо стаўшы геолагам, ён не кінуў сваю літаратурную дзейнасць, пасябраваў з Баеўскім, да якога нярэдка прыязджаў у Смаленск. Ён працягваў пісаць пра Твардоўскага, Забалоцкага, Мандэльштама, Абрамава і інш.

А. У. Македонаў зацікавіўся адной з фундаментальных праблем прыродазнаўства — прынцыпам дысіметрыі — і на гэту тэму надрукаваў артыкулы: «Диссиметрия геологических процессов и тел» (1976), «Учение В. И. Вернадского о диссиметрии геологических объектов» (1986) і інш. Ён разам з В. Баеўскім задумаў перанесці прынцып дысіметрыі ў тэорыю літаратуры.

На мяне значнае ўражанне зрабілі многія дэталі пра першае жыццё літаратара А. У. Македонава, якія я пачуў ад маіх смаленскіх сяброў. Да гэтага я ведаў пра яго толькі як пра вядомага літолага-вугальшчыка. Я як бы ўвачавідкі адчуў трагічныя падзеі тых часоў. Калі галоўны рэдактар часопіса «Литология и полезные ископаемые» РАН У. М. Холадаў звярнуўся да мяне напісаць некалькі слоў да 90-годдзя А. У. Македонава, я адра-

зу згадзіўся, бо не мог не выказаць свайго захаплення гэтым выдатным талентам[1]. У галіне гісторыі і тэорыі літаратуры Македонаў пакінуў 6 кніг і каля 200 артыкулаў. Па геалогіі і асабліва па літалогіі ён надрукаваў 5 манаграфій і больш за 200 навуковых артыкулаў. А. У. Македонаў сваім жыццём і дзейнасцю паказаў, што такія людзі, як ён, могуць быць нязломнай глыбай чалавечага розуму і духу.

*2009*

## Пісаць ці не?

У наш час настолькі павялічылася інфармацыя, што яе цяжка стала ўспрымаць, а ўсёабдымна ведаць проста немагчыма. Тэлебачанне, радыё, інтэрнет, мабільнікі, газеты, часопісы, кнігі… а яшчэ ж ёсць тэатры, кіно, музеі, выстаўкі, розныя прэзентацыі і інш. — ахапіць немагчыма. Для мяне як навукоўца галоўным і самым важным застаюцца артыкулы і манаграфіі, але і іх колькасць настолькі вырасла, што прачытаць усё патрэбнае нават па тваёй досыць вузкай спецыяльнасці вельмі цяжка. У нашай рэчаіснасці эфектыўнасць навуковай дзейнасці звычайна ацэньваецца не столькі якасцю і значнасцю артыкула, а больш колькасцю надрукаваных прац, таму навукоўцы вымушаны часта друкаваць як мага больш артыкулаў, каб паказаць, што яны не дарма атрымліваюць грошы. Як пажартаваў мой калега па працы: «Столькі друкуюць навуковых прац, што не толькі чужыя, але і свае не паспяваеш прачытаць».

У апошні час пайшла лавіна і ў мастацкім слове, прычым часцей за ўсё лёгкай ці прымітыўнай чытаніны, сярод якой не так проста адкапаць нешта больш сур’ёзнае. А ў нашай Беларусі многім найбольш выдатным пісьменнікам цяжка выдрукаваць свае працы, а калі задаецца, дык зусім малым накладам у недзяржаўных выдавецтвах. На жаль, беларускамоўныя працы

[1] Гарецкий Р. Г. Известный геолог А. В. Македонов — видный литературовед // Литология и полезные ископаемые. — 1999. — № 1. — С. 109.

і разыходзяцца слаба, бо адвучылі многіх жыхароў краіны ад роднай мовы. Чытаць сталі значна менш. Мітусня жыццёвай будзённасці, шматгадзінная праца дзеля заробку, тэлебачанне і іншыя справы не пакідаюць часу для спакойнага чытання мастацкай літаратуры. Нават калі пры сустрэчы кіраўніка беларускай дзяржавы з карэспандэнтамі расійскіх СМІ спыталіся, што ён чытае зараз з мастацкіх твораў, той адказаў, што даўно нічога не чытае, бо яму на гэта няма часу. Узнікае такое ўражанне, што нават пісьменнікі менш сталі цікавіцца працамі сваіх калег і не паспяваюць азнаёміцца з творамі адзін аднаго.

Тое ж атрымалася з маімі замалёўкамі «Жыццёвы меланж навукоўца», якія я надрукаваў у зборніку «Вечна жыве Беларусь» (2003) і часопісе «Тэрмапілы» (2008. № 12; 2009. № 13). Здалося, што яны нікому не цікавыя і іх ніхто не чытае. Таму вырашыў больш не пісаць гэтыя нататкі, аб чым і паведаміў Галіне Тварановіч, на што атрымаў адказ: *«Я хачу выказаць захапленне Вашым «меланжам» (як трапна, дарэчы, вызначаны жанр). Якая праўда ў тым, што і гэтая частка Вашай лірычнай прозы друкуецца ў «Тэрмапілах»! Каштоўнасць «меланжу» ў тым, што менавіта Ваш погляд, Ваша ўспрыняцце падзей, мысленне прадстаўніка слаўнага беларускага роду адкрываюцца чытачу. [...] Хочацца чытаць і чытаць Вашу прозу. Запісвайце, калі ласка, сябе!»* Блізкія па сэнсе словы я пачуў і ад Лідзіі Савік, якая прачытала мае замалёўкі ў двух нумарах «Тэрмапілаў». Пасля такой прыемнай ацэнкі маёй пісаніны дзвюма сімпатычнымі разумнымі жанчынамі пісьменніцамі і навукоўцамі-літаратуразнаўцамі я вырашыў, што ўспомню той жыццёвы меланж, які прайшоў перад маімі вачыма ў канцы 2009 — пачатку 2010 г. Нават калі яго прачытаюць толькі гэтыя мілыя жанчыны, без якіх я б кінуў пісаць свой «меланж», я ўжо буду задаволены. Тым больш, што ў апошні момант мяне падтрымалі мае сябры выдатныя паэты Анатоль Вярцінскі і Ніл Гілевіч.

*2009*

## Падабенства ў гісторыі дзвюх краін

У канцы ліпеня 2009 г. я з маёй жонкай Галінай зноў паехалі ў адпачынак у Нарвегію. Я пацікавіўся гісторыяй Нарвегіі і ўбачыў, што па некаторых агульных рысах яна нагадвае гісторыю Беларусі.

У канцы 1-га тысячагоддзя розныя нарвежскія плямёны (напрыклад, ранрыкіі і раумы) стварылі дружыны на чале з канунгамі (удзельнымі князямі) — пачатак «эпохі вікінгаў», а ў канцы IX ст. канунг Харальд Касматы аб'яднаў дробныя плямёны ў адзінае міжпляменнае ўтварэнне. У канцы X ст. пры каралі Улафе II Святым па ўсёй краіне было прынята хрысціянства. У XII–XIII стст. завяршылася палітычнае аб'яднанне краіны, быў прыняты агульнадзяржаўны закон — улажэнне Леніслоў. У гэты час палітычнай самастойнасці ішоў уздым эканомікі і культуры Нарвегіі.

З 1397 г. па Кальмарскім дагаворы Нарвегія знаходзілася ў агульнай уніі са Швецыяй і Даніяй пад эгідай апошняй. У 1523 г. Швецыя разарвала гэтую унію, і Нарвегія з 1537 г. стала правінцыяй Даніі. У выніку ў Нарвегіі была праведзена царкоўная рэфармацыя ў выглядзе лютэранства, дацкая мова стала спачатку афіцыйна царкоўнай, а затым адміністрацыйнай і літаратурнай. У раёне Осла і некаторых іншых гарадоў склалася мешаная дацка-нарвежская гаворка (наша беларуская «трасянка»), на базе якой паступова афармілася новая літаратурная нарвежская мова — рыксмол («дзяржаўная мова»), ці букмол («кніжная мова»). У малых пасёлках правінцыі людзі размаўлялі на родных нарвежскіх дыялектах.

З пачатку XIX ст. пачынаецца моцны нацыянальна-вызваленчы рух, ствараецца Таварыства дабрабыту Нарвегіі, якое імкнецца арганізаваць нацыянальны нарвежскі ўніверсітэт, умацаваць і пашырыць нацыянальную самасвядомасць. Пасля напалеонаўскіх войнаў па Кільскаму мірнаму дагавору ў 1814 г. Данія перадае Нарвегію Швецыі. Перыяд, калі Нарвегія была

пад уладарствам Даніі (1397–1814), многія да гэтага часу завуць «чатырохсотгадовая ноч» — перыяд, які амаль не пакінуў слядоў сапраўднай нарвежскай культуры.

Барацьба за нацыянальную незалежнасць яшчэ больш узмацнілася: 17 мая 1814 г. Устаноўчы сход прымае Эйдсвольскую канстытуцыю і абвяшчае Нарвегію незалежнай. Хаця гэты дзень з 1827 г. стаў нацыянальным святам Нарвегіі — Днём канстытуцыі, але ў выніку ваенных дзеянняў Швецыі быў заключаны дагавор — шведска-нарвежская унія. Барацьба за незалежнасць і развіццё нацыянальнай культуры працягваецца. У супрацьпастаўленне пануючай літаратурнай мове рыксмолу была створана навалітаратурная мова — ланнсмол («мова краіны», «вясковая мова»), ці нюноршк (нованарвежская). У 1885 г. гэтая новая форма мовы атрымала раўнапраўе з рыксмолам. Адзін з лідараў нацыянальна-вызваленчага руху пісьменнік Бьёрншэрне Бьёрсан кінуў кліч: «Пара скасаваць дагавор, які зачумляе нас!» 7 чэрвеня 1905 г. стортынг прыняў рэзалюцыю аб скасаванні уніі са Швецыяй, а ў жніўні народны рэферэндум ухваліў яе. Нарвегія робіцца незалежнай краінай і некалькі гадоў таму ўрачыста адзначыла 100-годдзе гэтай важнай даты.

Пасля вызвалення ад дацкага ўладарства ў Нарвегіі расквітнела культурнае жыццё — «нацыянальная рамантыка», якая адкрыла цудоўныя нарвежскія сагі і казкі, дала сусветна вядомых пісьменнікаў Генрыха Ібсена і Кнута Гамсуна, кампазітара Эдварда Грыга, мастака Эдварда Мунка, скульптара Густава Вігеланна і многіх іншых.

Цяпер Нарвегія — канстытуцыйная манархія на чале з «народным каралём». Але па-сапраўднаму тут пануе парламенцкая дэмакратыя. У стортынгу 165 дэпутатаў, якія выбіраюцца прамым галасаваннем на чатыры гады. Гэта краіна сапраўднай сацыял-дэмакратыі («нарвежскі» і «шведскі» сацыялізм) з надзвычай высокай сацыяльнай абаронай чалавека ў мясцовых раёнах («камунах»), якія аб’яднаны ў 19 абласцей («фюльке») з моцнай сістэмай самакіравання. Па якасці жыцця краіна займае

адно з першых месцаў. Удала выкарыстоўваюцца прыродныя рэсурсы, асабліва водныя, а цяпер і паветраныя. Малыя гідраэлектрастанцыі і ветракі даюць столькі электрычнай энергіі, што вылучылі краіну на першае месца па яе колькасці на 1000 жыхароў. Вялікае багацце радовішчаў нафты на марскім шэльфе, адкрытых у 70-я гг. мінулага стагоддзя, дае вялізарныя прыбыткі, але ўрад гэтыя сродкі не выкарыстоўвае цяпер, а ў большай іх часткі адкладвае дзеля будучых пакаленняў.

Калі Беларусь па форме сваёй тэрыторыі нагадвае сэрца ў цэнтры Еўропы, дык Нарвегія — гэта выцягнутая з поўначы на поўдзень на 1752 км велізарная страла на заходнім краі Еўропы. Амаль усю тэрыторыю Нарвегіі займаюць Скандынаўскія горы, якія разбіты на асобныя пласкагор'і (фіельды). Мясцінамі яны ўвенчаны кражамі з вострымі вяршынямі, найбольш высокая з якіх — Гаахёпіген дасягае 2470 м. Толькі на паўднёвым захадзе краіны да гор прымыкае нізіна вакол Осла-фіёрда. Скандынаўскія горы складзены змятымі ў складкі вулканічнымі і ападкавымі пародамі, якія пад уплывам велізарнага магутнага стрэсу (ён адбыўся ў выніку сутыкнення-калізіі кантынентаў прыблізна 400 млн гадоў таму), насунуты на 100–300 км на значна больш старажытныя крышталічныя пароды Швецыі, Даніі і Фінляндыі як частку фундамента ўсёй Усходне-Еўрапейскай платформы. Геалагічная гісторыя як бы паўтарылася ў гісторыі чалавецтва: Нарвегія на працягу многіх стагоддзяў адчувала вялікі стрэс з боку Даніі і Швецыі.

У Беларусі найбольшыя геалагічныя стрэсы адбываліся па так званай Цэнтральна-беларускай сутурнай зоне крышталічнага фундамента, якая падзяляе тэрыторыю Беларусі на заходнюю і ўсходнюю. Па ёй то з Захаду, то з Усходу праходзілі стрэсавыя працэсы субдукцыі (паднырванне аднаго блока зямной кары пад іншыя), калізіі (сутыкненне гэтых блокаў). Геалагічныя працэсы спадчыннасці раз'ядноўвалі абедзве часткі тэрыторыі Беларусі, а працэсы новаўтварэння аб'ядноўвалі іх зноў. Так і ў гісторыі беларускага народа, якая з'яўляецца

працягам і часткай геалагічнай гісторыі, ішлі стрэсавыя працэсы то з Захаду, то з Усходу, якія то раз'ядноўвалі Беларусь, то аб'ядноўвалі, і, нарэшце, яна стала адзінай незалежнай.

Плошча Нарвегіі 324 тыс. кв. км, больш чым у 1,5 раза буйнейшая за Беларусь, а жыхароў, наадварот, напалову менш — усяго 4,5 млн чалавек. 97% насельніцтва нарвежцы. З іншых краін трапіць у Нарвегію на пастаяннае жыццё вельмі цяжка, але ў апошні час, у сувязі з ваеннымі падзеямі ў многіх кропках Зямлі, і тут з'явілася значная колькасць уцекачоў. Перш-наперш што патрабуюць ад новых жыхароў — вывучыць нарвежскую мову, бо нармальна жыць і працаваць без мовы карэннага насельніцтва проста немагчыма. Кіраўніцтва камуны дае магчымасць уцекачам не толькі бясплатнае добрае памяшканне для жыцця і фінансавую падтрымку, але і стварае таксама бясплатныя курсы для вывучэння нарвежскай мовы.

Рускія, украінцы, беларусы, чачэнцы і многія іншыя нацыянальнасці ўжо праз некалькі месяцаў валодаюць мовай на бытавым узроўні, а праз год многія і зусім добра, прынамсі мінімум, каб размаўляць у працоўным калектыве. Некаторыя дзеткі ўцекачоў нярэдка так добра вывучаюць нарвежскую мову, што ў старэйшых класах ведаюць яе не горш, а нават лепш, чым дзеткі мясцовых жыхароў. Вось у каго беларусам трэба браць прыклад у адносінах да мовы. Трэба падкрэсліць, што ў любой краіне Еўропы — хоць малой, хоць вялікай — без ведання мовы карэннай нацыі вельмі цяжка. Толькі Беларусь тут выглядае незразумела, што звычайна выгукае жахлівае здзіўленне ў людзей іншых краін, а потым нават нейкую знявагу да беларусаў. Дарэчы, многа чаму можна было б павучыцца ў Нарвегіі.

*2009*

# Нечаканае

Нечаканае прыходзіць раптоўна. Напаткала яно і мяне, але не дзе-небудзь у Беларусі, а далёка ў Нарвегіі. Калі я і Галя ў канцы ліпеня пакінулі Мінск, дык вельмі хутка, дзякуючы сучаснай самалётнай сувязі, маглі бачыць цудоўныя нарвежскія краявіды, якія так станоўча ўплываюць на чалавека, што ўжо праз некалькі дзён мы адчулі самавольнае знікненне ў нашых галовах і сэрцах мінскіх непрыемных эмоцый ад стомленасці, турбот, стрэсаў…

Кожны дзень нас чакалі паходы ў горы, прагулкі ўсцяж рэчак ці вакол азёр, больш рэдкія паездкі на аўтамабілі па пакручастых, вузкаватых, але вельмі добра заасфальтаваных дарогах у розныя прыгожыя мясціны, а то і на маторнай лодцы па моры ці фіёрдах, дзе можна забыцца на ўсё ў свеце, калі з азартам ловіш рыбу (макрэль, фарэль) ці крабаў. Усюды свая прыгажосць і хараство.

Калі па сцежцы патроху забіраешся ўсё вышэй у горы, з кожным крокам адкрываецца больш шырокая прастора, больш далёкія цудоўныя краявіды, паветра робіцца ўсё чысцейшым і пачынаеш прагна глытаць яго, як нейкае найсмачнейшае рэчыва, бліжэй бачыш сонейка, якое абагравае мацней, але і ветрык павялічваецца, і адчуваеш сябе вельмі ўзнёсла, падобна да птушкі ў магутным палёце над мілай зямлёю… У гарах ходзіш па голых скальных пародах, якія ў большасці месцаў параслі мохам, травой, верасам, а паміж імі ягаднік, усыпаны смачнымі шарыкамі чарніц, буякоў, больш рэдка брусніц. Асабліва многа ягад на ўраўнаваных пляцоўках і нізінах, якія ўтварыліся паміж невялічкіх хрыбтоў і якія больш вільготныя, а то і зусім балоцістыя. Многія горы пакрыты хвойным лесам, радзей ліставым ці змешаным, а ў іх шмат пералічаных раней ягад, маліны і самых разных грыбоў, у тым ліку і баравікоў.

Вялікае задавальненне дае аўтамабільная вандроўка па гладкіх дарогах, якія звычайна круцяцца ўсцяж бурлівай рэчкі,

змейкай пятляючай глыбока ўнізе, а з другога боку — высачэнная сценка скалы, якая раптам аказваецца поперак дарогі, і тая нырае ў чорную дзірку тунеля, пранізвае магутны хрыбет крышталічных парод і зноў выскаквае на светлы прастор міжгор'я, а то ляціць па тонкай палосцы лёгкага моста, высока вісячага над воднай паверхняй фіёрда.

Самы своеасаблівы цуд прыроды Нарвегіі — гэта фіёрды, вузкія марскія залівы, якія зацiснуты стромкімі адпаліраванымі ледавіком сценкамі скал і глыбока ўгрызаюцца ў сушу, прычым найбольш доўгія з іх працягваюцца да 180–200 км. Гэтыя ўтварэнні звычайна прыстасаваны да тэктанічных разломаў, усцяж якіх ад мора адыходзяць гіганцкія скальныя калідорыфіёрды з сіняй гладдзю празрыстай вады. Вышыня сценак скалы дасягае некалькі соцень метраў, а ў некаторых выпадках да 1000 метраў, а глыбіня фіёрдаў таксама да 1000 метраў, а то і троху больш. Найбольш знакаміты Люсе-фіёрд. На яго можна паглядзець са скальнага плато (завецца «Кафедра»), якое ўтварылася каля самага абрыву. Дух захоплівае ад прыгажосці прастору, калі бачыш над сабой бясконцае блакітнае неба, а глыбока на многія сотні метраў унізе сінія воды фіёрда, на якіх можна ўгледзець зусім малыя чаўны, маторкі і караблі, а ў бінокль — шэрыя галоўкі цюленяў. Калі плывеш па фіёрдзе, дык адчуваеш сябе маленькай істотай, зажатай паміж высачэннымі адвеснымі скаламі, па якіх карабкаюцца крываногія дрэвы бярозак, елак, сасёнак і ядлоўцу, зачапіўшыхся за глебу ў расколінах. А высока пад небам бачыш высакавольтную лінію са слупамі, якія як касмічныя веліканы, звязаныя паміж сабой ніткамі правадоў, крочаць з адной гары на другую. З розных узроўняў скал з шумам падаюць белыя вузкія палоскі, а то і больш шырокія сцежкі вадаспадаў, якія значна павялічваюцца пасля нярэдкіх тут дажджоў.

Нарвежцы па характары нагадваюць беларусаў — такія ж спакойныя, прыветлівыя, талерантныя. Калі сустракаюцца дзе-небудзь на прагулцы, заўсёды вітаюцца: «Hei!» Так звы-

чайна і ў нашых вёсках. Але адрозніваюцца надзвычайнай дысцыплінаванасцю і на дарогах (як вадзіцелі, так і пешаходы), і ў быце, і на рабоце. Ні гарэлкі, ні віна, звычайна нават піва не вып'юць у будні дзень у хаце і тым больш на працы. П'янага, папрашайку, сварку ці скандал на вуліцы ўбачыць вельмі цяжка, а можа і немагчыма. Мы прынамсі не бачылі. Большасць людзей спартыўнага тыпу з шыбкай хадой, любяць прагулкі ў горы, веласіпед і, канечне, у кожнай сям'і па адным і больш аўтамабілі. На прагулку часта бяруць свайго сабаку, які звычайна бяжыць на павадку, а гаспадар бярэ з сабой пакецік, каб туды сабраць сабачыя фекаліі. Людзі звычайна носяць спартыўнае ці проста зручнае адзенне, а ўлічваючы частыя дажджы — непрамакаемыя курткі ці цэлыя касцюмы (ранкле). Сустракаецца многа стромкіх, прыгожых, часцей светлавалосых мужчын — адчуваюцца нашчадкі вікінгаў. Жанчыны звычайна блакітнавокія бландзінкі, але значна менш прыгожыя. Сярод іх многа цяжарных, што вельмі падтрымліваецца дзяржавай, якая прадстаўляе шмат розных ільгот для мнагадзетных. Жанчын можна ўбачыць двух тыпаў: марудныя паўнаватыя сапраўдныя «квактухі» з некалькімі дзеткамі побач і стромкія спартыўныя скараходкі. Даволі распаўсюджаны дзеткі-двайняшкі. Нягледзячы на выдатную экалогію і здаровы лад жыцця, зрэдку сустракаюцца дзеці і дарослыя людзі, якія маюць прыроджаныя недахопы і нават калецтва, што, як мне здаецца, звязана з месцазнаходжаннем іх жылля на гранітных масівах, да якіх прыстасавана павялічаная радыяцыя, ці ў зонах тэктанічных разломаў, па якіх ідзе інтэнсіўная эманацыя радону і іншых глыбінных газаў.

Мы добра адпачылі, набраліся фізічных і духоўных сіл сярод цудоўнай прыроды і добразычлівых людзей. Да ад'езду заставалася ўжо два дні, на якія, як назло, прыйшліся бясконцыя дажджы. Я пачаў меркаваць пра тое, што трэба будзе зрабіць на працы і ў хаце ў Мінску, а за гэты час спраў накапілася досыць шмат. На развітанне вырашылі пахадзіць па самых

любімых мясцінах. Падышлі да аднаго невялічкага хрыбта з цёмным, але прыемным лесам з раскіданымі па ім буйнымі прыгожымі валунамі самых розных памераў і формы, дзе раней збіралі многа грыбоў, асабліва баравікоў, якіх у гэты наш прыезд чамусьці было зусім мала. Я звярнуўся да Галі: «Давай зойдзем туды, раптам напаследак нам пашанцуе і мы збярэм баравічкоў». Ад дажджу схіл гары стаў не толькі проста коўзкі, а больш коўзкі, чым лёд, і я, збіраючыся па досыць крутым адхоне, пахіснуўся і паляцеў на спіну. Як быццам мяне нехта папярэдзіў, што не трэба лезці ў той цёмны мокры лес. Але мне было вельмі цікава паглядзець на тыя мясціны. Ды і Галя, гляджу, ужо дакарабкалася да краю лесу. Цікавасць і ўпартасць перамаглі, і я, як сапраўдны даволі ўпарты беларус (як вядома сярод славян больш упартыя за беларусаў толькі ўкраінцы), зноў палез угару. Мы агледзелі ўсе нашы знаёмыя грыбныя мясціны, але нас чакала поўнае расчараванне. Пайшлі назад. На тым самым адхоне, які ўжо быў недалёка ад дарогі, на тым самым месцы я зноў паляцеў, ды так моцна стукнуў калена, што пазней паставілі дыягназ: «падскурны разрыў сухажылля чатырохглавай мышцы правага бядра». Нечаканае звалілася і ў выніку: адпачынак пайшоў у глум, замест намечаных планаў у Мінску я трапіў у бальніцу.

*2009*

## Палата № 405

Калі маёй цётачцы споўнілася 60 гадоў, яна часта стала прыхворваць і пачала бясконца прыгаворваць: «Да, старасць — не радасць!» Я да сваіх 70 гадоў неяк гэтага не разумеў, бо нічога не балела. Але пазней пачалося… Да 80-годдзя набраў добры букет хвароб. Але, як ні дзіва, чалавеку ўсё мала, нават, відаць, і ў хваробах — вось і схапіў траўму нагі. Прыйшлося легчы ў бальніцу лечкамісіі, дзе змясцілі ў палату № 405. На жаль, суседзі траплялі ўвесь час добрыя храпуны, дык

да сну прыстасаваўся толькі праз некалькі начэй. Выдатны хірург-артапед Аляксандр Мікалаевіч Валашанюк (дзякуй яму!) удала зрабіў аперацыю, месяц нага была ў гіпсе, потым зноў бальніца, каб распрацаваць калена, і толькі ў снежні мог пайсці на працу, а больш-менш не кульгаць — у наваголдзе. У бальніцы зноў успомніў словы сваёй цётачкі. Тут я сустрэўся з многімі сябрамі і знаёмымі таксама досыць сталага ўзросту, нават з тымі, з якімі ў апошнія гады нашы шляхі не так часта перакрыжоўваліся.

У суседняй палаце ляжыць з сумным тварам Уладзімір Пузыня — выдатны музыка-фальклярыст, які бадзёрымі гукамі сурмы адкрываў з'езды беларусаў свету і многія іншыя мерапрыемствы дэмакратычных сілаў; троху далей — нейкі нязвычна прыціхлы з голасам — амаль шэптам акадэмік НАН Беларусі Іван Ліштван, які заўсёды гучна, галосна не мог не задаць вялікую колькасць пытанняў і не выступіць на любым пасяджэнні; праз пару дзён убачыў сагнутага і кульгаючага народнага артыста Беларусі Генадзя Гарбука, які так выдатна выконваў многія ролі ў Нацыянальным беларускім тэатры імя Янкі Купалы і ў вельмі мне памятнай п'есе Максіма Гарэцкага «Салдат і яго жонка», дзе ён разам з Марыяй Захарэвіч цудоўна, так жвава і энергічна перадаў думку пісьменніка; у маю палату паклалі зусім знямоглага Рэма Ткачука — былога намесніка старшыні Камітэта па друку, бадзёры і энергічны выступ якога я некалі чуў на адной з нарад. Нечакана да мяне зайшоў троху вялы і без бляску ў вачах пасля сардэчнага прыступу Леанід Сушчэня — былы прэзідэнт НАН Беларусі, з якім мы разам працавалі ў Бюро Прэзідыума акадэміі ў вельмі цяжкі для нашай установы час (1992–1997) і які заўсёды быў такі моцны, спакойны і ўпэўнены.

Праз некаторы час я многіх з гэтых людзей убачыў зноў досыць бадзёрымі, амаль такімі ж, як да бальніцы. У. Пузыня грае на дудачцы вясёлую народную мелодыю, Г. Гарбук з радасцю і гонарам атрымлівае кубак на фестывалі «Лістапад», І. Ліштван,

як заўсёды, задае на нарадзе шмат пытанняў і выступае голасам яшчэ нават мацнейшым, Л. Сушчэня ўсміхаецца, седзячы на Агульным сходзе НАН Беларусі… Ды і я ўжо не кульгаю, а бадзёра іду па вуліцы ў інстытут. Хочацца сказаць: «Няхай жыве медыцына! Дзякуй медыкам, якія абралі такую цяжкую, але высакародную прафесію і якія ратуюць людзей ад немачы і дазваляюць зноў нармальна працаваць і радавацца жыццю…»

*2009*

## «Мой шыбалет»

У верасні–кастрычніку 2009 г. «Народная воля» друкавала асобныя часткі з кнігі Пётры Садоўскага «Мой шыбалет». Я збіраў тыя газеты, і калі выйшаў апошні нумар з тымі вытрымкамі, пачаў чытаць і не мог адарвацца ад тэксту, пакуль не мільгануў перад вачыма заключны радок. Кніга прываблівае мастацкай праўдай і шчырасцю ўспамінаў, а гумарыстычна-іранічны стыль уздымае працэс чытання яшчэ на большую вышыню. Такой лірычнай прозы я і чакаў ад Пётры Садоўскага, якога ведаў толькі па неаднаразовых сустрэчах на розных навуковых і грамадскіх імпрэзах і пару разоў на больш вольных вечарынках. Ён вылучаецца сваёй неардынарнасцю, энцыклапедычнымі ведамі, згусткам талентаў: шырокавядомы германіст, філолаг, мовазнавец-паліглот, філосаф, дыпламат, грамадскі дзеяч. Да таго ж здольны педагог, адзін з любімых настаўнікаў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, добры прамоўца, уладальнік моцнага прыгожага голасу, які можа выканаць процьму песень многіх народаў, асабліва беларускія.

Як нестандартна гучыць назва кнігі! Аўтар яскрава паказаў свой шлях ад роднай вёскі Буцькаўшчыны да разумення і любові Бацькаўшчыны, што зрабіла яго выдатным дзеячам на ніве адраджэння беларушчыны. Вельмі міла і цёпла ўспрымаюцца дзіцячыя гады, якія заклалі ў Пётры Вікенцьевічу аптымізм,

любоў да людзей, мовы. Апошняя стала для яго «як вада, хлеб, сад…». Вельмі натхнёна, лірычна, з выдатнай мастацкасцю апісаны першыя пачуцці кахання. З цікавасцю чытаеш пра іншыя перыпетыі жыцця, працы, грамадскай дзейнасці, многія дэталі барацьбы за незалежнасць і дэмакратыю Беларусі…

Мне вельмі прыемна было прачытаць радкі пра Максіма Гарэцкага: *«…з кожнай старонкі прозы Максіма Гарэцкага, якога тады можна было прачытаць толькі ў спецфондзе «БАНі» (так скарочана называлі бібліятэку Акадэміі навук), я выпісваў цэлыя сказы. З «Дзвюх душ» я зрабіў цэлую картатэку. Мяне ўражвалі не толькі трапныя словы, якія не фіксаваліся слоўнікамі, але і сінтаксічныя канструкцыі, што магло б скласці добрую частку навуковага апісання беларускіх словазлучэнняў у падручніках для школаў і ВНУ. Гэта не зроблена і да сёння»*. А далей пра тое, што я таксама ўжо некалькі разоў пісаў, П. Садоўскі працягвае: *«Дарэчы сказаць, я проста не разумею, куды глядзяць нашыя драматургі і рэжысёры, што дагэтуль не даўмеліся даступіцца да Максіма Гарэцкага. Напрыклад, ягоныя «Дзве душы» — гатовы бліскучы матэрыял для тэатральнай пастаноўкі або мастацкага фільма. Гэта было б мацней паводле індывідуальнага ўздзеяння, чым «Тутэйшыя» Купалы, бо купалаўскі твор — публіцыстыка, а Гарэцкі — глыбокая псіхалогія. А маленькія апавяданні, як, напрыклад, «На імперыялістычнай вайне» — цудоўны матэрыял для аднаактавых п’есаў»*.

***2009***

## Таварыства беларускай мовы і газета «Наша слова»

Атрымаў запрашэнне на пасяджэнне Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якое адбудзецца 27 верасня 2009 г. і будзе прысвечана 20-годдзю ТБМ. Я, як сябра Рады ТБМ з моманту яго ўтварэння, амаль ніколі не прапускаў такія

сустрэчы, таму што заўсёды з вялікай радасцю ўдзельнічаў у іх, бо трапляў у мілае майму сэрцу і слыху беларускамоўнае асяроддзе, такое рэдкае ў нашай краіне. На жаль, на гэты раз прыйсці не змог, бо некалькі дзён таму зрабілі мне аперацыю ў сувязі з траўмай калена, але думкі мае былі разам з калегамі Рады ТБМ.

27 чэрвеня 1989 г. у Мінску адбыўся Першы ўстаноўчы з’езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, і ўжо ў сакавіку 1990 г. пачаў выходзіць штомесячны бюлетэнь «Наша слова». Старшынёй ТБМ і рэдакцыйнай калегіі бюлетэня стаў адзін з самых няўрымслівых змагароў за беларускую мову народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч — галоўны ініцыятар і арганізатар іх стварэння. Мне, чалавеку, які хаця і нарадзіўся ў Мінску, але з дзяцінства каля 40 гадоў пражыў у Расіі, у школе не вывучаў беларускую мову, і які ўсё ж прыняў яе да сэрца толькі ад сваіх дарагіх бацькоў, было вельмі прыемна атрымаць ад Ніла Сымонавіча запрашэнне прыняць удзел ва ўстаноўчым з’ездзе ТБМ, на якім быў абраны ў Рэспубліканскую Раду. Ніл Гілевіч прапанаваў мне напісаць у першы нумар бюлетэня «Наша слова», дзе і быў надрукаваны мой першы артыкул пра родную мову, які так і зваўся. Ужо са студзеня 1991 г. бюлетэнь ператварыўся ў васьміпалосную ўсебеларускую штотыднёвую газету, галоўным рэдактарам якой стаў вядомы пісьменнік Эрнест Ялугін, а ў 1993 г. я быў запрошаны ў рэдкалегію, што я ўспрыняў як вялікі гонар.

Стварэнне ТБМ і газеты «Наша слова» было сустрэта большасцю беларускай грамадскасці з вялікай прыхільнасцю і нават энтузіязмам. Гэта адыграла значную ролю ў справе прыняцця Вярхоўным Саветам БССР Закона аб мовах, у адпаведнасці з якім беларуская мова абвешчана дзяржаўнай; Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР і надання ёй статуса канстытуцыйнага закона; у змене назвы БССР на Рэспубліку Беларусь, Дзяржаўнага герба і сцяга. Справа ў тым, што менавіта ТБМ вылучыла кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага

Савета БССР многіх дзеячаў дэмакратычнага руху (а ўсяго дэпутатамі былі 15 сяброў ТБМ), якія і сталі дэпутацкім ядром па прыняцці гэтых законаў.

Газета «Наша слова» змяшчала цікавыя і важныя артыкулы па культуры мовы, публіцыстычныя, гістарычныя, мовазнаўчыя і іншыя матэрыялы, якія моцна ўплывалі на справу беларускага адраджэння. Я рад, што і мне давялося змясціць каля дзясятка артыкулаў у нашай славутай газеце. Роля і аўтарытэт «Нашага слова» значна ўзрасла, і наклад газеты дасягнуў больш за 8000 экз. Сярод карэспандэнтаў газеты асабліва хочацца ўспомніць таленавітую Ірыну Крэнь, якая друкавала надзвычай змястоўныя артыкулы, цікавыя інтэрв'ю з выдатнымі людзьмі — змагарамі за незалежную дэмакратычную Беларусь.

Пасля рэферэндуму 1995 г., калі дзяржаўнай мовай была аб'яўлена не толькі беларуская мова, але і руская, антыбеларускі націск з боку дзяржавы і яе чынавенства на ўсё беларускамоўнае, у тым ліку і на ТБМ і газету «Наша слова», значна ўзмацніўся. У гэты вельмі нялёгкі час ТБМ узначаліў наш славуты паэт Генадзь Бураўкін. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося захаваць памяшканне ТБМ. У красавіку 1997 г. урад адмовіў у дзяржаўным фінансаванні газеты. Дзякуючы рашучасці былога вайскоўца Станіслава Судніка, выхад газеты «Наша слова» на прыватныя сродкі быў адноўлены ўжо ў лістападзе 1997 г. у Лідзе, дзе яна і выдаецца да гэтага часу. ТБМ на чале з вядомым навукоўцам і грамадскім дзеячам Алегам Трусавым і газета «Наша слова» (галоўны рэдактар Станіслаў Суднік) актыўна працуюць на шляху беларушчыны. Беларуская грамадскасць адзначыла 20-годдзе стварэння ТБМ і газеты, з чым хочацца шчыра павіншаваць іх удзельнікаў, прыхільнікаў і ўсіх беларусаў і пажадаць, каб вечна жылі ТБМ і «Наша слова» ў вольнай дэмакратычнай краіне, якой мы кажам: «Жыве Беларусь!»

*2009*

## Беларусь хутка застанецца без беларусаў

У дні юбілею ТБМ думкі варочаліся да стану беларускай мовы, і былі яны не столькі станоўчымі, колькі больш сумнымі… Ці можна лічыць чалавека беларусам, калі ён не размаўляе на роднай беларускай мове? На гэта пытанне даўно адказаў адзін з заснавальнікаў сучаснай нацыянальнай літаратуры Францішак Багушэвіч, які сцвярджаў: *«Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі»*. Значыць, калі жыхар Беларусі не карыстаецца роднай мовай, дык ён, як сапраўдны беларус, ужо не існуе. На вялікі жаль, беларусы слаба прыслухаліся да мудрых слоў свайго вялікага прарока. І зараз спецыялісты ЮНЕСКА занеслі беларускую мову ў атлас выміраючых моў. Адсюль вынікае, што і беларуская нацыя ўслед і адначасна з роднай мовай робіцца выміраючай. Памрэ мова — памрэ і яе народ.

Усе адзнакі такога працэсу відавочныя. У якой яшчэ краіне свету можна ўбачыць, каб кіраўнік дзяржавы амаль зусім не выступаў на дзяржаўнай мове карэннай нацыі, а калі і прамаўляў некалькі беларускіх слоў, дык звычайна ў здзеклівым тоне пра апазіцыянераў, і перакананы, быццам на мове яго народа немагчыма выказаць вялікія думкі і пачуцці чалавека і таму ён размаўляе на расійскай мове — мове магутнага суседа, якую зрабіў таксама дзяржаўнай? Прычым фактычна адзінай дзяржаўнай, што амаль цалкам выштурхнула мову карэннай нацыі з уласнай хаты. Дзе існуе яшчэ краіна, у якой уся ўладная вертыкаль ад прэм’ер-міністра да старшыні калгаса, ад старшынь Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь да старшыні сельсавета, уся Адміністрацыя прэзідэнта, суды, пракуратура і іншыя адміністрацыйна-чыноўнічыя органы амаль зусім не размаўляюць на дзяржаўнай роднай мове? Нават кіраўніцтва такіх

міністэрстваў, як адукацыі, культуры, інфармацыі, замежных спраў, звычайна карыстаюцца рускай мовай, хаця некаторыя з іх добра валодаюць беларускай. Нідзе ў свеце няма нацыянальнага тэлебачання, на якім рэдка пачуць родную гаворку. Нават дайшло да нечуванага дзікунства, калі амбасадару Швецыі Стэфану Эрыксану, які адказвае па-беларуску на пытанні, вядучыя тэлепраграмы задаюць іх па-руску. Ці ёсць у свеце Нацыянальная акадэмія навук, у якой пад час агульнага сходу можна не пачуць ніводнага слова на мове тытульнай нацыі, а ў Інстытуце беларускай мовы і літаратуры шэраг супрацоўнікаў карыстаюцца галоўным чынам мовай суседняй краіны? Дзе сустрэнеце старшыню нядаўна створанага Саюза пісьменнікаў Беларусі, які не піша і не размаўляе на мове свайго народа? Чаму не ва ўсіх аддзяленнях сувязі сталіцы прымаюць тэлеграмы на беларускай мове? А як цяжка купіць віншавальны канверт ці карталюшку па-беларуску! Паспрабуйце ў розных установах, нават такіх, як ЖЭС, банкі, натарыяльныя канторы, аддзяленні сувязі, райсаветы і інш., знайсці беларускамоўныя бланкі! Ці многа шыльдаў у нашых гарадах і вёсках напісана па-беларуску? Дзе ў свеце можна знайсці краіну, каб у яе сталіцы амаль ніколі не пачуць ад жыхароў на вуліцы ніводнага слова на роднай мове?

Максім Гарэцкі яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя пісаў: *«Было б дзіўна і неразумна пытаць у расіяніна, ці хоча ён рускую мову ў школе? Глупства было б пытаць аб тым жа немца, француза, латыша ці эстонца. Чаму тады з дурнымі пытаннямі можна звярнуцца толькі да цёмнага беларуса?..»*

А як цяпер? Зусім нядаўна газеты паведамілі, што ў Магілёве, дзе амаль 370 тысяч жыхароў, няма ніводнага беларускамоўнага класа. Чыноўнікі абласнога і гарадскога аддзелаў адукацыі апраўдваюць сітуацыю адсутнасцю заявак ад бацькоў. Ва ўсіх вялікіх і малых гарадах Беларусі працуе толькі 34 беларускамоўныя школы, а на роднай мове ў Беларусі навучаецца толькі 18,6 працэнта школьнікаў. Няма ніводнай беларускамоўнай вы-

шэйшай навучальнай установы. І гэтыя лічбы з кожным годам змяншаюцца. Адсюль пытанне — ці можна з маладога жыхара Беларусі такім чынам ўзгадаваць сапраўднага беларуса?

Не толькі ўлады, адміністрацыйна-чыноўніцкі апарат, але ўвесь створаны імі лад жыцця вымушае беларуса размаўляюць па-руску. Нават з Богам — гэта тычыцца вернікаў праваслаўнай царквы. Для чаго вучыць беларускую мову, калі ў гэтым няма жыццёвай неабходнасці: без яе пражыць можна, а вось без рускай — не. Да таго развучыліся людзі чуць беларускую мову, што часта пры запытанні на роднай мове многія здзіўлена ўскідваюць погляд, перапытваюць, а то і груба кідаюць: «Говорите на нормальном языке». Нярэдка за гутарку на беларускай мове чалавек трапляе ў ранг апазіцыянераў, «пятай калоны» ці нават «ворагаў народа». Няўтульна беларускамоўнаму беларусу ў Беларусі. І пасля смерці большасць жыхароў Беларусі ляжаць у роднай зямлі пад надмагільнымі помнікамі з надпісамі па-руску і толькі рэдка па-беларуску — стаяць як сярод чужынцаў.

Не магу прыняць пазіцыю лідараў многіх партый і рухаў дэмакратычных сіл, якія заявы, звароты, анкеты часта выдаюць на рускай мове: маўляў, каб больш людзей іх зразумела. На жаль, гэта так, бо людзі ў большасці сваёй ўжо лягчэй чытаюць па-руску і многія пачынаюць нават не любіць, а то і зневажаць беларускую мову. Але сучасны стан беларускай мовы і наогул беларушчыны патрабуе, каб яны сталі галоўным ў сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі, у змаганні за сапраўдную беларускую Беларусь. Трэба зразумець, што дэмакратычная, незалежная краіна без беларускай мовы, без беларушчыны — гэта яшчэ не сапраўдная Беларусь. Страцім беларускую мову — страцім Беларусь! Будзе яшчэ адна рускамоўная невялікая краіна побач з вялізнай Расіяй.

За апошнія 15 гадоў краіна атрымала асабліва магутны прэсінг супраць беларушчыны і роднай мовы, а гэта прывяло да звыш інтэнсіўнай русіфікацыі насельніцтва, эміграцыі бе-

ларусаў за межы краіны і іх асіміляцыі. Асабліва многа з'ехала маладых людзей, прычым большасць з іх хутка авалодалі замежнымі мовамі, бо ў любой краіне свету вельмі цяжка жыць, калі не ведаеш мову карэннай нацыі гэтай краіны. І тут толькі Беларусь уяўляе сабой сумнае выключэнне, дзе мову яе народа ведаць не абавязкова. У многіх краінах свету не толькі палітыку, але і простаму чалавеку, каб стаць грамадзянінам гэтай дзяржавы, трэба здаць экзамены на веданне мовы карэннай нацыі. Таму палітыку, які не валодае роднай мовай, няма чаго і вылучацца ў дэпутаты, кіраўнікі партыі, руху, што часта мае месца ў нашай краіне. Тое ж трэба сказаць і пра ўсю чыноўніцка-адміністрацыйную вертыкаль — ад прэм'ер-міністра, кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, міністра да старшыні завода, калгаса і кіраўніка гарадскога і сельскага Савета.

Ад такога катастрафічнага стану беларускай мовы баліць душа і сэрца ў многіх шчырых беларусаў. Дастаткова ўспомніць прарочыя словы Пімена Панчанкі:

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
«Я веру і настане!..»
Дарагі мой Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настала змяркання,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

Чытаючы гэтыя Панчанкавы радкі верша, я таксама ад крыўды за мову плачу, ад болю зноў жа за яе крычу.

Вельмі патрэбныя такія аб'яднанні, як Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Беларускі фонд культуры і інш., а таксама культурна-асветныя рухі тыпу «Будзьма», але

яны не могуць карэнным чынам змяніць працэс манкуртызацыі насельніцтва без змены дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да роднай мовы і беларушчыны. Усе беларусы, — і тыя, якія нясуць у сэрцы покліч «Жыве Беларусь!», і тыя, што прамаўляюць «За Беларусь!», — павінны змагацца за родную мову, інакш іх заклікі будуць пустымі…

Наша цудоўная мілагучная беларуская мова, на якой пісаў яшчэ Францыск Скарына, на якой надрукаваны Статут Вялікага Княства Літоўскага, пра якую Адам Міцкевіч сказаў, што *«…гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана»*, не павінна загінуць. Агульнымі намаганнямі яе трэба захаваць, пашырыць, каб яна стала галоўным моўным асяроддзем у Беларусі, а гэта залежыць ад нас усіх. Трэба падтрымаць звароты аб тым, каб 2010 год абвясціць Годам роднай мовы, якія былі прыняты на Пятым з'ездзе беларусаў свету і Радзе Таварыства беларускай мовы.

* * *

Пазней у тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва» (№ 1 ад 3 студзеня 2010 г.) прачытаў: *«…больш за дваццаць гадоў таму, гаварылася пра 400 тысяч беларусаў у Польшчы і столькі ж палякаў у Беларусі. А апошнім часам маем 43 тысячы беларусаў на Беласточыне і больш мільёна палякаў у Беларусі…»* Значыць, як і стагоддзі таму, так і цяпер ідзе не толькі інтэнсіўная русіфікацыя беларусаў па ўсёй краіне, але і іх апалячванне, асабліва моцнае на Гродзеншчыне. Дарэчы, у Гародні няма ніводнай беларускай школы, а рускія і польскія ёсць… Дык дакуль такое будзе?

***2009***

## «Краязнаўчая газета»

У лістападзе 2009 г. выйшаў трохсоты нумар «Краязнаўчай газеты», якая выдаецца як недзяржаўная і карыстаецца вялікім поспехам ва ўсіх, хто цікавіцца краязнаўствам, хто любіць свой край і хоча атрымаць самыя разнастайныя веды пра яго. Гэта вельмі патрэбная газета атрымалася дзякуючы намаганням яе заснавальніка і галоўнага рэдактара старшыні Беларускага фонду культуры Уладзіміра Гілепа — выдатнага музейшчыка, краязнаўца, археолага, рупліўца беларускай культуры.

Больш блізка я пазнаёміўся з Уладзімірам Аляксандравічам яшчэ ў 1992 г., калі яго, як першага намесніка міністра культуры Беларусі, прызначылі старшынёй рэспубліканскага юбілейнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Тады мяне здзівілі яго арганізатарскія здольнасці, захопленасць працай, добразычлівасць, цяплыня і абаяльнасць у адносінах да людзей. Праца юбілейнага камітэта пад кіраўніцтвам У. Гілепа дала вялікі плён і нарэшце імя і творчасць Максіма Гарэцкага па-сапраўднаму атрымала вяртанне да беларускага народа. Юбілей пісьменніка адзначалі вельмі шырока і ўрачыста. Асабліва ўразіла мяне адкрыццё помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Вязьме, куды прыехала дэлегацыя з Беларусі на чале з У. Гілепам (у яе ўваходзілі В. Зуёнак, І. Чыгрынаў, У. Пракапцоў, У. Ліўшыц і інш.). На ўскраіне горада каля крутога абрыву зусім блізка ад будынка турмы, дзе адбываў прысуд М. Гарэцкі і дзе звычайна расстрэльвалі вязняў. Я так усхваляваўся, гледзячы на высокія вароты турмы, што амаль у непрытомнасці з болем у сэрцы і слязьмі на вачах ішоў ад турмы да абрыву з «жоўтага пясочку» і ўяўляў тую жудасную карціну, як вывелі 40 чалавек вязняў, у тым ліку і майго дзядзьку, павялі да абрыву, расстралялі і закапалі на «адпаведную глыбіню». І на ўсё гэта спатрэбілася толькі 15 хвілін — так адпрацавана была тая сістэма гвалту. Я стаяў каля абрыву, не мог адарваць вачэй ад пакатага схілу і

перада мной раіліся нейкія неверагодныя целы забітых людзей, аж закружылася галава, стала зусім не па сабе… Толькі покліч сяброў маіх адарваў мяне адсюль. Я падышоў да помніка, які ўяўляе сабой чорную стэлу з лабрадарыту з выбітымі на ім словамі: *«Предположительно на этом месте, где похоронены сотни известных и неизвестных людей, жертв репрессий, находится прах известного белорусского писателя, ученого и педагога Максима Ивановича Горецкого».* Я вельмі ўдзячны Уладзіміру Гілепу, Уладзіміру Ліўшыцу і іншым прыхільнікам творчасці М. Гарэцкага, намаганнямі якіх быў адкрыты помнік, а таксама нашаму земляку главе адміністрацыі Вяземскага раёна Уладзіміру Рудніцкаму, які ажыццяўляў нашу просьбу і прапанову пра ўшанаванне памяці ахвяр палітычных рэпрэсій, у тым ліку і Максіма Гарэцкага.

У далейшым Уладзімір Аляксандравіч дапамог адкрыццю помніка Максіма Гарэцкага ў Мінску, наданню імя пісьменніка вуліцы ў Мінску і інш. З вялікай прыемнасцю я ўдзельнічаю ў працы Рады Беларускага фонду культуры пад умелым і актыўным кіраўніцтвам У. Гілепа.

У сувязі з выхадам 300-га нумара «Краязнаўчай газеты» я паслаў У. Гілепу ліст.

*«Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!*

*Шчыра віншую Вас, рэдкалегію, усіх стваральнікаў, аўтараў і чытачоў з выхадам 300-га нумара «Краязнаўчай газеты», якая яскрава раскрывае ўсе бакі краязнаўства — інтэгральныя веды ад цэлага краю да невялічкага роднага кутка. Хочацца адзначыць, што газета чытаецца з вялікай цікавасцю, бо ў ёй асвятляюцца як сучаснае краязнаўства з комплекснымі ведамі ўсіх галоўных накірункаў, так і гістарычнае краязнаўства Беларусі. Усё разам дае вялікі плён у адраджэнні краіны. Вельмі цікавыя матэрыялы прыведзены пра краязнаўчы рух адраджэнцаў мінулага стагоддзя. Мне вельмі прыемна ўспомніць, што мой дзядзька Максім Гарэцкі быў актыўным удзельнікам беларускага краязнаўства, а мой тата Гаўрыла*

*Гарэцкі быў членам Цэнтральнага Бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры.*

*Хочацца зрабіць адну прапанову: больш прыцягваць да ўдзелу ў газеце геолагаў. Веды па геалогіі — вельмі важная частка краязнаўства. Геалагічная будова і развіццё зямной кары вобласці, раёна, горада значна ўплывае на іх прыроду, эканоміку, культуру. Геолагамі складзены і апісаны розныя карты: геалагічныя, геамарфалагічныя, тэктанічныя, сучасных рухаў, падземных вод і іншыя.*

*Жадаю далейшых поспехаў у Вашай высакароднай дзейнасці, вельмі патрэбнай для развіцця нашай Бацькаўшчыны і яе адраджэння!»*

***2009***

## «Акадэмкніга»

У газеце «Наша Ніва» ад 25 лістапада 2009 г. прачытаў: *«Легендарную дырэктарку кнігарні «Акадэмкніга» Соф'ю Жыбулеўскую кіраўнік Акадэміі навук Міхаіл Мясніковіч звольніў без тлумачэння прычынаў, не працягнуўшы кантракт. Спадарыня Соф'я перажывае, што пасля яе сыходу кнігарня страціць самастойнасць, а на паліцах з'явіцца розная макулатура. У «Акадэмкнізе» быў найбольшы ў краіне выбар беларускіх выданняў»*. З вялікім жалем убачыў гэту вестку, бо Соф'я Антонаўна з зусім занядбанага кніжнага магазіна ўтварыла самую лепшую ў Мінску кнігарню, дзе можна было набыць навуковыя кнігі з Масквы і Мінска, і самае галоўнае — беларускамоўныя кнігі як дзяржаўных, так і недзяржаўных выдавецтваў. Цікава, яе звольнілі з-за таго, што некаму з больш высокіх чыноўнікаў спатрэбілася гэтая пасада для свайго чалавека, ці ў сувязі з занадта моцным беларускім ухілам, а можа і за тое і за другое разам?

***2009***

## Выдатны вучоны-геолаг

Пазванілі з Масквы, што 27 снежня 2009 г. на 96-м годзе жыцця памёр акадэмік Віктар Яўхімавіч Хаін — адзін з самых выдатных геолагаў сучаснасці. Ён нарадзіўся ў Баку ў досыць багатай габрэйскай сям'і першай гільдыі купца — выхадца з Украіны. В. Хаін у сваіх успамінах пра сябе так напісаў: *«Мой отец и моя мать были двоюродными братом и сестрой. Результатом такого близкого родственного брака явилось то, что отец и мать были красивыми людьми, а я сам некрасив, но, однако, это, по-видимому, не отразилось на моих умственных способностях»*. Гэта сапраўды так: ён быў невялічкага росту, заўсёды нейкі згорблены, з буйным носам, які вытыркаўся наперад і плаўна пераходзіў у пакаты лоб, з тоўстымі губамі, якія яшчэ больш падкрэслівалі шырыню вялікага рота, з акулярамі, праз якія свяціліся малыя, але вельмі разумныя ўважлівыя вочы. Нечым ён нагадваў Квазімоду, асабліва тады, калі побач з ім была яго прыгажуня жонка Валянціна Ільінічна, троху вышэйшая за яго пышная бландзінка, вельмі падобная да знакамітай французскай актрысы Сімоны Сіньёрэ. Але калі Віктар Яўхімавіч пачынаў гаварыць, асабліва выступаць з трыбуны, а гэта гучала так прыгожа, голасам з выразным прыемным тэмбрам, разумна і пераканаўча, што ён сам ужо здаваўся зусім іншым — прыгожым, натхнёным чалавекам, выдатным прамоўцам.

В. Хаін рана страціў бацькоў, і яго ўсынавіў родны дзядзька — медык па прафесіі, які наняў для сына гувернантку і настаўніц, што дазволіла яму вывучыць французскую, англійскую мовы і троху горш нямецкую. Калі ў «хрушчоўскую адлігу» і пазней пачаў раскрывацца «жалезны занавес» і да нас у Савецкі Саюз пачалі прыязджаць розныя вядомыя замежныя геолагі з дакладамі ці праводзіліся навуковыя канферэнцыі, дык вельмі часта з перакладамі выступаў В. Хаін, бо тады мала хто з савецкіх геолагаў ведаў замежныя мовы.

В. Хаін быў адным з самых эрудзіраваных савецкіх геолагаў. Ён лепш за ўсіх ведаў сусветную геалагічную літаратуру, шыбкасць чытання навуковых прац усіх здзіўляла. Памятаю, як мы сядзелі ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, працуючы над макетам Міжнароднай тэктанічнай карты Еўропы. Дэкан геалагічнага факультэта прафесар А. А. Багданаў, які кіраваў працай над картай, абмяркоўваючы тэктанічную будову Афрыкі, сутыкнуўся з рэдкай і цяжкай па вымаўленні назвай геалагічнай тоўшчы. Ён з жартам усклікнуў: «Ну гэта, мусіць, нават Віктóр (так ён звычайна звяртаўся да Хаіна) не ведае?!» В. Хаін, які ціха сядзеў і, здавалася, нечым заняты быў іншым, ускінуў галаву і дасканала адказаў, дзе гэта тоўшча распаўсюджана, чым складзена і які яе ўзрост. Усе здзівіліся і радасна засмяяліся, яшчэ раз пераканаўшыся ва «ўсёведанні» Хаіна.

Віктар Яўхімавіч меў здзіўляючую працаздольнасць, а адсюль і пладавітасць. Ён не губляў часу, мог адначасова рабіць некалькі спраў. Калі я быў членам вучонага савета геалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта па абароне дысертацый, часта сядзеў побач з В. Хаіным. Звычайна ён не толькі слухаў абарону дысертацыі, але чым-небудзь яшчэ займаўся — ці пісаў водгук на артыкул, ці чытаў аўтарэферат, ці праглядаў нейкую кнігу. Я спачатку думаў, што ён не слухае дысертанта і выступоўцаў. Але, калі наступаў час задаваць пытанні, ён першы вельмі слушна пытаўся пра самае цікавае ў рабоце, а потым і выступаў з сур'ёзнай ацэнкай дысертацыі. Хаця гэтыя выступы нярэдка былі даволі крытычнымі, але ён па сутнасці дужа добразычлівы чалавек, амаль заўсёды галасаваў «за». У навуцы, у геалогіі было ўсё яго жыццё. Прыйшоўшы дахаты і троху адпачыўшы, ён садзіўся за стол і працаваў да ночы.

В. Хаін, мусіць, па колькасці публікацый сярод сваіх калег быў на першым месцы, прычым гэта былі не паўторы аднаго і таго ж, а сур'ёзныя, часта піянерскія працы. Найбольш выдатны яго твор — пяцітомная манаграфія «Региональная

геотектоника», у якой дадзена сістэматычнае апісанне будовы зямной кары ўсіх сучасных кантынентаў і акіянаў і аналіз гісторыі фарміравання іх структуры з адзінага тэарэтычнага погляду. Такую тытанічную працу-подзвіг, на якую ён патраціў амаль 15 гадоў (1971–1985), мог зрабіць толькі В. Хаін з яго веданнем сусветнай літаратуры, працаздольнасцю, мэтанакіраванасцю. За гэты вялізарны твор ён быў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР. Раней геалагічная будова ўсяго зямнога шара была разгледжана ў знакамітай трохтомнай манаграфіі «Лік Зямлі» (1888–1909) аўстрыйскага геолага Эдуарда Зюса, таму я ў віншаванні з нагоды 90-годдзя В. Хаіна назваў яго «сучасным Зюсам».

Як выдатны прафесар, на бліскучыя лекцыі якога прыходзілі не толькі студэнты, а нават і выкладчыкі, ён стварыў многія падручнікі, асабліва па геатэктоніцы, якімі карысталіся ўсе геалагічныя факультэты вышэйшых навучальных устаноў СССР, а пазней краін СНД, а ў перакладзе — таксама шмат іншых краін свету.

Мы часта сустракаліся з Віктарам Яўхімавічам на пасяджэннях Міжведамаснага тэктанічнага камітэта, Камісіі па міжнароднай праграме геалагічнай карэляцыі, розных тэктанічных нарадах, кангрэсах, рэдкалегіі часопіса «Геатэктоніка», пры складанні тэктанічных карт і інш.

Асабліва цікавымі былі нарады ў розных гарадах з геалагічнымі экскурсіямі, у час якіх мы вывучалі геалагічныя аб’екты, абмяркоўвалі іх і дыскутавалі, выказваючы свае погляды на геалагічную будову і развіццё таго рэгіёна, які мы ўсе разам аглядалі і вывучалі. В. Я. Хаін быў старшынёй тэктанічнай секцыі Навуковага савета па праблемах геалогіі і распрацоўкі нафтавых і газавых радовішчаў, а я — членам бюро секцыі. Мы правялі з канца 70-х гг. да пачатку 90-х шэраг нарад, душой якіх заўсёды быў Віктар Яўхімавіч, у самых розных мясцінах: Рызе, Адэсе, Фрунзе, Мурманску, Ухце, Ашхабадзе, Чарнігаве і інш.

Вельмі запамінальнай была наша сумесная паездка ў 1978 г. у Парыж на пасяджэнне Падкамісіі па тэктанічнай карце свету, генеральным сакратаром, а пазней і прэзідэнтам якой быў В. Хаін. Я тады першы раз трапіў у гэты цудоўны горад. Усе 12 камандзіровачных дзён настолькі былі напружанымі, што мы амаль не спалі, бо трэба было прымаць удзел у многіх пасяджэннях, паглядзець горад, яго шматлікія музеі і іншыя славутасці, а ноччу пазнаёміцца з кнігамі нашых дысідэнтаў і эмігрантаў, а таксама з выдадзенымі ў замежжы ўспамінамі М. С. Хрушчова, што тады было небяспечна, нават за мяжой і ў вузкім коле калег, але так цікава, бо адкрывалася многа новага малавядомага і праўдзівага. Гэту літаратуру мы змаглі атрымаць у сябра Хаіна пецярбуржца Юрыя Шубера, які эмігрыраваў яшчэ перад самай рэвалюцыяй і стаў выдатным геолагам-тэктаністам, найлепшым знаўцам геалогіі Афрыкі. Юрый Аляксандравіч і яго жонка размаўлялі на дарэвалюцыйнай мове Пецярбурга, і я са здзіўленнем адчуў, як руская мова жыве і змяняецца нават за такі кароткі час: некаторыя іх словы былі не зусім зразумелымі, націскі і моўныя звароты цяпер сталі троху іншымі. У гэтых мілых, высокаінтэлігентных людзей мы правялі некалькі вельмі прыемных вечароў.

* * *

У 1986 г. была паездка ў Лондан на пасяджэнні рэдкалегіі Міжнароднай тэктанічнай карты Еўропы (3-е выданне). Савецкую дэлегацыю на чале з В. Хаіным прымаў вядомы геолаг дырэктар Геалагічнага музея прафесар Ф. У. Данінг. Гэты музей, якому ўжо больш за 150 гадоў, размешчаны ў шыкоўным вялікім палацы ў цэнтры Лондана і пакідае незабыўнае ўражанне сваім багаццем геалагічных экспанатаў, цудоўным навуковым паказам розных геалагічных працэсаў. Але яшчэ больш здзівілі шматлікія дзяўчынкі і хлопчыкі, якія з увагай гадзінамі стаялі каля стэндаў і калекцый. У кожнага з іх сшытачкі, куды заносіцца ўбачанае. А ў нас геалогію ў

школе амаль зусім не вывучаюць. У Лондане мы пазнаёміліся з выдатным шведскім геолагам, выхадцам з Эстоніі Рональдам (Расціславам Міхайлавічам) Гарбачовым і сталі сведкамі яго рамантычных адносін са Святланай Багданавай, якая ўваходзіла ў нашу дэлегацыю і якая пазней пераехала да свайго мужа ў Лунд. Разам з гэтай цудоўнай геалагічнай парай ужо поўнасцю шведскіх вучоных беларускія геолагі і геафізікі выконвалі некалькі важнейшых міжнародных праектаў, у тым ліку Europobe, Eurobridge і іншыя, якія мелі важнае значэнне для вывучэння геалагічнай будовы тэрыторыі Беларусі.

У 1987 г. былі выбары ў Акадэмію навук СССР. Кандыдатамі ў акадэмікі па спецыяльнасці «Тэктоніка, сейсмалогія» (2 вакансіі) быў вылучаны шэраг спецыялістаў, у тым ліку і В. Я. Хаін, а ад Беларусі я. Экспертная камісія, якая таксама галасуе тайна, на першае месца паставіла мяне, бо спадзявалася, што я тады пераеду ў Маскву і мяне змогуць разглядаць як патэнцыяльнага кандыдата на дырэктара Геалагічнага інстытута АН СССР. Але я адмовіўся ад пераезду ў Маскву, чым вельмі ўсіх здзівіў, бо звычайна многія імкнуліся жыць і працаваць у «столице нашей Родины». Тады ў акадэмікі быў абраны В. Я. Хаін, чаму я быў вельмі рады, сардэчна яго павіншаваў. Ён, безумоўна, быў большварты гэтага звання, чым я, і ў іншым выпадку мне проста было б няёмка. Другую вакансію заняў В. Кейліс-Борак, пра якога Прэзідыум АН сказаў, што калі не выберуць яго, то адзінка зусім прападзе, бо яна дадзена асабіста пад яго. Мяне ж абралі пазней, у 1994 г., але тады ўжо Расія і Беларусь сталі самастойнымі дзяржавамі і мяне абралі не правадзейным, а замежным членам Расійскай акадэміі навук.

Чытаю адну з апошніх кніг В. Хаіна «Дни моей жизни. Воспоминания геолога» (2009) з надпісам «Дорогому другу Радиму Гарецкому от автора» — з сумам, што няма ўжо гэтага выдатнага чалавека, і з гонарам, што мне пашанцавала сябраваць з ім. Ён перанёс многа цяжкага і шчаслівага, крыўднага і радаснага, але заўсёды заставаўся аптымістычным, добразыч-

лівым. Ён перажыў страту сына, смерць сваёй мілай жонкі, пад канец жыцця страціў зусім свой зрок: у 2007 г. сказаў мне, што апошняя кніга, якую ён сам цалкам прачытаў, гэта была кніжка маіх успамінаў «Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг». Але Віктар Яўхімавіч актыўна працаваў і з дапамогай сваіх калег сачыў за літаратурай, да апошніх гадзін пісаў артыкулы і выдатна выступіў на тэктанічнай нарадзе ў лютым 2009 г.

У сваіх успамінах В. Хаін падзяліўся цікавымі меркаваннямі пра сакрэт свайго даўгалецця: добрая спадчыннасць, адсутнасць пачуцця рэўнасці, зайздрасці, пыхлівасці, але прысутнасць здаровага, умеркаванага славалюбства, душэўны спакой, нямоцны «харошы эгаізм», патрыятызм, сяброўства з калегамі.

*2009*

## Новы год і Каляды

Гэта для большасці людзей самыя светлыя і радасныя святы, з якімі звязаны надзеі на лепшую будучыню і шчасце.

Успамінаю сустрэчу Новага года ў ноч на 1979 год, калі апошні раз за мінулыя дзесяцігоддзі быў мароз пад мінус 30°. Мы, супрацоўнікі Акадэміі навук БССР, толькі засяліліся ў новы дом, які быў пабудаваны для вядучых вучоных акадэміі па спецыяльным дазволе з Масквы, і таму кватэры былі не са стандартнай у той час вышынёй столі у 2,5 м, а троху больш — 2,8 м, большымі па памерах кухняй і пакоямі. Зрабілі яго ў форме дзвюх выпуклых хваляў у розныя бакі, таму і дом у народзе празвалі «Даляр», заадно маючы на ўвазе і яго «прэстыжнасць». Нягледзячы на тое, што дом будаваўся пад асобным наглядам з боку Прэзідыума АН БССР і нават урада, недаробак аказалася вельмі шмат, тым больш, што будаўнікі паціху здымалі ручкі і замкі ад дзвярэй, разеткі, нават унітазы, прадавалі іх каму-небудзь ці ставілі ў першую чаргу тым гаспадарам кватэр, якія давалі ім за гэта «паўлітры» гарэлкі.

Таму парадак у кватэры пры ўмове дэфіцыту ўсяго гаспадарчага, што было ў тыя часы, мы змаглі наладзіць толькі праз год. Дасягнуўшы такога стану кватэр, мы з палёгкай пачалі рыхтавацца да сустрэчы новага года. Моцны калядны мароз не дазваляў падняць тэмпературу ў хатах больш за 15–17°, таму многія ўключылі розныя абагравацелі, ды і гарэлкі прыйшлося набыць больш, чым звычайна. Здавалася, ужо ўсё было гатова да сустрэчы, на вуліцы людзей стала зусім мала, сядзелі ў кватэрах. І раптам батарэі сталі зусім халоднымі, тэмпература ў кватэрах стала рэзка падаць, халадзюга ахапіла дом. А ў хуткім часе і святло пагасла. Акадэмікі і прафесары пачалі званіць у розныя службы, якія больш маўчалі. Выскачылі на вуліцу і бегалі туды-сюды, шукаючы прычыны аварыі і спецыялістаў па электрычнасці і сантэхніцы. Сустрэча гэтага новага года запоўнілася надоўга. Але ў пазнейшыя гады маразы сталі значна слабейшыя, а затым нярэдка на Новы год ішоў дождж, і ўсе з надзеяй маліліся, каб выпаў снег, бо Новы год без снегу зусім сумна сустракаць. Многія зямляне вырашылі, што наступіла эпоха «глабальнага пацяплення», аб чым загаласілі ва ўсім свеце.

*2010*

## Пацяпленне?

Зіма 2009/10 г. выдалася сапраўднай, якой у Беларусі, мусіць, не было ўжо пару дзесяцігоддзяў, а ў Еўропе і ЗША яшчэ значна даўней. Па тэлебачанні кожны дзень паказваюць розныя аварыі і беды ў сувязі з маразамі і снегам: як завалiла снегам Іспанію, Італію, Вялікабрытанію, Кітай, розныя штаты Паўночнай Амерыкі, як парвала ад марозу трубы ў Сібіры і абледзянела Саяна-Шушанская ГЭС, якія бясконцыя пробкі на заснежаных дарогах Масквы і Санкт-Пецярбурга, жудасныя аварыі транспарту на коўзкіх дарогах Растоўскай вобласці, складанасці з-за холаду і снегу і заторы ў аэрапортах, непа-

ладкі з экспрэсам пад Ла-Маншам і г. д. Такое ўражанне, што Бог нарэшце раззлаваўся на галашэнне чалавецтва пра небяспечнае змяненне клімату ў бок пацяплення, якое прывядзе да жыццёвых змен жыцця людзей, а можа, нават і пагібелі паловы ці ўсяго чалавецтва, і вырашыў нагадаць чалавеку, што зімы бываюць па-сапраўднаму халодныя, і напусціў іх на ўсё паўночнае паўшар'е, каб астудзіць гарачыя галовы людзей, многія з якіх пачалі выкарыстоўваць праблему глабальнага пацяплення ў палітычных і фінансавых часта не зусім сумленных мэтах. Безумоўна, тэхнагеннае забруджванне атмасферы і прыроднага асяроддзя трэба мінімізаваць, бо чалавек толькі частка прыроды і яму неабходна не перарабляць яе, а прыстасоўвацца да яе вялікасці. Кліматычныя цыклы пацяплення і пахаладання, якія заўважаюць пакаленні людзей, будуць ісці незалежна ад волі чалавека, прычым яны будуць парушаць больш значныя па тэрміну прыродныя цыклы — ледавіковыя і міжледавіковыя эпохі, якія чаргаваліся ў апошні геалагічны так званы чацвярцёвы, ці антрапагенавы, перыяд Зямлі і якія даволі дасканала вывучаны геолагамі.

*2010*

## Хакей

Мне пазваніла знаёмая настаўніца сярэдняй школы Мінска і павіншавала з Калядамі. Я адказаў ёй тым жа і спытаў, як яе настрой і як будзе сустракаць свята. Яна сумна адказала: «Каму свята, а каму і не, вось павінна ісці на хакей, хаця я яго зусім не люблю. Нас, усіх настаўнікаў школы, прымушаюць ісці ў яшчэ адзін новы лядовы палац «Мінск-Арэна», каб ствараць «радасную масу балельшчыкаў» за нашу прэзідэнцкую каманду супраць каманды Расіі ў калядныя спаборніцтвы на прыз Прэзідэнта Беларусі. Добра, што на гэты раз хоць вучняў не пагналі».

*2010*

## Цяпло каляднага часопіса «Верасень»

7 студзеня 2010 г. на халодныя Каляды, у Дзень Нараджэння Хрыстова ў дольнай зале Чырвонага касцёла імя Алены і Сымона адбылася прэзентацыя новага літаратурна-мастацкага часопіса для моладзі «Верасень», які таксама, як і яго галоўны рэдактар паэт Эдуард Акулін, таксама нарадзіліся ў гэты святы дзень. Зала была паўнюсенькай, людзі стаялі ў пераходах і каля ўсіх сценак. Радавала, што бачыліся не толькі тыя больш сталыя заўсёднікі беларускамоўных імпрэзаў, але і вельмі многа моладзі. Вечарыну вёў Эдуард Акулін — выдатны паэт, бард, рэдактар, інтэлігент, светлы чалавек. Рабіў гэта ён з вялікім майстэрствам: чыстым звонкім голасам, змястоўна, з гумарам, з адметным культурным густам. Вечарыну пачаў народны вакальны гурт «Пліса» пад кіраўніцтвам Кастуся Геращчанкі з добрай беларускай народнай песні. Цікавымі былі выступленні старэйшых пісьменнікаў, але найбольш уразілі маладыя аўтары вершаў і артыкулаў першага нумара часопіса. Чыстымі звонкімі галасамі прыгожыя светлыя дзяўчаткі чыталі свае такія сур’ёзныя лірычныя і патрыятычныя вершы на чысцюсенькай беларускай мове. Асабліва ўсхвалявалі выступленні зусім малых дзетак гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына» з Дварцоўскай сярэдняй школы (кіраўнік Наталля Ляўкевіч), якія спецыяльна прыехалі на прэзентацыю. Вось дзе адчувалася шчырасць пачуццяў і любоў да роднага краю, да беларускасці! Многія з слухачоў, у тым ліку і я, змахнулі слязу радасці з вачэй. Э. Акулін закончыў вечарыну новай сваёй песняй «Мама», якая да глыбіні душы кранула слухачоў, і знакамітай песняй «Янка Купала», прыпеў якой падхапіла ўся зала. Цеплыня «Верасня» шчыра сагрэла душу і ў нашу антыбеларускую сучаснасць ўзняла веру ў тое, што будзе жыць беларуская мова і будзе жыць Беларусь. Нездарма Э. Акулін растлумачыў назву часопіса як «у засені Веры».

***2010***

## Славуты палітык

15 снежня 2009 г. Станіславу Станіслававічу Шушкевічу споўнілася 75 гадоў. Гэты дзень ён сустрэў у ЗША разам са сваёй мілай Ірынай і толькі 14 студзеня 2010 г. адзначыў гэтую дату са сваімі сябрамі і добрымі знаёмымі ў Мінску. Як заўсёды быў энергічны, жвавы, прыветлівы, вельмі просты ў абыходжанні, сціплы, уважлівы, гаваркі з гумарам і жартамі. Безумоўна, С. С. Шушкевіч — самы вядомы ў свеце сучасны беларускі палітык, перш-наперш тым, што ён адзін з тых трох «белавежскіх зуброў», якія канстатавалі і падпісалі «Белавежскае пагадненне аб развале СССР і стварэнні садружнасці незалежных дзяржаў — СНД». Ён стаў першым кіраўніком новай незалежнай краіны Еўропы — Рэспублікі Беларусь.

Гэтымі дзеяннямі і я асабіста вельмі ўдзячны Станіславу Станіслававічу, бо пазнаў жыццё разам з бацькамі ў ГУЛАГу на Беламорска-Балтыйскім канале, і рады, што здзейснілася мара беларускіх адраджэнцаў мінулага стагоддзя, у тым ліку і маіх любых таты і дзядзькі, пра незалежную Беларусь. Мае бацькі яшчэ з 1928 г. былі знаёмы з бацькам юбіляра Станіславам Пятровічам, які быў вядомы паэт і вельмі сціплы і мілы чалавек. Ён таксама быў двойчы рэпрэсіраваны, высланы ў Сібір, дзе прабыў 20 гадоў, працаваў лесарубам і ў геалагічных экспедыцыях і толькі ў 1956 г. вярнуўся на радзіму. Праз маіх бацькоў і я пасябраваў з паэтам, які заўсёды прэзентаваў мне свае творы. Калі да мяне завітаў Станіслаў Станіслававіч, я яму паказаў кнігі яго бацькі, дык ён са здзіўленнем усклікнуў: «Дык у вас гэтых кніг не менш, а можа і больш, чым у мяне!»

Калі кіраўніком дзяржавы стаў С. Шушкевіч, які, дарэчы, ездзіў з адным ахоўнікам, а то і без яго і які выдатна размаўляў і па-беларуску, і па-руску, у краіне ў хуткім часе ўзнялася вялікая хваля руху нацыянальнага адраджэння. Быў прыняты Закон аб мовах, у адпаведнасці з якім беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай мовай рэспублікі, Дэкларацыя аб

дзяржаўным суверэнітэце БССР і наданне ёй статуса канстытуцыйнага закона, пастанова аб прыпыненні дзейнасці КПСС-КПБ на тэрыторыі Беларусі, пастанова аб змене назвы БССР на Рэспубліку Беларусь, зацвярджэнні дзяржаўнага герба «Пагоні» і дзяржаўнага бела-чырвона-белага сцяга. Менавіта С. Шушкевіч падпісаў пастанову аб вывазе з Беларусі ядзернай зброі, што ён сам лічыць адным з галоўных сваіх дасягненняў. Беларуская дзяржаўная дэлегацыя на чале з С. С. Шушкевічам у ЗША падпісала Дэкларацыю пра адносіны паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь, а праз паўгода адбыўся афіцыйны візіт у Беларусь прэзідэнта ЗША Біла Клінтана, які прыслаў вельмі цёплае віншаванне з нагоды 75-годдзя свайго калегі. С. Шушкевіч годна прадстаўляў Беларусь у многіх краінах свету, сустракаючыся з прэзідэнтамі, прэм'ер-міністрамі, каралямі і каралевамі і іншымі палітыкамі.

С. Шушкевіч — унікальны чалавек, які цяпер не толькі па тых пералічаных раней станоўчых паказчыках, але і па незразумелых у нармальнай краіне справах варты трапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса. Ён, як вядома, выдатны навуковец і арганізатар навуковай і педагагічнай працы, член-карэспандэнт НАН Беларусі, але адзіны, хто жыве ў Беларусі і не атрымлівае за навуковае званне грошы. Яго пенсія зараз знізілася да 1,5 даляра, але і кіраўніцтва дзяржавы і ўсе суды ад раённага да Канстытуцыйнага лічаць гэта нармальным. Яго нідзе не прымаюць на працу ў дзяржаўных установах, і таму можа лічыцца беспрацоўным. Але ён узначальвае і актыўна вядзе працу ў партыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Каб зарабіць грошы на жыццё, С. Шушкевіч стаў сапраўдным вандроўнікам і наведвае многія краіны свету, куды яго, як выдатнага палітычнага дзеяча, з вялікай прыемнасцю і гонарам запрашаюць, каб прачытаць лекцыі на розныя палітычныя і эканамічныя тэмы.

Хочацца пажадаць Станіславу Станіслававічу той жа бадзёрасці і мужнасці, якія яго ніколі не пакідалі нават у час, калі

вадаспады бруду і несправядлівасці (тыпу «скрыні цвікоў» і інш.) валіліся на яго; моцнага здароўя, якое, дзякуй Богу, не пакідала яго да гэтага часу, палітычнай мудрасці, поспехаў на карысць нашай Бацькаўшчыны і выказаць вялікую падзяку за тое, што ён паспеў ажыццявіць.

*2010*

## «Партызанскі» ліцэй

14 студзеня 2010 г. вучні, настаўнікі і прыхільнікі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа на чале з адным з яго заснавальнікаў і нязменным дырэктарам У. Коласам адзначылі 20-годдзе ліцэя, якога ўлады ў 2003 г. нібыта з нагоды рамонту будынка ліквідавалі як «гняздо апазіцыі», але яго задалося захаваць, і цяпер ён існуе ў форме недзяржаўнага, і таму ў народзе ён вядомы ў якасці «партызанскага».

Вельмі добра памятаю той «Дзень ведаў» і дзень пачатку заняткаў, які прыйшлося правесці на вуліцы супраць адабранага будынка ліцэя. Мяне таксама запрасілі прачытаць лекцыю ліцэістам. Яны сядзелі на спецыяльна вырабленых драўляных лаўках, вакол стаялі іх бацькі, а троху далей міліцыянты і моцныя хлопцы ў штацкім адзенні. Вачаняты маладых прыгожых дзяўчынак і хлопцаў свяціліся такой мужнасцю, верай у лепшую будучыню краіны і іх лёсу, з такой прагнасцю глыталі словы ведаў і праўды, што радасць ахоплівала мае сэрца. Гэты незабыўны момант заўсёды будзе грэць маю душу і ніколі не знікне з маёй памяці.

Ліцэй — гэта адзіная ў краіне навучальная ўстанова, у якой ўсюды і ад усіх — ад вучняў, настаўнікаў і тэхнічнага персаналу — можна пачуць беларускую мову. Гэта — унікальная сапраўдная нацыянальная вучэльня — пераемнік традыцыі беларушчыны Віленскай беларускай гімназіі, якія залажылі выдатныя адраджэнцы першых дзесяцігоддзяў мінулага стагоддзя, моцнае ядзерка сучаснага адраджэнскага духу. Таму,

выступаючы з прывітаннем, я падараваў ліцэю кнігу Максіма Гарэцкага «Выбранае», якая толькі што выдадзена ў серыі «Беларускі кнігазбор». Спадзяюся, што настане такі час, калі такія па-сапраўднаму нацыянальныя ліцэі многімі дзясяткамі ўзнікнуць у розных мясцінах Беларусі.

*2010*

## Мастак-адраджэнец

11 лютага 2010 г. у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстаўка, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння выдатнага мастака і грамадскага дзеяча Лявона Баразны. Здзіўляе шырокая палітра яго жывапісу — акварэль, пастэль, вітраж, графіка і інш. Вялікае ўражанне пакідаюць яго партрэты, пейзажы, вясковыя краявіды і гарадскія замалёўкі. Асабліва знакаміты яго творчыя працы па занатоўванні ўзораў ткацтва з нацыянальнай арнаментыкай, якія ўвайшлі ў альбомы «Беларускае народнае адзенне», «Беларуская народная вопратка», «Беларускі народны арнамент Палесся», «Тканіны Гродзеншчыны». Тут ён паказаў сябе як таленавіты даследчык-першапраходзец. Гэта дазволіла Лявону Цімафеевічу стварыць касцюмы для шэрагу ансамбляў песні і танца. Значны ўклад зрабіў ён у скарыназнаўства, выдаўшы альбом «Гравюры Францыска Скарыны». Лявон Баразна быў адным з першых адраджэнцаў другой паловы мінулага стагоддзя. Яго любоў да Бацькаўшчыны, падтрымка роднай мовы, нязломны патрыятызм моцна паўплывалі на з’яўленне магутнай плеяды беларускіх мастакоў-адраджэнцаў сучаснасці. На жаль, мастак трагічна загінуў 15 жніўня 1972 г. у Мінску на 44-м годзе жыцця.

Прыгадваю, як мой тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі, рэагаваў на гэтую страту. Пасля амаль саракагадовага блукання па Расіі здзейснілася мара акадэміка, і ён канчаткова вярнуўся на радзіму ў канцы 1969 г. Не толькі любімая геалогія, асаб-

ліва геалогія антрапагену, захапляла яго. Ён прагна глытаў усё беларускае і таму не прапускаў ніводнай пастаноўкі ў тэатры імя Янкі Купалы, часта наведваў Вялікі оперны тэатр, філармонію, усе мастацкія выстаўкі, нарады і імпрэзы беларускіх пісьменнікаў і г. д. Пазнаёміўся і пасябраваў з многімі дзеячамі навукі, культуры, літаратуры і мастацтва. У самым канцы 1971 г. і я пераехаў з Масквы ў Мінск. Я памятаю, як тата вельмі высока ставіўся да творчасці і дзейнасці Лявона Баразны, з якім быў троху знаёмы. Асабліва прываблівала яго шчырая беларускасць. Памятаю, як узрушыла тату нечаканая трагічная смерць мастака. Ён са слязьмі на вачах гаварыў мне пра гэтую жудасную падзею. Я і Лявон былі аднагодкамі і нарадзіліся амаль у адзін дзень снежня месяца. На жаль, нам не давялося пазнаёміцца. А майму тату здавалася, што ён у той дзень страціў нешта такое блізкае яму, амаль сыноўняе. Ён доўга не мог супакоіцца, страшэнна перажываў, асабліва калі ўбачыць мяне…

Безумоўна, спадчына і імя Лявона Баразны будзе жыць у памяці беларускага народа вечна і не толькі ў выстаўках, музеях, альбомах, кнігах, але і ў назве вуліц.

*2010*

## «Беларускія справы»

20 лютага 2010 г. у Мінску адбылася прэзентацыя кінафільма «Беларускія справы», створанага Вольгай Мікалайчык па матэрыялах хатняга архіва Хведара Нюнькі і прысвечанага 20-годдзю дзейнасці Таварыства беларускай культуры (ТБК) у Літве. Галоўны герой фільма — 82-гадовы бяззменны кіраўнік ТБК Хведар Нюнька, які спецыяльна прыехаў з Вільні. Арганізатары сустрэчы — Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» (Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская). У фільме вельмі дынамічна і яскрава паказаны галоўныя моманты і дасягненні ТБК і яго кіраўніка. А зроблена вельмі

шмат: праведзена чатыры з’езды беларусаў краін Балтыі; усталявана 10 мемарыяльных таблічак у гонар слынных беларускіх дзеячаў; на базе ТБК пачала працаваць сучасная газета «Наша Ніва»; выдаецца газета беларусаў Літвы «Рунь»; заснавана выдавецтва ТБК, якое выдала шэраг беларускіх кніг; праведзены імпрэзы і лекцыі, прысвечаныя выдатным беларускім палітычным дзеячам, прадстаўнікам культуры, навукі, літаратуры, мастацтва, а таксама сустрэчы з многімі зараз дзейнымі; прыватызавана сядзіба ТБК, а нядаўна атрымана пляцоўка (12 сотак) для Цэнтра культуры Якуба Коласа (там, дзе раней быў дом сям’і жонкі паэта — Марыі Дзмітрыеўны) і многае іншае. ТБК спрыяла і шмат чаго зрабіла для адкрыцця беларускай школы ў Вільні, беларускага аддзялення пры Віленскім педагагічным універсітэце, беларускамоўных перадач на літоўскім радыё. У ТБК працавалі вядомыя прадстаўнікі беларускага адраджэння: Лявон і Юрка Луцкевічы, Лявон Кароль, Яраслаў Станкевіч, Сяргей Карабач, Мікола Рулінскі. У розных імпрэзах ТБК прымалі ўдзел шматлікія выдатныя беларускія дзеячы метраполіі і замежжа. Постаці многіх з іх з цікавасцю можна бачыць у фільме — Зоська Верас, Івонка Сурвіла, Зянон Пазьняк, Барыс Рагуля і інш.

Мне вельмі прыемна адзначыць, што і я прымаў удзел у шэрагу розных мерапрыемстваў ТБК і нават разам з Анатолем Грыцкевічам быў прыняты ганаровым членам ТБК. Я рады, што Хведар Нюнька стаў маім шчырым сябрам. Вельмі добразычлівы, гасцінны, працаздольны, ініцыятыўны, ён карыстаецца вялікай павагай як у літоўцаў і ўладаў Літвы (важна, што дасканала ведае літоўскую мову), так і ў шырокага кола ўсіх беларусаў. Хведар Нюнька — выдатны беларускі адраджэнец Літвы, спадкаемца многіх віленскіх адраджэнцаў мінулага стагоддзя. Я асабліва ўдзячны яму за ўшанаванне памяці Максіма Гарэцкага і яго лепшай вучаніцы Першай віленскай беларускай гімназіі Наталлі Арсенневай, мемарыяльныя дошкі якіх, дзякуючы намаганням сп. Нюнькі, усталяваны побач з уваходам у былы будынак гэтай гімназіі.

Калі я прыязджаю ў Вільню, супыняюся ў кватэры гасціннага гаспадара Хведара, а ён — у мяне ў Мінску. Вось і на гэты раз мы доўга за поўнач сядзелі, не маглі скончыць размову, бо шмат што патрабуе абмеркаваць наша беларуская рэчаіснасць…

*2010*

## Пашпарт

Вырашыў памяняць пашпарт, бо ў ім скончыліся чыстыя незапоўненыя лісты. У канцы лютага 2010 г. пайшоў да пашпартысткі — трэба запоўніць бланк на дзвюх мовах. Хутка гэта зрабіў. Пашпартыстка здзіўлена: «Цудоўна! У нас это так редко бывает, т. к. многие не знают, как написать по-белорусски даже свою фамилию. Приглашаю вас к нам на работу заполнять бланки». І сапраўды, да яе бясконца падыходзяць людзі і пытаюцца, як адказаць на тое ці іншае пытанне, а яно вельмі простае, у першую чаргу прозвішча і імя; просяць замяніць сапсаваныя бланкі. Вось як адвучылі людзей ад роднай мовы!

*2010*

## Мужная жанчына — паэтка ад Бога

У заўсёды змястоўным і цікавым часопісе «Тэрмапілы» (№ 13 за 2009 г.) прачытаў лісты Ніны Мацяш да Галіны Тварановіч і Яна Чыквіна, у якіх яшчэ раз так яскрава адчуў вялікае сэрца, дабрыню, шчырасць і пяшчотнасць цудоўнай нашай паэтэсы. З кожнага яе слова льецца такая цеплыня, сардэчнасць, сапраўднае сяброўства і любоў. Здзіўляе яе мужнасць, жыццялюбства: нягледзячы на пастаянныя фізічныя пакуты, яна імкнулася не заўважаць сваёй немачы і шчыра любіла жыццё, людзей. Чытаючы лісты, у многія моманты само сабой ад хвалявання і жалю, што няма з намі гэтага

светлага чалавека, падступалі слёзы… З якімі сардэчнымі шчырымі словамі звяртаецца паэтка да сваіх дарагіх сяброў: *«Мілая, слаўная! Даражэнькая, слаўная мая Галіначка! Добры дзень, Галюся! Галечка, галінка родная! Галіначка, душанька зычлівая! Залатая мая, светлая галінка! Дарагая мая, даражэнькая! Галіначка-птушачка! Мілы, слаўны Яне! Мілы Янка, мілая-мілая Галінка! Сардэчна-светлыя, шчырыя мае Галіначка і Янку! Гарнуся да вас з любасцю!»* і інш. Увесь час, усюды адчуваецца аптымізм і надзея на лепшае як для сябе, так і асабліва для сяброў, а таму такія добрыя пажаданні: *«…хай часцей ахоўнае бярэ цябе пад сваё крыло радасці! Хай спрыяе Вам Вашае ваколле і прырода, і людзі! Хай вясна будзе зычліваю і светлаю, багатай на радасць для Вас! Хай здаровіцца, хай творацца! Хай радасць будзе хлебам штодзённым і дзеля Вашай душы! Будзь і будзьма дарагі! Жыві працай, натхнята! Хай будзе міласцівы Бог і верная Муза! І акрыляем і мы разам з прыродай! Хай крыляецца вам і шчасціць! Будзь, мая ластавачка, зычу Вам моцы духу і ўменне радавацца жыццю ўжо сёння, бо яно, жыццё, дорыць нам не толькі смуткі, але й святло, і святы душы, якія не варта азмрочваць недаверам, бо — прамінуцца! Гарнуся ласкава і шчыра зычу дужасці і лірычнай варушкасці!»* і інш.

Вельмі шкада, што шляхі мае з Нінай Мацяш перасякаліся рэдка — на з’ездзе і сходах літаратараў, з’ездах беларусаў свету і інш. Але заўсёды я бачыў яе мілую ўсмешку, зычлівы погляд, радасны добразычлівы твар з разумнымі добрымі вачыма…

Перад самым Новым, 2010 годам я атрымаў ад Ніны Іосіфаўны карталюшку з віншаваннем. Заключныя словы ў ёй: *«Дасць Бог, яшчэ сустрэнемся!»* На жаль, вельмі хутка прыйшла жахлівая вестка аб тым, што Ніна Мацяш адышла ў іншы свет. На наша шчасце, засталіся цёплыя ўспаміны і яе цудоўныя вершы і іншыя творы. Значна пазней, у лютым 2010 г., з радасцю прачытаў у газеце «Наша слова», што Белаазёрскай гарадской бібліятэцы далі імя Ніны Мацяш. Упэўнены, што

ўшанаванне памяці выдатнай паэткі працягнецца і ў выглядзе мемарыяльнай дошкі і помніка, у наданні імя вуліцы і адкрыцці музея і інш.

*2010*

## 50 тамоў «Беларускага кнігазбору»

Кастусь Цвірка, старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Белкнігазбор», даўно размаўляў са мной пра неабходнасць выдання ў «Беларускім кнігазборы» твораў Максіма Гарэцкага, прычым меркаваў, што патрэбна іх надрукаваць як у серыі I «Мастацкая літаратура», так і ў серыі II «Гісторыка-літаратурныя помнікі», але ўсё не было фінансавання ні на адну кнігу. І вось у канцы 2009 г., нарэшце, накапілі грошы. Тэрэза Голуб, адна з лепшых знаўцаў жыцця і творчасці пісьменніка, узяла на сябе ўкладанне кнігі (у гэтым і я ёй троху дапамагаў), а таксама складанне прадмовы і каментара. Кастусь Цвірка і я адабралі шэраг фотаздымкаў. Вырашылі, што зможам выдаць толькі адну кнігу ў серыі «Мастацкая літаратура». Таму намецілі тры раздзелы: проза (куды ўвайшлі апавяданні, аповесці, дакументальна-мастацкія і філасофска-алегарычныя творы), драматургія і публіцыстыка. Вельмі цяжка адбіраць, бо хочацца змясціць і гэты твор, і той, а памеры кніжкі абмежаваныя. Задалося ўключыць два апавяданні, якія раней не друкаваліся. Гэта «Юбілеуш» і «Як удава». Змясцілі «Кіпарысы», «Лявоніус Задумекус» і «Скарбы жыцця» — творы, якія ўпершыню былі апублікаваны Галінай Гарэцкай, дачкой пісьменніка, у часопісе «Полымя» (1993. № 2) да 100-годдзя Максіма Гарэцкага. У сярэдзіне снежня 2009 г. пазваніў Генадзь Вінярскі, выканаўчы дырэктар «Беларускага кнігазбору», і паведаміў, што пяцідзясяты том серыі — «Максім Гарэцкі. Выбраныя творы» выйшаў з друку.

Вельмі добра памятаю, як у 1995 г. зайшоў да мяне, тады віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, Кастусь Цвірка і па-

драбязна пазнаёміў з яго ідэяй «Беларускага кнігазбору», планам-каталогам «шматтомнага выдання беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь ад старажытнасці да нашых дзён» і стварэннем Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор». У той час кароткая, але моцная хваля нацыянальнага Адраджэння ўжо пайшла на спад, і таму, каб прабіць цвёрдакаменную чыноўніцкую вертыкаль і атрымаць дазвол на выкананне праекта, патрэбна было прыкласці шмат намаганняў шляхам заяў, перапіскі, сустрэч і г. д. Я падтрымаў Кастуся Цвірку, быў абраны членам Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор» і як мог дапамагаў у гэтай справе. Ужо на наступны год з вялікай радасцю я атрымаў першы том кнігазбору «Ян Чачот. Выбраныя творы» з надпісам: *«Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! З Вашай дапамогай мы распачалі гэтай кнігай вяртанне народу нашай вялікай літаратурнай спадчыны, вяртанне яго гістарычнай памяці. Шчыра Вам дзякуй! Кастусь Цвірка. 9 верасня 1996 г.».*

Я ганаруся, што хоць троху далучыўся да здзяйснення гэтага выдатнага праекта, які паказаў, што беларускі народ стварыў адну з самых багатых у свеце літаратур. На жаль, да гэтага часу шырокае кола грамадскасці не ведае яе ў значным аб’ёме, не ведае нашу багатую літаратурную спадчыну. Двухсоттомны кнігазбор, нарэшце, пакажа ўсяму свету веліч нашай літаратуры. Ужо тыя 50 тамоў, што выйшлі з друку, выклікаюць вялікі гонар. Безумоўна, гэта падзея вялікага гістарычнага значэння.

З выдрукаваных тамоў уражвае значная колькасць іх аўтараў, якія былі ахвярамі сталінска-бальшавіцкага рэжыму. У гэтым сэнсе асабліва вылучаецца том «Расстраляная літаратура», у якім змешчаны «творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады». У ім творы 67 пісьменнікаў — сапраўдных пакутнікаў. Літаратуру расстраляць, каб яна загінула назаўсёды, немагчыма, але забараніць на некалькі дзясяткаў гадоў можна. З часам яна зноў уваскрэсне, чаму ў значнай ступені спрыяў «Беларускі кнігазбор». Многіх літаратараў і грамадскіх дзеячаў і іх творы мы адкрываем нанава, а то

і ўпершыню. А колькі яшчэ не адкрыта! Беларускія літаратары ўвесь час знаходзіліся, як трапна сказаў Антон Адамовіч, пад «духоўным», «інтэлектуальным» тэрорам, а Анатоль Сідарэвіч назваў нашу літаратуру «тэрарызаванай», якая адчувала дзяржаўны тэрарызм: польскі, бальшавіцкі, постсавецкі. Нягледзячы на такія, мякка кажучы, неспрыяльныя для творчасці ўмовы, беларускія пісьменнікі стварылі літаратуру сусветнага ўзроўню, адну з самых магутных у свеце. Апрача тома Максіма Гарэцкага «Выбраныя творы» (пяцідзясяты том «Беларускага кнігазбору») раней у серыі «Гісторыка-літаратурныя помнікі» выйшла з друку кніга Гаўрылы Гарэцкага «Выбранае». Браты Гарэцкія таксама належалі да тых беларускіх дзеячаў, якія за сваю любоў да Бацькаўшчыны, да беларускага народа і роднай зямлі трапілі ў шэраг «врагов народа» і пазналі ўсе здзекі бальшавізму. Максім быў расстраляны амаль ў 45-гадовым узросце, а Гаўрыле пашчасціла ў апошнія 20 гадоў яшчэ папрацаваць на Беларусі і ў 88 год назаўсёды легчы ў родную зямельку.

Дык выкажам шчырую падзяку галоўным выканаўцам «Беларускага кнігазбору» Кастусю Цвірку — аўтару праекта і галоўнаму рэдактару і Генадзю Вінярскаму — выканаўчаму дырэктару! Няхай жыве «Беларускі кнігазбор»!

* * *

17 сакавіка 2010 г. у мінскім Палацы мастацтваў намецілі правесці юбілейную вечарыну «Збіраўся скарб: 50 тамоў «Беларускага кнігазбору». У газеце «Народная воля» на гэтую тэму надрукаваны артыкул Кастуся Цвіркі «Збіраецца скарб…», а ў «Нашай Ніве» ад 10 сакавіка — абвестка «50 тамоў «Беларускага кнігазбору»: *«17 сакавіка ў мінскім Палацы мастацтваў (Казлова, 3) пройдзе святочная імпрэза, прысвечаная выхаду 50-га тома кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор». Ініцыятыва стварэння «Кнігазбору» належыць пісьменніку Кастусю Цвірку. Ён загарэўся ідэяй выдаць у 200 тамах усё найлепшае з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі. Першы*

*том праекта — «Выбраныя творы» Яна Чачота — выйшаў у 1996 г. У вечарыне бяруць удзел акадэмік Радзім Гарэцкі, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, паэты Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў, старшыня МГА «Белкнігазбор» Кастусь Цвірка, дырэктар выдавецтва «Кнігазбор» Генадзь Вінярскі. Спяваюць Зміцер Вайцюшкевіч, Таццяна Беланогая. Рэй вядзе паэт Міхась Скобла. Пачатак а 18-й. Будуць прэзентаваныя найноўшыя тамы збору».*

На наступны дзень у «Народнай Волі» Святлана Кліменценка асвяціла падзеі той вячэры: *«...Усё адбылося зусім у іншым варыянце, чым задумвалася віноўнікам урачыстасці. [...] Калі госці ўрачыстасці прыйшлі на вечарыну, іх «прыветна» сустрэла наклееная на ўваходных дзвярах абвестка, што зала зачынена «по техническим причинам». [...] Ох, ужо гэтыя «тэхнічныя прычыны», сумназнаёмыя, нават звыклыя для нас апошнімі гадамі! [...] Над «техническими причинами» людзі проста смяяліся. [...] Смех смехам, а ў вестыбюлі палаца тоўпілася ўжо сотні дзве чалавек. [...] І тут, у момант няпэўнасці, на верхняй прыступцы лесвіцы з'явіўся рашучы, імпэтны Уладзімір Някляеў і голасам, які не патрабуе ніякіх мікрафонаў, звярнуўся да прыйшоўшых на свята, павіншаваў усіх з адметнай падзеяй у нацыянальным жыцці.*

*[...] — У нас вялікая літаратура, вялікая матчына мова, і калі іх будуць, як і раней, забараняць і не пускаць да людзей, мы павінны ісці сваім шляхам. Наша справа — выдаваць залатую класіку і пісаць новыя годныя творы, — пацвердзіў Кастусь Цвірка. Анатоль Вярцінскі прачытаў свой верш-рэквіем у памяць сабрацця старэйшых пакаленняў, каму быў прысвечаны адзін з тамоў «Кнігазбору» пад назвай «Расстраляная літаратура». [...] Дарэчы, прэзентаваны 50-ы том унікальнай серыі — гэта выбраныя творы класіка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага. [...] Яго пляменнік — акадэмік Радзім Гарэцкі [...] надзвычай высока ацаніў ролю «Беларускага кнігазбору» ў захаванні і распаўсюдзе ведаў аб лепшых здабытках*

*духоўнай скарбніцы народа. […] Яркую меладычную фарбу ўнёс у вечарыну […] знаны оперны спявак, адраджэнец музычнай спадчыны Віктар Скарабагатаў. Ён цудоўна выканаў жартоўную песню Станіслава Манюшкі на верш нашага класіка Яна Чачота. А потым, не згаворваючыся, і прысутныя заспявалі: узнёсла і прыгожа гучаў духоўны гімн «Магутны Божа», які многія ведаюць.*

*Настрой ва ўсіх, нягледзячы ні на што, быў прыўзняты. Хай і ў неардынарных умовах, а свята адбылося, акрыліла духоўным зарадам.*

*[…] У чарговы раз нашай інтэлігенцыі плюнулі ў твар. Але па сутнасці выйшла… класічная унтэр-афіцэрская ўдава, якая сама сябе высекла».*

Яшчэ раз можам пажадаць: «Няхай жыве «Беларускі кнігазбор», які не змесціцца ў 200 тамоў, а будзе значна большым!»

***2010***

## Легенда беларускага адраджэння

Так вельмі ўдала была названа ўнікальная выстаўка ў час прэзентацыі 5-га выпуску факсімільнага выдання газеты «Наша Ніва», якую 24 сакавіка 2010 г. арганізавалі Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі і выдавецтва «Тэхналогія». Перад святам усіх беларусаў — Днём волі і Незалежнасці (25 сакавіка) атрымалася яшчэ адно выдатнае свята — завяршэнне факсімільнага выдання славутай газеты, якая стала сімвалам беларускага нацыянальнага адраджэння і дала назву хоць і кароткаму (усяго 9-гадоваму), але важнаму этапу ў гісторыі Беларусі — «нашаніўскі». Гэта быў час станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі, новай беларускай літаратуры, сучаснай беларускай мовы — і ўсё дзякуючы газеце «Наша Ніва». Яна маці беларускіх нацыянальных газет.

Поўная зала дзеячаў культуры і навукі ўважліва слухала цікавыя выступы Зміцера Санько, Уладзіміра Конана, Валян-

ціны Лемцюговай, Віталя Скалабана, Аляксандра Лукашанца, Анатоля Сідарэвіча і інш., а таксама прывітальныя словы Ніла Гілевіча, які зачытаў яго сын Сяргей. Гэтае свята было перш-наперш святам ініцыятара і выдаўца факсімільнага выдання вядомага навукоўца і галоўнага рэдактара выдавецтва «Тэхналогія» Зміцера Санько, які на працягу 22 гадоў мэтанакіравана збіраў камплект газеты, рыхтаваў і выдаваў яе. Гэта сапраўдны подзвіг, бо ў Беларусі не было ніводнага поўнага збору «Нашай Нівы». Прыйшлося збіраць нумары газеты не толькі ў бібліятэках і архівах краіны, але і ў суседніх дзяржавах, асабістых зборах. Санько нагадаў выразны сказ айца Аляксандра Надсана: «У Беларусі ёсць дзве выдатныя кнігі: «Біблія» Ф. Скарыны і «Наша Ніва». Выступоўцы адзначылі многія бакі жыцця і дзейнасці звязаныя з «Нашай Нівай»: выдатных асоб — заснавальнікаў і рэдактараў, аўтараў — класікаў нашай літаратуры і мовазнаўства, іх самаахвярную дзейнасць і праследы ўладамі, значэнне дзеля адраджэння мовы, культуры, адукацыі, гісторыі, тлумачэння рэлігійнага пытання, забароны асобных публікацый і цалкам газеты і інш. У 2006 г. было стагоддзе выхаду ў свет газеты «Наша Ніва», але адзначылі тады гэтую дату вельмі сціпла — толькі ў Музеі-архіве літаратуры і мастацтва (дырэктар Ганна Запартыка) адбыліся навуковыя чытанні.

Чамусьці ніхто з выступоўцаў не адзначыў актуальнасць «Нашай Нівы». Як быццам не прайшло больш за 100 гадоў з часу «нашаніўскага» перыяду. Здаецца, што многія публікацыі газеты напісаны цяпер. Ідзе тая ж барацьба за нацыянальнае адраджэнне, беларускую ідэю, развіццё нацыянальнай культуры, мовы, адукацыі, літаратуры, мастацтва. Знакаміты верш Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны» і яго покліч «Жыве Беларусь!» надзённы зараз, як і тады. Але сілы беларушчыны не пагаслі, і жыве надзея аб стварэнні не проста самастойнай Рэспублікі Беларусь, а беларускай Беларусі — незалежнай, багатай, дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавы.

***2010***

## Калектыўныя звароты

У сярэдзіне сакавіка быў у лечкамісіі, каб атрымаць медычнае заключэнне на права кіраваць аўтамабілем. Па дарозе вырашыў наведаць Ніла Гілевіча, з якім даўно не бачыўся. Размаўлялі на самыя розныя тэмы. Нядаўна і да яго, і да мяне звярнуліся з прапановай падпісаць адзін невялікі зварот — я падпісаў, а Ніл — не. Ён растлумачыў, што ўжо досыць даўно падпісвае такія паперы вельмі асцярожна, бо не адзін раз атрымліваў ад гэтага адмоўны бумеранг у сувязі з зусім іншым вынікам, чым той, на які разлічваў. Нашы подпісы стаяць пад многімі зваротамі і заявамі, на адны з якіх быў станоўчы вынік, на другі — ніякага розгаласу, а на некаторыя — і сапраўды, не зусім добрыя водгукі.

Я ўспомніў, як у сакавіку 2003 г. да мяне звярнуўся Якаў Гутман — старшыня Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі (ЗША, Нью-Ёрк). Я яго працяглы час ведаў, бо ён актыўна ўдзельнічаў у працы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», прэзідэнтам якога я тады быў. Мы нават на Першым з’ездзе беларусаў свету абралі яго сябрам Вялікай Рады. Ён з абурэннем паведаміў мне, што ідзе разбурэнне гістарычнага будынка — сінагогі на вул. Дзмітрава і выдадзена антысеміцкая кніга «По законам подлости». Далей дадаў, што ў Мінск едзе вядомы расейскі спявак Іосіф Кабзон, якому мы пашлём наш зварот аб гэтых падзеях, папросім пры прыездзе ў Мінск выказаць уладам сваё незадавальненне і тым самым выратаваць сінагогу ад разбурэння. Апрача таго звярталася ўвага спевака на тое, што яго канцэрт адбудзецца 26 сакавіка ў рамках дня яднання Расеі і Беларусі якраз пасля 25 сакавіка, якога свабодалюбівыя людзі Беларусі адзначаюць свой гістарычны Дзень Волі. Мой подпіс у звароце аказаўся першым, а яго таксама падпісалі Зінаіда Бандарэнка, Сяргей Законнікаў, Адам Мальдзіс, Юры Хадыка, а подпіс ініцыятара звароту Якава Гутмана чамусьці адсутнічаў. Іосіф Кабзон атрымаў наш зварот і напісаў рэзалюцыю: «Канцэрт адмяніць». Калі

ў Мінску пра гэта даведаліся аматары песеннай творчасці Кабзона, асабліва тыя, якія ўжо набылі білеты на яго канцэрт, жудасна абурыліся, раззлаваліся і пачалі шукаць вінаватага. Вырашылі, што гэта — Гарэцкі, подпіс якога быў першым, а я ў той час нават не ведаў, што Кабзон адмовіўся прыехаць. Хатні тэлефон у Дзень Волі гудзеў, як шалёны. Я адсылаў усіх да Якава Гутмана, а яго і след прастыў…

* * *

Пры жыцці Сталіна пра нейкія звароты не то што да народа, а нават да ўрада ці ЦК КПСС па сваёй ініцыятыве знізу і падумаць было нельга. Дапушчаліся толькі па камандзе зверху. Пазней можна было напісаць пра нейкую прапанову ці скаргу ў розныя ўладныя органы, але лепш гэта трэба было рабіць індывідуальна і ні ў якім разе не калектыўна. А найбольш дзейснымі пры Саветах былі ананімныя лісты, на якія абавязкова рэагавалі хутка і дасканала. Памятаю, як мой тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі, разам з групай пісьменнікаў падпісаў ліст у ЦК КПБ з прапановай перанесці прах класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча ў Мінск. Вельмі хутка масціты вучоны атрымаў ад маладога прадстаўніка ЦК КПБ моцную прачуханку…

*2010*

## Дзве юбілейныя даты

Пры адміністрацыйна-камандным рэжыме, які панаваў у савецкі час і які, на жаль, дамінуе і цяпер, галоўнымі кіраўнікамі краіны з’яўляюцца чыноўнікі, прычым іх колькасць не змяншаецца і яны ўжо ўяўляюць магутны сацыяльны клас. Чынавенства рэдка калі пакідае рэфарматарскі сверб, які, на жаль, часта мае не зусім разумны і станоўчы напрамак. Звычайна яно мала прыслухоўваецца да спецыялістаў у той ці іншай справе, больш стараецца дагадзіць вышэйстаячаму начальству. Яно

ніяк не можа ўспрыняць мудрыя думкі з байкі Івана Крылова пра музыкантаў, якіх перасаджваюць то так, то гэтак.

Так адбылося ў 1963 г. з Інстытутам геалагічных навук АН БССР, які з пачатку свайго заснавання ў 1929 г. належаў акадэміі і які тады, у сувязі з рэарганізацыяй геалагічнай службы ў Савецкім Саюзе, быў перададзены ў сістэму Дзяржгеалкама і стаў Беларускім навукова-даследчым геолагаразведачным інстытутам (БелНДГРІ). Але жыццё прымушае нават чыноўнікаў папраўляць памылкі, і ў 1971 г. у Акадэміі навук быў створаны Інстытут геахіміі і геафізікі. Але ўжо новы прыступ рэарганізацыі ў 2007 г. прымусіў старшыню Прэзідыума НАН Беларусі і прэм'ер-міністра дзяржавы падпісаць пастанову аб ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі, перадачы яго супрацоўнікаў у БелНДГРІ Мінпрыроды і толькі 20 навукоўцаў — у Інстытут прыродакарыстання НАН Беларусі. На Агульным сходзе НАН Беларусі 23 красавіка 2010 г. старшыня Прэзідыума М. У. Мясніковіч прызнаў, што гэта не прынесла ніякай карысці і дарэмна яны так зрабілі.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце кафедра геалогіі была арганізавана ў 1923 г. (з 1973 г. звалася кафедрай глебазнаўства і геалогіі), а ў 1934 г. адкрыты геолага-глебава-геаграфічны факультэт (з 1937 г. перайменаваны ў геаграфічны). У 1951–1958 гг. у складзе факультэта працавала геалагічнае аддзяленне, якое рыхтавала геолагаў па спецыяльнасці «Пошук і разведка месцанараджэнняў карысных выкапняў», а пасля васьмігадовага перапынку ў 1966 г. зноў адкрыта (падрыхтоўка ўжо вялася па спецыяльнасці «Гідрагеалогія») і працавала да 1969 г. уключна. Цікава, што выгнанне Інстытута геалагічных навук з АН БССР і абедзве ліквідацыі падрыхтоўкі геолагаў у БДУ адбыліся тады, калі рэктарам БДУ (1952–1956), а затым віцэ-прэзідэнтам АН БССР (1956–1969) быў геолаг акадэмік К. І. Лукашоў. Добра, што ўжо ў 1971 г. пад яго кіраўніцтвам быў створаны ў Акадэміі навук БССР Інстытут геахіміі і геафізікі.

Усе гэтыя рэарганізацыі геалагічнай навукі ў Беларусі я ўспомніў у сувязі з тым, што ў 2010 г. напярэдадні Дня геолага (першая нядзеля красавіка, побач з пачаткам вясны і днём гумару) адзначалі дзве юбілейныя даты: 20-годдзе навукова-даследчага геалагічнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «БелГеа» і 15-годдзе кафедры дынамічнай геалогіі геаграфічнага факультэта БДУ.

Яшчэ ў 1981 г. да мяне ў лабараторыю геатэктонікі Інстытута геахіміі і геафізікі па конкурсу на пасаду старшага навуковага супрацоўніка прыйшоў Віталь Андрэевіч Масквіч — вельмі здольны, ініцыятыўны 34-гадовы геолаг, які ўдала спалучаў навуковыя і арганізацыйныя прыхільнасці. Ён адзін з першых у інстытуце пачаў распрацоўваць падачу заявак на вынаходства, што ў геалогіі вельмі складана зрабіць. Праз 8 гадоў і пасля двухгадовай працы ў Індыі Віталь Андрэевіч абараніў доктарскую дысертацыю. Ён увесь час шукаў новыя напрамкі ў методыках пошукаў радовішчаў нафты і газу, новых арганізацыйных форм працы. Мне вельмі падабалася яго неспакойная натура, яго часта нечаканыя прапановы. Я, як загадчык лабараторыі і дырэктар інстытута, падтрымліваў яго і адчуваў, што яму цесна ў колах інстытута. Тады, ужо ў час перабудовы, можна было пры інстытуце стварыць малое прадпрыемства, якому дазвалялася весці не толькі навуковую, але і прадпрымальніцкую дзейнасць. Гэта было тое, што так блізка да натуры В. Масквіча. Я ад імя інстытута-заснавальніка падпісаў паперу аб стварэнні малога прадпрыемства, дырэктарам якога быў прызначаны Віталь Масквіч. З таго часу мяне завуць «хросным бацькам» БелГеа.

Выдатны арганізацыйны талент В. Масквіча дазволіў яму, нягледзячы на самыя разнастайныя цяжкасці, праз 10 гадоў з малога прадпрыемства, якое налічвала ўсяго дзясятак супрацоўнікаў, стварыць буйную самастойную геалагічную арганізацыю са штатам супрацоўнікаў да 250–300 чалавек. Мы часта думалі з Масквічом, каб стварыць на базе «БелГеа» Інстытут

геалогіі замежных краін ці Інстытут горных спраў, якіх так не хапае ў Беларусі, але супрацьстаянне чынавенства і раптоўная смерць В. Масквіча 12 красавіка 2002 г. не дазволілі прывесці гэтыя задумы да жыцця.

Пасля смерці Віталя Андрэевіча генеральным дырэктарам «БелГеа» стала яго жонка Алімпіяда Леанідаўна — не геолаг, а эканаміст па адукацыі. Я з вялікім захапленнем наглядаў, як гэта знешне кволая, а насамрэч моцная жанчына ўпэўнена павяла далей справу свайго незабыўнага мужа. Зараз «БелГеа», нягледзячы на тое, што яго перавялі з НАН Беларусі ў Мінпрыроды, жыве і актыўна працуе, а яго заснавальнік, Інстытут геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, — памёр…

Калі ліквідавалі падрыхтоўку геолагаў у БДУ, усе геалагічныя арганізацыі Беларусі — і вытворчыя, і навуковыя — адчулі недахоп маладых спецыялістаў. Я, як дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі, ездзіў па галоўных ВНУ Савецкага Саюза і складаў спісы студэнтаў — жыхароў Беларусі, каб запрасіць іх па сканчэнні навучання на іх радзіму. Пасля распаду СССР і гэта рабіць стала немагчыма. З дапамогай прафесара Вольгі Якушка ў 1979 г. дамагліся выпусціць географаў па спецыяльнасці «Геамарфалогія», якія бліжэй да геалогіі і якім маглі чытаць лекцыі некаторыя супрацоўнікі нашага інстытута, у тым ліку і я. Больш за 10 гадоў я актыўна прабіваў падрыхтоўку геолагаў на геаграфічным факультэце БДУ і толькі ў 1995 г. з падтрымкай рэктара ўніверсітэта акадэміка Фёдара Капуцкага і дэкана геафака Расціслава Жмойдзяка задалося заснаваць кафедру дынамічнай геалогіі, загадчыкам якой па неадменнай прапанове рэктара БДУ прыйшлося стаць мне. Так, на геаграфічным факультэце апрача кафедры глебазнаўства і геалогіі (утворана з кафедры геалогіі) была заснавана яшчэ адна новая кафедра дынамічнай геалогіі, на базе якой і цяпер вядзецца сучасная падрыхтоўка геолагаў. Былі праведзены IV універсітэцкія геалагічныя чытанні «Праблемы рэгіянальнай геалогіі Беларусі», прысвечаная 15-годдзю заснавання

кафедры дынамічнай геалогіі БДУ. Адкрыў чытанні дэкан факультэта прафесар Іван Пірожнік, а вёў загадчык кафедры прафесар Валерый Губін. З прыемнасцю прывітальнае слова і навуковы даклад зрабіў і я.

*2010*

## Дымна-жвачныя жанчыны

Часта праходжу міма сярэдняй школы, якая недалёка ад нашага дома. Прыемна глядзець на невялікія групоўкі маладых прыгожых беларусачак. Падыходжу бліжэй і бачу над імі воблака дыму — амаль усе паляць папяросы. Прыслухоўваюся да іх гамонкі — цяжка паверыць: брыдкія словы сыплюць, як гарох. Яны не толькі дымныя, але і брыдкаслоўныя. Знікае чароўнасць, а з ёй і добры настрой…

Саджуся ў тралейбус пасля ўрачыстасці ў БДУ. Насупраць жанчына гадоў пад трыццаць са смакам жуе жвачку, аж прыцмоквае. Перыядычна, відаць ад асалоды, так шырока адкрывае рот, што відаць чырвоны язык з наліплай на яго белай аладкападобнай жованкай. Твар жанчыны, не надта прыгожы, робіцца зусім непрыемным, а я адчуваю, што падступае млоснасць… Каб не бачыць гэтую жвачную жанчыну, саджуся побач з ёй. На прыпынку дзве сімпатычныя дзяўчынкі. Гляджу — кідаюць акуркі, пушчаюць дым і скачуць у наш тралейбус. Весела смеючыся і абдаўшы мяне дымным духам, плюхаюцца на сядзенне насупраць. Тут жа дастаюць жвачкі і пачынаюць чаўкаць. Аказалася, што гэта не проста дымныя дзеўкі, а дымна-жвачныя. Далей я ехаў, не адрываючы вачэй ад акна, за якім мільгацелі прыемныя вясновыя краявіды, а ў галаву ўсё лезла пытанне: «Адкуль такая пошасць напала на нашых маладых жанчын, якая так псуе іх прыгожасць і пяшчотнасць?»

*2010*

# Сто гадоў Вялікаму Беларусу

У час перабудовы і развалу СССР (канец 80-х — пачатак 90-х гг. мінулага стагоддзя) мы пачалі патроху даведвацца праўду пра нашых беларускіх эмігрантаў, пра якіх бальшавіцкі афіцыёз удзёўбваў нам у галаву, што ўсе яны «здраднікі» і «калабаранты». Тады адбылося і вяртанне імя Барыса Кіта — спачатку ў невялікіх артыкулах, а ўжо ў 1992 г. ён сам змог амаль праз 50 гадоў жыцця за межамі Беларусі прыехаць на Бацькаўшчыну. Тады і я з ім пазнаёміўся. Нягледзячы на яго ўжо досыць сталы ўзрост (82 гады), я ўбачыў жвавага, энергічнага, добразычлівага і абаяльнага чалавека, які загаварыў на цудоўнай беларускай мове. Мы хутка знайшлі агульныя тэмы для размовы, і здавалася, што даўно знаёмыя.

Я быў уражаны яго складаным жыццёвым шляхам ад сялянскага хлопчыка да выдатнага навукоўца, педагога і грамадскага дзеяча. Здзіўляла яго жыццяўстойлівасць, мэтанакіраванасць да авалодання ведаў. Ужо вядомы навукоўца ў галіне касманаўтыкі, прафесар матэматыкі, якім ён стаў маючы толькі званне магістра філасофіі ў галіне матэматыкі, Барыс Уладзіміравіч у 73-гадовым узросце абараніў дысертацыю на навуковую ступень доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі.

У Акадэмію навук Беларусі паступілі заявы ад акадэміка Юрыя Астроўскага і прафесара Адама Мальдзіса з прапановай абраць Барыса Кіта ганаровым ці замежным членам нашай Акадэміі навук. Я, як віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, адказваючы за кадры, заняўся гэтай справай. Бюро Прэзідыума акадэміі якраз абмяркоўвала магчымасць зноў аднавіць такія выбары, якіх ужо не было амаль 35 гадоў. Мае намаганні не прынеслі станоўчага выніку, бо да беларусаў-эмігрантаў ваеннага часу тады яшчэ ставіліся з вялікай асцярогай, ды і нашы фізікі і матэматыкі мала ведалі працы Барыса Кіта.

Зноў мы сустрэліся з Барысам Уладзіміравічам у верасні 1994 г. на Генеральнай асамблеі толькі што заснаванай гра-

мадскай Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі ў Мінску. Мы аднагалосна абралі нашага славутага земляка членам акадэміі і яе віцэ-прэзідэнтам. У першую палову 90-х гг. адбылося выбуховае прызнанне Барыса Кіта як выдатнага навукоўца ў галіне астранаўтыкі і матэматыкі і грамадскага дзеяча, гонару беларускага народа. Ён быў абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж, 1994 г.), ганаровым доктарам навук Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1994), узнагароджаны залатым медалём Германа Обэрта і Вернера фон Браўна (ФРГ) за ўклад у развіццё астранаўтыкі і інш. З'явілася шмат публікацый пра яго жыццё і дзейнасць, асабліва поўныя Лідзіі Савік. Аповеды Барыса Кіта ў 2001 г. запісаў Васіль Быкаў пад назвай «Цярновы шлях». Шырокая вядомасць да Барыса Уладзіміравіча прыйшла досыць позна, але Бог быў да яго літасцівы і даў яму даўгалецце, каб ён адчуў прызнанне і славу на радзіме і ва ўсім свеце пры жыцці, а не пасля адыходу ў іншы свет, як гэта часта адбываецца.

У 2000 г. ён быў абраны ганаровым старшынёй «Рабочай групы Беларуска-Нямецкіх спатканняў», якая была заснавана пры Свабодным універсітэце Берліна і ўстанавіла прэмію Барыса Кіта для ўзнагароджання найбольш актыўных дзеячаў беларускай культуры нацыянальнага адраджэння. Такая прэмія ў 2004 г. стала для мяне адной з самых прыкметных і дарагіх.

Шырока, цёпла і ўзнёсла былі адзначаны 85-гадовы, 90-гадовы, 95-гадовы юбілеі Барыса Кіта, якога часта сталі называць «грамадзянін свету». Але мяне больш за ўсё ў постаці гэтага волата прыцягвае яго беларускасць. Нягледзячы на неймаверныя цяжкасці свайго жыцця, адрыў ад Бацькаўшчыны, працэсы глабалізацыі, ён заўсёды заставаўся сапраўдным патрыётам Беларусі, прыхільнікам беларушчыны і гэтыя святыя пачуцці перадаваў сваім вучням, калі быў настаўнікам і дырэктарам розных навучальных устаноў і пры паляках, і пры Саветах, і пры немцах. Як ён сам успамінаў: «Пры ўсіх уладах мне даводзілася сядзець у турмах за тое, што я вучыў дзяцей бела-

рускай мове і гісторыі». Крэда жыцця Барыса Кіта — ягоныя словы: «Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй Радзімы і яе славы…» З гонарам за Барыса Кіта, якому споўнілася 100 гадоў, хочацца падкрэсліць, што ён застаецца шчырым беларусам, прычым не проста грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны, а стаў Вялікім Беларусам, вядомым ва ўсім свеце.

* * *

6 красавіка 2010 г. у зале Палаца мастацтваў адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею Барыса Кіта. Святлана Клімянценка ў «Народнай волі» адзначала: *«[…] Усе, хто выступаў на вечарыне ў перапоўненай зале, з любоўю і глыбокай пашанай гаварылі пра сына беларускай вёскі, які стаў сапраўдным Чалавекам свету […],але пры тым застаўся, па яго ўласным прызнанні, 100-працэнтным беларусам.*

*[…] Аб гэтым ён напісаў у сваім прачулым вітанні «светлым беларусам», што сабраліся ў гэтай зале. Яго зачытала вядомая навукоўка, аўтар кніг пра Барыса Кіта, яго першы біёграф Лідзія Савік. У выступах старшыні аргкамітэта святкавання пісьменніка Васіля Якавенкі, старшыні МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» Алены Макоўскай, майстра пяра і гісторыка Уладзіміра Арлова — лаўрэата прэміі Б. Кіта і міжнароднай прэміі «Еўрапейскі паэт Свабоды», акадэміка НАН Беларусі Радзіма Гарэцкага, паэта Сяргея Законнікава, дырэктара Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамары Вяршыцкай, старшыні Беларускага фонду культуры Уладзіміра Гілепа, старшыні Мінскага культурна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоля Белага, знанага палітыка Станіслава Шушкевіча, брата юбіляра Льва Кіта, галоўнага рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча і іншых паўставала магутная постаць сапраўднага «кіта» навукі і беларускасці…*

*[…] Варта заўважыць, што нават звыклыя «тэхнічныя прычыны» на гэты раз не вытыркалі нас…»*

Калі я па тэлефоне павіншаваў Барыса Уладзіміравіча, у адказ пачуў бадзёры голас шчаслівага чалавека, якому ніколі не дасі столькі гадоў.

*2010*

## Тату — 110 гадоў

Бацькоў, як і малую радзіму, чалавек не выбірае, яны даюцца яму ад Бога. Мне і майму брату Усяславу вельмі пашанцавала: лепшых бацькоў, чым нашыя, і лепшай Бацькаўшчыны прыдумаць немагчыма. Тата і Мама разумелі сваіх сыноў, вялі сабе з намі, як з роўнымі, бачылі ў нас не проста малых, а разумных людзей. І мы іх успрымалі як лепшых сяброў, якія зразумеюць нас, нашы цяжкасці, крыўды, радасці, параюць і падтрымаюць. Сяброўства з Татам і Мамай і іх любоў — наша шчасце. Таму вясеннія месяцы для мяне асабліва радасныя і светлыя: 13 сакавіка нарадзілася Мама, а 10 красавіка — Тата.

У кнізе «Шчыра, як на духу… Споведзі вядомых людзей Беларусі» (2002) на пытанне: «Які ў вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы?», я адказаў: «Смерць бацькі і маці». На пытанне: «Чаго вы яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць і дачакацца?» — адказаў: «Напісаць кнігу пра братоў Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх». Я рад, што мне да 110-гадовага юбілею Таты задалося выдаць кнігу «Браты Гарэцкія» (2009) — дакументальную аповесць, у якой на прыкладзе Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх паказаны цяжкі, часта трагічны шлях беларускай інтэлігенцыі, большасць з якой выхадцы з сялянства, на працягу пакутлівага XX ст. Выйшла з друку мая невялічкая кніжка «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і Украіна» (2009). Раней задалося надрукаваць кнігу «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння» (2000), а ў «Кнігазборы» — Гаўрыла Гарэцкі «Выбранае» (2002). У красавіку 2010 г. у чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа адкрылася

выстава «Са слаўнага роду Гарэцкіх», на якой багата і змястоўна паказаны жыццё і дзейнасць Гаўрылы Гарэцкага, чаму спрыялі загадчык аддзела Аляксандр Сцефановіч, супрацоўнікі Таццяна Жук і Віктар Свякла; у Інстытуце прыродакарыстання НАН Беларусі прайшлі XXI навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці Г. І. Гарэцкага, а ў чэрвені — XVIII Гарэцкія чытанні, на якіх разглядаюцца жыццё і творчасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх (да 110-годдзя апошняга).

*2010*

## Аповесць у абразках памяці

Неяк у цёплы дзень чэрвеня завітаў да Ніла Гілевіча, які падараваў мне чарговы том са свайго Збору твораў у 23-х тамах. Гэта быў том 14 — аповесці, апавяданні і абразкі. Прыемна было прачытаць ласкавы надпіс: «Дарагому Радзіму Гарэцкаму — з вялікай сяброўскай павагай і любоўю. Ніл Гілевіч, 16.06.10». З цікавасцю слухаў пра першую аповесць кнігі «Перажыўшы вайну», якую аўтар пісаў у два заходы з перапынкам у 20 гадоў. Першая кніга, якая складзена з 26 абразкоў, пад той жа назвай выйшла ў 1988 г. Астатнія абразкі надрукаваны ў апошнія гады ў часопісе «Дзеяслоў» (2008. № 4; 2009. № 2) і газеце «Літаратурная Беларусь» (2009. № 2). Тое-сёе я чытаў і раней, але сабраныя разам абразкі пакідаюць вялікае ўражанне. Я выказаў Нілу здзіўленне, як ён так дасканала запомніў і яскрава апісаў столькі шмат самых розных падзей дзяцінства і юнацтва. Безумоўна, часы маладога жыцця і пачатку шляху заўсёды добра ўразаюцца ў памяць, але тыя моманты, якія ўзгадвае Ніл, настолькі неардынарныя, незвычайныя па сваім уздзеянні на псіхалагічны стан, асабліва ў ваенныя часы, што іх забыць немагчыма. Абразкі малююць вельмі выразную карціну станаўлення характару, паэтычнай творчай думкі, чалавечых асаблівасцей нашага выдатнага паэта, навукоўца, педагога і грамадзяніна. Вельмі лірычныя светлыя раздзелы тома, прысве-

чаныя яго вернай спадарожніцы, цудоўнай жанчыне, выдатнай змагарцы за беларушчыну Ніне Іванаўне, робяць гэты том унікальным для разумення не толькі названых выключных падзей, але і асаблівасцей таго часу, а таксама месца ў ім барацьбітоў за беларускую мову, літаратуру і культуру.

Мусіць, цяжка знайсці такі род і жанр літаратурнай творчасці, да якой не датыкалася рука Ніла Гілевіча, а па пладавітасці (выдадзена каля 80 кніг) ён займае адно з першых месцаў сярод беларускіх пісьменнікаў. Да таго ж трэба дадаць і яго навуковую дзейнасць у галінах літаратуразнаўства і фалькларыстыкі. Нягледзячы на кепскі стан здароўя, які не дазваляе нават выходзіць з хаты на прагулку, ён гераічна працуе над падрыхтоўкай і выданнем Збору твораў у 23-х тамах, прычым адбор робіць вельмі строга і прыдзірліва. За межамі выбраных твораў засталіся вельмі многія яго літаратурныя і навуковыя набыткі. Калі б справа ішла пра поўны збор твораў пісьменніка, дык, мусіць, набралася б не менш за 35 тамоў. Але трэба вельмі падтрымаць аўтара ў тым, што менавіта ён сам адбірае і прапануе чытачу тыя творы, якія лічыць найбольш вартымі са свайго пункту гледжання, са сваіх эстэтычных крытэрыяў сталага майстра прыгожага пісьменства.

У той жа час балюча крыўдна, што ў гэтай высакароднай працы не дапамагае пісьменніку дзяржава, і да чаго дайшлі нашы ўладавыя структуры, а пад іх уплывам і ўсё грамадства, што спакойна наглядаюць, як народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч за грошы, якія адрывае ад сваёй невялічкай пенсіі, выдае том за томам Збору твораў, накладам усяго 70–100 паасобнікаў! І тыя ляжаць месяцамі ў кнігарнях, якія асмеліліся прадаваць такога занадта беларускага пісьменніка. Палітыка рэзервацыі беларускай мовы і татальнага пашырэння рускай прывяла да зусім слабага запатрабавання беларускай літаратуры. І ўсё гэта робіцца пад лозунгам «Мы за Беларусь!».

*2010*

## Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ)

Мне давялося ведаць дзвюх кіраўніц БДАМЛМ — дзвюх Ганнаў: Сурмач і Запартыка — вельмі энергічных, адданых архіўнай справе, сапраўдных дырэктараў гэтай выдатнай установы — скарбніцы духоўнай спадчыны беларускага народа. Ганна Сурмач у 1993 г., калі ўжо стварылася Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і быў праведзены Першы з'езд беларусаў свету, ахвяравала сваёй любімай працай і поўнасцю занялася складанай дзейнасцю на пасадзе старшыні Управы ЗБС «Бацькаўшчына». Яе дырэктарам БДАМЛМ годна змяніла Ганна Запартыка, якая выдатна кіруе архівам-музеем і вельмі плённа працуе на ніве беларускай культуры.

3 чэрвеня 2010 г. у будынку БДАМЛМ адбылася ўрачыстая навуковая нарада, прысвечаная 50-годдзю стварэння ўстановы. Я на прыкладзе захавання і вывучэння спадчыны сям'і Максіма Гарэцкага пастараўся паказаць ролю БДАМЛМ у справе развіцця культуры Беларусі, а таксама адзначыць апантанасць працы яго дырэктара і ўсяго калектыву.

Як вядома, Максім Гарэцкі і яго сям'я ў 1930 г. трапілі ў кіпцюры ГУЛАГа, а 10 лютага 1938 г. пісьменніка расстралялі. Яго творы, а таксама творы яго жонкі — пісьменніцы Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай былі забаронены на 30 гадоў. Пасля рэабілітацыі Гарэцкага ў 1959 г. паступова пачалося вяртанне яго імя і спадчыны. Нягледзячы на страшэнныя цяжкасці жыцця таго часу, намаганнямі Леанілы Усцінаўны і яе дачкі Галіны Максімаўны многія рукапісы, дакументы і нават рэчы Максіма Іванавіча захаваліся.

У 1972 г. Галіна Гарэцкая перадала ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР матэрыялы, якія склалі фонд № 7 «Гарэцкі Максім Іванавіч». У вопіс № 1 увайшлі рукапісы «Віленскіх камунараў», «Камароўскай хронікі», апавяданняў, лісты да

сям'і, некаторыя дакументы. У 1977 г. Г. М. Гарэцкая перадала яшчэ творчыя матэрыялы пісьменніка, лісты, фотаздымкі і інш. (вопіс № 2), а ў 1982 г. — фотакопіі творчых матэрыялаў (вопіс № 3).

Супрацоўнікі БДАМЛМ зацікавіліся спадчынай Максіма Гарэцкага ўжо ў сярэдзіне 1990-х гг., але дакументы пра жыццё і дзейнасць пісьменніка яны выяўлялі ў іншых фондах, асабліва шмат у «Калекцыі дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў г. Вільні (ф. № 3).

У Беларускай энцыклапедыі (том 2, 1996) у артыкуле Г. В. Запартыка «Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва» ў спісе асабістых фондаў пісьменнікаў імя Максіма Гарэцкага яшчэ адсутнічае. Ужо з пачатку новага стагоддзя БДАМЛМ робіцца не толькі галоўнай скарбонкай, дзе захоўваюцца многія рукапісы, лісты, дакументы, фотаздымкі, рэчы Максіма Гарэцкага, Леанілы Усцінаўны і іх дзяцей Галіны і Леаніда, але і выдатным прапагандыстам па ўшанаванні іх памяці і пашырэнні ведаў пра гэтую сям'ю і іх спадчыну. У 2001 г. адбылася перадача матэрыялаў сям'і М. Гарэцкага ў архіў-музей, што зрабіла ў Санкт-Пецярбургу Галіна Максімаўна, якая там жыла. У 2003 г. у БДАМЛМ створаны спецыяльны фонд № 426, прысвечаны сям'і М. Гарэцкага.

Значна папоўніўся гэты сямейны фонд пасля таго, як Г. В. Запартыка прывезла з Санкт-Пецярбургу вялікі хатні архіў Галіны Максімаўны. Тады разам з Ганнай Вячаславаўнай паехаў і я, каб адзначыць саракавіны са дня смерці (20 верасня 2006 г.) маёй стрыечнай сястры Галіны. Нас сустрэў і ў далейшым дапамагаў мой траюрадны брат Валянцін Яўгенавіч Тэадарчук і ягоная сяброўка Надзея Дзмітрыеўна з сынам Кірылам. У невялічкай аднапакаёвай кватэры, якую Галіна Максімаўна завяшчала Валянціну Яўгенавічу, Ганна Вячаславаўна (троху з маёй дапамогай) адабрала ўсё самае каштоўнае для фонду архіва-музея. Я з павагай наглядаў за карпатлівай працай сапраўднага архівіста, якая не шкадавала ні часу, ні

сіл, каб адабраць, дбайна запакаваць і забраць усё, што трэба для дзяржаўнага архіва. Як беражліва Ганна Вячаславаўна разглядала кожную паперку, прачытвала кожную пісульку!

Мы вялікай групай родных і знаёмых Галіны Максімаўны пабылі на Паўднёвых могілках, дзе апошні прытулак знайшла мая сястра побач са сваёй маці. Мы адзначылі саракавіны, цёплымі словамі ўспомнілі гэтых мужных, таленавітых, шчырых, добразычлівых, працавітых, верных жанчын.

Ганна Вячаславаўна руплiва i ўважлiва працавала два днi i адну ночку без перапынку, набрала два вялізарныя чамаданы, з якімі і ад’ехала ў Мінск, а я застаўся на міжнародную навуковую канферэнцыю ва Усерасійскім геалагічным інстытуце.

З таго часу БДАМЛМ стаў месцам найбольш поўнага збору самых розных матэрыялаў сям’і Максіма Гарэцкага, прычым Г. В. Запартыка і супрацоўнікі архіва-музея пільна працягваюць збіраць весткі пра іх. Дарэчы, я перадаў машынапісныя копіі рукапісаў М. Гарэцкага, якія захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі, а таксама некаторыя лісты Леанілы і Галіны Гарэцкіх і збіраюся з часам перадаць і іншыя лісты, якія ёсць у маім хатнім архіве.

Вялікую справу супрацоўнікі БДАМЛМ праводзяць па ўшанаванні памяці сям’і М. Гарэцкага. Пачынаючы з пачатку гэтага стагоддзя, а з 2005 г. афіцыйна БДАМЛМ удзельнічае ў падрыхтоўцы і правядзенні XIII–XVII Гарэцкіх чытанняў, а Г. В. Запартыка з’яўляецца нязменным сябрам аргкамітэта па правядзенні чытанняў і сябрам Рэспубліканскага фонду імя братоў Гарэцкіх.

На XI Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 18 лютага 2003 г.), прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, Г. В. Запартыка зрабіла цікавы даклад «Максім Гарэцкі. 1923 год. Хроніка адной падзеі (па старонках архіўных крыніц)», у якім на падставе архіўных дакументаў БДАМЛМ асвяціла ўдзел М. Гарэцкага і яго жонкі ў З’ездзе беларускіх вучыцялёў сярэдніх школаў, дзе ён зрабіў два даклады, якія

выклікалі вялікую цікавасць дэлегатаў і пакладзены ў аснову некаторых рашэнняў з’езда. Ва ўступным слове старшыня аргкамітэта XI Гарэцкіх чытанняў Лідзія Макарэвіч выказала «шчырую ўдзячнасць дырэктару БДАМЛМ Ганне Вячаславаўне Запартыка за перадачу для часовага экспанавання на сумеснай выставе ўнікальных экспанатаў з фонду М. Гарэцкага, якія ўпершыню прадстаўлены наведвальнікам». Дарэчы, такія выставы былі арганізаваны і на многіх наступных Гарэцкіх чытаннях.

У тым жа годзе ў БДАМЛМ была праведзена вельмі змястоўная выстава, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай, дзе асабліва прыцягвалі ўвагу яе цудоўныя вышыўкі, якія ў свой час высока ацаніў вядомы мастацтвазнавец і этнограф Міхаіл Раманюк і якім Галіна Гарэцкая прысвяціла спецыяльны артыкул «Невычэрпныя крыніцы» ў часопісе «Мастацтва Беларусі» (1988. № 3).

На наступны год на XII Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 4 мая 2004 г.) Г. В. Запартыка ў дакладзе «Дакументальны і музейны фонды сям’і Гарэцкіх у БДАМЛМ» паведаміла пра змест фонду і гісторыю яго стварэння.

На XIII Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 16 чэрвеня 2005 г.), прысвечаных 105-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага, Г. В. Запартыка зрабіла даклад «Ліставанне беларускіх дзеячаў з Гаўрылам Гарэцкім як крыніца па гісторыя спасціжэння спадчыны Максіма Гарэцкага» і прыйшла да высновы: «Усё, што змог, колькі хапала сілы — рабіў для памяці свайго брата — выдатнага пісьменніка Максіма Гарэцкага, дзеля вяртання імені і яго літаратурнай спадчыны працаваў да самазабыцця. З гэтым увайшло ў гісторыю нашай літаратуры і імя Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага».

На XIV Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 8 чэрвеня 2006 г.), прысвечаных Году маці, Г. В. Запартыка зрабіла даклад «Галіна Гарэцкая — дачка і даследчыца жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага і Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай». Ганна Вячасла-

ваўна як быццам адчувала, што трэба хутчэй аддаць павагу і даніну найвялікшага прызнання і ўдзячнасці Галіне Максімаўне — гэтай шчырай дапытлівай даследчыцы творчасці сваіх бацькоў, бо ў хуткім часе — 20 верасня на 86-м годзе жыцця яна назаўсёды пайшла ад нас.

На XV Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 7 чэрвеня 2007 г.) Г. В. Запартыка зачытала даклад «Педагагічная дзейнасць Максіма Гарэцкага ў высылцы (па дакументах асабістага архіва пісьменніка)», а на наступны год да 115-годдзя з дня нараджэння пісьменніка ў часопісе «Полымя» (2008. № 2) надрукавала два артыкулы: «Максім Гарэцкі. 1923 год. Хроніка адной падзеі (па старонках архіўных крыніц)» і «Да гісторыі вяртання літаратурнай спадчыны М. Гарэцкага», а ў часопісе «Роднае слова» (2008. № 2) — артыкул «Педагагічная дзейнасць Максіма Гарэцкага ў высылцы (па дакументах асабістага архіва пісьменніка)». У абодвух часопісах яна прывяла некалькі фотаздымкаў. У тым жа юбілейным годзе на XVI Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 15 лютага 2008 г.) быў заслуханы даклад вядучага навуковага супрацоўніка БДАМЛМ Таццяны Шырокавай «Музейны фонд сям'і Гарэцкіх у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва», у якім яна падрабязна паведаміла пра змест фонду і некаторыя моманты гісторыі яго стварэння.

У 2009 г. у студыі «Летапіс» нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» быў створаны дакументальны фільм «Неразгаданыя людзі» (рэжысёр Ала Вольская), які быў прысвечаны жыццю і дзейнасці Максіма Гарэцкага і ў якім былі выкарыстаны матэрыялы з фонду сям'і Гарэцкіх БДАМЛМ. На наступны год некаторыя фотаздымкі і іншыя дакументы з гэтага фонду БДАМЛМ увайшлі ў кнігу Максіма Гарэцкага «Выбраныя творы» (50-ы том «Беларускага кнігазбору»), а таксама ў экспазіцыю выставы, якую арганізаваў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі да 110-годдзя з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага.

Г. В. Запартыка трапна адзначыла: «…архіўны і музейны фонды сям'і Гарэцкіх з'яўляюцца ўнікальным помнікам літара-

туры, мастацтва, культуры Беларусі і маюць багатую перспектыву навуковага даследавання і выкарыстання» (XII Гарэцкія чытанні. Мінск, 2005. С. 43). Я, як прадстаўнік сям'і Гарэцкіх, шчыра ўдзячны ўсім супрацоўнікам БДАМЛМ на чале з Ганнай Вячаславаўнай Запартыка за плённую працу па захаванні спадчыны маіх родных і ўшанаванні іх памяці, сардэчна віншую са славутым юбілеем і жадаю далейшых выдатных поспехаў на ніве беларушчыны, нацыянальнай культуры і мастацтва Беларусі. На прыкладах фонду сям'і Гарэцкіх мы яскрава бачым, што БДАМЛМ — сапраўдная скарбніца духоўнай культуры Беларусі.

*2010*

## Няздзейснены праект прафесара Краснага

Атрымаў ад Андрэя Лапо — навукоўца з Усерасійскага геалагічнага інстытута (Санкт-Пецярбург), які займаецца гісторыяй геалагічнай навукі, — ліст з просьбай прыслаць якія-небудзь успаміны і матэрыялы да 100-годдзя (04.04.2011) вядомага вучонага-геолага члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі навук Льва Ісакавіча Краснага.

Я ўспомніў апошнюю сустрэчу з ім у канцы кастрычніка 2006 г., калі я прыехаў у Санкт-Пецярбург на міжнародную нараду па складанні атласа карт геалагічнага зместу, якая супала з саракавым днём пасля смерці маёй стрыечнай сястры Галіны, пахаванай на Паўночных могілках на ўскраіне горада. У цягніку пад раўнамерны стук колаў і пагойдванне вагона я ўспамінаў мінулае, якое было звязана з Ленінградам, куды некалі даволі часта прыязджаў. Гаркота і сум ад сыходу ад нас назаўсёды маёй сястры не пакідала мяне, і мне мроіліся сустрэчы з дзядзінай Лёляй і Галяй на іх розных кватэрах, чамусьці часцей за ўсё на іх самай малюсенькай камунальнай на Пушкінскай вуліцы, дзе яны жылі з блакадніцай Марыяй Іванаўнай. Пазнаёміўшы яе з Алесем Адамовічам і выказаў-

шы ідэю пра стварэнне кнігі аб блакадным Ленінградзе, мае жанчыны падштурхнулі Адамовіча, а той — і Данііла Граніна на напісанне хвалюючай сэрца «Блакаднай кнігі». Успомніліся многія мае сябры і калегі з геалагічных устаноў Ленінграда, з якімі я сустракаўся на розных навуковых нарадах, абаронах дысертацый, у геалагічных экспедыцыях на палявых работах і г. д.

З Львом Ісакавічам Красным часцей за ўсяго мы сустракаліся ў Маскве на пасяджэннях рэдкалегіі часопіса «Геатэктоніка», членамі якой мы абодва былі; на сходах бюро Міжведамаснага тэктанічнага камітэта; на ўсесаюзных і міжнародных канферэнцыях і інш. Мяне заўсёды прываблівалі ў Л. Краснага яго энергія, хуткасць мыслення, лагічнасць думкі, надзвычайны аптымізм і добразычлівасць. Нашы сустрэчы і размовы хаця і былі кароткімі, але вельмі цікавымі і пакідалі яскравыя ўспаміны. Ён цікавіўся многімі пытаннямі тэктонікі, якімі я займаўся, даваў добрыя прапановы. Асабліва важныя гутаркі былі па такіх агульнатэарэтычных праблемах тэктонікі і геадынамікі, як геаблокавая дзялімасць Зямлі, іерархія ўзроўняў дзялімасці, геаблокі і мінерагенія, тэктанічная сістэматыка і тэрміналогія, па якіх ён пакінуў грунтоўныя працы.

Пасля доўгага перапынку ў маіх паездках у гэты славуты горад, што звязана з паслабленнем творчага супрацоўніцтва паміж геолагамі пасля распаду СССР, я зноў трапіў ва Усерасійскі геалагічны інстытут. На жаль, многіх выдатных вучоных, з якімі сустракаўся раней, я ўжо ўбачыў толькі на партрэтах…

Канечне, я паспяшыў сустрэцца з маімі даўнімі сябрамі членамі-карэспандэнтамі РАН Аляксандрам Жамойдам і Львом Красным. З апошнім я не бачыўся больш за 15 гадоў. Хаця Льву Ісакавічу было ўжо за 95 гадоў, але ён мала змяніўся, быў, як і раней, бадзёрым, энергічным, з такой жа яснай думкай, выдатнай памяццю. Ён адразу пазнаў мяне, і ў нас у абодвух было такое адчуванне, як быццам мы працягваем зусім нядаўна перарваную размову. З вялікім уздымам ён паведаў пра выдатную

калектыўную працу «Геолого-минерагеническая карта мира» з тлумачальнай запіскай да яе, пра іншыя свае разнастайныя даследаванні. У канцы нашай размовы Л. Красны выказаў ідэю аб тым, што беларускім геолагам разам з вучонымі Украіны і суседніх краін правесці даследаванні па тэктоніцы і мінерагеніі ўсёй Усходне-Еўрапейскай платформы, прычым ён гатоў удзельнічаць у ім як кіраўнік ці кансультант. На развітанне ён падараваў мне кнігу «Геология и жизнь. К 90-летию Л. И. Красного» (2001), на якой напісаў: «Глубокоуважаемому, дорогому Радиму Гавриловичу, последователю лучших тектонических российско-белорусских традиций. Лев Исаакович. 30.Х.2006». Пасля жыццярадаснай гутаркі з Л. Красным мой сумны настрой троху зменшыўся.

Не паспеў я прыехаць у Мінск, як атрымаў ліст з Санкт-Пецярбурга, у якім Леў Ісаакавіч ужо канкрэтна сфармуляваў назву праекта «Геолого-минерагеническая карта Западной Европы и объяснительная записка к ней», прычым прапанаваў, што ён сам адразу прыедзе ў Мінск, каб выступіць і абмеркаваць мэты і праграму даследаванняў. Безумоўна, праект Л. І. Краснага быў цікавы, перспектыўны, і я ў мінулыя гады яго поўнасцю падтрымаў. Аднак бясконцае рэфармаванне навукі ў Беларусі, асабліва інтэнсіўнае пасля шэрагу ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (усе сілы вучоных кінуць на рашэнне бягучых практычных задач народнай гаспадаркі, а не займацца нейкімі абстрактнымі фундаментальнымі даследаваннямі), прывялі да негатыўных вынікаў. Быў ліквідаваны самы моцны ў краіне Інстытут геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, большасць яго супрацоўнікаў пасля скарачэння пераведзена ў Беларускі навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут Дэпартамента па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў, мэты якога маюць чыста прыкладны характар. У НАН Беларусі пакінулі каля дзясятка высокакваліфікаваных навукоўцаў пенсійнага ўзросту. У такіх умовах важную міжнародную фундаментальную тэму, нават з вялікім прыкладным выхадам, без падтрымкі дзяржавы

выканаць было цяжка. Аб гэтым я і напісаў Л. І. Краснаму. Відаць, блізкі адказ на гэтую прапанову ён атрымаў і ад геолагаў Украіны..

Ад Льва Ісакавіча я атрымаў ліст, дзе ён пісаў:

*«…письма из Киева и Минска меня огорчили, ибо надеялся на самостоятельное активное продвижение проекта «Геолого-минерагеническая карта Западной Европы». Я и сейчас считаю, что должна быть создана активная группа (5–6 человек) от Национальной Академии наук Украины и Белоруссии, которая должна наладить переписку с возможными участниками на Западе. Высылаю в 2 адреса легенду к «Геолого-минерагенической карте мира», к сожалению в черно-белом варианте. Ее, вместе с английским текстом краткой объяснительной записки, также полезно послать возможным участникам. Есть и еще одно важное предложение. В августе 2008 г. состоится XXXIII сессия МГК в Осло. Можно заранее наметить оргсобрание вероятных составителей карты. Надеюсь, что и я мог бы участвовать в таком заседании. Итак, берите в свои руки это дело, если оно кажется Вам перспективным.*

*[…] Пользуюсь случаем поздравить всех Вас с Новым 2007 годом. Судьба «Геолого-минерагеническая карта Западной Европы» в руках Киева и Минска.*

*30.I.2007. Ваш Л. И. Красный*»

Досыць хутка з вялікім сумам я даведаўся, што 25 мая 2008 г. на 98-м годзе жыцця памёр Леў Ісакавіч Красны. Для мяне гэтая вестка была нечаканай, бо мая сустрэча з ім і яго бадзёрасць, якая гучала нават у апошніх лістах, не маглі прадбачыць такога зыходу. А. І. Жамойда ў лісце ад 19.08.2008 пісаў: «*Очень-очень мне, да и многим, не хватает Льва Исааковича. Да, что поделаешь…*» Гэта так. Няздзейснены, але вельмі патрэбны і перспектыўны праект Льва Ісакавіча Краснага чакае яго выканаўцаў…

***2010***

## 20 гадоў разам з «Бацькаўшчынай»

Лёс беларускага народа быў складаны і цяжкі: паланізацыя і русіфікацыя, прымусовае высяленне і добраахвотная міграцыя, страта этнічных зямель і ўцёкі ў час вайны і г. д. Усё гэта прывяло да таго, што кожны трэці беларус жыве па-за межамі Беларусі, а беларусаў замест 30 млн застаецца менш за 10 млн, і гэтая лічба паступова, але пастаянна скарачаецца. Пасля таго, як савецкія людзі патроху вызваляліся ад ярма «Homo soveticus», зрывалі «жалезны занавес» і ўбачылі іншы свет, пазнаёміліся са сваімі суродзічамі з замежжа, адчулі паветра свабоды і трапілі ў працэсы перабудовы 80-х гг. мінулага стагоддзя, у рэспубліках адчуўся вялікі ўздым нацыянальнага адраджэння. На Беларусі ўзнікла ідэя стварэння Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», адным з галоўных арганізатараў якога стаў пісьменнік Яўген Лецка. Ён і мяне запрасіў удзельнічаць у складзе аргкамітэта па падрыхтоўцы гэтай арганізацыі, і ўжо 10 верасня 1990 г. адбылася Устаноўчая канферэнцыя па арганізацыі ЗБС «Бацькаўшчына», міжнароднай грамадскай культурна-асветніцкай супольнасці беларусаў, галоўнай мэтай якой з’яўляецца нацыянальнае адраджэнне Беларусі, яе мовы, культуры, адукацыі, гісторыі, стварэнне незалежнай дэмакратычнай дзяржавы. Першым прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» стаў Васіль Быкаў, а старшынёй Рады Яўген Лецка.

У канцы 1992 г. мы правялі Сход беларусаў краін былога СССР. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь за подпісам Вячаслава Кебіча прыняў спецыяльную пастанову аб ЗБС «Бацькаўшчына», у якой даручаў усім міністэрствам і іншым урадавым структурам дапамагаць дзейнасці ЗБС. Дарэчы, калі Кебіч у той час выступаў на агульным сходзе Таварыства беларускай мовы, быў прыняты ў сябры ТБМ і даў клятву, што на наступны год будзе размаўляць па-беларуску. Зараз проста цяжка ўявіць такое цуда, якое пры правільных адносінах дзяржаўных улад да

мовы карэннага насельніцтва з’яўляецца не чым-небудзь асаблівым, а нармальным. Кульмінацыяй магутнай, але, на жаль, кароткай хвалі нацыянальнага адраджэння з’явіўся Першы з’езд беларусаў свету ў ліпені 1993 г., які праходзіў з вялікім уздымам і са значнай падтрымкай і дапамогай дзяржаўных уладаў. З’езд адбыўся у памяшканні Вялікага тэатра оперы і балета, у ім прынялі ўдзел каля 1500 чалавек (з іх больш за 1000 замежных грамадзян). З дакладамі і паведамленнямі выступілі не толькі прадстаўнікі ЗБС, але і многія дзяржаўныя дзеячы: старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, намеснік старшыні Савета Міністраў Міхаіл Дзямчук, міністры Пятро Краўчанка (сустаршыня аргкамітэта), Анатоль Бутэвіч, Яўген Вайтовіч, Віктар Гайсёнак і інш. Гэта было сапраўднае вялікае свята: упершыню ў гісторыі Беларусі беларусы з усяго свету сабраліся такой вялікай грамадой, каб абмеркаваць стан беларушчыны ў свеце, адбудову беларускай дзяржаўнасці. Здзейсніўся кліч Янкі Купалы: «На Вялікі сход, па Бацькаўшчыну!» Былі прыняты важныя звароты і дакументы, праведзены круглыя сталы па розных напрамках, прынята праграма «Беларусы ў свеце», ЗБС разам з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны атрымала памяшканне ў былым будынку Інбелкульта, у якім з часам планавалася стварыць «Беларускі Дом»; тут была адкрыта мемарыяльная дошка Максіму Гарэцкаму, а ў Лідзе — помнік Францішку Скарыну, прайшлі цікавыя мастацкія выставы (у тым ліку «Жыве Беларусь»), канцэрты, сустрэчы і г. д. Прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» быў абраны Радзім Гарэцкі, а старшынёй Рады — Ганна Сурмач, якая многа зрабіла як кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы і правядзенні з’езда. Тады нам наперадзе марыліся светлыя надзеі і з’езд здаваўся толькі выдатным іх пачаткам.

Аднак пасля таго, як наша краіна стала прэзідэнцкай дзяржавай, адносіны да ЗБС «Бацькаўшчына» з боку ўладаў рэзка пагоршыліся. Доўгі час мы не маглі атрымаць дазвол на правядзенне Другога з’езда беларусаў свету, які мы прыстасавалі

да Дня незалежнасці 27 ліпеня 1997 г. Нават ішла размова аб правядзенні з'езда ў суседніх краінах. Нарэшце атрымалі дазвол правесці яго ў Тэатры музычнай камедыі, але перашкоды (ліпавая пажарная небяспека, тэрміновы рамонт) працягваліся амаль да самага дня адкрыцця з'езда. Ціск з боку ўладаў на рух за нацыянальнае адраджэнне рабіўся ўсё мацнейшым, суполкі беларусаў пачалі калоцца на «сваіх» і «чужых» і г. д. Таму правядзенне з'езда патрабавала ад кіраўніцтва ЗБС вялікіх намаганняў і нерваў. Прайшоў ён непараўнальна больш сціпла — было толькі 123 прадстаўнікі замежжа, бо многія ўдзельнікі мінулай сустрэчы адмовіліся ехаць у краіну з такім рэжымам. У далейшым праца ЗБС рабілася ўсё цяжэйшай. Уладныя структуры стараліся стварыць альтэрнатыву «Бацькаўшчыне» і нават у 1999 г. абвясцілі, што пачала працаваць Міжнародная асацыяцыя «Святло Радзімы». Але ЗБС «Бацькаўшчына» жыла і, нягледзячы на новыя «камедыі» з памяшканнем, правяла Трэці з'езд беларусаў свету ў Доме літаратараў.

Тэмы з'ездаў былі вельмі актуальны, у адпаведнасці з імі мне даручылі зрабіць асноўныя даклады: «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», «Праблема захавання беларускай прысутнасці ў свеце», «Беларусь і беларусы на мяжы тысячагоддзяў». Матэрыялы і дакументы першага, а затым другога і трэцяга з'ездаў былі выдадзены ў выглядзе дзвюх кніг (1997, 2004). На трэцім з'ездзе (2004) прэзідэнтам ЗБС быў абраны Анатоль Грыцкевіч, а старшынёй Рады — Алена Макоўская. Пазней ЗБС «Бацькаўшчына», як і Скарынаўскі навукова-асветны цэнтр былі пазбаўлены памяшкання, але актыўную працу працягвалі. Былі праведзены чацвёрты і пяты з'езды беларусаў свету. Апошні адбыўся пад кіраўніцтвам Алеся Марачкіна і Алены Макоўскай. Тут трэба адзначыць, што ў з'ездзе прынялі ўдзел прадстаўнікі некаторых міністэрстваў. Асабліва пазітыўнымі з іх былі выступленні адзінага беларускамоўнага міністра культуры Паўла Латушкі.

Важным дасягненнем папярэдняга і асабліва сучаснага кіраўніцтва ЗБС (Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская) стала пастаяннае выданне інфармацыйнага бюлетэня «Беларусы ў свеце» і выданне ўнікальных кніг серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны», шырокую вядомасць атрымала грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі» і інш. ЗБС працягвае праводзіць шматгранную шырокую дзейнасць па аб'яднанні беларусаў свету, у якой прымае ўдзел вялікая колькасць шчырых сыноў Бацькаўшчыны і замежжа, адданых здзяйсненню нацыянальнай беларускай ідэі. Нам ўсім і далей неабходна яшчэ больш інтэнсіўна працаваць у такім напрамку, бо дзейнасць сучасных уладных структур, якія накіраваны супраць беларушчыны, прывялі да такой магутнай русіфікацыі, што за апошнія 10 гадоў колькасць беларусаў, якія штодзённа карыстаюцца беларускай мовай, знізілася з 37% да 23%. Калі так пойдзе і далей, дык у хуткім часе побач з рускамоўнай Вялікай Расіяй будзе таксама, як прыдатак да яе, рускамоўная Белая Русь. Стан з беларушчынай катастрафічны. Трэба ўсім галасіць не проста «За Беларусь», а за «беларускую Беларусь». З'езд беларусаў свету аднадушна прыняў зварот, каб 2010 год абвясціць Годам беларускай мовы, але ўлады засталіся глухімі. Нядаўна ТБМ звярнулася з прапановай такім годам абвясціць наступны, і нам трэба падтрымаць такую думку. Цяпер, калі ідзе кампанія па выбарах прэзідэнта, трэба давесці да ўсіх і зразумець, што нам патрэбен беларускамоўны Прэзідэнт, беларускамоўны ўрад, беларускамоўны парламент, якія б змагаліся за пашырэнне беларушчыны.

*2010*

# Палата № 304

Ужо ў канцы верасня мне зрабілі электракардыяграму (ЭКГ), якая вельмі не спадабалася маім дактарам. Нейкі зубец не такога памеру і не туды накіраваўся. Хаця я нармальна сябе адчуваў, але тэрмінова паклалі мяне ў кардыялагічнае аддзяленне, у палату № 304 на трох хворых. Мне вельмі не хацелася, каб мяне туды паклалі, бо я пільна працаваў над справаздачай за 5 гадоў навуковай тэмы, якой я быў кіраўніком і якую трэба было ўжо праз 1,5 месяца завяршыць і абараніць на вучоным савеце Інстытута прыродакарыстання. Цяжкасць яшчэ была ў тым, што ў сувязі з рознымі рэформамі, якія прывялі да ліквідацыі нашага Інстытута геахіміі і геафізікі, многія супрацоўнікі, занятыя распрацоўкай гэтай тэмы, былі звольнены ці перайшлі ў іншы інстытут. Таму ўсе матэрыялы я ўзяў з сабой, расклаў іх на шырокім падаконніку, каля якога і стаяў мой ложак, і пачаў працаваць. Мне ў гэты раз вельмі пашанцавала: мае суседзі — аднаму 91 год, другому 82 — зусім маўклівыя, спяць без храпу, нават тэлебачанне не любяць (гладзелі толькі апошнія весткі, і тое па маёй ініцыятыве). У мінулы раз у мяне быў сусед, якога я памятаю да гэтага часу: ён не змаўкаў ні на хвіліну (яго біяграфію я праслухаў разоў чатыры), тэлевізар амаль не выключаў, а ноччу шалёна хроп. Дык я на гэты раз так добра папрацаваў над справаздачай і за дзесяць дзён бальніцы зрабіў значна больш, чым гэта мог у інстытуце, дзе бясконца нехта ці нешта адрывае ад напісання.

Адзінае было кепска, што на двары пахаладала, з акна дзьмула і батарэі былі зусім халодныя. Адзін сусед ляжаў і спаў нават у світары, а я і другі сусед знайшлі дадатковую коўдру. Але па тэлебачанні пачулі добрую вестку, што з 1 кастрычніка ва ўсіх дзіцячых садках і медыцынскіх установах ужо ўключылі ацяпленне. Узрадаваліся, але і на другі і трэці дзень батарэі былі халодныя, троху пацяплелі толькі 4 кастрычніка. Успомніў анекдот: «Адна бабуля плача. — Ты чаго плачаш? — Ды хачу

ў Беларусь. — Так ты ў ёй і жывеш! — Не, хачу не ў гэтую, а ў тую, якую паказваюць па тэлебачанні». Усё ж добра было б, каб усе ў краіне падключыліся да руху У. Някляева «Гавары праўду!».

За сталом я сяджу разам з дзвюма жанчынамі ў гадах. Па акцэнце чую, што яны беларускі (і нават некаторыя беларускія словы праскоквалі ў іх размовах), але стараюцца гутарыць толькі на рускай мове. У нядзелю адной з іх няма. Я звярнуўся да другой: «Відаць, наша суседка пайшла дахаты?» — «Нет! Видно, она пошла домой».

К вечару выходжу на вуліцу, каб трохі падыхаць свежым паветрам. На праспекце, каля ГУМа пікеты па зборы подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты. Нязвыкла і дзіўна глядзець на сцягі: бел-чырвона-белы каля пікета Кастусёва, сцяг Еўразвяза каля прыхільнікаў Саннікава, арыгінальны сцяг Някляева. Тут шмат людзей, цікавяцца, размаўляюць, падпісваюцца. Трохі асобна — пікет за Лукашэнку з сучасным сцягам Беларусі, але ўсе праходзяць міма, і толькі аднойчы ўбачыў адну бабулю за подпісам. Аднак праз некалькі дзён чытаю ў газетах, што за апошняга ўжо падпісалася больш за 800 тыс. чалавек. Вертыкаль чыноўніцкая спраўна працуе: напрыклад, старшыня Прэзідыума Акадэміі навук проста даў каманду кіраўнікам устаноў — падпісаць столькі-та працэнтаў ад агульнага ліку супрацоўнікаў.

*2010*

## 80 гадоў кафедры геалогіі МНІ

Загадчык кафедры геалогіі Расійскага дзяржаўнага ўніверсітэта (РДУ) нафты і газу імя І. М. Губкіна (раней Маскоўскага нафтавага інстытута — МНІ) прафесар Віктар Гаўрылаў запрасіў на ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 80-годдзю кафедры геалогіі, выпускніком якой я быў амаль 60 гадоў таму. Яно адбылося 27 кастрычніка 2010 г. На жаль, ужо не сустрэў (бо пакінулі нас назаўсёды) маладзейшых за мяне выпускнікоў — прафесара Эрнста Бакірава — віцэ-мэра Масквы, паплечніка Юрыя Лужкова, прафесара Канстанціна Кляшчова — дырэктара Усерасійскага навукова-даследчага геалагічнага нафтавага інстытута, з якімі па-сяброўску бачыліся на 75-годдзі кафедры геалогіі. Прыемна было сустрэцца і пагаманіць з многімі маімі сябрамі і знаёмымі, праўда некаторыя з іх так змяніліся (на жаль, не ў лепшы бок), што і пазнаць іх было цяжка. З маёй групы 46-Г-1 быў толькі Рустэм Сейфуль-Мулюкаў, цяпер прафесар, загадчык аддзела Інстытута праблем інфарматыкі РАН, стрыечны брат вядомага міжнароднага журналіста тэлевядучага Фарыда Сейфуль-Мулюкава. Падышла да нас і родная сястра Рустэма Ніля Гібшман, якая зараз працуе дацэнтам кафедры геалогіі РДУ нафты і газу і якую ў нашы студэнцкія гады я ведаў школьніцай. Яна раптам мне прызналася: «А я тогда была влюблена в тебя».

Цяпер нафтавікі — адны з самых багатых людзей, таму ўрачыстасць прайшла пышна, з падарункамі супрацоўнікам кафедры ад многіх арганізацый «Газпрама», «Лукойла» і іншых, а таксама інстытутаў нафтавага і газавага профілю.

Узгадаліся гады студэнцкія… 1946 год — першы год пасляваеннага паступлення ў ВНУ. Сярод нас, зусім маладых людзей, толькі што скончыўшых сярэднюю школу і атрымаўшых атэстаты сталасці, абітурыентамі былі і франтавікі, якія выжылі ў жудаснай вайне. Адзін з іх вельмі сімпатычны прыгожы хлопец у гімнасцёрцы старшага лейтэнанта з ордэнам і многімі ме-

далямі да дрыжыкаў у руках хваляваўся на экзамене па матэматыцы, бо ўсё забыўся, што вучыў перад вайной. З надзеяй сядзеў побач са мной — я яму дапамог рашыць задачу, але ўсё роўна на вусных запытаннях заваліў экзамен. Дужа шкада было хлопца. Так адбылося з многімі, але ўсё ж большасць сталі студэнтамі. А студэнтамі мы адчулі сябе пасля таго, як дэкан геолагаразведачнага факультэта і загадчык кафедры агульнай геалогіі прафесар Міхаіл Міхайлавіч Чарыгін выступіў перад вялікай аўдыторыяй, дзе сабраліся некалькі соцень чалавек, і з вялікай патэтыкай і зрывістым ад урачыстасці голасам сказаў нам прывітальную прамову: «Дарагія студэнты, нядаўнія абітурыенты! Сардэчна і шчыра віншую вас…» Далей ён вельмі дасканала і пераканаўча казаў пра важнасць выбранай намі прафесіі, яе цікавыя і цудоўныя перспектывы. Мы, як зачараваныя, слухалі нашага прафесара, адчувалі, што мы і сапраўды зрабілі выдатны выбар у жыцці, здаваліся сабе больш вартымі людзьмі, стаўшы сапраўднымі студэнтамі такога прэстыжнага факультэта вядомага інстытута.

Сярод франтавікоў вылучаўся Пётр Іванчук, моцны прыгожы хлопец з троху кучаравымі валасамі і шэрымі вузкімі вачыма і тонкімі вуснамі. Ён быў сынам вядомага геолага-нафтавіка. Яго, як члена партыі і больш сталага па ўзросце і сур’ёзнага студэнта, адразу зрабілі старастай нашай групы, і ён сярод нас адчуваў сябе сапраўдным кіраўніком ці афіцэрам над салдатамі. Больш за ўсяго ён здзівіў і ўразіў нас, калі мы сабраліся на кватэры ў аднаго нашага сябра сустрэць Новы год. Паднялі келіхі, каб выпіць за адыходзячы стары год. Устае наш староста і вельмі ўрачыстым гучным голасам гаворыць тост: «Выпьем первую чарку за нашего великого, мудрого вождя, учителя и друга народов мира и всех студентов товарища Сталина!» Хаця ў той час мы ўжо звыкліся з такога тыпу прамовамі і лозунгамі, але тут настолькі было нечакана і недарэчна, што наша вяселле і смех умомант некуды падзяваліся і мы ўсе ўскочылі і моўчкі, не чокаючыся, выпілі. Пасля гэтага выпадку мы стараліся на

розныя вечарынкі не запрашаць нашага камуніста-артадокса, які нам і ў інстытуце дадзеў сваімі заўвагамі і натацыямі. Пётр выдатна скончыў інстытут, з часам стаў доктарам навук, прафесарам і працаваў у навукова-даследчым інстытуце.

Быў яшчэ ў нас адзін былы франтавік Сяргей Іваноў, які пасля заканчэння вучобы абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў вучоным. Вельмі сімпатычны, але на выгляд суровы, з магутна-каржакаватай постаццю, з цяжкім поглядам чорных вачэй. Ён чамусьці мне ўспамінаецца на рынку. Калі мы збіраліся на летнюю геалагічную практыку, нам хацелася ўзяць з сабой якую-небудзь ежу (сухары, крупу, цукар), таму што мы ўвесь час былі галоднымі. На прадуктовыя карткі нам выдалі адну толькі воблу. Наша брыгада студэнтаў даручыла Сяргею і мне прадаць на рынку гэтую воблу і купіць хлеба. Узялі мы тую воблу і хадзілі, пятляючы па рынку — зараз, заплюшчыўшы вочы, бачу як жывога Сяргея, які, усміхаючыся, ідзе мне насустрач і трымае на працягнутай руцэ некалькі рыбін.

Калі мы былі на геадэзічнай практыцы ў вёсцы Ярцава каля Адзінцова пад Масквой, дзе ў краіне «агульнай электрыфікацыі» не было яшчэ чамусьці электрычнасці, да нас у цёмную драўляную хату, дзе жыла наша брыгада практыкантаў (а я тут быў брыгадзірам), ноччу пастукаліся некалькі супрацоўнікаў КДБ на чале з падпалкоўнікам і забралі з сабой без усякага тлумачэння Лівіціна — былога старшага лейтэнанта. Больш мы яго ніколі не бачылі. У памяці засталася стромкая постаць маўклівага студэнта ў афіцэрскай гімнасцёрцы, які кінуў на нас сумны-сумны погляд карымі троху выпуклымі вачыма…

Хударлявы, невялічкага росту капітан Назін меў мноства раненняў, і яму цяжка было вучыцца, таму ён хваляваўся, часта хварэў і праз два гады нечакана памёр. Разам з намі слухаў курс лекцый і займаўся практычнымі заняткамі адзін аспірант — былы франтавік. Гэта быў мой зямляк Аляксандр Махнач, які з часам стаў вядомым беларускім вучоным, акадэмікам НАН Беларусі.

На той жа геадэзічнай практыцы ўзгадаўся такі выпадак. Харчаваліся мы разам — усе студэнты нашай брыгады, таму гаспадарка была агульная: грошы ў складчыну, па чарзе гатавалі абед з тых нешматлікіх прадуктаў, што атрымоўвалі па картачках. Калі хто прывозіў з дому ежу ці атрымліваў пасылку з харчамі, дык усё складалі ў агульную скрыню. Як мы з харчаваннем ні мудрагелілі, заўсёды галодныя былі. Быў сярод нас студэнт — сын намесніка міністра, які меў большыя магчымасці атрымоўваць грошы і ўсякую ежу, але ён ніколі не даваў у «скрыню» больш за іншых. Некалькі разоў мы заўважылі, што ён пасля прыезду з хаты ноччу паціхеньку нешта жуе… Паглядзелі, а гэта пячэнне, сыр, каўбаса. Мы такой смакаты тады амаль не бачылі, а елі толькі чорны хлеб, сушаную бульбу, якую смажылі на таплёным масле. Аднагалосна мы выключылі яго з нашай брыгады…

Мае бацькі, каб адзначыць уступленне сына ў студэнцтва, ведаючы маю прыхільнасць да фатаграфіі, падаравалі мне фотаапарат ФЭД. Аднойчы я разам са сваім аднакурснікам Барысам Варавым вырашыў прайсціся па Маскве і пафатаграфаваць некаторыя прыгожыя мясціны, але гэта трэба было рабіць вельмі асцярожна, бо шмат дзе забаранялася здымаць. Падышлі мы да Каменнага моста, адкуль выдатна адкрывалася панарама на Крэмль, прычым прыблізна такі ж малюнак, як на многіх грашовых знаках. Мы падумалі, што здымак такога кшталту пашыраны і ёсць усюды, дык напэўна яго мы можам зрабіць. На ўсякі выпадак Барыс і я ўсё ж агледзеліся вакол, убачылі, што амаль нікога паблізу няма, і я некалькі разоў шчоўкнуў затворам апарата. Як з-пад зямлі каля нас з’явіліся два «сексоты». Іх тады па ўсёй Маскве было вельмі шмат, прычым іх было досыць лёгка пазнаць, бо ім выдавалі добрыя боты з галёшамі, якія яны і насілі. Нас павялі ў камендатуру Крамля, адразу засвяцілі плёнку, распытвалі, потым па тэлефоне правяралі ўсё пра нас. Трымалі гадзіны тры ці чатыры.

Нарэшце выпусцілі, а мы, перапужаныя, з шчырай палёгкай уздыхнулі свежае паветра вясновай вуліцы…

Тады купіць хлеб ці прадукты можна было толькі па картках, і купіць цяжка, ды і вельмі дорага, а вось чамусьці гарэлка і піва заўсёды былі ў магазінах: нават у невялічкіх лаўках і ларках. Такія былі і супраць нашага інстытута. Недаяданне, а то і проста голад так перашкаджаў слухаць лекцыі, што мы другі раз не вытрымлівалі і казалі: «Пайшлі прымем піва з прычэпам». Пераходзілі праз вуліцу, бралі маленькі ці вялікі куфель піва, туды налівалі «прычэп» — 50 ці 100 г гарэлкі, выпівалі, страўнік супакойваўся і часова не турбаваў, а мы з прыемнасцю і з увагай слухалі чарговую лекцыю.

Мы з братам Усяславам, таксама студэнтам, знялі пакой па вул. Якіманка, якая ўваходзіла ва ўрадавы шлях «слуг народа», таму туды не ўсіх нават часова прапісвалі, тым больш такіх, як мы, — сыноў «врага народа», хаця і вызваленага, але яшчэ не рэабілітаванага. Добра, што сын гаспадыні нашага прахаднога пакойчыка таксама насіў боты з галёшамі, і яму дазволілі часова ўзяць нават такіх падазроных хлопцаў. Але калі ў Маскву ў камандзіроўку прыязджаў наш тата, а другі раз і з мамай, дык яны не мелі права начаваць у сваіх сыноў, якія жылі ў доме на такім важным, стратэгічным шляху. Мы сустракаліся ў нас толькі ўдзень, а на ноч яны павінны былі перасяляцца да якіх-небудзь сваіх добрых знаёмых (гасцініцу ў той час зняць было амаль немагчыма).

Пасля вайны «дорогие братья и сёстры» зноў ператварыліся ў «винтики», да якіх ставіліся з не меншай падазронасцю і «бальшавіцкай» пільнасцю, павялічваючы колькасць жыхароў ГУЛАГа. Да гэтага дабавіўся і антысемітызм. Памятаю, як да мяне некалькі разоў падыходзілі «дзеячы», якія дзівіліся, што я сябрую з Мішам Жарковым, і раілі кінуць яго. Я быў настолькі далёкі ад гэтага, толькі значна пазней даведаўся пра нацыянальнасць майго сябра. З часам ён стаў выдатным вучоным, доктарам навук і прафесарам, з якім я сябраваў да самай

яго смерці. Многія яўрэі, адчуваючы сябе ізгоямі, стараліся атрымліваць іншую нацыянальнасць. Аднойчы са здзіўленнем мы чыталі загад рэктара інстытута: «В связи с бракосочетанием студента Финкельштейна считать его в дальнейшем Александровым». Яшчэ раз я сутыкнуўся з такім яўрэйскім прозвішчам пры абароне кандыдацкай дысертацыі ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, калі за паўгадзіны да пачатку пасяджэння вучонага савета атрымаў адмоўны водгук, які быў падпісаны неіснуючым геолагам з трэста «Аэрагеалогія» і пасланы зайздроснікам-«добразычліўцам», што затрымала маё зацвярджэнне ў вучонай ступені на некалькі месяцаў.

Камсоргам у нашай групе быў Коля Быкаў — высокі прыгожы бландзін, у якога ўлюбляліся многія дзяўчаты і які гэтым не аднойчы карыстаўся, але ў яго ўсё абыходзілася мірна і спакойна. У той час партыя і яе памагаты камсамол дбайна сачылі за маральнасцю сваіх сяброў. Адзін камсамолец — студэнт старэйшага за наш курса быў на практыцы і там сышоўся з дзяўчынай, некаторы час вёў з ёй перапіску, а потым пакінуў яе. Яна напісала ліст пра ўсе перыпетыі іх кахання, яго вераломнасць і ў якасці доказу прыклала яго лісты да яе. Сабралі ў вялізарную залу некалькі сот камсамольцаў і пачалі разбіраць «справу» студэнта, прычым не толькі дапытвалі і ганьбілі яго, але і зачытвалі вялікія ўрыўкі з яго інтымных лістоў. Сорамна было сядзець на гэтым судзе і слухаць усе падрабязнасці. Выступіў і наш Коля з выкрывальнай прамовай. Мы ўсе ведалі, што ў яго такіх падзей яшчэ больш і некаторыя з іх, можа, нават горшыя, чым гэтая. Калі мы яго спыталі, як жа ён мог так паступіць, ён адказаў, што яго начальнікі па камсамолу прымусілі выступіць, інакш будзе горш. Той студэнт быў звольнены з камсамолу і на год адлучаны ад навучання ў інстытуце. Дарэчы, у гэтай зале зусім блізка бачыў танцы тады маладой салісткі Вялікага тэатра Маі Плісецкай, якая зрабіла на ўсіх нас вялікае ўражанне.

Пасля вайны на многіх прадпрыемствах не хапала кадраў і было даволі шмат вакансій. Таму на практыцы па прамысловай геалогіі, якую мы праходзілі пасля другога курса і на якую я трапіў у Грозны, мяне залічылі інжынерам у геалагічны аддзел трэста «Грознафтаразведка». Грозны тады быў спакойны горад, у якім жылі людзі многіх нацыянальнасцей, але больш за ўсіх рускіх. Хаця горад лічыўся сталіцай Чачэна-Інгушскай аўтаномнай рэспублікі, але жыхароў гэтых нацыянальнасцей было зусім мала, бо яны ў канцы ваеннага часу былі прымусова выселены ў Казахстан. Мая сакурсніца Іскра Байдава, якая тады жыла ў Грозным, апавядала, як яе і іншых камсамольцаў мабілізавалі для дапамогі высялення жыхароў далёкіх аулаў горных мясцовасцей. Абвяшчалі, каб сем'ямі выходзілі на плошчу, бралі з сабой толькі неабходныя рэчы, бо іх вывезуць на некаторы час і зноў вярнуць дахаты. На збор давалі 2–4 гадзіны, садзілі ў грузавікі, адвозілі на бліжэйшую чыгунку, садзілі ў грузавыя вагоны для жывёл — і «ў добры шлях»… Пазней, калі я жыў ужо ў Мінску, да мяне прыязджаў мой вучань па аспірантуры геолаг з Алма-Аты інгуш Султан Аздоеў, якога таксама з сям'ёй зусім малога высадзілі тады ў пачатку зімы сярод чыстага поля казахстанскага стэпу, дзе многія так і не змаглі выжыць… Мой Султан, спакойны маўклівы каўказец, стаўшы казахстанцам, з сумнымі карымі вачыма, з часам абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, стаў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Казахстана, намеснікам дырэктара Інстытута геалогіі і жыве ў Алма-Аце, але жонку спецыяльна паехаў выбіраць у Інгушэцію (тлумачыў: «Толькі ў нашай дзяўчыны я буду першым і яна будзе вернай мне назаўсёды»). Слаўную сям'ю Султана і яго мілай жонкі-настаўніцы з сынам і дачкою я наведаў у 1989 г., калі быў на ўрачыстых святкаваннях, прысвечаных першаму казахскаму інжынеру-геолагу, першаму дырэктару Інстытута геалагічных навук, першаму прэзідэнту Акадэміі навук Казахстана Канышу Імантаевічу Сатпаеву.

Калі мы былі студэнтамі-дыпломнікамі, дык мяне і Рустэма Сейфуль-Мулюкава ўзялі на працу начальнікамі геалагічных партый Прыкаспійскай экспедыцыі Усесаюзнага аэрагеалагічнага трэста. Нашы партыі павінны былі зрабіць геалагічную здымку маштабу 1 : 200 000, Рустэма — у раёне ст. Эмба, а мая — у Чушкакульскіх гарах, якія з'яўляюцца паўднёвым працягам Мугаджар (заканчэнне Паўднёвага Урала). Маладосць і энтузіязм дазволілі нам, зусім яшчэ нясталым геолагам, выканаць такую адказную і нялёгкую працу. Каб дапамагчы нам у правядзенні геалагічнай здымкі, на два дні да нас прыехаў прафесар кафедры геалогіі МНІ Міхаіл Паўлавіч Казакоў. На жаль, ён сам быў першы раз у гэтых краях, быў мала знаёмы з мясцовай геалагічнай будовай і таму мог дапамагчы толькі тэарэтычна. Каб пазнаць геалагічны ўзрост парод, трэба было ведаць не толькі рэчавы склад тых ці іншых тоўшчаў адкладаў, але яшчэ больш важна — розных ракавінак выкапнёвых малюскаў, якіх можна было досыць шмат адшукаць. Успомнілася, што наш прафесар, калі мы вечарам сабраліся вакол вогнішча, прапанаваў гульню, каб лепш ведаць і запомніць лацінскія назвы ракавін малюскаў: абзываць адзін аднаго лацінскімі імёнамі. Пачалося: першы кажа — ты Cardium edule, другі ў адказ — а ты — Belemnitella lanceonata, зноў першы — Belemnitella mucronata і гэтак далей. Прафесар, які сядзеў побач са мной, з жартам падказвае мне — Liperditia.

Пазней лёс паслаў мне выдатную сустрэчу на Чушкакульскіх гарах з лепшым знаўцам геалогіі раёна, тады яшчэ кандыдатам навук, а потым выдатнейшым геолагам віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук СССР акадэмікам Аляксандрам Леанідавічам Яншыным, які нам вельмі дапамог добра завяршыць геалагічную здымку і які стаў для мяне сапраўдным настаўнікам у навуцы і добрым сябрам.

Як бачым, у маім студэнцкім жыцці было многа адмоўных момантаў, якія былі звязаны з характэрнымі з'явамі бальшавіцкага рэжыму (агульны страх, хлусня, дэмагогія і інш.), якія,

на жаль, жывуць і ў сучаснасці і ад якіх трэба як мага хутчэй вызваляцца. Але наогул тады мы адчувалі многа радасці і шчасця, бо былі маладымі…

У РДУ нафты і газу мяне прыемна здзівіла тая пашана да былых прафесараў геолага-разведачнага факультэта і памяць пра іх: добрыя партрэты са звесткамі ўсіх загадчыкаў кафедры і многіх прафесараў; дошка студэнтаў, якія ўдастоены стыпендыі імя прафесара М. М. Чарыгіна і многіх іншых выкладчыкаў, лекцыі якіх я некалі слухаў; калектыўныя здымкі супрацоўнікаў кафедраў; надрукаваныя брашуры пра жыццё і дзейнасць найбольш выдатных прафесараў і г. д. Не забыліся і пра шэраг выпускнікоў інстытута, якія сталі вядомымі вучонымі, кіраўнікамі, дзеячамі. Выдатна зроблены музей і галерэя вядомых выпускнікоў. У некалькіх месцах прыемна было ўбачыць і свой твар…

*2010*

## Мой брат Усяслаў

Мой пляменнік Кірыл, сын Усяслава, паставіў на магілцы бацькі помнік. У канцы кастрычніка, калі я з Галяй прыехалі ў Маскву, мы зноў сабраліся на крутым беразе ракі ў пасёлку Рамашкава, каб пабыць побач з Усяславам і хаця б віртуальна пагаманіць з ім…. З ужо аголеных шэрых дрэў каляровае лісце пакрыла сцежкі і могілкі, утвараючы мяккі стракаты дыван, на які спусціўся светлы празрысты туман і імгліць сумны свежы дождж. Зашчымела сэрца, калі ўбачыў помнік з цёмнага лабрадарыту ў выглядзе кніжкі, на якой прасвечвае партрэт брата, збоку ўверсе — крыжык, а пасярэдзіне надпіс: «*Горецкий Всеслав Гаврилович. 05.07.1924–25.04.2009*». Паклалі кветкі, схілілі галовы, а ў мяне прамільгнулі асобныя моманты нашага жыцця…

Вось мы ў пасёлку Кола каля Мурманска, куды прыехалі разам з мамай да свайго бацькі на Беламорска-Балтыйскі ка-

нал. На шырокім пляжы Кольскага заліва ў час адліву рукамі з пяску выцягваем пляскатую камбалу ці ў бурлівай рэчцы Кола ловім чырвоную рыбу сёмгу. Увесь дзень мы, як беспрытульныя, бадзяліся па розных будоўлях, дзе разам з заключнымі палім акуркі, брыдкасловім, а позна вечарам мама, якая часта працавала да поўначы, не можа нас загнаць дахаты, бо ў белыя палярныя ночы мы згубілі меру часу — калі дзень, а калі ўжо ноч.

Мы на беразе шумлівай шыбкай Кумсы ў пасёлку Мядзведжая Гара, каля якой знаходзіўся драўляны домік, у якім мы здымалі маленькі пакойчык. Па рэчцы сплаўляюць лес, бярвёны амаль поўнасцю запоўнілі рэчку, налазяць адно на аднаго, круцяцца, а мы спаборнічаем, хто хутчэй перабяжыць па бярвёнах на другі бераг. Бог нас бярог, а вось вялікі прыгожы пудзель, які ўвязаўся за намі, утапіўся, падмяты бярвёнамі. Прыблізна ў 1 км ад нашай хаты на другім беразе Кумсы знаходзіцца турма, дзе сядзіць наш тата. Мы круцімся недалёка і сочым, калі павядуць вязняў, і ці будзе сярод іх бацька, каб ведаць, жывы ён ці не. Аднойчы мы ўбачылі яго ў такім жудасным бядотным стане, што нам стала проста страшна. Як потым мы даведаліся, тата, даведзены голадам і здзекамі да такога стану і ведаючы, што яго чакае толькі расстрэл, папрасіў у мамы лязо і хацеў паканчыць жыццё самагубствам. Але любоў да жыцця, аптымізм і каханне перамаглі…

Перад самым пачаткам вайны Славік ужо ў 9-м класе. Ён — прыгожы, стромкі хлопец з вялікай капай злёгку кучаравых валасоў, з цёмна-блакітнымі вачыма — вельмі падабаўся многім сваім аднакласніцам. Ды і ён пачаў «фарсіць»: дапазна гуляць з імі ў лёгкай адзежы, у тапачках. Скончылася тым, што захварэў хлопец на моцны плеўрыт і досыць доўга ляжаў у бальніцы. Добра, што паспеў падлячыцца і паехаць з намі ў таварным вагоне-цяплушцы ў эвакуацыю ў г. Іжэўск — сталіцу Удмурціі, дзе ўладкаваўся на аўтамабільны завод токарам, а я з мамай, дзедам і бабуляй трапілі ў сяло Вавож. І Славіка,

і нас у тыя часы вельмі мучыў голад. Мы пазней завялі сваю гаспадарку: агарод, парсюка, курак. Стала лягчэй, а Славіку было зусім кепска. Я, тады сямікласнік, некалькі разоў ездзіў да яго з рознымі прысмакамі ў рукзаку: бульба, розная агароднiна, а таксама адзенне. Трэба было пешку ісці каля 15 км да чыгункі, а потым яшчэ 8 км па шпалах да станцыі Вялікая Мажга, а адтуль цягніком да Іжэўска. Радасць сустрэчы была вялізарная, бо мы любілі адзін аднаго і дужа сумавалі.

У апошні год вайны я вучыўся ў Маскоўскім нафтавым тэхнікуме і жыў разам з братам у інтэрнаце Маскоўскага аўтамабільнага завода імя Сталіна (ЗІС, пазней ЗІЛ — завод імя Ліхачова), дзе Славік працаваў токарам, фрэзероўшчыкам, а пазней і майстрам. У маленькім пакойчыку, які знаходзіўся ў падвальным памяшканні, пад самым дахам мелася адно акенца, у якім відаць былі толькі ногі прахожых. Па характэрным гуку я заўсёды амаль беспамылкова ўгадваў, калі ішоў мой брат, бо ён насіў тады бацінкі на драўлянай падэшве. У пакойчыку ледзьледзь змяшчаліся тры жалезныя ложкі з рыпучымі спружыннымі сеткамі, якія прыкрывалі тоненькія ватныя матрацы. Каля кожнага ложка — па адной тумбачцы. Адзін ложак належаў ужо досыць сталаму сівавaтаму, спакойнаму і троху мляваму інжынеру завода, другі — маладому хлапцу-здараўяку з рудай шавялюрай, а трэці, які стаяў каля ўваходных дзвярэй, — Славіку. Вось на ім браты ўдвух і спалі: матрац быў вузкі, таму частка цела апыналася на жалезнай сетцы, коўдры не хапала і бок быў голы, а паварочвацца на другі бок лепш за ўсё было сінхронна. Асалоду ад сну мне можна было атрымаць толькі тады, калі Слаўка працаваў у начную змену, а яму — толькі ўдзень. Цяжкавата было не столькі ад жыллёвых умоў, колькі ад пастаяннага недаядання. Брат атрымліваў па картцы 500 г хлеба, а я — 350 г. Раз на дзень па картках маглі ў сталоўцы пад’есці капусны суп, у якім плавалі адзін-два кавалачкі марожанай бульбы, на другое — лыжку кашы і запіць шклянкай несалодкага чаю.

Работа на заводзе была вельмі адказная — ваенная прадукцыя ішла прама на фронт. Таму працавалі па 12 гадзін у змену без выхадных. Часам прыходзілася працаваць па некалькі сутак. Слава быў актыўным членам камітэта камсамола. Меў добры голас і спяваў у квартэце, які на Усесаюзным конкурсе мастацкай самадзейнасці, які праходзіў ужо ў канцы вайны ў Вялікім тэатры, заняў прызавое месца.

З бязмежнай радасцю мы сустрэлі дзень перамогі. Такой шчырай радасці, такога цудоўнага салюту Масква не бачыла ніколі. Усю ночку брат і я вясёлыя хадзілі па Маскве, да краёў запоўненай шчаслівымі людзьмі…

Стаўшы студэнтамі, мы здымалі ў розных мясцінах Масквы пакойчыкі — то кепскія і халодныя, то добрыя і прытульныя, але заўсёды мы былі лагодныя адзін да аднаго, па-сапраўднаму сяброўскія, не мелі ніякіх сакрэтаў, дзяліліся адзін з адным усім. Самы шчаслівы час быў для нас, калі прыязджаў у камандзіроўку ў Маскву тата, а яшчэ больш, калі ў канікулы ўлетку нам задавалася прыехаць да бацькоў на Волгу, Каму ці Дон, дзе яны жылі, працуючы на інжынерна-вышукальных даследаваннях пад чарговую гідраэлектастанцыю.

Усяслаў скончыў Маскоўскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці «Настаўнік рускай мовы і літаратуры» і працаваў у сярэдняй школе сяла Белавусава (недалёка ад г. Малаяраслаўца Калужскай вобласці). Ён ужо ажаніўся са студэнткай таго ж інстытута Лідзіяй Іванавай, а затым з’явілася і дачка Алёнка. Я часта прыязджаў да іх — такія добрыя былі сустрэчы.

Успомніў, як Славік і я, ужо ў Дзедаўску пад Масквой, дзе ён жыў разам з бацькамі, якія пераехалі туды і атрымалі кватэру, везлі на санках у раддом цяжарную Кірылам Ліду…

І тут успаміны і думкі мае перапыніў голас ужо 50-гадовага пляменніка: «Ужо пара ехаць».

У хаце Кірыл перадаў мне толькі што выдадзеную кнігу «Опережая время», якую калегі Усяслава выдрукавалі ў вы-

давецтве «Начальная школа и образование» (Масква, 2010)[1] з успамінамі пра яго жыццё і творчасць. На першых старонках кнігі я з прыемнасцю прачытаў такія словы пра майго слаўнага брата:

«*Имя Всеслава Гавриловича Горецкого навсегда вписано в историю российского образования. Вся жизнь Всеслава Гавриловича, выдающегося отечественного букввариста, — пример высокого служения российской школе, всему отечественному образованию.*

*Всеслав Гаврилович — человек необыкновенный, любимый многими поколениями учителей, методистов, издателей, коллег-ученых. Более тридцати лет Всеслав Гаврилович был главным редактором журнала «Начальная школа», а в последние годы — его незаменимым шеф-редактором, которого обожали все сотрудники редакции журнала и всех его смежных служб.*

*Высокий статус ученого члена-корреспондента Российской академии образования, доктора педагогических наук, профессора, автора самых известных учебников и пособий для начальной школы, феноменальная образованность Всеслава Гавриловича не мешали ему быть простым в общении, демократичным с каждым, кто работал в редакции или приходил к нему как шеф-редактору журнала, научному оппоненту, рецензенту, руководителю диссертационной работы.*

*Всеслав Гаврилович был настоящим интеллигентом. Его участие и доброта были всегда действенны: он многим помог не только словом, но и делом. Энергичный, оптимистичный, обладавший талантом ироничного рассказчика, мудрого и внимательного собеседника, он притягивал к себе людей.*

*Всеслав Гаврилович был счастлив в семье. Вместе с любимой супругой Лидией Ивановной они воспитали достойных, талантливых детей и внуков.*

---

[1] Опережая время. Избранные труды В. Г. Горецкого, воспоминания о его жизни и творчестве. — М. : Начальная школа и образование, 2010. — 288 с.

*Всеслав Гаврилович до последних дней активно участвовал в деятельности различных структур системы образования, в том числе редакции журнала «Начальная школа», отдела начального общего образования Федерального института развития образования. В. Г. Горецкий был членом нескольких ученых советов, где имел решающий голос в оценке исследовательских работ маститых ученых и творческой молодежи.*

*В стенах редакции никогда не забудут Всеслава Гавриловича Горецкого — его советы, высказывания, афоризмы, юмор, иронию, улыбку, голос…»*

Далей можна прачытаць цікавыя ўспаміны і ацэнкі яго дзейнасці, у тым ліку:

«*Знаменитые «Букварь», «Азбука» и «Русская азбука» Горецкого — беспрецедентное явление в жизни всей нашей страны не только по популярности в профессиональном мире, продолжительности и массовости их использования учителями школ России и школ с русским языком обучения за ее пределами, но и по уникальности и выверенности заложенных в них методических подходов, гарантирующих достижение высоких результатов обучения. Эти первые книги в жизни каждого гражданина нашей страны, дающие ему начала нравственности, воспитанности, образованности, развитости, открывающие ему дорогу в будущее.*

*В марте 2009 г. Всеслав Гаврилович закончил работу над новым «Букварем», который адресовал первоклассникам XXI в.*

*[…]В. Г. Горецкий создал свою научную школу, у него осталось много учеников. Под его научным руководством было успешно защищено более 30 кандидатских и докторских диссертаций.*

*Научные идеи В. Г. Горецкого получили международное признание. Он работал за рубежом (Германия, Швеция), преподавал на краткосрочных курсах русского языка в странах Европы, участвовал в работе съезда Международной ассоциации по чтению (США, 1993); некоторые его работы переведены*

*на немецкий и болгарский языки. Им созданы учебники «Родное слово» для белорусских школ с родным языком обучения, учебники русского языка для эстонских школ.*

*[…] Имя Всеслава Гавриловича Горецкого в России знакомо, без преувеличения, всем! Трудно найти в нашем образовании еще одного ученого-педагога, книга которого хоть какое-то время лежала бы на столе в каждой российской семье! У Всеслава Гавриловича такая книга есть — «Букварь».*

*В. Г. Горецкий в содружестве со своими коллегами совершил серьезный прорыв в отечественной букваристике.*

*[…] Благодаря активной работе В. Г. Горецкого увидела свет прекрасная книга «От «Азбуки» Ивана Федорова до современного букваря», была подготовлена книга об «Азбуке» Л. Н. Толстого.*

*Как хорошо знакома многим бывшим и нынешним школьникам книга «Родная речь»! А на ней тоже стоит имя — В. Г. Горецкий. Сколько его статей, методических пособий направляли работу нескольких поколений учителей! Детищем Всеслава Гавриловича является и известный всем профессиональный журнал «Начальная школа».*

*[…] Всеслав Гаврилович был велик и прост — выдающийся теоретик, проникший в тайны языка, и исполнительный, трудолюбивый практик; пламенный трибун и благодарный слушатель; известный автор и вдумчивый читатель. Он мог найти общий язык с президентом республики, министром, учителем, студентом. Масштаб его личности позволял ему быть естественным в любой обстановке.*

*Известный ученый, он был строг и скромен в оценке результатов своего труда и щедр на похвалы своих коллег, друзей, снисходителен к ошибкам и недостаткам других. Всеслав Гаврилович видел прежде всего положительные качества, потенциальные возможности людей. Он как бы вытаскивал человека из привычного, рутинного течения событий, давал ему возможность взглянуть на все другими глазами, выделить*

*в жизни самое важное, иногда переосмыслить ее. В его присутствии каждый становился умнее, как-то значительнее».*

Калі ў Мінску быў надрукаваны падручнік «Русское слово» (1995) для чытання ў 4-м класе школ з рускай мовай навучання, я жартам назваў брата «русіфікатарам» беларусаў. Ён мне адказаў, што, нягледзячы на пастаяннае жыхарства ў Расіі і свой занятак рускай мовай і літаратурай, ніколі не забываў беларускую мову і пры адпаведных выпадках заўсёды карыстаўся ёй, ды лавіў сябе нярэдка на тым, што нават думае па-беларуску.

*2010*

## Месца помніку

Неяк ішоў міма будынку былой Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, які пасля яе перасялення ў новае памяшканне нарэшце пачалі рамантаваць. Успомнілася, як мы шукалі месца для помніка Максіму Гарэцкаму. Да 100-годдзя пісьменніка была прынята пастанова аб стварэнні яму помніка, што даручылі зрабіць скульптару Мікалаю Рыжанкову, з якім я доўга хадзіў па розных мясцінах, звязаных з юбілярам, каб знайсці лепшы куток для помніка.

Такіх мясцін аказалася некалькі: недалёка ад Дома літаратара некалі на вул. Шпітальнай жыў М. Гарэцкі; каля будынка сучаснага філалагічнага факультэта БДУ, дзе быў Камуністычны ўніверсітэт БССР, у якім пісьменнік выкладаў беларускую мову і літаратуру; побач з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, якая знаходзіцца амаль супраць будынка сучаснага гістарычнага факультэта БДУ, дзе раней быў рабфак БДУ, у якім М. Гарэцкі выкладаў беларусазнаўства; каля галоўнага будынка Інстытута беларускай культуры на вул. Рэвалюцыйнай (былой Койданаўскай), у якім пісьменнік многія гады працаваў як навуковец-літаратуразнаўца і мовазнаўца; у нішы ў авальным куце старадаўняга дома на плошчы Свабоды, у якім таксама некалі змяшчаўся Інбелкульт.

Мы выбралі апошняе месца. Кампазіцыйна вельмі ўдала помнік выглядаў у нішы дома — тым больш, што фігуру пісьменніка дазволілі зрабіць не ў поўны рост, а троху большым за просты бюст. М. Гарэцкі, калі працаваў у Інбелкульце, жыў на вул. Савецкай (у апошнія часы праспект Ф. Скарыны, зараз Незалежнасці), прыблізна там, дзе знаходзіцца Палац Рэспублікі, таму ён на працу ішоў праз плошчу Волі ў гэты будынак, а пазней міма яго па вул. Койданаўскай у галоўны корпус Інбелкульта. Менавіта каля гэтага будынка на пляцы Волі ўлетку 1936 г. М. Гарэцкага сустрэў наш вядомы біёлаг і паэт акадэмік Алесь Вечар. Пра гэтую сустрэчу ў апошні пры-

езд пісьменніка ў Мінск ён паведаміў у сваіх успамінах. Ну, і нарэшце — плошча Свабоды! Максім Гарэцкі значную частку свайго жыцця пражыў у няволі, але заўсёды марыў пра волю для сябе і асабліва для беларускага народа, для Бацькаўшчыны, якую хацеў бачыць незалежнай, багатай, дэмакратычнай. У імя святога для ўсіх шчырых беларусаў Адраджэння ён ахвяраваў сваім «Я», аддаў усё сваё сумленне, сілы, талент, усё жыццё…

Месца № 2, дзе нам здавалася добра было ўсталяваць помнік, гэта скверык каля будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Асабліва яно падабалася Уладзіміру Гілепу, тады намесніку міністра культуры. У той час ішла размова і пра вуліцу імя Максіма Гарэцкага. Вырашылі: калі вул. Кірава, якая якраз выходзіла ў бок месца помніка, задасца перайменаваць, дык тут помніку і стаяць. Дазволу не атрымалі, таму і тое месца адпала.

Зараз каля будынка бібліятэкі, закручанага рознымі рамонтнымі прыладамі, на тым месцы магчымага помніка я ўбачыў глыбачэнную яму. Падумаў, як добра, што не тут быў пастаўлены помнік, быццам нехта звыш ахоўваў нас і наш выбар. Калі б яго цяпер знялі, дык невядома, ці паставілі б зноў. Так сталася з мемарыяльнай дошкай М. Гарэцкаму на будынку Інбелкульта (Рэвалюцыйная вуліца), якую нехта выкраў, а новую паставіць Мінгарвыканкам не дазволіў. Ходзяць чуткі, што збіраюцца рамантаваць і будынак на плошчы Свабоды. З жахам думаю: а што будзе з помнікам? Ці пакінуць яго пры сучасных адносінах да беларускай літаратуры?

*2011*

## Каляды і Новы год — 2011

Гэтыя святы — адны з самых светлых і радасных. Якія выдатныя звычаі звязаны з імі — вясёлыя жартаўлівыя калядныя гульні і забавы, цудоўныя маляўнічыя елкі з невядомымі падарункамі, пышныя застоллі на провады старога года і пры сустрэчы новага, танцы і гулянкі амаль усю ночку і г. д. Дзеткі не могуць дачакацца падарункаў, рыхтуюць выступленні з песнямі, з вершамі і танцамі, дарослыя падводзяць вынікі мінулага года і абмяркоўваюць планы на будучыню і ўсе адзін аднаму, як ніколі шчыра, жадаюць здароўя, шчасця, поспехаў, дабрабыту. Гэта — самыя добрыя, душэўныя, сардэчныя, шчырыя святы.

На жаль, снежань 2010 г., у сувязі з выбарамі прэзідэнта Беларусі і тымі змрочнымі падзеямі (фальсіфікацыі, правакацыі, хамства, хлусня, дэмагогія, збіццё і арышты кандыдатаў у прэзідэнты разам з больш за 700 чалавек, здрады, страх і іншыя адмоўныя моманты нашага сучаснага жыцця), не прынёс пачуцця светлага чакання Новага года, хаця і пакрыў зямлю белым чыстым снегам, а ў душу і сэрца надзьмуў вялікі сум і неспакой за нашу краіну, за наш беларускі народ, асабліва за сапраўдную беларушчыну… Настолькі горка на сэрцы, што не хочацца і няма сілаў, як звычайна, пісаць віншавальныя лісты і нават тэлефанаваць з вітаннем…

*2011*

## У чым прычына?

Некаторыя філосафы і пісьменнікі лічаць, што галоўная прычына паразы апазіцыі ў час выбараў прэзідэнта краіны ў тым, што беларуская нацыя яшчэ не ўтварылася, беларускае грамадства не гатова да перамен і г. д. Але ў такім стане паразы знаходзіліся многія народы, якія не аднойчы атрымоўвалі незадачы ў выбарах, не маглі дабіцца перамен у сваіх краінах: іспанцы пры Франка, італьянцы пры Мусаліні, немцы пры

Гітлеры, розныя нацыі Савецкага Саюза пры бальшавізме і г. д. Дык што, і ў гэтых народаў яшчэ не стварыліся нацыі і яны не былі гатовыя для перамен? Галоўная прычына такога становішча — у таталітарызме, дыктатуры…

*2011*

## Шыльды

Сітуацыя агульнай русіфікацыі, якая пачала досыць інтэнсіўна расці пасля рэферэндуму 1996 г., паўплывала нават на мову шыльдаў у нашым Інстытуце геахіміі і геафізікі НАН Беларусі. Калі мне давялося быць дырэктарам гэтага інстытута (1977–1993), усе шыльды на дзвярах кабінетаў і іншыя надпісы былі перакладзены на беларускую мову. Пазней мае пераемнікі паступова пачалі не зважаць на тое, на якой мове напісаны шыльды, і з'явіліся надпісы па-руску, асабліва гэты працэс замены мовы павялічыўся ў пачатку 2000 г. Пасля ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі і перадачы большасці супрацоўнікаў і будынка ў Беларускі навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут Міністэрства прыроды ўсе шыльды і надпісы атрымалі рускую мову, хаця першы год дырэктарам заставаўся той жа чалавек, а наступнымі былі беларусы, прычым зараз — адзін з маіх вучняў, які выдатна ведае беларускую мову. Уплывае агульнае рускамоўе чыноўніцкай вертыкалі і непасрэдных начальнікаў, якія, дарэчы, таксама беларусы. Але ў кіраўніцтва інстытута вельмі моцнае жаданне браць прыклад і спадабацца начальству. У канцы 2010 г. у адным з карпусоў былога нашага інстытута, які цяпер займае Інстытут прыродакарыстання, таксама вырашылі зрабіць новыя шыльды, і канечне, на рускай мове. Я зняў гэтую афіцыйную шыльду з дзвярэй майго кабінета, зрабіў з дапамогай камп'ютара іншую, блізкую да старой беларускамоўнай. Многія супрацоўнікі ўхвалілі…

*2011*

# Міхасю Мушынскаму — 80

24 студзеня 2011 г. Міхасю Мушынскаму — аднаму з самых выдатных сучасных беларускіх літаратуразнаўцаў, тэкстолагаў, крытыкаў, члену-карэспандэнту НАН Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару — споўнілася 80 гадоў. У Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы адбылося пасяджэнне навуковага савета, а праз дзень у чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі адкрылася выстаўка «Знакаміты даследчык літаратурных скарбаў» і прэзентацыя кнігі «Міхаіл Іосіфавіч Мушынскі» з серыі «Біябібліяграфія вучоных Беларусі». На запрашэнні на адкрыццё выстаўкі, як эпіграф, стаяць словы юбіляра, якія выразна адзначаюць яго адносіны да сваёй любімай справы па вывучэнні літаратуры: «Класічная спадчына як абярэг нацыі»…

М. Мушынскі — апантаны навуковец — у сваіх шматлікіх працах не толькі раскрыў творчы працэс і спадчыну многіх класікаў беларускай літаратуры, але даў цэласны малюнак гісторыі літаратуры Беларусі, асабліва гісторыі беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, прычым зрабіў гэта вельмі грунтоўна і ў значнай ступені па-новаму з дэвізам: «Нічога, апроч праўды». Вялікія яго заслугі ў беларускай тэксталогіі, у прапагандзе лепшых прадстаўнікоў прыгожага пісьменства Беларусі, падрыхтоўцы навуковых спецыялістаў-філолагаў, як кіраўніка і апанента многіх дысертацый і актыўнага ўдзельніка ў працы Вышэйшага атэстацыйнага камітэта, яскравага выступоўца на шматлікіх канферэнцыях і г. д.

Для мяне Міхась Восіпавіч (я так заву юбіляра, бо прызвычаіўся, што майго дзеда звалі Восіп Іванавіч, а маму — Ларыса Восіпаўна) вельмі блізкі і дарагі як адзін з заснавальнікаў гарэцказнаўства — так ён сам называе вывучэнне жыцця і творчасці братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, — для чаго, не шкадуючы сіл і энергіі, зрабіў вельмі многа.

Мушынскі быў адным з галоўных кіраўнікоў і рэдактараў навукова каментаваных выданняў 4-томніка твораў М. Гарэцкага і двух дадатковых тамоў яго прац, пра творчасць пісьменніка ён пісаў і ў калектыўных манаграфіях па гісторыі беларускай літаратуры. На манаграфіі «История белорусской дооктябрьской литературы» (1977) рукою М. Мушынскага зроблены такі надпіс: *«Дарагім Гаўрылу Іванавічу, Ларысе Іосіфаўне, Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкім, шчырым прыхільнікам беларускай літаратуры і літаратуразнаўства, актыўным удзельнікам культурнага жыцця Беларусі — ад калектыву даследчыкаў, якія ў сваёй працы кіраваліся запаветамі выдатнага беларускага вучонага-грамадзяніна, аўтара першай навуковай «Гісторыі беларускай літаратуры» пісьменніка-патрыёта Максіма Іванавіча Гарэцкага»* — і далей шэраг подпісаў аўтараў кнігі. Памятаю, як прыблізна ў той жа час, Міхась Восіпавіч прачытаў лекцыю пра беларускую літаратуру ў нас у Інстытуце геахіміі і геафізікі, а я ў Інстытуце літаратуры — пра геалогію і карысныя выкапні Беларусі.

Асабліва цеснае супрацоўніцтва і сяброўства ў нас завязалася пасля святкавання 100-годдзя Максіма Гарэцкага ў 1993 г. З таго часу рэгулярна пачалі праводзіцца Гарэцкія чытанні, галоўным маторам якіх стаў Міхась Восіпавіч. Прайшло ўжо 18 такіх чытанняў і адпаведна надрукавана столькі ж іх матэрыялаў.

Спачатку навуковыя даклады былі прысвечаны жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага, а пазней да іх далучыліся і выступленні пра Гаўрылу Іванавіча. Старшынёй пасяджэнняў і галоўным аўтарам дакладаў кожны раз з'яўляўся М. Мушынскі. Быў створаны і Рэспубліканскі фонд братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, віцэ-прэзідэнтам якога быў абраны Міхась Мушынскі.

Вельмі змястоўныя прадмовы М. Мушынскі зрабіў да шэрагу зборнікаў і кніг: Максім Гарэцкі, Леанід Гарэцкі «На імперыялістычнай вайне. Пісьмы з фронту» (1987); Радзім

Гарэцкі «Ахвярую сваім «Я» (Максім і Гаўрыла Гарэцкія)» (1998); Гаўрыла Гарэцкі «Выбранае» (2002). Быў рэдактарам зборніка «Максім Гарэцкі. Публіцыстыка 1918–1919 гг.» — складальнікі В. Д. Селяменеў, В. У. Скалабан. Нарэшце, Міхась Мушынскі — аўтар найбольш грунтоўнай літаратуразнаўчай манаграфіі «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі. Жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага» (2008). Ён падараваў гэтую кнігу з прыемным для нас надпісам: «*Дарагім Радзіму Гаўрылавічу і Галіне Рыгораўне — з нязменнай павагай і захапленнем іхняй нястомнай, самаадданай працай па захаванні, вывучэнні і прапагандзе літаратурна-мастацкай і навуковай спадчыны волатаў зямлі беларускай Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх — ад прыхільнікаў іх самабытнага таленту і даследчыкаў творчасці — ад Міхася Мушынскага, Тамары Мушынскай і Дзяніса Марціновіча. 09.01.2009*».

На адкрыцці выстаўкі і прэзентацыі кнігі Міхась Восіпавіч падараваў мне сваю біябібліяграфію з жартаўлівым надпісам: *«Старшыні Рэспубліканскага фонду братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх акадэміку Радзіму Гарэцкаму.*

*Як Ваш намеснік па Фонду дакладваю, што я, раўняючыся на Ваш жыццёвы вопыт, таксама адолеў адзін з высокіх горных пікаў — 8-тысячнік і залічаны ў ганаровыя альпіністы літаратурнага разліву. У адпаведнасці з альпінісцкім статусам буду і на новай вышыні — за 8000 метраў над узроўнем жыццёвага мора па-ранейшаму актыўна прапагандаваць дасягненні беларускага прыгожага пісьменства, у тым ліку нацыянальнага гарэцказнаўства, даследуючы невычэрпную мастацкую спадчыну класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.*

*24.01.2011 Міхась Мушынскі»*

Трэба дадаць, што Міхась Восіпавіч — чалавек надзвычайнага гумару і аптымізму, а таму і значны кладзеж анекдотаў, якія ў яго заўсёды гатовы па ўсялякай жыццёвай сітуацыі. Калі

я яго павіншаваў па тэлефоне з 80-годдзем, ён у канцы размовы, як гэта часта і бывае, выдаў чарговы анекдот: «Адкрыты новы агульначалавечы закон: чым больш у чалавека юбілеяў, тым даўжэй ён жыве». Дык хочацца пажадаць майму дарагому Міхасю Восіпавічу Мушынскаму яшчэ шмат новых юбілеяў і доўгага бадзёрага жыцця і плённай творчасці на карысць беларускай навукі і літаратуры!

*2011*

## «Нашы славутыя землякі»

25 студзеня 2011 г. у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі адбылася прэзентацыя апошніх выданняў выдавецтва «Тэхналогія» з серыі «Нашы славутыя землякі». Адначасова аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў (загадчык Аляксандр Сцефанавіч) арганізаваў выстаўку «Вяртанне славутых імёнаў», на якой прадстаўлены ўсе раней выдадзеныя кнігі колькасцю ужо за 30. Гэтая серыя была заснавана ў 1988 г. па ініцыятыве тагачаснага дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Анатоля Бутэвіча. Але асноўным яе выканаўцам стаў галоўны рэдактар серыі Зміцер Санько, які распрацаваў адметнае сціплае, але прывабнае афармленне кніг, асаблівы падыход да выбару іх герояў (славутых, але часта не вельмі вядомых сучаснаму чытачу суайчыннікаў — галоўным чынам дарэвалюцыйных выдатных людзей навукі, культуры, літаратуры, грамадскіх дзеячаў), прычым не толькі тых, хто жыў у Беларусі, але і тых, хто працаваў за межамі роднай краіны. Важна адзначыць карпатлівую канкрэтную працу галоўнага рэдактара з аўтарам кожнай кнігі. У мінулым годзе тут жа адбылася прэзентацыя факсімільнага выдання газеты «Наша Ніва» — сімвала беларускага нацыянальнага адраджэння, — што стала магчыма дзякуючы самаахвярнай працы З. Санько. Выдатная серыя «Нашы славутыя землякі» — другі шматгадовы мэтанакіраваны праект нашага вядомага навукоўца,

бліскучага рэдактара, шчырага дзеяча сучаснага адраджэнцкага руху Зміцера Санько.

*2011*

## Мая асалода

Кожны чалавек імкнецца атрымаць асалоду. Але яна ў розных людзей розная, ды нават і мяняецца з узростам і абставінамі жыцця. Некаторыя людзі маюць асалоду ад многіх жыццёвых сітуацый, а ёсць і такія, якія заўсёды і ўсім незадаволены і не разумеюць такога пачуцця, як асалода…

У гэтыя зімнія вечары я асабліва адчуваю асалоду, калі саджуся на канапу, уключаю кружэлку з шэдэўрамі інструментальнай музыкі і чытаю кнігу. Пад цудоўныя гукі робіцца ўтульна целу, спакойна сэрцу, шчыра і вольна душы, роўна працавіта розуму…

Сёння ў мяне ў руках выдатна выдадзеная ў «Кнігазборы» кніжка Генадзя Бураўкіна «Лісты да запатрабавання» (2010), якую атрымаў ад аўтара з цёплым, вельмі прыемным мне сардэчным надпісам: *«Маім сябрам Радзіму і Галі Гарэцкім, без якіх мне было б сумна і самотна на гэтай зямлі — ад шчырага сэрца Генадзь Бураўкін, 22.X.2010 г.»*

Колькі самых разнастайных эмоцый узнікае ад аднаго верша да другога! Усе яны выклікаюць глыбокія водгукі ў чытача, таму што кожны з іх напісаны ад шчырага сэрца, моцнага пачуцця, мудрага назірання над чалавекам і яго жыццём, вялікага замілавання прыродай… Гэта — сапраўднае лірычнае ўспрыняцце жыцця. Тут філасофскі роздум пра сэнс жыцця, успаміны пра былое і думкі пра няведамае будучае, пра жыццёвыя лёсы людзей, любоў да роднай зямлі, жыццё сваё і сяброў, вялікае каханне, радасць сустрэчы з лесам, птушкай і рознымі праявамі прыроды, сум ад нязздзейсненага і набліжэння небыцця…

Дарагі Генадзь! Як добра, што ты ёсць з намі, такі сардэчны і добразычлівы, шчыры і эмацыянальны, разважлівы і мудры,

прынцыповы і верны, нераўнадушны як у грамадскіх, так і ў дзяржаўных дзеях, і самае галоўнае — адданы беларушчыне і таленавіты ў паэзіі і ўсіх жанрах літаратуры. Праўда, як было б сумна і самотна без цябе на нашай Зямлі. Дык жыві добра, і няхай ніколі не пакіне цябе плён і натхненне, якія дораць нам тваю цудоўную паэзію.

* * *

У «Дзеяслове» (2010. № 49) надрукавана серыя вершаў «Зорка вечаровая» Генадзя Бураўкіна, якія, як заўсёды, прачытаў з вялікай цікавасцю і адчуў новы штуршок моцных пачуццяў і роздуму. Пазваніў Генадзю пра ўражанне і выказаў падзяку. Ён з гумарам адказаў: «Дык я зрэдку кукарэкаю і выдаю на-гара тое-сёе, каб не падумалі, што ўжо няма паэта!» Дык кукарэкай, дарагі Генадзь, часцей!

*2011*

## «Саракавіны»

4 лютага 1971 г., роўна 40 гадоў таму, пад кіраўніцтвам акадэміка К. І. Лукашова быў створаны Інстытут геахіміі і геафізікі (ІГіГ) Акадэміі навук Беларусі, у якім я заснаваў лабараторыю геатэктонікі і развіццю якога як дырэктар (з 1977 г.) аддаў больш за 16 гадоў плённай працы, а затым — як ганаровы дырэктар стараўся дапамагаць майму пераемніку А. В. Мацвееву ўмацоўваць інстытут. У выніку наша навуковая ўстанова стала самай моцнай і вядомай не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. На жаль, пасля шэрагу рэарганізацый, якія прайшлі па Нацыянальнай акадэміі навук пад уплывам адміністрацыйна-каманднай вертыкалі прэзідэнцкай рэспублікі, Інстытут геахіміі і геафізікі ў 2007 г. быў ліквідаваны. Пра «юбілей» інстытута ні кіраўніцтва НАН Беларусі, ні пераемнік ІГіГ — Беларускі навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут Дэпартамента па геалогіі Мінпрыроды не ўзгадалі, а для мяне і шэрагу былых

супрацоўнікаў гэты дзень стаў днём сумных успамінаў. Як трапна сказаў апошні дырэктар установы А. А. Махнач — гэта «саракавіны» па Інстытуце геахіміі і геафізікі.

*2011*

## XIX Гарэцкія чытанні

18 лютага — у дзень нараджэння Максіма Гарэцкага — адбыліся чарговыя навуковыя чытанні, прысвечаныя праблеме выдання спадчыны братоў Гарэцкіх. Нягледзячы на ўжо амаль 20-гадовы час правядзення чытанняў, колькасць удзельнікаў у іх не змяншаецца, і ў гэты раз было атрымана 45 заявак на даклады. Кожны раз адкрываюцца ўсё новыя і новыя бакі творчай спадчыны Максіма Гарэцкага, робяцца цікавыя параўнанні яго твораў з працамі іншых пісьменнікаў, даецца ацэнка яго дзейнасці і роля ў развіцці беларускай літаратуры і мовазнаўства і г. д. Нашы архівісты (В. Скалабан, Г. Запартыка і інш.) знаходзяць новыя весткі пра жыццё і дзейнасць братоў Гарэцкіх. Было заслухана шмат цікавых дакладаў, у прыватнасці па галоўнай тэме па выданні спадчыны: Міхась Мушынскі «Падрыхтоўка поўнага збору твораў Максіма Гарэцкага», Віталь Скалабан «Зборнік дакументаў і матэрыялаў «Хроніка Максіма Гарэцкага: канцэпцыя гісторыка-літаратурнага выдання», Генадзь Кажамякін «Ідэя выдання поўнага збору твораў Максіма Гарэцкага» (ён нават намеціў 23 тамы збору) і інш.

У гэтым годзе споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння Галіны Максімаўны Гарэцкай, якой быў прысвечаны пленарны даклад Таццяны Дасаевай «Захавальніца духоўных скарбаў». Было вырашана падрыхтаваць да друку выбраныя творы Галіны Гарэцкай, у якія абавязкова ўключыць яе шматлікія змястоўныя лісты. Да хуткага 120-годдзя Максіма Гарэцкага ў 2013 г. пажадана выпрацаваць канцэпцыю выдання поўнага збору яго твораў і пачаць гэтую працу, а таксама выдаць яго выбраныя творы на рускай мове, рукапіс якіх ўжо падрыхтаваны ў

перакладзе Яўгеніі Кананец. Я таксама выказаў сваю думку пра неабходнасць надрукаваць некаторыя працы з навуковай спадчыны Гаўрылы Гарэцкага.

**Выданне навуковай спадчыны Гаўрылы Гарэцкага.** З прафесійнага гледжання Г. Гарэцкі меў як бы два жыцці: эканаміста, атрымаўшага адпаведную адукацыю ў Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы і Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі, і геолага, які авалодаў гэтай спецыяльнасцю самавукам. У абедзвюх частках жыцця яго працаздольнасць і талент былі настолькі выдатнымі, што прыводзілі яго ад пачаткоўца кожнай прафесіі да акадэміка.

У першую частку жыццёвага шляху Г. Гарэцкі пакінуў досыць вялікую навуковую спадчыну ў выглядзе розных публікацый (1918–1930). Сярод іх трэба адзначыць слоўнікі, падрыхтаваныя разам з братам Максімам. Гэта вядомыя руска-беларускі слоўнік (Смаленск, 1918) і маскоўска-беларускі (Вільня, 1921). Галоўным аўтарам слоўнікаў, безумоўна, быў Максім Гарэцкі, і таму размову пра іх больш правільна весці, калі мы разглядаем менавіта яго спадчыну.

Яшчэ будучы студэнтам у Горках, Уфе і Маскве, а потым працуючы ў Горках і Мінску, Гаўрыла Іванавіч актыўна выступаў у друку з артыкуламі па праблемах нацыянальнага адраджэння. Галоўныя з іх адносна нядаўна былі надрукаваны ў серыі «Гісторыка-літаратурныя помнікі» Беларускага кнігазбору «Гаўрыла Гарэцкі. Выбранае» (2002)[1] з вельмі змястоўнай прадмовай Міхася Мушынскага, які адзначыў: *«На старонках гэтай кнігі ён паўстае не толькі як сусветна вядомы геолаг, але і як таленавіты публіцыст-адраджэнец. Менавіта ў галіне публіцыстыкі ён паспяхова ажыццяўляў запавет брата Максіма — аддаць усе сілы, усе здольнасці на адраджэнне Беларусі, на абуджэнне нацыянальнай свядомасці, багатых*

[1] Гарэцкі Г. Выбранае. — Мінск : Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 79–104.

*творчых магчымасцей беларусаў з тым, каб зрабіць Беларусь па-сапраўднаму суверэннай, самастойнай еўрапейскай краінай»,* і далей *«…у матэрыялах маладога Гарэцкага многія ідэі, думкі, меркаванні, выказаныя ў 20-я гады, не страцілі сваёй актуальнасці і сёння, на пачатку трэцяга тысячагоддзя»* (с. 6).

Да тэмы нацыянальнага адраджэння належаць і некаторыя матэрыялы, якія мне задалося атрымаць у архіве КДБ Беларусі і якія былі напісаны Г. Гарэцкім у час зняволення ў пачатку 1930-х гг. Да іх належаць «Трагедыя беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Заява ў ДПУ Беларусі ад 14–15.VIII.1930» у той жа кнізе, а таксама гэтыя і іншыя матэрыялы, надрукаваныя раней[1].

Можна лічыць, што асноўныя публікацыі па праблеме нацыянальнага адраджэння атрымалі вяртанне да сучаснага чытача. Але магчыма, што некаторыя цікавыя артыкулы яшчэ могуць быць знойдзены ў шэрагу тагачасных газет і часопісах, а таксама ў выглядзе рукапісаў у розных архівах.

Галоўныя навуковыя працы Г. Гарэцкага ў той час зроблены ў галіне эканомікі народнай гаспадаркі і дэмаграфіі. Сярод іх вылучаюцца тры манаграфіі: «Народны прыбытак Беларусі (нацыянальны даход Беларусі)» (1926), «Экономический профиль Петровско-Разумовское–Дурыкино» (1927) і «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы» (1928).

У першай манаграфіі аўтар яскрава паказаў важнасць вывучэння нацыянальнага даходу ў фарміраванні эфектыўнай гаспадарчай палітыкі ў рэспубліцы і прыйшоў да высновы, што неабходна наладжваць больш цесныя сувязі эканомікі Беларусі з рынкам як унутраным, так і знешнім. Як адзначылі П. Г. Нікіценка і В. М. Бусько, *«…Гарэцкі быў прыхільнікам збалансаваных гандлёвых сувязей Беларусі з тымі краінамі, з якімі гэта эканамічна выгадна. І сёння ў нашай краіне так-*

[1] Гарэцкі Р. Ахвярую сваім «Я» (Максім і Гаўрыла Гарэцкія). — Мінск : Беларуская навука, 1998. — 287 с.

*сама востра стаіць пытанне выбару найбольш выгадных гандлёвых партнёраў, збалансаванага спалучэння сувязей з Усходам і Захадам. Названая вышэй праца Гаўрылы Іванавіча была першай манаграфіяй у рэспубліцы, у якой давалася комплекснае апісанне гаспадарчай спецыфікі нашай краіны... Некаторыя вывады вучонага не страцілі сваёй актуальнасці і сёння»* (2001. С. 36)[1].

Не менш важнай для захавання адміністрацыйных межаў Беларусі мела і трэцяя з названых манаграфій, якую Якуб Колас ужо пасля вайны перадаў П. Панамарэнку для размовы са Сталіным пра канчатковую заходнюю мяжу Беларусі з Польшчай.

Цалкам уключыць манаграфіі ў новае выданне твораў Г. Гарэцкага цяжка, а вось некаторыя фрагменты і асабліва заключэнне з іх можна было б надрукаваць. Трэба падкрэсліць, што навуковыя працы гэтага перыяду жыцця вучонага цяпер рэдка дзе захаваліся і таму мала вядомыя.

Адны з першых прац у выглядзе вялікіх артыкулаў былі прысвечаны Гомельскай губерні — яе насельніцтву і сельскай гаспадарцы (1926), якія былі пакладзены ў аснову дакладной запіскі Дзяржплана БССР для ўрада рэспублікі, каб абгрунтаваць мэтазгоднасць уключэння Гомельшчыны ў склад БССР, што тады і дазволіла пашырыць адміністрацыйныя межы Беларусі, а не ўключыць гэтую тэрыторыю да Украіны.

У газеце «Свободные новости плюс» (2011. № 4. 2–9 февраля) надрукавана заметка «Хотят Брестчину и Гомельщину», у якой адзначаецца: *«Украина должна стремиться вернуть себе все этнические земли, в том числе Гомельщину и Брестчину. Такой призыв прозвучал во время Львовского вече, посвященного дню соборности».* Гэтая думка прагучала ў выступе прэзідэнта фонду «Україна–Русь» Расціслава Наважэнца 22 студзеня 2011 г. у Львове. Адсюль відаць актуальнасць прац Гарэцкага

[1] Никитенко П. Г., Бусько В. Н. Они были первыми академиками-экономистами Беларуси. — Минск : Право и экономика, 2001. — 72 с.

пра Гомельшчыну і пазначанай манаграфіі, у якой разглядаецца пытанне аб мяжы беларускай Берасцейшчыны.

Цікавыя звесткі пра праблемы сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі можна прачытаць у шэрагу артыкулаў і справаздачах прац Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна, якія Г. Гарэцкі друкаваў як дырэктар гэтага інстытута. Ён тады зрабіў вельмі важны вывад, што прычынай нізкай ураджайнасці ў Беларусі з'яўляецца нізкая рыначнасць нашай гаспадаркі. Некаторыя найбольш цікавыя і важныя фрагменты з гэтых артыкулаў таксама заслугоўваюць уключэння ў «Выбраныя навуковыя творы».

Вельмі грунтоўная праца ў галіне дэмаграфіі была напісана Г. Гарэцкім у 1929 г. — «Нацыянальныя асаблівасці насельніцтва БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г.». Некаторыя часткі з гэтай працы надрукаваны ў кнізе «Выбранае» (2002), але яна заслугоўвае быць надрукаванай цалкам. Асабліва трэба было б у каментарыі даць некаторыя параўнанні з вынікамі перапісу апошняга часу.

У паказаннях ДПУ ў 1930 г. Гаўрыла Іванавіч адзначыў, што з 1928 г. ён пачаў пісаць і ў сучасны момант ужо ў асноўным закончыў вялікую працу «Штандорты и динамика урбанизации Белоруссии за сто лет — 1825–1925», у якой даецца эканамічнае развіццё краіны за апошняе стагоддзе. Прычым далей дабаўляе, што гэтая манаграфія складае частку задуманай капітальнай працы «Развитие капитализма в Белоруссии». Магчыма, калі-небудзь будзе знойдзены рукапіс гэтай працы.

Пералічаныя творы дазволілі Аркадзю Смолічу, выдатнаму беларускаму эканамісту і грамадскаму дзеячу, у час паказанняў ДПУ ў 1930 г. даць такую ацэнку Г. Гарэцкаму: *«...является он, безусловно, выдающейся фигурой среди всех известных мне молодых специалистов сельского хозяйства и вообще среди нацдемократической интеллигенции. Он объединяет в себе очень хорошую научную подготовку с большой трудоспособностью, с организаторскими и административными*

*талантамі»*[1]. Сучасныя эканамісты напісалі: *«Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі займаўся эканамічнымі пытаннямі не болей як пяць гадоў. Аднак ён пакінуў яркі след у гісторыі нашай эканамічнай навукі. Многія выказаныя ім палажэнні захоўваюць актуальнасць і сёння. Напрыклад, неабходнасць рынкавых адносін як важнейшы фактар эканамічнага росту, важнасць для эканомікі Беларусі знешняга рынку, творчае выкарыстанне сусветнага вопыту гаспадарання з улікам асаблівасцей рэспублік, пры выпрацоўцы стратэгіі — апора на напрамак эвалюцыйнага развіцця краіны, выяўленне дакладных прыярытэтаў у эканамічнай палітыцы і іншыя. [...] І цяжка сказаць, якіх бы вышынь у эканамічнай навуцы дасягнуў гэты выдатны вучоны, калі б жорсткія рэпрэсіі не адарвалі яго ад любай Радзімы і справы, якой ён аддаваў свае сілы. Відаць, стаў бы велічынёй не меншай, чым у геалагічнай навуцы. Яму, як і яго брату Максіму, шмат было адпушчана Богам»*[2].

Пералічаныя працы першага перыяду жыцця Г. Гарэцкага могуць скласці першы том выбраных прац вучонага пад назвай: **«Эканоміка народнай гаспадаркі і дэмаграфія»**.

Другі том **«Геалогія і палеагеаграфія антрапагену, геамарфалогія і археалогія»** павінен уключыць працы, створаныя па названых навуковых напрамках у другі перыяд жыцця (1936–1988). У гэты час Гаўрыла Іванавіч надрукаваў досыць шмат артыкулаў і на іншыя тэмы: пра фальклор («Горкі і беларускі фальклор»); успаміны пра многіх пісьменнікаў і вучоных; развіццё навукі, літаратуры, мовазнаўства; разгляд творчасці і жыцця Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы і інш. Галоўныя з гэтых артыкулаў таксама надрукаваны ў кнізе «Выбранае» (2002).

Асноўныя працы Г. Гарэцкага, якія вызначылі вучонага ў якасці заснавальніка палеапатамалогіі (навукі пра мінулую гіс-

---

[1] Гарэцкі Р. Браты Гарэцкія. — Мінск : Медысонт, 2006. — С. 120.

[2] Никитенко П. Г., Бусько В. Н. Они были первыми академиками-экономистами Беларуси. — С. 44.

торыю рэк), склалі серыю з пяці буйных манаграфій: «Аллювий великих антропогеновых прарек Русской равнины. Прареки Камского бассейна» (1964), «Формирование долины р. Волги в раннем и среднем антропогене. Аллювий Пра-Волги» (1966), «Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра» (1970), «Особенности палеопотамологии ледниковых областей (на примере Белорусского Понеманья» (1980), «Палеопотамологические эскизы Палео-Дона и Пра-Дона» (1972). Досыць вялікі тыраж кніг (1000–1900 экз.) дазволіў мець іх у многіх бібліятэках і асабіста ў геолагаў.

Але ў Гаўрылы Іванавіча надрукавана шмат артыкулаў, якія прысвечаны як пытанням палеапатамалогіі, так і многіх іншых праблемах геалогіі антрапагену, геамарфалогіі і археалогіі, і якія раскінуты па розных часопісах, зборніках, матэрыялах. Шэраг з іх сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, некаторыя цяжка даступныя. Таму многія з гэтых прац мэтазгодна перавыдаць у томе II. Шэраг публікацый маюць характар пастаноўкі і абмеркавання агульных праблем геалогіі і палеагеаграфіі антрапагену, а многія тычацца розных тэрыторый: Кольскага паўвострава, Карэліі, Прыуралля, Прадкаўказзя, Украіны, Беларусі і інш. Гэта не толькі геалагічныя працы, але і археалагічныя. Так, ёсць артыкулы пра неалітычныя стаянкі Карэліі і Кольскага паўвострава, палеаліт і мезаліт Ніжняга Падоння.

Г. Гарэцкі пакінуў вялікую эпісталярную спадчыну, частка якой ужо выдрукавана ў кнізе «Выбранае» (2002), маіх публікацыях — «Ахвярую сваім «Я» (1998), «Браты Гарэцкія» (2008) і інш. Безумоўна, у том II мэтазгодна было б змясціць некаторую перапіску Гаўрылы Іванавіча з выдатнымі геолагамі і палеантолагамі, у прыватнасці з П. М. Чырвінскім, П. А. Нікіціным, П. І. Дарафеевым. Наогул лісты Г. Гарэцкага з’яўляюцца цікавейшым матэрыялам з розных бакоў гледжання, і я думаю, што з часам многія з іх патрэбна давесці да шырокага чытача. Постаць Г. Гарэцкага патрабуе асобнай манаграфіі ў серыі

«Навукова-біяграфічнай літаратуры» з дэталёвым разглядам яго навуковых прац.

*2011*

## 100-годдзе майго навуковага настаўніка

28 сакавіка 2011 г. у Дзяржаўным геалагічным музеі імя У. І. Вярнадскага Расійскай акадэміі навук адбылося юбілейнае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння акадэміка Аляксандра Леанідавіча Яншына. Уступнае слова сказаў віцэ-прэзідэнт РАН М. П. Лавёраў, які затым уручыў юбілейныя медалі «Акадэмік А. Л. Яншын», створаныя Акадэміяй горных навук. Я таксама, «як самы лепшы і любімы вучань», атрымаў гэты медаль, што было мне вельмі прыемна, як памяць аб маім настаўніку[1]. Навуковыя даклады перамяжоўваліся з выступамі канцэртнай праграмы, таму сход вяла вядомая тэлевядучая Ганна Шылава. Пра навуковую дзейнасць, жыццё и аблічча выдатнага натураліста XX ст. паведалі М. А. Федонкін (дырэктар Геалагічнага інстытута РАН, Масква), А. В. Каныгін (намеснік дырэктара Інстытута нафтагазавай геалогіі і геафізікі імя А. А. Трафімука Сібірскага аддзялення РАН), Р. Г. Гарэцкі (Мінск), Я. А. Казлоўскі (былы міністр геалогіі СССР, наш зямляк). Да юбілею ў музеі была адкрыта спецыяльная вельмі багатая і цікавая выстаўка, якая падрабязна паказала жыццё, дзейнасць і дасягненні вучонага. Усё прайшло ўрачыста, шчыра, з гонарам і любоўю. Прысутнічала жонка вучонага Фідан Тауфікаўна Яншына з сынам. Навуковыя канферэнцыі прайшлі ў шэрагу інстытутаў розных гарадоў, у многіх часопісах і газетах надрукаваны артыкулы, прысвечаныя гэтай даце. Выйшаў і мой артыкул у часопісе «Вестник РАН»[2].

[1] Гарецкий Р. Г. Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг. — М. : Наука, 2005. — 192 с.

[2] Гарецкий Р. Г. Неуемная страсть к знаниям, гражданская ответственность. К 100-летию со дня рождения академика А. Л. Яншина // Вестник РАН. — 2011. Т. 81, № 2. — С. 151–159.

Аляксандр Леанідавіч Яншын — адзін з прадстаўнікоў тых нашчадкаў, якія былі выхадцамі смаленскіх ліцвінаў Вялікага Княства Літоўскага. У многіх адносінах ён унікальная постаць. Самая характэрная яго рыса — гэта нястрымная страсць да ведаў, невычэрпная дапытлівасць, якая з'явілася яшчэ са школы, таму ўжо тады яго называлі «прафесарам». Надзвычайная памяць, дзівосная працавітасць і мэтанакіраванасць дазволілі Аляксандру Леанідавічу стаць шырока адукаваным інтэлігентам. Яго цікавілі і гуманітарныя, і прыродазнаўчыя навукі. Ён любіў гісторыю, літаратуру, тэатр. Вершы сваіх любімых паэтаў (Гумілёва, Блока, Ахматавай, Ясеніна, Сіманава і інш.) мог чытаць на памяць гадзінамі, прычым так захапляў слухача, што таму здавалася, што выступае сапраўдны прафесіянал. Валодаючы прыроднай артыстычнасцю, ён мог бы дасягнуць вялікіх поспехаў на тэатральнай ніве, як здарылася з яго стрыечным братам Міхаілам Яншыным — народным артыстам СССР, ці на іншым напрамку гуманітарнай дзейнасці. Але перамагла любоў да прыроды, і зноў-такі ў шырокім плане: не толькі рамантыка геалагічных даследаванняў з цягай да вандраванняў, калі «душу намада даль заве», але і да жывой прыроды, да фаўны і флоры, што ўжо значна пазней, у «экалагічны» этап яго жыцця, дала магчымасць лёгка пазнаць праблемы біясферы, актыўна выступіць супраць лысенкаўшчыны.

А. Яншын быў выдатным палявым геолагам не толькі з погляду цудоўнага арганізатара, у якога поўны парадак у працы, самае прыгожае месца для стаянкі палатак і ўсяго лагера і інш., але і надзвычайная дакладнасць вывучэння абгаленняў, умельства па непрыкметных адзнаках чытаць геалагічны летапіс і такая захопленасць у гэтым працэсе, што адцягнуць яго ад абгалення было амаль немагчыма. Яшчэ адна цудоўная якасць вучонага — ён шчыра дзяліўся сваімі думкамі, ідэямі, якіх у яго заўсёды была процьма. Таму з ім было заўсёды цікава і пазнавальна. Успамінаю, як вялікая група ўжо сталых нямецкіх геолагаў, з якімі мы праводзілі шмат геалагічных экспедыцый

і нарад у рамках сумесных міжнародных праектаў, з нямецкай акуратнасцю дакладна запісвалі бліскучыя выступленні Яншына пра асаблівасці геалагічнай будовы, прыродныя ўмовы, гісторыю і іншыя веды таго ці іншага раёна. Потым яны з захапленнем мне казалі, як здорава ў Яншына «lernen, lernen und lernen» і дабаўлялі, што ніколі так паспяхова не вучыліся геалогіі.

Аляксандр Леанідавіч да любога чалавека, нягледзячы на яго пасаду, ставіўся з вялікай павагай, быў вельмі дэмакратычны, просты ў адносінах. Усё любіў рабіць сам, дапамагаў грузіць машыну, ставіць палаткі, распальваць вогнішча, забірацца на круты абрыў, каб адабраць абразец пароды і г. д. Ён быў чалавекам вялікай мужнасці, сілы волі, самавалодання. Многім здавалася, што ён вельмі строгі, а зрэдку і сапраўды быў даволі рэзкі, але насамрэч ён быў дужа добразычлівы, уважлівы і мяккі, любіў добры жарт, гумар, самаіронію.

Нястрыманы характар вучонага прывёў некалькі разоў да цяжкіх выпадкаў. Так, пры запуску вінта самалёта ПО-2, які, безумоўна, Яншын пракручваў сам, яму перабіла руку. Усе спужаліся, а ён спакойна вымавіў: «Не хвалюйцеся, наложаць гіпс — і ўсё хутка зажыве». Многія чулі пра яго падзенне ў шурф глыбінёй 24 м, якое прывяло да шматлікіх пераломаў, бальніцы і аперацый на працягу года і цяжкіх вынікаў — артапедычны абутак і траўматычны дыябет на ўсё жыццё. Уколы інсуліну кожны дзень, частыя дыябетычныя комы, якія я з жудасцю ўспамінаю да гэтага часу, калі жыццё было на грані са смерцю. У 1988 г., калі вучонаму было ўжо 77 гадоў, пры аглядзе помніка-бюста У. І. Вернадскага Яншын паслізнуўся і зламаў шыйку бядра. Ён тады пажартаваў: «Пацярпеў за Вярнадскага». Зноў аперацыі, мыліцы і толькі праз два гады змог больш-менш нармальна хадзіць. Любоў да сваёй справы, працаздольнасць, ашаламляльная энергія, невычэрпная цікавасць да ўсіх падзей жыцця, навукі і асабліва навук аб Зямлі, пачуццё грамадзянскай адказнасці перамагалі ўсе фізічныя

беды. А. Яншын працаваў так інтэнсіўна, з такой неверагоднай нагрузкай і аддачай, што гэтаму мог пазайздросціць самы моцны волат-здаравяк. Ён жа быў волат духу і волі.

Аляксандра Леанідавіча цяжка ўявіць без кнігі. Заўзяты кнігалюб, ён меў багатую бібліятэку, уважліва сачыў за новымі публікацыямі не толькі па навуках аб Зямлі і іншых навуках, але і мастацкай літаратуры, гісторыі, філасофіі, мастацтву. Ён быў выдатным рэдактарам, уваходзіў у рэдкалегіі многіх часопісаў, шырока вядома яго дзейнасць у рэдакцыйна-выдавецкім савеце Акадэміі навук.

Здзіўляла яншынская прагнасць не толькі да навуковых даследаванняў, але і да навукова-арганізацыйных спраў. Бягучых спраў у яго заўсёды было столькі, што ён звечара складаў спіс на наступны дзень, які займаў дробным почыркам поўную старонку. Гэтыя бясконцыя справы выгукалі дзіўную мабільнасць Яншына, а пералёты паміж Масквой і Новасібірскам былі такімі частымі, што, як ён сам жартаваў, «самалёт стаў амаль такім жа звычайным транспартам, як для масквіча метро».

А. Л. Яншын любіў людзей, імкнуўся да зносін з імі, асабліва з калегамі па навуковай дзейнасці. Гэта дазваляла яму адточваць свае новыя думкі і ідэі, якімі ён заўсёды лёгка дзяліўся, а таксама быць у курсе рознага фактычнага матэрыялу і іншых навінак. Цудоўны прамоўца, ён пастаянна гатоў быў выступіць перад любой аўдыторыяй, прычым нярэдка з імправізацыяй па самых разнастайных праблемах.

Шырока вядома актыўная дзейнасць вучонага ў складзе навуковага савета па праблемах біясферы, на пасту арганізатара і першага прэзідэнта Расійскай экалагічнай акадэміі, калі ён разгарнуў жорсткую барацьбу па ахове прыроды, асабліва ў адносінах перакідкі паўночных рэк у рамках легендарнай «камісіі Яншына». Тут трэба падкрэсліць надзвычайную смеласць Аляксандра Леанідавіча, яго грамадзянскую адказнасць, прынцыповасць і неабыякавасць да ўсякай дэмагогіі, несправядлівасці. Гэтыя якасці прымусілі яго стаць народным

дэпутатам СССР, калі па яго ініцыятыве быў створаны Камітэт Вярхоўнага Савета СССР па праблемах экалогіі. Неацэнны ўклад Яншына ў вяртанне навуковай спадчыны, увекавечанне памяці вялікага рускага вучонага У. І. Вярнадскага і далейшага развіцця яго ідэй у галіне біясферы і наасферы.

З пералічаных унікальных якасцей і здольнасцей Аляксандра Леанідавіча Яншына, тытана розуму і духу, робіцца зразумелым, чаму ён стаў выдатнейшым прыродазнаўцам XX ст., класікам навук аб Зямлі.

*2011*

## «Свядомыя»

Перамовы і выступы гаспадара беларускай дзяржавы заўсёды гучаць на рускай мове, але нярэдка ў іх праскокваюць асобныя беларускія словы, галоўным чынам тады, калі ён успамінае пра апазіцыю. Каб паказаць сваю пагарду і знявагу да яе, ён часцей за ўсё здзеклівым тонам выкарыстоўвае добрае беларускае слова — «свядомыя», якое нясе вельмі станоўчы сэнс. У сваім звароце да Нацыянальнага сходу і народа, якое ён прачытаў 21 красавіка 2011 г., тое слова было накіравана да ўсяго горада Мінска. Можна павіншаваць апазіцыю, якая павінна ганарыцца, што цяпер не толькі яна «свядомая», але і сталіца нашай краіны таксама стала «свядомай». Адначасова гаспадар загадаў абмежаваць рост насельніцтва горада Мінска двума мільёнамі жыхароў, а будаваць вакол яго больш малыя гарады-спадарожнікі. Прынцыпова трэба падтрымаць думку пра гарады-спадарожнікі, але ці сапраўды, як многія лічаць, гэта робіцца дзеля таго, каб у «свядомым» Мінску было менш «свядомых»?

*2011*

# Год трох волатаў беларускай паэзіі

У 2011 г. будзем адзначаць слаўныя юбілеі трох самых выдатных паэтаў Беларусі: 28 жніўня 75 гадоў Генадзя Бураўкіна, 30 верасня 80 гадоў Ніла Гілевіча, 18 лістапада 80 гадоў Анатоля Вярцінскага. Я шчаслівы, што не толькі знаёмы з гэтымі магутнымі постацямі, але і ганаруся сяброўствам з імі. Перш наперш яны асабліва блізкія мне сваёй адданасцю беларушчыне, як шчырыя змагары за беларускасць: родную мову, літаратуру, культуру, адукацыю, незалежную дэмакратычную краіну, росквіт беларускай зямлі і яе народа. Яны сапраўдныя адраджэнцы сучаснасці.

Жыццёвыя і ў значнай меры творчыя шляхі ўсіх трох паэтаў у галоўных момантах блізкія: дзеці вайны, якія пазналі жахі таго галоднага і жудаснага часу; з дзяцінства ўвабралі ў сябе ад народа і асабліва ад роднай маці ўсю прыгажосць беларускай мовы, народных песень і фальклору; з маленства адчулі вялікую асалоду ад яднання з ласкавай цудоўнай прыродай Беларусі; па заканчэнні журналісцкага ці літаратурнага факультэтаў БДУ трапілі ў шчыры беларускі асяродак сваіх таленавітых аднагодак-літаратараў і атрымалі падтрымку старэйшых калег і настаўнікаў; ступілі на разнастайны шлях літаратуры, журналістыкі, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасці; па часе станаўлення належаць да так званых «шасцідзясятнікаў»; дасягнулі завоблачных вяршынь майстэрства ў літаратуры і перш-наперш у паэзіі.

Іх аб’ядноўвае надзвычайная таленавітасць у многіх напрамках дзейнасці, якая здзіўляе шырокай шматграннасцю. Безумоўна, галоўнае ў іх — найвышэйшае майстэрства ў прыгожым пісьменстве. І тут зноў разнастайнасць напрамкаў: на першым месцы высокая мастацкая паэзія (лірыка кахання, філасофская, грамадзянская, дзіцячая, сатыра і гумар, вершы і паэмы, а у Н. Гілевіча — нават раман); празаічныя, драматургічныя і публіцыстычныя творы; літаратуразнаўчыя і крытычныя працы, эсэ і літаратурныя партрэты; мастацкія

пераклады. Ва ўсёй іх творчасці прываблівае шчырасць, бескампраміснасць, гуманізм, барацьба з абыякавасцю. Усе іх творы прапушчаны праз сэрца. Многія іх вершы вельмі мілагучныя і таму сталі шырока вядомымі прыгожымі песнямі. Вялікую павагу выгукае дзейнасць нашых славутых паэтаў на пасадзе карэспандэнтаў, рэдактараў газет і часопісаў, высокіх грамадскіх і дзяржаўных асоб, што шырока вядома не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Нягледзячы на такі, здавалася б, аналагічны шлях да вышынь творчасці, кожны з іх стаў самабытным творцам прыгожага пісьменства.

Я вельмі рады, што мне давялося на розных сцежках сутыкнуцца з гэтымі выдатнымі людзьмі, і ўдзячны ім за тую цікавасць, якую яны мелі да жыцця і творчасці Гарэцкіх, аб чым я заўсёды з прыемнасцю памятаю.

Генадзь Бураўкін, калі быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», вельмі спрыяў выданню падрыхтаваных Алесем Адамовічам пісем з фронту «На дваццаць другой вясне…» (1974. № 9) Леаніда Гарэцкага, сына Максіма Гарэцкага. Мне прыходзілася быць разам з Бураўкіным на многіх літаратурных і іншых сустрэчах, пасяджэннях, асабліва часта ў Таварыстве беларускай мовы (у самыя цяжкія часы якога ён быў старшынёй), Рады інтэлігенцыі, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і інш. Мяне заўсёды ўражвала яго актыўнасць, прынцыповасць, нераўнадушнасць, лагічнасць і красамоўнасць выступленняў.

Яго вялікія арганізацыйныя здольнасці добра адчуў, калі я разам з ім, а таксама Рыгорам Барадуліным і Анатолем Грыцкевічам былі сустаршынямі Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з’езда за незалежнасць (2000). Тады, у канцы 90-х гадоў і на стыку стагоддзяў, была вялікая небяспека аб’яднання Беларусі і Расіі і поўнай страты суверэнітэту краіны. Была падпісана дэкларацыя, а затым і дагавор аб аб’яднанні Беларусі і Расіі ў Саюзную дзяржаву, гаспадар Беларусі вёў азартную барацьбу за «шапку Манамаха» ў Крамлі ў абмен

на суверэнітэт сваёй краіны. Пазней ён гатоў быў правесці бартарны гандаль абмену беларускай нацыянальнай валюты на пасаду віцэ-прэзідэнта Саюзнай дзяржавы: «Я предложил Борису Ельцину, чтобы он стал президентом Союза, я согласен занять пост вице-президента». У той час любы грамадзянін Беларусі, які быў супраць стварэння Саюзнай дзяржавы і за незалежнасць сваёй краіны, улады і ўся чыноўніцкая вертыкаль лічылі яго «апазіцыянерам» і «ворагам народа». Таму арганізацыя Усебеларускага з’езда за незалежнасць патрабавала пэўнай смеласці і значных намаганняў. Тым больш, што перашкоды мы адчувалі не толькі ад афіцыйных структур, але і ад многіх кіраўнікоў апазіцыйных дэмакратычных партый, якіх, як гэта часта ўжо здаралася, мучылі амбіцыі. Галоўным маторам у нашым Аргкамітэце быў менавіта Генадзь Бураўкін, і таму з’езд атрымаўся паспяховым. Ён адкрываў і праводзіў першы дзень з’езда, а я рабіў асноўны даклад. Толькі значна пазней, калі Пуцін прапанаваў аб’яднанне шляхам далучэння да Расіі беларускіх абласцей, галоўны беларуска-расійскі і ўсеславянскі інтэгратар імгненна ператварыўся ў незалежніка і часта стаў гаварыць словамі дэмакратычных сілаў.

Ніл Гілевіч заўсёды вельмі прыхільна ставіўся да творчасці Максіма Гарэцкага і шмат разоў узгадваў яго, як класіка беларускай літаратуры, надрукаваў два эсэ «Велічыня першага роду» і «Ён ведаў свой народ, як мала хто іншы»[1], прысвяціў верш «Дзе вы, дбайныя рупліўцы песень родных?». Тое ж можна сказаць і пра Гаўрылу Гарэцкага, якому Ніл Гілевіч да 80-годдзя таксама прысвяціў асобны вялікі верш «Акадэміку Г. І. Гарэцкаму». Ён выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных юбілею Максіма Гарэцкага, на навуковай канферэнцыі да 100-годдзя Гаўрылы Гарэцкага, з прывітальнымі словамі на шэрагу Гарэцкіх чытанняў. Разам са мной ён абрэзаў чырвоную стужку на адкрыцці музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. У вельмі многіх з’ездах, нарадах,

[1] Гілевіч Н. Збор твораў. — Т. 16. — Мінск, 2009. — С. 224–232.

пасяджэннях мне прыйшлося ўдзельнічаць разам з Нілам Гілевічам, і заўсёды яго прысутнасць прыдавала значнасць гэтым мерапрыемствам. Яго выступы былі аднымі з самых прыкметных, бо ён, як бліскучы прамоўца, выступаў вельмі даходліва і пераканаўча.

Анатоль Вярцінскі выступіў з яскравай прамовай на 100-годдзе Гаўрылы Гарэцкага, якая затым была надрукавана пад назвай «Ён казаў Радзіме: «Я так любіў цябе, мая адзіная»[1]. Да майго 70-годдзя напісаў верш «Паходжанне прозвішча», а пазней «Чытаю Гарэцкіх»[2]. Анатоль Вярцінскі некалькі разоў удзельнічаў у Гарэцкіх чытаннях і выступаў з цёплым прывітальным словам. На многіх іншых мерапрыемствах, якія часткова згадваў ужо раней, уважліва слухаў выступы Анатоля Вярцінскага, якія заўсёды ішлі ад сэрца, былі эмацыянальнымі і адгукаліся ўсхваляванымі слухачамі.

На апошніх, ХІХ Гарэцкіх чытаннях (18 лютага 2011 г.) дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп пасля прывітальнага слова перадаў дырэктару Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіі Макарэвіч партрэт Максіма Гарэцкага, якой выдавецтва па заказу Міністэрства адукацыі надрукавала для школ у пераліку класікаў беларускай літаратуры. Пазней, калі я завітаў да Ніла Гілевіча, убачыў у яго такога ж кшталту партрэт народнага паэта. Ён растлумачыў, што гэта яму перадалі з выдавецтва «Мастацкая літаратура». Нягледзячы на тое, што Ніл Гілевіч у нашых улад лічыцца ў шэрагу апальных, талент прабівае асфальт нядобразычліўства рэжыму, і чыноўнікі вымушаны прызнаць яго за жывога класіка. Тое ж тычыцца Генадзя Бураўкіна і Анатоля Вярцінскага. Усе тры выдатныя постаці — класікі беларускай літаратуры, якімі ганарыцца наша Бацькаўшчына.

*2011*

---

[1] Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. – Мінск : Тэхналогія, 2000.

[2] Вярцінскі А. Выбраныя творы. – Мінск : Кнігазбор, 2009.

## Усё менш блізкіх людзей

Чым даўжэй жывеш, тым менш застаецца блізкіх людзей. Увечары 9 мая 2011 г. у добрым настроі вярнуліся з Галяй з дачы і з сумам даведаліся, што напярэдадні памерлі Ядвіга Юльянаўна Раманоўская і Эдуард Аляксандравіч Высоцкі. На наступны дзень Ядвігу Юльянаўну пахавалі на Маскоўскіх могілках побач з Ганнай Дамінікаўнай, яе цёткай, сястрой Янкі Купалы. Эдуарда Аляксандравіча — на Каладзішчанскіх, дзе ўжо ляжалі два маіх вучні, у якіх я быў кіраўніком іх кандыдацкіх дысертацый, — геолаг Валодзя Кажэнаў і геафізік Аляксандр Бабарыкін, а таксама Янка Брыль і яго жонка Ніна Міхайлаўна.

З Ядвігай Юльянаўнай адносна нядаўна размаўляў па тэлефоне — голас яе быў бадзёры, у гамонцы, як заўсёды, гучаў гумар, і таму яшчэ больш нечаканая была гэтая сумная вестка. Успомнілася, як гэтая цудоўная жанчына, адданая справе захавання і пашырэння ведаў пра свайго дзядзьку, так годна прыняла эстафету кіравання домам-музеем Янкі Купалы, які заставаўся адным з самых яркіх куточкаў беларушчыны ў абруселай Беларусі. Пазней дырэктарам музея стала яе дачка Жанна Казіміраўна, таксама адданая справе Янкі Купалы, але заўсёды Ядвіга Юльянаўна прысутнічала на многіх значных сустрэчах. З вялікай прыемнасцю часта прыходзіў у гасцінны і такі цёплы дом, напоўнены сапраўднай высокай паэзіі, шчырай беларускасцю, добразычлівасцю. Яшчэ разам з маімі бацькамі быў на сустрэчы з трыма Паўлінкамі, у тым ліку і з самай першай з іх — Мядзёлкай, з якой даўно сябравалі мае бацькі, асабліва маці. Менавіта ёй Паўліна Вікенцьеўна пакінула свой дзённік і папрасіла перадаць яго толькі праз 20 гадоў пасля яе смерці Максіму Танку, які надрукаваў яго ў «Полымі» (1993. № 2–5). А як мы цёпла, шчыра і хораша адзначылі юбілей Ядвігі Юльянаўны! У маім жыцці самы лепшы юбілей (70-годдзе), які разам са сваімі калегамі арганізавалі мілыя Ядвіга Юльянаў-

на і Жанна Казіміраўна, таксама прайшоў у купалаўскім доме: па-хатняму, сярод блізкіх і прыемных майму сэрцу людзей, весела, натуральна, з беларускімі песнямі (з выдатнымі салістамі Янкам Брылём і Нілам Гілевічам). Вечарыне папярэднічала з любоўю зробленая выстава, прысвечаная юбіляру. Такога юбілейнага святкавання ў мяне ніколі не было і ніколі ўжо і не будзе, таму я вельмі ўдзячны купалаўцам за яго і ў памяці ён захаваецца ўвесь мой астатак жыцця. Усплывае яшчэ шмат самых розных сустрэч і разам з імі светлы вобраз незабыўнай Ядвігі Юльянаўны, якая заўсёды будзе жыць у сэрцы і памяці.

* * *

Эдуард Аляксандравіч Высоцкі ўваходзіў у выдатную кагорту геолагаў-салевікоў (Ю. І. Лупіновіч, В. З. Кіслік, Н. С. Пятрова і інш.), якая займалася вывучэннем саляносных фармацый, а з імі звязаны самыя вядомыя і важныя карысныя выкапні Беларусі — калійныя солі, каменныя солі, гіпс, ангідрыт, мінеральныя расолы і інш. Дарэчы, калійныя ўгнаенні даюць краіне самы найбольшы валютны прыбытак з усяго знешняга гандлю. Я даўно сябраваў з «салевікамі» і супрацоўнічаў у многіх агульных працах, асабліва з Э. Высоцкім, у якога з часам я стаў навуковым кіраўнікам яго доктарскай дысертацыі. Мы разам з імі і некаторымі іншымі яго калегамі выпусцілі ў свет шэраг не толькі артыкулаў, але і манаграфій: «Девонские соленосные формации Припятского прогиба» (1982), «Калийные соли Припятского прогиба» (1984), «Калиеносные бассейны мира» (1988). Эдуард Аляксандравіч — вельмі працавіты, мэтанакіраваны і таленавіты даследчык. У 1997 г. выдатна абараніў доктарскую дысертацыю, на наступны год пачаў выкладаць у якасці прафесара на геаграфічным факультэце БДУ. З выкладчыкамі кафедры дынамічнай геалогіі, якую мне задалося арганізаваць у 1995 г. і спачатку быць нават яе загадчыкам, я цесна супрацоўнічаў і таму добра ведаў, што Э. Высоцкі — адзін з лепшых і сумленных прафесараў, да якога з павагай ставяцца яго калегі і любяць студэнты. Мне было гэта вельмі прыемна.

З вучнямі, як бацьку з сынамі асабліва цяжка і балюча назаўсёды развітвацца. Прыйшло многа сяброў, калег, студэнтаў, шмат добрых, шчырых, спачувальных слоў прагучала, у тым ліку і маіх.

* * *

На могілках разам з Данілам Сеўруком-Тварановічам, маім былым студэнтам, а зараз супрацоўнікам кафедры дынамічнай геалогіі, наведалі магілку Янкі Брыля. Успомніў, як хавалі Ніну Міхайлаўну, а пазней побач з ёй паклалі і самога пісьменніка. Яму не дазволілі пахаваць жонку ў блізкіх да горада могілках, а ён вельмі прасіў, каб былі Кальварыйскія. Я тады таксама перажываў за яго, але на пахаванні, калі мы стаялі побач на ўзгорку з прыгожым краявідам, ён сказаў: «А ведаеш, нават добра, што так атрымалася — мне падабаецца тут. Глядзі, які тут добры сасновы бор, мяккі сыпучы пясочак, чыстае паветра, цішыня. Вось і я лягу побач, а тлуму мне не трэба». Так і атрымалася. Іван Антонавіч быў мудры, сціплы чалавек. Падышлі да непрыкметнай магілы з дзвюма аднолькавымі невысокімі дошкамі-помнікамі з простымі надпісамі (на якіх нават не абазначана «Народны пісьменнік Беларусі»), паклалі кветкі, схілілі галовы… А мне стала крыўдна за Янку, што зараз неяк мала ўзгадваюць пра яго. У дні яго смерці ці нараджэння мала хто прыходзіць на могілкі. Я колькі разоў прыязджаў сюды і не сустракаў тут нікога, ды і кветак не было… Няпроста дабірацца да Калодзішч — трэба губляць гадзіны. Да гэтага часу так і не выдадзена кніжка з успамінамі, аб чым мы ўсе, хто яго праважаў у апошні шлях, дамаўляліся. Прыйшоў час, калі, з дазволу пісьменніка, можна выдаваць яго дзённікі. На наступны год будзе яго 95-годдзе. Можа, нарэшце, што і зрушыцца? Так хочацца спадзявацца на гэта…

*2011*

## «Невядомы Шаўчэнка»

Выдатны перакладчык і пісьменнік Валерый Васільевіч Стралко 20 мая 2011 г. запрасіў мяне на фільм «Невядомы Шаўчэнка», які стварылі ўкраінскія майстры кіно. У пасольстве Украіны, якое ўжо ўзначальваў новы пасол, вельмі сімпатычны шчыры Раман Бяссмертны, сабралася поўная зала. Мы ўбачылі многія невядомыя ці малавядомыя старонкі нялёгкага і складанага жыцця і творчасці маладога Тараса Шаўчэнкі, яго часам трагічнае сталенне як паэта і мастака. Думкі і імкненні выдатнага ўкраінскага паэта, нацыянальнага адраджэнца і прарока так блізкі беларусам. Яго балюча мучыла забарона ўкраінскай мовы, часта здзеклівыя адносіны да яе. Прыходзілася нярэдка пісаць і размаўляць, нават з аднадумцамі і сябрамі, па-руску. Ён прымушаны быў пісаць апавяданні і аповесці на рускай мове, бо не меў магчымасці друкаваць па-ўкраінску, і ледзь не пайшоў шляхам Гогаля… Добра, што С. В. Аксакаў, П. Куліш і іншыя не раілі яму пераходзіць на прозу, а заставацца быць яскравым паэтам. І Т. Шаўчэнка пераадолеў усе цяжкасці — на ўвесь голас і на ўвесь свет агучыў свае выдатнейшыя вершы і паэмы на ўкраінскай мове, якімі згуртаваў нацыю, паклікаў да нацыянальнага адраджэння і стаў сапраўды вялікім паэтам, а для ўкраінцаў — сумленнем нацыі і святым.

Т. Шаўчэнка вельмі спачуваў беларусам, разумеў іх бядотны стан. У апавяданні «Музыкант» ён пісаў: *«…они приближались к стране постоянно голодной, то есть Белоруссии… […] когда они проходили чуть ли не Усвяты, то вместо того, чтобы арестантам подать милостыню, толпа мальчишек с толстыми коленями бросилась к арестантам и стала просить хлеба, а когда увидели, что им давали хлеб наши арестанты, за мальчишками бросились и взрослые и старики. Голод не знает стыда. Пройдя страну сетования и плача, они вступили, наконец, в благословенные пределы нашей милой Малороссии»*…

Успомніў, як наш геалагічны атрад прыехаў у 60-я гады мінулага стагоддзя на ўсходні бераг Каспійскага мора ў форт

Шаўчэнка, такая зараз назва гэтага мястэчка, дзе некалі адбываў ссылку салдат Тарас Шаўчэнка. Гэта — нуднае пустыннае маленькае сяленне, амаль зусім без дрэў, кустоў, травы. Сум павялічваецца ад страшэннай гарачыні і частых вятроў з вялікім пылам улетку і сцюдзёнымі халадамі, таксама з ветрам, узімку. Уяўляю, як цяжка было тут ссыльным! Адзінае, што радавала вочы, — гэта блакітна-шэрае мора з цудоўным пясчаным пляжам. Амаль дарма можна было тут набыць асятроў і чорную ікру, на якіх мы адразу і накінуліся: усе дні — юшка, рыба вараная і падсмажаная, ікра — лыжкамі. Але менш чым праз тыдзень яе ўжо зусім не хацелася… Не ведаю, ці была такая смаката ў Шаўчэнкі, а калі і была, дык, мусіць, таксама надакучыла. Але пра гэты этап жыцця паэта будуць зроблены наступныя часткі кінафільма…

*2011*

## Паездка ў Мар'іну Горку

У самым пачатку чэрвеня 2011 г. Барыс Аляксандравіч Бачыла, сын вядомага паэта Алеся Бачылы і былы супрацоўнік нашага Інстытута геахіміі і геафізікі, а цяпер пенсіянер, запрасіў мяне ў Мар'іну Горку прачытаць лекцыю пра геалогію і карысныя выкапні Беларусі студэнтам Мар'інагорскага аграрна-тэхнічнага каледжа імя У. Е. Лабанка і пазнаёміцца з Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеем. Вандроўка была вельмі цікавай і прыемнай, чаму яшчэ спрыяла добрае надвор'е, ласкавыя мяккія краявіды. Вялікае ўражанне зрабіў комплекс будынкаў каледжа, раскінуты сярод прыгожага парку і пераўтвораны ў 2000 г. з тэхнікума, які быў тут заснаваны на базе Мар'інагорскай сельскагаспадарчай школы (1876–1921). Асабліва цікава было агледзець Пухавіцкі краязнаўчы музей і яго філіял у раённым цэнтры культуры, з якімі нас пазнаёміў дырэктар музея Аляксандр Аляксандравіч Прановіч — выдатны краязнаўца, гісторык, прыхільнік беларушчыны, аўтар мно-

гіх артыкулаў пра Пухаўшчыну, укладальнік і член рэдкалегіі кнігі «Памяць. Пухавіцкі раён» (2003), цудоўны экскурсавод, добразычлівы і прыемны чалавек.

У раённым цэнтры культуры знаходзіцца вялікае памяшканне музея, у якім асобны пакой адведзены Алесю Бачылу. Экспазіцыя, вельмі змястоўная і багатая, створана дзякуючы яго сыну Барысу Аляксандравічу. Тут шафы з творамі паэта і кнігамі, падараванымі яго сябрамі; пісьмовы стол з усімі прыладамі, якімі карыстаўся пісьменнік, многа здымкаў і г. д. Прыемна было наглядаць за Барысам, які з такой любоўю і павагай успамінаў пра свайго бацьку, звяртаў увагу на розныя яго рэчы. Успаміналі некаторыя моманты жыцця Алеся Мікалаевіча, з якім сябраваў і мой бацька. Мне вельмі прыемна было пабачыць Барыса ў якасці такога цудоўнага сына, так многа зрабіўшага ў справе ўшанавання памяці яго выдатнага бацькі, а не толькі здольнага і сумленнага спецыяліста, якога я ведаў да гэтай паездкі.

У суседняй зале — вялікая экспазіцыя, прысвечаная Якубу Коласу, які так любіў Пухаўшчыну. Не забыліся ў музеі і пра многіх іншых сваіх выдатных землякоў, сярод якіх убачыў матэрыялы і пра знаёмых вучоных — акадэмікаў С. А. Астапчыка, І. Д. Юркевіча, геолага і географа Р. І. Сачка і інш.

Асаблівую маю цікавасць выклікаў раённы краязнаўчы музей (сядзібны дом) у вёсцы Блонь. Часткова захаваўшыся, сядзібна-паркавы ансамбль з’яўляецца помнікам архітэктуры позняга класіцызму сярэдзіны XIX ст. Пасля паўстання 1863 г. уладальнікам Блоні стаў Восіп Бонч-Асмалоўскі, а пазней — яго адзіны сын рэвалюцыянер-народнік Анатоль (1857–1930), які быў высланы з Пецярбурга ў бацькоўскі маёнтак. Разам з жонкай Вахоўскай Варварай Іванаўнай (1855–1929) — таксама рэвалюцыянеркай-народніцай — правялі нялёгкае жыццё сапраўдных актыўных рэвалюцыянераў, многа разоў арыштоўваліся. Анатоль Восіпавіч быў у ЦК партыі эсэраў, дэлегатам Усебеларускага з’езда (1917). У Блоні ў іх нарадзілася тры

сына (Іван — рэвалюцыянер, юрыст; Радзівон — эканаміст, аграрнік; Глеб — геолаг, археолаг, доктар гістарычных навук) і дачка Ірына — рэвалюцыянер, урач-хірург. Старэйшыя з іх Іван і Ірына арыштоўваліся ў царскі час, сярэдні Радзівон — у царскі і савецкі, а самы малодшы Глеб — толькі ў савецкі.

Мяне найбольш цікавіў Радзівон Анатольевіч, які з 1923 г. працаваў сакратаром, а затым загадчыкам сельскагаспадарчай секцыі Дзяржплана БССР і супрацоўнічаў з Г. І. Гарэцкім, калі той у 1927 г. стаў дырэктарам БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Улетку 1930 г. абодва былі арыштаваны па справе беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі. Калі Ларыса Гарэцкая даведалася пра пастанову аб арышце мужа, пасля вобыску вырашыла зайсці да Марыі Сяргееўны Бонч-Асмалоўскай, якая працавала ў хімічнай лабараторыі БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Ларыса Восіпаўна падумала, што Марыя, як дачка рэвалюцыянера-народніка Сяргея Піліпавіча Каваліка, а таксама з сям'і рэвалюцыянераў па мужу, мае нейкі вопыт і з ёй трэба параіцца. Кавалік прайшоў некалькі арыштаў і цяжкіх царскіх ссылак, дзе з ім разам былі яго жонка і дачка, прычым яшчэ ў 1898 г. ён жыў у Блоні ў маёнтку Бонч-Асмалоўскіх. Марыя сустрэла Ларысу са слязьмі, зусім разгубленай, ледзь прашаптала: «Мяне таксама сёння абязмужылі — мужа ўзялі». Пагаманілі — і абедзвюм стала як быццам троху лягчэй.

У траўні 1931 г. было складзена абвінаваўчае заключэнне: *«ПП ОГПУ по БССР раскрыта контрреволюционная, вредительская и диверсионная шпионская организация работников сельского хозяйства БССР, являющаяся филиалом раскрытой ОГПУ контрреволюционной организации ТКП и ставящая своей задачей свержение Советской власти и установление буржуазно-демократического строя. [...] Возглавляли всю организацию: председатель сельскохозяйственной секции Госплана Бонч-Осмоловский Р. А., директор НИИ сельского и лесного хозяйства им. Ленина Горецкий Г. И. и учёный секретарь Земплана НКЗ БССР Хоцкий П. А.»*. Пастановай Калегіі

АДПУ па БССР усе трое былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) з заменай гэтага пакарання заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў.

Юдашкін (следчы па іх справе) па сакрэту сказаў Г. Гарэцкаму, што кіраўнікі БССР А. Чарвякоў і Н. Галадзед павезлі прысуд у Маскву на зацвярджэнне, а спісы на расстрэл тады падпісваў сам Сталін. Яны папрасілі зменшыць меру пакарання Гарэцкаму. Сталін запытаў: «Так сколько ему лет?» — «Трыццаць», — адказваюць. Ён тады кажа: «Ещё молодой — пусть немного поживёт», — і выкрасліў прозвішча са спіса. Таксама замянілі прысуд Бонч-Асмалоўскаму і Хоцкаму.

Асуджаных адпраўлялі ў розныя канцлагеры з Оршы. Л. Гарэцкая, даведаўшыся, што мужа павезлі ў Оршу, папярэдзіла пра гэта і Марыю Бонч-Асмалоўскую. Тая была зусім у роспачы, бо нядаўна трагічна загінуў яе маленькі сын, і яна не ведала, ці расказаць Радзівону пра гэта, ці лепш не дабаўляць смутку гэтым горкім паведамленнем да і без таго цяжкага стану мужа. З цяжкасцямі, але ім усё ж пашчасціла пабачыцца са зняволенымі, хаця і прыйшлося пахвалявацца ў бясконцым чаканні — то дазваляюць, то не. Пры спатканні думка ва ўсіх *«...чатырох была адна: «Можа, развітанне на 10 гадоў, а можа і назаўсёды. Ці не апошні раз вось так ідзём?» Нервова білася сэрца, ногі не слухаліся, слёзы былі зусім блізка. Толькі выйшлі за вароты, раптам Лара бачыць, што Марыя падае, і як крыкне: «Трымайся, ідзі!» Не хацела, каб вахцёр быў сведкам іх жудаснай роспачы. Марыя сабралася з сіламі, Лара дацягнула яе да скверыка насупраць турмы. Пасадзіла амаль беспрытомную Марыю на лаўку. Тая залілася слязьмі, і Лара разам з ёю. Абняліся і выплакалі сваё жаночае гора...»*[1]

Пасадзілі зняволеных у цяплушкі, размясцілі па нарах у два паверхі і павезлі на Салаўкі... Бонч-Асмалоўскі да 1936 г. працаваў на будаўніцтве Беламорканала. Затым працаваў экана-

[1] Гарэцкі Р. Браты Гарэцкія. — С. 139.

містам-планавікам на хімфармзаводзе ў г. Чымкент. У чэрвені 1938 г. арыштаваны НКУС Паўднёва-Казахстанскай вобласці. Абвінавацілі ва ўдзеле ў «шкодніцкай, контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «шпіянажы на карысць японскай разведкі». Рашэннем «тройкі» асуджаны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Цяжкі лёс славутай таленавітай сям'і Бонч-Асмалоўскіх выклікнуў на зваротным шляху ў Мінск адначасова і гонар, і сумныя думкі…

*2011*

## Нарэшце пабачыў жывымі…

Пасля 19 снежня 2010 г. уся палова наступнага прайшла ў перажываннях і хваляваннях за тых палітычных зняволеных (больш за 700 чалавек!), у тым ліку кандыдатаў у прэзідэнты і іх памагатых на выбарах, якія трапілі ў турмы і пра якіх даходзілі розныя супярэчлівыя, часта жахлівыя весткі аб іх маральным і фізічным стане…

6 чэрвеня 2011 г. па запрашэнні Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь я трапіў на прыём з нагоды святкавання Нацыянальнага дня Швецыі, які адбыўся ва ўнутраным двары будынка пасольства. Дзень выдаўся вельмі цёплы і таму прыемна ўсім было адзначаць гэтае свята на свежым паветры. Народу запрошана было шмат. Як і раней, Стэфан Эрыксан зрабіў вельмі добрае ўражанне: ветліва ўсіх сустракаў, размаўляў на беларускай мове, урачыстую прамову зрабіў па-шведску і па-беларуску. Добра, што і намеснік міністра замежных спраў Беларусі таксама сваю афіцыйную прамову зрабіў на роднай мове і слухачы не адчулі сораму за дзяржаву, як ужо не адзін раз было пры адказе па-руску на беларускамоўны зварот да размоўца Стэфана Эрыксана.

Прыём ішоў вельмі цікава, гучала выдатная музыка і песні шведскага і беларускага хароў, напоі і смачная закуска

падбадзёрылі гасцей. Шмат было сустрэч і гамонак, многіх людзей пабачыў. Вось ідзе Генадзь Бураўкін — абняліся, пытаю: «Чаго так салідна апрануўся?» — «Дыпламат на прыёме заўсёды павінен быць у поўнай форме». Там бегае ад аднаго да другога падвыпіты з чырвоным тварам намеснік міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь Андрэй Тур.

Але самае галоўнае — нарэшце ўбачыў здаровых, радасных, што на волі, вядомых палітвязняў: Уладзіміра Някляева, Віталя Рымашэўскага, Рыгора Кастусёва, схуднелага Аляксандра Фядуту, энергічную Ірыну Халіп разам з бацькам — Уладзімірам Халіпам і маці Люцынай Юр’еўнай Бяльзацкай — выдатным навуковым рэдактарам, некалі прапусціўшай праз сваю працу шэраг маіх кніг, і іншых. На сэрцы ад гэтых сустрэч стала троху лягчэй…

*2011*

## Апантаны навукай

Уладзімір Міхайлавіч Конан — выдатны філосаф, гісторык, літаратуразнаўца, доктар філасофскіх навук па спецыяльнасці «Эстэтыка», прафесар, аўтар шматлікіх цікавых артыкуалў, манаграфій, складальнік шэрагу зборнікаў, якія шырока вядомы грамадскасці і якія адкрылі многа новага ў розных напрамках культуры, філасофіі, культуралогіі Беларусі. Яго апантанасць навукай, самабытнасць, смеласць, нестандартнасць думкі, актыўны ўдзел у нацыянальным адраджэнні краіны выклікалі вялікую павагу і захапленне. Высокаінтэлігентны, надзвычайна далікатны, сціплы чалавек з ціхім голасам, выразнымі разумнымі вачыма, непрыкметнай хударлявай фігурай і бледным тонкім тварам карыстаўся вялікай сімпатыяй і любоўю. Уклад У. Конана ў навуку быў настолькі значны, што яго на выбарах у НАН Беларусі ў пачатку 1990-х гг., хаця ён і не займаў высокіх пасад, вылучылі адразу ў акадэмікі, мінаючы званне члена-карэспандэнта. Па сутнасці, ён быў самы дастойны кан-

дыдат — сапраўдны акадэмік, поўнасцю адданы навуцы, без якой ён не мог жыць і якая замяняла яму ўсё, і таму яго часта лічылі «чалавекам не з гэтага свету».

Мне давялося сустракацца з Уладзімірам Конанам даволі часта на розных нарадах і асабліва ў той час, калі ён працаваў загадчыкам аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны, які знаходзіўся ў адным будынку са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Калі ў сярэдзіне 2000-х гг. на Саюз беларускіх пісьменнікаў (СБП) пачаліся ганенні, адабралі Дом літаратара, а затым і зусім выгналі адтуль, сенатар Чаргінец арганізаваў новы прапрэзідэнцкі Саюз пісьменнікаў Беларусі. Тады сябра рады СБП Язэп Янушкевіч звярнуўся да мяне з прапановай падтрымаць СБП і ўступіць у яго склад. Я, безумоўна, быў на баку гэтага Саюза, але не лічыў сябе пісьменнікам і адмовіўся звяртацца да каго-небудзь з просьбай даць рэкамендацыі для ўступлення, хаця к таму часу надрукаваў досыць шмат артыкулаў і эсэ пра многіх вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры, выдаў кніжкі «Шляхам адраджэння», «Вечна жыве Беларусь», «Ахвярую сваім «Я» (Максім і Гаўрыла Гарэцкія)», «Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг» і інш. Язэп Янушкевіч узяў гэтую справу на сябе і ўжо праз два тыдні пазваніў і паведаміў, што ён мае на руках тры рэкамендацыі: народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, філосафа і пісьменніка Уладзіміра Конана, літаратуразнаўца і пісьменніка Язэпа Янушкевіча. У хуткім часе я стаў членам СБП і быў вельмі ўдзячны маім «хросным бацькам», у тым ліку і дарагому Уладзіміру Міхайлавічу.

Конан актыўна ўдзельнічаў у многіх пасяджэннях Гарэцкіх чытанняў апошніх гадоў і зрабіў шэраг вельмі змястоўных і цікавых дакладаў: «Творчасць Максіма Гарэцкага ў крывым люстэрку бальшавіцкай крытыкі» (2006), «Матывы спакусы ў творчасці Максіма Гарэцкага: аповесць «Антон» (2008), «Міфалагічныя і біблейскія вобразы і матывы ў творчасці М. Га-

рэцкага» (2009), «Эстэтыка ранняй прозы Максіма Гарэцкага». Апошні даклад У. Конан зрабіў 18 лютага 2011 г. Ён выглядаў кепска, гаварыў зусім ціхім голасам, адчувалася яго слабасць. У гэты час ён пільна працаваў над унікальным трохтомным выданнем гісторыі беларускай эстэтыкі. Першы том «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі X ст. — 1905 г.» выйшаў з друку ў 2010 г. Гэта — гісторыка-тэарэтычнае падсумаванне шматгадовых даследаванняў У. Конанам беларускай эстэтыкі, філасофіі, мастацкай літаратуры, традыцыйнай народнай культуры, беларускай культурнай традыцыі ад сярэднявечча да канца XIX ст. Ён так спяшаўся завяршыць другі том і ўзяцца за трэці, што зусім забыўся пра элементарнае харчаванне, бо не хапала часу, каб наведаць краму, а жыў ён адзін. Часта за ўвесь дзень у яго быў толькі хлеб і кефір. Другі том ён паспеў напісаць, але ўбачыць у выглядзе выдрукаванай кнігі не давялося — у ноч на 6 чэрвеня 2011 г. Уладзімір Конан пакінуў гэты свет… Трэба спадзявацца, што трэці том, прысвечаны сучаснай эстэтычнай думцы Беларусі, падрыхтуюць да выдання яго вучні і калегі, тым больш, што на гэтую тэму ў самога вучонага надрукавана шмат артыкулаў.

Ад Уладзіміра Конана ішла такая моцная аўра беларушчыны, што на развітанні з ім усе выступоўцы, нават тыя, якія ніколі не размаўлялі па-беларуску, гаварылі шчырыя словы пахвалы і шкадавання на беларускай мове.

*2011*

# Светлы чалавек

10 чэрвеня ўспомніў майго даўняга сябра Пятра Пятровіча Прахарэнку, які пакінуў нас назаўсёды роўна тры гады таму назад.

З Пятром Пятровічам Прахарэнкам я пазнаёміўся ў канцы 70-х гг. мінулага стагоддзя, калі ён быў інструктарам аддзела навукі ЦК КПБ, а я — дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. Гэта быў час, калі ЦК КПБ меў найвышэйшую ўладу і слова супрацоўніка гэтага органа магічна дзейнічала на кіраўнікоў любога рангу ўстановы, якой курыраваў той ці іншы аддзел ЦК. Я ўспамінаю, як некаторыя вядучыя супрацоўнікі і нават кіраўнікі Прэзідыума АН БССР у выпадку званка з ЦК імкліва хапалі тэлефон і часам уставалі, калі з імі размаўляў усяго толькі інструктар аддзела навукі ЦК. Аднойчы мне, як дырэктару Інстытута, патэлефанавала інструктар Мінскага гаркама партыі з нейкім указаннем, але яно было даволі недарэчнае, і таму я пачаў пярэчыць. Да гэтага яна, відаць, была зусім не прывучана і была так здзіўлена, што страшэнны абурылася і злосным голасам ўскрыкнула: «Як вы асмельваецеся так размаўляць з гаркамам партыі і пярэчыць яму!» Такога тыпу супрацоўнікі настолькі ўзносіліся, што ім здавалася, што яны ўвасабляюць гаркам партыі або нават ЦК. Дырэктары інстытутаў у той час былі наменклатурай ЦК КПБ, і таму нам часта прыходзілася мець зносіны з інструктарамі і нават кіраўнікамі аддзела навукі ЦК.

Трэба падкрэсліць, што з боку першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава, а затым Ц. Я. Кісялёва да вучоных і асабліва да АН БССР адносіны былі вельмі паважлівымі, чаго нельга сказаць пра змяніўшых іх у далейшым трох кіраўнікоў кампартыі Беларусі. Нам пашанцавала і з сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьміным, які курыраваў навуку, культуру і літаратуру, а таксама з аддзелам навукі — загадчык А. А. Смірноў, інструктары В. І. Пракошын, П. П. Прахарэнка і інш. Усе яны

добра валодалі сітуацыяй у АН БССР і розных яе інстытутах, разумелі спецыфіку навуковых даследаванняў, узаемаадносін паміж вучонымі, арганізатарамі навуковых работ, былі ўважлівымі, карэктнымі, інтэлігентнымі. Як дырэктар інстытута і намеснік акадэміка-сакратара Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі я па арганізацыйных пытаннях навукі больш меў зносін з В. І. Пракошыным, а з Пятром Пятровічам я часцей сустракаўся не па справах, а проста ў рэдкі вольны час адпачынку, што прывяло не толькі да агульнай сімпатыі, але і да сяброўства. Паколькі мы былі прадстаўнікамі дастаткова далёкіх адна ад адной навук: ён — фізіка-тэхнічных, а я — навук аб Зямлі, пастолькі я больш успамінаю яго як цудоўнага чалавека, блізкага сябра, хаця і ведаю пра яго вялікія поспехі ў навуцы і навукова-арганізацыйнай дзейнасці.

Натуральна, я сачыў за навуковымі поспехамі Пятра Пятровіча, шчыра радаваўся, калі ён паведамляў пра іх, а дасягненні ў гэтым былі вельмі значныя. У Фізіка-тэхнічным інстытуце АН БССР ён арганізаваў і ўзначаліў тэматычную групу капілярных з’яў, тым самым працягваючы ідэі свайго настаўніка акадэміка Я. Г. Канавалава, аўтара першага адкрыцця беларускіх вучоных «ультрагукавы капілярны эфект». Затым група Прахарэнкі была пераведзена ўжо ў якасці лабараторыі ў Інстытут прыкладной фізікі. Памятаю радасную падзею — выдатную абарону доктарскай дысертацыі ў 1988 г., якая фактычна пацвердзіла яго вялікія навуковыя дасягненні як аўтара тэарэтычных асноў капілярнай дэфектаскапіі, апублікаваныя ў серыі манаграфій. З таго часу аўтарытэт вучонага і арганізатара навукі ўзрастаў яшчэ больш імкліва. Ужо ў наступным годзе Прахарэнку прысвоілі вучонае званне прафесара.

У 1992 г. праходзілі выбары кіраўніцтва АН БССР, прычым гэта былі адзіныя да гэтага часу выбары, якія былі цалкам дэмакратычныя, без якога б то ні было ўздзеяння ўлады і партыйных органаў. У цяперашні час увесь Прэзідыум НАН Беларусі на чале з яго старшынёй наогул не выбіраецца, а на-

значаецца кіраўніцтвам дзяржавы. У 1991 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб прыпыненні дзеяння КПСС-КПБ на тэрыторыі Беларусі, а кіраўнікі краіны (С. С. Шушкевіч і В. Ф. Кебіч) на пытанне пра выбары адказалі: «Каго жадаеце, таго і выбірайце. Гэта ваша справа». Тады свабодна выбранае новае Бюро Прэзідыума АН БССР складалася ўсяго з 4 чалавек: Л. М. Сушчэня — прэзідэнт, Р. Г. Гарэцкі і М. С. Высоцкі — віцэ-прэзідэнты і А. М. Ганчарэнка — галоўны вучоны сакратар. У састаў Прэзідыума АН БССР яшчэ былі выбраны 5 акадэмікаў-сакратароў аддзяленняў і 6 саветнікаў. Л. М. Сушчэня курыраваў Аддзяленне біялагічных навук, А. М. Ганчарэнка — Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі, М. С. Высоцкі — Аддзяленне фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі, Р. Г. Гарэцкі — Аддзяленне хімічных і геалагічных навук, а таксама Аддзяленне гуманітарных навук. Становішча АН БССР было вельмі цяжкім, бо з розных бакоў ішлі прапановы аб яе карэнным перафарміраванні і нават ліквідацыі, у многіх інстытутах праходзіла барацьба асобных груп і вучоных паміж сабой, было шмат скарг і непаразуменняў. Адным з такіх інстытутаў аказаўся Інстытут прыкладной фізікі. М. С. Высоцкі дзеля ўмацавання адміністрацыі прапанаваў дырэктару інстытута назначыць намеснікам П. П. Прахарэнку, але дырэктар чамусьці абурыўся, вырашыў, што Бюро Прэзідыума не падабаецца яго работа, і напісаў заяву аб звальненні з пасады дырэктара. Тады М. С. Высоцкі рашуча папрасіў Пятра Пятровіча напісаць новую заяву на пасаду дырэктара і вынес гэтае пытанне на Бюро Прэзідыума, дзе мы, добра ведаючы яго арганізацыйныя здольнасці і чалавечыя якасці, аднагалосна падтрымалі гэтую прапанову. Мы не памыліліся: праз некаторы час інстытут спакойна і паспяхова працаваў. У 1996 г. я з вялікім задавальненнем павіншаваў Пятра Пятровіча з выбарамі ў члены-карэспандэнты НАН Беларусі, а ў 2000 г. — у акадэмікі.

Рады быў убачыць яго калектыўную манаграфію «Теоретические принципы и физические аспекты капиллярного

контроля», выдатна выдадзеную на англійскай мове ў Германіі. Работы П. П. Прахарэнкі і яго калег атрымалі шырокае прызнанне не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Я ганарыўся поспехамі свайго сябра, які заўсёды заставаўся простым і сціплым у зносінах, і рады, што пасля сыходу П. П. Прахарэнкі з жыцця Інстытут прыкладной фізікі ўзначаліў яго таленавіты калега намеснік дырэктара Н. П. Мігун.

Вядома, што клятва Гіпакрата ў медыкаў пачынаецца з удзячнасці свайму настаўніку. Мне вельмі падабалася, што Пётр Пятровіч заўсёды вельмі паважліва, цёпла адгукаецца і часта ўспамінае свайго навуковага кіраўніка акадэміка Я. Г. Канавалава. Мне гэта імпанавала, бо я таксама ніколі не забываў пра свайго навуковага настаўніка і нават напісаў невялікую манаграфію «Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг».

Прахарэнка быў вельмі таварыскім, добразычлівым чалавекам, заўсёды быў гатовы дапамагчы, падтрымаць у любой справе. Пачуццё сяброўства было для яго непахісным. Ён ніколі не забываўся павіншаваць са святам, а тым больш з днём нараджэння. Дабрыня зыходзіла з яго істоты і заўсёды была дзейснай. Зносіны з ім былі прыемныя, радасныя, вясёлыя. Ён ведаў шмат самых розных песень і любіў іх спяваць. Калі сустракаліся з ім у невялічкай кампаніі ў саўне або ў яго хаце, з задавальненнем падпявалі яго меладычным песням. Гасціннасць і хлебасольства ў яго сям'і на рэдкасць шчырае і сардэчнае. Гэта было характэрна і для яго мілай жонкі Галі, і для сімпатычных цудоўных дачок. Вялікім несуцешным горам з'явілася смерць любімай жонкі, якой ён застаўся верны да канца свайго жыцця, прысвяціўшы сябе выхаванню дзяцей і ўнукаў, якім аддаваў усю моц свайго шчырага сэрца і да якіх ставіўся так трапятліва і пяшчотна, а памяць аб незабыўнай жонцы і маці захоўвалася ў іх заўсёды.

Пётр Пятровіч — заўзяты аматар оперы і балета, драмы і камедыі, музычных спектакляў у філармоніі. Не забываў ён і сваіх сяброў: нярэдка тэлефанаваў ім, запрашаў у тэатр. Такія

нечаканыя паходы былі цікавыя і вельмі прыемныя з пункту гледжання зносін, пазнавальнасці, душэўнасці і сапраўднага адпачынку.

У верасні 1999 г. шырока адзначылі 60-годдзе П. П. Прахарэнкі. Адметна, што на вечар ў гонар юбіляра прыйшлі не толькі шматлікія яго сябры і калегі з розных інстытутаў НАН Беларусі, але таксама з Масквы і з Гомеля па мінулай вучобе і працы, і нават з Яраслаўля, дзе ён працаваў начальнікам колавага цэха Яраслаўскага лакаматыварамонтнага завода. Гучалі шчырыя віншаванні.

І далей жыццё ішло актыўна, мэтанакіравана, паспяхова. Але аднойчы прыйшло нечаканае: 10 чэрвеня 2008 г. сэрца вучонага перастала біцца… Цяжка і горка яго родныя, сябры, калегі, знаёмыя развітваліся з Пятром Пятровічам Прахарэнкам, які знайшоў апошні прытулак у роднай беларускай зямлі на Усходніх могілках, дзе ўжо раней назаўсёды пасяліліся многія вучоныя НАН Беларусі. Зусім блізка быў помнік майму старэйшаму таварышу па вучобе ў Маскоўскім нафтавым інстытуце і працы ў НАН Беларусі геолагу А. С. Махначу, а праз 2,5 месяца зусім побач лёг і адважны барацьбіт з вынікамі чарнобыльскай катастрофы В. Б. Несцярэнка. Зноў стала невыносна цяжка на душы, прамільгнулі карціны былых сустрэч з дарагімі калегамі, памяць аб якіх будзе вечна бударажыць сэрца, і, вядома, аб такім светлым чалавеку, якім быў Пётр Пятровіч Прахарэнка.

*2011*

## Душа пісьменніка не прымірылася

22 чэрвеня — дзень смерці нашага вялікага пісьменніка і грамадзяніна Васіля Быкава. Пасля працы зайшоў схіліць галаву і пакласці кветкі на яго магілку. Ужо нікога з яго прыхільнікаў не было. Сімвалічна, што ён, які лічыўся загінуўшым на вайне і прозвішча якога выбіта на абеліску, памёр у дзень пачатку вайны. Добры просты помнік, многа кветак, свечкі гараць — радасна, што помняць. Але, агледзеўшы суседнія помнікі, неяк стала крыўдна, што ляжыць яго цела ў асяроддзі многіх тых партыйных дзеячаў вышэйшага рангу, якія не любілі яго за праўдзівыя творы пра вайну і жыццё, за яго непакорлівасць, самастойнасць духу, уціскалі так моцна, што ён быў вымушаны пакінуць бацькаўшчыну. Ды і сам пісьменнік не любіў гэтых прадстаўнікоў бальшавіцкай наменклатуры і, мусіць, не толькі пры жыцці, але і ў другім свеце не хацеў мець такіх суседзяў. А цяпер родная зямелька прытуліла і прымірыла ўсіх — і сяброў, і непрыяцеляў, але калі цела яго супакоілася з такім станам, дык душа пісьменніка напэўна не прымірылася…

*2011*

## Новы метад ацэнкі кошту падзей

У нашай «праваслаўна-духоўнай» дзяржаве кошт розных падзей і жыццёвых сітуацый чамусьці ўсё часцей сталі ацэньваць праз каўбасу. Так, калі рух «За свабоду» звярнуўся да ўлад не праводзіць урачысты ваенны парад 3 ліпеня 2011 г. у «Дзень незалежнасці», у сувязі з эканамічным крызісам, бо гэта мерапрыемства будзе вельмі дорага каштаваць. На што ад галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь атрымалі адказ, што тая падзея каштуе зусім танна: толькі 10 г каўбасы (праўда, самага таннага гатунку, а самай дарагой — па 1 г) на аднаго жыхара Беларусі. Мы зноў убачылі выдатна адрэпеціраванае на працягу месяца

шоу ваеннага парада з выклікаючай вялікае ўражанне тэхнікай. Парад прымалі кіраўнік дзяржавы ў ваеннай форме ці то маршала, ці генералісімуса і апрануты ў вайсковае адзенне Коля, якім усе генералы і іншыя вайскоўцы аддавалі чэсць.

*2011*

## Многія беларусы шкадуюць

У «Народнай волі» ад 21–23 жніўня было надрукавана апошняе інтэрв'ю Марыі Эйсмонт з Раманам Бяссмертным (ужо экс-паслом Украіны ў Беларусі), якое адбылося перад яго ад'ездам на радзіму. У прамове вельмі правільна адзначана: *«Наверное, многие белорусы с сожалением восприняли известие об отставке Посла Украины в Беларуси Романа Бессмертного»*. Ён хутка зразумеў сітуацыю ў Беларусі, блізка яе ўспрымаў, шчыра аб ёй гаварыў і выказваў сваю думку адкрыта, без усялякіх «дыпламатычных хітрыкаў». Беларусы дэмакратычных поглядаў вельмі шанавалі і паважалі гэтага дзеяча. Хочацца нагадаць некаторыя яго выказванні з інтэрв'ю, бо *«он высказывал мнение стороннего человека, который наблюдал ситуацию в Беларуси изнутри»*.

*«Всё, что происходит сегодня в Беларуси, давно вышло за рамки общечеловеческих принципов и пониманий. […] Честно сказать: я себя сдерживаю, чтобы не назвать происходящее так, как оно этого заслуживает».*

*«Есть уникальный инструмент борьбы с кризисом — это демократия. […] Беларусь демонстрирует другой пример, когда власть заявляет: «У нас всё о'кей…» […] А первое, что следует делать, когда мы пытаемся бороться против кризиса, — постараться понять, что происходит, каковы причины этого явления, и тогда начинать бороться с ним».*

*«…я уже не знаю, возможен ли теперь диалог белорусской власти и народа. […] Я не вижу инструментов в решении политического кризиса в Беларуси, механизмов, которые*

*подсказали бы, куда надо двигаться: парламент парализован, правительство никак не связано с парламентом, всё зависит от одного человека и небольшой группы приближенных лиц».*

*«Я не вижу, если смотреть математически на рынок как таковой, что Беларусь выиграет в первенстве от участия в Таможенном союзе. Слишком ограничен этот рынок. [...] Поэтому возникает вопрос: не носит ли этот союз политический характер?»*

*«Меня иногда удивляло, почему, если человек критикует, к нему такое озлобленное отношение белорусской власти? Ведь, критикуя, он подсказывает, какие есть проблемы. Еще лучше, когда, критикуя, предлагают эти проблемы решить. [...] Но, видимо, белорусская власть не хочет признать, что зашла в тупик. Это, конечно, тяжело. Но при желании поправимо. Когда в заложниках оказались более 9 миллионов человек, тогда возникает вопрос о человеческих качествах, а не о профессиональных».*

*«...украинцам можно позавидовать: за 20 лет в стране четвертый новый президент, периодически в стране происходят изменения».*

*«Я очень счастлив, что судьба распорядилась так, что я узнал великий белорусский народ с его величайшей культурой и историей. Беларусь имеет огромнейшие перспективы, это большая европейская страна и всё в Беларуси будет хорошо, и случится это достаточно быстро. В стране выросло новое поколение. Оно по-другому смотрит на этот мир. Оно абсолютно открыто для мира, общается со всем миром и понимает, что не может быть счастья только в одном отдельном городе, поселке, государстве. И что касается нынешних трудностей, то они временны. Всё меняется и всё проходит. Я наблюдаю за развитием ситуации в Беларуси последние месяцы — общество свое берет, чтобы власть ни делала, если она противна народу, народ найдет способ, как ее поменять».*

Можна згаджацца з выказваннямі і думкамі Рамана Пятровіча ці не згаджацца, але яны цікавыя і прымушаюць чытача задумацца пра сітуацыю ў краіне…

*2011*

## Даследчык «невядомых» старонак гісторыі Беларусі

У самым канцы жніўня 2011 г. я разам з жонкай прыляцелі з еўрапейскай Поўначы, дзе адпачывалі на працягу месяца. Адарваліся ад беларускага жыцця, ад тых шматлікіх адмоўных «падарункаў» гэтага цяжкага года і таму, падмацаваўшыся і фізічна, і асабліва маральна, радасна ступілі на родную зямлю. Прахалода краін Поўначы змянілася вялікай гарачынёй таго лета, якое доўга трымалася ў Беларусі. Каб даведацца мінулыя месячныя «навіны», узяў добрую стопку розных газет, паехалі на сваім старым заслужаным «Жыгулі» на ўсе выхадныя дні на лецішча, дзе можна было ў больш прахалоднай, чым ў горадзе, тэмпературы спакойна пачытаць газеты. Раптоўна добры настрой знік, сэрца абарвалася: з жудасцю, не верачы сваім вачам, прачытаў: «На 64-м годзе жыцця памёр Віталь Скалабан».

В. Скалабан — вядомы беларускі гісторык, літаратуразнаўца, архівіст. З Віталем Уладзіміравічам я пазнаёміўся яшчэ тады, калі ён актыўна працаваў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя», асабліва многа зрабіў як загадчык рэдакцыі і адзін з заснавальнікаў і творцаў выдатнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Як член рэдкалегіі «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» (1983–1986), член навукова-рэдакцыйнага савета (з 1991 г.), а затым і член рэдкалегіі «Беларускай энцыклапедыі», я меў магчымасць многа разоў весці цікавыя размовы з гэтым добрым знаўцам гісторыі Беларусі, які ўжо тады шырока ведаў дакументальныя крыніцы. Часта сустракаўся з ім, калі ён працаваў намеснікам дырэктара Навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, які знаходзіўся ў былым

будынку Інбелкульта (вул. Рэвалюцыйная, 15), дзе змяшчалася і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», а я быў яго прэзідэнтам. Заўсёды Віталь Уладзіміравіч быў заклапочаны многімі справамі, таму ў яго было мала часу, бо ён звычайна спяшаўся ў іншае месца, дзе яго ўжо чакалі. Нягледзячы на досыць паўнаватую, салідную постаць, ён быў вельмі жвавы, з добразычлівым, усмешлівым позіркам разумных вачэй. Ён друкаваў шмат цікавых артыкулаў пра свае знаходкі (у тым ліку пра аўтарства «Тараса на Парнасе»), пісаў п’есы, сцэнарыі дакументальна-мастацкіх фільмаў. Ён апантана займаўся даследаваннямі беларускага нацыянальнага руху, культуры, пытаннямі архівазнаўства, краязнаўства. Яму задалося знайсці і давесці да шырокага чытача многія малавядомыя цікавыя факты жыцця і творчасці беларускіх пісьменнікаў, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, у тым ліку М. М. Улашчыка, Міхася Мілешкі, Р. П. Платонава, М. В. Доўнар-Запольскага і інш. Вядомы яго сцэнарыі да дакументальна-мастацкіх тэлефільмаў пра З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, Я. Купалу і інш.

У 1993 г. намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН Беларусі Міхась Біч і кіраўнік аддзела археалогіі Міхась Чарняўскі вырашылі стварыць Фонд імя братоў Луцкевічаў і прапанавалі мне стаць прэзідэнтам фонду. Калі да мяне ў кабінет віцэ-прэзідэнта АН Беларусі прыехаў прадстаўнік Мінюста, каб уручыць нам дакумент пра афіцыйную рэгістрацыю фонду, дык сярод сяброў праўлення фонду быў і Віталь Скалабан.

Асабліва блізкі мне стаў В. Скалабан, калі ён у апошняе дзесяцігоддзе перайшоў на працу ў Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь і яшчэ больш інтэнсіўна пачаў збіраць матэрыялы пра жыццё і творчасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Віталь Уладзіміравіч амаль з самага пачатку стварэння Гарэцкіх чытанняў прыняў у іх удзел, а троху пазней стаў сябрам Рэспубліканскага фонду імя братоў Гарэцкіх, які быў зарэгістраваны ў 1997 г., пастаянным удзельнікам аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Гарэцкіх чытанняў. У час сустрэч аргкамітэта ён заў-

сёды ўносіў у нашы пасяджэнні нейкую дадатковую жвавасць, гумар, хоць яго і так хапала, дзякуючы М. В. Мушынскаму. Часта ён дзяліўся з намі сваімі новымі архіўнымі знаходкамі.

Яшчэ на Шостых Гарэцкіх чытаннях, якія прайшлі ў Горках, 18–20 чэрвеня 1997 г., а матэрыялы дакладаў надрукаваны Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску ў 2000 г., В. Скалабан зрабіў цікавы даклад на тэму: «Проза Максіма Гарэцкага як гістарычная крыніца (на матэрыяле апавядання «Усебеларускі з’езд 1917-га году»)». Аўтар даклада нагадвае, што гэты твор М. Гарэцкага ўпершыню быў надрукаваны ў віленскай газеце «Беларускі звон» ад 1 верасня 1922 г., а потым передрукаваны ў «Творах» у 1990 г. Скалабан дэталёва параўнаў тэксты розных гадоў выдання і знайшоў шэраг важных адрозненняў, таму ён прыйшоў да высновы, што гісторыку лепш звяртацца да першай і адзінай прыжыццёвай публікацыі апавядання. Ён правёў параўнальны аналіз апавядання з творамі на тэму з’езда і іншых аўтараў і ўпэўніўся ў тым, што М. Гарэцкі вельмі праўдзіва і дасканала асвяціў галоўныя падзеі і настрой з’езда.

Шэраг даследчыкаў дзівіліся, якім чынам М. Гарэцкі змог так яскрава і дакладна апісаць падзеі, якія адбыліся на з’ездзе, калі, як вядома, ён у той час жыў у Смаленску і на з’ездзе не прысутнічаў. Аднак адносна нядаўна У. І. Содаль надрукаваў некаторыя лісты да яго Зоські Верас, і ў адным з іх яна згадвае той з’езд і сцвярджае, што бачыла сярод прысутных і Максіма Гарэцкага. Магчыма, і праўда, што на адкрыццё з’езда ён прыехаў у Менск са Смаленска.

У 2000 г. у Мінску выйшла з друку асобная кніжка «Максім Гарэцкі. Публіцыстыка. 1918–1919 гг.». Укладальнікі В. Д. Селяменеў, В. У. Скалабан. Яе мне Віталь Уладзіміравіч падараваў з такім надпісам: «Дарагому Радзіму Гарэцкаму — Прэзідэнту Рэспубліканскага фонду імя братоў Гарэцкіх, з падзякай за дапамогу — 9.06.2000. В. Скалабан». У кнізе «ўпершыню ўводзяцца ў навуковы абыходак тэксты артыкулаў, рэпарта-

жаў, інтэрв'ю, інфармацыяў, што друкаваліся М. Гарэцкім у савецкіх газетах Смаленска, Менска і Вільні» — так напісана ў анатацыі.

У прадмове да кнігі «Смаленск–Менск–Вільня, ці На шляху да поўнага збору твораў Максіма Гарэцкага» В. У. Скалабан нагадвае пра асноўныя моманты доўгага і драматычнага вяртання М. Гарэцкага да чытача. Як падкрэсліў аўтар прадмовы, яны *«пераканаўча засведчылі талент, інтэлект і здзіўляючую сумленнасць Адраджэнца — майстра прыгожага пісьменства, вучонага, журналіста, перакладчыка, фальклярыста Максіма Гарэцкага». Наперадзе — выданне Поўнага збору твораў М. Гарэцкага. Гэтаму павінна папярэднічаць вялікая падрыхтоўчая праца, сумесныя клопаты літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, бібліёграфаў, архівістаў, бібліятэчных і музейных работнікаў.*

*«Смаленск–Мінск–Вільня» — менавіта пад такой назвай Максім Гарэцкі, скарыстаўшы псеўданім Дзед Кузьма, 9 жніўня 1927 года ў «Звяздзе» сярод матэрыялаў, прысвечаных 10-гадоваму юбілею газеты, змясціў успаміны.*

*[...] Зборнік мае на мэце перш за усё пазнаёміць чытача з аўтарскімі тэкстамі М. Гарэцкага, падкрэсліць неабходнасць мэтанакіраванай працы па падрыхтоўцы Поўнага збору твораў пісьменніка, звярнуць увагу грамадскасці на інфармацыйныя рэсурсы газетных збораў, што захоўваюцца ў архіўных сховішчах»*.

Папярэдне некаторыя асобныя матэрыялы зборніка В. У. Скалабан надрукаваў троху раней у часопісе «Нёман» (1998), газеце «Голас Радзімы» (1999), у зборніку, выдадзеным у Смаленску (1999), а таксама выступіў на VIII Гарэцкіх чытаннях (1999) з дакладам «Невядомы М. Гарэцкі. 1918–1919 гг. З попыты падрыхтоўкі зборніка».

На XII Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 4 мая 2004 г.) В. У. Скалабан зрабіў даклад «Невядомыя лісты Максіма Гарэцкага», а на XIII чытаннях (Мінск, 16 чэрвеня 2005 г.) выступіў разам

з Канстанцінам Аркадзевічам Нарушэвічам (вядучы архівіст Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь) з дакладам «Гаўрыла Гарэцкі ў часе Вялікай Айчынай вайны: «Мы з Вамі будзем працаваць у Беларусі…». У апошнім дакладзе аўтары прывялі невядомы чытачам ліст С. Г. Каляснёва[1] сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку аб неабходнасці стварэння групы навукоўцаў для вызначэння заходняй мяжы СССР ад 9 ліпеня 1943 г., у якім прапанаваў у склад такой камісіі ўключыць Г. І. Гарэцкага. Апрача таго, яны прывялі перапіску Прэзідыума АН БССР з начальнікам Гідрапраекта НКУС С. Я. Жуком з просьбай адкамандзіраваць Г. І. Гарэцкага ў БССР, на што атрымалі адмоўны адказ. Таксама змясцілі пратакол пасяджэння камісіі па падрыхтоўцы матэрыялаў да сесіі АН БССР (1943–1945), у якім быў прыведзены спіс кандыдатаў у акадэмікі і членыкарэспандэнты, у якім сярод іншых значыліся Г. І. Гарэцкі, С. Г. Каляснёў, П. К. Панамарэнка.

В. У. Скалабан прыцягнуў да ўдзелу ў Гарэцкіх чытаннях супрацоўніцу свайго адзела Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Аляксандру Гесь, якая зрабіла некалькі змястоўных дакладаў: на VII чытаннях (1999) «Невядомы ліст М. Гарэцкага да В. Міцкевіча-Капсукаса»; на XI чытаннях (2003) «Максім Гарэцкі і савецка-літоўскія дачыненні (1920)»: на XII чытаннях (2004) — «Максім Гарэцкі і беларусізацыя». З вялікім сумам прыходзіцца адзначыць, што А. Гесь таксама адышла ад нас у 2011 г.

На XVIII Гарэцкіх чытаннях (11 чэрвеня 2010 г.) В. У. Скалабан разам з М. У. Токаравым зрабіў даклад на тэму «Браты Гарэцкія і Інбелкульт. Новыя матэрыялы», а да 90-годдзя Інбелкульта выдалі асобную кнігу «Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. Дакументы і матэрыялы» (Мінск : Беларуская навука, 2011).

---

[1] Каляснёў Самуіл Георгіевіч (1896–1970) — прафесар Ціміразеўскай с.-г. акадэміі, доктар эканамічных навук, акадэмік УАСГНІЛ, член ВКП(б) з 1919 г., блізкі сябра Г. І. Гарэцкага з юнацкіх гадоў.

Тут прыведзены шэраг дакументаў, якія ўдакладняюць удзел братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкага ў працы Інбелкульта і аб перайменаванні і рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук. 8–9 снежня 2011 г. адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя «Інстытут беларускай культуры і станаўленне навукі ў Беларусі (да 90-годдзя стварэння Інстытута беларускай культуры)», на якой, на жаль, Віталь Уладзіміравіч ужо не мог быць, але яго імя з удзячнасцю ўзгадвалася за яго даследаванні цікавых, невядомых старонак гісторыі Беларусі, у тым ліку Інбелкульта і АН Беларусі.

*2011*

## Выдатны паэт-лірык і грамадзянін

28 жніўня 2011 г. майму сябру Генадзю Бураўкіну споўнілася 75 гадоў. Але павіншаваць яго не ўдалося, бо я быў яшчэ ў адпачынку ў Паўночнай Еўропе, а сам юбіляр у гэты дзень удзельнічаў у Пазачарговай канферэнцыі беларусаў краін Балтыі і Беларусі, арганізаванай Таварыствам беларускай культуры ў Літве. Мабільнік чамусьці не адказваў. У юбілейныя дні неяк само сабой думаецца пра юбіляра, пра тое, што ён значыць для цябе, краіны, людзей…

Перш-наперш Генадзь Мікалаевіч цудоўны паэт-лірык. Адкуль гэта? Безумоўна, ад маці, Бога і неба. Але ў жыцці амаль кожнага чалавека бываюць такія моманты, якія моцна ўплываюць на яго, а нярэдка робяць велізарны адбітак на яго духоўнае становішча. Такі выпадак адбыўся з Генадзем, які належыць да пакалення «дзяцей вайны», ужо ў канцы акупацыі. Карнікі з паліцаямі загналі жыхароў сяла, у тым ліку і яго з маткай, у лазню, забілі дзверы цвікамі і хацелі спаліць. Выратаваў іх сівы немец, які зламаў запасныя дзверы на другім баку лазні — і яны збеглі ў лес. Калі б не той немец, не было б Генадзя Бураўкіна. Парадокс жыцця: вялікую падзяку ўсе мы павінны сказаць таму немцу, тагачаснаму ворагу. Сярод

ворагаў таксама ёсць людзі — усюды «людзі і звяры». З таго часу Генадзь не дзеліць людзей і іх учынкі, як гэта ў нас часта бывае, толькі на «белых і чорных», «нашых і нянашых», «сваіх і чужых», не бачыць жыццё і яго праявы толькі ў дзвюх фарбах. Ён жыццё і людзей бачыць многакаляровым з вялікай колькасцю тонкіх, другі раз непрыкметных адценняў, дэталёва вывучае і адчувае разнастайную чалавечую сутнасць, такія складаныя пачуцці сэрца і душы чалавека — вось таму і стаў сапраўдным народным паэтам.

За што беларусы любяць Генадзя Мікалаевіча? Галоўнае — за яго поўную адданасць беларушчыне. Ён усім сэрцам любіць сваю Бацькаўшчыну, родны народ і яго цудоўную мілагучную мову, з замілаваннем адчувае прыгожыя беларускія краявіды і ўсю прыроду. А беларуская троху сумна-філасофская шматкаляровая восень для яго — час натхнення. Яго прызванне — апантана служыць роднаму слову. Генадзь Бураўкін — адзін з самых выдатных паэтаў-лірыкаў. Усё, пра што ён піша, прайшло праз яго сэрца — не толькі пякучыя вершы пра каханне ці прыроду, але і пра ўсе з'явы жыцця. Бураўкін — бліскучы журналіст, публіцыст, майстра перакладу. Мэта яго літаратурнай дзейнасці — паказаць духоўны свет чалавека, яго жыццё ў самых глыбінных праявах, прычым усё гэта на рэалістычнай аснове, а не вылучыцца шляхам арыгінальных прыёмаў вершавання.

Генадзь Бураўкін заўсёды цвёрда стаіць на баку праўды (нават якой бы яна ні была горкай), на пазіцыі сумленнасці і справядлівасці, што нярэдка прыводзіла яго да непрыемных момантаў, бо ён вельмі горача і эмацыянальна ўспрымае падзеі і ўчынкі, у якіх не бачыць гэтых якасцей. Ён не абыякавы, не раўнадушны, а яго выбуховыя супярэчнасці і рэзкая крытыка ўзнікаюць ад сэрца і заўсёды не злыя, справядлівыя, і ён звычайна хутка адходлівы.

Генадзь Бураўкін — прынцыповы і смелы чалавек не толькі ў сваіх думках і развагах, але і ў дзеяннях. Дастаткова ўспом-

ніць яго арганізацыю разам з Анатолем Вярцінскім і Нілам Гілевічам подпісаў у абарону Васіля Быкава, упартасць і ахвярнасць пры стварэнні сапраўды беларускай нацыянальнай праграмы на тэлебачанні, арганізацыя Усебеларускага з'езда за незалежнасць, калі ўся чыноўніцкая раць на чале з яе кіраўніком імкнуліся да аб'яднання, а то і ўвайсці ў склад Расіі, а думкі пра незалежнасць былі крамолай. Тады ж я, працуючы разам з Генадзем сустаршынёю аргкамітэта, убачыў яго выдатныя арганізацыйныя і лідарскія здольнасці.

Грамадская і дзяржаўная дзейнасць Бураўкіна выклікае здзіўленне сваімі вялікімі дасягненнямі: карэспандэнт газеты «Праўда» па БССР, старшыня Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», намеснік міністра культуры і друку, дыпламат, дэпутат і інш.

Генадзь Мікалаевіч Бураўкін — даўно народны паэт, класік беларускай літаратуры, выдатны дзяржаўны і грамадскі дзеяч, адзін з лепшых прадстаўнікоў адраджэнцкай нацыянальнай інтэлігенцыі. Пакуль будуць такія постаці, будзе вечна жыць Беларусь!

* * *

14 верасня адбылася афіцыйная вечарына, прысвечаная 75-годдзю Генадзя Бураўкіна. Вось як апісала гэтую сустрэчу Святлана Кліменцэнка ў газеце «Народная Воля» (№ 141–142 ад 16 верасня 2011 г.):

*«Немагчыма апісаць, што рабілася пазаўчора вечарам на свяце, якое ладзіла МГА «Бацькаўшчына» ў гонар 75-гадовага юбілею найвыдатнага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна. Справа ў тым, што праходзіла вечарына ў сутарэнні без вокнаў, дзе раней месціўся... пункт прыёму шклотары. Дальбог не хлушу. Іншай, больш годнай і ўмяшчальнай залы для ўшанавання такога слыннага творцы і грамадзяніна ў дзяржавы не знайшлося: у спісе аблашчаных ёю няма месца*

*самым лепшым, самым таленавітым, заслужаным дзеячам нацыянальнай культуры.*

*Але наша «самая дэмакратычная ў свеце» дзяржава юбілей Бураўкіна ўсё ж не абмінула ўвагай, прыслала «ганаровую варту» — ажно два аўтобусы з амапаўцамі былі прыпаркаваныя ў двары будынка галерэі «Ў». Пэўна, згодна з логікай, што калі па турмах у нас сядзяць «достойные люди», то тут, на волі святкуюць, радуюцца, чытаюць вершы, спяваюць, жартуюць і — не таю — нават бяруць чарку спрэс непапраўныя бандыты-адмарозкі...*

*Прызнаюся, цяжкавата было дыхаць і стаяць тры гадзіны, шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго, стараючыся не прапусціць ніводнага слова, калі з-за дзвярэй даносіўся глухі шум натоўпу з тых, каму не пашчасціла ўбіцца ў памяшканне.*

*[...] У вядоўцы вечара — бліскучага паэта Леаніда Дранько-Майсюка — з'явілася магчымасць прадэманстраваць яшчэ адзін свой талент — умельства весці рэй і разрульваць складаныя сітуацыі, калі вялікае мноства жадаючых ірвецца да мікрафона, міжволі ўступаючы ў канфлікт з бязлітасным словам «рэгламент»...*

*Але тое было свята! Хвалюючае, уздымнае, прасветленае, прасякнутае любоўю і ўдзячнасцю выдатнаму сыну Бацькаўшчыны. Добрыя вітальныя словы ад душы і сэрца сказалі шаноўнаму Генадзю Мікалаевічу старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч і знакаміты паэт і грамадскі дзеяч Уладзімір Някляеў; вядомы публіцыст Аляксандр Уліцёнак і народны артыст Беларусі, кінарэжысёр Віктар Дашук; паэт Васіль Зуёнак і народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч; намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца і акадэмік Радзім Гарэцкі; мастак Алесь Пушкін з гуртом юных аматараў паэзіі і народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка; паэт Анатоль Вярцінскі і рэдактар інтэрнэт-выдання «Салідарнасць» Алесь Старыкевіч, старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» Алег Трусаў*

*і знаны празаік Віктар Казько; паэт Андрэй Хадановіч і былы старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч; прафесар Леанід Лыч і іншыя. Са шчырымі прывітаннямі выступілі першы сакратар амбасады ЗША Крыстафер Паніка і пасол Швецыі Стэфан Эрыксан. Спяваў папулярны бард Зміцер Вайцюшкевіч. Зачытваліся віншавальныя пасланні ад народнага паэта Ніла Гілевіча і старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, грамадскага дзеяча Сяргея Навумчыка.*

*[...] Але ўжо з гэтага рэестра відаць, што дастойнага з дастойных сабраліся ўганараваць такія ж дастойныя, годныя людзі — можна сказаць, цвет беларускай нацыі. І ўсе былі аднадушныя ў перакананні: Генадзь Бураўкін — паэт даўно народны!*

*[...] Нядзіўна, што ў перапоўненай зале так натхнёна і шматгалосна гучала: «Жыве Бураўкін! Жыве паэзія! Жыве Беларусь!»*

Як ні дзіўна, але ніводная з дзяржаўных газет, часопісаў, радыё і тэлебачанне не адзначылі юбілей паэта, нават «Літаратура і мастацтва», «Культура», а таксама часопіс «Маладосць», у якім ён быў галоўным рэдактарам. Не атрымаў віншавання паэт і былы дзяржаўны дзеяч Беларусі ад уладных структур у адрозненне ад народнага артыста Расіі А. Разенбаўма, якога ў гэтыя дні сардэчна павіншаваў з юбілеем кіраўнік беларускай дзяржавы. Але беларускі народ і многія яго прадстаўнікі шчыра віталі Генадзя Бураўкіна і выказвалі яму вялікую падзяку за яго цудоўную паэзію, літаратурную дзейнасць, мужнасць, грамадзянскую пазіцыю на шляху нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны.

*2011*

## «Дзве душы»

На сустрэчы ў гонар 75-годдзя Генадзя Бураўкіна да мяне падышоў Валер Мазынскі — знакаміты тэатральны рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў — і спытаў: «У вас ёсць «Дзве душы»? Я падумаў, што пытанне тычыцца аповесці Максіма Гарэцкага, якая адносна нядаўна, у 2008 г., выйшла асобнай кніжкай у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аказалася, што размова ідзе пра новую аўдыякнігу «Дзве душы», якую прачытаў В. Мазынскі. Нашага вядомага рэжысёра я ведаю даўно, з захапленнем сачыў за яго выдатнымі пастаноўкамі, а некаторыя з іх задалося і паглядзець. У пачатку новага стагоддзя нейкія бандзюгі пачалі збіваць прадстаўнікоў «вальнадумнай» інтэлігенцыі, прычым рабілася гэта аднолькава: прафесійным прыёмам (непрыкметна тупым цвёрдым прадметам са спіны па галаве) каля сваіх дамоў у вячэрні час. У лік «недабіткаў» (як жартам назваў іх А. В. Мальдзіс) трапілі Ю. Хашчавацкі, В. Мазынскі, А. Кароль, А. Мальдзіс, С. Законнікаў і інш. Я ў самым пачатку 2003 г. замкнуў гэты спіс. Як бачна, я з Валерам разам апынуўся нават у такой «знакамітай» кампаніі.

Праз некалькі дзён пасля нашай сустрэчы на юбілеі В. Мазынскі падараваў мне сваю аўдыёкнігу, у якой змешчаны такія творы М. Гарэцкага: апавяданні «Літоўскі хутарок», «Роднае карэнне», «Рускі» і аповесць «Дзве душы». Агульны час гучання — 6 гадзінаў 58 хвілінаў. Запіс, гукавое і музычнае афармленне — Алесь Калоша. Дызайн — Сяргей Ждановіч. З вялікай асалодай праслухаў аўдыёкнігу, якую з выдатным мастацкім густам прачытаў Валер Мазынскі. Шчырая падзяка ўсяму калектыву стваральнікаў аўдыёкасеты і асабліва выканаўцу, чый голас так пранікнёна перадае змест твораў пісьменніка. Я рады, што да мінулай аўдыёкасеты Алега Вінярскага «На імперыялістычнай вайне» дабавілася новая.

*2011*

# Волат беларушчыны

Усё жыццё і творчасць Ніла Гілевіча, якому 30 верасня 2011 г. споўнілася 80 гадоў, прасякнуты беларускасцю. З дзяцінства, увабраўшы ад маці і землякоў прыгожай Лагойшчыны любоў да мілагучнага роднага слова, народных песень і фальклору, ён на ўсё жыццё застаўся зачараваны Бацькаўшчынай, якой апантана аддае для яе росквіту моц душы і сэрца. Гэтыя пачуцці і магутны талент ад прыроды дазволілі яму стаць народным паэтам Беларусі, выдатным навукоўцам, педагогам, грамадскім і дзяржаўным дзеячам. Асабліва вялікую ўдзячнасць выгукае яго змаганне за беларускую мову, літаратуру, культуру, дзяржаўнасць краіны. Дастаткова ўзгадаць, што Ніл Гілевіч арганізаваў Таварыства беларускай мовы, быў стваральнікам і першым галоўным рэдактарам газеты «Наша слова», узначальваў Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета незалежнай Беларусі, быў адным з галоўных змагароў за наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай і г. д.

16-гадовы юнак даў сваю першую клятву, і гэтая клятва адносілася менавіта да роднай мовы, і ёй ён застаўся верным усё жыццё:

«Як ты дарага мне, родная мова!
Мілагучнае звонкае слова!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю —
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю яе пастаю!»

Родная мова для Ніла Гілевіча стала галоўнай тэмай не толькі яго літаратурнай працы, але і ўсяго яго жыцця, бо родная

мова — стрыжань беларушчыны. Менавіта мова ў першую чаргу зрабіла народнага паэта Беларусі сапраўдным нацыянальным адраджэнцам сучаснасці, які высока нясе светлы сцяг беларушчыны, узняты беларускімі адраджэнцамі пачатку мінулага стагоддзя.

Уся паэзія Ніла Гілевіча — гімн беларускай мове. Яго ўнікальная кніга «Любоў прасвятляе. Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове» (1999) — гэта лірыка-публіцыстычная хроніка пра мову, у якой яскрава і натхнёна гучыць гонар за беларускае слова і ў той жа час жах за магчымасць яго знішчэння, і цвёрдая вера ў яго вечнае жыццё. У прадмове сам аўтар пасля пераліку ўсіх аспектаў на тэму роднай мовы адзначыў: *«Над усім гэтым і ва ўсім — любоў да роднага слова, гонар за яго высокія прыродныя вартасці, радасць ад карыстання ім, боль за яго прыніжэнне варварамі-вандаламі, горыч за здраду яму саміх жа беларусаў, і — непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму роднаму слову, жыць вечна»*.

Трэба поўнасцю згадзіцца з Нілам Гілевічам, які многа разоў звяртаў увагу кіраўнікоў нашых дэмакратычнага кшталту партый і рухаў на неабходнасць у праграмы сваёй дзейнасці на першае месца ставіць праблему роднай мовы і беларушчыны. Можна дабіцца, што наша краіна стане дэмакратычнай, незалежнай, еўрапейскай, а ці будзе яна па-сапраўднаму беларускай Беларуссю?

Не так даўно Ніл Гілевіч сказаў мне: «Больш вершаў не пішу, бо ўсё, што хацеў, ужо сказаў». Але пасля гэтага не ўтрымаўся і, як сапраўдны Паэт і Грамадзянін, якога хвалюе жыццё краіны, адгукнуўся на апошнія падзеі-акцыі маўклівага супраціву моладзі, надрукаваўшы ў «Народнай волі» (8 ліпеня 2011 г.) выдатныя радкі вершаў — «Дзве страфы пра надзённа-вечнае», якія выклікалі вялікі рэзананс.

Віншую дарагога Ніла са слаўным юбілеем! Няхай неба дасць яму здароўе і сілы завершыць выданне галоўных вынікаў свайго жыцця, няхай яго сэрца не пакіне творчае натхненне,

каб мы маглі прачытаць яшчэ многа яго новых твораў, і самае важнае — каб усе беларусы свету разам з самім паэтам хутчэй дайшлі да сапраўднай беларускай Беларусі!

* * *

Свае 80-годдзе Ніл Гілевіч адзначаў у хаце. Была прапанова правесці сустрэчу ў тэатральнай зале Чырвонага касцёла прыблізна так, як раней адзначалі яго 70-годдзе, а гэта было выдатна, калі прыйшлі многія сотні людзей і ў перапоўненай галоўнай зале касцёла пад наглядам Уладзіслава Завальнюка і, здавалася, пры бласлаўленні самога Бога шчыра віншавалі знакамітага паэта, навукоўца, педагога, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча. Такое бывае толькі раз у жыцці. Філасофскае разуменне гэтага і стан здароўя не дазволілі паэту прыняць такую прапанову.

Ва ўсіх недзяржаўных газетах выйшлі публікацыі са шчырымі віншаваннямі, цікавымі змястоўнымі артыкуламі пра жыццё, творчасць і дзейнасць Ніла Гілевіча, асабліва вялікія ў «Народнай Волі». Таксама адгукнуліся часопіс «Полымя» вялікім артыкулам прафесара Мазырскага ўніверсітэта Т. С. Нуждзінай і газета «Звязда». Астатнія дзяржаўныя часопісы і газеты трымалі «гордое молчание», як быццам забыліся, што Ніл Гілевіч мае афіцыйнае званне народнага паэта Беларусі, якіх засталіся толькі адзінкі. Асабліва крыўдна і сорамна за «Літаратуру і мастацтва», «Настаўніцкую газету», «Савецкую Беларусь». Зразумела, ад сучаснага кіраўніцтва дзяржавы, якое кепска ставіцца да ўсякай беларускасці, тым больш і да такога занадта беларускага народнага паэта, ніякага віншавання не было. Больш важным юбілярам у пачатку кастрычніка быў «легендарный Афоня» — народны артыст Расіі Кураўлёў, якога павіншаваў сам галоўны начальнік Беларусі.

Але беларускі народ не забыў свайго Паэта: увесь гэты дзень і ў наступны прыходзілі родныя, сябры, знаёмыя дахаты з сардэчнымі віншаваннямі; тэлефон званіў бесперапынна

ад розных знаёмых і незнаёмых людзей — былых студэнтаў (зараз настаўнікаў школ, выкладчыкаў, дацэнтаў і прафесараў вышэйшых навучальных устаноў), многіх сяброў, калег па літаратуры і працы, прыхільнікаў яго таленту. Усе шчыра жадалі здароўя, натхнення, новых твораў і выказвалі вялікую ўдзячнасць за тое, што так шмат зрабіў гэты выдатны творца і дзеяч дзеля Бацькаўшчыны і беларускага народа.

*2011*

## Выдатны адраджэнец сучаснасці

5 лістапада 2011 г. адбылася прэзентацыя трох кніг вядомага гісторыка Леаніда Лыча, пра якую ў газеце «Народная Воля» паведаміла настаўніца Галіна Чыслава. Яна надрукавала артыкул «Кнігі Леаніда Лыча лечаць нашу нацыю ад манкурцтва», у якім пісала: *«Так вызначыў сутнасць таго, што робіць наш знаны гісторык для адраджэння нацыянальнай самасвядомасці, другі выдатны дзеяч адраджэнскай нівы — акадэмік НАН Беларусі Радзім Гарэцкі. Сугучныя з гэтым думкі выказалі на прэзентацыі новых прац прафесара Леаніда Лыча даследчык айчыннай гісторыі Анатоль Валахановіч, вядомыя паэты Генадзь Бураўкін і Яўген Гучок, іншыя выступоўцы, якія разам з прадстаўнікамі інтэлігенцыі і шырокай грамадскасці прыйшлі на сустрэчу, што адбылася днямі ў памяшканні сталічнай галерэі «Ў».*

*Усе сышліся на тым, што прадстаўленыя адразу тры кнігі аднаго аўтара — «Варыяцыі на нацыянальную тэму», «Магільнае ў часы нямецкай акупацыі» і «Нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі. 1941–1945 гг.» — з’ява ўнікальная. Такое па плячы толькі самаадданаму ў творчых і навуковых пошуках чалавеку, які, насуперак вельмі шаноўнаму ўзросту, радуе чытачоў шчодрым плёнам сваёй нястомнай працы. Глыбокі роздум над багатым, яшчэ нікім не даследаваным гістарычным матэрыялам, над лёсам Радзімы з яе мінулым і сучаснасцю,*

*праніклівы позірк у будучыню — вось галоўны лейтматыў кніг Леаніда Міхайлавіча. Вось што хвалюе і дае штуршок для новых і новых даследаванняў удумнага навукоўца-патрыёта, які марыць убачыць сваю краіну вольнай, шчаслівай, годнай, паважанай ва ўсім свеце. І таму доктар гістарычных навук Леанід Лыч жыве новымі творчымі задумамі. Вочы яго памаладому свецяцца, гавораць аб неспакоі сэрца і натхненні на адкрыццё пакуль не спазнаных астравоў у айчыннай гісторыі.*

*Удзячныя словы за навуковы і грамадзянскі подзвіг сыну беларускай зямлі, уся шчырая сяброўская атмасфера вечара былі лепшай узнагародай чалавеку, які прысвяціў жыццё і талент служэнню свайму народу, Радзіме. Засмуціла толькі, што не ўсе жадаючыя змаглі набыць кнігі Л. Лыча, — не хапіла, а ў кнігарнях іх не знойдзеш. Такім заслужаным перад краінай творцам шлях у дзяржаўныя выдавецтвы зачынены, іх творы выходзяць у свет мізэрнымі тыражамі за ўласны кошт (пенсію) аўтара — і адразу робяцца рарытэтнымі. Вялікі дзякуй «Народнай Волі», якая ахвотна прадастаўляе свае старонкі для публікацый вучонага, што нясе людзям праўду і абуджае беларускі дух».*

* * *

Нягледзячы на сталы ўзрост, працаздольнасць нашага выдатнага гісторыка-адраджэнца выклікае вялікае здзіўленне і павагу. Не толькі ў газеце «Народная Воля» можна часта прачытаць многія вострыя артыкулы на розныя падзеі нашага жыцця, асабліва на тэму нацыянальна-культурнай сітуацыі ў краіне і стану беларускай мовы, але ён выдаў значную колькасць грунтоўных кніг, тры з якіх прэзентаваліся сёння. У кнізе «Варыяцыі на нацыянальную тэму» (2011) паказана нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі больш чым за два стагоддзі яе гісторыі. Аўтара справядліва вельмі хвалявала праблема этнічнага выжывання, выратавання беларускага народа ад канчатковай культурна-моўнай асіміляцыі. Ён даска-

нала разбірае прычыны такой з’явы, паказвае, што дзяржаўная палітыка русіфікацыі — галоўны фактар страты этнакультурнай самабытнасці беларусаў, падкрэслівае ролю адукацыі ў гэтым працэсе, дэфіцыт нацыянальнай інтэлігенцыі і г. д. Галоўная мэта кнігі — абудзіць беларусаў і паказаць, што па-сапраўднаму лёсавызначальнай праблемай для беларускай нацыі з’яўляецца выратаванне ад надта рэальнай канчатковай нацыянальнай дэфармацыі.

Другая кніга прысвечана нацыянальна-культурнаму жыццю Беларусі на тэрыторыі функцыянавання нямецкага акупацыйнага рэжыму (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.) Трэцяя кніга — «Магільнае ў часы нямецкай акупацыі (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.). Успаміны». У гэтых кнігах аўтар праўдзіва знаёміць з незвычайным станам культурнага жыцця таго часу і па сваіх уласных успамінах расказвае пра цяжкае жыццё у яго родным кутку — мястэчку Магільнае і іншых пунктах Беларусі, прычым паказвае гісторыю таго часу не толькі як гераічную барацьбу партызан, а ўсю складаную супярэчнасць жыцця ў час вайны.

Для Леаніда Міхайлавіча характэрны вельмі шырокі дыяпазон тэм, якія ён распрацаваў, што можна бачыць з назваў некаторых з яго кніг і брашур: «Рэформа беларускага правапісу 1993 года: ідэалагічны аспект» (1993), «Назвы зямлі беларускай» (1994), «Беларуская ідэя ў постацях і здзяйсненнях» (2001), «Хрысціянства ў этнакультурным жыцці Беларусі (ад старажытнасці да 1917 г.) (2005), «Праблема захавання беларускай этнакультурнай прысутнасці ў славянскім свеце» (2006), «Татары Беларусі на пераломах сацыяльна-палітычных эпох (XX — пачатак XXI ст.)» (2007), «Гісторыя культуры Беларусі пад уладай Расійскай імперыі (канец XVIII ст. — 1917 г.)» (2007), «Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі (верасень 1943 — кастрычнік 1964 г.)» (2009), «Русіфікацыя» (2010), «Беларуская нацыянальная ідэя» (2010).

Кнігі Леаніда Міхайлавіча Лыча — бясцэнны кладзеж у справе нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі.

*2011*

## Пачуццё чалавечнасці

Цяжка ўявіць, што такому фізічна бадзёраму і маладому душой выдатнаму паэту Анатолю Вярцінскаму 18 лістапада 2011 г. споўнілася 80 гадоў. Пачуццё чалавечнасці і дабра пранізвае ўсю яго паэзію. Анатоль Вярцінскі — дзіця вайны — спазнаў змалку жахі і цяжкасці ліхалецця, рана пачаў разумець беды людзей, шчыра спачуваць ім і па магчымасці дапамагаць. Адсюль яго цікавасць да маральна-этычных праблем, барацьба супраць хлусні і подласці, страху і двурушнасці, усялякай несправядлівасці. Адсюль — імкненне да паразумення між людзьмі, вера ў ідэалы дабра, у любоў і каханне. Як нязломны адраджэнец беларускасці, Анатоль Ільіч агульначалавечыя праблемы разглядае праз прызму нацыянальнага, праз шчырую любоў да Беларусі, роднай прыроды, матчынай мовы, беларускай культуры.

Дасягнуўшы высокіх вяршынь майстэрства, Анатоль Вярцінскі стаў жывым класікам беларускай літаратуры.

Добразычлівасць і грамадзянская адказнасць ніколі не пакідалі яго і ў часы працы журналістам, асабліва галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», а таксама народным дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання. Трэба адзначыць яго важкі ўклад у выпрацоўку тэксту Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі і ў стварэнні новай Канстытуцыі краіны.

У свае 80 гадоў Анатоль Ільіч Вярцінскі поўны сіл, аптымізму, творчага запалу, чаго жадаю яму і надалей на многія-многія гады.

* * *

22 лістапада ў зале Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры паэт адзначыў свой юбілей. Вось што пра гэта ў «Народнай Волі» апавядала Святлана Кліменценка.

*«На юбілейнай вечарыне Анатоля Вярцінскага з нагоды яго 80-годдзя другі наш слынны паэт Леанід Дранько-Майсюк згадаў даўні выпадак з пары сваёй маладосці. У родным Давыд-Гарадку на Палессі пайшоў ён у кінатэатр, узяў білет на нейкі нашумелы фільм. Паколькі да пачатку сеанса заставаўся яшчэ ладны час, не стаў губляць яго дарэмна: зазірнуў у бліжэйшую кнігарню і выйшаў адтуль з кніжкай вершаў Анатоля Вярцінскага, якую прыдбаў за... 41 капейку. Прысеўшы на лаву, разгарнуў яе — і забыўся пра ўсё на свеце, нібы трапіўшы ў магічнае кола. Ачомаўся, толькі прачытаўшы апошнюю старонку, і зразумеў: «Кіна не будзе!» Сеанс даўно скончыўся...*

*Ды хлопец, сам апантаны паэзіяй, зусім не шкадаваў аб тым. Не, не на 41 капейку цягнула гэтая кніжка! Для яго — куды больш дарагая. Настолькі дарагая, што — праз не адно дзесяцігоддзе — беражліва захоўвае яе разам з тым нявыкарыстаным квітком у кіно. І, сам ужо прызнаны літаратурны мэтр, прынёс і кніжку, і той квіток на свята старэйшага сябра. Горача павіншаваў, папрасіў аўтограф і — не здолеў расстацца з рарытэтам, пазбавіўшы юбіляра такога знакавага патэнцыяльнага падарунка. Аднак Анатоль Ільіч не пакрыўдзіўся, бо расказаная з гумарам, надзеленая глыбокім сэнсам гісторыя сама сталася падарункам віноўніку ўрачыстасці і ўсім прысутным.*

*Такіх запамінальных момантаў было шмат: без усялякіх «многоуважаемых шкафов», са смяшынкай-весялінкай казалі сур'ёзныя рэчы аб ганаровым месцы паэта Анатоля Вярцінскага ў нацыянальнай і еўрапейскай культуры, штрых да штрыха складалі партрэт цудоўнага чалавека.*

*Алесь Разанаў падзяліўся ўспамінам, як, прыдбаўшы лецішча паблізу сядзібы Вярцінскага, зазірнуў да суседа:*

*— Быў я тады зусім разгублены, не ведаў, з чаго пачынаць: адны голыя сцены, нават святла няма. «А вось з гэтага і пачынай, — кажа Анатоль Ільіч і падае мне лямпачку. — Не бядуй, браце, усё наладзіцца». — «Здорава, лямпачка Ільіча —*

*ад Ільіча», — скаламбурыў я. «Не блытай, — ад Анатоля Ільіча», — паправіў ён.*

*У звычайнай жыцейскай дробязі Алесю ўбачылася сімвалічнае: ні на кога не падобны паэт, які з'явіўся ў літаратуры выключэннем з агульнапрынятага правіла, асвятліў не толькі жытло маладзейшаму таварышу, а і шлях да самога сябе, пошуку ўласнага, непаўторнага паэтычнага аблічча.*

*Быць самім сабою ён умее! — перакананы і Васіль Зуёнак. — Гэта ўсёабдымны чалавечы знак, боская адмеціна, што ў кожным ягоным радку.*

*— А вы ведаеце навуковае адкрыццё, што слова ўздзейнічае на ДНК чалавека, яго лёс? — усклікнуў прафесар, доктар медыцынскіх навук і сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Эдуард Бароўскі. — Вось бы падлічыць, колькі людзей uратаваў і ратуе Вярцінскі сваім словам!*

*— Ратуе, бо валодае найвышэйшай чалавечай мудрасцю — дабрынёй, — пацвердзіў акадэмік НАН Беларусі Радзім Гарэцкі. — І таму Рада МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» лічыць і вас, шаноўны Анатоль Ільіч, адным з волатаў, на якіх трымаецца зямля.*

*Словы вітання ад шчырага сэрца сказалі юбіляру Генадзь Бураўкін і Алесь Пашкевіч, Адам Мальдзіс і Уладзімір Арлоў, Леанід Дайнека і Уладзімір Някляеў, Міхась Скобла і Рыгор Сітніца, Барыс Пятровіч і Эдуард Акулін, Васіль Жуковіч і Уладзімір Сіўчыкаў — самі неардынарныя, адораныя Богам асобы, лепшыя прадстаўнікі творчай, інтэлектуальнай эліты сучаснай Беларусі.*

*Шчаслівы 80-гадовы паэт маладзеў на вачах, і было відавочна, як чуйнаму творцу, ды і кожнаму чалавеку, трэба пры жыцці пачуць ад тых, каму верыш, чаго ты варты, — калі, канечне, насамрэч чагосьці варты. І чэрпаць у тым сілы ісці далей. І аддаваць, аддаваць спаўна людзям назапашанае ў скарбонцы душы, поўніцца творчай энергіяй для новых пошукаў і*

*адкрыццяў. А яшчэ — быць вышэй рознага кшталту выпадаў нядобразычліўцаў.*

*[…] Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», які пазіцыянуе сябе «газетай для творчай інтэлігенцыі Беларусі» цалкам і поўнасцю праігнараваў 80-гадовы юбілей выдатнага паэта Анатоля Вярцінскага, які, дарэчы, быў у перабудовачны час галоўным рэдактарам «ЛіМа». Менавіта тады газета дасягнула найвышэйшай планкі і па колькасці чытачоў, і па цікавасці да выдання.*

*[…] Анатоль Вярцінскі быў абраны дэпутатам і з годнасцю апраўдаў высокі давер сваіх выбаршчыкаў. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцці першай Канстытуцыі толькі-толькі набыўшай незалежнасць і суверэннасць Рэспублікі Беларусь, іншых лёсавызначальных законаў, спрыяў таму, каб яны жылі, дзейнічалі.*

*Са спыненнем тэрміну дэпутацтва Анатоль Ільіч зноў акунуўся ў творчую працу. Але ўсё, што адбывалася і адбываецца з краінай і ў краіне, глыбока хвалявала і дагэтуль хвалюе паэта, нараджае новыя і новыя вершы і публіцыстычныя артыкулы — такія ж яркія, высокамастацкія і натхнёныя, як і раней. (На юбілейнай вечарыне сябры чыталі ягоныя вершы з непадробным эмацыйным запалам, бы свае ўласныя.)».*

*2011*

## Эрнэсту Ялугіну — 75

Ужо 19 лістапада павіншаваў другога юбіляра — Эрнэста Ялугіна — вядомага пісьменніка і журналіста, які надрукаваў шмат цікавых нарысаў і апавяданняў. У іх ён яскрава раскрыў многія жыццёвыя моманты сучаснасці, а таксама асаблівасці творчасці знакамітых беларускіх дзеячаў, у тым ліку Васіля Быкава, Цішкі Гартнага, Адама Мальдзіса, Міколы Улашчыка і інш. Калі ў 60-х гадах Уладзімір Караткевіч стварыў беларускую гістарычную літаратуру, Эрнэст Ялугін далучыўся да той вядомай кагорты пісьменнікаў гістарычнага жанру, якая стала самай прыцягальнай для беларускага чытача. Ён выдаў шырока вядомы раман «Мсціслаўцаў посах», у якім паказаў жыццёвы і творчы шлях аднаго з першых беларускіх друкароў і асветнікаў Пятра Мсціслаўца. Не менш папулярнымі былі яго творы «Камні Млечнага шляху», «Апошні князь» і інш.

Добра ведаючы жыццё Алжыра (раман «Астравы», аповесць «Год-другі ў Алжыры»), Эрнэст Ялугін адносна нядаўна надрукаваў новы раман «Алжырская пастка» (2004), які абазначыў як «гістарычны крымінальны раман». Аўтар выдатна асвяціў сучасны гістарычны перыяд нашай краіны, прычым зрабіў гэта вельмі аб’ектыўна, праўдзіва і рэалістычна, узняўшы самыя балючыя нацыянальныя праблемы: стан беларускай мовы і культуры; жыццё грамадзяніна ў палітычнай супярэчнасці краіны; страх і няўпэўненасць людзей, асабліва свядомай інтэлігенцыі, якая жыве пад пільным наглядам адпаведных сілавых структур, што яшчэ не забыліся пра метады сумна вядомых трыццатых гадоў мінулага стагоддзя; складаныя лёсы беларусаў, якіх шматпакутная гісторыя Бацькаўшчыны раскідала па ўсяму свету; праца, быт, мары і каханне простага чалавека, якога сучасны стан у краіне часта даводзіць да розных цяжкіх сітуацый, нават да такіх сапраўды крымінальных, у якую трапіў герой рамана, і г. д. Раман чытаецца з вялікай цікавасцю сапраўднага дэтэктыва — на адным дыханні. Аўтар

прымушае чытача не проста глытаць кнігу як «цікавае чытво», але і сур’ёзна задумацца пра ўсю гісторыю роднай Беларусі, сучасны стан і будучыню краіны.

Эрнэст Ялугін, як таленавіты карэспандэнт і рэдактар, многа зрабіў на гэтай ніве, працуючы ў рэдакцыях шэрагу вядучых газет і часопісаў. Я быў сведкам яго выдатнай дзейнасці на пасадзе галоўнага рэдактара газеты «Наша слова». Працуючы ў ТБМ з часу яго ўтварэння, ён ужо праз год узначальваў рэдкалегію газеты, у якую пазней запрасіў і мяне. Ялугін паказаў сябе нязломным змагаром за беларускую мову, за незалежнасць і дэмакратыю дзяржавы. Ён падабраў невялікі, але здольны штат карэспандэнтаў, якія зрабілі газету папулярнай з накладам больш за 8 тыс. экзэмпляраў. Газета змяшчала цікавыя і важныя артыкулы па культуры мовы, публіцыстычныя, мовазнаўчыя і іншыя артыкулы, якія прыкметна ўплывалі на справу беларускага адраджэння.

Пажадаем жа Эрнэсту Ялугіну новых творчых дасягненняў на шляху прыгожага пісьменства і нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны.

*2011*

## Званок Барысу Кіту

У канцы снежня пазваніў у Франкфурт Барысу Кіту, каб павіншаваць з Калядамі і Новым годам. Ён цяпер жыве ў доме для састарэлых, дзе мае асобны пакой, поўны дагляд і ўсе выгоды. Ніхто не адказаў на некалькі маіх званкоў. Я занепакоіўся і папрасіў Лідзію Савік, якая пастаянна мае з ім тэлефонную сувязь і з’яўляецца лепшым яго біёграфам, даведацца, у чым справа. Аказалася, што ён усе дні гуляе па горадзе, наведвае бібліятэкі і музеі. Вось якая фізічная дужасць і сіла духа ў нашага 101-гадовага славутага беларуса! На наступны дзень пазваніў увечары і пачуў бадзёры голас Барыса Уладзіміравіча,

ён шчыра быў узрадаваны віншаванню з далёкай, але такой роднай яму Бацькаўшчыны.

*2011*

## Ліст з Масквы

Толькі пачаў 21 снежня пісаць ліст у Маскву майму старэйшаму калегу і сябру акадэміку Ю. М. Пушчароўскаму, каб павіншаваць з Новым годам і днём нараджэння ў яго 95-годдзе (31 снежня 2011 г.), як атрымаў ліст ад яго, пасланы 1 снежня, у якім ён віншуе мяне таксама з днём нараджэння (7 снежня). Ліст «ляцеў» аж 20 дзён. Мой ліст у Маскву ішоў трошку менш за 20 дзён, але даволі парадкам спазніўся з віншаваннем. Не зразумела, у чым справа: ці то ўвялі ўжо цэнзуру, як было ў ваенны час, ці то, як нядаўна сказаў У. Пуцін, у многіх напрамках гаспадаркі ўсё яшчэ «бардак». Відаць, тое ж і ў паштовай сувязі.

*2011*

## Актуальныя пытанні

Вечныя, але заўсёды актуальныя пытанні (хто вінаваты? што рабіць?) зноў востра ўзніклі ў гэтым досыць цяжкім годзе. Эканамічныя цяжкасці ў краіне працягваюцца… Таму ўзмацніліся і пошукі вінаватых у гэтым. Гаспадар дзяржавы ўжо назваў многіх: Захад, які хоча зламаць нашу стабільнасць і не дае крэдыт; народ, які скупіў усю валюту, як быццам яму не хапае сваіх рублёў; людзі, якія пагналіся купляць замежныя аўтамабілі; прадпрымальнікі, якія, нягледзячы на такія выдатныя магчымасці ў нашай самай дэмакратычнай дзяржаве, кепска працуюць; урад, які дрэнна кіруе і не ведае чым займаецца (хаця зрабіў нясмелую спробу павярнуць гаспадарку ў бок рынку, чым выгукнуў недавольства галоўнага); «пятая калона, для якой, чым горш, тым лепш» і інш. У канцы года дайшла чарга і да навукі, асабліва НАН Беларусі, якая ўсё яшчэ

шмат займаецца абстрактнымі фундаментальнымі праблемамі, мала дапамагае народнай гаспадарцы і павінна стаць навукова-практычнай карпарацыяй.

Больш цяжкае пытанне — што рабіць? Адказ і прымус ад кіраўніка — рэфармаваць, але так, каб правільная беларуская сацыяльная мадэль заставалася стабільнай. Пасля такой крытыкі і загаду перабудовы ў НАН Беларусі адразу паднялася новая хваля рэарганізацыі. Праўда, пад яе сцягам акадэмія жыве ўжо больш за 10 гадоў. На жаль, чыноўнікі мала прыслухоўваюцца да думкі саміх навукоўцаў. У выніку пасля ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі геалагічныя навукі амаль зусім выкінуты з НАН Беларусі. Магчыма, на гэты раз рэарганізацыя будзе больш разумнай? Будзем спадзявацца.

*2011*

## «Падарункі» года

Хаця 2011 год і не быў высакосны, але «падарункаў» пакінуў шмат. Усё пачалося з 19 снежня мінулага года, калі гэтая дата стала хадзячай назвай, а за словам «Плошча» яшчэ больш замацаваўся такі сэнс.

Адсюль пачалася нечуваная хваля рэпрэсій, якая працягвалася ўвесь год, выклікала страшэннае хваляванне за лёс асуджаных, абурэнне жорсткасцю сілавых структур і прывяло людзей да яшчэ большага пачуцця незадаволенасці і страху. У гэты ж час пачаўся хутка бягучы рад пажараў «арабскай вясны», якія напалохалі ўсе дыктатарскія рэжымы.

Пачаліся судовыя працэсы аб закрыцці газет «Наша Ніва» і «Народная Воля»; у траўні асудзілі «анархістаў»; у чэрвені пачаліся «маўклівыя акцыі» і іх жорсткія разгоны і затрыманні, а таксама прайшла яскравая ў цэнтры Мінска акцыя «Стоп бензін»; у жніўні арыштаваны праваабаронца Алесь Бяляцкі; у гадавіну 19 снежня затрыманы многія, хто выйшаў адзначыць тыя падзеі; апублікаваны праекты закона аб арга-

нах дзяржаўнай бяспекі, па якіх КДБ атрымлівае бязмежныя паўнамоцтвы, і г. д.

Новы «падарунак» — валютны крызіс. Ужо ў канцы сакавіка я не змог купіць за нашы беларускія рублі расійскія, каб паехаць у Маскву на ўрачысты сход і навуковыя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю майго настаўніка акадэміка А. Л. Яншына.

У канцы ліпеня мы зусім не маглі набыць замежную валюту, каб паехаць у адпачынак за мяжу Беларусі ў Паўночную Еўропу. Добра, што мелі невялікі запас. Толькі ў канцы года ў абменніках можна было купіць валюту, але толькі па пашпарце — калі ў пачатку года даляр каштаваў 3000 руб., дык цяпер — 8500–9000 руб.

Адначасова шалёна ўздымаліся цэны на ўсё. Такія, адны з самых высокіх ва ўсім свеце дэвальвацыя і суперінфляцыя прывялі да сур'ёзнага паніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва. Жыццё, а за ім і многія людзі, патрабуюць перамены. Але начальнік дзяржавы ўпарта даказвае правільнасць сваёй палітыкі, непарушнасць беларускай сацыяльнай мадэлі.

У сакавіку магутны землязрыг у Японіі правакуе цунамі, што прыводзіць да вялікай аварыі на АЭС «Фукусіма», якая ў многіх краінах выклікае шок і рэзкі перагляд адносін да «мірнага атаму». У шэрагу краін Еўропы праведзены рэферэндумы, у выніку якіх забараняецца далейшае будаўніцтва АЭС у большасці з іх. Але Беларусь ужо пачала падрыхтоўку да будаўніцтва Астравецкай АЭС, а ў канцы года канчаткова афарміла дагавор аб інвестыцыі з Расіі. На жаль, усё гэта робіцца не празрыста, не толькі без рэферэндуму, але нават і без шырокага абмеркавання. Пытанняў і сумненняў аб мэтазгоднасці такога будаўніцтва застаецца шмат: правільнасць разліку фінансавага кошту і магчымасць разліку за крэдыт; бяспекі эксперыментальнай канструкцыі расійскіх рэактараў; праблемы куплі паліва і захавання адходаў; выбар месца ў самай экалагічна чыстай і прыгожай мясцовасці, якая магла б даваць вялізны прыбытак ад турызму, праблема водазабес-

пячэння; на чыю карысць атрымліваецца параўнанне АЭС з многімі альтэрнатыўнымі крыніцамі энергіі, у тым ліку і з узнаўляемымі; не зусім вядомы падзел атрыманай АЭС энергіяй паміж Беларуссю і Расіяй і г. д. Безумоўна, гэтае рашэнне аб будаўніцтве АЭС не столькі эканамічнае, колькі палітычнае, і яно яшчэ больш кідае Беларусь у моцныя і, магчыма, канчатковыя абдымкі Расіі.

11 красавіка адбыўся тэракт на станцыі метро «Кастрычніцкая» (загінула 15 чалавек, сотні атрымалі раненні). Здзівіў кіраўнік дзяржавы, які хутка пасля выбуху не толькі сам спусціўся паглядзець вынікі, але ўзяў з сабой і Колю. Расследаванне тэракта выклікае шмат пытанняў.

У канцы года ў Расіі Пуцін вылучаны кандыдатам на пасаду прэзідэнта, што абвастрыла палітычную і грамадскую сітуацыю ў вялікай суседняй краіне. Павялічыўся ўціск на Беларусь, а разлад з Захадам і эканамічны крызіс, які загнаў нашу краіну ў кут, прымусіў беларускага начальніка зноў загаварыць пра Саюз Беларусі і Расіі. Адбыліся вынікі: Беларусь атрымала значнае зніжэнне на цэны за паліва, але пачала распрадажу дзяржаўнай уласнасці: «Белтрансгаз» поўнасцю перайшоў да расійскага «Газпрама» і інш. Інтэнсіўна пайшла беларуска-расійская інтэграцыя (адзіная эканамічная прастора, пагадненне аб Мытным саюзе, Еўразійскім саюзе і інш.), што зноў выклікае небяспеку за нашу незалежнасць: ці не прывядзе такая паступовая інтэграцыя да поўнай інкарпарацыі?

Сапраўды добры падарунак для мяне гэты год падарыў у снежні, калі час жыцця майго адбіў 83, а я яшчэ працую, многаму здзіўляюся і нават па мяккаму націсканню Галіны Твärановіч пішу «Жыццёвы меланж»…

*2011*

## Інбелкульт і браты Гарэцкія

У студзені 1922 г. быў заснаваны Інстытут беларускай культуры, 90-годдзю стварэння якога была прысвечана міжнародная навуковая канферэнцыя, праведзеная ў пачатку снежня 2011 г. Я прыгадаў пра ўдзел братоў Гарэцкіх у працы Інбелкульта. У штат Інбелкульта увайшло 15 чалавек (столькі было прадуктовых пайкоў) на чале з С. М. Некрашэвічам. Гаўрыла Гарэцкі, будучы студэнтам Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі і старшынёй Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў акадэміі, на імя Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР прыслаў прывітальную тэлеграму: «*Агульны сход студэнтаў беларусаў Масквы, адчыняючы беларускі клюб, шчыра вітае адчыненьне Інстытуту беларускае культуры і жадае карыснай працы. Старшыня Гарэцкі. 20.II.22*».

Максім Гарэцкі ў той час жыў у Вільні, у студзені 1922 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі, пасаджаны ў турму Лукішкі, але пазней вызвалены, і толькі ў канцы кастрычніка 1923 г. змог разам з сям'ёй прыехаць у Мінск.

Пасля зацвярджэння ЦВК і СНК БССР «Палажэння аб Інстытуце беларускай культуры», а затым надання яму характару навукова-даследчай установы тыпу акадэміі навук (1924) Наркамасветы БССР у студзені 1925 г. зацвердзіў асабовы склад правадзейных членаў Інбелкульта ў колькасці 72 адзінак, у які трапілі Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Старшынёй інстытута стаў У. М. Ігнатоўскі.

На першым пасяджэнні Прэзідыума Інбелкульта (4 лютага 1925 г.) зацвердзілі склад Прэзідыума, секцый і пастаянных камісій. Слоўнікавую камісію ўзначалілі М. Гарэцкі і М. Байкоў, але ўжо 8 лютага на агульным сходзе Інбелкульта была абрана Слоўнікавая камісія, старшынёй якой часова прызначаецца М. Гарэцкі.

У пратаколе пасяджэння Прэзідыума Інбелкульта ад 9 лютага адзначана, што М. Гарэцкі ўзначальвае мовазнаўчую і

літаратуразнаўчую секцыі. На пасяджэнні Правапісна-тэрміналагічнай камісіі вырашана для работы ў камісіі запрасіць Я. Купалу, М. Гарэцкага і інш. У сакавіку на агульным сходзе членаў Інбелкульта зацверджаны склад Літаратурнай камісіі, старшынёй якой абіраецца І. І. Замоцін, сакратаром — М. Гарэцкі; у склад навуковай рады ІБК былі дадаткова абраны Якуб Колас і М. Гарэцкі. 1 чэрвеня М. Гарэцкі выйшаў са складу Літаратурнай камісіі.

За гэты час М. Гарэцкі прыняў актыўны ўдзел у расчытванні рукапісаў М. Багдановіча, у першую чаргу тых, якія абгарэлі ў пажары ў Яраслаўлі. *«Дзякуючы М. Гарэцкаму, часткова і У. Дубоўку, было расчытана больш за дваццаць недрукаваных вершаў М. Багдановіча. Прычым перапісвалі ўсё, што магчыма было разабраць, каб захаваць для будучага даследчыка накіды і паасобныя радкі. Затым пісьменнік пачаў апрацоўваць пачак № 1 з артыкуламі і прозай, які прадстаўляў «найвялікшую труднасць у сэнсе расчытвання» […] Разам з І. Замоціным М. Гарэцкаму давялося рыхтаваць праграму па збіранні вуснай народнай творчасці»* [Скалабан Віталь, Токараў Мікалай. Браты Гарэцкія і Інбелкульт. Новыя матэрыялы // XVII Гарэцкія чытанні. Мінск, 11 чэрвеня 2010 г. Мінск, 2010. С. 28].

28 мая 1925 г. адбылося ўрачыстае пасяджэнне літаратурнай секцыі ІБК, прысвечанае 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. У газеце «Савецкая Беларусь» (№ 121 ад 1 чэрвеня) адзначана: *«Добра і падрабязна высветліў ролю Янкі Купалы ў беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні пісьменнік Максім Гарэцкі. Па яго прапанове сход ушанаваў маці і жонку песняра, якія прысутнічалі на ўрачыстасці»*.

На Першым Усебеларускім краязнаўчым з’ездзе (люты 1926 г.) М. Гарэцкі выступіў з дакладам «Збіранне і апрацоўка фальклору».

Максім і Гаўрыла Гарэцкія прынялі ўдзел у працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (лістапад 1926 г.), якую склікаў Інбелкульт. М. Гарэцкі

выступіў з дакладам «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры». Г. Гарэцкі ад імя Праўлення Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі вітаў канферэнцыю і падкрэсліў, што на шляху далейшай беларусізацыі акадэміі ёсць вялікая перашкода — гэта адсутнасць беларускай навуковай тэрміналогіі.

У пачатку 1927 г. камісія з вучоных Інбелкульта распрацавала, а СНК БССР зацвердзіў новы статут, у аснову якога быў пакладзены статут Акадэміі навук СССР. Пазней былі зацверджаны новая структура ІБК, больш набліжаная да акадэмічнай, а таксама склад членаў ІБК у колькасці 14 чалавек і склад Прэзідыума інстытута.

У студзені 1927 г. Г. Гарэцкі быў прызначаны дырэктарам-арганізатарам Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР. Паміж ІБК і БелНДІ сельскай і лясной гаспадаркі 30 сакавіка 1927 г. была складзена Умова.

Па гэтай умове ўся даследчая праца сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта перадаецца БелНДІ сельскай і лясной гаспадаркі, а яго дырэктар уваходзіць у склад Прэзідыума ІБК і навуковай рады, як правадзейны член, з правам рашучага голасу.

У час працы ў Інбелкульце М. Гарэцкі надрукаваў зборнік апавяданняў «Досвіткі», шэраг слоўнікаў, зборнік «Народныя песні з мелёдыямі», манаграфію «Гісторыя беларускае літаратуры» (4-е выданне), «На імперыялістычнай вайне» і інш. Г. Гарэцкі выдаў манаграфіі «Народны прыбытак Беларусі (Национальный доход Беларуси)», «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (Нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)», «Сельское хозяйство Гомельской губернии», «Население Гомельской губернии», брашуру «Даследчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы БССР» і іншыя працы.

Пасля рашэння пра стварэнне Беларускай акадэміі навук даволі востра абмяркоўвалася пытанне аб арганізацыйнай структуры і напрамку дзейнасці будучай акадэміі.

Г. Гарэцкі склаў спецыяльную дакладную запіску «Аб арганізацыйных прынцыпах будаўніцтва Акадэміі навук», у якой ён пісаў, што БАН павінна сканцэнтраваць і планаваць усю навукова-даследчую працу ў БССР; у яе структуры павінны быць не толькі кафедры, але і навукова-даследчыя інстытуты як комплекснага, так і спецыяльнага тыпу; уключаць навуковыя дысцыпліны не толькі ў галіне культуры і прыроды, але і ў галіне тэхнікі і гаспадаркі, каб найбольш поўна абслугоўваць патрэбнасці сацыялістычнага будаўніцтва БССР і г. д.

*2012*

## Дом Максіма Гарэцкага ў Горках

Яшчэ ў снежні 2011 г. з Горак пазваніў мне карэспандэнт газеты «УзГорак» Ілля Заранок і паведаміў, што ў сувязі са святкаваннем «Дажынак-2012» вырашана добраўпарадкаваць берагавую тэрыторыю Ніжняга возера і знесці дом, у якім жыў Максім Гарэцкі. Ужо пачалі высякаць маляўнічы гай на беразе возера, які многія называюць «жамчужынай краю», каб пабудаваць тут маладзёжны забаўляльны цэнтр. Усё гэта робіцца без уліку думкі мясцовых жыхароў, якія пачалі збіраць подпісы супраць зносу дома Гарэцкага. Карэспандэнт папрасіў мяне пракаментаваць гэтую сітуацыю. Я выказаў шкадаванне пра ўсе тыя дзеянні і нагадаў, што кватэра ў гэтым доме — адзінае месца жылля пісьменніка, якое захавалася ў Беларусі да нашага часу. У гэтай кватэры спачатку жыў яго брат Гаўрыла Гарэцкі. Тут сустракаліся многія культурныя дзеячы: Якуб Колас, Юрка Гаўрук, Паўліна Мядзёлка і інш. Вакол кватэры М. Гарэцкага адбывалася мноства культурных падзей. Таму да стагоддзя пісьменніка на доме была ўсталявана мемарыяльная дошка і была прынята пастанова, каб у ім стварыць музей. Але не знайшлося жылля для перасялення жыхароў кватэры.

Праз некаторы час газета «УзГорак» (22 снежня 2011 г.) паведаміла пра гэтыя падзеі, а Віктар Корбут у газеце «Со-

ветская Белоруссия» ад 21 студзеня 2012 г. змясціў артыкул «Дом классика хотят заменить статуей», у якім падрабязна асвяціў усю сітуацыю. Ён адзначыў, што ў 1986 г. гэты дом быў уключаны ў «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і значыцца як элемент гісторыка-архітэктурнага комплексу Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. На жаль, ніхто не паклапаціўся, каб будынак быў уключаны ў спіс архітэктурных каштоўнасцей, і аб вылучэнні сродкаў на яго рэстаўрацыю.

22 студзеня 2012 г. Рада ТБМ аднагалосна прыняла заяву «Аб захаванні жылога дома ў г. Горкі Магілёўскай вобласці, дзе жыў і працаваў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі»: *«У 2013 годзе спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. У горадзе Горкі захаваўся дом (вуліца Агранамічная, дом 3), дзе Максім Гарэцкі жыў з 1926 да 1928 года. На гэтым доме маецца адпаведная шыльда. Аднак мясцовыя ўлады хочуць знесці гэты дом з нагоды правядзення ў горадзе свята «Дажынкі». Гэта выклікае абурэнне шматлікіх грамадзян Беларусі. У сувязі з гэтым Рада ТБМ заклікае ўлады Беларусі захаваць згаданы дом, пасля высялення жыхароў — зрабіць яго рэстаўрацыю і адкрыць у ім мемарыяльную музей-кватэру Максіма Гарэцкага»*.

Чым скончыцца «эпапея» вакол дома М. Гарэцкага, пакуль не вядома.

***2012***

## Зварот

Па Радыё «Свабода» прагучала думка, што калі большасць народных паэтаў, народных артыстаў Беларусі і іншых вядомых дзеячаў звернуцца да гаспадара дзяржавы з просьбай вызваліць з турмаў палітычных вязняў, якія трапілі туды пасля выбараў Прэзідэнта краіны, дык ён, безумоўна, гэта зробіць, тым больш, што стан здароўя шэрагу з іх робіцца ўсё горшым. Народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка вельмі блізка ўспрыняла

гэтую думку, склала зварот і пачала збіраць подпісы. На жаль, многія з тых, да якіх яна паспела звярнуцца на працягу некалькіх дзён, па розных прычынах адмовіліся паставіць свой подпіс. Урэшце атрымалася, што толькі з пяццю подпісамі пайшоў па адрасе той зварот, які 20 студзеня 2012 года быў надрукаваны ў газеце «Народная Воля».

Аляксандр Рыгоравіч!

Так здарылася, што жыццё адразу некалькіх вядомых беларусаў залежыць менавіта ад Вас. Гэтыя людзі з’яўляюцца Вашымі палітычнымі апанентамі, але яны не ворагі беларускага народа. Таму пераканаўча просім Вас: выпусціце іх на волю.

Кожны дзень пазбаўляе палітзняволеных здароўя, забірае ў іх гады жыцця. Гэтыя людзі сёння знаходзяцца ў турмах, хаця яны не злачынцы. Наадварот, яны рабілі ўсё магчымае дзеля таго, каб жыццё ў Беларусі стала лепшым. Рабілі так, як таго патрабавала іх сумленне.

Аляксандр Рыгоравіч, заклікаем Вас не адказваць жорсткасцю на клопат людзей пра сваю Радзіму. Выпусціце іх, у Вас ёсць для гэтага правы.

Мы ўпэўнены, што гэты зварот падтрымаюць амаль усе беларусы. Бо незалежна ад палітычных поглядаў беларусы хочуць свайму дому міру, спакою і згоды.

*Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі,*
*Віктар ДАШУК, рэжысёр, народны артыст Беларусі,*
*Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі,*
*Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук,*
*Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук.*

*2012*

## Максім Гарэцкі ў Мінску

У сучасным Мінску Максім Гарэцкі прысутнічае духоўна. Перш-наперш сваімі шматлікімі творамі, якія ў сваёй большасці ўжо дайшлі да чытача. Літаратуразнаўцамі абмяркоўваюцца канцэпцыі выдання Поўнага збору твораў. З’явіўся шэраг прац, дысертацый, прысвечаных жыццю і творчасці пісьменніка, ужо прайшлі 19 Гарэцкіх чытанняў. Яго імя ўзгадваецца ў назве вуліцы, яго выяву можна пабачыць у помніку на плошчы Волі.

У 1985 г., трохі больш за 90 гадоў пасля нараджэння пісьменніка, у Маскве на свет з’явіўся Максім Гарэцкі — сын Кірыла, унук Усяслава Гарэцкага. Ён больш за 25 гадоў пражыў у Маскве, а пра Мінск і Беларусь толькі чуў ды чытаў. Нарэшце, з бацькам паездзіў па радзіме яго родных — краіна яму спадабалася. У 2011 г. ён ад маскоўскай фірмы прыехаў папрацаваць у Мінск. За ўвесь час яго жыцця ні адна маскоўская красуня не захапіла яго сэрца. У Мінску, мусіць, выплылі беларускія гены, і ўжо праз некалькі месяцаў працы ў нашым горадзе моцнае каханне авалодала ім, калі ён сустрэўся з мінскай студэнткай, мілай і прывабнай Ілонай. 4 лютага 2012 г. у спартыўным комплексе «Лагойск» адбылося сапраўднае вяселле, а ў Мінску з’явілася новая шчаслівая пара — Максім і Ілона Гарэцкія.

***2012***

## Юбілей жудасці

Вядомы гісторык Ігар Кузняцоў у артыкуле «Бухгалтерия ужаса» (Свободные новости плюс. 2012. 15 лютага) нагадаў, што ў гэтым годзе адзначаецца сумны 75-гадовы юбілей: *«менавіта ў 1937 годзе крывавы разгул сталінскіх рэпрэсій дасягнуў самага высокага ўзроўню»*. Гэта амаль двухгадовая кампанія часта завецца «Вялікім тэрорам». Для мяне гэтыя гады назаўсёды запалі ў памяць, крывавяць сэрца, ломяць душу: пастаянна ўспамінаю расстрэлы Максіма Гарэцкага і

майго дзядзькі па маці Сяргея Парфяновіча, турэмныя пакуты таты і наша цяжкае жыццё сям'і «ворага народа»…

Кузняцоў прыводзіць такую бухгалтэрыю жаху: *«За перыяд 1825–1917 гадоў у Расіі было асуджана да смяротнай казні за палітычныя злачынствы 6360 чалавек, у 3932 выпадках прыгаворы прыведзены ў выкананне. [...] бальшавікі перавысілі гэтыя лічбы ўжо да сакавіка 1918 года, усяго за чатыры месяцы знаходжання ва ўладзе. [...] Злачынствы камуністаў закранулі каля ста мільёнаў чалавек, тады як нацысты расправіліся з 25 мільёнамі»*.

Аўтар вельмі правільна заключае свой артыкул такой думкай: *«...значнай частцы нашых суграмадзян лягчэй прыняць зручныя супакойваючыя міфы, чым цвяроза паглядзець на сваю трагічную гісторыю і асэнсаваць яе ў імя будучага. Можна зразумець, чаму гэта так: чэснае асэнсаванне мінулага ўскладае на плечы цяпер жывучых пакаленняў вялізную і нязвыклую цяжкасць гістарычнай і грамадзянскай адказнасці. Але сёння без прыняцця на сябе гэтага, на самай справе цяжэйшага, грузу адказнасці за мінулае не будзе ніякай нацыянальнай кансалідацыі і ніякага адраджэння»*.

***2012***

## Прэміі ў першы дзень вясны

1 сакавіка 2012 г. на прэмію імя Святланы Навумавай — вядомага палітолага, выкладчыка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, светлага чалавека — амаль у час гадавіны яе смерці кампанія «Гавары праўду!» вылучыла 10 намінантаў, пераможцаў якіх таемным галасаваннем вылучыла журы ў складзе 30 чалавек. Прэміі ўручаны: у галіне журналістыцы Святлане Калінкінай — шэф-рэдактару газеты «Народная Воля», адной з лепшых палітычных аглядальнікаў; у намінацыі «Аналітыка» Валерыі Касцюговай — галоўнаму рэдактару «Беларускага штогодніка», каардынатару сайта «Наша думка»; у намінацыі

«Надзея» Насце Палажанка — намесніку старшыні «Маладога Фронту», раней узнагароджанай міжнароднай жаночай прэміяй «За мужнасць». Гонар ахоплівае за такіх таленавітых, мужных, прыгожых беларускіх жанчын!

* * *

Мяне асабліва глыбока кранула Наста — стромкая прыгажуня з узнёслым поглядам бліскучых вачэй, на выгляд кволая і ў той жа час мужная яшчэ зусім маладая дзяўчынка. Асуджаная на 1 год пазбаўлення волі па абвінавачванні ва ўдзеле ў масавых беспарадках і вызваленая ў сувязі з адтэрміноўкай пакарання, Наста згадзілася аддаць сваё сэрца Зміцеру Дашкевічу, які асуджаны на 2 гады і адбывае пакаранне ў калоніі агульнага рэжыму. Узаемнае каханне настолькі моцнае, што яшчэ ў ліпені 2011 г. яны вырашылі афіцыйна распісацца проста ў турме. Я яшчэ тады паслаў на адрас калоніі шчырае віншаванне маладым закаханым. На жаль, да гэтага часу так і не задалося здзейсніць ім свой намер, але моцнае каханне жыве, не змяншаецца, і ніякае выпрабаванне іх не разлучыць.

У час уручэння прэміі, які амаль супаў са 110-годдзем з дня нараджэння маёй маці, я ўспомніў сваіх бацькоў, лёс якіх 90 гадоў таму быў падобны да сучаснага стану Насты і Зміцера. Ларыса і Гаўрыла, тады, у 1922 г., студэнты Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі, актыўна працавалі ў Беларускай навукова-культурнай асацыяцыі: ён — старшынёй, яна — сакратаром і загадчыцай бібліятэкі. Гаўрыла быў арыштаваны і трапіў у тую групу «вальнадумнай інтэлігенцыі», якую Ленін вырашыў выкінуць за межы Расіі. Калі любая сястра Ганулька несла брату перадачу ў Бутырку, яна трапіла пад трамвай і хутка памерла. Толькі вялікае каханне да Лары выратавала Гаўрылу. Многа разоў у іх цяжкім жыцці (тры арышту з прысудам да расстрэлу і інш.) гэта цудоўнае пачуццё прыносіла шчасце і радасць. Хачу пажадаць Насце і Зміцеру такога ж кахання на ўсё іх жыццё, а Наста няхай, як тая

ластаўка, вобраз якой выяўлены на ўручаным ёй медалі, смела ляціць наперад да свайго вечнага кахання і светлага жыцця ў нашай вольнай, дэмакратычнай, багатай, беларускай Беларусі!

*2012*

## 110-годдзе Мамы

13 сакавіка 2012 г. споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Ларысы Восіпаўны Парфяновіч-Гарэцкай — жанчыны, якая дала жыццё майму брату і мне. Мы ўдзячны небу і Зямлі, што яны далі нам менавіта яе, такую прыгожую і мілую, добрую і ласкавую, клапатлівую і шчырую, мудрую і мужную. Толькі дзякуючы нашай Маці, нягледзячы на вельмі цяжкае складанае жыццё, мы змаглі стаць нармальнымі сумленнымі людзьмі. Колькі страшэнных бед, перажыванняў, турбот, маральных і бытавых нягод жонцы «ворага народа» прыйшлося перанесці! Але нязменны аптымізм, высокае пачуццё адказнасці за сям’ю, вялікае каханне перамаглі ўсе ліхалецці і давалі радасць і шчасце. Такога шчырага, вернага і высокага кахання нашых бацькоў, якое прыносіла шырокую любоў да жыцця, людзей, зямлі, мы з братам не сустракалі. Гэта быў прыклад узаемаразумення, аднадумства, шчырай любові адзін да аднаго, да родных, блізкіх, Бацькаўшчыны і яе народа, беларускай мовы, культуры і роднай зямлі. Гэтае каханне Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, якое выратавала іх, засталося не толькі ў нашай памяці, але зафіксавана ў шматлікіх лістах, якія яны часта пісалі адно аднаму ў часы многіх разлук. Даўно хачу прывесці ў невялічкай кніжцы вытрымкі з гэтых лістоў пад назвай «Лісты жыцця і кахання», але, на жаль, усё не хапае часу…

*2012*

## Адзін сцяг — два вынікі

Сцяг, як сімвал дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, быў зацверджаны законам у 1991 г. Гэта быў бела-чырвона-белы сцяг, які раней таксама як дзяржаўны карыстаўся ў час Беларускай народнай рэспублікі. Першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь праз рэферэндум 1995 г. сваім указам замяніў сцяг на новы, падобны да сцягу БССР, хаця прысягу даваў пры бел-чырвона-белым. Тут жа гістарычны сімвал Беларусі, які амаль чатыры гады горда лунаў над Домам урада, бліжэйшы яго саратнік кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў прылюдна на даху будынка таптаў, ірваў на шматкі бел-чырвона-белы сцяг, прычым пазней гэты эпізод наша тэлебачанне са смакам паказвала многа разоў. За гэты ганебны ўчынак ніякага пакарання не адбылося, наадварот, кіраўнік спраў меў поўную падтрымку прэзідэнта, пакуль не накапіў шмат парушэнняў у сваёй актыўнай і не зусім законнай дзейнасці і спакойна з’ехаў у Расію.

На новы, 2012 год віцебскі сябра КХП-БНФ будаўнік Сяргей Каваленка вывесіў на гарадской навагодняй яліне бел-чырвона-белы сцяг. Яму вынеслі прысуд — два гады і адзін месяц калоніі агульнага рэжыму. Сяргей адразу абвясціў галадоўку, якая працягваецца ўжо больш як два месяцы. Шматлікія пратэсты, звароты да ўладаў пра вызваленне бацькі двух дзетак не даюць вынікаў, як і просьба жонкі Алены Каваленка да многіх начальнікаў, у тым ліку і да самога кіраўніка дзяржавы. Два супрацьлеглых учынка з адным сцягам і два розныя вынікі.

* * *

Вядомы журналіст і пісьменнік Сямён Букчын у газеце «Народная Воля» (2012. 20 сакавіка) так выказаўся: *«...ярчайший сегодня символ стойкости человеческого духа — Сергей Коваленко. Человек умирает за флаг. А по сути — за свою национальную честь. «Меня может спасти только народ», — говорит Сергей Коваленко. Это абсолютно правильные сло-*

*ва. С большим смыслом сказанные. С вызовом и призывом к активности. Какой же народ может спасти Коваленко? Где он, этот народ? Можно ли представить себе, что в Польше, Чехии, Литве умирает в тюрьме молодой человек, показавший пример, как нужно дорожить исторической национальной святыней, а его сверстники спокойно ходят себе на учебу в университеты и школы? Их это не касается... Вот всем еще один ответ на вопрос, есть ли у нас нация».*

Вельмі правільная і яркая ацэнка ўчынку Сяргея Каваленкі, часткова можна згадзіцца і з абыякавасцю, што, здаецца, ахапіла большасць народа. Але галоўная прычына — у дзяржаўным рэжыме. Пералічаныя пісьменнікам краіны цяпер зусім іншыя, чым былі ў мінулым, калі такога масавага ўздыму за справядлівасць не было. Дастаткова ўспомніць бальшавіцка-сталінскі рэжым Савецкага Саюза, калі дзясяткі і сотні лепшых грамадзян не проста сядзелі ў турмах, але і расстрэльваліся, а большасць людзей дзяржавы маўчала. Дык што, усё насельніцтва СССР не стварыла ніводнай нацыі? Можна пералічыць яшчэ шмат краін з дыктатарскім рэжымам і аналагічнай сітуацыяй. Пры аўтарытарным рэжыме яд страха, хлусні і дэмагогіі раз'ядае душу людзей так моцна, што яны паступова ператвараюцца ў маўклівых манкуртаў. Беларускі народ, беларуская нацыя ёсць, але яе інтэнсіўна разбурае рэжым, які захаваўся ў Беларусі ад сталінскага-бальшавіцкай сістэмы.

*2012*

## Некаторыя красавіцкія даты

У гэтым годзе на 1 красавіка прыйшоўся Дзень геолага, а таксама і дзень гумару. Для ўсіх людзей такі дзень вельмі радасны і вясёлы: чалавек задаволены, што зноў дажыў да вясны, новага аднаўлення прыроды, а радасць выклікае пачуццё гумару і жартаўлівага настрою. Для геолагаў гэты дзень хвалюючы, бо нагадвае аб тым, што настаў час рыхтавацца да

самага важнага і цікавага этапу жыцця геолага-вандроўніка — палявой экспедыцыйнай працы, якая дае не толькі цудоўнае яднанне з прыродай, але і атрыманне новых геалагічных фактаў. У геалагічных інстытутах і вытворчых установах гэты дзень заўсёды выклікаў значны ўздым і энтузіязм. На жаль, у апошнія два дзесяцігоддзі ў сувязі з недахопам фінансавання, бясконцымі рэфармаваннямі, скарачэннем геалагічных прац, у тым ліку геалагічнай здымкі, свідравання, геафізічных даследаванняў і інш., рэзка паменшыліся паездкі ў поле. Навукоўцам у большасці прыходзіцца з сумам глядзець у вокны на вясёлыя блікі сонца, успамінаць мінулыя паездкі, а на ўрачыстых сходах слухаць бадзёрыя прамовы чыноўнікаў-кіраўнікоў пра значныя дасягненні геалагічнай службы і навукі і думаць, як лоўка выступоўцы імітуюць актыўную дзейнасць, каб добра выглядаць у вачах больш высокага начальства…

* * *

Уладзімір Някляеў у газеце «Народная Воля» ад 2 сакавіка 2012 г. надрукаваў артыкул, у якім выказаў вялікі непакой з нагоды магчымай інкарпарацыі Беларусі з боку Расіі, прывёў шэраг доказаў гэтаму і выказаў ідэю склікаць новы Усебеларускі з’езд за незалежнасць. Улічваючы гэтую ідэю і тое, што нават кіраўнік дзяржавы нядаўна многа разоў выказваў думку пра такую небяспеку і казаў, як і зараз, аб неабходнасці захаваць суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, мы таксама вырашылі зрабіць адпаведны зварот, які быў надрукаваны ў газеце «Народная Воля» ад 3 красавіка 2012 г.

*«Дзеля будучыні Беларусі.*

*Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню. Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-за непрадбачлівай і непаслядоўнай знешняй палітыкі наша краіна*

*нястрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Настойлівымі высілкамі чынавенства груба і няўхільна дыскрымінуецца нацыянальная культура, выціскаецца са штодзённага ўжытку беларуская мова — падсякаюцца карані нацыі. Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы.*

*Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць. Настаў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў, цвяроза і цвёрда паставіць задачы далейшага станаўлення і сцвярджэння нацыянальнай дзяржавы. Гісторыя ніколі і нікому не даруе бяздзейнасці на складаных, вызначальных яе паваротах. Усе здаровыя сілы нашага грамадства мусяць адкінуць асабістыя і карпаратыўныя амбіцыі дзеля святой і галоўнай мэты — свабоды і шчасця народа.*

*У газеце «Народная Воля» за 2 сакавіка Уладзімір Някляеў выказаў прапанову аб скліканні Усебеларускага з'езда. Мы падтрымліваем гэтую прапанову — і ўсіх, хто занепакоены лёсам Бацькаўшчыны, заклікаем да яднання!*

*Давайце схамянёмся. Давайце адумаемся. Давайце згуртуемся. Давайце ўсвядомім нарэшце свой асабісты абавязак перад нашчадкамі, перад чалавецтвам, перад гісторыяй, перад Беларуссю.*

*Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы пераможам, калі будзем разам!*

*Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, сустаршыні Усебеларускага з'езда за незалежнасць 2000 г. 29 сакавіка 2012 года».*

* * *

3 красавіка прыйшла сумная вестка — раптоўна пайшла ад нас Ірына Марачкіна — мілая жанчына, шчырая руплівіца на ніве беларушчыны, верная спадарожніца нашага выдатнага

мастака Аляксея Марачкіна (Алеся Мары). Найбольш часта я сустракаўся з ёй ў сядзібе Таварыства беларускай мовы, дзе яна доўгі час была намеснікам старшыні ТБМ і сакратаром Управы, а па сутнасці, клапатлівай, дзелавой, энергічнай гаспадыняй, без удзелу якой не праходзіла ні адно мерапрыемства ТБМ. Адначасова яна была сябрам рэдкалегіі газеты «Наша слова», здольным карэспандэнтам (псеўданім Ірына Ляксеева), якая друкавала цікавыя артыкулы і інтэрв'ю на розныя актуальныя тэмы. Калі ў яе кепска стала з сэрцам, усе наведнікі сядзібы ТБМ са шкадаваннем успрынялі яе сыход з працы. Вельмі прыемна было сустракаць Ірыну з мужам, які ласкава клапаціўся пра яе здароўе і заўсёды браў яе з сабой на розныя мерапрыемствы. Станавілася цёпла на сэрцы, калі бачыў гэтую цудоўную пару; вочы ў іх свяціліся добразычлівасцю і каханнем адзін да аднаго. Шчырае спачуванне Аляксею і ўсёй сям'і Марачкіных з незваротнай стратай — усе сябры разам з імі смуткуюць і назаўсёды захаваюць памяць пра гэтую светлую жанчыну, якая аддала сваё жыццё сям'і, беларускай культуры, Бацькаўшчыне.

* * *

6 красавіка дзень нараджэння двух выдатных беларусаў замежжа — Барыса Кіта і Хведара Нюнькі. Барысу Уладзіміравічу ўжо 102 гады! Пазваніў — пачуў, як заўсёды, бадзёры голас. Вельмі быў задаволены маім шчырым віншаваннем і самымі найлепшымі пажаданнямі. Каротка, але добра пагаманілі, успомнілі некаторыя прыемныя для нас абодвух сустрэчы, якія ён дасканала добра памятае. Вось з каго трэба браць прыклад!

Пазней пазваніў у Вільню свайму сябру — Хведару Нюньку і павіншаваў зусім яшчэ «маладога» чалавека ў параўнанні з Б. Кітом — яму ўсяго 84. Таксама бадзёры, поўны энергіі чалавек. Многія гады нязменна вельмі ўдала кіруе Таварыствам беларускай культуры ў Літве, а нядаўна зноў яго выбралі

кіраўніком на новы тэрмін. Здароўя і поспехаў на многія гады, дарагі Хведар!

* * *

У гэты дзень на геаграфічным факультэце БДУ адбыліся VI Універсітэцкія геалагічныя чытанні «Інавацыі ў геалогіі і асваенні нетраў». Прыемна было, што мяне, як заснавальніка і першага загадчыка кафедры дынамічнай геалогіі, запрасілі ў прэзідыум, і я апынуўся паміж В. М. Губіным, сучасным загадчыкам кафедры, прафесарам, старшынёй канферэнцыі, і Д. Л. Тварановіч-Сеўруком, сакратаром канферэнцыі, сучасным супрацоўнікам кафедры і былым маім студэнтам. Было шмат цікавых дакладаў, асабліва радасна, што сярод дакладчыкаў было шмат былых студэнтаў кафедры, у тым ліку тых, якім я некалі чытаў лекцыі па геатэктоніцы.

Ад імя прафесара Г. І. Каратаева і свайго я таксама зрабіў даклад «Канцэпцыя стварэння вучэбнай тэктанічнай карты Беларусі». Прыемна было ўспомніць мае былыя прафесарскія будні і зноў убачыць такія ўважлівыя бліскучыя вочы студэнтаў, сустрэчы і размовы з якімі я так заўсёды любіў, і пачуць у канцы даклада воплескі. Добра, што кіраўніцтва кафедры не толькі рэгулярна пачало праводзіць навуковыя чытанні, але і выдаваць матэрыялы канферэнцыі.

* * *

8 красавіка перагарнуў чарговы лісток перакіднога календара 2012 г., які ўжо некалькі гадоў выдае НАН Беларусі (на жаль, на рускай мове) і ў які змяшчае найбольш важныя падзеі з жыцця акадэміі (складальнікі В. А. Гапоненка і М. М. Касцюковіч), і ўбачыў, што роўна 35 гадоў таму ў гэты дзень 1977 г. адбыліся выбары ў Акадэмію навук БССР. Тады ў акадэмікі выбралі мовазнаўца М. В. Бірылу, фізіка Л. В. Валодзьку, геолага Р. Г. Гарэцкага, вучонага ў галіне механікі і газадынамікі Р. І. Салаухіна. Я ўжо забыўся пра тую «юбілейную дату», але

з сумам пабачыў, што на гэтым свеце сярод тады выбраных акадэмікаў застаўся толькі адзін я. Тады ж выбралі 10 членаў-карэспандэнтаў, сярод якіх ужо чатырох няма з намі. Час бяжыць і робіць сваю няўмольную справу…

* * *

10 красавіка, у сувязі з 112-й гадавінай з дня нараджэння Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага, адбыліся XXIII навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці вучонага. Пасля ўступнага слова старшыні Камісіі па вывучэнні геалогіі чацвярцёвага перыяду і геамарфалогіі А. В. Мацвеева выступілі з добрымі дакладамі Я. К. Яловічава і Л. М. Рабава, а таксама маладыя навукоўцы А. А. Вашкоў, А. В. Дубман і А. В. Сілюк, якім я на памяць уручыў кнігу Г. Гарэцкага «Выбранае», зрабіўшы надпіс з падзякай за ўдзел у чытаннях. Як заўсёды, у канцы пасяджэння мне прапанавалі выступіць з успамінамі. Адносна нядаўна я знайшоў рукапіс выступлення таты, якое ён зрабіў 10 сакавіка 1968 г. на Агульным сходзе АН БССР. Гэта было першае яго выступленне пасля мінулага, з якім ён выступаў амаль 40 гадоў таму перад арыштам. Я яго поўнасцю зачытаў, таму што яно аказалася вельмі актуальным і цяпер.

Гарэцкі сказаў: *«[…] хачу вынесці на ваша абмеркаванне, шаноўныя калегі, некалькі пытанняў і прапаноў.*

*На бліжэйшае дзесяцігоддзе трэба павялічыць у сістэме АН БССР і іншых навукова-даследчых устаноў нашай рэспубліцы адносную вагу навук аб Зямлі, навук геалагічнага і геаграфічнага напрамку.*

*З поўным правам прадстаўнікі геалагічных навук і даследчыкі вытворчых геалагічных устаноў СССР і БССР могуць ганарыцца такімі сваімі найвялікшымі дасягненнямі, як адшуканне ў нетрах Беларусі калійных солей і нафты. Незлічоныя скарбы прынеслі геолагі ў падарунак беларускаму народу для стварэння надзейнай базы вялікай хімічнай прамысловасці.*

*Ёсць усе падставы лічыць, што на Беларусі ў бліжэйшыя гады будуць адшуканы і разведаны прамысловыя запасы гаручых сланцаў, каменнага вугалю, сыравіны для металургічнай прамысловасці і інш.*

*Аднак пошукі і разведка карысных выкапняў на Беларусі будуць найбольш паспяховымі і эфектыўнымі толькі ў тым выпадку, калі будуць грунтавацца на навуковых падставах, калі будуць пазнаны заканамернасці ў размяшчэнні карысных выкапняў.*

*А дзеля гэтага трэба шырэй разгарнуць на Беларусі навуковыя даследаванні ў такіх галінах навукі, як геафізіка, геахімія, геатэктоніка, петраграфія, палеанталогія, гідрагеалогія, палеагеаграфія, геамарфалогія і палеагеамарфалогія, геалогія антрапагену.*

*Асабліва недастаткова разгорнуты на Беларусі навуковыя даследаванні ў галіне геатэктонікі і палеагеаграфіі, якія найбольш поўна і ўсебакова сінтэзуюць веды аб развіцці Зямлі, як суцэльнага адзінства, ствараюць падставы для пазнання законаў размяшчэння карысных выкапняў.*

*Зусім недастаткова разгорнуты ў БССР навуковыя даследаванні ў галіне гідрагеалогіі. А між тым гідрагеалагічныя веды маюць найвялікшае значэнне ў справе меліярацыі і культуртэхнікі 1700 тысяч гектараў беларускіх балот, у рэгуляванні ўзроўню грунтовых вод на асушаных балотах, у пошуках і эксплуатацыі карысных выкапняў, у водазабеспячэнні гарадоў і прамысловасці і г. д.*

*Навуковыя даследаванні ў галіне антрапагенавай (чацвярцёвай) геалогіі не павялічваюцца а нават і скарачаюцца за апошнія гады. Лік супрацоўнікаў Сектара чацвярцёвай геалогіі Інстытута геалагічных навук МГ СССР у Мінску быў скарачаны з 19 да 7 адзінак. Асігнаванні на ўсю працу гэтага сектара на 1968 год скарачаны да 15 тысяч рублёў, што складае менш за 1,5% каштарысу гэтага вялікага інстытута.*

*А між тым належнае вывучэнне антрапагенавай геалогіі Беларусі мае вялікае значэнне і ў справе рацыянальных пошукаў і разведкі карысных выкапняў, асабліва прыродных будаўнічых матэрыялаў, і ў гідратэхнічным, прамысловым і дарожным будаўніцтве, і ў меліярацыі балот, і ў разумным скарыстанні зямель, асабліва камяністых марэн, і г. д.*

*Беларусь з'яўляецца своеасаблівым эталонам дзеля вывучэння ледавіковых раёнаў усяго Савецкага Саюза, бо на абшарах Беларусі антрапагенавыя адклады маюць найвялікшую магутнасць (да 250–350 м) на шырокіх прасторах, найбольш складаную стратыграфію ледавіковых адкладаў; тут пашыраны самыя старажытныя ў свеце марэны раўнінных зледзяненняў, найвялікшыя па магутнасці марэны (да 150–190 м), самыя глыбокія лагчыны ледавіковага выворвання (да 140 м ніжэй узроўню мора).*

*Скарачэнне ў БССР навуковых даследаванняў у галіне геалогіі антрапагену ёсць неапраўданае невыкананне абавязкаў беларускіх даследчыкаў перад усёй савецкай геалогіяй.*

*Зусім недастаткова разгорнуты на Беларусі даследаванні з галіне геаграфіі і геамарфалогіі. З усіх рэспубліканскіх акадэмій навук толькі ў АН БССР няма ніякай установы, якая вывучала б геаграфію і геамарфалогію сваёй рэспублікі.*

*Недастаткова вывучана ў БССР геаграфія асобных кампанентаў прыроды: рэльефу, клімату, рэк і азёр, балот, лясоў, нягодных зямель — злых пяскоў і камяністай глебы, аборкаў, равоў, флоры і фаўны і г. д.*

*І зусім слаба даследаваны ў нашай рэспубліцы спалучэнні асобных кампанентаў прыроды ў арганічныя прыродныя асацыяцыі, у макрабіягеацэнозы, ландшафты або краявіды, у фізіка-геаграфічныя раёны.*

*У гэтай справе вялікую значнасць набываюць не столькі працы па прыродным раянаванні Беларусі, колькі вывучэнне ўзаемасувязей, узаемазалежнасці і ўзаемаабумоўленасці кам-*

*панентаў прыроды, асабліва ў звязку з уздзеяннем на паасобныя кампаненты прыроды Беларусі савецкага чалавека.*

*Актыўныя змены аднаго кампанента прыроды Беларусі, выкліканыя людской дзейнасцю, няўхільна адбіваюцца на зменах іншых кампанентаў прыроды, прычым часта адмоўна. Даволі прыгадаць шкоду ад залішняга зніжэння ўзроўню грунтовых вод пры меліярацыі і неразумным спрамленні рэчышчаў, перасушку балот, тарфяныя пажары, эрозію тарфовішч і г. д. А прыгадаць шкоду ад някомплекснага і няпоўнага скарыстання солей у Салігорскім раёне, ад неразумнага стварэння саляных тэрыконаў і інш. Ці ж нельга прыгадаць тут, як псуюцца водныя рэсурсы Беларусі, пра забруджванне іх хімічнымі адкідамі, сцёкавымі водамі і інш.*

*У гэтых умовах вялікае значэнне набываюць у БССР навуковыя даследаванні ў галіне эканамічнай геаграфіі, якая і павінна вывучаць рацыянальныя суадносіны прыродных і эканамічных краявідаў, узаемаадносіны прыроды і чалавека, насельніцтва. Праблема насельніцтва, дэмаграфіі Беларусі амаль не вывучаецца. Яшчэ дастаткова не высветлены фактары, якія абумовілі марудны рост насельніцтва нашай рэспублікі пасля Вялікай Айчыннай вайны, бо БССР — адзіная з савецкіх рэспублік, дзе не дасягнуты даваенны лік насельніцтва. Не даследавана праблема малых гарадоў і былых мястэчак, не выяўлены прычыны іх слабага эканамічнага развіцця. Не складзена дэталёвая дазіметрычная карта Беларусі, карта гушчыні насельніцтва, не вызначаны раёны аптымальнай мабілізацыі насельніцтва ў прамысловасць. Не даследавана вялікая праблема міграцыі насельніцтва БССР і г. д.*

*Каб палепшыць становішча ў БССР навуковых даследаванняў геалагічнага і геаграфічнага напрамку, пажадана ажыццявіць наступныя арганізацыйныя мерапрыемствы, якія ў большай частцы прапануе Праблемны Савет па комплекснаму вывучэнню зямной кары і верхняй мантыі.*

*1. Арганізаваць у складзе АН БССР Аддзяленне навук аб Зямлі.*

*2. Перадаць у АНЗ АН БССР такія ўстановы:*

*а) Лабараторыю геахімічных праблем;*

*б) Сектар чацвярцёвай геалогіі ІГН МГ СССР (у Мінску);*

*в) Інстытут торфу.*

*3. Арганізаваць у АНЗ АН БССР самастойныя аддзелы:*

*а) Аддзел геафізікі;*

*б) Аддзел гідрагеалогіі;*

*в) Аддзел геалогіі антрапагену;*

*г) Аддзел геаграфіі.*

*4. Выдаваць часопіс «Весці АН БССР. Серыя геалогіі і геаграфіі».*

*5. Выдаваць навукова-папулярны часопіс «Прырода Беларусі».*

*6. Павялічыць асігнаванні на геалагічныя і геаграфічныя працы ўсіх ВНУ БССР, асабліва БДУ імя Леніна.*

*7. Актывізаваць працу праблемнага савета «Комплекснае вывучэнне зямной кары і верхняй мантыі» шляхам узмацнення дзейнасці яго секцый, павелічэння ў іх складзе супрацоўнікаў ВНУ і вытворчых устаноў.*

*8. Арганізаваць у АН БССР Савет па даследаванню і ахове вытворчых сіл з прадстаўнікоў усіх аддзяленняў АН БССР, ВНУ, міністэрстваў і вытворчых устаноў.*

*9. Прапановы па арганізацыі Аддзялення навук аб Зямлі ажыццявіць у першай палове 1968 года».*

* * *

Калі быў створаны ў 1971 г. Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР і ў 1977 г. мяне прызначылі дырэктарам, а пазней намеснікам акадэміка-сакратара Аддзялення хімічных і геалагічных навук і віцэ-прэзідэнтам АН БССР, я разам з маімі калегамі, не ведаючы гэтага выступу таты, таксама намагаліся ажыццявіць тое, што ён прапанаваў у тым выступленні. З часам задалося

зрабіць інстытут паўнавартаснай установай з усімі галоўнымі напрамкамі геалагічных навук, значна пазней — стварыць часопіс «Літасфера», дабіцца навучання і выпуск геолагаў на геаграфічным факультэце БДУ і інш. Але такія важнейшыя мэты, як стварыць самастойна Інстытут геаграфіі, Інстытут горных навук, самастойнае Аддзяленне навук аб Зямлі АН Беларусі, не атрымалася. Вельмі крыўдна, што некаторыя рэчы не былі здзейснены з-за асабістых матываў шэрагу саміх жа геолагаў і географаў. У выніку рэфармавання навукі, якое так заўзята праводзіць кіраўнік дзяржавы і чыноўнікі ад навукі ў апошняе дзесяцігоддзе, геалагічныя навукі аказаліся адкінутымі амаль на той час, калі Г. Гарэцкі зрабіў сваё выступленне. Таму яно і зараз такое актуальнае: трэба зноў пачынаць усё амаль з самага пачатку, але каб дасягнуць стану навук аб Зямлі, нават такога, якое яно было ў лепшыя часы, трэба вельмі актыўныя і разумныя намаганні на працягу многіх гадоў.

* * *

**Выдатны беларускі і татарскі дзеяч.** 17 красавіка ў памяшканні ТБМ адбылася імпрэза, прысвечаная 80-годдзю Якуба (Якава) Адамавіча Якубоўскага (нарадзіўся 4 красавіка 1932 г.) — аднаго з лепшых прадстаўнікоў беларускіх татараў. Ён доўгі час быў загадчыкам рэдакцыі геаграфіі, геалогіі і геафізікі Беларускай энцыклапедыі. Якаў Адамавіч, як ініцыятар стварэння ўнікальнага выдання пяцітомнай «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» (1983–1986), запрасіў і мяне ўдзельнічаць у яе рэдкалегіі, тым больш, што к таму часу пад маёй рэдакцыяй выйшлі з друку ў дзвюх кнігах «Тэктанічная тэрміналогія Беларусі і Прыбалтыкі». Тады я шмат супрацоўнічаў з Якубоўскім і ўбачыў, які ён выдатны рэдактар, самаадданы географ, гісторык з энцыклапедычнымі ведамі, добразычлівы чалавек. Гэтае выданне было настолькі выдатным, што шэраг найбольш актыўных аўтараў і членаў рэдкалегіі вылучылі на Дзяржаўную прэмію БССР у тым ліку Якава Адамавіча і мяне.

Але Камітэт па прэміях не падтрымаў калектыў, таму што Якубоўскі раней, у 1976 г., атрымаў ужо Дзяржаўную прэмію за «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю» ў 12 тамах, а я — у 1978 г. за Тэктанічную карту Беларусі.

Я. Якубоўскі ўнёс вялікі ўклад у беларускую і татарскую культуру. Разам з такім жа працаўніком на ніве нацыянальнага адраджэння беларускіх і татарскіх народаў Ібрагімам Канапацкім, з якім мне таксама давялося сябраваць, Якубоўскі актыўна ўдзельнічаў у Беларускім згуртаванні татар-мусульман «Аль-Кітаб». Якаў Адамавіч быў ініцыятарам і галоўным рэдактарам часопіса «Байрам», які выдаваўся на беларускай мове. Ён стаў аўтарам слоў Гімна беларускіх татар «Мы з Іманам жывём на зямлі беларускай», распрацаваў канцэпцыю і працаваў над складаннем энцыклапедыі «Татары Беларусі, Літвы і Польшчы», якую не паспеў завяршыць і выдаць.

Якаву Адамавічу ўвесь час дапамагала ў яго дзейнасці такая ж працавітая руплівіца культур двух народаў Беларусі яго жонка Таццяна Васільеўна, якая і цяпер працягвае гэтую працу і захоўвае памяць пра свайго выдатнага мужа і прапагандуе яго спадчыну. Таццяна Якубоўская — адна з лепшых вучаніц Гаўрылы Гарэцкага, вядомы палеакарполаг, кандыдат навук, якая шмат унесла ў развіццё чацвярцёвай геалогіі Беларусі.

Светлая памяць пра выдатнага беларускага і татарскага дзеяча назаўсёды застанецца ў гісторыі гэтых народаў.

* * *

18 красавіка адбылося чарговае пасяджэнне Рады інтэлігенцыі. Чакаючы пачатку сустрэчы, каля ўвахода ў памяшканне ўбачыў Аляксея Марачкіна з сумнымі вачыма ад цяжкай згубы жонкі і сапраўднага гора. Абняў сябра, выказаў шчырае спачуванне… Недалёка ўбачыў Уладзіміра Халіпа, у апошні час заўсёды такога заклапочанага, маркотнага, а тут са светлымі радаснымі вачыма, з лёгкай усмешкай. Моцна паціснуў яму руку і з прыемнасцю павіншаваў з вызваленнем Андрэя Сан-

нікава, папрасіўшы перадаць шчырыя прывітанні яму, Ірыне і Люцыне Юр'еўне. Перад пачаткам пасяджэння ўшанавалі памяць Ірыны Сяргееўны Марачкінай і павіншавалі Уладзіміра Халіпа. Вось так у жыцці: гора і радасць ходзяць побач і адначасова…

* * *

24 красавіка, у аўторак — Радаўніца. Як добра і правільна, што гэты дзень абвясцілі не рабочым. Разам з Галяй на Радаўніцу і перад тым прывялі ў парадак магілкі ўсіх нашых родных, паклалі кветкі і з удзячнасцю ўспомнілі, што былі яны з намі, а памяць пра іх, якая ў нашых сэрцах, дапамагае нам жыць…

*2012*

## Цёзка

16 траўня пазваніў мне адзін знаёмы і кажа: «Я чытаў у кнізе Аляксандра Тамковіча «Лёсы» (2010), як быццам вы не ведаеце нікога, хто меў бы такое ж імя, як і ў вас. А я ведаю, што ў майго сябра Аляксандра Міхайлавіча Астравухава ёсць сын — Радзім. Яму сёння споўнілася 10 гадоў — пазваніце яму, ён будзе вельмі рад». Я так і зрабіў, павіншаваў бацьку, затым сына. Аказалася, што старэйшы Астравухаў ведаў майго тату, знаём з лёсам нашай сям'і і таму назваў свайго сына ў гонар мяне. Вельмі было прыемна пагаманіць з маімі новымі знаёмымі (асабліва з цёзкай), якія размаўляюць на добрай беларускай мове. Аляксандр Міхайлавіч некалі склаў беларуска-габрэйскі слоўнік, які абяцаў мне з часам падарыць, а Радзім канчае чацвёрты клас і хоча паступіць у гімназію з французскай мовай навучання. Пажадаў абодвум вялікіх поспехаў.

* * *

Успомніў, што таксама гадоў 10 таму ў мяне бралі інтэрв'ю на гэтую тэму, а потым нават надрукавалі невялічкую нататку

пад назвай «Тёзкі». Адшукаў тую газету, аказалася «Белорусская деловая газета» ад 13 лістапада 2002 г. Прывожу тую заметку.

*«Я работаю преподавателем в одной из детских музыкальных школ Слуцкого района. Мне 28 лет. На страницах газет я часто встречала статьи, где упоминается белорусский академик, геолог Радим Гарецкий. «БДГ» и «Свободные новости» не раз брали интервью у этого человека. Меня поразило своей редкостью и необычностью имя геолога. А 23 августа нынешнего года у меня родился сын. Я решила назвать его в честь Радима Гавриловича Гарецкого.*

*Надо сказать, что имя Радим понравилось не всем. Но я, пройдя через непонимание и даже споры, зарегистрировала сына так. Он — Волот Радим Сергеевич. Ему два с половиной месяца. Многие спрашивают у меня, где я взяла такое имя и что оно обозначает? А мне и самой очень интересно, почему именно так назвали Радима Гарецкого. И еще я хочу, чтобы мой сын гордился своим именем, чтоб знал и уважал историю своей «Радзімы», чтобы любил Беларусь так, как люблю ее я. Я решила найти Радима Гарецкого и задать ему несколько вопросов. Может быть, вы поможете мне в этом? Прошу вас, сделайте это ради меня и маленького мальчика Радимки.*

*Ваша читательница Инна Волот».*

*«Академик НАН Беларуси Радим Гарецкий с готовностью откликнулся на просьбу Инны. Оказалось, что маленький Радимка — первый тезка, с которым академика за 70 с небольшим лет жизни свела судьба:*

*— Разумеется, своим именем я обязан не себе самому, а родителям. Отец мой был среди «адраджэнцаў» 20-х годов прошлого столетия, изучал историю Беларуси. Многие знают, что на территории Беларуси жили древние племена: кривичи, дреговичи, радимичи. Радимичи селились на берегах Сожа и Днепра — территория современных Гомельской,*

*Могилевской, Черниговской и Брянской областей. Есть миф о двух братьях — Радиме и Вятке, которые спустились с Карпатских гор и пошли по равнине. Радим стал родоначальником племени радимичей. Вот откуда это старобелорусское имя, в основе которого лежат два слова: радость и мир. И это имя (не Родион, не Радимир, а Радим) почему-то оказалось очень редким.*

***— Неужели так и не встречали тезок?***

*— Единственного знаю по научным публикациям. Это известный словацкий геолог Радим Кетнер.*

***— А вам самому имя нравится?***

*— Сначала не нравилось, потому что все обращали на него внимание и переспрашивали. А теперь очень нравится, и именно тем, что оно белорусское. Думаю, что маленький Радимка должен быть им доволен и носить с гордостью имя наших предков. Я хотел бы пожелать, чтобы он стал «адраджэнцам» всего белорусского в нашей стране.*

*Подготовила Марина Загорская».*

Магчыма, у Беларусі ўжо ёсць тры чалавекі, якія маюць імя Радзім. Трошку пазней мне пазваніў Зміцер Санько і паведаміў, што іх выдавецтва «Тэхналогія» выдала невялічкі дапаможнік для маладых бацькоў Сымона Борыса «Беларускія імёны» (2001), у які ўключыў імя Радзім. Не выключана, што з часам гэтае старажытнабеларускае імя будзе гучаць не толькі ў назве племені «радзімічы», а стане трошку больш частым і ў жыхароў Беларусі. Добра, што гэтае імя не толькі гаворыць пра беларускае паходжанне, але складае і ўяўленне Радзімы.

***2012***

## Класік беларускай прозы

Чым бліжэй да 95-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля (4 жніўня 2012 г.), тым усё часцей успамінаюцца сустрэчы з ім. У другую палову траўня з прыемнасцю перачытаў шэраг яго твораў і зноў адчуў асалоду ад слова вялікага майстра літаратуры. Ён памёр 6 гадоў таму, не дажыўшы 10 дзён да 89 гадоў.

З юнацкіх гадоў Іван Антонавіч вырашыў прысвяціць сябе літаратуры, але вагаўся, кім стаць — паэтам ці празаікам. Пісаў як свае вершы (выдаваліся ў друку падпольнага райвыканкама партыі ў віленскім часопісе «Шлях моладзі»), так і перакладаў вершы Буніна, Адама Міцкевіча і ленінградскіх паэтаў. Адначасова і галоўным чынам ствараў прозу. Як сам пісьменнік пісаў: *«Пра тое, што я празаік, пачаў думаць даволі рана... Ад думкі, што я не паэт — хоць бы, скажам, па сумяшчальніцтву, — канчаткова адмовіўся толькі ў Мінску. У рашэнні гэтым больш было ўласнага пераканання, хаця адрэсціся ад рыфмаў памаглі і іншыя, скажам, Кандрат Крапіва, якому я, як рэдактару майго першага зборніка, разам з апавяданнямі падсунуў і вершы»*. Але любоў да рыфмаў, да паэзіі засталася ў душы пісьменніка на ўсё жыццё, таму яго проза ўся пранізана паэтыкай. Вялікі майстар слова, ён так дасканала адпрацоўваў сваю прозу, што рабіў яе па-сапраўднаму красным пісьменствам. Яго мініяцюры, асабліва тыя, якія прысвечаны прыродзе (а іх вельмі многа), настолькі пранікнуты лірызмам, што нагадваюць вершы ў прозе.

Яго любоў і замілаванне да прыроды былі настолькі моцнымі, што ён адчуваў сябе яе часцінкай і мог гадзінамі хадзіць адзін па лесе, усцяж ракі, а яшчэ больш паказваць гасцям дзівосныя краявіды Прынёмання, з захапленнем хваліцца магутнымі дубамі ў даліне Нёмана, дзівіцца жыццёвай моцы ўжо ссечанага асілка-дуба, з пня якога расце белая прыгажуня бярозка. Апошняя пара прытулілася каля дарогі паблізу Брылёва

дома ў Крынічным. Калі ён з 1978 г. пачаў жыць у Крынічным, дык любімым месцам яго працы, дзе ён напісаў многія свае творы, была невялічкая мансарда, дзе стаялі паліцы з кнігамі блізкіх яго сэрцу літаратараў: Льва Талстога, Чэхава, Адама Міцкевіча, Шаўчэнкі, Багдановіча і інш. Самае галоўнае для яго тут былі не толькі дзіўныя гукі прыроды, якія шчыра ліліся ў шырока адчыненае акно ад шчэбету рознагалосых птушак, цёплага ветрыку, але і цудоўны краявід чыстага бясконцага сіняга неба ці мудрагелістых воблакаў, кроны дрэваў… Ён зліваўся з прыродай, разам з ёй жыў і ад яе піў сокі жыцця. Быў проста шчаслівы, калі раптам пачуе курлыканне жураўоў.

Янка Брыль не любіў фантазіраваць складаныя сюжэты для сваіх апавяданняў, ён пісаў праўду жыцця, якую ён бачыў вакол сябе, лавіў найбольш важныя тыповыя ці незвычайна паэтычныя моманты, абагульняў іх і рабіў цудоўныя аповесці і апавяданні, у якіх дзейнічалі рэальныя прататыпы, такія блізкія і зразумелыя чытачу. Гэтаму дапамагалі запісы, якія ён рабіў ужо з пятнаццаці гадоў. У запісныя кніжкі ён заносіў размовы з рознымі, часцей звычайнымі простымі людзьмі, свае назіранні пра падзеі і жыццё народа, ад якога ён ніколі не адрываўся, меў востры погляд, любіў бачыць і слухаць. У гэтым сэнсе ён сапраўдны народны пісьменнік, а не толькі афіцыйна прызнаны. Ад народа ён успрыняў той тонкі гумар, якім прасякнуты яго творы, і галоўнае — жывую, сакавітую народную беларускую мову. Янка Брыль казаў мне, што ніколі не разумеў тых пісьменнікаў, якія кажуць: «Ні дня без радка», або «Я дзве старонкі кожны дзень павінен зрабіць». У яго галоўнае — гэта настрой, натхненне, і таму ён працуе ўрыўкамі. Вельмі рад, калі добра працуецца з сямі раніцы да дванаццаці дня. Ён сябе лічыў «малафармістам» — аўтарам пераважна апавяданняў і мініяцюр, а таму на кожны твор трэба было настройвацца паасобку. Дзякуючы Янку Брылю, мініяцюры, якія ў апошнія гады займалі першае месца ў яго творчасці, зрабіліся такім папулярным жанрам у беларускай

літаратуры. Хаця ён паказаў сябе выдатным майстрам рамана, аповесцей, апавяданняў, эсэ, нарысаў.

Цяжкае і складанае жыццё дзяцінства і маладосці, калі пазнаў нялёгкі сялянскі быт, раннюю страту бацькі і брата, службу ў марской пяхоце польскай арміі, нямецкі палон, уцёкі на радзіму, удзел у партызанскім руху і падпольным друку, а пазней, ужо ў пасляваенны час — недавер і незадавальненне ідэолагаў-чыноўнікаў яго праўдзівымі творамі, далі вялікі аб'ектыўны матэрыял для творчасці, не прайшлі міма і знаходзяць сваё месца нават у апошніх мініяцюрах.

Галоўнае ў жыцці і творчасці Янкі Брыля — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы. Ён пісаў: *«Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служыў і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдскае»*. Ён лічыў, што твор пісьменніка павінен дыхаць праўдай і шчырасцю. Ніштo не магло адштурхнуць вялікага патрыёта Бацькаўшчыны са шляху нацыянальнага адраджэння, якое можа адбыцца толькі на аснове нацыянальнай ідэі.

Усё жыццё Янка Брыль займаўся самаадукацыяй праз кнігу, без якой не мог уявіць сваё існаванне — *«кожны мой дзень быў вучобай»*. Таму і стаў ён сапраўдным энцыклапедыстам, асабліва ў мастацкай літаратуры. Часта ў размовах цытаваў на памяць сваіх любімых пісьменнікаў — Льва Талстога, Чэхава, Шаўчэнку і інш. Прычым чытаў не толькі многа, але і вельмі хутка. Не паспееш прагледзець новы часопіс, як Іван Антонавіч яго ўжо цалкам прачытаў і раіў, на што звярнуць увагу. Меў вялікую бібліятэку, якую пастунова шчодра па частках раздаваў у розныя ўстановы. Калі я пісаў успаміны пра майго тату Гаўрылу Іванавіча і дзяліўся з Іванам Антонавічам пра яго настаўніка ў Ціміразеўскай акадэміі А. В. Чаянава і побыт на Беламорска-Балтыйскім канале, дык Янка тут жа мне падараваў кнігу мастацкіх твораў «Гофманіяду» Чаянава і кнігу ўдзельнікаў гэтага будаўніцтва.

Янка Брыль быў вельмі добразычлівым чалавекам, меў вялікую колькасць сяброў, спачатку старэйшых за сябе, а потым і маладзейшых. У людзях галоўнай станоўчай якасцю цаніў чалавечнасць, не цярпеў двурушнасць, а сяброўства любіў «на роўных». Таму значна маладзейшым — спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне — прапанаваў перайсці на «ты». Гэта было для нас не проста, але вельмі прыемна і прыносіла гонар. Ён заўсёды гатоў прыйсці на дапамогу. Памятаю, як Іван Антонавіч 3 жніўня 1994 г., пачуўшы ад некага, што ў мяне памерла маці, прыйшоў на пахаванне, сказаў вельмі шчырыя добрыя словы, падтрымаў мяне, а потым застаўся на памінкі, і гэта нягледзячы на тое, што на наступны дзень ён адзначаў сваё 77-годдзе.

Янка Брыль вельмі высока ставіў дзейснасць Максіма Гарэцкага, творы якога не толькі поўнасцю ўважліва прачытаў, але і перачытваў. З такой жа павагай і сяброўствам адносіўся да Гаўрылы Гарэцкага і Галіны Максімаўны, з якімі сустракаўся, перапісваўся. У 1980 г. ён надрукаваў эсэ «Пасля лемантара», у якім выказаў *«не першае захапленне братамі Гарэцкімі, пісьменнікам і вучоным»*. Ён адкрываў і вёў першыя афіцыйныя вечары, прысвечаныя юбілейным датам Максіма Гарэцкага (пачынаючы з 75-годдзя), а на 90-годдзе і 100-годдзе выступіў са змястоўнымі думкамі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

У 1988 г. Іван Антонавіч так усхвалявана і шчыра выступіў на пахаванні майго таты, што я не мог стрымаць слязу, і сардэчна падзякаваў майму лепшаму старэйшаму сябру. На навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Г. Гарэцкага (10.04.2000), Янка Брыль выступіў з цёплымі ўспамінамі пра сустрэчы з Гаўрылам Іванавічам, высока ацаніў яго жыццё і ўклад у справу нацыянальнага адраджэння Беларусі. Ён напісаў артыкул «Сялянскае, народнае» ў кнігу «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння» (2000). Як заўсёды, артыкул Івана Антонавіча прасякнуты сардэчнымі пачуццямі да ўсіх Гарэцкіх, яскрава падкрэслівае галоўную сутнасць сям'і

і найбольш важныя жыццёвыя моманты яе прадстаўнікоў з хвалюючай шчырасцю і цеплынёй.

Янка Брыль удзельнічаў амаль ва ўсіх Гарэцкіх чытаннях, што надавала ім большую значнасць. Ён часта выступаў з прывітальным словам і аглядам дакладаў і выступаў. Усе ўдзельнікі чытанняў заўсёды радаваліся яго прысутнасці, дзякавалі за крытычныя заўвагі і былі шчаслівыя пахвале вялікага майстра слова.

Жыццялюб і аптыміст ад прыроды, Іван Антонавіч любіў песні, меў даволі моцны прыемны голас, ведаў процьму беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх песень і выконваў іх выдатна. Як было добра ехаць на Гарэцкія чытанні ў Горкі ці Магілёў і назад групай самых актыўных удзельнікаў канферэнцыі (М. Мушынскі, Т. Голуб, Т. Дасаева) і пад кіраўніцтвам галоўнага саліста нашага невялікага хору Янкі Брыля і падпяваць яму! У яго сэрцы і душы заўсёды гучала песня. Нават калі ў апошнія гады ён жыў адзін, казаў мне: «А ведаеш, я і тут часта спяваю».

Калі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць нашу акадэмію больш нацыянальнай і таму прапанаваў нашаму Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраюцца грамадзяне Беларусі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі. У 1994 г. ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка — найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць. На жаль пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў Прэзідэнта дзяржавы беларуская мова, пытанні беларускай літаратуры і культуры паступова пачалі пакідаць акадэмію, а нашых паважаных ганаровых акадэмікаў нярэдка

проста забываліся запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на агульныя сходы АН Беларусі.

Янка Брыль — сапраўдны інтэлігент, які заўсёды заставаўся самім сабой з дзівоснай сціпласцю і годнасцю, дабрынёй і мудрасцю; вялікі грамадзянін краіны, дзеля росквіту якой рабіў усё, што мог; гонар беларускай нацыі, які так глыбока змог спасцігнуць народную душу; сумленне нацыі, які зваў свой народ да нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечых каштоўнасцей.

* * *

Зноў звяртаюся да апошніх дзён Івана Антонавіча і развітання з ім. Больш чым 2,5 месяца прыйшлося правесці яму ў бальніцах, зрабіць аперацыю, а 7 ліпеня пазваніў мне, што адчувае сябе добра, мае прыўзняты настрой, бо так хораша зноў быць ва ўтульнай хаце, збіраецца ў Крынічнае.

Перад ад’ездам Янка Брыль разаслаў сваю новую кніжку «Парастак», якую адправіў амаль па 60 адрасах. Мы таксама атрымалі: «Дарагім Радзіму і Галі з сяброўскай прыхільнасцю. 8.VII.06. Я. Брыль». Адразу пазваніў, што атрымаў, але ўражанне не змог перадаць, бо прачытаў троху пазней, а Іван Антонавіч ужо з’ехаў. Ніколі не думаў, што гэтая кніжка будзе развітальнай і ў нейкім сэнсе дойдзе да нас, як запавет.

Якая цудоўная сімвалічная назва! Гэта — зварот да сваіх вучняў, чытачоў, прыхільнікаў, асабліва да больш маладых парасткаў, якіх у Янкі Брыля за яго доўгае складанае сумленнае жыццё вырасла вялікае мноства. Ён і мастаку падказаў, як зрабіць такую выразную вокладку.

У кніжцы аўтар, вялікі майстар прозы і асабліва мініяцюр, зноў шырока і шчодра расчыніў брамы сваіх багатых скарбаў. Тут можна пачуць бязмерную любоў да беларускай прыроды, да Нёманшчыны; мудрыя філасофскія разважанні пра жыццё, пра Радзіму, пра ўвесь свет; пра стан мовы беларускай; выказванні пра мінулае і будучае краіны, пра сяброў, пісьменнікаў

і мастакоў, пра прыгажосць жыцця, якое, на жаль, часта парушаюць сатанінскія з'явы; сапраўды народныя думкі (не можа абысціся без народных прыказак); шчырыя споведзі пра сябе і свой радавод і г. д. Усё напісана прыгажэйшай адпрацаванай да дробязі брылёўскай мовай. Каб усё дайшло да глыбіні розуму і сэрца, трэба кніжку чытаць і перачытваць вельмі ўдумліва.

Янка Брыль мог поўнасцю зліваца з прыродай, быў на дзіва наглядальным і замілаваным да кожнай праявы прыгажосці ў дрэве, травінцы, птушцы, рэчцы, закаце і ўсходзе сонейка… Яго апісанне малюнкаў прыроды — вершы ў прозе.

*«Малы хлопчык увечары адзін выходзіў на ганак дома на лецішчы. Стаяў і ціхенька, зачараваны любаваўся роўным месяцам, зоркамі, небам…*

*Краса прыроды глядзіць на самую сябе яшчэаднымі шчырымі, наіўнымі вачыма»*

Ці яшчэ такое хараство слова пра прыроду.

*«Крыху здалёк ды знізу гляджу на адну з маладых, стромкіх бярозак і думаю, што каб я мог, умеў напісаць дзіцячую казку. Яна пайшла б ад імя самага найверхняга лістка, — як ён глядзіць навокал. Чым любуецца, што хоча сказаць…»*

*«Высокая, цёмна-зялёная сцяна маладога бярэзніку са стромкімі пражылкамі берасцяна-белых гонкіх ствалоў у густой лістоце. Зводдаль, знізу відно, як на фоне гарэзліва, штуршкамі клубіцца, подыхамі іграе хваліста-празрыстай павалокай сінявата-светлы дым нябачнага за кустамі вогнішча.*

*Пройдзе як дым».* Пра хуткаплыннасць жыцця.

*«Але ж і гэтае адчуванне красы, зачароўваючы рухам, хвалюе і застаецца. У памяці».*

Успамінаю, з якой любоўю і захапленнем ён знаёміў нас з многімі дубамі, якія магутна і прыгожа раскінуліся недалёка ад Нёмана каля Крынічнага. У кніжцы зноў чытаю пра гэтыя дубы:

*«Дубы… Дубы… […] Ужо на працягу блізу дваццаці гадоў, ведучы новых ды новых гасцей да бацькі Нёмана, я паказваў*

*ім на прыдарожным пні нявінна смелае беразанятка, пасля, праз іншыя дачныя леты, хваліў бярозку-падростка, а сёння ўжо, дарагія мае, мы з вамі палюбаваліся сталай красуняй!... Дык возьмем яшчэ па кроплі і за бярозу на дубе. З ягонай сілай і з яе красой!...»*

Пісьменніка хвалявалі і не давалі спакою савецкае мінулае.

*«Як баяўся Купала — пры Сталіне, і як баяўся Дубоўка — пасля Сталіна, пра што яшчэ як трэба не напісана».*

Мы часта з Іванам Антонавічам разважалі і ўспаміналі тыя часы бальшавізму, і мне прыемна, што і ў гэтай кніжцы ёсць такія радкі:

*«Кніга ўспамінаў Міхася Ганчарыка і кніжачка ўспамінаў пра яго. Пра іх нядаўнюю прэзентацыю мне расказваў Радзім Гарэцкі, цёпла ўспамінаючы бацькавага сябра, чалавека з падобным лёсам сталінскага пакутніка, які ўсё ж змог нямала зрабіць у айчыннай батаніцы, як Гаўрыла Гарэцкі ў геалогіі».*

Янка Брыль не любіў траскатні, паказухі, занадта гучных дыфірамбаў, сваіх афіцыйных юбілеяў, быў надзвычайна сціплы, хаця і разумеў сваё месца ў літаратуры. Не дапускаў шумупахвалы ў адносінах да сваёй асобы і не надта ўхваляў такое да іншых, што асабліва шырока распаўсюджвалася ў апошні час.

*«Старэйшы беларускі пісьменнік. Жыве і працуе ў Мінску. Яго апошняя кніга...»*

*Бібліяграфічная даведка пра мяне ў «Arche», да змешчанага там эсэ.*

*Спачатку гэта трохі незвычайна, а потым можна і ўздыхнуць з палёгкай, — настолькі яно лепш за ўвесь набор эпітэтаў, якімі кішыць сённяшняя літаратурная паказуха, дзе і абстрактныя геніі, і па-савецку народныя, і па-постсавецку культавыя, і на польскі лад слынныя і выбітныя, і да нашай правінцыяльнасці эпахальныя ды сусветныя, нават «нобельскія», і па-біблейску апосталы ды пракоркі... І яшчэ не ўсё ў пераліку!...»*

Як шчыра, сціпла і самакрытычна піша Янка Брыль пра сябе. *«Мой колішні часовы сацрэалізм вінаваты яшчэ і ў тым, што напісаў я мала, залішне ходзячы, як кот вакол гарачай місы, калі якое-небудзь новае задумы, — а ці тое? а ці так? — замест таго, каб проста пісаць, «что Бог на душу положит». Як пісалі, скажам, Чэхаў, ці Шолам-Алейхем… Бо якраз чытаючы яго весела жывучыя апавяданні, яшчэ раз падумалася пра мае малапісанне»*.

Іван Антонавіч быў вельмі шчаслівы сваёй сям'ёй. Мілая Ніна Міхайлаўна, верная спадарожніца жыцця. Такая разумная, адукаваная, абаяльная, з вялікім гумарам, сапраўдная дарадчыца ў жыцці і творчасці. Ёй Іван Антонавіч прысвяціў пяшчотныя радкі ў нарысе «Нашы разлукі» (2004). Такія цудоўныя дзеці — Галя, Наташа, Андрэй — і канешне ўнукі, якіх усіх ён вельмі любіў і ганарыўся імі. З вялікай цеплынёй і радасцю Іван Антонавіч піша: *«А ці ж гэта не навагоднія падарункі — сынаў званок з Японіі, а ўнукаў з Італіі? З сынам кароткая гутарка, а ад унука, праз хрып і трэск у тэлефоннай трубцы, толькі: «Дзядуля!..» На чым сувязь і абарвалася. Але ж мне і такога нямала»*.

Памятаю, як я, аддаўшы свой артыкул у рэдакцыю «Роднага слова», вырашаў зайсці да Івана Антонавіча, якому гэты часопіс заказаў нарыс пра радавод. Ён яго закончыў, разам з Наташай падабраў здымкі. Калі я прыйшоў, з радасцю мне паведаміў: «А ведаеш, дарагі мой, павіншуй мяне — я стаў прадзедам!» Ведаючы пра «Радавод», які мне паказалі ў рэдакцыі, я адразу спытаў: «А ў радавод паспееш уключыць новага чалавека брылёўскай крыві?» У часопісе, а зараз зноў у кнізе «Парастак» з прыемным успамінам пра тую сустрэчу прачытаў: *«Вясёлы пастскрыптум. 10 красавіка, калі ўжо гэты нарыс быў здадзены ў рэдакцыю «Роднае слова» і прыняты да выхаду ў чэрвені, я на шарай гадзіне, не ўключыўшы святла, у адзіноце спяваў сам сабе, у нейкія моманты нават у слёзнай асалодзе ад музыкі і слоў — родных, рускіх, украінскіх, польскіх. І тут нечаканы*

*і доўгачаканы званок ад Галі, што вось і яна ўжо бабуля, а я — такім чынам, прадзед!.. У Мішы з Машай — дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя — Даша. Дар'я, а ў нас па-загорску — Адарка, Адара. Зноў жа высокае хваляванне, святочная навіна, пра якую мне захацелася дапісаць. Бо яна ж і да месца ў размове пра мой, пра наш радавод»*.

Былы жаўнер і партызан, які добра ведае жудасці вайны, разлад паміж людзей і дзяржавамі, які цэніць мір сяброўства і разумнае аб'яднанне і які марыць пра будучае сапраўднае наасфернае жыццё, Янка Брыль у сваёй апошняй кніжцы ў якасці звароту ўсяму чалавецтву адзначыў: *«Эфіопа-рускі Пушкін, беларуса-паляк Міцкевіч і многа другіх выдатных і добрых, у той ці іншай міжнацыянальнай сумесі — хіба ж і гэта не кліча ўсіх людзей да разумнага аб'яднання, да шчасця міру паміж імі? Не нова гэта ў мяне. Але ж і праблема штодзённа-вечная»*.

* * *

І раптам 25 ліпеня — неспадзяваны страшэнны ўдар. Хаджу сам не свой. У галаве: «Іван Антонавіч! Янка! Як жа так? Чаму так? Як будзем без Цябе?» Сэрца плюхае зачаста і адчуваецца, што яно ёсць і нешта нават паколвае. Беларусь і ўвесь свет асірацелі: пайшоў ад нас Вялікі пісьменнік, Вялікі грамадзянін.

Дачцэ Наташы ён ўжо даўно даў запавет: хаваць з хаты на былой вул. Дразды, куды ў дзень 26 ліпеня і прывезлі труну. Пачалі прыходзіць развітацца блізкія, сябры, знаёмыя. Прыйшлі і мы. На вуліцы сустракае Данута. Кватэра адчынена. Наташа, Галя, родныя, Марыя Захарэвіч, Валянціна Коўтун, Анатоль Сідарэвіч маўчаць ці шэптам размаўляюць… Іван Антонавіч, прыгожы, спакойны, трошку схуднелы, выглядае як быццам спіць. Ён заўсёды быў вельмі фотагенічны. Шматлікія яго здымкі такія выразныя, на якіх бачны самыя разнастайныя пачуцці: радасць і прыемная ўсмешка, роздум і задумлівасць, дабрыня і прыязнасць… Пазваніў сын, Андрэй Іванавіч, які

працуе зараз у Японіі, што ўжо ў Маскве і хутка дабярэцца да Мінска.

На наступны дзень а 14-й гадзіне пахаванне. Людзі ішлі адзін за адным з кветкамі — сумная вестка разляцелася па Беларусі. Сабралася чалавек пад 400–500. Многа знаёмых і незнаёмых. Бачу палітычных дзеячаў: С. Шушкевіча з Ірынай, А. Мілінкевіча, А. Лябедзьку, С. Калякіна, Ю. Хадыку, А. Дабравольскага, П. Краўчанку, многіх пісьменнікаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і інш. Вынеслі труну, і над ёй і натоўпам узняліся магутныя светлыя, але з чорнымі стужкамі, бел-чырвона-белыя сцягі. Ад афіцыйных структур няма прадстаўнікоў не тое што ад Адміністрацыі Прэзідэнта, ці Савета Міністраў, ці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а нават ад Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі, Нацыянальнай акадэміі навук (праўда, ёсць сціплы вянок ад Прэзідыума, а ён жа — ганаровы акадэмік!). Не відаць і прадстаўнікоў чыргінцоўскага пісьменніцкага саюза. Як тады, пры пахаванні Васіля Быкава, бел-чырвона-белы сцяг як ветрам здзьмуў усіх афіцыйных прадстаўнікоў чыноўніцкай «вертыкалі», так і цяпер страх ад сцяга не пусціў іх на развітанне з народным пісьменнікам Беларусі.

Жалобны мітынг вёў Алесь Пашкевіч. Слова казалі Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Вінцук Вячорка, Уладзімір Някляеў. Гучаць словы: Вялікі Беларус… Сумленне нацыі… Вялікі пісьменнік… Неперасягнуты майстар мініяцюры… Класік… Вучоны… Вялікі грамадзянін… Патрыёт… Прынцыповасць… Культура… Волат… Глыба… Асоба… Шляхетнасць… Інтэлігентнасць… Вялікі чалавек… Добразычлівасць… Любімы… Вялікая ўдзячнасць… Вечнасць…

На могілках «Калодзішчы» цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. Усплывае перад вачыма яе пахаванне. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. На памінках у той жа хаце на вул. Дразды я сядзеў побач з ім на

канапе, прытуліўшыся да яго, магутнага, але такога аслабелага ад згубы, стараўся перадаць яму хоць нейкую і маю сілу, гаманіў-гаманіў, каб адчуў ён мае шчырае спачуванне і каб трохі адхіліць зусім змрочныя думкі, якія, я бачыў, увесь час надыходзілі да яго. Прыгадаў нашу вандроўку з Нілам Гілевічам і яго Нінай Іванаўнай у Крынічнае на 80-годдзе пісьменніка. Так было радасна, весела, столькі казалі яму добрых ласкавых слоў. Зразумеў і падтрымаў радасць Янкі Брыля ад таго, што яго нічым не ўзнагародзілі ўлады Беларусі, хаця я быў моцна абураны такой знявагай да аднаго з самых выдатных людзей краіны. Пазней ад нас назаўсёды пайшла адна Ніна, а за ёй у хуткім часе і другая Ніна.

Цёплыя шчырыя словы сказалі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў, загадчык аддзела культуры Карэліцкага райвыканкама Нагорная. Развіталіся, кінулі па тры жменькі зямлі ў магілу… І ўсё — не ўбачым больш жывога Янку Брыля.

Калі мая стрыечная сястра Галіна Максімаўна, дачка Максіма Гарэцкага, якой было ўжо за 80 год, адчувала сябе зусім дрэнна, яна брала кніжку Янкі Брыля і чытала яго цудоўныя творы, якія, як яна заўсёды падкрэслівала, дапамагаюць ёй жыць. Думкі, дух, словы Янкі Брыля будуць жыць вечна ў Беларусі і ўсім свеце, будуць захоўваць беларушчыну, дапамагаць жыць і будаваць вольную дэмакратычную цывілізаваную дзяржаву з прыгожай назвай Беларусь, якую так любіў і аб якой ўсё жыццё марыў вялікі Янка Брыль.

***2012***

## Зберагчы Беларушчыну

Нават знаходзячыся ў адпачынку далёка ад дому ў цікавым добрым падарожжы па еўрапейскіх краінах, сум не пакідае ад стану Беларушчыны на Беларусі, ад дзікіх адносін да яе кіраўніка дзяржавы і яго адміністрацыйна-чыноўніцкай вертыкалі.

Успамінаецца перабудоўчы кароткатэрміновы ўздым Беларушчыны, у які БССР стала суверэннай Рэспублікай Беларусь, бяз’ядзернай міралюбівай дзяржавай, беларуская мова атрымала статус адзінай дзяржаўнай, таксама дзяржаўнымі абвясцілі нацыянальныя сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг і інш. Гонар ахапіў сэрцы сапраўдных беларусаў і ўсіх патрыётаў нашай краіны. Дык што такое Беларушчына, якая так моцна ўплывае на стан насельніцтва Беларусі?

Беларушчына — гэта аснова беларускай нацыянальнай ідэі, пра рэалізацыю якой лепшыя прадстаўнікі беларускага народа марылі шэраг стагоддзяў. Таму Беларушчына складае значную колькасць вельмі важных аспектаў: самае галоўнае — родная матчына мова, старажытная, добра распрацаваная, мілагучная, якой неабходна карыстацца кожны дзень і ў побыце, і ў працы; замілаванне прыродай нашай краіны з цудоўнымі краявідамі, маляўнічымі рэчкамі і азёрамі, разнастайнымі лясамі і пяшчотнымі лугамі; адчуванне роднасці да ўсіх людзей беларускай зямелькі з пачуццём дабрыні і клопату аб іх; разуменне і развіццё культуры, літаратуры, мастацтва, адукацыі, навукі Беларусі; сяброўства і павага да ўсіх людзей іншых народаў і нацый, асабліва суседніх краін; талерантнасць да любых рэлігій і веравызнанняў; імкненне да волі і правоў чалавека, падтрымка ўсіх дзеянняў у гэтых напрамках; жаданне жыць у дэмакратычнай вольнай багатай дзяржаве, дзе Канстытуцыя і законы няўхільна выконваюцца ўсімі яе жыхарамі незалежна ад пасады, за чым самастойна сочаць усе галіны ўлады, як дзяржаўныя, так і грамадскія; змаганне за незалежнасць дзяржавы. якая павінна быць міралюбівай, ісці сваім цвёрдым шляхам, не хістаючыся ні на Захад, ні на Усход, на чале з разумным прафесійным урадам і іншымі кіруючымі структурамі; быць сапраўдным патрыётам краіны, ганарыцца ёю і пакласці ўсе свае сілы, здольнасці на яе карысць і росквіт.

На жаль, пакуль што мы вельмі далёкія ад сапраўднай Беларушчыны і нават усё больш губляем яе. Асабліва рэзка гэты

працэс пайшоў з таго часу, як Беларусь стала прэзідэнцкай дзяржавай і адчула моц лоўка праведзенага вядомага рэферэндуму. Уся адміністратыўна-камандная вертыкаль у адносінах да Беларушчыны стала не на шлях Скарыны і Сапегі, а на шлях Кацярыны II і яе генерал-губернатара Мураўёва, прычым спачатку ішла гаворка пра абавязковае і хутчэйшае аб'яднанне з Расіяй у адзін Саюз, таму дэмакратычныя сілы правялі Усебеларускі з'езд за незалежнасць. Пазней, калі Пуцін прапанаваў уваходзіць у склад Расіі цалкам ці абласцямі, улады раптам загаласілі пра незалежнасць дзяржавы і любоў да Беларусі, але адносіны да Беларушчыны па сутнасці не змяніліся і нават яшчэ больш пагаршаліся. Беларуская мова для ўсіх чыноўнікаў (ды і многіх іншых) застаецца далёкай ад карыстання, нягоднай для выказвання іх вельмі разумных і складаных думак, і таму яны, а за імі большасць насельніцтва амаль поўнасцю рускамоўныя.

Трэба не толькі захаваць Беларушчыну, але як мага хутчэй пашырыць і развіць. Калі далей на Беларусі працягнуцца такія ж адносіны да Беларушчыны, як зараз, дык Беларусь згіне і будзе адна вялікая дзяржава — Расійская Федэрацыя, у якую ўвойдзе малая тэрыторыя рускамоўнай Белай Русі.

*2012*

## Калі адзначаць юбілей?

У «Беларускай энцыклапедыі» (2002. Т. 14) напісана: «Саюз беларускіх пісьменнікаў (СБП)… створаны паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 27.05.1922 «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР». Арганізацыйна аформлена 1-м Усебеларускім з'ездам пісьменнікаў (Мінск, 8–14.06.1934) як Саюз пісьменнікаў Беларусі» Калі лічыць, што СБП створаны з часу пастановы, дык ён існуе ўжо 80 гадоў. Хаця ўвесь час у Беларусі быў толькі адзін Саюз, але назву мяняў — то СБП, то СПБ, а цяпер ёсць два з азначанымі назвамі. Ні адзін, ні другі

Саюз не святкавалі гэту дату. Пытаўся ў шэрагу пісьменнікаў, чаму так. Некаторыя наогул забыліся, калі быў створаны Саюз, а большасць усё ж лічыць юбілейным 2014 год. Кіраўніцтва СБП вырашала да гэтай даты стварыць жартаўлівы каляндар «Беларускі фальклор», у якім змясціць фотаздымкі пісьменнікаў у выглядзе міфалагічных зданняў: Генадзь Бураўкін стаў Баем, Міхась Скобла — Лазнікам, Аксана Данільчык — апякункай вясны Лёляй, Аксана Спрынчак — Русалкай, Віктар Жыбуль — чортам, Леанід Дранько-Майсюк — Лесавіком. Ніл Гілевіч адмовіўся пераапранацца. Ён лічыць, што зараз не той час для літаратуры, каб займацца такімі несур'ёзнымі гульнямі, і шкадуе, што 80-годдзе ў 2012 г. не адзначылі.

*2012*

## «Больш за трох не збірацца…»

Мы ўжо прызвычаіліся і амаль не здзіўляемся, калі даведваемся, што некага хапаюць і закідваюць у «аўтобус». Прычына такога нярэдка проста абсурдная. У «Народнай Волі» ад 29 траўня 2012 г. прачытаў артыкул Любові Лунёвай «…І апынуўся прафесар Лепін разам з моладдзю ў пастарунку». Маладыя людзі, галоўным чынам студэнты ВНУ, сабраліся ў нядзелю, каб прыбраць тэрыторыю парку каля стадыёна «Трактар». Запрасілі Георгія Лепіна, вядомага прафесара фізіка, праслухаць яго лекцыю пра экалогію і ядзерную энергетыку. Раптоўна наляцелі спецназаўцы, кінулі 20 чалавек, у тым ліку і прафесара, у «аўтобус» і адвезлі ў міліцыю Заводскага раёна Мінска. Паважанага чалавека у салідным узросце паставілі да сценкі, знялі адбіткі пальцаў, далоняў, сфатаграфавалі, а ў «аўтобусе» яшчэ раней адабралі яго кнігу «Атамная энергетыка: мірны забойца» і вельмі цікавыя матэрыялы Барыса Скабелкіна. Груба размаўлялі на «ты», нават не пацікавіліся, што рабілі маладыя людзі ў парку. Толькі адзін міліцыянер сказаў: «Вы што — не ведаеце, што ў нас нельга збірацца

больш за тры чалавекі?» Праз некаторы час усіх выпусцілі, але рэчы прафесару не вярнулі. Ён лічыць, што ўсяму віной страх: «Баяцца тых, хто думае, хто хоча больш ведаць, хто вучыцца». Вядома, у якіх краінах такое адбываецца.

*2012*

## Усё расійскае

1 чэрвеня 2012 г. глядзеў апошнія весткі па расійскім і беларускім каналах тэлебачання. Галоўная падзея — першы візіт У. Пуціна, як зноў абранага новага прэзідэнта РФ, за мяжу краіны. Масква падкрэслівае — якая павага для Беларусі! Мінск з захапленнем — які гонар для Рэспублікі Беларусь! Адна з самых галоўных тэмаў перагавораў прэзідэнтаў абедзвюх краін — будаўніцтва АЭС у Астраўцы. Тэлевядучая Масквы называе яе — руская АЭС, добра, хоць мінская — Беларускай АЭС.

У гэтыя ж дні Полацк урачыста адзначае свае 1150-годдзе. Масква паведамляе, што Полацк — адзін з першых горадоў-заснавальнікаў рускай дзяржавы. Па беларускім тэлебачанні пра першую і пра другую падзею, як і пра іншыя, — толькі на рускай мове. У «Нашай Ніве» ад 6 чэрвеня прачытаў, што кіраўніку Рэспублікі Беларусь прыйшлося чакаць у аэрапорце высокага госця аж тры гадзіны ў сувязі са спазненнем яго прылёту. Лукашэнка вітаў яго ласкавымі словамі: «Ад усёй душы вітаю вас на вашай беларускай зямлі». Можа, і праўда, усё ў Беларусі расійскае…

*2012*

## Стан беларускай навукі

У выніку шэрагу ўказаў гаспадара дзяржавы, якія пярэчылі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (у тым ліку і існуючаму тады Статуту НАН Беларусі), навука (асабліва ў НАН Беларусі) цалкам трапіла ў рукі камандна-адміністрацыйнай

сістэмы дзяржаўных чыноўнікаў і поўнасцю паслухмяных ім чыноўнікаў ад навукі, прычым з апошніх стварылі сваю навукова-адміністрацыйную «вертыкаль», якая не выбіралася вучонымі, а прызначалася галоўным чыноўнікам дзяржавы і яго памагатымі. З пачатку сучаснага стагоддзя кіраўнік дзяржавы нечакана прызначыў старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, нядаўна атрымаўшага навуковую ступень доктара эканамічных навук М. У. Мясніковіча, які пачаў бясконцыя неразумныя рэфармаванні (імітацыі сапраўдных рэформ). У хуткім часе ўзнікла такое ўражанне, што ён прыйшоў на новую пасаду з мэтай не толькі змяніць Акадэмію навук, а проста разбурыць, зрабіць з яе Міністэрства навукі.

Ствараліся «навукова-практычныя цэнтры», аб’яднанні, інавацыйныя прадпрыемствы, пачалося будаўніцтва ферм, заводаў, прычым часта гэта рабілася фармальна, абы выканаць загад самага галоўнага начальніка і перабудаваць акадэмію ў «навукова-вытворчую карпарацыю». Усё прывяло да імітацыі «бліскучай» навукова-арганізацыйнай дзейнасці вертыкалі навуковага чынавенства, а на самай справе — да страшэннай бюракратызацыі, рэзкага падзення ўзроўню фундаментальнай навукі, аслаблення прыкладной, змяншэння фінансавання навукі, моцнага адтоку маладых кадраў і павелічэння сярэдняга ўзросту навукоўцаў, «уцечкі» мазгоў, агульнага падзення прэстыжу навукі. Відавочным стаў крызісны стан навукі ў Беларусі.

Далейшая такая дзейнасць можа прывесці да поўнага развалу сапраўднай навукі. Вядома, што без навукі нельга пабудаваць багатую краіну з перадавой эканомікай, народнай гаспадаркай, культурай. Неабходна вызваліць навуку ад такога моцнага адміністрацыйна-каманднага дыктату і даць ёй хаця б нейкую свабоду.

* * *

Успамінаю, як у сярэдзіне двухтысячных гадоў члены НАН Беларусі — супрацоўнікі Інстытута геахіміі і геафізікі змагаліся супраць ліквідацыі Інстытута і за захаванне геалагічных навук у акадэміі. Яны пісалі лісты і ў Прэзідыум НАН Беларусі, і ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Сутнасць іх зводзілася к таму, што ліквідацыя геалагічнай навукі ў акадэміі прывядзе да немагчымасці сістэмнага вывучэння нетраў і сыравіннай бяспекі краіны, падрыхтоўкі навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў галіне геалогіі, пошукаў і разведкі карысных выкапняў. Лісты да М. У. Мясніковіча пра здзіўленне і засмучэнне, якое выклікала рашэнне аб ліквідацыі вядомага ва ўсім свеце Інстытута геахіміі і геафізікі, прыйшлі ад акадэміка М. Л. Дабрацова, акадэміка-сакратара Сібірскага аддзялення, віцэ-прэзідэнта Расійскай акадэміі навук; акадэміка Ю. Г. Лявонава, акадэміка-сакратара Аддзялення навук аб Зямлі і дырэктара Геалагічнага інстытута РАН; акадэміка П. Ф. Гожыка, дырэктара Інстытута геалагічных навук НАН Украіны, акадэміка В. І. Старасценкі, дырэктара Інстытута геафізікі НАН Украіны, і інш.

Нядаўна трапілі мне ў вочы чарнавікі маіх лістоў і выступленняў у сувязі з тымі падзеямі. 7 жніўня 2006 г. на імя Мясніковіча я паслаў ліст, вытрымкі з якога хачу прывесці. *«Глыбокапаважаны Міхаіл Уладзіміравіч! Мае спробы трапіць да Вас на прыём не ўвянчаліся поспехамі, і таму вырашыў звярнуцца да Вас пісьмова.*

*Пазнаёміўся з праектам Праграмы сацыяльна-эканамічнага і навукова-інавацыйнага развіцця НАН Беларусі на 2006–2010 гады. […] З прыемнасцю адзначыў пералік прыярытэтных напрамкаў у галіне навук аб Зямлі […], але з жудасцю ўбачыў […], што ўсе яны будуць выконвацца не ў НАН Беларусі, а ў Мінпрыроды Рэспублікі Беларусь, куды і перадаюцца практычна ўсе асноўныя навуковыя ўстановы навук аб Зямлі,*

*гэта значыць важнейшыя фундаментальна арыентаваныя навукі ліквідуюцца ў НАН Беларусі! Больш згубнага рашэння для гэтых навук, ды і прэстыжу ўсёй НАН Беларусі цяжка прыдумаць! Геалогія, геахімія і геафізіка, якія складаюць галоўнае ядро навук аб Зямлі, не толькі чыста прыкладныя, якія звязаны з пошукамі ўсіх карысных выкапняў, але маюць надзвычай важную фундаментальную частку, без распрацоўкі якой не можа выконвацца яе прыкладная частка. У Акадэміі неабходна вывучаць не толькі шматтысячную гісторыю чалавецтва на тэрыторыі Беларусі і яе народа, але і гісторыю Зямлі, на якой гэты народ жыве, а яна ахоплівае больш за 3 млрд гадоў. […] Без гэтых ведаў немагчымы мэтанакіраваныя пошукі карысных выкапняў. Толькі беларускія даследчыкі, і перш-наперш вучоныя НАН Беларусі, могуць атрымаць гэтыя фундаментальныя весткі. Ніхто іншы за нас гэта не зробіць.*

*[…] Калі нельга абысціся без стварэння навукова-практычнага цэнтра ў галіне геалогіі, дык яго можна арганізаваць у рамках НАН Беларусі шляхам уключэння ў яго Інстытута геахіміі і геафізікі, Цэнтра геафізічнага маніторынгу, прадпрыемства дыстанцыйных даследаванняў «Экамір», а таксама РУП «Белгеа». […] Самае галоўнае — катэгарычна нельга выкідваць навукі аб Зямлі з НАН Беларусі: гэта будзе недаравальная памылка.»*

У канцы верасня 2006 г. я паслаў у акадэмічную газету «Веды» артыкул «Дзе быць навукам аб Зямлі?». Ад галоўнага рэдактара Т. Арэшка атрымаў паведамленне, што артыкул прыняты да публікацыі, але ўмяшаўся невядомы цэнзар і артыкул так і не пабачыў свет.

На агульным сходзе Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі (25 кастрычніка 2006 г.), якое нарэшце сабралі, каб абмеркаваць лёс геалагічных навук у прысутнасці намесніка старшыні Прэзідыума акад. А. І. Лесніковіча, які курыраваў наша аддзяленне і які пільна праводзіў думку Мясніковіча пра перадачу

геалагічных навук у Мінпрыроды, я выступіў з рэзкай нязгодай з такімі намерамі.

*«[…] выступаю я таму, каб не было нясцерпна сорамна перад будучымі нашчадкамі за баязлівае маўчанне, як знак згоды ці нават падтрымку тым «геніяльным» рашэнням, якія прапануе Бюро Прэзідыума.*

*Я не разумею нашых чыноўнікаў-кіраўнікоў (у тым ліку і чыноўнікаў ад навукі), якія ўвесь час імкнуцца да бясконцага рэфармавання, прычым па вядомаму бальшавіцкаму сцэнарыю «…да аснавання, а затым…» Гэта не дае спакойна працаваць вучонаму. Галоўныя ўстановы навук аб Зямлі ў НАН Беларусі добра выконвалі свае функцыі, кожная з іх заняла сваю нішу. Наладзіліся нармальныя ўзаемаадносіны з установамі Мінпрыроды. Чамусьці спатрэбілася зламаць такую стабільнасць. Калі неабходна трэба было стварыць навукова-практычны цэнтр, што патрабавалі Указ Прэзідэнта і пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, дык было прапанавана добрае рашэнне зрабіць гэта на базе ўстаноў НАН Беларусі. Гэта стварала вельмі зручнае спалучэнне фундаментальных і прыкладных даследаванняў. Кіраўніцтву здалося, што гэта слабае «сейсмічнае» разбурэнне, і таму камусьці прыйшла зусім дзікая ідэя: навукі аб Зямлі — вон з НАН Беларусі! […] Усё гэта вырашаецца толькі Бюро Прэзідыума НАН Беларусі. Зусім не цікавяцца і не ўлічваюць думку тых, каго перадаюць: ні супрацоўнікаў, ні ўстаноў, ні нават Аддзялення. А гэта настолькі кардынальнае пытанне ўсёй Акадэміі, што яго без абмеркавання і рашэння Агульнага сходу Аддзялення і Агульнага сходу Акадэміі нельга дыктатарскі вырашаць.*

*[…] Інстытут геахіміі і геафізікі нельга дзяліць і некуды перадаваць не толькі таму, што тады будзе поўная ліквідацыя фундаментальных навук пра Зямлю, але і ў сувязі з закрыццём вучонага савета па абароне дысертацый. […] Інстытут патрэбен і як эксперт у геалагічнай галіне. Гэта разумеюць і Міністр Мінпрыроды, і генеральны дырэктар Дэпартамента*

*па геалогіі, і таму лічаць, што ў НАН Беларусі неабходна захаваць навукі аб Зямлі. […] Чамусьці кіраўніцтва НАН Беларусі не ўспрымае такую ясную, разумную і неабходную для справы думку. У акадэміях навук Расіі, Украіны і многіх іншых краін ёсць не толькі асобныя інстытуты геалагічнага профілю, але і аддзяленні навук аб Зямлі з некалькімі інстытутамі.*

*[…] Калі некаму ўсё ж не дае спакою слава Герастрата, дык давайце спалім навукі аб Зямлі ў НАН Беларусі і застанемся ў памяці нашых нашчадкаў у якасці тых людзей, якія здзейснілі непапраўную памылку. Навукі аб Зямлі павінны застацца ў НАН Беларусі! Іншага рашэння не павінна быць!»*

Аддзяленне хіміі і навук аб Зямлі прагаласавала за тое, каб пакінуць Інстытут геахіміі і геафізікі ў НАН Беларусі. Нягледзячы на такую падтрымку інстытута і пратэст супраць ліквідацыі, у канцы снежня 2007 г., калі адзначалі 80-годдзе стварэння Інстытута геалогіі ў Беларускай акадэміі навук, выйшла пастанова аб ліквідацыі інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, што асабліва балюча было для мяне, бо ўмацаванню і ўздыму яго я аддаў 30 гадоў свайго жыцця…

* * *

На сесіі Агульнага сходу НАН Беларусі, якая адбылася ў красавіку 2010 г., М. У. Мясніковіч у сваім дакладзе адзначыў: *«Особое внимание в последнее время в стране уделяется освоению недр. Вношу предложение открыть отдельный инновационный проект, в рамках которого […] добиться законченных, подчеркиваю, законченных научных рекомендаций и производственных технологий по разработке месторождений железа, золота, урана, бурого угля и сланцев. […] Уже сейчас я сожалею, что не отстоял сохранение в составе Академии наук Института геологии и «Белгео». Передача их в Министерство природы не дала стране нового качества. Скорее наоборот»* («Веды», 24.04.2010).

* * *

Гаспадар дзяржавы яшчэ да новага, 2012 г. даў каманду рэфармаваць НАН Беларусі не так, як прапанавала яму кіраўніцтва акадэміі, а па-іншаму, менавіта так, каб любое навуковае даследаванне арыентавалася на практычную аддачу, а акадэмію ператварыць у навукова-практычную карпарацыю.

На ўручэнні навуковых дыпломаў і атэстатаў ён патрабаваў карэннай мадэрнізацыі акадэміі і выказаў думку: *«Возможно, будет более целесообразно пойти по пути тех государств, где исследования сосредоточены в университетах, на предприятиях и дают реальный эффект»* («Вечерний Минск», 8.02.2012).

Вучоныя НАН Беларусі за подпісам 22 акадэмікаў і 20 членаў-карэспандэнтаў на чале з былымі прэзідэнтамі Акадэміі навук М. А. Барысевічам, Л. М. Сушчэнем і А. П. Вайтовічам ў адказ паслалі кіраўніку дзяржавы ліст са сваім поглядам на стан і рэформы акадэміі. Я таксама з задавальненнем падпісаў гэты ліст.

У звароце адзначаліся галоўныя пытанні.

1. **Задачы НАН і навукі цалкам.** Асноўныя задачы НАН Беларусі: атрыманне новых ведаў; выпрацоўка прапаноў па выкарыстанні новых ведаў, тэхналогій і шляхоў рэалізацыі гэтых прапаноў, удзел у рэалізацыі і навуковае забеспячэнне і навуковае суправаджэнне развіцця грамадства і дзяржавы (пытанні нацыянальнай эканомікі, беларускай мовы і літаратуры, культуры, гісторыі, права, прыродных рэсурсаў, экалогіі і інш.), ідэнтыфікацыя праблем развіцця краіны, пошук шляхоў іх вырашэння і распрацоўка планаў дзеяння, гэта значыць адпаведных «дарожных карт»; падтрымка сучаснага ўзроўню ведаў у краіне, без якога немагчыма забяспечыць належны ўзровень адукацыі. Вырашэннем гэтых задач павінны займацца ўсе сегменты навукі.

2. **Структура навукі.** У гэтым раздзеле, апрача шэрагу іншых, адзначалася, што без фундаментальнай навукі няма

будучага ў навукі, а без навукі — належнага будучага краіны. Як ва ўсім свеце, фундаментальныя даследаванні павінны поўнасцю фінансавацца з бюджэту. Інстытуты, якія ствараюць фундаментальныя веды ў галінах базавых і рэгіянальных навук (матэматыка, фізіка, хімія, біялогія і навукі аб Зямлі), а таксама гуманітарныя інстытуты павінны застацца ў сістэме НАН Беларусі. Перавод іх ва ўніверсітэты ў сучасны момант будзе мець негатыўны вынік.

3. **Інавацыйная дзейнасць.** Тут, у прыватнасці, адзначаліся наступныя прапановы.

Няма разумных асноў рабіць з НАН Беларусі навукова-вытворчую карпарацыю. Трэба спыніць практыку стварэння ў акадэміі імітацыйных навукова-практычных цэнтраў. Вынікі ад гэтага ў асноўным негатыўныя. Задача акадэміі — прапанова і развіццё новых сучасных распрацовак і тэхналогій, тыпу суперкамп'ютараў, ствалавых клетак, геннай інжынерыі і г. д.

4. **Кадравая палітыка.** Раней на пасаду дырэктара імкнуліся знайсці вядомага вучонага, а ў апошнія 8–9 гадоў дырэктарамі прызначаюцца нявопытныя кандыдаты навук ці нават спецыялісты без навуковых ступеняў. Неабходна больш актыўна рэалізаваць комплекс мер, якія забяспечваюць павышэнне прэстыжу навукі ў краіне і замацаванне навуковых кадраў.

5. **Экспертыза праектаў.** Павысіць узровень экспертызы навуковых і навукова-тэхнічных праграм шляхам правядзення незалежнай экспертызы.

6. У НАН Беларусі павінна адбыцца **дэмакратызацыя** прыняцця рашэнняў па развіцці тых ці іншых навуковых напрамкаў, структурных і кадравых пераўтварэннях. Трэба ўзнавіць рэальную выбарнасць кіраўнікоў хаця б на ўзроўні аддзяленняў НАН Беларусі і інстытутаў.

У адказ — поўная цішыня, а ў нас — пакутлівае чаканне…

***2012***

## XX Гарэцкія чытанні

14 чэрвеня 2012 г. у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшлі дваццатыя, юбілейныя чытанні, прысвечаныя жыццю і творчасці братоў Гарэцкіх. З вельмі прачулым прывітальным словам выступіў Генадзь Бураўкін, які сказаў:

*«Беларусы — шчаслівы народ. У нас ёсць свае геніі і прарокі, свае героі і пакутнікі, свае вечныя ахоўнікі і празорцы. Што б мы ні рабілі, як бы ні блукалі ў пошуках дарог да годнай долі і волі, нам нятускнымі зоркамі свецяць вочы Еўфрасінні Полацкай і Францішка Скарыны, Льва Сапегі і Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа… І адтуль, са святой нашай славы і вечнасці, глядзяць на нас Максім і Гаўрыла Гарэцкія — класік роднай літаратуры і сусветна знаны геолаг.*

*Лёс паўсюдна дорыць такое не часта — каб з адной хаты, з адной калыскі пайшлі ў вялікі свет ажно два волаты, якіх Бог шчодра надзяліў талентамі і якім матчын край даверліва адкрыў самыя глыбінныя таямніцы спакутаванай душы і цярплівага, цягавітага характару.*

*Часцей за ўсё згадваем мы іх разам, неадрыўна адзін ад аднаго, не толькі (і не столькі) таму, што яны — родныя браты па нараджэнні, а (найбольш) таму, што яны — светлыя, адданыя сыны Бацькаўшчыны, увасабленне яе магчымасцяў і жывучасці. Тонкая, самабытная проза Максіма Гарэцкага, можа быць, трохі запознена, але абсалютна справядліва паставіла яго імя поплеч з самымі славутымі еўрапейскімі пісьменнікамі-сучаснікамі, а адкрыцці і даследаванні Гаўрылы Гарэцкага зрабілі яго прызнаным аўтарытэтам сярод навукоўцаў Масквы і Пецярбурга, Кіева і Вільні, Берліна і Варшавы. А, думаецца, самым галоўным, што яднала гэтых выдатных асобаў, была беларушчына, іхняя невынішчальная адданасць свайму народу, ягонай пакручастай гісторыі, ягонай спаконвечнай мове. Менавіта за гэта кінулі іх за краты*

*сталінска-берыеўскія «інтэрнацыяналісты», менавіта гэтае хацелі вытруціць з іхніх чыстых душ бальшавіцкія апрычнікі. Іх пяліся зламаць, зыначыць, іх гразіліся сцерці ў гулагаўскі пыл. І самадурны смяротны прысуд Максіму бязлітасна выканалі, а Гаўрылу замянілі гадамі зняваг і прыніжэння, голаду і адчаю. Але яны выжылі — ва ўдзячнай памяці сяброў і нашчадкаў, у нешматлюдным пантэоне сваёй радзіннай зямлі.*

*Максім і Гаўрыла Гарэцкія, акрамя ўсяго іншага, — сапраўдныя, прыроджаныя нацыянальныя інтэлігенты, якіх, дарэчы, і сёння так горка, так крыўдна не хапае нашаму грамадству. Непахісная сумленнасць, шырокая адукаванасць, непаказная мужнасць, тактоўнасць і паважлівасць у стасунках з самымі рознымі людзьмі не маглі не прываблівацъ да іх калег і суседзяў, гасцей і выпадковых знаёмцаў.*

*[...] Так, яны ўсё больш і больш аддаляюцца ад нас у часе. Але яны і ўсё больш і больш набліжаюцца да нас духоўна. Кожнаму свядомаму (ды і несвядомаму таксама) беларусу абавязкова трэба прачытаць яшчэ раз, а хто не чытаў — адкрыць для сябе Максіма Гарэцкага, паўней спазнаць вялікага вучонага і патрыёта Гаўрылу Іванавіча. Чым больш мы будзем ведаць іх, тым духоўна багацейшымі, дабрэйшымі і смялейшымі будзем самі. І тым больш умацуемся ў надзеі, што ў Беларусі ўсё будзе па-людску. Толькі трэба адгукацца душою на тое, аб чым яны папярэджвалі, што падказвалі, да чаго заклікалі.*

*[...] Дык давайце ж не проста пакланяцца нашым славутым папярэднікам, а і слухаць іх, давяраць ім!..*

*Мы чуем вас, дарагія Максім Іванавіч і Гаўрыла Іванавіч. Вы з намі...»*

Я вырашыў паведаць пра стварэнне музея Максіма Гарэцкага ў Багацькаўцы.

***2012***

## Гісторыя стварэння літаратурнага музея-сядзібы Максіма Гарэцкага

Пасля смерці Сталіна, у час так званай «хрушчоўскай адлігі», пачалася паступовая рэабілітацыя былых вязняў архіпелага ГУЛАГ, а разам з гэтым вярталіся імёны і творы пісьменнікаў, мастакоў, вучоных. У 1958 г. поўнасцю рэабілітавалі Гаўрылу Гарэцкага, а на наступны год — і Максіма. Адразу ў друку з'явіліся творы пісьменніка і працы пра яго жыццё і творчасць. У 1968 г. у клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вечар, прысвечаны 75-годдзю Максіма Гарэцкага, які адкрыў Янка Брыль, а змястоўны даклад зрабіў Дзмітрый Бугаёў. Ён жа ў гэтым годзе надрукаваў першую пасля рэпрэсіі манаграфію пра жыццё і творчасць пісьменніка. На вечары Гаўрыла Іванавіч агучыў выступленне «Некалькі малюнкаў з дзіцячага і юнацкага жыцця Максіма Гарэцкага», якое пазней было надрукавана ў кнігах «Максім Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы» (1984) і Гаўрыла Гарэцкі «Выбранае» (2002).

У гэтым артыкуле Г. Гарэцкі падрабязна апісаў хату, дзе нарадзіліся і жылі браты Гарэцкія.

*«Дык якая ж была хата, дзе нарадзіўся Максім, дзе прабеглі яго дзіцячыя гады? Пабудаваў яе мой дзед Кузьма на месцы сваёй курнай хаты з часоў прыгону. Падлога ў нашай хаце была земляная, халодная, няроўная. Пры ўваходзе налева — вялікая печ. Ад печы, усцяж левае сцяны, праз усю хату цягнуўся пол — суцэльныя нары, агульны сямейны ложак, — улюбёны прытулак для дзяцей. Над полам, амаль пад самай столлю, былі зроблены шырокія палаці, дзе спалі хлопцы і туды так любілі запаўзаць дзеткі, каб пагрэцца і пагалузаваць.*

*Каля печы быў шырокі запечак, дзе сядзелі старэйшыя жанчыны, пралі, шылі, гаманілі ў доўгія вечары, а да іх туліліся дзеці. Гэта — сямейны клубны куток. Ад печы, амаль на ўзроўні палацяў, праз усю хату была перакінута бэлька, курчына, якая здавалася малым вузенькай кладкай над бяздоннем, перапаўзці якую было найвялікшай спакусай і праявай геройскай смеласці.*

*У куце віселі цёмныя абразы, стаяў вялікі і адзіны стол, з доўгімі лаўкамі ўздоўж сцен.*

*Пад палом у познюю восень і ўзімку хаваліся ад халадоў ягняткі, цялятка, парсючкі, а часам і авечкі, сяброўства з якімі было самай прыемнай пацехай для малечы.*

*У хаце тры невялікія акны з аднымі рамамі і мутнаватымі шыбамі».*

Троху раней, улетку 1961 г., Гаўрыла Іванавіч разам з сынамі, якія жылі і працавалі ў Маскве, узялі адпачынак і на аўтамашыне «Пабеда», якую купілі ў знакамітага футбаліста і хакеіста Баброва, прыехалі на Беларусь, аб чым марылі доўгія гады. Безумоўна, наведалі Малую Багацькаўку. Тады я і сфатаграфаваў хату Гарэцкіх, у якой ужо ніхто не жыў. Пазней гэты здымак быў надрукаваны ў многіх кнігах, прысвечаных Максіму і Гаўрылу Гарэцкім. На жаль, праз год пасля нашага наведвання хату нехта падпаліў, і яна згарэла.

К 1980 г. былі надрукаваны многія творы Максіма Гарэцкага, апублікаваны пра яго жыццё і творчасць шэраг артыкулаў літаратуразнаўцаў (Ю. Пшыркоў, М. Мушынскі, М. Лужанін, М. Кенька, А. Ліс, А. Лойка, М. Стральцоў і інш.), абаронены першыя дысертацыі на аснове творчасці М. Гарэцкага (В. Атрашкевіч, І. Чыгрын), выйшла спачатку ў «Полымі», а затым асобнай кнігай манаграфія Алеся Адамовіча «Браму скарбаў сваіх адчыняю…». Максім Гарэцкі быў прызнаны класікам беларускай літаратуры.

Шэраг пісьменнікаў, асабліва настойліва Уладзімір Караткевіч, выказалі думку аб неабходнасці стварыць музей Максіма Гарэцкага. Караткевіч тады зацікавіўся Мсціслаўшчынай і выпусціў кнігу «Мсціслаў. Эсэ пра гісторыю і людзей адной зямлі» (1985) на беларускай і рускай мовах. У ёй ён пісаў:

*«Мсціслаўскі вулкан талентаў не заглухнуў, аднак, і ў нашым стагоддзі. Прыкладам таму можа быць класік беларускай літаратуры Максім Іванавіч Гарэцкі (1893–1938). Нарадзіўся ён*

*у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета. Гаварыць аб ім шмат, мабыць, не трэба. Акрамя таго, што ён — гонар нашай літаратуры, ён яшчэ і вядомы педагог, таленавіты літаратуразнаўца і лексікограф. Такія яго кнігі, як «Рунь», «На імперыялістычнай вайне», «Дзве душы», «Камароўская хроніка», раман «Віленскія камунары» і многае іншае, трывала і назаўсёды ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры.*

*А ён жа яшчэ збіраў фальклор, напісаў і выдаў у 1920 годзе ледзь не першую (і шмат у чым узорную, прынамсі па сумленнасці падыходу да матэрыялаў) «Гісторыю беларускай літаратуры». Склаў «Хрэстаматыю беларускай літаратуры: XI век — 1905 год», склаў і выдаў «Руска-беларускі слоўнік» (1918 год) і разам з братам Г. І. Гарэцкім выпусціў другое яго выданне ў 1920 годзе. А пасля выдаў яшчэ «Беларуска-расійскі слоўнічак» і «Практычны расійска-беларускі слоўнік».*

*Для мсціслаўцаў Максім Гарэцкі дарагі яшчэ і за тое, што ў творах ягоных гамоніць, радуецца, працуе, плача і смяецца, гаворыць адметнай і трапнай гаворкай уся Мсціслаўшчына. Дагэтуль мы сустракаемся з героямі пісьменніка на яе дарогах, слухаем іхнюю мову, смяёмся з іх жартаў, здзіўляемся багаццю іхняга мыслення. І нават дробязі мсціслаўскага побыту, нават сучасныя пейзажы ўстаюць перад намі на старонках ягоных кніг. І мы беспамылкова іх пазнаем. Як, напрыклад, зірнуўшы на драўляную царкву Ільі Прарока, што стаіць у вёсцы Слаўнае, мы адразу гаворым сабе і ёй: «Гэх, галубка, ды ты ж апісана ў «Камароўскай хроніцы» і ў «Антоне», ты сышла нейкім дзівам з іхніх старонак і вось, жывая, стаіш перад намі».*

*Дарэчы, царкву ў вёсцы Слаўнае трэба паберагчы не толькі як «літаратурную славутасць». Гэта досыць рэдкі ўжо на Беларусі ўзор «сталага класіцызму» першай паловы XIX стагоддзя. Словам, гэтаму драўлянаму трохзрубнаму храму з пяціграннай апсідай і васьмерыком са шлемападобным купалам — паўтара стагоддзя.*

*Раз ужо мы загаварылі пра Максіма Гарэцкага, то не павінны забываць і на ягонага роднага брата, Гаўрылу Іванавіча — аднаго з выдатных геолагаў Саюза, акадэміка, заснавальніка нашай палеапатамалогіі, навукі аб рэках даўно мінулых часоў: Пра-Волгі, Пра-Дняпра, Пра-Нёмана і многіх іншых. Прызваннем Г. І. Гарэцкага з'явілася інжынерная геалогія. Рабіў ён, між іншым, вышуканні пад такія каналы, як Беламорска-Балтыйскі, Волга-Данскі і многія іншыя, а таксама пад такія ГЭС, як Цымлянская, Кіеўская, Горкаўская, Ніжнекамская. Ну і яшчэ ён збіраў фальклор і складаў, разам з братам, слоўнік. Таленавіты, надзвычай працаздольны, жывы, нястомны, цікаўны да кожнай новай справы, маладзейшы за маладога ў свае гады — вось што такое гэты чалавек».*

Караткевіч хацеў, каб стварылі сядзібу братоў Гарэцкіх у Малой Багацькаўцы і ўключылі яе ў турысцкі маршрут «Залатое кальцо Магілёўшчыны».

Думка пра музей М. Гарэцкага дайшла да сакратара ЦК КПБ Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна, які заўсёды прысутнічаў на агульных сесіях АН БССР. Аднойчы ён падышоў да мяне і сказаў: «Я чуў, што ёсць думка стварыць музей Максіма Гарэцкага. Падтрымліваю гэта, але прапаную пабудаваць музей-сядзібу ў Малой Багацькаўцы і зрабіць там музей усіх Гарэцкіх, бо рэдкі выпадак, калі людзі адной сям'і змаглі ўнесці такі вялікі ўклад у навуку і культуру краіны. Пагаварыце з бацькам». Гаўрыла Іванавіч з вялікай удзячнасцю і радасцю прыняў прапанову Кузьміна, але, як і да прапановы Караткевіча напісаць пра яго жыццё і дзейнасць, сказаў, каб пісаў пра Максіма, таксама адказаў: «Музей павінен быць не ўсіх Гарэцкіх, а Максіма Гарэцкага».

У наступную сесію я перадаў меркаванне і падзяку майго бацькі Кузьміну, а той растлумачыў: «Стварыць музей вельмі цяжка, бо патрэбны шматлікія ўзгадненні і дазволы не толькі Мінска, але і Масквы, і таму мы можам з вамі і не дачакацца

такой згоды. Я, як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР па акрузе, куды ўваходзіць Мсціслаўшчына, вазьму на сябе адказнасць і дам загад сакратару Мсціслаўскага райкама Пятру Міхайлавічу Катушкіну, каб ён разам са сваімі кіраўнікамі сельсаветаў і калгасаў пачаў такую будоўлю. Калі пабудуем, тады і раскрыем наш «сакрэт», але ніхто ўжо нічога не перашкодзіць».

Гаўрыла Іванавіч па памяці зрабіў схематычны план «Мемарыяла Максіма Гарэцкага. Багацькаўская сядзіба» (гл. малюнак) і да яго напісаў адмысловы тэкст, які закончыў 31 сакавіка 1983 г.

«Мэмарыял Максіма Гарэцкага мэтазгодна ўтварыць непасрэдна на яго радзіме, у в. Меншай Багацькаўцы, на базе багацькаўскай сядзібы пісьменніка і яго родных. Тут ён нарадзіўся, тут прайшло яго дзяцінства і юнацтва, тут яго фізічныя і духоўныя карэнні, тут прататыпы яго літаратурнай творчасці, галоўныя героі «Камароўскай хронікі».

Дзе б ні быў Максім Гарэцкі, думкі і пачуцці яго заўсёды ляцелі да Багацькаўскага роднага кутка, з яго радасцямі і гаркатой, з яго прыродай і паветрам. Багацькаўка зрабілася асяродкам яго ўяўленняў пра найлюбейшую Мсціслаўшчыну, пра ўсю Беларусь.

Хата, дзе нарадзіўся і пражыў палову свайго жыцця Максім, згарэла. Але засталася незабудаваная тая пляцоўка, дзе стаяла хата, падворышча, частка саду. Дык нельга не сказаць слова вялікай удзячнасці пісьменніку Уладзіміру Караткевічу, першаму сакратару Мсціслаўскага РК КПБ П. М. Катушкіну і сакратару ЦК КПБ А. Т. Кузьміну, па ініцыятыве якіх арганізуецца Багацькаўскі мемарыял Максіма Гарэцкага.

Схема праектуемага мемарыяла паказана на малюнку. Аснову мемарыяла складае багацькаўская хата Максіма Гарэцкага, у якой аб'яднаны 3 часткі: цёмная, цёплая хата; сенцы і светлая, халодная хата, — агульнай плошчай 126 м$^2$ (18×7 м).

## Мемарыял Максіма Гарэцкага. Багацькаўская сядзіба

У светлай, халоднай хаце, пабудаванай у канцы XIX ст., нарадзіўся 18 сакавіка 1893 г. Максім. У «Камароўскай хроніцы» гэта падзея апісана так: *«А пасля Стрэчання, на маслянку, у суботу, Ганна* (так завецца маці Максіма ў «Хроніцы») *радзіла сына. Маслянка тады дужа ранняя была. У пятніцу ўвесь дзень мычкі мыкала, пражу матала. У лазню ўвечары схадзіла. Удосветы мужчыны ўсталі гарох выбіраць на семя, на стол насыпаўшы, а бабы — мычкі мыкаць. І начаваў у іх тады Стратон Адарчын з Палянкі, малы яшчэ хлапец. Алена Саўцы сказала, агонь загасілі. Мужчыны палеглі. Наўчыла Алена Ганну разагнацца ды каленямі дзогнуцца аб падлогу, «спатрахнуцца»... Ганна дзогнулася. Мужчыны спалохаліся: «Ці не забілася яна?» І на печы з Аленаю ляжала. Мучылася. Злезла з печы, пайшла ў другую хату, — ужо віднелася на дварэ. Прыходзіць туды Стахван: «Чаго тут мерзнеш?» А ў іх старая хата ўзімку халодная стаяла. — Маўчы, бяжы па Алену, дзіцёнак радзіўся... Была Ганна не рада, што хлопец, а не дзяўчынка. Бабіла Хоўра Міхасіха. У нядзелю ўранні хрэсьбіны былі. Кумы — Максім, бабы Міхасіхі сын, і Аксёна Курыліха, Курылы Скнарыцы жонка. Палагея Мацвееўна з Харошага прыйшла. Стаўбун масла, стаўчык блінцоў прынесла. Хрысцілі ў Харошым. Імя далі — Лявон»*.

Сенцы мелі тры ўваходы: з двара, у светлую і цёмную хаты. Вокнаў не было. Сенцы былі халаднаватыя. Каля глухой сцяны стаяла вялікая скрыня, з таямнічымі прысмакамі і схованкамі.

Цёмная, цёплая хата была пабудавана таксама ў канцы XIX ст. Старажытнасць хаты вызначалася земляной падлогай, полам (нарамі), палацямі, курчынай, вялікай печкай, прыпечкам, малай колькасцю вокнаў, вялікім падпеччам і падполлем, саламянай страхою.

У гэтай хаце нарадзіўся 10 красавіка 1900 г. Гаўрыла Гарэцкі. У «Камароўскай хронiцы» народзіны апісаны так:

*«Радземшы Марціна і Панаску, Ганна думала, што больш не будзе ў яе дзяцей. Аж потым, праз чатыры гады, радзіўся яшчэ сын — Лаўрык. Ёй было тады 36 гадоў, а Стахвану — 44. Гэта было іх сёмае дзіця… Радзіўся Лаўрык у месяцы марцы, вялікім пастом, у сераду, як ідуць на Андрэева стаяніе. Кросны стаялі ў хаце. Ганна ткала. Увечары, дзеля свята, у хаце прыбралі. Ганна хадзіла па хаце, дужа мучылася, плакала. А Раман з Лявонам ляжалі на засланай пасцелі і сварыліся: чый будзе брат… Ужо цёмна было, як радзіўся. Якраз пад ставы, пад навой выкаціўся. На другі ці на каторы дзень хрэсьбіны былі.*

*…Гулялі ўвечары. Стахван і Паўлюк Ваявода выраблялiся, выпіўшы, скакалі «Тацяну» з прыпеўкамі. І Марка Бондар з імі скакаў».*

Заўвагі да будаўнікоў:

1. Замест асобных хат і сенцаў можна паставіць адну хату-пяцісценку.

2. У светлай хаце падлога дашчаная.

3. Бярвенне павінна быць круглае, сасновае.

4. Страха робіцца з саломы па ўсім фронце хат і сенцаў. Вільчык страхі замацоўваецца дручкамі.

5. Франтон светлай хаты з боку вуліцы робіцца пакатым.

6. З боку саду ў светлай хаце франтон вертыкальны, з уваходам на гарышча (вышкі). Да франтона прыстаўляецца лесвіца.

7. Палявыя дарогі з боку сядзібы агароджваюцца лескай.

8. Частку страхі на цёмнай, цёплай хаце, з боку двара, пажадана пакрыць зялёным мохам.

9. Тыпавыя сячэнні паказаны на малюнку.

10. Пасярод саду, насупраць старой хаты, будуецца стол, з лавачкамі наўкруг.

Налева ад стала, у 10 м, трэба пасадзіць 2 яленцы і побач грушу-бэру, а направа — дульку і купку шуры (на месцы старой паграбні). У пачатку саду, каля гародчыка трэба пасадзіць 2 яблыні-медунічкі. На палявых дарогах — «сцежках» падсейваецца жоўты і сіні лубін (даўгалетні)».




Трэба дадаць, што Галіна Максімаўна Гарэцкая, якая тады часта прыязджала з Ленінграда, вельмі ўважліва сачыла за працай свайго дзядзькі. Яна ў дзяцінстве многа разоў наведвала Багацькаўку і добра памятала шмат дэталяў хаты і двара сваіх бабулі і дзеда. Паміж Галінай і Гаўрылам Іванавічам нярэдка ўзнікалі такія гарачыя спрэчкі пра тыя ці іншыя моманты інтэ’ера ў хаце і двары, што крыўды было звыш меры, асабліва з боку Галі. Я тут дапамагчы не мог, бо ніколі ў той час не давялося быць у Багацькаўцы. Але, як кажуць, «у спрэчках

нараджаецца ісціна», Гаўрыла Іванавіч не часта, але ўсё ж улічваў заўвагі Галіны, якую можна ў нейкай ступені лічыць сааўтарам плана.

Пасля передачы А. Т. Кузьміну зробленых Г. І. Гарэцкім матэрыялаў па багацькаўскай сядзібе пачалося будаўніцтва, адначасова з якім трэба было весці збор для стварэння этнаграфічна-бытавой экспазіцыі і матэрыялаў для асвятлення жыцця і творчасці пісьменніка. На жаль, мемарыяльных рэчаў сям'і Гарэцкіх амаль не захавалася, таму ў той палавіне, якая абазначана як «цёмная, цёплая хата» былі сабраны аналагічныя рэчы з вёскі Малая Багацькаўка і іншых месцаў Мсціслаўшчыны, а таксама перададзены ў музей з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту, Магілёўскага абласнога краязнаўчага і Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музеяў.

Кузьмін сам уважліва сачыў за ходам будаўніцтва, увесь час турбаваў Катушкіна і інш. Я таксама меў з імі сувязь і расказваў пра ўсё тату, які вельмі цікавіўся стварэннем музея. На жаль, такая справа хутка не робіцца, а час няўмольна бяжыць, і Гаўрыла Іванавіч так і не змог пабачыць музей-сядзібу — 20 лістапада 1988 г. ён памёр.

У 1987 г. пачаў працаваць Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, у якім былі створаны экспазіцыі многіх рэабілітаваных пісьменнікаў, вялікіх пакутнікаў, ахвяр бальшавіцка-сталінскага генацыду, у тым ліку Максіма Гарэцкага.

У 1989 г. Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, якому ў якасці філіяла меркавалася передаць будучы літаратурны музей у Багацькаўцы, пачаў спецыяльна збіраць матэрыялы для гэтага філіяла і прадумваць экспазіцыю. З тых часоў у мяне пачалося цеснае супрацоўніцтва з гэтым музеем, якое працягваецца і зараз.

Дырэктар музея Л. Т. Хадкевіч даручыў гэтую справу Л. У. Камінскай. Галіна Максімаўна і я передалі ёй шмат розных матэрыялаў: кнігі, часопісы, фота, газеты і інш. На жаль, не абышлося без непрыемнасці. У Гаўрылы Іванавіча ад маці

застаўся абраз з выявай Маці Боскай вырабу пачатку XIX ст., які меў не толькі спадчынную каштоўнасць, але і гістарычную. У канцы жыцця ён перадаў гэты абраз унуку Кірылу, які прывёз яго да мяне, каб з часам змясціць у багацькаўскі музей і павесіць у тым куце, дзе заўсёды знаходзіўся ў бацькоў братоў Гарэцкіх. Я не хацеў адразу аддаваць гэтую каштоўную рэч, але Лідзія Камінская мяне ўгаварыла і запэўніла мяне ў тым, што абраз будзе ў поўнай цэласці (ён лічыцца пад нумарам 51 у акце прыёму). Аказалася, што я не дарма баяўся аддаваць абраз, бо праз нейкі час, калі канчаткова вырашылася пытанне пра экспазіцыю, я спытаў у Лідзіі пра абраз, яна мне спакойна адказала: «А ён згубіўся: абраз ляжаў на падаконніку, прыбіральшчыца кінула яго ў вядро, а затым аднесла ў мусарніцу». Я анямеў…

Каб паскорыць справу з заканчэннем стварэння музея, Кузьмін далучыў да гэтай справы сакратара па ідэалогіі Магілёўскага райкама Л. У. Пакуш і намесніка міністра культуры У. В. Мацвеева. З апошнім на яго аўтамашыне я разам з Галінай Максімаўнай ездзілі ў Мсціслаў і Багацькаўку, размяркоўвалі з супрацоўнікамі культуры Магілёва і Мсціслава экспазіцыю музея-сядзібы і іншыя пытанні, якіх узнікала шмат і былі яны самага рознага кшталту. Для прыкладу прывяду мой ліст, які я вымушаны быў напісаць старшыні Магілёўскага Савета дэпутатаў В. С. Лявонаву 17 кастрычніка 1990 г.

*Шаноўны Васіль Севасцьянавіч!*

*Ужо больш 5 гадоў прайшло з таго часу, як у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна на радзіме беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага пабудавана драўляная хата, якая, на думку сакратара ЦК КПБ А. Т. Кузьміна, Міністэрства культуры БССР, былога 1-га сакратара Мсціслаўскага райкама КПБ Катушкіна і іншых, павінна стаць музеем-сядзібай, аднаго з класікаў беларускай літаратуры. Гэтае мерапрыемства з вялікай прыхільнасцю сустрэлі землякі М. Гарэцкага,*

*Саюз пісьменнікаў БССР і іншыя. З таго часу кожны год ёсць намер адкрыць музей. Такія абяцанні давалі розныя прадстаўнікі розных установ з Мінска, Магілёва і Мсціслава. Але «абяцанкі-цацанкі...».*

*Зараз становішча з музеем такое. Разам з Міністэрствам культуры БССР работнікі культуры Магілёва і Мсціслава закончылі экспазіцыю, і сядзіба-музэй гатова для прыёму наведвальнікаў. Але дабрацца да вёскі і дома нялёгка. Больш года назад пачалі будаваць дарогу (1,5 км ад галоўнага шляху Горкі–Мсціслаў). Абяцалі пакласці асфальт. Але ўсё разрылі і кінулі — дабірацца да вёскі стала яшчэ больш цяжка, чым раней. Жыхары вёскі пасля гэтага ўжо не радуюцца адкрыццю музея, а толькі лаюцца і, мусіць, ужо не ганарацца, што ў іх нарадзіўся выдатны беларускі пісьменнік, а шкадуюць... А мне шкада вяскоўцаў і вельмі крыўдна за пісьменніка..*

*Вялікая да Вас просьба: дапамажыце пракласці 1,5 км дарогі, каб нарэшце можна было б адкрыць музей.*

*З павагаю*

*пляменнік Максіма Гарэцкага —*

*Радзім Гарэцкі (дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР, акадэмік АН БССР)*

Набліжалася 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, у час святкавання якога намячалася адкрыць музей-сядзібу. Летам 1992 г. Кузьмін запрасіў мяне паехаць з ім праз Магілёў, Мсціслаў у Багацькаўку. Едучы з мігалкай, без правілаў дарожнага руху, па дарозе з міліцыянерамі «пад казырок», хутка дабраліся да Магілёва, дзе сустрэліся з Ларысай Пакуш, у Мсціславе забралі Пятра Катушкіна і іншых удзельнікаў будаўніцтва і накіраваліся ў Багацькаўку, дзе нас сустрэла мая стрыечная сястра Клаўдзія — дачка Івана Гарэцкага, якая ўвесь час даглядала дом-сядзібу. З прыемнасцю ўбачыў гатовую хату, сфатаграфаваў яе (тое фота змешчана ў кнізе «Браты Гарэцкія»). Распрацаваная экспазіцыя не задавальняла, і тады дару-

чылі занава зрабіць яе загадчыку аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Міхаілу Іванавічу Пратасевічу, вопытнаму спецыялісту ў такіх справах. Пратасевічу я перадаў яшчэ шмат розных экспанатаў, сярод якіх ужо з'явіліся новыя матэрыялы пра апошнія гады жыцця Максіма Гарэцкага, у тым ліку пра яго расстрэл і матэрыялы з яго справы, а таксама шэраг кніг і рэчаў Гаўрылы Іванавіча.

У лютым 1993 г., калі ўрачыста адзначалі 100-годдзе Максіма Гарэцкага, Ніл Гілевіч і я ў прысутнасці шматлікіх наведвальнікаў разрэзалі чырвоную стужку ў знак адкрыцця музея-сядзібы. На наступны год 19 лютага 1994 г. на будынку музея ўсталявана мемарыяльная дошка (аўтар Эдуард Астаф'еў) з надпісам: *«Тут стаяла хата, у якой 18 лютага 1893 г. нарадзіўся класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі»*. Тады Янка Брыль у кнізе наведвальнікаў запісаў: *«Удзельнікі Гарэцкіх чытанняў, мы яшчэ раз наведалі родную вёску Гарэцкіх, каб адкрыць мемарыяльную дошку на хаце, з якой вылецелі ў свет два волаты роднай літаратуры і нашай навукі, браты Максім і Гаўрыла Іванавічы, годнасць і слава Беларусі. Хай свеціцца і свеціць іх імёны! 19 лютага 1994 г.»* Ніжэй 23 подпісы. Л. М. Ліўшыц у 1997 г. выдаў брашуру «Літаратурны музей Максіма Гарэцкага (кароткі даведнік)», у якой падрабязна апісана экспазіцыя музея, зробленая М. І. Пратасевічам.

Да 115-годдзя М. Гарэцкага Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры (дырэктар Л. В. Макарэвіч) аднавіў экспазіцыю музея-сядзібы, якая была распрацавана П. М. Саўген, а загадчыкам музея была прызначана М. А. Пляшкова з вёскі Курманава. У 2011 г. музей-сядзіба М. Гарэцкага перададзена Мсціслаўскаму гісторыка-археалагічнаму музею.

*2012*

## Пацалунак

Калі наша суседка па дачы яшчэ ў мінулым годзе зрабіла побач з намі веранду, дык усцяж страхі апошняй атрымалася чатырохкутная драўляная труба, дзірка ад якой аказалася якраз каля нахіленага ствала нашай слівы. Аднекуль з’явілася шэрая кошка і пачала лазіць у гэтую дзірку. Яна лоўка царапалася па ствале слівы, ад якой спакойна магла скакануць ці на страху веранды, ці проста ў тую дзірку. Там яна зрабіла сабе хатку. Вельмі хутка да яе пачаў наведвацца тоўсты чорны кот. Праз некаторы час мы пачулі мяўканне, а затым убачылі, як з дзіркі пачалі высоўвацца сімпатычныя мордачкі маленькіх кацянят — аднаго шэранькага (як маці), другога чорненькага (увесь у бацьку), а трэцяга самага прыгожага чарнявага з белымі разводамі пад вушкамі і каля хваста. Так яны і жылі вельмі дружна і весела ўсё лета, а ўвосені патроху адзін за адным некуды падзеліся — ці знайшлі сабе новыя хаты, ці забраў іх хто-небудзь з садаводаў да сябе.

У гэтым годзе зноў з’явілася тая ж шэрая кошка, а праз хуткі час — і той жа чорны кот. Наглядаў я за імі і дзівіўся, як пяшчотна яны адносіліся адно да аднаго. Аднойчы раніцою ўбачылі, як з той дзіркі-хаткі нехта зваліўся. Падышлі — гэта маленькае шэрае кацяня, але мёртвае. У хуткім часе прыйшла кошка, а за ёю і кот. Яна залезла ў дзірку і так жалобна мяўкае, плача, а ён сядзіць на страсе і заглядае ў дзірку. Яна высунула заплаканую мордачку, працягнула яе ў бок да ката, а той са страхі да яе нахіліўся, і яны сутыкнуліся ў сумным развітальным, але ласкавым пацалунку. Затым адзін за адным спусціліся па ствале слівы і зусім панылыя і самотныя некуды пайшлі… Больш мы іх не бачылі.

*2012*

## Легендарны дудар

З сумам і гаркатою прачытаў у газетах, што пайшоў ад нас назаўсёды ў 72 гады Уладзімір Пузыня — рэдкі самародак, народны майстар, які не толькі адрадзіў жалейку, але выдатна іграў, быў сапраўдным народным дударом. Як было прыемна і радасна слухаць гукі пузыневай сурмы, якая заўсёды ўрачыста адкрывала ўсе з’езды беларусаў свету і многія іншыя мерапрыемствы. Апошнія разы бачыў Уладзіміра, калі мы разам ляжалі ў бальніцы ў 2009 г., а пазней зноў яшчэ сустрэў яго там — здароўе ўсё больш псавалася. Было з чаго, бо страшэнна перажываў за Беларусь, за дзікі наступ на беларушчыну. Яго выдатны ўнёсак у беларускую культуру, нацыянальнае Адраджэнне ніколі не забудуць нашчадкі.

*2012*

## Зноў пра месца помніку

Будынак былой Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна, каля якой у скверыку мы меркавалі прапанаваць месца для помніка Максіма Гарэцкага да яго 100-годдзя, цяпер аддалі Савету Рэспублікі і абвясцілі, што пятае скліканне верхняй палаты парламента пачне працу 19 кастрычніка 2012 г. у 11.00 па адрасе: вул. Чырвонаармейская, 9. На будынку дзяржаўны сцяг, а на месцы скверыка — роўная пляцоўка. У «Народнай Волі» ад 16 кастрычніка прачытаў, што карэспандэнт газеты Георгій Чыгір вырашыў паказаць фотавыяву новага фасада былой «Ленінкі» і пачаў рабіць «адзін кадр, другі, трэці…» *«і раптам — як чэрці з табакеркі — аднекуль павыскоквалі бравыя «салдатушкі-рабятушкі» з зоркамі на пагонах і такія суровыя — у вуха не кладзі: «Хто дазволіў? Вашы дакументы! Тут зона бяспекі! Патрэбны спецыяльны дазвол, акрэдытацыя!»* Не дапамагла і рэдакцыйная «прад’ява». *«Але дзе там, зыркалі, як на шпіёна, патрабуюць тут жа зліквідаваць — на іхніх вачах — тыя тры ці чатыры кадры.» […] Сумна і агідна…»*

Я зноў узрадаваўся, што нешта выратавала нас ад гэтага месца для помніка, які, напэўна, знеслі б зараз, ды нават сфатаграфаваць было б нельга.

Хвалююся і за помнік на плошчы Свабоды, бо там ужо трэці год ідзе рамонт, помнік застаўлены будаўнічымі прыладамі і таму да яго ні падысці, ні кветкі палажыць.

*2012*

## Колькі часу НАН Беларусі будзе без кіраўніка?

23 кастрычніка 2012 г. па прынцыпе «адабрам-с» Старшынёй Савета Рэспублікі, нягледзячы на ўжо досыць сталы ўзрост (пад 75 гадоў), быў зноў абраны акадэмік А. М. Рубінаў, які вельмі падабаецца кіраўніку дзяржавы сваёй паслухмянасцю, а яго намеснікам — старшыня Прэзідыума НАН Беларусі прафесар А. М. Русецкі, які на гэтай пасадзе не паспеў папрацаваць і двух гадоў. М. У. Мясніковіч пакіраваў акадэміяй нават 9 гадоў, а чаму так? Члены НАН Беларусі і дырэктары інстытутаў ужо даўно адхілены ад выбараў старшыні і іншых членаў Прэзідыума, таму амаль нікому невядома ні прычына адхілення ад пасады, ні каго прызначыць новым кіраўніком акадэміі, ні калі гэта будзе — усё залежыць толькі ад начальніка дзяржавы. Хвалюемся і жывем чуткамі: няўжо прыйдзе не вучоны, а хто-небудзь з чыноўніцкай вертыкалі? Былы кіраўнік акадэміі акадэмік А. П. Вайтовіч у інтэрв’ю газеце «Народная Воля» 26 кастрычніка 2012 г. сказаў: «Малаверагодна, што акадэмію ўзначаліць вучоны…»

Такія ж нечаканыя і не зусім зразумелыя змены кіраўнікоў часта праходзяць не толькі са старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі, а і на ніжэйшым узроўні. Напрыклад, за некалькі гадоў акадэмікам-сакратаром Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі былі хімік С. К. Рахманаў, аграрнік А. Р. Цыганоў, а нядаўна стаў медык-педыятр А. В. Сукала. Апошні вельмі далёкі і ад хіміі, і ад навук аб Зямлі.

Калі з’явіцца жаданне ў гаспадара дзяржавы звярнуць увагу на акадэмію і прызначыць кіраўніка — нікому не вядома. Пасля звальнення з такой пасады А. П. Вайтовіча і прызначэннем М. У. Мясніковіча прайшло амаль 9 месяцаў, а вось змена апошняга на А. М. Русецкага адбылася імгненна. Многія кажуць: «Чым даўжэй не будзе старшыні Прэзідыума НАН Беларусі, тым лепш: няма рэфармавання, спакойней працаваць». Будзем чакаць, гадаць і хваляваццa…

*2012*

## Зварот Рады ТБМ

У час пасяджэння рэспубліканскай Рады ТБМ 21 кастрычніка 2012 г. былі прыняты два звароты пра мову: да ўладаў Беларусі і да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Першы зварот: *«Сябры Рады ТБМ прапануюць абвясціць наступны, 2013 год Годам беларускай мовы ў гонар юбілею класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Мы таксама прапануем Ураду Беларусі распрацаваць і ажыццявіць канкрэтную праграму падтрымкі беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця нашай краіны»*. Другі зварот: *«Сябры Рады ТБМ звяртаюцца да дэпутатаў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 5-га склікання з прапановай распрацаваць і прыняць у найбліжэйшы час Закон «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы». Канцэпцыя адпаведнага праекта Закона прынята 11-м з’ездам ТБМ і надрукавана ў газеце «Наша слова»*.

Думаю, што на першы зварот улады Беларусі не звернуць ніякай увагі, бо ужо і раней такіх прапаноў было некалькі, але на іх не атрымалі хоць якой-небудзь рэакцыі. Ну, а на другі зварот у лепшым выпадку атрымаем адпіску. На жаль, ва ўрадзе Беларусі такія «цёплыя» адносіны да беларускай мовы, хаця яна і абвешчана дзяржаўнай.

*2012*

# Парадоксы палітыкі

У «Народнай Волі» ад 2 лістапада 2012 г. прачытаў: *«Зянон Пазняк з замежжа схітрыўся стаць героем беларускай афіцыяльнай прапаганды, навешаўшы ярлыкоў на тых, хто спрабуе хоць нешта рабіць тут, на Радзіме».*

Адразу ўспомніліся некаторыя парадоксы палітыкі ў Беларусі. Першы прэзідэнт дзяржавы прымаў прысягу пад дзяржаўным нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам — ужо праз два гады за нясенне ці ўстаноўку гэтага сцяга можна трапіць у турму. Ён жа прысягу чытаў на роднай беларускай мове, якая афіцыйна была абвешчана дзяржаўнай і адзінай, а праз два гады да яе ў якасці дзяржаўнай дабавілася мова суседняй краіны, якая стала амаль адзінай для гаспадара дзяржавы і усёй яго чыноўніцкай адміністрацыйна-каманднай «вертыкалі», а сам ён родную мову ўспамінаў у здзеклівым тоне тады, калі казаў што-небудзь пра «апазіцыю»: спадары, свядомыя, пятая калона і інш.

Вялікая небяспека незалежнасці Беларусі адбылася на стыку стагоддзяў у сувязі з праслаўтым аб'яднаннем Беларусі і Расіі ў адзіны Саюз, калі былі падпісаны дэкларацыя і дагавор, а кіраўнік нашай дзяржавы казаў: «Я предложил Борису Ельцину, чтобы он стал президентом Союза, я согласен занять пост вице-президента». Тады тых, хто казаў пра незалежнасць нашай краіны і быў супраць Саюзнай дзяржавы, чыноўніцкая вертыкаль лічыла «ворагамі народа». Прыйшоў да ўлады РФ У. Пуцін і сказаў, што хопіць балбатаць пра Саюз, і прапанаваў аб'яднацца шляхам далучэння да Расіі цалкам усёй Беларусі ці асобных абласцей. І трэба за гэта Пуціну выказаць падзяку, бо галоўны беларускі «інтэгратар», адчуўшы небяспеку сваёй улады, а затым і ўся чыноўніцкая вертыкаль ператварыліся ў самых актыўных незалежнікаў і загаласілі словамі апазіцыі і З. Пазьняка: «Я люблю Беларусь», «Суверэнная Беларусь назаўсёды» і г. д. Аднак улады як былі, так і засталіся пра-

ціўнікамі беларушчыны. Цяпер Зянон Пазьняк абвінаваціў беларускую апазіцыю ў тым, што ўсе яе прадстаўнікі, у тым ліку і кіраўніцтва дэмакратычных партый, — агенты заходніх спецслужбаў альбо расійскага ФСБ, якія працуюць за іх грошы. Тое ж гаворыць і гаспадар дзяржавы, і таму нават афіцыйныя тэлеканалы з задавальненнем перадалі словы Пазняка. Няўжо шэраг лепшых прадстаўнікоў апазіцыі сядзіць у турмах як агенты спецслужбаў іншых краін і за іх грошы, а не як патрыёты Беларусі, якія хочуць перамен?

Некалькі гадоў таму пабудавалі вельмі ўдалы з боку лагістыкі, арыгінальны і зручны з боку архітэктуры і тэрміналаў аўтавакзал «Маскоўскі», аўтары якога атрымалі розныя прэміі, шчырую падзяку шматлікіх пасажыраў, а гаспадар дзяржавы нават узнагародзіў Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Галоўнаму начальніку «Газпрама» Мілеру — уладальніку тоўстага кашалька — спадабалася гэтае месца на скрыжаванні дарог, супраць будынкаў Нацыянальнай бібліятэкі і «Аляксандраў пасажа», і ён вырашыў знішчыць аўтавакзал і паставіць тут высотны адміністрацыйны гмах сваёй расійскай адміністрацыі. Дзясяткі тысяч грамадзян Мінска і іншых раёнаў Беларусі пісалі пратэсты, звярталіся да свайго прэзідэнта, які ўвесь час кажа пра любоў да беларускага народа, павагі да яго думкі і абавязковае паляпшэнне жыцця і быту насельніцтва краіны. Але ён, самы галоўны «слуга» народа, які так упарта будуе новы Саюз, больш чуе не сваіх жыхароў, а кіраўнікоў краіны «старэйшага брата», які да таго ж яшчэ і падкіне дзясяткі мільёнаў «зялёных».

*2012*

## Узімку ўспаміны пра вясну

Ужо многія гады восеньская слота цягнецца амаль да Новага года, і як радасна, калі хоць на гэты дзень зямелька пакрываецца снегам. І што ж гэта за снежань зусім без снегу? Сёлета пушыстая заснежаная зіма пачалася роўна 5 снежня — у дзень нараджэння маёй Галі, а праз 2 дні, у дзень майго нараджэння, ужо не было відна нават кавалка зямлі, бо снег пакрыў досыць тоўстым слоем цудоўнай крышталёва-іскрыстай белізны.

Нам разам споўнілася 148 гадоў. Мы цёпла, троху са светлым сумам адзначылі гэтую дату, але нашы ўспаміны ўвесь час вярталіся часцей за ўсё да тых незабыўных сонечных дзён ранняй вясны, калі мы ўпершыню сустрэліся і разам каталіся на лыжах па яшчэ больш яскравым бліскучым насце, які дазваляў імчацца без лыжні ў любым напрамку да нашага агульнага шчасця…

*2012*

## Старэйшыя…

10.X.2012 акадэмікам і членам-карэспандэнтам уручылі спецыяльныя значкі і да іх новыя пасведчанні. Зрабілі гэта па аддзяленнях. На пасяджэнні Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі сабраліся досыць дружна — амаль усе. Многіх даўно не бачыў. Самы старэйшы па ўзросту сярод хімікаў і геолагаў Уладзімір Сямёнавіч Камароў — яму праз тры месяцы, у студзені 2013 г. «стукне» 90 гадоў. Пасведчанні пранумаравалі па-новаму — па часе абрання ў акадэмікі ці члены-карэспандэнты. Нумар майго пасведчання — 0003. Са здзіўленнем убачыў, што па часе абрання ў акадэмікі я ў нашым аддзяленні самы старэйшы — ужо 35 год, а ва ўсёй НАН Беларусі трэці, пасля М. А. Барысевіча і У. П. Платонава.

*2012*

## «Беларусы ў Літве сваёй дзяржавай кінуты…»

Нядаўна адным з неўяздных у Беларусь стаў старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька. Вельмі крыўдна за майго сябра, які поўнасцю адданы справе нацыянальнага адраджэння і які так многа робіць для ўшанавання памяці славутых беларусаў у Літве і захавання там беларушчыны. Менавіта дзякуючы Таварыству ў Вільні паставілі 10 мемарыяльных дошак, шэраг помнікаў беларускім дзеячам на Ліпаўскіх могілках і на Росах, выдалі некалькі кніг, падрыхтавалі да выдання кнігі «Беларусы ў Літве: учора і сёння», стараюцца вырашыць пытанне з музеем Івана Луцкевіча і г. д. Усё гэта робіцца самаахвярна, без усялякай дапамогі з боку беларускай дзяржавы ці яшчэ каго-небудзь. Хведар Нюнька ў снежні 2012 г. на пытанне карэспандэнта Радыё «Свабода» «Як сёння беларусы тут пачуваюцца — у Вільні, на Віленшчыне?», сказаў:

*«На жаль, дзякуючы палітыцы, якую праводзіць кіроўны ў Беларусі рэжым, Віленскі край быў кінуты. Хоць Віленшчына дала нямала выдатных беларускіх дзеячаў нацыянальнага маштабу. Дастаткова назваць Браніслава Тарашкевіча. Святое месца пустым не бывае, таму беларускую пасіўнасць выкарысталі іншыя нацыянальнасці. Я маю на ўвазе найперш тутэйшых палякаў. Яны маюць велізарную падтрымку з Польшчы, яны сёння перамагаюць тут на выбарах і ўваходзяць у парламент. Так што польская меншасць тут, скажам так, пры ўладзе — як у асобных раёнах, так і ў самім горадзе. Палякі маюць значныя дасягненні: гэта вялізная школа імя Яна Паўла II, гэта Дом польскай культуры — Польшча выдаткавала на яго будаўніцтва 9 мільёнаў даляраў! Мабыць, так і павінна дзейнічаць разумная дзяржава, якая клапоціцца пра сваіх землякоў. Да беларусаў тут адносіны з боку метраполіі не тое што адмоўныя… Яны проста — абыякавыя. Паўтаруся, мы тут сваёй дзяржавай кінутыя, і сёння нашае*

*становішча як ніколі дрэннае. Возьмем такое параўнанне з гісторыі. У 1922 годзе на выбарах па Віленскім краі беларусы змаглі даць 14 дэпутатаў на польскі Сойм. А што мы маем сёння? У радзе самакіравання Вільні няма ніводнага беларуса, у Сойме літоўскім — ніводнага беларуса, у Еўрапарламенце ад Літвы — ніводнага беларуса».*

***2012***

## Абарона кандыдацкай дысертацыі

Атрымаў аўтарэферат дысертацыі Вольгі Губскай «Раман М. Гарэцкага «Віленскія камунары» ў кантэксце беларускай прозы 1920–1930-х гг.: жанравае наватарства» на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. З вялікай прыемнасцю і цікавасцю прачытаў.

Пасля амаль 30-гадовай забароны твораў Максіма Гарэцкага і яго поўнай рэабілітацыі ў 1959 г. адразу ж пачалося вяртанне яго спадчыны. Першым з буйных твораў быў надрукаваны раман-хроніка «Віленскія камунары»: спачатку ў часопісе «Полымя» (1963), а потым асобнай кнігай (1965), і ў Зборы твораў (1983). Раман у хуткім часе выйшаў у свет на літоўскай мове (1965), на рускай (1966, 1970), на ўкраінскай (1969), на латышскай (1978). Таму раман «Віленскія камунары» стаў адным з найбольш шырока вядомых твораў пісьменніка і атрымаў ацэнку і крытычны разгляд ад многіх даследчыкаў літаратуры. Здавалася, пасля гэтага цяжка было знайсці нешта новае ў прачытанні рамана.

В. М. Губская найбольш дасканала даследавала раман «Віленскія камунары» і пераканаўча даказала, што раман належыць да сінтэтычнай жанравай формы, прычым упершыню паказала значны элемент стылістыкі авантурна-прыгодніцкага твора. Вельмі правільна ў дысертацыі выяўлены суадносіны паміж аўтарам рамана з яго імкненнем да праўды, аўтабіяграфічнасці і героем-апавядальнікам, паміж падзеямі грамад-

скага і прыватнага жыцця, гістарычнага і аўтабіяграфічнага, і ў выніку да адпаведных высноў абагульняючага характару. Дысертант падкрэслівае, што цяжкая, нават трагічная школа жыцця аўтара рамана «ўнесла сур'ёзныя карэктывы ў разуменне М. Гарэцкім сутнасці рэвалюцыйных падзей», што дазволіла паказаць сапраўдную рэвалюцыю, а не глянцавае яе апісанне. Часткова гэта так, але не трэба забываць, што М. Гарэцкі зразумеў сутнасць тых падзей яшчэ з самага іх пачатку — у сваіх поглядах на Кастрычніцкую рэвалюцыю ён застаўся на тых жа пазіцыях, што былі адмечаны ў апавяданні «Дзве душы», якое пачаў пісаць яшчэ ў Смаленску ў 1918 г, а ў наступны год выдаў у Вільні.

Дысертацыя В. М. Губскай — значны ўнёсак у літаратуразнаўства, вывучэнне спадчыны М. Гарэцкага і мае практычнае значэнне пры стварэнні падручнікаў, падрыхтоўцы лекцый, напісанні дыпломных і курсавых работ. Вольга Мікалаеўна Губская, безумоўна, заслугоўвае атрымання вучонай ступені кандыдата філалагічных навук па спецыяльнасці «Беларуская літаратура».

Абарона прайшла на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта 14 снежня 2012 г. Вельмі радасна, што цікавасць да творчасці Максіма Гарэцкага не змяншаецца. Гэта ўжо чатырнаццатая дысертацыя, у якой разглядаюцца творы пісьменніка.

***2012***

## Косматэктанічная карта Беларусі

У апошнія два месяцы 2012 г. вельмі інтэнсіўна і натхнёна працаваў над заканчэннем трохгадовай тэмы па стварэнні Косматэктанічнай карты Беларусі маштабу 1 : 500 000. Як прыемна і радасна, калі знаходзішся на 80-й ступені жыцця, але маеш сілы і розуму нешта стварыць новае, цікавае, патрэбнае, знаходзіць невядомыя раней заканамернасці, набліжацца

да ісціны… Падтрымлівае і тое, што побач працуюць калегі, якія адданы навуцы, хаця набліжаюцца па ўзросту да цябе, а таксама, што ёсць больш маладыя памочніцы. На жаль, нас зусім мала, але мы дружна імкнёмся наперад.

Такія карты ствараюцца на базе здымкаў, якія зроблены з штучных спадарожнікаў Зямлі. Першая косматэктанічная карта меншага маштабу была складзена калектывам геолагаў і геафізікаў 25 гадоў таму (1988). Мне таксама прыйшлося быць тады галоўным рэдактарам карты. За гэты час накапілася шмат новых матэрыялаў, таму стварэнне новай карты (ды яшчэ большага маштабу) было актуальным.

Вылучылі лінеаменты — разломы, якія разбіваюць і дзеляць зямную кару на блокі розных памераў, адны з якіх цяпер патроху ўздымаюцца, другія — апушчаюцца. Параўналі блокавую дзялімасць сучасную з больш старажытнаю і высветлілі важныя заканамернасці спадчыннасці і новаўтварэння. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі вылучаюцца кальцавыя структуры розных памераў, геалагічная сутнасць якіх яшчэ да канца не разгадана. На здымках можна добра ўбачыць розныя іншыя геалагічныя ўтварэнні: актывізаваныя саляныя купалы, карст, гляцыядыслакацыі, лёсавыя прасадкі і інш.

Важна, што карта патрэбна пры многіх прыкладных працах: пошуках карысных выкапняў, інжынерна-геалагічных і экалагічных даследаваннях. Яна павінна зацікавіць шэраг міністэрстваў: прыроды, будаўніцтва, аховы здароўя, надзвычайных сітуацый і інш.

***2012***

## «Потемкинские деревни» — радыкальнае рашэнне на Віцебшчыне

У кожнага гаспадара кватэры, хаты ёсць натуральнае імкненне прыбраць яе, калі ён чакае госця. Але чым важнейшы госць, тым гэтае імкненне паказаць сваю гаспадарку ў лепшым

выглядзе ўзрастае. Ну, а калі справа ідзе пра вельмі высокага госця, а тым больш кіраўніка дзяржавы, мясцовы гаспадарчыноўнік вылазіць са скуры, каб яго гаспадарка спадабалася. Чым больш дзяржава таталітарнага толку, тым больш такое жаданне ператвараецца ў стварэнне сапраўдных «пацёмкінскіх вёсак». У Беларусі апошнія вельмі пашырыліся з часу яе прэзідэнцкага статуса і ўсё ўзмацняюцца, а жаданне выслужыцца ў чыноўнікаў перад начальнікамі часта робіцца настолькі моцным, што ператвараецца ў нейкую паталагічную неабходнасць.

7 снежня 2012 г. «Народная Воля» паведаміла пра неверагодны выпадак такога кшталту, які здарыўся на Віцебшчыне:

*«Витебск всю неделю готовился к приезду Александра Лукашенко. Горожане активно потешались над этим ажиотажем, рассказывали и фотографировали, как все там красят, чистят, в асфальт закатывают. А потом смех будто обрубило.*

*На окраине Витебска... спалили деревню. Власти говорят, что все по закону. Что с 1992 года формально этой деревни просто не существует, потому что людям дали городские квартиры, а земли передали «Витебскэнерго» для планировавшегося строительства ТЭС.*

*В то же время люди кидались под бульдозеры и экскаваторы: «Это наши дома, наше имущество, наши сады. Дайте хотя бы месяц на выселение». Не дали. Что не вывезли — пошло в костер».*

У канцы шматлікіх матэрыялаў пра гэтае здарэнне «Народная Воля» паведаміла: *«От деревни Павловичи ничего не осталось. Только печи, которые не поддались огню. Но и их уже начали разрушать».*

Як кажуць — «без каментарыяў»...

***2012***

## Канец свету

У апошнія месяцы, асабліва ў снежні, 2012 г. многія газеты і каналы тэлебачання нагадвалі і разважалі пра злавесны прагноз календара племені мая аб немінучым канцы свету ў трэцяй дэкадзе снежня. Я, едучы ў аўтобусе, пачуў размову на гэтую тэму двух проста апранутых, відаць, рабочых, мужчын ужо сталага ўзросту. Адзін поўны, каржакаваты, з шырокім загарэлым тварам, моцнымі працавітымі рукамі, другі — значна больш хударлявы, з бледным тонкім тварам. Першы кажа:

— Ты чуў пра канец свету?

— Чуў, але не ведаю, калі.

— Ды Бог намеціў гэты тэрмін многія тысячагоддзі таму назад, калі жыў цікавы народ мая.

— А адкуль мы ведаем пра той тэрмін?

— Мая яшчэ тады запісалі яго ў свой каляндар, і канец адбудзецца 21 снежня 2012 года.

— А чаму менавіта ў гэты дзень?

— Бог вельмі разумны: сачыў за людзьмі і прадбачыў, што самая жорсткая пара будзе пры бальшавізме і асабліва пры Сталіне. Вось у яго дзень нараджэння 21 снежня і прызначыў канец свету, як пакаранне за тое, што дапусцілі такі рэжым.

— Вось як! Я і не ведаў.

— Ну, а ты падрыхтаваўся да гэтага дня?

— Не, бо не ведаю як. Чорт яго ведае!

— А я падрыхтаваўся — ужо купіў пляшку самай лепшай гарэлкі. Табе параю: ніколі не чартыхайся, бо наклікаеш на сябе бяду; лепш за ўсё маліся Богу, і, можа, пранясе нас ўсіх ад канца свету.

***2012***

## Родная мова: вялікі гонар і горкія слёзы

У сярэдзіне 2012 г. выдавец Зміцер Колас надрукаваў накладам 240 асобнікаў «Вялікі слоўнік беларускай мовы», які змяшчае каля 223 тысяч лексічных адзінак і яскрава адлюстроўвае багацце беларускай мовы. Аўтар слоўніка — Фёдар Антонавіч Піскуноў. Вельмі рад, што мне разам з іншымі прыхільнікамі — сябрамі Кансультацыйнай рады слоўніка давялося падтрымліваць працу гэтага ўнікальнага рупліўца роднай мовы, сціплага вучонага-хіміка, які з дзівоснай сілай і апантанасцю ўзяўся за такую цяжкую справу стварэння «Вялікага слоўніка беларускай мовы», які выклікае высокі гонар за галоўную каштоўнасць нашага народа.

У звароце «Ад Кансультацыйнай рады слоўніка» пасля таго, як падкрэсліваецца, што *«беларукая мова — неацэнны здабытак шматлікіх пакаленняў беларусаў…»*, што яна мае *«багаты слоўнікавы склад»*, адзначаюцца асноўныя глыбокія разбуральныя працэсы і канстатуецца, што іх вынікам *«стала занясенне арганізацыяй ЮНЕСКА беларускай мовы ў групу моваў, што стаяць пад пагрозай знікнення»*. І далей: *«Адраджэнне мовы — найпершая задача кожнага, хто падзяляе думку, што мова — не проста сродак зносін, але і падмурак нацыянальнай ідэнтыфікацыі, грунт нашай беларускай незалежнасці. […] Пільная патрэба новага слоўніка беларускай мовы, аб'ёмам шмат паўнейшага за ранейшыя, укладзенага з улікам апошніх дасягненняў лексікаграфіі, відавочная. […] Слоўнік паслужыць выхаванню ў грамадзян Беларусі сапраўднай любасці да роднай мовы, развіццю ў іх адчування слова і разумення яго граматычных формаў ды семантычных адценняў»*.

Прывяду некалькі вытрымак пра ацэнку слоўніка з артыкула Лявона Баршчэўскага «Два слоўнікі і розныя думкі» («Наша слова», 26 снежня 2012 г.): *«…падзеяй нумар адзін стаў выхад з друку «Вялікага слоўніка беларускай мовы». Гэты слоўнік роднай мовы — сапраўды «вялікі», найаб'ёмнейшы з тых,*

*што калі-небудзь былі выдадзеныя на паперы. [...] Слоўнік Фёдара Піскунова — годны і, як кажуць, «сіметрычны» адказ тым асобам, якія займаюць нават найвышэйшыя дзяржаўныя пасады і сцвярджаюць, нібыта на свеце ёсць толькі дзве паўнавартасныя мовы — руская і ангельская, — а няшчасная беларуская ўсё пакутуе ад недахопу сродкаў самавыражэння. Гэта таксама адказ тым, у галовах якіх неўміручай гідраю ажывае сіндром «малодшага брата». Хачу пры выпадку нагадаць, што самыя вялікія на сённяшні дзень выдадзеныя арфаграфічныя слоўнікі рускай мовы уключаюць 180 тысяч (акадэмічны слоўнік маскоўскага Інстытута рускай мовы) і 130 тысяч (слоўнік расійскага лінгвіста Мікалая Салаўёва) загалоўных слоў».*

Васіль Зуёнак у сваім роздуме «Не дамо!… Некалькі разваг над старонкамі «Вялікага слоўніка беларускай мовы» («Новы час» — «Літаратурная Беларусь», 25 студзеня 2013 г.): *«Гэты том «Вялікага слоўніка беларускай мовы» ўяўляецца мне Вялікім вечавым звонам, што заклічна вястуецца да знявераных сэрцаў і стомленых душ: «Паўстаньце!.. Не дамо!» Не дамо знікнуць нашай мове і нашай існасці — ліцвінскай, беларускай, — як хочаце называйце… — НЕ ДАМО!…»*

Пасля сумнавядомага рэферэндуму прайшло ўсяго каля 18 гадоў, але з боку змяншэння беларускай мовы яны былі, як ніколі, настолькі інтэнсіўнымі, што «Народная Воля» (30 кастрычніка 2012 г.) на першай старонцы вялікімі літарамі змясціла загаловак «Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну?». Гэта выклікана тым, што ў Магілёве трэці год існуе адзіны ў горадзе беларускамоўны клас. Паўтара года ў ім вучылася трое дзетак. Цяпер засталася толькі адна вучаніца — Ялінка Салаўёва. У горадзе ж у 43 сярэдніх школах і 4 гімназіях (усе яны рускамоўныя!) атрымліваюць адукацыю 43 тысячы дзяцей. На вачах знікае наш галоўны духоўны скарб — родная мова, без якой няма будучыні! Як з гаркатою пісаў Леанід

Лыч: *«Не знаходжу больш цяжкага злачынства, як свядомае выгнанне роднага слова з бацькоўскай зямлі».*

Васіль Зуёнак піша: *«...і наша — жывая наша беларуская мова — зусім не бяднейшая! [...] як жа яна, тая мова, «адамрэ»? Куды, у які свет адляцець мусяць усе тыя 223 тысячы?.. Выснова адна: не дамо адбыцца такому!.. [...] І таму — гэтае «Не дамо!», што зрываецца з вуснаў і Фёдара Піскунова, і Ялінкі Салаўёвай, і многіх іншых, павінна пачуць дзяржава. І таксама сказаць: «Не дамо!» Гэтую сцяну «другой дзяржаўнай», якую ўзвялі і якою непрыступна, як здаецца ім, адгарадзіліся чыноўна-ўладныя мужы і дамы ад патрэб і праблем нацыянальнага ўсталявання, наспеў час рашуча парушаць. Інакш будзе позна... Не палохайце толькі, шаноўныя, «усенародным непаразуменнем». Беларускі народ ніколі не адмаўляўся і не адмовіцца ад сваёй нацыянальнай сутнасці, ад сваёй беларускасці. Дайце толькі перспектыву. Дайце: ад дзіцячага садка — да вышэйшай навучальнай установы, ад «сямейнага парламенту» — да дзяржаўнага ўключна, — дайце прастору і дыханне беларускамоўнасці. Дайце ўсё афіцыйнае — падкрэсліваю: усё — і ў пісьмовай форме, і ў вуснай — па-беларуску. Беларускамоўная аўра павінна вянчаць дзяржаву! Дайце беларусу рэальную магчымасць нацыянальна самаздзяйсняцца, народу — вольны шлях да ажыццяўлення спрадвечнай мары яго лепшых сыноў: пабачыць Беларусь па-сапраўднаму беларускаю».*

* * *

З жахам даведаўся, што 5 красавіка 2013 г. у веку 63 гадоў пайшоў з жыцця Фёдар Антонавіч Піскуноў. Ён хварэў на лейкемію і таму вельмі спяшаўся выканаць як мага больш з таго, што задумаў: падрыхтаваць дапоўненае перавыданне «Вялікага слоўніка беларускай мовы», зрабіць электронны тлумачальны слоўнік з дыскам-дадаткам, выдаць «Адваротны слоўнік беларускай мовы»...

За стан беларускай мовы Піскуноў перажываў амаль усё жыццё, што ў пачатку 2000-х яго, непрафесіянала ў галіне мовазнаўства, але добрага праграміста, прывяло да працы над беларускім словам. Ён удзельнічаў у стварэнні камп'ютарнай праграмы праверкі беларускай арфаграфіі «Літара», а затым стварыў электронны слоўнік «Парадыгма». Як успамінае вядомы мовазнаўца Генадзь Цыхун: «Ён стаў заходзіць да мяне, кансультавацца па праблемах мовазнаўства. Прафесіяналізаваўся вельмі хутка». Для стварэння свайго славутага слоўніка ён апрацаваў лексіку больш за 2300 літаратурных крыніц. Падзвіжніцкая праца Ф. Піскунова назаўсёды застанецца ў памяці народа.

Пахавалі Фёдара Антонавіча Піскунова на яго радзіме ў вёсцы Раманавічы на Гомельшчыне.

*2013*

## Факсімільнае выданне

У самым канцы 2012 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі выпусціла ў свет факсімільнае выданне «Калядная пісанка. 1913 год» (Вільня, 1913. Друкарня М. Кухты). Яно выйшла да 100-годдзя першага выпуску гэтай кнігі і напярэдадні 120-годдзя Максіма Гарэцкага.

У прадмове да кнігі Калаўр Павел Уладзіміравіч, старшыня праўлення ААТ «Банк БелВЭБ», якое падтрымала выданне, піша: *«Кніга «Калядная пісанка» была падрыхтавана маладымі беларускімі пісьменнікамі, якія ў далейшым будуць названы класікамі айчыннай літаратуры: Максімам Багдановічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Гарэцкім і інш. Выданне стала сведкам нараджэння новай беларускай літаратуры, увабраўшы ў сябе найлепшае са створанага ў свой час».*

Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша, адказны за выпуск, у «Пасляслоўі» адзначыў: *«Калядная пісанка», створаная роўна 100 гадоў таму назад*

*калектывам маладых беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў, уяўляе сабой выключную з'яву ў культурным жыцці Беларусі. Яна стала адным з найвышэйшых дасягненняў таго феномена, які сёння называецца «нашаніўскім адраджэннем». [...] Артыкул «Наш тэатр» Максіма Гарэцкага, прыехаўшага ў 1913 г. на працу ў Вільню, таксама лічыцца адной з найлепшых яго прац таго перыяду, у якой ён праявіўся як тэарэтык-публіцыст, зацікаўлены пытаннямі развіцця айчыннага драматычнага мастацтва і культуры ў цэлым. Аўтар яскрава адлюстраваў адметную тэатральную прыроду беларусаў, іх асаблівую тэатральную адоранасць»*.

З вялікай прыемнасцю і ўдзячнасцю атрымаў з рук Алеся Сушы факсімільнае выданне гэтага цудоўнага помніка беларускай кніжнай культуры і прыгожага пісьменства.

*2013*

## Выбітны беларус

20 студзеня 2013 г. чарговая Рада ТБМ нечакана пачалася з хвіліны маўчання ў памяць аднаго з заснавальнікаў ТБМ, выдатнага гісторыка, археолага, краязнаўца, грамадскага дзеяча — адраджэнца Міхася Чарняўскага. Зусім нядаўна на папярэдняй Радзе ТБМ мы прынялі план працы ТБМ, у якім запісалі, што 7 сакавіка будзем адзначаць 75-годдзе гэтага выбітнага беларуса, і раптам… Развіталіся з Міхасём Міхайлавічам 21 студзеня і пахавалі на радзіме, у вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Добрых спраў М. Чарняўскага ў напрамку беларушчыны безліч. Апантаны вучоны ў галіне любімай археалогіі, ён у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру каменнага і бронзавага веку, абараніў кандыдацкую дысертацыю «Неаліт Паўночна-заходняй Беларусі», удзельнічаў у стварэнні капітальных выданняў — «Гісторыі беларускага мастацтва», «Археалогіі Беларусі»,

«Гісторыі Беларусі» (6 тамоў) і інш. Напісаў шэраг цікавых кніг пра старажытныя часы, пра гісторыю ўдзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву і інш.

М. Чарняўскі заўсёды заставаўся верны сваім поглядам беларускага адраджэнца, нягледзячы на звальненне з працы і цяжкасці жыцця (працаваў markdown рознарабочым) у сувязі з удзелам у клубе патрыятычнай інтэлігенцыі «Акадэмічны асяродак», які быў разгромлены КДБ у 1973–1974 гг. за іх «нацыяналізм». М. Чарняўскі — адзін са стваральнікаў БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, дацэнтам БДУ. Ён шмат гадоў сябраваў з Ларысай Геніюш і захаваў яе вядомую кнігу «Споведзь».

Успамінаю нашы сустрэчы з Міхасём Чарняўскім. Заўсёды ўважлівы, добразычлівы, спакойны, беларускамоўны — адразу выклікаў сімпатыю. Мы з ім пазнаёміліся ў другой палове 70-х гг. у палявых экспедыцыйных умовах: ён даследаваў крэмнездабываючыя шахты ў раёне Ваўкавыска, а мы прыехалі з Э. А. Ляўковым вывучаць гляцыядыслакацыі, дзякуючы якім на зямную паверхню ледавіком былі выціснуты адклады мелавога перыяду геалагічнай гісторыі, у тым ліку адклады чыстага мелу і мергелю значнай магутнасці. Менавіта ў іх сустракаліся рознага памеру і формы канкрэцыі крэмняў. Старажытныя людзі, каб здабыць гэтыя крэмні, неабходныя ім для стварэння рознага тыпу прылад працы і палявання, рабілі даволі глыбокія шахты. Нашы сустрэчы і агульныя працы прынеслі добрыя вынікі: абмен ведамі паміж археолагамі і геолагамі быў вельмі карысным. Захопленыя сваімі навукамі і шчырай любоўю да роднага краю, мы хутка знайшлі агульную мову і сапраўднае сяброўства. У выніку гэтых і іншых палявых экспедыцый і даследаванняў М. Чарняўскі стаў сааўтарам кнігі «Старажытныя шахцёры на Росі» (1996), а Э. А. Ляўкоў выдаў кнігу «Гляциотектоника» (1980), якая выйшла пад маёй навуковай рэдакцыяй і якую яе аўтар абараніў у якасці доктарскай дысертацыі.

Значна пазней, калі я ўжо быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, да мяне зайшоў М. Чарняўскі разам з намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі Міхасём Бічом і прапанавалі стварыць Фонд імя братоў Івана і Антона Луцкевічаў. У хуткім часе, у пачатку 1993 г., у маім кабінеце сабраліся сябры фонду, і прадстаўнік Міністэрства юстыцыі ўрачыста ўручыў нам афіцыйнае пасведчанне аб зацвярджэнні Фонду братоў Луцкевічаў. Хаця я быў абраны прэзідэнтам фонду і быў ім на працягу трох гадоў, усе шматлікія справы выконвалі ініцыятары стварэння фонду.

Міхась Чарняўскі пакінуў значную навуковую і літаратурную спадчыну, хаця і не паспеў ажыццявіць усе свае многія задумы. Яго імя назаўсёды ўпісана ў гісторыю беларускай гістарычнай навукі, культуры, нацыянальнага адраджэння.

*2013*

## «Тварам да шыбеніцы»

2013 год — год 150-годдзя паўстання 1863–1864 гг. і 175-годдзе Кастуся Каліноўскага. Многія газеты, бібліятэкі, людзі адзначылі гэтую дату, агульнанацыянальную дыктоўку пісалі з твораў Каліноўскага, а ў Літве і Польшчы юбілей праходзіў на вышэйшым узроўні. У Беларусі ўладныя структуры самі не адзначаюць, не падтрымліваюць, але і не забараняюць святкаваць такую адметную для нашай краіны дату.

Пазваніў мой даўні сябра Язэп Янушкевіч і запрасіў у Нацыянальную бібліятэку Беларусі, дзе 1 лютага 2013 г. адкрыецца выстава, прысвечаная юбілею, і адбудзецца прэзентацыя яго кнігі «Тварам да шыбеніцы». Добрая выстава, якая яскрава паказвае, што для беларусаў Кастусь Каліноўскі — нацыянальны герой, змагар за волю нашага народа, аб чым таксама вельмі пераканаўча паведалі выступоўцы (А. Мальдзіс, Я. Янушкевіч, А. Бутэвіч і інш.). Язэп Янушкевіч выдаў добры зборнік, да якога напісаў у якасці прадмовы артыкул з назвай — цытатай

з Каліноўскага «Калі над табою маскаля ўжо не будзе!» Аўтар заканчвае свой артыкул словамі: *«Бо да жыцця вяртае нас неўміручы пароль Кастуся, «апошняга караля Літвы»:*

*— Каго любіш?*

*— Люблю Беларусь!*

*Дык —* ***жыве Беларусь!****»*

Далей у выданні прыведзены творы К. Каліноўскага «Мужыцкая праўда» (№ 1–7) і тры «Лісты з-пад шыбеніцы» (на беларускай, польскай, украінскай і ангельскай мовах). Другую частку зборніка склала «Паэтычная Калінаўскіяна», у якой сабраны вершы 55 беларускіх аўтараў, прысвечаныя тэме паўстання і яго кіраўніка.

Са зменай бальшавіцкай ідэалогіі ў Расіі зноў на імперскую змяніліся і погляды на паўстанне і на Каліноўскага: усё падаецца ў негатыўным святле. Шмат беларускіх гісторыкаў і дзеячаў, прыхільнікаў аб’яднання з Расіяй у адзін Саюз і тых, хто лічыць, што беларусы і рускія — адзін народ, ці «беларусы — тыя ж рускія, толькі са знакам якасці» (як адзначаў кіраўнік Беларусі), падтрымалі такую пазіцыю, стаўшы, такім чынам, «пятай калонай Расіі». Але ўсё роўна насельніцтва Беларусі шырока і патрыятычна ставіцца да юбілею Каліноўскага, што асабліва можна заўважыць па інтэрнэце. Актыўная беларуская моладзь нават пачала збіраць подпісы сярод жыхароў Мінска за ўсталяванне ў сталіцы помніка Кастуся Каліноўскаму.

Я прыгадаў, што калі ў самым канцы 1971 г. звярнуўся з Масквы на пастаяннае месца жыхарства ў Мінск, дык атрымаў кватэру ў доме на вуліцы Каліноўскага і ўжо тады дзівіўся, чаму няма помніка змагару за вольную Беларусь. Я нават выбраў выдатнае месца для помніка на нашай вуліцы — узгорак, дзе пазней пабудавалі Усясвяцкую царкву. Некалькі разоў казаў пра гэта нейкаму начальству, але ўсё дарэмна, але я ўпэўнены, што з часам з’явіцца помнік сапраўднаму беларускаму герою.

***2013***

## Юбілеі Максіма Гарэцкага

Лёс Максіма Гарэцкага склаўся так, што пры жыцці ў яго не было ніводнага афіцыйнага юбілею. У 20 год, яшчэ малады студэнт каморніцка-агранамічнага вучылішча, ён пачаў сваю літаратурную дзейнасць, надрукаваўшы ў «Нашай Ніве» апавяданне «У лазні». У 25 год Максім Гарэцкі разам з Янкам Купалам сустрэў рэвалюцыю ў Смаленску, быў сведкам страшэнных людскіх пакутаў ад бальшавіцкага рэжыму (па словах Янкі Купалы «цяжкі і жудкі 1918 г., у які ён быў як непрытомны») і пачаў пісаць аповесць «Дзве душы». У 30 год Гарэцкі ўжо вядомы пісьменнік (аўтар многіх твораў, у тым ліку і «Гісторыі беларускае літаратуры»), але нядаўна вызвалены з турмы Лукішкі і ў канцы 1923 г. пераязджае з сям’ёй з Вільні ў Менск. Ужо праз 7 гадоў, у 1930 г., хаця і прызнаны адным з «заснавальнікаў беларускай мастацкай прозы» (Антон Адамовіч), трапляе па сфальсіфікаванай справе «Саюз вызвалення Беларусі» ў «архіпелаг ГУЛАГ». Тут у Вятцы сям’я Максіма Гарэцкага адзначыла яго 40-годдзе святочнай вячэрай: тушанай капустай з алеем і самаварам гарбаты, а папярэдне варылі суп з забітага некім грака. Яшчэ праз 7 гадоў, 10 лютага 1938 г., Гарэцкі быў расстраляны ў г. Вязьме, не дажыўшы да 45 гадоў 8 дзён. Творы пісьменніка былі забаронены, большасць знішчана (па спісу Галоўліта БССР ад 3.VI.1937 «Гарэцкі М. — усе кнігі»). Імя і спадчына М. Гарэцкага пачалі варочацца да народа толькі амаль праз 30 гадоў.

Першы юбілей Максіма Гарэцкага (на жаль, ужо пасмяротны) прайшоў ***28 лютага 1968 г.*** у клубе Саюза пісьменнікаў БССР. У запрашэнні напісана: «вечар прысвечаны ***75-годдзю*** з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага». Адкрыў і вёў вечарыну Янка Брыль, змястоўны даклад зрабіў Дзмітрый Бугаёў, які ў гэтым жа годзе надрукаваў першую манаграфію пра жыццё і творчасць пісьменніка, адзначыўшы, што М. Гарэцкі — «арыгінальны пісьменнік і

таленавіты вучоны-даследчык, фальклярыст, мовазнаўца», «…адзін з пачынальнікаў нашай нацыянальнай празаічнай традыцыі». З успамінамі выступіў Юрка Гаўрук, яскравыя словы сказаў Язэп Семяжон, які паведаміў, што ў нямецкім часопісе «Sonntag» апублікавана рэцэнзія на раман «Віленскія камунары» прафесара Т. Н. Брарона з такой ацэнкай Гарэцкага: «…таленавіты майстра прозы, адзін з буйнейшых пісьменнікаў Беларусі». С. Станкевіч у газеце «Беларус» (сакавік 1968 г.) надрукаваў артыкул «Максім Гарэцкі (На 75-я ўгодкі ад нараджэньня пісьменьніка)».

***23 лютага 1973 г.*** у памяшканні клуба Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вечар у гонар ***80-годдзя*** Максіма Гарэцкага, які адкрыў Аляксей Кулакоўскі. Слова пра пісьменніка сказаў доктар філалагічных навук Алесь Адамовіч. Ён праз два гады спачатку ў часопісе «Полымя», а пазней (1980) асобнай кнігай выдаў манаграфію «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», дзе падкрэсліў, што М. Гарэцкі займае «месца класіка беларускай літаратуры побач з Купалам, Коласам, Багдановічам». З успамінамі пра брата «Сацыяльны аптымізм Максіма Гарэцкага» выступіў Гаўрыла Гарэцкі.

На гэты юбілей пісьменніка адклікнуліся газеты «Літаратура і мастацтва» (16 лютага 1973 г.) артыкулам Э. Золавай «Самабытнасць», «Знамя юности» (16 лютага) — Э. Іофе «Максим Белорус», «Голас Радзімы» (сакавік) — Станіслаў Шушкевіч «Летапісец вялікіх падзей» і «газета беларусаў у вольным свеце» «Беларус» (люты) — Раман Шарупіч «Максім Гарэцкі (На 80-я ўгодкі ад нараджэння)».

***18 лютага 1983 г***. Мінскі гаркам КПБ і Саюз пісьменнікаў БССР правялі ў Доме літаратара ўрачысты вечар, прысвечаны ***90-годдзю*** з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Вечар адкрыў і вёў Максім Танк, слова пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка сказаў член-карэспандэнт АН БССР Алесь Адамовіч. Успамінамі і думкамі падзяліліся Янка Брыль, Заір Азгур, Максім Лужанін, Ніл Гілевіч, Барыс Сачанка, Міхась

Мушынскі, Віктар Карамазаў. З успамінамі «У вянок памяці Максіма Гарэцкага» выступіў Гаўрыла Гарэцкі. Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў драматычны абразок «Салдат і яго жонка», які быў паказаны на сцэне Дома пісьменніка, а затым і на тэлебачанні ў выдатным выкананні Марыі Захарэвіч і Генадзя Гарбука. Многія газеты адзначалі гэтую дату. «Літаратура і мастацтва» ў той жа дзень змясціла вялікі партрэт пісьменніка, шмат фатаграфій з сямейнага архіва і шэраг артыкулаў А. Адамовіча, М. Стральцова, М. Мушынскага, А. Ліса, В. Маслоўскай, В. Шаранговіча, А. Сухога, К. Кулакова, А. Янкоўскага, В. Карамазава, а пазней — пра святочную вечарыну ў Доме літаратараў «З сузор'я класікаў»; пра навуковую канферэнцыю ў Акадэміі навук БССР «Пісьменнік — наватар і вучоны», на якой з дакладамі выступілі многія літаратуразнаўцы і пісьменнікі; пра ўрачысты вечар у актавай зале Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, на якім выступілі М. Мушынскі, В. Карамазаў, Г. Гарэцкая, У. Ліўшыц, П. Шумскі, Р. Гарэцкі і інш.; надрукавала ўрыўкі з твораў і запісы, якія перадала дачка пісьменніка Галіна Гарэцкая з яго архіва і якія раней яшчэ нідзе не публікаваліся. У часопісе «Беларусь» (№ 2) У. Гніламёдаў надрукаваў артыкул «З сузор'я Купалы і Коласа», а ў № 10 выйшаў артыкул Алеся Адамовіча «Багацце таленту». У розных газетах выйшлі артыкулы з характэрнымі назвамі: «Пісьменнік самабытнага таленту» (Д. Бугаёў, «Звязда»), «Жыве яго слова» (А. Сідарэвіч, «Чырвоная змена»), «Талент шматгранны, самабытны» (М. Мушынскі, «Голас Радзімы»), «Правда — наилучшая дорога…» (Л. Заремба, «Советская Белоруссия»), «Волшебник с острова Патмос» (Л. Ломсадзе, «Вечерний Минск»), «Масштабность таланта» (Д. Бугаёв, «Сельская газета»).

***100-годдзе*** з дня нараджэння Максіма Гарэцкага (***18 лютага 1993 г.***) — вяршыня ўсіх юбілеяў, сапраўднае і канчатковае вяртанне пісьменніка і яго спадчыны. Тады быў час кароткай, але

моцнай хвалі нацыянальнага Адраджэння, калі была прынята Дэкларацыя пра дзяржаўны суверэнітэт БССР, беларуская мова абвешчана адзінай дзяржаўнай мовай, наша краіна атрымала назву Рэспубліка Беларусь і зацверджаны дзяржаўны герб «Пагоня», а дзяржаўным сцягам — бела-чырвона-белы сцяг.

Ужо 25 жніўня 1992 г. Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны (старшыня Ніл Гілевіч) пастанавіла:

*«1. Прапанаваць Міністэрству культуры ў тэрмін да 7 верасня 1992 года стварыць рэспубліканскі юбілейны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні ў рэспубліцы 100-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага. Старшынёй аргкамітэта рэкамендаваць зацвердзіць намесніка Міністра культуры Беларусі Гілепа У. А.*

*Юбілейнаму аргкамітэту ў тэрмін не пазней 20 верасня г. г. прадставіць у Камісію план арганізацыйных мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння М. Гарэцкага.*

*2. Падтрымаць прапанову выканкама Горацкага гарадскога Савета народных дэпутатаў Магілёўскай вобласці аб пашырэнні ў г. Горкі гістарычна-этнаграфічнага музея са стварэннем на яго базе ў кватэры, дзе ў 1926–1928 гг. жыў вялікі дзеяч беларускай культуры, спецыяльнага філіяла — музея-кватэры імя М. Гарэцкага.*

*Даручыць Горацкаму гарвыканкаму (старшыня Рэндаў В. Я.) да 01.01.1993 вырашыць пытанне аб выдзяленні жыллёвай плошчы ў адным з узводзімых у горадзе новых дамоў для адсялення сям'і з былой кватэры М. Гарэцкага.*

*3. Прасіць выканкам Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў (нам. старшыні Касцюкевіч Я. В.) аказаць дапамогу выканкаму Мсціслаўскага райсавета народных дэпутатаў у завяршэнні да 15 лістапада 1992 г. будаўніцтва дарогі-пад'езда з асфальтаваным пакрыццём да музея М. Гарэцкага ў в. Малая Багацькаўка.*

*4. Прасіць Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі (Грыцук І.) выпусціць паштовую марку і канверт, прысвечаныя юбілею М. Гарэцкага*

*5. Прасіць Міністэрства інфармацыі Беларусі (Бутэвіч А. І.) станоўча вырашыць пытанне аб дадатковых выданнях у гонар 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзеяча беларускай культуры, а менавіта — выдаць навуковыя і метадычныя дапаможнікі для выкладчыкаў навучальных установ і студэнтаў па вывучэнні і прапагандзе жыцця і творчай дзейнасці Максіма Іванавіча Гарэцкага.*

*6. Рэкамендаваць кіраўнікам упраўленняў і аддзелаў культуры выканкамаў абласных, Мінскага гарадскога, раённых і гарадскіх Саветаў народных дэпутатаў у лютым–студзені 1993 года правесці ў гарадах і раённых цэнтрах, ва ўсіх установах культуры рэспублікі юбілейныя чытанні, прысвечаныя жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага.*

*7. Рэкамендаваць Міністэрству адукацыі Беларусі і яго органам на месцах прыняць актыўны ўдзел ва ўсіх юбілейных мерапрыемствах, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння М. Гарэцкага.*

*Старшыня камісіі Н. С. Гілевіч».*

Упраўленне культуры выканаўчага камітэта Мінгарсавета (начальнік А. Я. Пятровіч) паведаміў:

*«Паведамляем, што адпаведна рашэнню Мінгарвыканкама № 460 ад 20 жніўня 1992 г. «Аб найменні вуліц у мікрараёнах «Сухарава-1–4» вуліцы, якая праходзіць уздоўж мікрараёнаў «Сухарава–1, 3, 4, 5, 7», прысвоена імя класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.*

*У цяперашні час падрыхтаваны праект рашэння выканкама гарсавета, адпаведна якому будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка на былым будынку Інбелькульта па вул. Рэвалюцыйнай, 15, дзе працаваў Максім Гарэцкі, з тэкстам наступнага зместу: «Тут у 1925 годзе ў Інстытуце беларускай культуры*

*працаваў Максім Гарэцкі — выдатны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч».*

16 верасня 1992 г. міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. К. Вайтовіч выдаў загад аб стварэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні ў рэспубліцы юбілейных урачыстасцей, старшынёй якога прызначыў У. А. Гілепа, намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь. У склад аргкамітэта ўключана 29 чалавек.

У кастрычніку У. А. Гілеп зацвердзіў план падрыхтоўкі асноўных мерапрыемстваў.

*«І. Арганізацыйныя пытанні*

*1. Падрыхтаваць і ўнесці на разгляд Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь праекты пастаноў «Аб прысваенні імя М. Гарэцкага Горацкай раённай цэнтральнай бібліятэцы», «Аб прысваенні імя М. Гарэцкага Курманаўскай сельскай бібліятэцы Мсціслаўскага раёна»*

*студзень, 1993 Магілёўскі аблвыканкам, МК*

*2. Правесці выязное пасяджэнне Аргкамітэта ў Магілёўскай вобласці з наведваннем Горацкага і Мсціслаўскага раёнаў*

*кастрычнік, 1992 Гілеп У. А., Касцюковіч Н. В.*

*3. Звярнуцца да Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі з прапановай па выпуску паштовай маркі і канверта, прысвечаных М. Гарэцкаму*

*верасень, 1992 Міністэрства культуры*

*4. Устанавіць мемарыяльную дошку ў гонар М. Гарэцкага ля будынка Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў г. Горкі*

*студзень 1993 Рэндаў В. Я., Горацкі гарвыканкам*

*5. Устанавіць бюст пісьменніка ў Горацкай раённай бібліятэцы*

*студзень–люты, 1993 Горацкі гарвыканкам*

*6. Вывучыць пытанне і ўнесці на Аргкамітэт па стварэнні музея-кватэры імя М. Гарэцкага як філіяла Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея*

*кастрычнік–лістапад, 1992 Каваленка В. А. Ін-т літаратуры імя Я. Купалы АН*

*7. Распрацаваць каштарыс выдаткаў для правядзення ўрачыстасцей іншых мерапрыемстваў да юбілею*

*кастрычнік, 1992 Магілёўскі аблвыканкам, МК*

*8. Аказаць дапамогу Мсціслаўскаму райвыканкаму ў завяршэнні будаўніцтва дарогі-пад'езда з асфальтавым пакрыццём да музея М. Гарэцкага ў в. Малая Багацькаўка*

*Магілёўскі аблвыканкам*

*Юбілейныя мерапрыемствы*

*1. Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння М. Гарэцкага ў г. Мінску ў памяшканні тэатра імя Я. Купалы*

*люты, 1993 Міністэрства культуры, Саюз пісьменнікаў, АН РБ*

*2. Урачысты вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння М. Гарэцкага ў г. Горкі Магілёўскай вобласці ў памяшканні Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі*

*люты, 1993 Горацкі гарвыканкам*

*3. Навуковая юбілейная канферэнцыя, прысвечаная М. Гарэцкаму*

*люты, 1993 АН РБ, Ін-т літаратуры імя Я. Купалы*

*4. Прэзентацыя кнігі М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» (з нагоды перавыдання) у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі*

*студзень–люты, 1993 Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры,*

*АН, Саюз пісьменнікаў РБ*

*5. У друку, на тэлебачанні і радыё перадачы аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага*

*1992–1993 гг. Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры, Саюз пісьменнікаў*

*6. У школах, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах рэспублікі ўрокі, літаратурныя чытанні, прысвечаныя юбілею М. Гарэцкага*

*студзень–люты, 1993 Міністэрства адукацыі*

*7. Ва ўстановах культуры (клубах, музеях, бібліятэках) рэспублікі літаратурныя вечарыны, выставы, кніжныя выставкі, літаратурныя чытанні, пастаноўкі аднаактовых п'ес па драматургіі М. Гарэцкага*

*студзень–люты, 1993 Міністэрства культуры, Саюз пісьменнікаў*

*8. Свята вуліцы імя М. Гарэцкага ў г. Мсціслаў*

*студзень, 1993 Мсціслаўскі райвыканкам*

*9. Фотавыстава «М. Гарэцкі — жыццё і творчасць» з праглядам слайд-фільма ў Горацкай карціннай галерэі*

*студзень–люты Горацкі гарвыканкам*

*10. Падрыхтаваць да друку і выдаць у 1993 годзе:*

*зборнік твораў М. Гарэцкага «Выбранае», манаграфію М. Мушынскага аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага*

*1993 г. Міністэрства інфармацыі, АН, Ін-т літаратуры*

*11. Адкрыццё экспазіцыі ў музеі імя М. Гарэцкага в. Малая Багацькаўка*

*люты, 1993 Аб'яднанне літаратурных музеяў, Мсціслаўскі райвыканкам»*

Троху пазней у план былі ўключаны дадатковыя прапановы:

*«1. Правесці пасяджэнне ў ЮНЕСКА ў Парыжы (план МЗС — П. Краўчанка).*

*2. Да гэтага пасяджэння выдаць буклет (на бел. і ангельскай мовах аб М. Гарэцкім), а таксама значок і медаль керамічную (можна на Радашковіцкім заводзе).*

*3. Устанавіць мемарыяльную дошку на будынку Інбелкульта ці АН Беларусі ў Мінску, або помнік-бюст у скверы, каля хаты, дзе жыў пісьменнік.*

*4. Уключыць у каштарыс аплаты выданне брашуры Івана Чыгрына «Паміж былым і будучым (проза Максіма Гарэцкага)», аб'ём 8 аркушаў.*

*5. Выдаць зборнік аповесцей М. Гарэцкага ў перакладзе на рускую мову.*

*6. Увесці ў склад Аргкамітэта:*

*а) М. І. Мушынскага — члена-кар. АНБ, заг. аддзела Інстытута літаратуры;*

*б) П. К. Краўчанку — Міністра замежных спраў РБ».*

Ад міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанкі я атрымаў ліст, у якім паведамлялася:

*«Шчыра віншую ўсіх вас з нагоды сотай гадавіны выдатнага сына Зямлі Беларускай Максіма Гарэцкага.*

*Нямнога знойдзецца ў нашай гісторыі людзей, якіх бы лёс так адарыў шматлікімі талентамі ў самых розных сферах творчасці. Для нас, хто жыве ў канцы 20-га стагоддзя, Максім Гарэцкі перш за ўсё — вялікі нацыянальны пісьменнік, паплечнік Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна.*

*Але не будзем забываць і пра тое, што Максім Гарэцкі быў настаўнікам і сейбітам для многіх тых, хто потым моцнымі парасткамі выспяваў на нацыянальнай ніве. Як тут не ўспомніць яго як выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў Віленскай гімназіі ў пачатку 20-х гадоў. Былыя яе навучэнцы, з якімі мне даводзілася сустракацца за межамі Бацькаўшчыны, з вялізарнай цеплынёю і глыбокай павагаю ўспамінаюць любімага настаўніка.*

*Добра ўсведамляючы тое, што ўяўляе сабой Максім Гарэцкі для нашай культуры і ўзмацнення нацыянальнай свядомасці, Міністэрства замежных спраў Беларусі рабіла і будзе рабіць усё магчымае дзеля шырокага ўшанавання яго імя ў свеце.*

*Як вядома, залаты юбілей Гарэцкага ўключаны ў каляндар святкавання гадавінаў вялікіх людзей і гістарычных падзей ЮНЕСКА ў 1993 годзе.*

*13 студзеня ў час сустрэчы ў Парыжы з Генеральным дырэктарам панам Фрэдэрыка Маёрам мы абмеркавалі шэраг пытанняў, звязаных са святкаваннем гэтага юбілею. Ёсць дамоўленасць аб тым, што ў маі бягучага года ў штаб-кватэры ЮНЕСКА будзе разгорнута фотавыстава, прысвечаная*

*бліскучай дзейнасці Максіма Гарэцкага як пісьменніка, навукоўца, літаратара, крытыка, фалькларыста, перакладчыка».*

У снежні 1992 г. я атрымаў ліст ад У. Ліўшыца з Горак. Ён пісаў, што старшыня райвыканкама *«афіцыйна заявіў, што кватэру вызваліць толькі летам, бо чалавек, які там жыве напісаў заяву на дзве кватэры: двух і трохпакаёвую. Да гэтага хачу дадаць, што ўжо вырашана пытанне аб прысваенні імя М. Гарэцкага адной з вуліц Горак (былая вуліца 40-годдзя Кастрычніка), на якой у 1908 г. жыў М. Гарэцкі. Вырашана пытанне аб наданні імя Гарэцкага раённай бібліятэцы, дзе будзе ўстаноўлены бюст, які плануем купіць у З. І. Азгура. [...] У Горках і акадэміі лічаць, што тэкст на дошцы павінен быць наступным: «Максім Іванавіч Гарэцкі (18.II.1893–10. II.1938) — выдатны беларускі пісьменнік, навукоўца і педагог. Выхаванец Горы-Горацкага земляробча-агранамічнага вучылішча (1909–1913), загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1926–1928)». Вядома, лепей было б, каб мы змаглі напісаць — «класік беларускай літаратуры», але гэта трэба ўзгадніць з Саюзам пісьменнікаў і мець на гэта пісьмовы дазвол».*

Я палічыў, што надпіс, які прапануюць, вельмі вялікі і разам з В. Янушкевічам (аўтарам дошкі) прапанаваў такі: *«У гэтых мурах навучаўся (1909–1913) і выкладаў (1926–1928) класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі».* Узгадніў з Саюзам пісьменнікаў і старшынёй Камісіі ВС РБ Нілам Гілевічам, які зацвердзіў надпісы: «З гэтымі папраўкамі добра. 14.XII.92».

За 10 гадоў паміж юбілеямі галоўныя творы шматграннай спадчыны Максіма Гарэцкага былі апублікаваны, выйшла кніга ўспамінаў, шмат літаратуразнаўчых артыкулаў пра яго творы, нарысы пра жыццё і творчасць пісьменніка, тэлефільм Ігара Калоўскага «Максім Гарэцкі. Алея жыцця», мне задалося ў архівах КДБ высветліць праўду пра яго смерць («Расстрэл Максіма Гарэцкага» // ЛіМ. 1992).

Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага часопіс «Полымя» (1993. № 2) надрукаваў «Скарбы жыцця» — яго апошні яшчэ невядомы для чытача твор, які прапанавала для друку Галіна Максімаўна, дачка пісьменніка, і ўступны артыкул да якога напісала Т. Голуб «Вечнае поле памяці». Пазней гэты твор у перакладзе на рускую мову В. Тараса выйшаў у часопісе «Нёман» (1997. № 11). У «Полымі» (1993. № 1) апублікаваны ўспаміны Л. Чарняўскай «Памятка» пра апошнія гады жыцця М. Гарэцкага, а таксама вялікі артыкул М. Мушынскага «Шукайце брату свайму дарогу да праўды» пра публіцыстычную і літаратурна-крытычную спадчыну М. Гарэцкага.

Аддзел крытыкі і бібліяграфіі газеты «Літаратура і мастацтва» (галоўны рэдактар Мікола Гіль), каб «паказаць асобу і творчасць Максіма Гарэцкага з розных ракурсаў, ва ўспрыманні людзей розных пакаленняў, светапоглядаў, накірункаў дзейнасці», звярнуўся да майстроў слова і літаратурнай моладзі, да прадстаўнікоў іншых прафесій з пытаннямі: 1) Калі і пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з прозай Гарэцкага? 2) Што ў яго асобе і творчасці падаецца вам вызначальным, сугучным сённяшняму дню, блізкім вам асабіста? Са студзеня 1993 г. да пачатку сакавіка друкаваліся адказы, каля якіх быў змешчаны невялікі партрэт пісьменніка з лічбай 100. Перад гэтым з такім жа партрэтам змясцілі публікацыі ***Валянціны Агаркавай*** *«А народ мой — народ лірнік…»* і ***Алеся Марціновіча*** *«Так пачаў Максім Беларус…»*. На пытанні адказалі многія. ***Вячаслаў Адамчык***: *«Імя ж Максіма Гарэцкага, вялікага цярпліўца і пакутніка, будзе золатам свяціць паміж велічных імёнаў тых, хто самаахвярна паклаў жыццё на алтар нацыянальнай ідэі беларускага адраджэння, дабрыні і чалавечай непамерклай справядлівасці»*. ***Леў Мірачыцкі*** (гісторык): *«У асобе Максіма Гарэцкага вызначальным падаецца мне ідэя Адраджэння Бацькаўшчыны — шлях, на які сталі ўсе цывілізаваныя народы. Дзеля такой высакароднай патрыятычнай ідэі ён жыў і самааддана працаваў»*. ***Генрык Далідовіч***: *«Максім*

*Гарэцкі ўзрос якраз на нацыянальнай глебе — каранямі глыбока ў родную зямлю, а кронай высока ўверх, да чыстага неба і яркага сонца. Ягонае «сваё» — не правінцыйнае, не хутарское альбо засцянковае, а агульнабеларускае і агульначалавечае».* ***Ігар Жук***: *«Жыццё і смерць... Вось і прамовілася слова, якое атаясамлівае постаць М. Гарэцкага з беларускай літаратурай».* ***Уладзімір Арлоў***: *«...у асобе і ў творчасці Гарэцкага мне найперш і бачыцца ягоная еўрапейскасць ці, калі хочаце, сусветнасць».* ***Эдвард Зайкоўскі*** (археолаг): *«Асоба Максіма Гарэцкага ўвасабляе ў сабе памкненні і трагізм ягонай эпохі».* ***Уладзімір Сцяпан***: *«Вызначальным і блізкім асабіста мне падаецца дваістасць асобы Гарэцкага-пісьменніка. Яго нейкі змушаны аптымізм і трагічнае ўспрыманне жыцця».* ***Андрэй Фэдарэнка***: *«Гарэцкі, жывучы ў асабліва бурапенныя і круталомныя часы, умудрыўся пісаць не па прынцыпе сацыялістычнага рэалізму. Аднаму з нямногіх у беларускай літаратуры, яму ўдалося абагнаць свой час. Ён пісаў з пазіцый пісьменніка незалежнай дзяржавы...»* ***Тамара Гаробчанка*** (тэатразнаўца): *«Думаецца, што і сёння вельмі надзённа, актуальна, сугучна часу гучаць словы Максіма Гарэцкага: «Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння».* ***Уладзімір Казбярук***: *«Максім Гарэцкі — занадта самабытны і рознабаковы пісьменнік, каб можна было адважыцца нейкай адной фразай ахапіць яго непаўторнасць, спасцігнуць сутнасць. На кожным гістарычным этапе ён станавіўся ўсё больш нечаканым, глыбокім і шматгранным. [...] Творы Максіма Гарэцкага памагаюць нам лепш за найгрунтоўныя навуковыя трактаты зразумець сутнасць палітычных і сацыяльных катаклізмаў той пары».* ***Валеры Герасімаў*** (бібліёграф): *«Вінавацілі некалі крытыкі Гарэцкага ў «нацыяналістычных тэндэнцыях». Але якраз гэтыя «тэндэнцыі», інакш кажучы, здаровы беларускі нацыяналізм — «чалавека-беларуса» па выразу самога Максіма Іванавіча — мне здаецца вызначальным і асабіста блізкім».* ***Зіновій Прыгодзіч***: *«...першае ўражанне ад «Віленскіх каму-*

*нараў» — ашаламляльнасць. Якое смелае пранікненне ў глыбіні народнага жыцця, якая сіла грамадскага пачуцця, які магутны і непаўторны талент! «Дзве душы»... — якая глыбокая, таленавітая і па-мастацку дасканалая рэч! [...] Яна яшчэ і надзвычай актуальная»*. ***Пятро Васючэнка***: *«Было адчуванне, што гэтага аўтара не трэба ні ўпісваць, ні ставіць у Кантэкст. Што ён размаўляе з табой адтуль — з універсуму»*. ***Іван Шамякін***: *«...сацрэалізм многіх з нас рабіў рамантыкамі. Мы адступалі ад традыцый Купалы, Коласа, Гарэцкага, ад традыцый рускай класічнай літаратуры. А яны, гэтыя традыцыі, вымушаюць нас вярнуцца да суровага рэалізму, да крытычнага рэалізму — да той высокай праўды аб жыцці народа, якая вызначальнай была ў творчасці нашых класікаў»*. ***Сяргей Панізнік***: *«І я веру, што М. Гарэцкі не толькі з намі, але і наперадзе нас. І ў адраджэнні Краіны мы сыходзімся з ім усё бліжэй і бліжэй»*. ***Барыс Сачанка***: *«Максім Гарэцкі быў чалавекам вельмі добрай беларускай душы, сціплым па прыродзе сваёй, не абцяжараны ні славай, ні званнямі, ні тытуламі. Увесь нядоўгі век, што быў яму адпушчаны, куды б, у якія краі ні закідвала яго злая доля, ён працаваў да самазабыцця, рабіў усё, што было ў яго сілах, дзеля свайго народа, Бацькаўшчыны»*. ***Алена Барадзіна*** (выкладчык гімназіі № 1, г. Баранавічы): *«Уражвае ў асобе М. Гарэцкага імкненне да самаўдасканалення, шырыня інтарэсаў, здольнасці, эрудыцыя. [...] Філасафічнасць прозы Гарэцкага хутчэй правіла, чым выключэнне ў яго творчасці»*. ***Валерый Мазынскі*** (рэжысёр): *«...адчуваю ў Гарэцкім паўнавартага драматурга. У ім, акрамя шырокай адукаванасці, што так важна, прысутнічае яшчэ і багатая інтуіцыя, падрабязнасць псіхалагічнага малюнку. Дзеючыя асобы ў яго жывуць без натужнай прыдумкі. Яны не вымушаны гаварыць аўтарскі тэкст, а жывуць, дзейнічаюць. Усё тое нямногае з яго драматургічных абразкоў гаворыць аб моцным драматургу»*. ***Іван Чыгрын***: *«Нічога падобнага беларуская проза да М. Гарэцкага не мела. Тут ён ва ўсіх адносінах*

*першаадкрывальнік. І не толькі новых тэм — філасофіі быцця ў пэўных ракурсах адкрывальнік. [...] Маштабнасцю асобы сваёй уражвае М. Гарэцкі. Чалавечай вышынёй уражвае. Сярод беларускіх пісьменнікаў, якіх накрыла эпоха Сталіна сваім вогненным валам, другога такога, можа, і няма»*.

Своеасаблівы падрахунак анкеты падвялі Уладзіслаў Рубанаў у эсэ «Прарок» і Міхась Мушынскі ў нататцы «Аддамо належнае і рэдактарам» (ЛіМ. 1993. 5 сакавіка).

***У. Рубанаў***: *«Максім Гарэцкі быў пракокам. У тым і соль, што, пішучы ў пэўным часе, геній як бы штурхае розум грамадства наперад, дапамагае фарміравацца свядомасці наступных пакаленняў». **М. Мушынскі**: «У асобе М. Гарэцкага, чалавека і пісьменніка, уражваюць цэласнасць і шматграннасць натуры, мэтанакіраванасць ягонай дзейнасці, мастакоўская прадбачлівасць, здольнасць адчуваць, разумець першачарговыя задачы, якія жыццё ставіла перад нацыянальнай культурай, літаратурай. [...] М. Гарэцкі — гэта мастак-падзвіжнік, яго талент — талент дзеяча-адраджэнца, які верыў у свой народ, у шчаслівы лёс нацыі, у яго непазбежны росквіт. [...] Жыватворная крыніца твораў М. Гарэцкага — высокаўсвядомленая нацыянальная ідэя, ідэя Бацькаўшчыны»*.

Многія газеты і часопісы, бібліятэкі і школы, клубы і музеі, радыё і тэлебачанне адгукнуліся на юбілей шматлікімі артыкуламі, выстаўкамі, вечарынамі і інш.

У студзені 1993 г. у Мсціславе адбылося свята вуліцы імя М. Гарэцкага, якая была названа па ініцыятыве У. Караткевіча раней.

10 лютага 1993 г. (55 год з дня смерці пісьменніка) у Вязьме адкрыты помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Ён пастаўлены на ўскраіне горада (пачатак вул. Паркавая каля крутога абрыву недалёка ад будынка турмы, дзе адбываў прысуд М. Гарэцкі і дзе звычайна расстрэльвалі вязняў). На чорнай стэле з лабрадарыту выбіты словы: *«Предположительно на этом месте, где похоронены сотни известных и неизвестных людей, жертв*

*рэпрессий, находится прах известного белорусского писателя, ученого и педагога Максима Ивановича Горецкого»*. У дэлегацыю з Беларусі на чале з У. Гілепам уваходзілі В. Зуёнак, І. Чыгрын, Р. Гарэцкі, У. Пракапцоў, У. Ліўшыц, С. Маслоўскі, У. Купрыянаў. Адкрыў мітынг, на які прысутнічала некалькі сот чалавек, глава адміністрацыі раёна беларус У. Рудніцкі. Пакрывала знялі У. Ганчарук (старшыня савета дырэктараў г. Вязьма), А. Зялінскі (старшыня Смаленскай арганізацыі ахвяр палітычных рэпрэсій) і Р. Гарэцкі. Два апошнія, а таксама І. Чыгрынаў, былая вучаніца М. Гарэцкага Р. Гарбаценка (з Калугі) і працаўнік Палаца культуры М. Аўтуховіч былі выступоўцамі. Айцец Герасім асвяціў помнік. Шмат кветак і жменя зямлі з Малой Багацькаўкі ляглі каля помніка. Увечары адбылася сустрэча інтэлігенцыі горада з беларускай дэлегацыяй.

У газеце «Рэспубліка» ад 13 лютага 1993 г. надрукавана паведамленне аб тым, што калектыў Радашковіцкага аб’яднання мастацкай керамікі па ўласнай ініцыятыве выпусціў 150 медалёў з барэльефнай выявай Максіма Гарэцкага. Першымі ўладальнікамі медалёў сталі Ніл Гілевіч, Леанід Пабаль, Ганна Сурмач, Генадзь Каханоўскі, Вячаслаў Ляшковіч. Большасць медалёў паступіла ў распараджэнне Радзіма Гарэцкага.

16 лютага 1993 г. у Акадэміі навук Беларусі прайшла юбілейная навуковая канферэнцыя, на якой выступілі каля 30 чалавек, у тым ліку М. Мушынскі, Янка Брыль, У. Конан, І. Чыгрынаў, К. Хромчанка, І. Германовіч, М. Мішчанчук, У. Калеснік. У гэты ж дзень пазней у Доме літаратара — вечарына «Чалавек з Малой Багацькаўкі», на якой адбылася прэм’ера дакументальнага фільма «Максім Гарэцкі» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр Уладзімір Колас).

18 лютага 1993 г. у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках у аўдыторыі імя М. І. Гарэцкага (корпус № 4) пачалося пленарнае пасяджэнне Гарэцкіх чытанняў, якое ўступным словам адкрыў рэктар акадэміі В. А. Шаршуноў, а з дакладамі выступілі Н. Гілевіч, Р. Гарэцкі, М. Мушынскі. Затым прайшлі

секцыйныя пасяджэнні: 1. «Жыццё і творчасць М. Гарэцкага. Вывучэнне яго творчасці ў школе»; 2. «Творчасць М. Гарэцкага і праблемы літаратуразнаўства»; 3. «Асаблівасці мовы М. Гарэцкага». У фае была зроблена вялікая выстаўка. Пазней на тым жа будынку адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі (аўтар Валяр'ян Янушкевіч). На ёй надпіс: «У гэтых мурах вучыўся (1908–1913) і працаваў загадчыкам кафедры (1926–1928) класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі». Выступілі В. Шаршуноў, старшыня райсавета І. Халява, Р. Гарэцкі, В. Янушкевіч. У Палацы культуры БСГА прайшоў рэспубліканскі ўрачысты вечар з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння М. І. Гарэцкага. Адкрыў вечар Н. Гілевіч. Выступілі намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук, М. Мушынскі, Я. Брыль, В. Рудніцкі, Р. Гарэцкі, старшыня Горацкага гарвыканкама В. Рындаў. У канцэрце Краснапольскі народны тэатр паказаў спектакль па п'есе М. Гарэцкага «Свецкі чалавек». На наступны дзень урачыстасці праходзілі ў Горацкай раённай цэнтральнай бібліятэцы з нагоды прысваення ёй імя М. І. Гарэцкага. Выступілі С. Законнікаў, У. Паўлаў, І. Чыгрынаў. У якасці падарункаў бібліятэка атрымала бюст Максіма Гарэцкага, зроблены Заірам Азгурам, і партрэт пісьменніка (аўтар Уладзімір Шпартаў). У в. Малая Багацькаўка (Мсціслаўскі раён) быў адкрыты дом-музей, збудаваны па ініцыятыве сакратара ЦК КПБ А. Т. Кузьміна на падмурку старой сядзібы. Аўтар экспазіцыі — М. І. Пратасевіч. На наступны год (19.11.1994) на будынку музея ўсталявана мемарыяльная дошка (аўтар Эдуард Астаф'еў) з надпісам: *«Тут стаяла хата, у якой 18 лютага 1893 г. нарадзіўся класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі»*. Кароткі даведнік «Літаратурны музей Максіма Гарэцкага» пазней склаў У. М. Ліўшыц (1997).

У памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 23 лютага 1993 г. адбылася вечарына. якая завяршыла галоўныя юбілейныя ўрачыстасці ў Беларусі. Адкрыў яе старшыня Саюза пісьменнікаў В. Зуёнак, выступілі

В. Каваленка, А. Лойка, Р. Гарэцкі. Прыняў удзел у вечары кіраўнік дзяржавы — старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, многія міністры, прадстаўнікі ўладаў, творчых саюзаў і арганізацый.

Дзякуючы намаганням Міністэрства замежных спраў Беларусі (міністр П. К. Краўчанка), гэтая дата была ўнесена ў каляндар святкавання гадавінаў вялікіх людзей і гістарычных падзей ЮНЕСКА, які абвясціў 1993 год годам Максіма Гарэцкага, і 5 лістапада ў Парыжы адбылася ўрачыстая вечарына і экспанавалася выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці М. Гарэцкага. Ад Беларусі прынялі ўдзел П. К. Краўчанка, Н. М. Мазай, А. І. Бутэвіч, В. П. Шаранговіч, Р. Г. Гарэцкі.

Да 100-годдзя пісьменніка была выдадзена паштовая марка, выйшла кніга Т. М. Дасаевай «Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага». У час Першага з'езда беларусаў свету (10 ліпеня 1993 г.) адкрыта мемарыяльная дошка (аўтар Мікалай Бакуменка) на будынку былога Інбелкульта з надпісам: *«Тут у 1925 г. у Інстытуце беларускай культуры працаваў Максім Гарэцкі, выдатны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч»*.

У тыя дні і троху пазней у многіх газетах асвятляліся пералічаныя падзеі і друкаваліся артыкулы пра юбіляра: «Голас Радзімы» (4.02) — Вячаслава Шалькевіча «Невядомы аўтограф»; «Звязда» (10.02) — «Пакланіцца Гарэцкаму ў вяземскія Курапаты»; «Голас Радзімы» (11.02) — Уладзіміра Казбярука «Мара пра вялікі сход»; «Рэспубліка» (13.02) — «Радашковіцкія майстры Гарэцкага шануюць»; «Вяземский вестник» (13.02) — Владимира Парфёнова «Победа над забвением»; «Звязда» (17.02) — «Быў ён з моцнага і трывалага беларускага роду, але пражыў усяго 44 гады»; «Рэспубліка» (18.02) — партрэт М. Гарэцкага і падборку матэрыялаў «Максім Беларус з Багацькаўкі» з выказванняў Міхася Стральцова, Алеся Адамовіча, Гаўрылы Гарэцкага, Галіны Гарэцкай, Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай; «Советская Белоруссия» (18.02) — Ірыны Міхайлавай «Алесь Адамовіч: «Есть что-то феноменальное в этом человеке…»;

«Голас Радзімы» (18.02) — Сымона Белага «Прамень веры ў заўтрашні дзень»; «Народная газета» (20.02) — «Даражэй за ўсё для іх была Айчына»; «Культура» (22.02) — «Вялікі вернік»; «Звязда» (23.02) — Яўгена Пясецкага «Кнігарня» (15–28.02) — «Зямлі бацькоў пясняр самаадданы…»; «Наша слова» (24.02) — Янкі Брыля «З нагоды 100-гадовага юбілею Максіма Гарэцкага»; «Голас Радзімы» (25.02) — Галіны Агалакавай «Яго арыштоўвалі тры разы»; «Літаратура і мастацтва» (26.02) — Алеся Марціновіча «Ва ймя святога ўсім нам адраджэння»; «Рэспубліка» (26.02) — Эмануіла Іофе «Дачушка мая любімая…»; «Чырвоная змена» — «Талент»; «Голас Радзімы» (4.03) — Дзіяны Чаркасавай «Скарбы яго жыцця»; «ЛіМ» (26.03) — Алеся Марціновіча «Юбілеем Гарэцкага падсвечана»; «Настаўніцкая газета» (26.06) — Дзмітрыя Бугаёва «Максім Гарэцкі» і інш. С. Дубавец у часопісе «Нёман» (№ 2) надрукаваў артыкул «Неюбілейнае слова», у якім, спасылаючыся на аповесць «Дзве душы» і аўтабіяграфічнасць многіх твораў М. Гарэцкага, зрабіў бязглузды вывад, што маці пісьменніка, як гераіня аповесці Малання, магла падмяніць сваё дзіця на панскае. «И тогда шляхетские корни «черноземного» рода нужно искать именно в этой повести». Г. Гарэцкая ў тым жа годзе ў «Открытом письме в редакцию журнала «Неман» (№ 10) выказала сваю абуранасць такой «сенсацыяй», «оскорбительной для светлой памяти Ефросиньи Михайловны Горецкой».

12 ліпеня 1995 г. на плошчы Свабоды ў Мінску быў адкрыты помнік Максіму Гарэцкаму (аўтар Мікалай Рыжанкоў) з надпісам: *«Максіму Гарэцкаму — класіку беларускай літаратуры да 100-годдзя з дня нараджэння. 18 лютага 1993 г.»*. У тым жа 1995 г. у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі) пры кафедры беларускай і рускай моў (загадчык В. Зяньковіч) створаны кабінет-музей імя Максіма Гарэцкага з шырокай экспазіцыяй, прысвечанай яго жыццю і творчасці, і тым жа помнікам працы М. Рыжанкова. У гэтых пакоях працаваў М. Га-

рэцкі. 17 лютага 1995 г. на доме, дзе жыў М. Гарэцкі з сям'ёю ў Горках, адкрыта мемарыяльная дошка з надпісам: *«У гэтым доме з 1926 па 1928 г. жыў пісьменнік Максім Іванавіч Гарэцкі»*. У 1989 г. выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўстанавіла прэмію імя М. Гарэцкага (лаўрэаты Т. Голуб, Л. Мазанік).

Трэба падкрэсліць, што Гарэцкія чытанні, якія прайшлі ў юбілейныя дні ў Горках, былі другімі. Першыя прайшлі па ініцыятыве У. М. Ліўшыца ў Горках 16–18 сакавіка 1992 г. З таго часу яны сталі традыцыйнымі і адбываліся амаль кожны год.

Пасля выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і вядомага рэферэндуму сітуацыя ў Беларусі з боку ўсіх уладавых структур у адносінах да беларускай мовы, літаратуры, культуры і наогул беларускасці рэзка змяніліся, таму наступныя юбілеі Максіма Гарэцкага былі значна больш сціплыя.

На ***105-годдзе*** пісьменніка і 60-годдзе яго расстрэлу ў газеце «Звязда» ад 11 лютага 1998 г. быў надрукаваны мой артыкул «Пасмяротнае вяртанне на Бацькаўшчыну». Яшчэ раней М. І. Мушынскі ў часопісе «Гуманітарна-эканамічны веснік» (1997. № 3) змясціў артыкул «Несмяротнасць класікі: мастацкі, маральны і грамадзянска-патрыятычны запавет Максіма Гарэцкага». 15 лютага ў «ЛіМе» выйшаў артыкул Галіны Гарэцкай «Георгіеўскі кавалер» пра ўзнагароду яе бацькі ў 1914 г. Георгіеўскім крыжам 4-й ступені, а 16 лютага — артыкул Георгія Юрчанкі «Прайдуся па Гарэцкага, ступлю на Левановіча…» пра вуліцу імя М. Гарэцкага ў Мсціславе. «Наша слова» (18.02) змясціла паведамленне пра 105-ю гадавіну з дня народзін пісьменніка. Па ініцыятыве педагога Эльвіры Ярчак былі праведзены Гарэцкія чытанні сярэдніх школ «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», якая прайшла ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, дзе выступілі настаўнікі сярэдніх школ Мінска і Мінскай вобласці. 2–3 чэрвеня 1998 г. прайшлі чарговыя, VII Гарэцкія чытанні, матэрыялы дакладаў якіх былі надрукаваны толькі ў 2002 г. Пра гэтыя падзеі Э. Ярчак надрукавала артыкул «Духоўная спадчына» ў газеце «Голас

Радзімы» (2.07), а 6 жніўня ў той жа газеце выйшаў артыкул Уладзіміра Конана «Летапісец сялянскай Атлантыды».

***18 лютага 2003 г.*** у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (г. Мінск) адбыліся XI Гарэцкія чытанні, прысвечаныя ***110-годдзю*** з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Адначасова там жа была адкрыта выстаўка пра жыццё, літаратурна-мастацкую і грамадска-культурную дзейнасць пісьменніка, якую гэты музей арганізаваў разам з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва. Перад гэтым (13 лютага) у тым жа памяшканні прайшла прэзентацыя кнігі Т. С. Голуб «У творчай майстэрні класіка» (Мінск, 2002), якая была выдадзена выдавецтвам «Беларуская навука» да юбілею М. Гарэцкага. Аб гэтай прэзентацыі Эма Золава паведаміла ў «ЛіМе» (2003. 6 чэрвеня). Тое ж выдавецтва выпусціла ў свет манаграфічны нарыс (2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае) Д. Бугаёва «Максім Гарэцкі» (2003), манаграфію (2-е выданне, выпраўленае) І. П. Чыгрына «Паміж былым і будучым. Проза Максіма Гарэцкага» (2003), а выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларуская проза ХХ стагоддзя» кнігу Максіма Гарэцкага «Прысады жыцця» (2003), у якую ўвайшлі апавяданні, аповесці «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь» і дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне» (укладанне Т. Голуб). 19 лютага ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі да юбілею пісьменніка адкрылася арганізаваная аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў выстаўка «Самабытны майстар слова», прысвечаная творчасці М. Гарэцкага. У «Полымі» (2003. № 2) была надрукавана праца М. Гарэцкага «Маладняк» за пяць гадоў: 1923–1928» з прадмовай Т. Голуб.

У «ЛіМе» (2003. 21 лютага) былі надрукаваны артыкулы Святланы Явар «Чужая праўда», Івана Шаладонава «Хрысціянская традыцыя» і Віталя Падстаўленкі «Не забі ў сябе добрае карэнне!». Таццяна Дасаева ў «Звяздзе» (2003. 20 і 22 лютага) змясціла артыкул «Максім Гарэцкі і Леаніла Чарняўская.

Гісторыя кахання». Таварыства беларускай мовы да юбілею выдала памятны каляндарык. Анатоль Мяснікоў у «Звяздзе» (2003. 31 ліпеня) надрукаваў эсэ «Максімава доля».

Яшчэ на 100-годдзе было вырашана выдаць на рускай мове кнігу М. Гарэцкага «Избранное». Хутка Л. Кананец падрыхтавала такі рукапіс, які атрымаў добрыя водгукі ад шэрагу рэцэнзентаў, у тым ліку і ад Г. Гарэцкай. Кнігу ўключылі ў план выпуску выдавецтва «Мастацкая літаратура», але яна так і не была надрукавана. Таму я, як прэзідэнт Рэспубліканскага фонду імя братоў Гарэцкіх, зноў звярнуўся ў снежні 2002 г. да дырэктара выдавецтва У. А. Мачульскага з просьбай уключыць у план выданняў. Некалькі разоў кніга трапляла ў такі план, але так і не ўбачыла свет.

Перад юбілеем была выкрадзена мемарыяльная дошка з будынка, дзе калісьці знаходзіўся Інбелкульт, прычым гэта здарылася ўжо другі раз. Пасля першага крадзяжу яна была падкінута назад. А тут згінула канчаткова. На просьбу Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое тады змяшчалася ў тым будынку, паставіць новую дошку за свой кошт Мінгарвыканкам даў адмоўны адказ.

***115-годдзю*** Максіма Гарэцкага былі прысвечаны XVI Гарэцкія чытанні, якія прайшлі ***15 лютага 2008 г.*** у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў чытанняў звярнуліся Радзім Гарэцкі, Міхась Мушынскі, Анатоль Вярцінскі. У гэтым жа годзе выйшлі з друку матэрыялы чытанняў, у якія ўвайшлі 20 дакладаў. Пра XVI Гарэцкія чытанні паведаміла газета «ЛіМ» (2008. 29 лютага) у артыкуле Сашы Дорскай «Перачытваем братоў Гарэцкіх». Кароткія звесткі аб пісьменніку да яго юбілею надрукавала газета «Наша слова» (2008. 20 лютага), а «Народная Воля» (2008. 22 лютага) змясціла фрагменты з артыкула Гаўрылы Гарэцкага «Брат Максім Гарэцкі». «Краязнаўчая газета» (2008. № 8, люты) надрукавала артыкул Генрыха Далідовіча «Класікі вяртаюцца…», да якога перадрукавала з кнігі Радзіма Гарэц-

кага «Ахвярую сваім «Я» урывак «Лёс пісьменніка — лёс пакалення».

Ірына Філіпенка, супрацоўніца Горацкай бібліятэкі, у газеце «ЛіМ» (2008. 21 сакавіка) паведаміла, што *«месяц люты для Горацкай раённай бібліятэкі тройчы сімвалічны. Сёлета мінула 15 гадоў, як ёй надалі імя класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. 18 лютага споўнілася 115 год з дня нараджэння пісьменніка, а 10 лютага, 70 гадоў таму, ён быў расстраляны як «вораг народа». Вось так у адным зімовым месяцы перапляліся і сумныя, і ўрачыстыя даты»*. У артыкуле «Вялікі чалавек з Малой Багацькаўкі» яна адзначыла, што бібліятэка штогод святкуе дзень нараджэння славутага земляка, праводзіць літаратурна-музычныя кампазіцыі, сустрэчы з чытачамі, віктарыны, фотавыставы, дапамагае бібліятэкам і школам у арганізацыі такіх мерапрыемстваў.

Газета «Новы час» — «Літаратурная Беларусь» (2008. 23–30 сакавіка) надрукавала да юбілею з Радыё «Свабода» артыкул «Ён заўсёды пісаў праўду». У другой палове 2008 г. выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла асобнай кнігай аповесць «Дзве душы» накладам 2000 экз.

***15 лютага 2013*** прайшлі XXI Гарэцкія чытанні, прысвечаныя ***120-годдзю*** Максіма Гарэцкага. Напярэдадні юбілею ў Горках адбыліся непрыемныя падзеі, якія былі выкліканы мерапрыемствамі «Дажынкі-2012»: вырашана знесці адзіны захаваны ў Беларусі дом, у якім жыў пісьменнік і яго сям’я. Гэты дом яшчэ 20 гадоў таму рашэннем дзяржаўных структур быў абвешчаны гісторыка-культурнай каштоўнасцю, пастанавілі ў ім адкрыць літаратурны музей Максіма Гарэцкага, дзе намячалася захаваць памяць не толькі пра пісьменніка, але расказаць і пра беларускую культуру і літаратуру Горак і ўсяго раёна. Аднак справа скончылася толькі ўстаноўкай мемарыяльнай дошкі, таму што за гэтыя два дзесяцігоддзі не знайшлі кватэры для жыхароў будучага музея. Але «Дажынкі» адразу вырашылі гэтыя пытанні: знайшлі, куды перасяліць людзей, а

ад дома не засталося ніякага следу, ні якога-небудзь знака. За 20 год не змаглі выканаць і пастанову аб выданні на рускай мове кнігі М. Гарэцкага «Избранное». Нарэшце зараз яна ўключана ў план выдавецтва холдынгу «Мастацтва і літаратура» і яе кіраўнік Алесь Карлюкевіч перакананы ў выхадзе кнігі.

Выйшлі з друку матэрыялы XX Гарэцкіх чытанняў, у якіх змешчаны 32 даклады. Паколькі гэтыя чытанні юбілейныя, вырашыў троху змяніць вокладку і даць на ёй здымак братоў Гарэцкіх не разам, а паасобку, прычым тых, якія былі зроблены ў апошнія гады волі перад іх «перасяленнем» у «архіпелаг ГУЛАГ».

З прывітальным словам на XXI чытаннях выступілі Васіль Зуёнак і Анатоль Бутэвіч. Было заслухана каля 50 дакладаў.

Да юбілею пісьменніка ў выдавецтве «Беларуская навука» выйшла з друку другое, дапоўненае выданне кнігі Міхася Мушынскага «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі», а выдавецтва «Мастацкая літаратура» надрукавала кнігу Алеся Марціновіча «Брама, адчыненая ў вечнасць: дзецям пра Максіма Гарэцкага: нарысы» (2013). Адначасова ён выдаў вялікі артыкул пад той жа назвай у часопісе «Полымя» (2013. № 1 і № 2)

Часопіс «Роднае слова» (2013. № 2) спецыяльна да юбілею пісьменніка змясціў некалькі артыкулаў: Эмануіл Іофе «Максім Гарэцкі — беларусазнаўца», Таццяна Дасаева «Якуб Колас і Максім Гарэцкі», Алена Ярмоленка «Мастацкі свет ранніх апавяданняў Максіма Гарэцкага», Васіль Рагаўцоў «Вербальныя сродкі камічнага ў драматычным абразку «Жартаўлівы Пісарэвіч» Максіма Гарэцкага», Ганна Запартыка «Максім Гарэцкі ва ўспамінах сучаснікаў. Па матэрыялах Беларускага дзяржаўнага архіва музея літаратуры і мастацтва».

18 лютага ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі адбылася выстава «Браму скарбаў сваіх адчыняю…», на якой упершыню ўвазе наведвальнікаў прапанаваны рукапісная спадчына пісьменніка, у тым ліку вучнёўскія сшыткі з рукапі-

сам «Камароўскай хронікі», аўтарскі пераклад на рускую мову «Віленскіх камунараў», накіды з апошняга твора «Скарбы жыцця». 19 лютага ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адчынілася выстава «Сябра майго далёкага юнацтва», назву якой падказалі радкі з ліста Якуба Коласа да Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх. У рамках музейнага праекта «Нашчадкі славутых людзей» выступілі з успамінамі Міхась Міцкевіч і Радзім Гарэцкі. Пра гэтую выставу ў «Краязнаўчай газеце» (2013. сакавік) паведаміла Наста Кадыгрыб у артыкуле «Гістарычная сустрэча». 21 лютага адбылася прэзентацыя выставы ў Дзяржаўным музеі-архіве літаратуры і мастацтва, на якой можна было ўбачыць некаторыя асабістыя рэчы пісьменніка. Трэба адзначыць, што толькі тут на адкрыцці выставы прысутнічаў высокі чыноўнік — старшыня Дэпартамента па архівах У. І. Адамушка. 22 лютага ў сядзібе Таварыства беларускай мовы, як абвешчана ў «Нашым слове», «адбудзецца вечарына на 120-годдзе Максіма Гарэцкага з удзелам акадэміка Радзіма Гарэцкага», а пазней (27 лютага) адзначана: «Акадэмік Радзім Гарэцкі — адзін з заснавальнікаў ТБМ, сябар Рады ТБМ распавёў пра нялёгкі лёс дзядзькі і бацькі, пра іхняе імкненне на Радзіму і адказаў на шматлікія пытанні». Прысутны на імпрэзе паэт Васіль Жуковіч падараваў мне акраверш, напісаны ім да юбілею Максіма Гарэцкага:

**М**ой Божа, так рунела слова,
**А** ў час не лепшы, час ліхі!
**К**аго знішчаў рэжым крывавы?
**С**вядомых, зоркіх, не глухіх!
**І** стаў ахвярай Ты ў жыцці —
**М**агілы нават не знайсці.
**Г**лыбінны, вытанчаны класік,
**А**дметны, не згубіўся ў часе,
**Р**асстрэл і катаў перамог,
**Э**літны, верны Беларусі.
**Ц**алую, родны, й ганаруся

Красой і сілай, бачыць Бог,
І ўсім, што ў век кароткі змог!

Шэраг дзяржаўных газет адзначылі 120-годдзе М. Гарэцкага. У «Звяздзе» надрукаваны інтэрв'ю з Міхасём Мушынскім «Класіка — абярэг народа…» (30.01), пазней — «Фота-слова» з вершам Яўгена Пясецкага (9.02), а затым водгук на яго У. М. Голубева «І яны пакажуць нам шлях» (26.02). «ЛіМ» надрукаваў верш Віктара Падашэўкі «Памяці творцы» і артыкул Алесі Лапіцкай «Месца на Парнасе» (15.02), пазней Марыны Ліс і Таццяны Жук «Архівы не гараць!» (1.03), «Рэспубліка» — Дзмітрыя Патыкі «Ззяе зорка Максіма Гарэцкага» пра выставу ў ЦНБ НАН Беларусі (19.02), «Краязнаўчая газета» — артыкул Васіля Рагаўцова «Іранізмы ў п'есах Максіма Гарэцкага» і пра выставу ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь (люты). Вольга Губская ў газеце «АиФ» (20 лютага) надрукавала інтэрв'ю з Р. Гарэцкім «Братья Горецкие». Газета ТБМ «Наша слова» (13 лютага) змясціла звестку пра Максіма Гарэцкага з Вікіпедыі, яго партрэт і здымак паштоўкі, якую выпусціла да юбілею. На жаль, у апошняй памылкова пазначаны год смерці — 1939. Вось як доўга міфы жывуць! Раней (30.01) газета надрукавала артыкул Аліны Якушовай «Музей Максіма Гарэцкага на Мсціслаўшчыне». Кароткія звесткі пра XXI Гарэцкія чытанні і выставу ў музеі Я. Коласа «Наша слова» змясціла 27 лютага.

Чамусьці большасць недзяржаўных выданняў (газеты «Наша Ніва», «Новы час» і нават «Літаратурная Беларусь», «Свободное слово плюс», часопіс «Дзеяслоў») не заўважылі юбілей пісьменніка. Толькі «Народная Воля» надрукавала артыкулы Марыі Малевіч пра выставу і XXI Гарэцкія чытанні ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (19 лютага), а затым «Містыфікацыя і ніякага махлярства» (22 лютага). Пазней і мне прыйшлося надрукаваць у «Народнай Волі» (5 сакавіка) артыкул на апошнюю тэму.

* * *

**Майстра літаратурных містыфікацый.** Гэты літаратурны жанр, які меў даволі шырокае распаўсюджанне ў літаратуры XIX ст., не памёр і ў сучасным прыгожым слове, у тым ліку і ў беларускім. Сяргей Дубавец у інтэрнэце ў сваім блогу да «120 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, гісторыка культуры і правадніка нацыянальнай ідэі Максіма Гарэцкага і 75 гадоў з дня расстрэлу Максіма Гарэцкага» змясціў раздзел «Максім Гарэцкі. Асколкі літаратурнай перапіскі». Чытаючы опусы аўтара пра перапіску выдатных замежных дзеячаў літаратуры і культуры (Ф. Кафка, Э. Рэмарк, А. Камю, І. Бунін і інш.) з ацэнкай твораў беларускага пісьменніка, адразу адчуваеш, што пісаў іх таленавіты майстар літаратурных містыфікацый, якія выглядаюць так прыгожа, а некаторыя з іх зрэдку нават праўдападобна. Але большасць шыты белымі ніткамі.

Так, аўтар сцвярджае, што Франц Кафка напісаў ліст Эрыху Рэмарку аб сваім захапленні ад яго рамана «На заходнім фронце без перамен», і дадаў: *«...і па-нямецку магчымы такі твор, якім зьдзівіў нас усіх Максім Гарэцкі. Разумею, што Ваша кніга натхнёная яго раманам «На імперыялістычнай вайне»*. Як вядома, Кафка памёр у 1924 г., а раман Рэмарка быў надрукаваны ў 1929 г. Калі паверыць Дубаўцу, дык, відаць, Кафка пісаў ліст ужо з таго свету. У лісце Івана Буніна Джэймсу Джойсу С. Дубавец прачытаў: *«А «Уліс», даруйце, не ўразіў. Пасьля табуляванай (але я дастаў) «Камароўскай хронікі»*. Свой раман-хроніку М. Гарэцкі пісаў у ссылцы (1931–1937), пакінуў незавершаны рукапіс, урыўкі друкаваліся ў «Полымі» (1966, 1972), а цалкам выйшаў у свет толькі ў 1986 г. Бунін памёр у 1953 г., Джойс — у 1941 г. Зноў жа, калі паверыць аўтару блогу, дык любы Шцірліц мог бы пазайздросціць здольнасці Буніна, які змог «дастаць» і прачытаць рукапіс у Гарэцкага, які знаходзіўся ў ссылцы ў ГУЛАГу.

Трэба дадаць, што беларуская літаратура ў той час яшчэ не была ўпісана ў еўрапейскі літаратурны працэс, а адсюль мала

вядомая еўрапейскаму чытачу, хаця многія яе творы, як мы ведаем цяпер, мелі высокі еўрапейскі ўзровень.

Яшчэ 20 гадоў таму на 100-годдзе Максіма Гарэцкага С. Дубавец напісаў сваю першую літаратурную містыфікацыю ў адносінах да пісьменніка, надрукаваўшы ў часопісе «Нёман» артыкул «Максим Горецкий. Неюбилейное слово». У адказ Галіна Гарэцкая, дачка пісьменніка, змясціла «Открытое письмо в редакцию журнала «Нёман», дзе яна напісала: *«Рассказывая русскому читателю о Максиме Горецком, С. Дубовец вспоминает о его повести «Две души» с единственной целью — пустить по свету сенсацию, будто мать М. Горецкого, как и героиня повести крестьянка Маланья, вполне могла совершить преступление, заменив свое дитя на панское. «И творчество в самом деле всё автобиографично? И тогда шляхетские (?) корни «черноземного» рода нужно искать именно в этой повести?..» — очень хочет убедить себя С. Дубовец. Даже предположение такое оскорбительно для светлой памяти Ефросиньи Михайловны Горецкой.*

*Название романа М. Горецкого «Виленские коммунары» С. Дубовец, ёрничая, переделал на «Виленские кулинары», поскольку страдающий от голода герой романа Матвей Мышка часто говорит о еде»*. Здзек з галоднага чалавека (а адначасова і з «славутага рамана Максіма Гарэцкага») так спадабаўся Дубаўцу, што ён у сваёй новай містыфікацыі з вялікім смакам зноў паўтарыў праз «перапіску» Харэўскага з Антанянам: *«...іншы раз здаецца, што галоўны герой толькі есьць, прычым смачна. Я не кажу пра міндалі ўсякія (ты ж ведаеш, я сам кухар), але і вараныя пацукі, аказваецца, у нейкі час прыдаюцца. Неверагодна. Твой С.»* Добра, што Дубаўцу так пашанцавала ў жыцці, што ён еў толькі «міндалі ўсякія», а вось М. Гарэцкаму і яго сям'і ў ссылцы ў Вятцы прыйшлося аднойчы есці суп з забітага нейкім грака (спадзяюся, што аўтар блогу, такі добры знаўца жыцця і творчасці пісьменніка, ведае пра гэта). У савецкай літаратуры панаваў сацрэалізм, але Гарэцкі заставаўся

верным класічнаму рэалізму і таму заўсёды імкнуўся пісаць праўду жыцця.

Г. Гарэцкая далей піша: *«Когда-то С. Дубовец в одной своей статье утверждал, что роман Ремарка «На Западном фронте без перемен» (1929 год) оказал влияние на записки М. Горецкого «На империалистической войне», не подумав, что они появились в печати ещё в 1925 году»*. У сваім блогу 2013 г. С. Дубавец словамі ужо памерлага Ф. Кафкі даказвае адваротнае. У заключэнні «Неюбілейнага слова» ён напісаў: *«...уже началось в отношении Горецкого: утрата интереса публики, заимствование наследия писателя другими культурами — на более благодатную почву, а также всяческие догадки и мистификации, которые и мне, возможно, не удалось избежать в этом неюбилейном слове»*. Прыемна, што С. Дубавец сам правільна азначыў жанр свайго артыкула, але ён не кінуў любімы жанр, а за 20 год, наадварот, яго майстэрства значна ўзрасло, з чым і віншуем Сяргея Дубаўца ў такім прагрэсе. Калі ўлічыць некаторыя іншыя яго літаратурныя перлы, дык ён мае вялікія шансы стаць класікам беларускай літаратуры ў жанры літаратурнай містыфікацыі.

*2013*

## Сям'я Максіма Гарэцкага: месца пахавання

У сувязі з юбілеем многія ў мяне пытаюцца, ці вядома, дзе знаходзіцца магіла Максіма Гарэцкага, яго сына Леаніда, а таксама дзе пахаваны жанчыны яго сям'і — жонка Леаніла Усцінаўна і дачка Галіна. Таму вырашыў даць даведкі пра месца пахавання сям'і пісьменніка.

**Максім Іванавіч Гарэцкі** (18.II.1893–10.II.1938) апошні раз быў арыштаваны ў г. Кіраве (раней пасёлак Пясочня) Заходняй (потым Смаленскай, а цяпер Калужскай) вобласці 4 лістапада 1937 г. і перавезены ў турму г. Вязьмы. На многія заявы Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай у розныя інстанцыі толькі 1 лістапада

1939 г. (амаль праз 2 гады пасля арышту) праз камендатуру г. Кірава (раней Вятка) быў атрыманы вусны адказ аб тым, што Максім Гарэцкі памёр 20 сакавіка 1939 г. у пасёлку Важаэль (Комі АССР). На заяву дачкі пісьменніка Галіны Гарэцкай аб пасмяротнай рэабілітацыі бацькі 7 лютага 1959 г. прыйшла даведка: *«...постановление Тройки УНКВД по Смоленской области от 5 января 1938 года в отношении Горецкого Максима Ивановича... отменено и дело о нем производством прекращено за отсутствием состава преступления»*.

21 ліпеня 1958 г. Галіна Максімаўна атрымала ў г. Ленінградзе пахавальную, у якой сказана, што М. Гарэцкі памёр 20 сакавіка 1939 года ад кровазліцця ў мозг. На запыт у г. п. Важаэль было атрымана паведамленне, што ў спісах зняволеных М. Гарэцкі не значыцца. Так месца пахавання пісьменніка засталося невядомым.

У траўні 1992 г. пляменнік Максіма Гарэцкага Радзім Гарэцкі праз КДБ Беларусі змог азнаёміцца са справай № 13036, якую прыслала з г. Калугі Упраўленне Міністэрства бяспекі Расійскай Федэрацыі па Калужскай вобласці. Стала вядома, што 5 студзеня 1938 г. адбылося пасяджэнне «тройкі», якая пастанавіла: *«Горецкого Максима Ивановича расстрелять. Лично ему принадлежащее имущество конфисковать»*. У наступным дакуменце справы — «Выписка из акта № 85» — сказана, што *«Постановление Тройки УНКВД СССР по Смоленской области от 5 января м-ца 1938 г. о расстреле Горецкого Максима Ивановича 1893 г. р. приведено в исполнение 10 февраля м-ца 1938 г. в 15 час.»*.

Пра гэтую справу я надрукаваў артыкул «Расстрэл Максіма Гарэцкага» ў «ЛіМе» (1992. № 42, 9 кастрычніка; № 43, 16 кастрычніка). Мікалай Ількевіч[1] знайшоў акт аб расстрэле: *«...Перечисленные осужденные, всего в числе сорока человек, из места содержания под стражей были взяты в 14 часов*

[1] Илькевич Н. Расстрелянный в Вязьме. Новое о М. И. Горецком // Край Смоленский. — 1994. — № 1–2. — С.129–144.

РСФСР

КОПИЯ

**СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ**

№ 1-105 № 075174

Гр. Горецкий Максим Иванович
(фамилия, имя и отчество)

умер (ла) 20 марта тысяча девятьсот тридцать девятого года 20 III 1939
(прописью и цифрами год, месяц и число)

Возраст 46 лет

Причина смерти Кровоизлияние в мозг

о чем в книге записей актов гражданского состояния о смерти 1958 года июля месяца 21 числа произведена соответствующая запись за № 115

Место смерти: город, селение —

район — область, край, республика —

Место регистрации: ЗАГС Куйбышевского р-на г. Ленинграда
(наименование и местонахождение бюро ЗАГС)

Дата выдачи „21" июля 1958 г.

Печать учреждения, выдавшего документ

*Заведующий бюро записей актов гражданского состояния — подпись*

Глемин

*45 минут 10-го февраля 1938 года, а решение Заседания Тройки приведено в исполнение путем расстрела в 15 часов того же 10-го февраля 1938 г. Трупы зарыты на установленную глубину, о чем и составлен настоящий акт в одном экземпляре».* М. Гарэцкі ў спісе асуджаных лічыцца пад нумарам 30.

Пасля таго, як стала вядома, што Максіма Гарэцкага расстралялі, я звярнуўся з просьбай у Кіраўскі гарвыканкам Калужскай вобласці прыслаць мне афіцыйнае паведамленне аб смерці М. Гарэцкага. Праз некаторы час я атрымаў гэты дакумент з датай 6 чэрвеня 1992 г., з якога відна, што пісьменнік расстраляны 10 лютага 1938 г., а пра месца смерці напісана «не известно, Россия».

10 лютага 1993 г. у Вязьме з дапамогай кіраўніка адміністрацыі раёна У. Рудніцкага адкрыты помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій. На адкрыцці сабраліся некалькі сот чалавек, у тым ліку і дэлегацыя з Беларусі на чале з першым намеснікам міністра культуры Уладзімірам Гілепам. Помнік пастаўлены



# СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ

Гражданин (ка) Горецкий
(фамилия)

Максим Иванович
(имя, отчество)

умер (ла) 10 февраля 1938 г. тысяча девятьсот тридцать восьмого года
(число, месяц, год)
(цифрами и прописью)

в возрасте 45 лет, о чем в книге регистрации актов о смерти 1992 года июня месяца 3 числа

произведена запись за № 183 „в"

Причина смерти (неизвестно) расстрелян

Место смерти: город, селение неизвестно

район

область, край

республика Россия

Место регистрации Отдел ЗАГС Кировского горисполкома 249420 г. Киров
(наименование и
местонахождение органа ЗАГСа)



М. П.

Дата выдачи „6" июня 1992 г.

Заведующий отделом (бюро) записи актов гражданского состояния [signature]

II-НК № 295035

на ўскраіне горада (пачатак вул. Паркавая) каля крутога абрыву недалёка ад будынка турмы, дзе адбываў прысуд М. Гарэцкі. На чорнай стэле з лабрадарыту выбіты словы: *«Предположительно на этом месте, где похоронены сотни известных и неизвестных людей, жертв репрессий, находится прах известного белорусского писателя, ученого и педагога Максима Ивановича Горецкого»*.




*Помнік на месцы расстрэлу М. І. Гарэцкага ў Вязьме (Расія)*

* * *

Амаль праз 6 гадоў пасля расстрэлу Максіма Гарэцкага і роўна праз 51 год пасля, але менавіта ў дзень яго нараджэння 18 лютага ў 1944 г. загінуў у баі з фашыстамі **Леанід Максімавіч Гарэцкі** (15.VII.1922–18.II.1944). Пра гэта паведаміў дзядзьку Лёні Гаўрылу Гарэцкаму баец А. Хлюшчаў 21.05.44: *«...Он погиб в бою под дер. Костково на восточном берегу реки Шелонь Шимского района Ленинградской области. Похоронен на том же берегу в братской моги-*

1941 — 1945

ВОИНАМ
ГЕРОЯМ

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ермишов | Б.В. | Созонтов | П.П. |
| Андреев | В.П. | Локтев | Н.П. |
| Андросов | Б.А. | Мельников | П.Я. |
| Афанасенко | Л.М. | Миненко | Д.С. |
| Алныкин | И.А. | Навохацкий | И.Д. |
| Аникинчук | А.Н. | Нехорошев | А.П. |
| Бушковский | А.К. | Олиферов | И.Ф. |
| Бондаренко | А.Т. | Осипенков | С.Г. |
| Бедарев | И.И. | Петров | М.П. |
| Власов | К.Ф. | Попов | П.Ф. |
| Верхолетова | П.И. | Потапов | Н.В. |
| Витковская | М.И. | Попов | Г.Д. |
| Горяев | В.А. | Попов | И.И. |
| Гриценко | А.А. | Павлов | В.П. |
| Губин | Д.М. | Прокофьев | В.Е. |
| Горецкий | Л.М. | Романов | П.М. |
| Диковский | А.К. | Рутто | И.И. |
| Жданов | С.М. | Слюсарев | А.И. |
| Жарова | Л.М. | Слепов | И.В. |
| Ибрагимов | А. | Смирнова | А.И. |
| Иванов | В.И. | Сальников | И.М. |
| Игнатов | И.П. | Семенов | Е.В. |
| Куликов | С.М. | Ткачев | А.И. |
| Каштанов | В.Ф. | Усольцев | Д.В. |
| Кокарин | В.И. | Чугунов | В.Г. |
| Кравчук | В.И. | Чугунов | В.Я. |
| Леоненко | Д.И. | Чаткин | С.В. |
| Ловягин | Б.С. | Черных | В.С. |
| | | Шмаков | Д.С. |

*ле. […] ваш Леонид был хорошим командиром для нас, очень тоже сожалеем».* У раённым цэнтры Шымску стаіць стэла, на якой пералічаны пахаваныя ў брацкай магіле афіцэры і салдаты, у тым ліку і Л. М. Гарэцкі.

* * *

**Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая** (16.XI.1893–26.IX.1976) з 1947 г. жыла ў Ленінградзе разам з дачкой Галінай Максімаўнай. Апошнія восем гадоў яна моцна хварэла і была прыкутая да ложка, а 26 верасня 1976 г. памерла. Дачка пахавала яе на Паўночных могілках, якія знаходзяцца недалёка ад Пулкаўскай абсерваторыі, на ўскраіне Санкт-Пецярбурга.

* * *

**Галіна Максімаўна Гарэцкая** (13.III.1921–20.IX.2006) пайшла ад нас на 86-м годзе жыцця. Пахавалі яе побач з магілай маці. Аб смерці Галіны Максімаўны паведаміў Валянцін Яўгенавіч Тэадарчук (сын Юліі Паповай — дачкі брата Еўфрасінні Міхайлаўны Канстанціна), які прыслаў тэлеграму: *«20.09.06 тихо скончалась Галина Максимовна Горецкая».* Валянцін арганізаваў увесь рытуал пахавання і паставіў помнік.

* * *

Праз два гады Валянцін Тэадарчук на Паўночных могілках (8-й хвойный участок, ряд — 6, место — 49) паставіў агульны помнік усёй сям'і Максіма Гарэцкага, на якім зроблены такі надпіс:

**Семья**

**ГОРЕЦКОГО**

**Максима Ивановича**

**КЛАССИКА БЕЛОРУССКОЙ ЛИТЕРАТУРЫ**

**1893 – 1938**

**РЕПРЕССИРОВАН, РАССТРЕЛЯН, ПОХОРОНЕН**

**В Г. ВЯЗЬМЕ, РЕАБИЛИТИРОВАН**




**ЧЕРНЯВСКАЯ**

**Леонила Устиновна**

**1893 – 1976**

**БЕЛОРУССКАЯ ПИСАТЕЛЬНИЦА**

**ГОРЕЦКИЙ**

**Леонид Максимович**

**СТУДЕНТ-СОЛДАТ**

**1922 – 1944**

**ПОГИБ, ЗАЩИЩАЯ ЛЕНИНГРАД**

**МЕСТО ЗАХОРОНЕНИЯ НЕИЗВЕСТНО**

## Горецкая
**Галина Максимовна**

**ЛИТЕРАТУРОВЕД**

**1921 – 2006**

**НИЗКИЙ ПОКЛОН. СЛАВА ВАМ.**
**ОТ РОДНЫХ, БЛИЗКИХ, ПОЧИТАТЕЛЕЙ**
**БЕЛОРУСОВ**

*2013*

# Дзве вясновыя прэміі

1 сакавіка 2013 г. — у першы дзень вясны — Уладзімір Някляеў за раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» быў уганараваны прэміяй Ежы Гедройца, а прэміяй імя Святланы Навумавай, адным з заснавальнікаў якой з'яўляецца той жа Уладзімір Някляеў, у намінацыі «Журналістыка» — карэспандэнт Андрэй Пачобут, «Аналітыка» — Аляксандр Класкоўскі, «Надзея» — Павел Вінаградаў.

* * *

Калі выйшаў часопіс «Дзеяслоў» (2012. № 6), я адразу з вялікай цікавасцю прачытаў «менскі раман» Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», які мяне ўразіў не столькі арыгінальнасцю пабудовы, колькі яскравай передачай асаблівай атмасферы таго часу, часу маладосці герояў твора з іх рамантычнымі падзеямі, нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці большасці людзей, звязаныя з яшчэ свежымі ваеннымі падзеямі і рэаліямі савецка-бальшавіцкага рэжыму. Відавочная аўтабіяграфічнасць і дакументальны стыль апавядання робяць герояў і падзеі рамана вельмі праўдзівымі па іх сутнасці, хаця, як і павінна быць у мастацкім творы, многія эпізоды не адпавядаюць поўнай дасканаласці ні па часе, ні па дэталях.

Намаляваная Някляевым пэндзлем майстра жыццё маладога пакалення пасляваеннага савецкага часу настолькі тыпова

не толькі для Мінска, але і для многіх іншых гарадоў Саюза. Успамінаючы свае студэнцкія гады, якія прайшлі ў Маскве, я бачу многа агульнага. Цяжкасці жыцця прыгняталі, але радасць маладосці перамагала. Вясёлыя жарты, падначкі, хохмы, пачуцці першага кахання і рэўнасці, тусоўкі юнакоў розных нацыянальнасцяў, нейкая бестурботнасць — было найбольш цікавым і значным. Прыкметнае значэнне мелі і аўтаматы з газіроўкай, а часцей без (бо не заўсёды хапала грошай), якія дазвалялі смачна напоўніць страўнік і прыдушыць такое надакучлівае пачуццё голаду. Габрэйскае пытанне ўсплывала нярэдка даволі востра (асабліва ў канцы праўлення Сталіна). Вельмі яскрава Някляеў намаляваў вобраз Саламона Майсеевіча. Мне ён нагадаў дзеда майго сябра па студэнцкай групе Мішы Жаркова, які быў шаўцом на рынку. Такія ж, як у Мінску, у нас былі «баданне» з КДБ, сустрэчы і стычкі з «сексотамі», даносы і камсамольскія пасяджэнні з разборкамі парушальнікаў «маральных і ідэалагічных асноў савецкага жыцця» і г. д.

Падзагаловак «мінскі раман» апраўданы тым, што адчуваецца шчырая любоў аўтара да горада маладосці, які ён так добра ведаў, настальгія па таму старому Мінску, які цяпер так моцна і, на жаль, непрадумана мяняецца і губляе тую былую сваю асаблівасць і прытульнасць.

* * *

Мне давялося ўручаць прэмію імя Святланы Навумавай у намінацыі «Надзея», а таксама медаля ў выглядзе ластаўкі жонцы пераможца Паўла Вінаградава Святлане, бо Павел у гэты час быў асуджаны на 5 сутак, што стала ўжо звычайным у нашай «дэмакратычнай» дзяржаве. З цёплымі словамі пажадання шчасця, любові маладой сям’і з прыемнасцю перадаў дыплом стромкай жанчыне, якая разам са сваім змагаром за вольную Беларусь мужна пераносіць усе цяжкасці.

*2013*

## Адраджэнец на ніве культуры

11 сакавіка 2013 г. споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння выдатнага дзеяча на ніве беларускай культуры Уладзіміра Аляксандравіча Гілепа. На наступны дзень у Дзяржаўным літаратурным музеі Максіма Багдановіча сабраліся яго сябры і прыхільнікі — кіраўнікі Міністэрства культуры, беларускіх музеяў, члены Рады Беларускага фонда культуры і інш. Вельмі цёпла і шчыра віншавалі юбіляра, яго жонку Рыму Віктараўну і іх слаўных дзяцей.

Сялянскі хлопец з вёскі Вострава на Капыльшчыне У. Гілеп, скончыўшы гістарычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «Археалогія», усё жыццё прысвяціў адраджэнню і развіццю беларускай культуры ў самых разнастайных напрамках: археалогіі і музейнай справе, краязнаўстве і турызму, бібліятэчнай і клубнай справе, захаванні нацыянальнай спадчыны, выдавецкай дзейнасці і г. д. Ён не толькі таленавіты спецыяліст, але і выдатны арганізатар. Ужо з самага пачатку навуковай працы па археалогіі Уладзімір Аляксандравіч удзельнічаў як у шэрагу раскопак старажытных курганоў, так і ў стварэнні ўніверсітэцкага археалагічнага музея БДУ і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Вялікі ўклад У. Гілеп унёс у стварэнне экспазіцый і адкрыццё мемарыяльных комплексаў «Хатынь», «Курган Славы», Беларускага музея гісторыі Вялікай Айчынай вайны і інш.

15 гадоў У. А. Гілеп працаваў намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь. У гэты час па яго ініцыятыве і непасрэдным удзеле створаны гісторыка-культурныя запаведнікі ў Полацку, Заслаўі, Нясвіжы. У апошнім ён адзін час на грамадскіх пачатках выконваў абавязкі дырэктара. Тут арганізаваў «Нясвіжскую акадэмію» і Міжнародны фонд «Нясвіж».

Ужо больш за 15 гадоў Уладзімір Аляксандравіч узначальвае Беларускі фонд культуры, які праводзіць вялікую працу па вяртанні і захаванні нацыянальных культурных каштоў-

насцяў, па падтрымцы народнага мастацтва (значны рэзананс атрымалі фестывалі і кірмашы фальклорнага мастацтва), па адраджэнні духоўнай культуры старажытных малых гарадоў і інш. Выклікае захапленне выдавецкая дзейнасць У. Гілепа: выйшла 7 кніг у рамках праграмы «Вяртанне», 2 тамы «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», юбілейныя выданні А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», А. Пушкіна «Евгений Онегин», Якуба Коласа «Новая зямля», У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха», М. Багдановіча «Раманс», «Слуцкія ткачыхі», «Пагоня». Ён — заснавальнік і галоўны рэдактар папулярнай «Краязнаўчай газеты», якой 17 сакавіка 2013 г. споўнілася ўжо 10 гадоў. Шмат часу ў юбіляра займае ўдзел у многіх міжнародных і рэспубліканскіх арганізацыях культурнага напрамку.

Мне давялося з часу стварэння Беларускага фонду культуры ўдзельнічаць у працы Рады БФК пад кіраўніцтвам спачатку Івана Чыгрынава, а затым У. А. Гілепа. Заўсёды я адчуваў вялікае задавальненне ад гэтай справы. Надзвычай добразычлівы, інтэлігентны, дзелавы, цудоўны чалавек з пачуццём гумару Уладзімір Аляксандравіч — вялікі знаўца праблем культуры — ствараў прыемную атмасферу працы Рады БФК, што дазваляла разумна і хутка вырашаць многія складаныя пытанні. Я асабліва ўдзячны Уладзіміру Аляксандравічу Гілепу за выдатную падрыхтоўку і правядзенне самых розных юбілейных урачыстасцяў і мерапрыемстваў у сувязі са 100-годдзем Максіма Гарэцкага ў 1993 г. у якасці старшыні аргкамітэта.

У канцы вечара ў музеі Максіма Багдановіча У. А. Гілеп уручыў дырэктару музея Таццяне Шэляговіч цікавы дакумент — зварот, які па яго ініцыятыве ў 1991 г. падпісалі 40 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі аб перазахаванні праху Максіма Багдановіча з Ялты ў Беларусь. Дарэчы, ён назваў і тых, якія падпісалі зварот тады і прысутнічалі сёння на вечары. Гэта — А. І. Вярцінскі, Э. Агуновіч, нечакана пачуў і сваё імя, бо забыўся пра тое. Аднак прапанова, хаця была нават згода

ЦК КПБ, не была здзейснена — знайшліся ўплывовыя людзі, якія былі супраць.

Уладзімір Аляксандравіч запрасіў усіх гасцей узяць кветкі, якія падаравалі яму, і ўскласці да помніка Максіма Багдановіча. Ціхі вечар сустрэў нас, і мы ўрачыста пад густы снегапад схілілі галовы перад помнікам вялікага паэта і грамадзяніна Беларусі. Хутка прыгожа ўсыпаныя пушыстымі сняжынкамі мы і асабліва казачнага выгляду нашы жанчыны-чараўніцы натхнёна чыталі вершы, слухалі і сэрцам чулі цудоўныя словы паэта. Нам зусім не хацелася разыходзіцца. Узрушаныя і ўдзячныя Максіму Багдановічу і Уладзіміру Гілепу, пажадаўшы юбіляру здароўя і поспехаў, рушылі ў далейшы жыццёвы шлях з беларушчынай у сэрцы…

*2013*

## Задашлівая памылка…

Адна з лепшых вучаніц акадэміка Гаўрылы Гарэцкага Тацяна Васільеўна Якубоўская — палеакарполаг, кандыдат навук, прыхільніца культур беларусаў і беларускіх татар — звярнулася з г. Кірава (былая Вятка), дзе наведвала сваю родную сястру і дзе некалі жыў у ссылцы Максім Гарэцкі. У інстытуце зайшла да мяне і апавядала мне пра сваю паездку ў Кіраў, а ў канцы дадала: «А ведаеце, калі ўжо ехала на аўтобусе на вакзал, дык бачыла, як мільгануў надпіс у назвай вуліцы — Максіма Гарэцкага». Я вельмі здзівіўся, засумняваўся, і каб упэўніцца, ці так гэта, папрасіў яе напісаць сваёй сястры ўдасканаліць назву той вуліцы. Праз некаторы час зноў прыходзіць да мяне Тацяна Васільеўна і кажа: «На жаль, праўда на вашым баку — то вуліца Максіма Горкага».

Але гэтая памылка Т. Якубоўскай прывяла мяне да думкі, а чаму не можа быць нейкай мемарыяльнай адзнакі ў горадзе, хоць і расійскім, дзе жыў і працаваў, як ахвяра сталінска-бальшавіцкіх рэпрэсій, вядомы беларускі пісьменнік? Паставілі ж

помнік у Вязьме. Тады я, як старшыня Рэспубліканскага фонду імя братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, напісаў адпаведныя лісты губернатарам і кіраўнікам Кіраўскай вобласці і г. Кірава, Калужскай вобласці і г. Кірава, Смаленскай вобласці і г. Вязьма, падкрэсліўшы, што 2013 год — юбілейны, 120-годдзе класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.

Праз некаторы час чытаў адказы.

*«31.01.2013.*

*Уважаемый Радим Гаврилович!*

*Рассмотрев Ваше письмо об увековечивании памяти классика белорусской литературы М. И. Горецкого, сообщаю следующее:*

*Материалы о жизни и творчестве Максима Ивановича Горецкого имеются в фондах Кировского историко-краеведческого музея. Тематический комплекс о классике белорусской литературы М. И. Горецкого выставлен в постоянной исторической композиции музея.*

*В городе Кирове сохранилось здание бывшей средней школы № 1, в которой в 1935–1937 гг. работал М. И. Горецкий. В настоящее время в этом здании расположено государственное казенное специальное (коррекционное) образовательное учреждение Калужской области для обучающихся (воспитанников) с ограниченными возможностями здоровья «Кировская специальная (коррекционная) общеобразовательная школа-интернат 1 вида».*

*Администрация муниципального района «Город Киров и Кировский район» в мае 2013 года увековечит место, связанное с трудовой деятельностью М. И. Горецкого установлением мемориальной доски на здание бывшей школы.*

*Глава Кировской районной администрации Н. Ф. Соколов».*

*«06.02.2013 г.*

*Уважаемый Радим Гаврилович!*

*Ваше обращение об увековечивании памяти классика белорусской литературы Максима Ивановича Горецкого, находившегося в ссылке с 1930 по 1935 год в г. Кирове, по поручению Губернатора Кировской области Н. Ю. Белых рассмотрено.*

*Данный вопрос будет включен в повестку дня ближайшего заседания Совета по топонимии муниципального образования «Город Киров» и комиссии по установке мемориальных досок и памятных знаков.*

*О результатах рассмотрения мы сообщим Вам дополнительно.*

*Заместитель Председателя Правительства области — управляющий делами Правительства области А. В. Перескоков».*

*«20.03.2013 г.*

*В результате рассмотрения обращения руководителя государственного фонда имени братьев Максима и Гавриила Горецких Р. Г. Горецкого по вопросу увековечивания памяти Максима Ивановича Горецкого на комиссии по вопросам законности, правопорядка, депутатской этики, социальным вопросам Совета депутатов Вяземского городского поселения Вяземского района Смоленской области сообщаем:*

*На территории Вяземского городского поселения, в районе улицы Парковая 2 расположен памятник «Жертвам политических репрессий», на котором увековечено имя выдающегося сына белорусского народа М. И. Горецкого. Ежегодно в день памяти жертв политических репрессий, в День города Вязьмы и другие памятные даты у памятника проводятся митинги. В местной и региональной печати регулярно публикуются материалы о жизни и научной деятельности М. И. Горецкого. Жители Вяземского городского поселения помнят и чтят имя классика белорусской литературы Максима Ивановича*

*Горецкого. Данный памятник закреплен за одним из учебных заведений города Вязьма.*

*Предлагаем Вам прислать материалы о М. И. Горецком для расширенной публикации в местной печати, а в перспективе выпуска научного сборника, посвященного белорусскому ученому.*

*Председатель комиссии по вопросам законности, правопорядка, депутатской этики, социальным вопросам Д. Е. Комаров».*

*«12.04.2013 г.*

*Уважаемый Радим Гаврилович!*

*В рамках исполнения поручения заместителя Председателя Правительства Кировской области А. А. Галицких информируем, что вопрос присвоения одной из улиц г. Кирова имени М. И. Горецкого рассмотрен на заседании Совета по топонимии муниципального образования «Город Киров». По итогам рассмотрения принято решение о нецелесообразности присвоения наименования улице в городе Кирове «улица имени М. И. Горецкого».*

*Дополнительно сообщаем, что по адресу: г. Киров, ул. Свободы, 109, снесен дом, в котором проживал М. И. Горецкий в 1930–1935 гг., и построен новый жилой дом.*

*Глава департамента П. Н. Сырцев».*

***2013***

# V канферэнцыя беларусаў Балтыі і замежжа. Хведару Нюньку — 85

У Вільні 6–7 красавіка 2013 г. адбылася V канферэнцыя беларусаў краін Балтыі і замежжа, а 6 красавіка старшыня Таварыства беларускай культуры Хведар Нюнька адзначыў 85-годдзе. У святкаванні прынялі ўдзел прадстаўнікі Літвы (арганізатары і вядоўцы — Хведар Нюнька, Леакадзія Мілаш, Алесь Адамковіч), Латвіі (на чале з Вячкам Целешам), Эстоніі (Зінаіда Клыга), Чэхіі (Юрка Станкевіч). З Беларусі прыехала досыць вялікая дэлегацыя: У. Арлоў, А. Астапенка, Г. Бураўкін, В. Голубеў, А. Макоўская, М. Скобла, А. Трусаў, С. Шушкевіч, Н. Шыдлоўская і інш. Сярод іх быў і я з Галінай. Прысутнічалі дзве гераічныя жанчыны — жонкі палітычных вязняў Марына Адамовіч-Статкевіч і Наста Палажанка-Дашкевіч.

Канферэнцыя праходзіла ў сядзібе Таварыства беларускай культуры. Галоўнае пытанне: захаванне беларускай нацыі як на сваёй этнічнай радзіме, так і ў іншых краінах пражывання. Адзначалася, што нахабная і адкрытая русіфікацыя ў Беларусі выклікае праблему знішчэння беларусаў, прычым гэта праблема не толькі ўладаў, якая, як уяўляецца, зацікаўлена ў хуткім знікненні беларускамоўнага насельніцтва, а найперш праблема саміх жыхароў краіны. Зусім не зразумела, чаму беларусы самі адмовіліся ад самага святога — мовы, якая дадзена ім ад Бога і якую кожны з іх павінен першай у жыцці пачуць ад сваёй матулі. Беларусы замежжа, з'яўляючыся неад'емнай часткай беларускай нацыі, займаюцца захаваннем і развіццём беларускай культуры, яе папулярызацыяй у краінах свайго пражывання і гэтым нясуць веды пра Беларусь у свет. Беларусы замежжа забыты сваёй этнічнай Бацькаўшчынай, якая не робіць значных захадаў па падтрымцы сваіх суродзічаў. Яны чужыя для дзяржавы і ўспрымаюцца як замежныя грамадзяне. Калі за людзьмі іншых нацыянальнасцяў стаяць іх этнічныя дзяржавы — за беларусамі — ніхто. І таму чалавеку выгодна быць

рускім, палякам, але толькі не беларусам. Патрэбна сістэмная падтрымка з боку беларускай дзяржавы. Без гэтага ідуць моцныя асіміляцыйныя працэсы ў краінах Балтыі і замежжа, калі беларусы нават другога пакалення ўжо не атаясамліваюць сябе з радзімай бацькоў, усё менш моладзі далучаецца да беларускіх суполак. Ад гэтага страчвае беларуская дзяржава. Вялікую справу робіць Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», займаючыся праблемамі беларускіх дыяспар у розных краінах. Калі не будзе весціся ніякая праца з беларускімі дыяспарамі, яны з часам проста перастануць існаваць.

У час канферэнцыі адбылася прэзентацыя дзвюх новых кніг: Станіслаў Шушкевіч прадставіў сваю кнігу, якая выйшла ў Маскве на рускай мове, а Міхась Скобла — кнігу лістоў і ўспамінаў Зоські Верас «Я помню ўсё». Была зроблена прапанова — неабходна ўсталяваць памятную шыльду ў Вільне гэтай выдатнай дзеячцы беларускай культуры. Вольга Мікалайчык прэзентавала свае новыя фільмы пра найноўшую гісторыю Беларусі.

Усе ўдзельнікі канферэнцыі наведалі Лукішскі пляц, дзе ўшанавалі памяць Кастуся Каліноўскага каля яго помніка. Адзначалася, што ў сувязі са 150-годдзем пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Беларусі і Літве з’явіліся некаторыя падпявалы сучаснаму рэжыму і імперскай думцы Расіі аб тым, што Мураўёў-вешальнік быў прагрэсіўны рэфарматар, а Каліноўскі і яго паплечнікі былі тэрарыстамі і ворагамі беларускага народа. Трэба даць годны адказ на такія заявы. Ідэі паўстання Каліноўскага былі ўвасоблены ў ідэалах Беларускай Народнай Рэспублікі.

У звароце да ўрада Рэспублікі Беларусь дэлегатаў Пятай канферэнцыі беларусаў краін Балтыі ў прыватнасці адзначалася:

*«...звяртаемся да Вас з прапановай зрабіць найбольш важныя крокі, якія найперш могуць дапамагчы спыніць асіміляцыю і пашырыць беларускую прысутнасць у рэгіёне: 1. Паскорыць*

*прыняцце Закона «Аб беларусах замежжа». 2. Павялічыць колькасць беларускамоўных праграмаў для спадарожнікавага вяшчання, бо беларусы, якія нарадзіліся ў замежжы, ужо не маюць магчымасці чуць беларускую мову. А беларуская мова — аснова існавання беларускай нацыі. 3. Прыняць неабходныя захады па падтрымцы існых, а таксама стварэнні новых беларускіх школ у замежжы.*

*Дзеля кансалідацыі беларускай нацыі ў гэты юбілейны знакавы год 150-годдзя нацыянальна-вызвольнага паўстання 1963–1964 гг. прапануем усталяваць ў сталіцы Беларусі — Менску помнік кіраўніку паўстання Кастусю Каліноўскаму.*

*Вільня 7.04.2013».*

* * *

Усе ўдзельнікі канферэнцыі разам з іншымі прыхільнікамі і калегамі Хведара Нюнькі ўрачыста адзначылі 85-годдзе старшыні Таварыства беларускай культуры ў Вільні, якім ён кіруе ўжо каля 25 гадоў. Вельмі цёпла і шчыра з вялікай павагай і любоўю да спадара Хведара многія выступоўцы падкрэслілі яго значны ўклад у захаванне, пашырэнне і прапаганду беларушчыны ў Літве. Па яго ініцыятыве і актыўным намаганні ў Вільнюсе ўсталявана больш за дзесяць шыльдаў беларускім дзеячам, адкрыты і працуюць Віленская сярэдняя беларуская школа, Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры на філалагічным факультэце Літоўскага ўніверсітэта, на віленскіх могілках Росы ўсталяваны шэраг помнікаў (у тым ліку Івану і Антону Луцкевічам, Францішку Аляхновічу), выдадзены шэраг беларускіх кніг і г. д. Вельмі задашліва атрымалася, што Хведар Нюнька і Барыс Кіт нарадзіліся 6 красавіка, і таму С. Шушкевіч, Р. Гарэцкі і Х. Нюнька змаглі пагаварыць па тэлефоне і ад імя ўсіх прысутных сардэчна павіншаваць Барыса Кіта з яго слаўным 103-гадовым юбілеем. Вельмі было прыемна, што наш самы старэйшы выдатны беларус адказваў бадзёрым голасам і з радасцю ўспрыняў наша віншаванне,

добра памятае пра ранейшыя сустрэчы з многімі з прысутных і пра сваё знаходжанне ў Вільні.

* * *

Мы з Галяй разам з некаторымі ўдзельнікамі канферэнцыі з вялікай радасцю зноў змаглі наведаць святыя для нас мясціны — будынак Віленскай беларускай гімназіі, дзе паклалі кветкі каля памятных шыльд Максіму Гарэцкаму і яго выдатнай вучаніцы Наталлі Арсеньевай. Тут з’явілася і новая мемарыяльная дошка Адаму Станкевічу. Прывіталіся з вокнамі тых пакояў, у якіх некалі жыў М. Гарэцкі са сваёй сям’ёй. На выхадзе з двара гімназіі ўспомнілі і пакланіліся яшчэ аднаму вялікаму беларусу — геолагу Ігнацію Дамейку, шыльда якога нагадвае пра яго вучобу ў Віленскім універсітэце. Зайшлі ў храм Вострай брамы, паставілі свечкі ў памяць і ўдзячнасць нашым дарагім людзям, і перш-наперш тым, памятныя знакі пра якіх толькі што наведалі. Светлы ўздым і нейкая радасць жыцця пасля духоўнай размовы з гэтымі вялікімі дзеячамі Беларусі не пакідалі нас да канца дня…

*2013*

## Сустрэча з Салжаніцыным

Пачаў чытаць цікавую кнігу Бенедыкта Сарнова «Феномен Солженицына» (2012) і адразу ўспомніў сваю сустрэчу з героем кнігі. Гэта адбылося ў верасні 1997 г. у Маскве, калі Прэзідыум Расійскай акадэміі навук запрасіў замежных членаў РАН на міжнародны круглы стол на тэму «Навука і грамадства на рубяжы новага тысячагоддзя». А. І. Салжаніцын, роўна на 10 гадоў старэйшы за мяне, быў абраны акадэмікам РАН па спецыяльнасці «Мовазнаўства» ў 1997 г. і быў запрошаны на сустрэчу, як лаўрэат Нобелеўскай прэміі, вядомы пісьменнік, грамадскі дзеяч. Я трапіў на тую сустрэчу, бо ў 1994 г. стаў замежным членам РАН па спецыяльнасці «Геалогія».

Тое, што Аляксандр Ісаевіч быў у цэнтры ўвагі, ён, адчувалася, успрымаў як належнае, бо па-іншаму і не магло быць — ва ўсім было відаць, што ён ўжо даўно «забранзавеў», лічыў сябе вышэй за ўсіх, хаця сярод прысутных было шмат акадэмікаў з сусветным імем, лаўрэатаў Нобелеўскай і іншых ганаровых прэмій. Апрануты быў у звычайнае адзенне, але трымаўся і асабліва хадзіў, як жывы помнік. Зрабіў цікавы даклад, у якім павучаў, як «обустроить» не толькі Расію, але і ўвесь свет, прычым рабіў як агульныя, так і канкрэтныя парады з выглядам прарока з вышынь космасу. У час перапынкаў Салжаніцын важна расхаджваў, было такое ўражанне, што ён большасць людзей не заўважаў, але да яго падыходзілі многія калегі, і я зноў чуў толькі павучэнні, парады ці агульныя філасофскія выказванні, якія гучалі як апошнія ісціны. Калі быў абед і я са сваёй жонкай Галяй сядзелі адны за сталом, раптам да нас з яшчэ нейкім госцем падсеў Салжаніцын. Вядома, ён нас не заўважаў, на пытанні калегі размерным голасам даваў прарочыя адказы, быў настолькі сур’ёзны ў сваім нерухомым твары, што так ні разу нават усмешка не кранула яго. Я тады доўга думаў, ці правільнае ўражанне склалася ў мяне ад гэтага вядомага чалавека? Можа, ён зусім іншы на самай справе? Так гэтае пытанне і засталося не вырашаным для мяне.

Дваістае ўражанне ад Салжаніцына як выдатнага пісьменніка сучаснасці, блізкага да ўзроўню Талстога і Дастаеўскага, а таксама барацьбіта за правы чалавека і справядлівасць, з аднаго боку, і зазнаўшагася эгаістычнага няшчырага чалавека, разважлівага «геніяльнага прарока» — з другога, яшчэ больш павялічылася, калі ў памяці ўзніклі ўспаміны канца 60-х гг. мінулага стагоддзя. Тады я жыў і працаваў у Маскве, а мае бацькі — у Дзедаўску пад Масквой. З маёй мамай у інжынерна-геалагічнай лабараторыі працавала жанчына, якая прыходзілася ці то лепшай сяброўкай, ці то нават сястрой першай жонцы Салжаніцына Наталлі Аляксееўны Рашатоўскай. Яна з мужам

жыла ў Разані, і маміна супрацоўніца часта наведвала сваю сястру і апавядала пра яе жыццё.

У той час А. І. Салжаніцын з дапамогай А. Т. Твардоўскага змог надрукаваць у «Новым міры» сваю выдатную аповесць «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», і слава яе аўтара, які смела адкрыў праўду пра кашмар сталінскага ГУЛАГа, імгненна ўзнеслася на надзвычайную вышыню. Салжаніцыных некалькі разоў наведвалі супрацоўнікі КДБ, а Наталля Аляксееўна пісала дзённікі і хвалявалася, каб іх не знайшлі, і аддала іх на захаванне сястры, а тая, думаючы, што і да яе дабяруцца, папрасіла часова патрымаць рукапіс маю маці. Да нас ад Рэшэтоўскай даходзілі многія весткі пра яе мужа, у тым ліку і пра адмоўныя рысы яго характару, але паколькі Аляксандр Ісаевіч тады ўжо знайшоў другую спадарожніцу жыцця, мы ўспрымалі гэтыя яе паведамленні, як пакрыўджанай кінутай ім жанчыны.

А. Салжаніцын заўсёды ставіў сябе ў цэнтр увагі і лічыў, што яму наканавана выканаць нешта вялікае. Меў вельмі цяжкі характар. Усю адданасць і дапамогу жонкі ўспрымаў як належнае і нават ніколі не выказваў удзячнасці, а наадварот, быў суровы і незадаволены. Працаваў па 12–14 гадзін у суткі. Быў вельмі жорсткі, калі нешта перашкаджала яму. Вельмі патрабавальны да іншых, а для сябе ў аналагічных абставінах рабіў палёгку, бо лічыў сябе асаблівым, якога абавязкова трэба захаваць. Таму ў час следства выдаў не толькі сваіх лепшых сяброў, з якімі перапісваўся ў час вайны (непатрыятычны, «антысавецкі» змест з'явіўся прычынай арышту), але нават сваю жонку. У творах і жыцці імкнуўся паказаць сябе значна лепшым, чым быў на самай справе.

Б. Сарноў вельмі глыбока і аб'ектыўна паказаў феномен Салжаніцына, раскрыў яго сутнасць, эвалюцыю творчасці і поглядаў.

Адначасова ён яскрава паказаў змену сваіх асабістых адносін да Салжаніцына ад абажання як вялікага пісьменніка і смелага грамадзяніна да адмоўных пачуццяў у сувязі з па-

новаму раскрыўшайся яго сутнасцю чалавека і апошніх твораў пісьменніка.

Прывяду некаторыя вытрымкі з яго кнігі.

*«...У Солженицына этой энергии* (энергии заблуждения. — *Р. Г.*) *было в избытке. «...Я чувствую, я вижу, как делаю историю»* (А. Солженицын. Бодался теленок с дубом, 1996)».

*«У Солженицына не только процесс творчества, но и весь стиль его жизненного поведения тоже строится на «пафосе обладания миром» Но для него — это не Заблуждение, не Самообман, а — ИСТИНА»* (с. 197).

*Казалось бы: что общего может быть у текста, обращенного к секретарям Союза писателей, с текстом письма, адресованного Патриарху русской православной церкви? Или текста, обращенного к вождям Советского Союза — с речью, произнесенной перед профессорами и студентами одного из старейших университетов Америки? [...] В каждом из них он не размышляет, не спорит, не полемизирует, не убеждает, не уговаривает, — а ВЕЩАЕТ, ПРОРОЧЕСТВУЕТ. Тех, к кому обращается, не увещевает, а прямо УГРОЖАЕТ ИМ неизбежными грядущими карами, если они не одумаются, не прислушаются к исходящему из его уст голосу САМОЙ ИСТИНЫ»* (с. 322).

*«Энергия заблуждения, внушившая Александру Исаевичу веру в данное ему свыше* ***всевидение пророка****, утвердила в нем и уверенность в своем праве судить, осуждать, поучать, давать директивы, указывать. Именно она, эта уверенность, стала причиной его конфликта с Войновичем» (*с. 355).

*«...особенно после того, как А. И. оказался на Западе, стало видно, что для определения его характера лучше подошло бы другое слово: не бойцовский, а вождитский. [...] У Солженицына этот «вождизм» был, что называется, в крови. [...]* ***коренное свойство его личности****. [...] Александр Исаевич Солженицын по складу своей личности был вождем вот такого, ленинского типа»* (с. 369–370).

*«...Солженицын (как и Сталин) ... [...] говорит как ВЛАСТЬ ИМЕЮЩИЙ»* (с. 377). Гэта пра «Как нам обустроить Россию».

*«У Солженицына, который [...] на собственной шкуре испытал все прелести ГУЛАГа и стал главным его разоблачителем, казалось, против этого ленинского мифа должен быть особенно прочный иммунитет. Но вот, и он тоже в своей ненависти к западной буржуазной демократии СОВПАЛ С ЛЕНИНЫМ. И даже со Сталиным»* (с. 384).

*«...основные принципы великого ленинского учения о двух нациях в каждой нации по-прежнему живет и торжествует. И с наибольшей отчетливостью это их торжество выразилось в идеологических построениях Главного Идеолога нынешних неославянофилов Александра Исаевича Солженицына»* (с. 397).

*«...коллекция солженицынских языковых перлов могла бы быть большой и даже огромной. Не пожалев времени и трудов на выписку этих слов-уродцев из тридцати томов его сочинений, ими можно было бы заполнить сотни страниц, потому что они у него не исключение, а правило. В сущности, этим вымученным, искусственным языком написана вся его зрелая проза. Не только романная («Красное колесо»), но и мемуарная («Бодался теленок с дубом», «Угодило зернышко»...) [...] ...в основе этой — самой яркой — краски его литературного стиля лежит не такое или сякое чувство языка, а всё та же* ***энергия заблуждения****»* (с. 405).

*«Он пишет так, как пишет, не потому, что иначе у него не получается, а потому, что убежден (убедил себя), что ТАК НАДО. И нельзя сказать, чтобы упорное следование этой своей УСТАНОВКЕ давалось ему легко»* (с. 407).

*«...в каждом шаге Солженицына неизменно присутствует точный деловой расчет»* (с. 454).

*«...каждое присуждение Нобелевской премии нашему отечественному писателю воспринимается прежде всего как событие политическое... [...] Я узнал, не помню от кого-то в*

*лагерях. И сразу определил в духе нашей страны, политически: вот это — то, что нужно мне для будущего моего Прорыва»* (А. Солженицын. Бодался теленок с дубом. 1996. С. 269).

*«Когда случалось ему промолчать, он никакого такого морального дискомфорта уже не испытывал. Первый раз это случилось, когда начался судебный процесс над Синявским и Даниэлем. Под письмом в защиту обвиняемых по этому процессу подписались тогда 62 писателя. Подписи Солженицына в их числе не было»* (с. 460).

*«Я не заступился за Быковского, арестованного в ту весну. Не заступился за Григоренко. Я вел свой дальний счет сроков и действий»* (А. Солженицын. Там же).

*«Легко, не задумываясь, не испытывая никакого морального дискомфорта, он разрешает себе это «душевное двоение». Но — ТОЛЬКО СЕБЕ. Никому другому — даже самым близким своим друзьям — с тем же, что у него, тюремным и лагерным опытом, — он этого не прощает»* (с. 480).

*«Но ОН — это ОН. У него — свое, особое предназначение, своя миссия, разрешающая, а в иных случаях даже и предписывающая ему* ***жить по лжи****, ибо как это было сформулировано другим Апостолом Точного Расчёта, — МОРАЛЬНО ВСЁ, ЧТО СЛУЖИТ ДЕЛУ ПРОЛЕТАРИАТА»* (с. 482).

*«…по складу личности, по самому строю души он был* ***человеком власти****, и не раз именно это так себя позиционировал. А у* ***человека власти*** *— другие отношения с Вечностью. Не те, что у* ***человека искусства*** *— писателя, поэта, художника»* (с. 513).

О письмах Солженицына Б. Н. Ельцину (1991) и В. П. Лукину (1992):

*«Это голос не писателя, а политика. И политика власть имеющего, о чем даже яснее, чем смысл всех этих его рекомендаций, свидетельствует тон: указующий, чуть ли не директивный»* (с. 517).

*«Расчетливо взвешивая все «за» и «против», решил, что лучше, что выгоднее «для пользы дела» — главного дела его жизни, — уехать или остаться.*

*И так же взвешенно решил, КОГДА, в какой момент выгоднее ему появиться на Родине. И не только КОГДА, но и КАК (За несколько лет до того, как это возвращение наконец состоялось, решил: через Сибирь!)»* (с. 524).

*«Апостол точного расчета»* (с. 526).

*«Антидемократическую» свою карту, однако, он открыл не только в своих публичных выступлениях в США, а много раньше. После его «Письма вождям Советского Союза» основы его мировоззрения были более или менее ясны. И многие вчерашние его поклонники уже тогда от него отвернулись»* (с. 646).

*«Разговор о книге Солженицына «Двести лет вместе»… […] Стыдно было от сознания, что так низко уронил себя человек, которого вот уже столько лет называют совестью нации, совестью России»* (с. 774–775).

*«Теперь я уже точно знаю, что его антисемитизм — самый что ни на есть настоящий, искренний, «нутряной»* (с. 798).

*«…автор этого дневника* (Александр Исаевич. — *Р. Г.*) *отразил нисхождение Солженицына — со ступени на ступень — по «Лестнице Соловьева»: от национального самосознания — к национальному самодовольству, а от национального самодовольства — к национальному самообожанию»* (с. 831).

*«Ничего нового о политических взглядах Солженицына и его видении будущего России из этого интервью* (газета «Московские новости» с комментариями Виталия Третьякова. — *Р. Г.*) *мы не узнали. И активное неприятие для России либерально-демократического пути, и антиамериканизм. Обо всем этом почти в тех же выражениях он говорил всегда»* (с. 842).

***2013***

## «Які лёс чакае беларускую навуку?»

У газеце «Народная Воля» ад 23 красавіка 2013 г. пад такой назвай былі надрукаваны артыкулы пра НАН Беларусі. Ва ўступе адзначана: *«Шосты месяц Нацыянальная акадэмія навук Беларусі застаецца без кіраўніка. Агульны сход НАН Беларусі, папярэдне прызначаны на 19 красавіка, перанесены на нявызначаны тэрмін. Канкрэтныя планы рэфармавання навуковай галіны таксама не вызначаны, і чуткі на гэты конт у акадэмічных калектывах ходзяць самыя розныя. Навуковая супольнасць дэзарыентавана, калі не сказаць дэмаралізавана. Што наогул адбываецца з беларускай навукай? Хто вядзе патаемную барацьбу за права кіраваць ёю? Ці праўда, што абмяркоўваецца ідэя ліквідацыі Акадэміі навук?»*

Галоўны артыкул — ***«Рэформа Мясніковіча»***. Гэта пісьмо М. Мясніковіча на імя А. Лукашэнкі, ксеракопію якога «Народная Воля» змагла атрымаць, і *«поскольку тема реформирования белорусской науки представляет государственную важность, но не является государственной тайной»* рэдакцыя газеты вырашыла азнаёміць з ім чытачоў пад рубрыкай «без грифа «секретно».

Мясніковіч прапануе ***ліквідаваць*** НАН Беларусі і Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях, якія не здольныя ў сучасным выглядзе вырашаць задачы інавацыйнага прарыву і мадэрнізацыі эканомікі. А далей прапануе зноў ***стварыць*** Акадэмію навук Рэспублікі Беларусь *«как государственный институт, имеющий властные полномочия и регулирующий научно-техническую деятельность всех, вне зависимости от собственности и подчиненности субъектов инновационного процесса»*. Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі фарміруецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Ён жа прызначае Старшыню і Бюро Прэзідыума Рэспублікі Беларусь. Кіраўнікі аддзяленняў прызначаюцца Прэзідэнтам АН. Апарат АН Беларусі забяспечвае арганізацыйна-тэхнічнае абслугоўванне Прэзідыума,

Бюро і аддзяленняў, выконвае таксама функцыі Дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях. Усе навуковыя ўстановы краіны працуюць як падрадчыкі па сцэнарыях Прэзідыума.

Ліст выклікае вельмі шмат пытанняў па многіх напрамках. Галоўнае ясна, што аўтар ліста імкнецца яшчэ больш наблізіць НАН Беларусі да Міністэрства навукі, яшчэ больш усю навуку падпарадкаваць волі чыноўніцкага апарата і непасрэдна кіраўніку і ўраду дзяржавы. Але, па сутнасці, амаль усе такія магчымасці ёсць і пры сучасным становішчы НАН Беларусі, а ажыццяўленне прапаноў Мясніковіча прывядзе яшчэ да большага развалу навукі ў краіне. Цікава, што аўтар ліста прызнаецца: *«Близкие по содержанию предложения предлагались мною в первые годы работы в Академии наук»*.

Другі артыкул — ***«Аляксандр Косінец ірвецца ў Нацыянальную акадэмію навук?»***. Ён прысвечаны пытанню, хто можа стаць старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі. *«Калі б вырашэнне гэтага пытання залежала толькі ад вучоных, яны даўным-даўно абралі б сабе начальніка. Але ўжо каторы год галоўнае слова застаецца за Прэзідэнтам краіны. Ён прызначае старшыню Прэзідыума НАН сваім указам. На кім спыніць свой позірк Аляксандр Лукашэнка — цяжка сказаць. [...] Па чутках, сярод прэтэндэнтаў сем чалавек, дзве кандыдатуры найбольш верагодныя. Гэта — генеральны дырэктар Аб'яднанага інстытута машынабудавання НАН Беларусі Андрэй Дзюжаў і старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец. Праўда, ні адзін з іх не з'яўляецца ні членам-карэспандэнтам, ні акадэмікам. Косінец — доктар медыцынскіх навук, Дзюжаў — кандыдат тэхнічных навук»*. Як кажуць, без каментарыяў.

Трэці артыкул Леаніда Емяльянава ***«От псевдореформ к псевдонауке»*** — водгук на артыкул акадэмікаў Аляксандра Вайтовіча і Уладзіміра Логінава ***«Чем больна наука?»***, надрукаванага ў «Народнай Волі» ад 9 красавіка. Апошні артыкул — вельмі надзённы і быў падтрыманы большасцю навукоўцаў краіны. Па змесце ён блізкі да таго звароту чле-

наў НАН Беларусі, які быў накіраваны галоўнаму начальніку дзяржавы. Многія раздзелы артыкула двух акадэмікаў больш моцна абгрунтаваны і дапоўнены новымі злучнымі прапановамі. У водгуку Л. Емяльянава, які поўнасцю згодзен з думкамі, выказанымі ў першым артыкуле, вельмі лагічна і разумна падкрэслены шэраг момантаў у сучасным стане акадэміі.

* * *

М. Мясніковіч, атрымаўшы пасаду прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, не пакінуў думку пра рэарганізацыю геалагічнай службы і навук аб Зямлі. У 2012 г. ён прапанаваў стварыць навукова-практычны цэнтр па геалогіі ў рамках Мінпрыроды, у які ўвайшлі б усе вытворчыя арганізацыі «Белгеалогіі», і ў якасці кіруючай арганізацыі сучасны аб'яднаны БелНДГРІ, прычым зноў раіў уключыць туды з НАН Беларусі Інстытут прыродакарыстання. З цяжкасцю адбіліся ад такога неразумнага рашэння і засталіся ў НАН Беларусі з патрабаваннем стаць на чале свайго навукова-практычнага аб'яднання. Кіраўнік урада замест таго, каб стварыць спецыяльную ўстанову, якая займалася б праблемамі горных навук (распрацоўка тэхналогій здабычы карысных выкапняў, іх перапрацоўкі і выкарыстання іншых рэсурсаў нетраў), патрабуе, каб гэтыя пытанні вырашалі геолагі. Да гэтага часу ідуць спрэчкі пра ўтварэнне навукова-практычнага цэнтра па геалогіі ўжо цалкам толькі на базе ўстаноў Мінпрыроды, але гэты працэс ідзе не столькі з улікам думак спецыялістаў геолагаў і геафізікаў, колькі пад уплывам розных валюнтарысцкіх меркаванняў кіруючых чыноўнікаў. Мы таксама ўжо як эксперты выказваем свае погляды на розныя варыянты выканання гэтага загаду прэм'ер-міністра.

Як бачна, спакойна працаваць над навуковымі праграмамі цяжкавата, бо думкі пра лёс НАН Беларусі і навук аб Зямлі ў такіх умовах бясконцага рэфармавання робяцца больш хвалюючымі, чым навуковыя пошукі новых ведаў…

*2013*

# Дзённікі Максіма Танка

З вялікай цікавасцю прачытаў дзённікі (1960–1994) Максіма Танка, надрукаваныя ў 10-м томе «Збору твораў» (2010). Больш яскрава раскрыліся многія рысы характару і сутнасці вялікага беларускага паэта і грамадскага дзеяча.

Усё яго жыццё было ў паэзіі, у творчасці. Як М. Танк перажываў за недахоп часу для працы над паэмай ці асобным вершам, якія не адпушчалі яго ні на хвіліну і прымушалі хваляваць сэрца, трывожыць душу і рухаць розум, падбіраючы вартую думку і патрэбнае слоўца. А на яго ўсё навальвалі і навальвалі новыя грамадскія абавязкі, ад якіх ён не меў сілы адмовіцца. *«21.XII.1965. Выбралі мяне на сесіі старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі. Віншуюць. А я з жалем думаю, што з вершамі, відаць, прыйдзецца мне развітацца». «6.IV.1969. Ледзь трымаюся на нагах. Ды месца пісьменніка — у яго творах, а не ў розных фэстах, кірмашах, юбілеях»*.

Яго стамляла і нават прыгнятала праца ў Саюзе пісьменнікаў. Увесь час хваляваўся за сваю творчасць. *«9.XI.1970. Баюся, каб да маёй арытміі сэрца не далучылася і арытмія творчасці». «15. IV.1971. Найлепш было б для мяне вызваліцца ад сваёй няўдзячнай работы». «11.IV.1977. Здаецца, калісьці быў паэтам. А зараз месяцамі не бяруцца за пяро». «11.I.1978. Бяда — няма калі пісаць. А для мяне не пісаць — тое самае, што не дыхаць»*.

М. Танк разумеў розныя хібы бальшавіцкай ідэалогіі, савецкага бюракратызму, але змагацца ці неяк супрацьстаяць ім не мог, быў вельмі паслухмяны, дысцыплінаваны. Нават калі быў вельмі хворы, не мог адмовіцца ад паездкі, выступлення ці ўдзелу ў любым, з яго погляду зусім непатрэбным мерапрыемстве, калі прапанова ішла ад ЦК КПБ. Яго вельмі раздражняла пільнае апякунства, поўны нагляд з боку кіраўнікоў партыі і ўрада, без дазволу якіх не магчыма было самастойна зрабіць нават самую малую дробязь.

*«6.II.1967. У СП справы ўсё больш і больш ускладняюцца. Па кожнай дробязі трэба бегчы раіцца, трэба ўзгадняць нат якім шрыфтам, на якой паперы і якога памеру друкаваць нейкі запрашальны білет, узгадняць змест святочных нумароў часопісаў, спіскі выступаючых і г. д. Быць чыноўнікам ці нейкім кіраўніком для пісьменніка — раўназначна смерці». «6. IV.1967. Сяджу за не патрэбнымі нікому выступленнямі, дакладамі, ад якіх можна звар'яцець».*

Яўген Іванавіч як мог змагаўся за пашырэнне выдання беларускіх кніг, часопісаў, дапамагаў наблізіць творчасць шэрагу «забароненых» майстроў літаратуры і культуры да народа (Л. Геніюш, М. Забэйда-Суміцкі і інш.). Відаць, толькі дзённіку давяраў даволі рэзкую крытыку некаторых праяў нелагічнай і дурной палітыкі ўрада. Асцярожнасць перамагала… *«10.IX.1968. Адпісаў на пісьмо настаўніка А. М. Белакоза. Райфо не дазваляе школам выпісваць беларускія часопісы, газеты і падпісвацца на беларускую энцыклапедыю. Што за ідыёцтва! А потым абвіняюць нас, што падае колькасць падпісчыкаў на беларускія выданні». «13.IX.1968. А ў Чэхаславакіі становішча вельмі складанае. Не знаю, чаго ў нашай замежнай палітыцы больш: блізарукасці, бяздарнасці ці свядомага шкодніцтва, у выніку чаго змарнавалі заваяваны ў гады вайны свой маральны і палітычны капітал». «25.IX.1968. Ніяк не ўдаецца прабіць сцяну маўчання навакол М Забэйды і выпусціць серыю пласцінак з яго песнямі. Двойчы хадзіў я па розных інстанцыях і нічога не дабіўся. Не ведаю, як яшчэ прапусцілі прысвечаны яму мой верш «Куды б цябе лёс ні закінуў…», напісаны ў 1962 г.». «8.X.1968. Прыходзілі студэнты філфака — маладыя паэты В. Ярац і А. Разанаў. Яны пачалі збіраць на сваім факультэце подпісы пад патрабаваннем, каб іх усе прадметы выкладалі на беларускай мове. Патрабаванне слушнае. Толькі я ім параіў перш звярнуцца са сваім пісьмом у ЦК». «18. IV.1975. Усе дні бегаю па розных справах і адчуваю, як з касмічнай хуткасцю аддаляецца ад мяне мая паэзія». «6.XI.1980. Рыхтуюся да*

*выступлення на блокаўскім вечары, якое дамоклавым мячом вісіць над маёй галавой. Няма ратунку ад бясконцых юбілейных выступленняў, прамоў. Стаў падобны да чэхаўскага вясельнага генерала». «23.IX.1981. У нас, каб далі спакойна пісаць, трэба мець не толькі паперу і аловак, але і інфаркт, і выключаны тэлефон». «12.VII.1989. Калі не спіцца, думаю аб вершах. Я ведаю аб сваіх недахопах больш , як усе мае крытыкі, таму што бачу вяршыні паэзіі, але да іх ніяк не дайду». «15.II.1993. Пасля кожнай бяссоннай ночы думаю, што гэта — мая апошняя раніца. Але, калі бяруся за пяро, зноў вяртаюць мяне да жыцця новыя вершы». «27.IX.1993. Чакаю «Полымя» са сваёй новай падборкай. Толькі цяпер я ўбачыў, якой стратай для мяне абярнулася праца ў апараце СП, колькі змарнаваў часу на розныя пустазвонныя пасяджэнні, нарады, пленумы, з'езды, артыкулы, выступленні...». «27.IV.1994. Быў на сваім апошнім — дванаццатым з'ездзе СП Беларусі. Нат адкрыў яго няўдалай прамовай, бо зусім не рыхтаваўся». «16.VII.1994. Кожны раз, калі пішу апошні верш, мне здаецца, што я ўсё вытрас з кошыка сваёй галавы. Але праз нейкі час зноў бяру пяро».*

Максіма Танка вельмі хваляваў стан беларускай літаратуры, мовы, шмат цікавых думак запісаў пра паэзію, прозу, крытыку.

*«27.VIII.1976. Ізноў узяўся за фальклор, які ўратаваў ад забыцця і нашу мову і мінуўшчыну, а яны — нашу будучыню». «8.VIII.1978. Я ўсё часцей парушаю граніцу паміж прозай і паэзіяй, і хоць знаю, што многія асуджаюць мяне за гэта, але для мяне яна, як табу, ужо не існавала з дня нараджэння першых маіх вершаў». «11.I.1979. Чытаю. У паэзіі — суцэльны гладкапіс. А яна павінна быць гаркаватай, шаршаватай і непадатлівай на разрыў». «16.X.1979. Думаю: колькі ў сусветнай і нашай літаратуры розных герояў, біяграфій, якія разыходзяцца з праўдай». «31.XII.1980. І так, канчаецца яшчэ адзін засушлівы год нашай паэзіі. Справа не ў тым, што не было добрых вершаў, напісаных па-майстэрску. Мала было*

*вершаў, якім суджана сустрэць не толькі гэты год, але і наступныя». «23.VII.1981. Паэзія — казачная птушка. Пры самым неасцярожным набліжэнні да яе — знікае». «11.I.1982. Трэба нешта рабіць з нашай паэзіяй, бо яна пачынае выдыхацца, таптацца на месцы. Мо яе прыглушылі трывожныя падзеі на свеце? Некаторыя з нас узяліся за слоўную эквілібрыстыку, падаліся ў дробныя жыццёвыя справы». «26.IV.1982. Сапраўды, паэзія — невырашальная загадка. Яна — дзіця розуму, інтуіцыі і рацыянальных адчуванняў». «23.VIII.1985. Незадаволенасць сваёй і агульным станам паэзіі не дае спакою. Задаволенасць творчая ўсыпляе таленты, але і крайняя незадаволенасць не памагае тварыць. Гэта я па сябе адчуваю». «4.VI.1987. На вачах, разам са смерцю рэк, азёр, лясоў, паветра, памірае і наша беларуская мова». «1.I.1988. Не ведаю, як будзе з нашай мовай. Трэба, каб на ёй загаварылі ўсе, а не толькі пісьменнікі. Каб яна чуваць была ў штодзённым жыцці, бо асіміляцыя, як ракавыя метастазы. Пранікла, закранула самыя глыбінныя яе словатворчыя народныя слаі». «30.VII.1988. А ў нас катастрафічнае становішча з беларускай мовай. Усе нашы галашэнні на гэту тэму нікога не цікавяць. Неабходна, каб наша мова стала дзяржаўнай, і гэта было ўзаконена ва ўсіх установах, у штодзённым жыцці».*

У дзённіках М. Танк узгадвае шмат імён дзеячаў літаратуры, культуры, палітыкі і многім дае сваю ацэнку, часцей за ўсё станоўчую, але нярэдка і крытычную. Ён радаваўся поспехам сваіх калег і перажываў за іх незадачы. Многім давялося дапамагаць па розных напрамках. Яўгена Іванавіча дужа засмучала прыхільнасць некаторых пісьменнікаў, у тым ліку і вельмі здольных і нават таленавітых, да гарэлкі, значную непрыемнасць выгукалі сваркі паміж сабой, крыўды адзін на аднаго членаў СП Беларусі, нярэдкая фанабэрыстасць некаторых з іх. У гэтым сэнсе выклікае сімпатыю яго сціпласць. Ён, аблашчаны ўладамі амаль усімі магчымымі дасягненнямі

ў пасадах, званнях, узнагародах, вельмі спакойна, а другі раз з гумарам, адносіўся да новых адзнакаў.

*«30.III.1972. ...мяне аднагалосна выбралі акадэмікам. Адным словам, спраўдзіліся калісьці жартам напісаныя радкі верша:*

*Пісаць пачынаю ўсё горш я і горш —*
*Пара выбіраць акадэмікам».*

*«6.VIII.1976. Сёння зайшла гутарка аб славе. Я рад, што даўно вылечыўся ад гэтай хваробы, якая многім нашым пісьменнікам атручвае жыццё». «9.VI.1980. Я ўжо казаў сябрам, што нам з Я. Брылём павязло: пасля нашай смерці ніхто ні іх, ні СП не будзе непакоіць, бо ў Мінску ўжо ёсць нашы вуліцы — Брылеўская і Танкавая». «14.III.1983. Колькі ў нашага брата, пісьменніка, пазёрства! Асабліва, калі глядзіш на паводзіны некаторых са стараны і фіксіруеш іх «скрытай камерай». «16.III.1987. Заходзіў А. Т. Кузьмін. Шмат расказаў пра нашых пісьменнікаў і пра некаторых маіх сяброў, якія ніяк не могуць паміж сабой падзяліць ні ўлады, ні славы».*

М. Танк шчыра любіў сваю Бацькаўшчыну, не ўяўляў сябе без Беларусі, з пачуццём пяшчоты, замілавання заўсёды адносіўся, успамінаў свой родны кут — Пількаўшчыну, сумаваў па Нарачы, Мядзельшчыне. *«19.V.1969. Некалі буду шкадаваць, што я, бадзіня, столькі прапусціў на сваёй Радзіме непаўторных салаўіных вечароў і начэй, столькі жаўруковых світанняў і зязюльчыных куванняў». «14.VIII.1969. Трэба часцей заглядаць у свае родныя куткі, а не ў вытаптаныя турыстамі, паэтамі і мастакамі Парыжы, Лонданы, Нью-Ёркі». «3.IV.1980. Праслухаў — перадавалі па тэлебачанні — цудоўныя нашы народныя песні, праспяваныя маімі вузлянскімі суседзямі, песні вясельныя, жніўныя. Слухаючы іх, душой пераношуся на сваю Мядзельшчыну, у далёкае сваё юнацтва. Гэтыя песні яшчэ раз напомнілі мне, што трэба часцей вяртацца да сваіх першакрыніц. А то я часта далёка шукаю свайго шчасця, а*

*не там, дзе нараджаюцца гэтыя песні, ці больш дакладна, нараджаліся. Бо зараз толькі часамі і чуеш іх са сцэны нейкага калгаснага клуба». «9. IV.1981. Відаць, найлепшай маёй школай была мая Пількаўшчына. Там я вывучаў мову, знаёміўся з жыццёвай філасофіяй яе людзей, палюбіў працу, стаў паэтам». «27.VI.1990. Неяк трывожна на сэрцы. Здаецца, і ў самыя трагічныя дні вайны не было такой разгубленасці, разброду, які перажываем зараз. А Чарнобыль пагражае ўсяму нашаму народу выраджэннем і вынішчэннем. На карце свету некалі напішуць: «Тут была Беларусь».*

Яўген Іванавіч і Любоў Андрэеўна шчыра любілі, падтрымлівалі адзін аднаго, былі цудоўнымі бацькамі, вельмі добразычлівымі, гасціннымі, і таму ў доме былі не толькі дзеці з сем’ямі, але хату часта наведвалі родныя, блізкія, добрыя знаёмыя. *«23.II.1974. А дома — пекла. Нельга ні чытаць, ні пісаць, ні лячыцца. А хвароба ўсё яшчэ трымаецца. Любаша, як белка ў калясе, круціцца, дагаджае ўсім». «18.II.1976. Дома стала проста немагчыма жыць. Моладзь сварыцца. Любаша хворая. Мне трэба ехаць на з’езд партыі ў Маскву. Ад усяго гэтага зусім выбыў са строю». «13.XI.1983. Дома несусветны гармідар. Немагчыма ні пісаць, ні чытаць. Ніхто і не ўяўляе, у якім пекле мы жывем з Любашай».*

Мне вельмі прыемна было прачытаць розныя ўспаміны пра Гарэцкіх. *«21.XI.1970. З захапленнем перачытваю М. Гарэцкага «Віленскіх камунараў» і «Камароўскую хроніку». Мне ўсё больш падабаецца наша проза. Пачынае непакоіць паэзія». «27.IX.1974. У «Маладосці» [...] — лісты загінуўшага на вайне сына Максіма Гарэцкага. Якая багатая і светлая душа раскрываецца ў гэтых лістах!» «14.XI.1988. Сёння памёр Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі — адзін з той слаўнай плеяды Гарэцкіх, уклад якіх у скарбніцу культуры беларускага народа нельга пераацаніць. 22.XI. З цяжкім настроем вярнуўся з пахавання Г. І. Гарэцкага. На магільніку чамусьці нікога не было з нашых кіраўнікоў. Былі толькі блізкія, знаёмыя». «18.III.1990. Быў у*

*Ларысы Іосіфаўны Гарэцкай. Па завяшчанні Паўліны Вікенцьеўны Мядзёлкі, яна перадала мне яе ўспаміны, якія прасіла апублікаваць толькі праз 25 год пасля яе смерці». «1.III.1993. Поўнач. Перачытваю некаторыя творы М. Гарэцкага. На фоне і нашаніўскай і сучаснай літаратуры ўзвышаецца яго рэнесансная постаць».*

Максім Танк не прыняў перабудову, асуджаў развал СССР, новую дэмакратыю… *«5.III.1989. Яшчэ ніколі ў нас не было такога балагана. Наша дэмакратыя стала падобнай да былой шляхецкай». «9.VI.1992. Заканчвае сваё жыццё старое пакаленне, кульгаючы на мыліцах. Усё стала прыкрым. Далей так нельга жыць. На вачах нацыяналізм перараджаецца ў шавінізм». «9.XI.1992. Па тым, як паводзяць сябе некаторыя нашы змагары за дэмакратыю, я ўсё больш пераконваюся, што яны, перамогшы, стануць не меншымі душыцелямі, як іх сталінскія папярэднікі». «7.II.1994. Большая частка энергіі нашай апазіцыі ідзе на гуканні вясны, перайменаванне вуліц, разбурэнне помнікаў. Рымляне на сваіх помніках мянялі толькі галовы цэзараў, а мы — да аснавання і ўзвядзення новых багоў на п'едэсталы. Хутка ўзвядзем помнік З. Пазняку, якога В. Быкаў ужо не раз аб'яўляў «пасланцом самога Бога» і пры імені якога патрабуюць ужо ўсіх уставаць». «28.XI.1994. Я думаю, што дэмакратыя — ніякая не дэмакратыя, калі яна ўскладняе наша жыццё, калі людзі пакутуюць ад непаладкаў у краіне, калі западае навука, культура і іх асноўная база — эканоміка. Не трэба быць дальназоркім, каб без трывогі думаць і ў такіх умовах не трывожыцца за нашу будучыню…»*

Яшчэ у канцы жніўня 1994 г. Яўген Іванавіч хацеў напісаць завяшчанне, аб чым запісаў у дзённіку: *«…вось так і не сабраўся…»* 7 жніўня 1995 г. Максім Танк памёр, а ў маі 1996 г. у газеце «Аргументы и факты в Беларуси» Мікола Мікуліч апублікаваў завяшчанне, якое хавалася ў сямейным архіве паэта.

**З а в я ш ч а н н е**

*Прашу СП Беларусі дапамагчы мяне пахаваць на Слабадскім магільніку, дзе пахаваны і мае бацькі. Калі памрэ раней Любоў Андрэеўна, крэміраваць і дапахаваць да мяне, бо і яе сваякі і мае ўсе знайшлі там свой вечны супакой. Я ёй многім абавязаны. Мы ўвесь свой век з ёю не разлучаліся, не хацелася б разлучацца нам і па смерці.*

*Хаваць мяне прашу без ардэноў, музыкі і прамоў. Не любіў я красавацца на гэтым свеце. Таму прашу пахаваць як найсціплей, як хавалі і хаваюць спрадвеку ў нас усіх. Прасіў бы не ставіць і помніка. А калі гэта неабходна, можна будзе напісаць на бакавых гранях плоціка маці, хто ляжыць побач з ёю. […]*

*І не надаваць майго імя ніякім школам, памятным мясцінам, бо і так лічу, перастараліся мы ў гэтым. Зараз амаль на кожным доме, школе вісіць па некалькі такіх мемарыяльных дошак, на якія ўжо ніхто не звяртае ніякай увагі. Усё гэта толькі ўносіць несусветную блытаніну, запаўняючы рознай «высакапарнай» непатрэбшчынай старонкі даведнікаў, гісторый, успамінаў, колькасць якіх расце як снежны ком. Вось, здаецца, і ўсё. Бывайце!*

*Максім Танк*

*2013*

## Мсціслаў–Багацькаўка–Горкі

Па ініцыятыве дырэктара Мсціслаўскага раённага гісторыка-археалагічнага музея Уладзіміра Шывянкова, якая была падтрымана старшынёй райвыканкама Васілём Віцінавым, яго намеснікам Святаславам Кусавым і загадчыкам аддзела культуры Наталляй Біскуп, 22 і 23 траўня 2013 г. у Мсціславе і Багацькаўцы прайшла канферэнцыя, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. На ўрачыстасці запрасілі мяне з Галінай і Анатоля Бутэвіча, вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча (былога міністра, дыпламата, а цяпер — намесніка старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь).

У вялікай зале Палаца культуры сабралася каля трохсот вучняў, настаўнікаў сярэдняй школы, ліцэя і каледжа, а таксама прадстаўнікоў інтэлігенцыі горада, якія вельмі цёпла сустрэлі нас. Спачатку быў паказаны фільм Алы Вольскай «Неразгаданыя людзі», прысвечаны М. Гарэцкаму. Пасля ўступнага слова вядучай выступілі Р. Гарэцкі і А. Бутэвіч, якія апавядалі пра жыццё і творчасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, адраджэнцкі рух мінулага стагоддзя, развіццё і стан беларускай літаратуры, культуры, неабходнасць захавання беларушчыны, пачуццё патрыятызму і ўмацаванне незалежнасці краіны. Вельмі было прыемна, што моладзь уважліва, з разуменнем і, як нам здалося, з падтрымкай нашых думак слухала прамовы. У музей і раённую бібліятэку я перадаў шэраг кніг, прысвечаных жыццю і творчасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх.

Мы змаглі пазнаёміцца з гісторыка-археалагічным музеем. Вельмі ўдалае тлумачэнне давалі дырэктар музея У. Шывянкоў і навуковы супрацоўнік Валянціна Цімашкова. Багатыя экспазіцыі выразна паказваюць гісторыю Мсціслава і яго людзей ад старажытнасці да сучаснасці. Задалося пахадзіць па гэтым цудоўным горадзе-музеі, каб больш-менш пазнаць якога па-

трэбны многія дні, а можа і месяцы, але і беглы агляд зрабіў незабыўнае ўражанне.

Перш-наперш узнёслы настрой прыдае рэльеф — паўднёвыя ўзгор'і Смаленскага ўзвышша з Замкавай, Троіцкай і Дзявочай гарамі, з якіх бачны дзіўнай прыгажосці краявіды. Тут працякае рачулка Віхра, якая праз дзясятак кіламетраў упадае ў больш магутную раку Сож. Мсціслаўская зямля здаўна была заселена, аб чым гавораць старыя курганы, селішчы і гарадзішчы. Пабачылі найбольш знакамітае гарадзішча — Замкавую гару на правым беразе Віхры. Гэта — высокі мыс на 2 гектары, абкружаны шырокімі і глыбокімі (да 25 м) ярамі, якія некалі былі запоўнены вадой. Стоячы на краі вала, аж страшна глядзець на дно яра. На замчышчы археолагі (пачынаючы ад славутага беларускага этнографа і археолага XIX ст. Е. Р. Раманава і да сучасных М. А. Ткачова і асабліва Л. А. Аляксеева) ускрылі жылыя і гаспадарчыя пабудовы XIII–XIV стст., знайшлі мноства розных рэчаў і прыладаў, у тым ліку берасцяную грамату. Мсціслаў упамінаецца з XII ст. як горад Смаленскага княства. З 1180 г. цэнтр удзельнага Мсціслаўскага княства, калі смаленскі князь Раман Расціслававіч даў горад ва ўдзел сыну Мсціславу.

Пры ўваходзе на Замкавую гару нядаўна ўсталяваны памятны знак у гонар сына князя Вялікага Княства Літоўскага Альгерда: «Сямёну Лугвену Альгердавічу роданачальніку князёў мсціслаўскіх, герою Грунвальдскай бітвы, фундатару праваслаўных святынь». Дарэчы ён жа ў 1380 г. заснаваў мсціслаўскі пустынскі Успенскі манастыр, які мы таксама наведалі. З XVII ст. ён стаў уніяцкім, а з 1839 г. — зноў праваслаўны. Кідаецца ў вочы высачэнная шмат'ярусная званіца, далей — мураваны храм Успення Багародзіцы, царква Раства Багародзіцы і Пакроўская царква. Вядуцца рэстаўрацыйныя работы; будынкі школы, жылых дамоў, дзе жывуць манахі, гаспадарчыя пабудовы адноўлены і маюць добры выгляд. За гэтымі храмамі і будынкамі — круты спуск да малой рачулкі

Аслянка (правы прыток Сожа), на беразе якой знаходзіцца знакамітая крыніца. На яе базе створана купальня і побач пабудавана невялікая царква. Яны прываблiваюць да сябе многіх людзей, якія пасля купелі і малітвы адчуваюць, што здароўе іх значна палепшылася, а то і зусім хвароба знікла. У памяшканні школы ў час рэстаўрацыі нечакана на сцяне адной келлі праявілася нерукатворнае аблічча Хрыста Збавіцеля, пасля чаго колькасць паломнікаў у манастыр стала проста незлічонай з усёй Беларусі і суседніх краін. У вялікім лесе за купальняй і рачулкай бясконца спяваюць салаўі і кукуюць зязюлі, прадказваючы вечныя гады манастыру.

Мсціслаў меў складаную гісторыю і перажыў узлёты і заняпады. Мяняліся ўлады, а з імі мяняліся і рэлігійныя прыхільнасці, прычым часта гвалтоўна: язычніцтва — хрысціянства, праваслаўе — уніяцтва — каталіцтва — праваслаўе. Вялікім гандлёвым горадам (да 30 тысяч жыхароў) ён стаў у XVI–XVII стст., калі былі пабудаваны многія кляштары. Частыя войны, пажары прыносілі значныя страты. Вайна паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй цягнулася трынаццаць гадоў, не прайшла міма Мсціслаўскага ваяводства вайна са шведамі, калі горад наведаў Пётр I, не абмінула горад і вайна з французамі, першая, а затым і другая сусветныя войны. Асабліва моцныя пажары — 1858 і 1863 гг. Мсціслаў быў цэнтрам Мсціслаўскага княства, Мсціслаўскага ваяводства, затым правінцыі, пазней — павета (то Магілёўскай губерні, то Смаленскай) і, нарэшце, Мсціслаўскага раёна. Асабліва быў вядомы як буйны цэнтр ганчарных і керамічных вырабаў.

Сучасны горад уражвае мноствам касцёлаў, кляштароў, камяніц XVII–XVIII стст.: карmеліцкі касцёл Успення Маці божай; езуіцкі касцёл з кляштарам, перароблены ў праваслаўны Мікалаеўскі сабор; Троіцкая царква, бернардзінскі кляштар, царква Аляксандра Неўскага, Спаса-Праабражэнская царква, будынкі земскай управы, калегіума, аптэкі, гімназіі і інш. Захаваліся стагадовыя жылыя драўляныя дамы традыцыйнай

архітэктуры, характэрныя для раёна гаспадарчыя пабудовы. Убачылі помнікі друкару Пятру Мсціслаўцу (іх два — адзін маладому, другі нядаўна пастаўлены ў дні святкавання славянскага пісьменства), загінуўшым у вайне абаронцам Мсціслава, мемарыяльную дошку Міхасю Ткачову. Па ўсім горадзе размешчаны арыгінальныя драўляныя скульптуры жывёл і фальклорных персанажаў, якія ўпрыгожваюць скверы, падвор'і. Яны зроблены мясцовым майстрам Яўгенам Галаўковым. Горад чысты, увесь у пышнай зелені дрэў і кустоў, сярод якіх прыемныя драўляныя домікі з прыгожымі варотамі, утульны, спакойны.

Мсціслаў налічвае каля 12 тысяч жыхароў, сустрэчы з якімі заўсёды рабілі прыемнае ўражанне сваёй прыветлівасцю, культурнасцю, спакоем. Адзінае, што вельмі было балюча, а часта выклікала моцнае абурэнне — гэта стан роднай мовы. Усе начальнікі размаўлялі па-руску, у лепшым выпадку — на трасянцы, хаця адчуваецца, што з прыхільнасцю адносяцца да беларускамоўных, прынамсі да нашай тройцы. Нават Наталля Біскун (загадчык аддзела культуры, ураджэнка Мсціслава), супрацоўнікі музея і многія іншыя не карыстаюцца беларускай мовай. Толькі вядучая канферэнцыі ды Уладзімір Шывянкоў размаўлялі па-беларуску, і то з цяжкасцю, бо няма адпаведнага асяроддзя. Большасць школ, аб'яў, назваў вуліц, надпісаў зроблена на рускай мове. У Беларусі чыноўніцкая адміністрацыйна-камандная рускамоўная «вертыкаль» зрабіла моцную вертыкаль і па мове, амаль зусім выцісnuўшы беларускую мову з ужытку як у сваім асяроддзі, так і ў насельніцтва.

Увечары горад здаўся нам зусім малалюдным, нейкім таямнічым. Магутныя гмахі касцёлаў, цэркваў, камяніц, у большасці значна разбураных, пустуючых, выглядаюць як казачныя цёмныя прывіды мінулага. Дзівішся прыгажосці гэтых будынкаў, а сэрца баліць ад таго, што цудоўная старажытнасць горада паступова разбураецца, не рэстаўрыруецца, не аднаўляецца, стаіць нямым дакорам усім нам, сучасным жыхарам Мсціслава,

усёй Беларусі і ў першую чаргу іх кіраўнікам. Якім выдатным непаўторным горадам-музеем мог бы стаць Мсціслаў! Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе не толькі на паперы, але і ў жыцці здзейсніцца такі цуд.

* * *

На наступны дзень па добра асфальтаванай дарозе паехалі ў Багацькаўку. Вакол прасторныя палі, усе, як воспінамі, пакрытыя так званымі лёсавымі прасадкамі — праваламі глыбінёй у некалькі метраў, залітыя вадой і зарослыя розным хмызняком з бярозкамі і асінкамі. Па-мсціслаўску яны завуцца «аборкі». Гэты тэрмін замацаваўся ў геалагічнай літаратуры.

Апрача прыехаўшых з Мсціслава, каля дома-сядзібы Максіма Гарэцкага сабраліся школьнікі і настаўнікі Курманаўскай сярэдняй школы. Падышлі Таццяна і Віктар Шнарскія — сын Клаўдзіі Іванаўны (маёй стрыечнай сястры) і яго жонка, — а пазней — больш далёкія родзічы па лініі Ефрасінні Паповай-Гарэцкай Таццяна Агеева і яе муж. Абняліся.

Нас урачыста сустрэлі адзетыя ў народныя строі школьніцы і ўручылі вялікі каравай — хлеб-соль, які я з удзячнасцю прыняў. З хаты гучала песня маёй бабулі, якую ўключылі на патэфоне. Валянціна Цімашкова пазнаёміла сабраўшыхся з экспазіцыяй музея, апавядала пра жыццё братоў Гарэцкіх, што чаргавалася з выступамі школьнікаў, якія чыталі ўрыўкі з твораў М. Гарэцкага і нават паказалі невялічкую драматычную сцэнку. Артысты былі апрануты ў адпаведныя беларускія адзенні і размаўлялі на добрай роднай мове. Усім вельмі спадабаліся маладыя здольныя дзяўчаты і хлопцы, а ў мяне ад замілавання нават з'явілася сляза. Я і А. Бутэвіч дапоўнілі размову пра братоў Гарэцкіх, пра іх цяжкі шлях на ніве нацыянальнага адраджэння. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Людміла Акуленка ўручыла мне мсціслаўскую газету «Святло Кастрычніка» (22.05.2013), у якой да 120-годдзя з дня

нараджэння Максіма Гарэцкага быў надрукаваны змястоўны артыкул «Шлях Максіма Гарэцкага да «Скарбаў жыцця».

Пазней у «цёплай» палове хаты накрылі стол з багатым пітвом і закускай. Так прыемна зноў было пабыць у роднай хаце майго таты, дзядзькі і ўсіх блізкіх багацькаўцаў разам з людзьмі, якія з такой павагай і шчырай любоўю ўспаміналі братоў Гарэцкіх. Я з хваляваннем аглядаў усе куткі хаты — і калыску, і печку, і пралку, і абраз у куце — як раптам да нас уляцела ластаўка, пакружылася над нашым сталом і вылецела. Мы аж уздрыгнулі ад нечаканасці такога прылёту — здалося, што душа Максіма звярнулася дадому і прывітала нас. Не паспелі мы абгаварыць гэты цуд, зноў ўляцелі ў хату ўжо дзве ластаўкі — як душы двух братоў, пра якіх мы вялі размову і якіх успаміналі — спачатку праляцелі над нашымі галовамі, потым некалькі разоў зрабілі кругі над палацямі каля печцы, дзе даўным-даўно звычайна браты, калі былі дзеткамі, сядзелі і ўважліва слухалі цудоўныя песні сваёй маці і казкі дзядзіны Хрысцёны. Ластаўкі яшчэ раз пакруціліся над намі, як быццам развіталіся, і вылецелі зноў, ужо назаўсёды.

Віктар Шнарскі правёў нас да могілак, якія знаходзяцца супраць руін цаглянага будынка былой школы паміж Малой і Вялікай Багацькаўкай. Усклалі кветкі на могілкі бабулі Ефрасінні, дзеда Івана, а таксама маёй стрыечнай сястры, маці Віктара — Клаўдзіі Шнарскай. З сумам перайшлі на дарогу праз гразкае балоцістае дно канавы, якая больш за сто гадоў была вірлівай рачулкай Віранкай. У самой Малой Багацькаўцы, калі мы ўпершыню з татам і маім братам Усяславам прыехалі сюды, канава была яшчэ з вадой, а цяпер зусім высахла. Калі ў 1936 г. Максім Гарэцкі быў апошні раз у Малой Багацькаўцы, ён апісаў усе хаты вёскі і іх жыхароў — хат было 35. Пазней будаваліся яшчэ і новыя. Цяпер засталося толькі некалькі жылых хат як у Малой, так і ў Вялікай Багацькаўцы. Большасць хат стаяць з забітымі вокнамі, а то і пахіленымі, закінутымі. Самыя маладыя яе жыхары — Віктар, які ўжо пенсіянер, і Таццяна будзе

пенсіянеркай на наступны год. Сумна, вельмі сумна глядзець на ўміраючую вёску, жыццё і лёс жыхароў якой з пачатку яе існавання так выдатна апісаў Максім Гарэцкі ў «Камароўскай хроніцы». Здавалася, неўміручыя жыццёвыя падзеі ніколі не пакінуць гэтую мілую прыгожую вёску. Ці адродзіцца яна? Хочацца стаць на калені і прасіць прабачэння ў той зямелькі, у той вёскі, у той хаты, якія былі сапраўдным родным кутом маім дзеду і бабулі, тату і дзядзьку і якія маё пакаленне ўжо амаль згубіла і не захавала. Але калодзеж з лепшай у акрузе крынічнай вадой ды музей-сядзіба ўсяляюць думку, што не можа загінуць такое цудоўнае месца і ажыве нанова.

* * *

У Мінск рухаліся праз Горкі. Заехалі ў Горацкую раённую цэнтральную бібліятэку імя Максіма Гарэцкага, дзе нас вельмі прыветліва сустрэлі беларускамоўныя супрацоўнікі бібліятэкі на чале з загадчыцай Наталляй Міхайлаўнай Ермалаевай. З удзячнасцю яны прынялі ад нас кнігі, якія мы прывезлі ў бібліятэку. Паказалі нам новую залу, якая будзе прысвечана М. Гарэцкаму і дзе будзе размешчаны бюст пісьменніка работы З. Азгура, партрэт, шэраг фота і іншыя экспанаты пра яго жыццё і творчасць. Мне падаравалі даведнік «Горацкі Гарэцкі», які мае наступныя раздзелы: Горкі ў жыцці і творчасці Максіма Гарэцкага; Вершы, прысвечаныя М. Гарэцкаму; Выданні аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага; Кнігі твораў М. Гарэцкага.

Наведалі месца, дзе стаяў да «Дажынак» дом, у якім жыў М. Гарэцкі з сям’ёю. Роўнае месца з густой зялёнай травой нават зусім не нагадвае, што тут зусім нядаўна стаяў досыць вялікі будынак.

*2013*

## Кіраўнік адміністрацыі — чалавек слова

У пачатку лютага 2013 г. я атрымаў ад кіраўніка Кіраўскай раённай адміністрацыі Н. Ф. Сакалова ліст, у якім адзначалася, што «*Администрация муниципального района «Город Киров и Кировский район» в мае 2013 года увековечит место, связанное с трудовой деятельностью М. И. Горецкого установлением мемориальной доски на здание бывшей школы»*.

У канцы мая я праглядаў сайт «Хартыя» і з некаторым здзіўленнем ад такой рэдкай для нашага часу акуратнасцю і вялікай удзячнасцю Кіраўскай адміністрацыі і яе кіраўніку Н. Ф. Сакалову прачытаў:

*«24 мая в Кирове Калужской области открыта мемориальная доска в честь классика белорусской литературы Максима Горецкого. Писатель жил в этом городе два последних года своей жизни.*

*Доска открыта на здании бывшей Песоченской средней школы № 1. В ней Максим Горецкий работал два учебных года: преподавал русский язык и литературу. Здесь в нояб-*



*ре 1937 года был арестован органами НКВД, и 10 февраля 1938 года расстрелян в Вяземской тюрьме.*

*В нынешнем году отмечается 120-летний юбилей белорусского просветителя, чье имя и труды на его исторической родине пользуются огромным уважением и любовью. Ведь Максим Горецкий — один из создателей белорусского литературного языка, стоял у истоков национальной литературы, создал немало прекрасных произведений, прожил короткую, но весьма насыщенную добрыми созидательными делами жизнь. Он знакомил белорусов с достижениями русской литературы: перевел на родной язык «Слово о полку Игореве», ряд произведений Горького, Фадеева и других писателей. Составил и издал русско-белорусский и белорусско-русский словари. В истории культуры оставил свой след как литературовед, лингвист, фольклорист, литературный критик, журналист, редактор. Кроме этого, Максим Горецкий постоянно преподавал в вузах и техникумах, стоял у истоков создания национальной Академии наук».*

***2013***

# Змест



## I. ПАЧАТАК (1992–1994). УЖО НЕ БССР, А СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ



## II. ПРАЦЯГ (1995–1999). БЕЛАРУСЬ — ПРЭЗІДЭНЦКАЯ ДЗЯРЖАВА. ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ

## III. ПРАЦЯГ ДАЛЕЙШЫ (2000–2005). БЕЛАРУСЬ НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

## IV. ПРАЦЯГ БУДЗЕ (2006 І ДАЛЕЙ). КУДЫ ПОЙДЗЕ БЕЛАРУСЬ У НОВЫМ СТАГОДДЗІ?

## V. ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ ЖЫВЕ (2011–2013)

**Гарэцкі, Р.**

**Г20** Жыццёвы меланж : публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ / Радзім Гарэцкі. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 648 с.

ISBN 978-985-7089-09-3.

Акадэмік Радзім Гарэцкі, навуковец у галіне геалагічных навук і грамадскі дзеяч, прапануе для шырокага кола чытачоў напісаную ў апошнія дваццаць гадоў публіцыстыку і розныя жанры лірычнай прозы, якія сумесна складаюць своеасаблівую змешаную жанравую форму — «жыццёвы меланж». Гэтыя творы ўзніклі ў выніку думак, уражанняў, пачуццяў ад шматлікіх падзей у краіне і свеце, юбілеяў і страт сяброў і блізкіх людзей (у тым ліку вядомых дзеячаў літаратуры, культуры, навукі), успамінаў пра жыццё і дзейнасць бацькі і дзядзькі — братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, родных, некаторых момантаў асабістага жыцця і інш.

**УДК 821.161.3.09+929 Гарэцкі**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Гарэцкі** Радзім Гаўрылавіч

**Жыццёвы меланж**

*Публіцыстычныя артыкулы,*
*лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*
Вокладка *Анатоля Лазара*

Падпісана да друку 22.11.2013. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 34,02. Ул.-выд. арк. 27,37.
Наклад 300 ас. Зак. 612.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.